НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы

# *БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯЛЕКТАЛОГІЯ*

*матэрыялы і даследаванні*

**Зборнік навуковых артыкулаў**

Заснаваны ў 2010 годзе

*Выпуск 2*



Мінск
«Беларуская навука»
2012

УДК 811:161.3’28(082)

Зборнік з’яўляецца чарговым выпускам выдання «Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванні», пачатак якога як перыядычнага выдання быў пакладзены ў 2010 г., але само існаванне дыялекталагічнага зборніка пачынаецца з 1975 г., калі з’явілася першая кніга з дыялекталагічнай серыі – «З народнага слоўніка» (Мінск, 1975). Як і ў папярэдніх выпусках, зборнік змяшчае падборкі дыялектных слоў з розных рэгіёнаў Беларусі. Кожны артыкул аформлены ў выглядзе невялікага слоўнічка, да кожнага слова падаецца багаты ілюстрацыйны матэрыял. У раздзеле «Навуковыя даследаванні» змешчаны артыкулы па розных мовазнаўчых праблемах, падрыхтаваныя на дыялектным матэрыяле. Традыцыйным у выданні стаў раздзел «Тэксты». Завяршаюць кнігу паказальнік слоў да першага выпуску выдання, а таксама розныя даведачныя матэрыялы па афармленні артыкулаў.

Разлічана на моваведаў, этнографаў, гісторыкаў, а таксама ўсіх, хто цікавіцца родным словам.

Р э д а к т а р ы:

кандыдаты філалагічных навук
В. М. Курцова, Л. П. Кунцэвіч, Т. М. Трухан

Р э ц э н з е н т ы:

доктар філалагічных навук Т. В. Валодзіна
кандыдат філалагічных навук А. А. Акуленка

# ПРАДМОВА

Зборнік «Беларускай дыялекталогія. Вып. 2» прысвячаецца памяці Юзэфы Фларыянаўны Мацкевіч, стагадовы юбілей якой адзначаўся ў 2011 годзе. Ю. Ф. Мацкевіч – вядомы беларускі дыялектолаг, арганізатар дыялекталагічных даследаванняў у Беларусі, былы загадчык аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі, пэўную частку матэрыялаў кнігі складаюць успаміны і матэрыялы пра яе.

Як і папярэднія дыялекталагічныя зборнікі, гэты выпуск падрыхтаваны да друку супрацоўнікамі аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі. У кнізе асвятляюцца важнейшыя пытанні дыялекталагічнага характару ў розных галінах лінгвістыкі – лексікаграфіі, лексікалогіі, фразеалогіі і парэміялогіі, сінтаксісу і інш.

Матэрыялы ў зборніку размеркаваны па пяці раздзелах: «З лексікі народных гаворак», «Тапанімія», «Фразеалогія і парэміялогія», «Навуковыя даследаванні», «Тэксты з беларускіх гаворак».

Раздзел «З лексікі народных гаворак» па традыцыі самы прадстаўнічы ў зборніку. Ён пераважна складаецца з індывідуальных слоўнікаў, дакладней слоўнічкаў, у якіх рэпрэзентуецца лексіка з розных рэгіёнаў Беларусі – паўночнай Віцебшчыны, паўднёва-ўсходняй Гомельшчыны, са Случчыны і Любаншчыны, паўднёва-заходняй Брэстчыны. Большасць з уключаных у выданне слоўнікаў – гэта лексічныя падборкі тлумачальнага характару, але змест іх неаднастайны. Асобныя слоўнікі з'яўляюцца тэматычнымі лексікаграфічнымі артыкуламі, у прыватнасці аб экспрэсіўнай лексіцы, а таксама аб дзеяслоўных абазначальных сродках, якія разглядаюцца ў межах лексіка-семантычнага гнязда. У кожным са слоўнікаў можна атрымаць шмат цікавых звестак пра элементы традыцыйнай мясцовай матэрыяльнай і духоўнай культуры, апошнія раскрытыя ў ілюстрацыях. Ёсць тут, аднак вельмі абмежавана, і інфармацыя пра фанетычныя асаблівасці гаворак. Так, некаторыя артыкулы маюць уступы, у якіх аўтары адзначаюць найбольш істотныя рысы мясцовых гаворак, дзе рэгістравалася лексіка. Рэестравыя словы і ілюстрацыі да іх падаюцца ў фанетычным запісе графічнымі сродкамі беларускага літаратурнага пісьма. Пры рэалізацыі адметных для гаворкі гукаў ужываюцца спецыяльныя графічныя абазначэнні, пра што дадаткова паведамляецца. Пры характарыстыцы слоў аўтары выкарыстоўвалі розныя скарачэнні. Для таго каб пазбегнуць паўтарэнняў, зрабіць іх аднастайнымі, усе індывідуальныя скарачэнні ўніфікаваны. Як спецыяльная даведачна-інфармацыйная частка зборніка яны змяшчаюцца ў канцы выдання. У такім выглядзе аўтарскія скарачэнні будуць выкарыстоўвацца таксама і надалей.

Словы ў артыкулах аўтараў упарадкаваны паводле алфавіту. Для таго каб лягчэй было адшукаць кожнае з уключаных у падборкі слова, дадаецца індэкс лексікі. Ён змяшчаецца ў канцы зборніка. Пры кожным слове ў індэксе адзначана старонка (старонкі), дзе яно разглядаецца.

Раздзел «Навуковыя даследаванні» ўключае артыкулы па розных лінгвістычных праблемах. Асобныя з артыкулаў прысвечаны тэме кантактаў беларускіх дыялектаў са славянскімі і балцкімі мовамі, і аналізу вынікаў гэтых кантактаў, таксама даследуюцца праблемы фарміравання дыялектнага ўсходнепалескага ландшафту шляхам аналізу мікратапанімічнага матэрыялу, прасочваецца іхтыянімічны склад абазначальных сродкаў беларускай мовы згодна з тыпам матывацыйнай прыкметы, характарызуецца статус дзеяслоўных канструкцый, якія ўжываліся ў якасці сінтаксічных моўных сродкаў у газеце «Наша Ніва», робіцца гэта шляхам іх параўнання з дыялектнымі сінтаксічнымі асаблівасцямі, закранаюцца таксама іншыя праблемы.

У гэтым выпуску, як і ў папярэднім, вылучаны ў асобны раздзел артыкулы, прысвечаныя даследаванню беларускай народнай тапаніміі. Частка змешчаных тут прац – гэта вынікі апра-

цоўкі матэрыялаў, занатаваных сістэматызаваным шляхам падчас спецыяльнага экспедыцыйнага вывучэння тэрыторыі Гродзеншчыны. Сабраныя паводле распрацаванай праграмы, такія матэрыялы маюць вялікую навуковую каштоўнасць не толькі як назварэгістрацыйныя звесткі, цікавымі будуць яны і як лексічная крыніца для абагульненага агульнанацыянальнага слоўніка тапонімаў ці іх рэгіянальных выданняў.

Ужо традыцыйны для зборніка раздзел «Фразеалогія» складаецца з дзвюх частак. Акрамя новай падборкі сінтаксічна звязаных адзінак, характэрных для беларускага дыялектнага маўлення жыхароў Гродзеншчыны, тут змяшчаюцца слоўнікі прыказак, прымавак і іншых адметных выслоўяў. Гэтыя артыкулы, якія аб'ядноўваюць творы «малога жанру», – народныя афарызмы – зафіксаваны ў розных рэгіёнах Беларусі, на Міншчыне і Гомельшчыне, уключаюцца ў выданне ўпершыню.

У раздзеле «Тэксты з беларускіх гаворак» істотную частку матэрыялаў складаюць запісы ўзораў сучаснай гаворкі насельнікаў Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Большасць тэкстаў з Піншчыны падрыхтавана супрацоўнікамі аддзела дыялекталогіі, некаторыя з запісаў належаць аўтарам-аматарам. Дыялекталагічныя тэксты дапаўняюць фальклорныя матэрыялы. Іншая частка матэрыялаў гэтага раздзела прадстаўлена запісамі сучаснай вясковай гаворкі з розных рэгіёнаў Беларусі. У тэкстах адлюстраваны рознаўзроўневыя асаблівасці, характэрныя для беларускіх народных гаворак у іх стане на пачатак новага стагоддзя. Улічваючы вялікую запатрабаванасць матэрыялаў такога жанру, у большасці запісаў захоўваюцца акцэнталагічныя адметнасці гаворак. Толькі ў асобных тэкставых матэрыялах месца націску падаецца ў словаформах, якія з'яўляюцца рэгіянальнымі ў адносінах да беларускай літаратурнай мовы. Усе адлюстраваныя ў тэкстах асаблівасці маўлення цалкам захоўваюць аўтарскую апрацоўку запісаў. У сувязі з чым нават ва ўзорах маўлення з адной тэрыторыі па-разнаму перадаюцца некаторыя рысы даследаваных гаворак.

У тэматычных адносінах тэксты вылучаюцца разнастайным зместам. У іх змяшчаецца цікавая інфармацыя пра далёкае мінулае і сённяшняе жыццё беларускага народа, яго звычаі, традыцыі, гісторыю і культуру, багатую флору і фаўну. Думаецца, што новыя лексічныя і тэкставыя матэрыялы, змешчаныя ў кнізе, будуць мець навуковае і практычнае значэнне. Яны дапамогуць не толькі ўвесці частку слоў у новы тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы, не толькі стануць аб'ектам лінгвістычных даследаванняў, этымалагічных, славаўтваральных, сінтаксічных і іншых, разам узятыя, яны з'явяцца састаўной часткай зводнага агульнабеларускага дыялектнага слоўніка, праца над якім ужо пачалася ў аддзеле дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі.

# Ю. Ф. МАЦКЕВІЧ – СТАГАДОВЫ ЮБІЛЯР

*В. М. Курцова*

## ЮЗЭФА ФЛАРЫЯНАЎНА МАЦКЕВІЧ
## (да 100-гадовага юбілею з дня нараджэння)[1]

Да ліку тых асоб, чыё імя залатымі літарамі ўпісана ў гісторыю стваральнікаў агульнанацыянальных культурных каштоўнасцей у сферы беларускай навукі, належыць Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч.

Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч – вядомы аўтарытэтны дыялектолаг, арганізатар дыялекталагічнай навукі, светлы, добры, інтэлігентны чалавек. Паводле афіцыйных дакументаў, яна нарадзілася 27 ліпеня 1911 г. (сама Юзэфа Фларыянаўна гаварыла, што нарадзілася 2 жніўня 1911 г.) у вёсцы Ухлё Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці. Пражыла крыху больш за дзевяноста гадоў, пакінуўшы гэты свет у 2002 годзе. З самага маленства жыццём былі наканаваны ёй шматлікія выпрабаванні. У дзесяць гадоў асірацела. Змяніўшы месца жыхарства, стала жыць пры браце ў г. Шклове, дзе скончыла сямігодку. Адсюль, са Шклова, накіравалася ў Магілёў, дзе паступіла ў Магілёўскі педтэхнікум. Пасля яго заканчэння працавала настаўніцай пачатковых класаў у Клімавіцкім раёне. Доўга на настаўніцкай працы не затрымалася: замацаваўшы свае веды на аднагадовых падрыхтоўчых курсах у Магілёве, паступіла вучыцца ў Мінскі педагагічны інстытут (1934), які паспяхова скончыла ў 1938 г. Маючы на руках рэкамендацыю прафесара К. І. Гурскага, у тым жа годзе пачала навучанне ў аспірантуры Інстытута мовы і літаратуры Акадэміі навук БССР. Вялікая Айчынная вайна перапыніла даследчую працу маладога навукоўца, але ўжо ў 1945 г. з часу аднаўлення працы навукова-даследчых устаноў АН БССР Ю. Ф. Мацкевіч на ўсё астатняе жыццё звязала свой лёс з Інстытутам мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР (сучасны Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі). Пачынала працу на пасадзе навуковага супрацоўніка, з 1950 да 1986 года ўзначальвала сектар (пазней аддзел) дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі, закончыла працоўны шлях доктарам філалагічных навук, членам-карэспандэнтам Акадэміі навук БССР. Ганаровае званне члена-карэспандэнта як знак прызнання навуковага досведу і аўтарытэту, атрымала ў 1968 годзе, стаўшы першай з супрацоўнікаў Інстытута пасляваеннай пары, хто меў такі пачэсны статус. Праз дзесяцігоддзе (1978) навуковую дзейнасць члена-карэспандэнта АН БССР Ю. Ф. Мацкевіч адзначыў таксама ўрад, надаўшы Юзэфе Фларыянаўне званне заслужанага дзеяча навукі БССР. Гэта было зусім заканамерна і натуральна. Так быў ацэнены яе вялікі ўклад у стварэнне шматлікіх навуковых выданняў: «Нарысы па гісторыі беларускай мовы» (1957), «Курс сучаснай беларускай мовы. Марфалогія» (1957), «Русско-белорусский словарь» (1953). Гэтыя, як і іншыя яе публікацыі, сёння, без сумнення, можна аднесці да класічных прац нацыянальнага мовазнаўства. Спіс вышэйпералічаных публікацый дапаўняе падрыхтаванае Ю. Ф. Мацкевіч манаграфічнае даследаванне «Марфалогія дзеяслова ў беларускай мове» (1959). Аднак, нягледзячы на разнастайнасць навуковых інтарэсаў Юзэфы Фларыянаўны, ні працы ў галіне гісторыі мовы, ні публікацыі прыкладнога характару не былі ў яе навуковатворчай дзейнасці вызначальнымі. Галоўным навуковым клопатам даследчыка з'яўлялася дыялекталогія беларускай мовы. Аб'ём зробленага ў гэтай галіне айчыннага мовазнаўства ў агульнай навуковай спадчыне даследчыка здзіўляе і ўражвае. Але здзіўляе не агульная колькасць публікацый – уражвае маштабнасць увасаблення задуманага, яго гістарычная навуковая значнасць і каштоўнасць. Сапраўдным навуковым дасягненнем Юзэфы Фларыянаўны Мацкевіч

[1] У гэтым зборніку, прысвечаным памяці Ю. Ф. Мацкевіч, не змяшчаецца спіс яе публікацый. Бібліяграфія прац Ю. Ф. Мацкевіч, а таксама матэрыялы пра яе былі надрукаваны ў дыялекталагічным зборніку «Жывое наша слова» (Мінск: Беларус. навука, 2001. С. 10–22), якія прысвячаўся 90-годдзю члена-карэспандэнта НАН Беларусі Ю. Ф. Мацкевіч.

як кіраўніка і арганізатара навукова-даследчай працы ў рэспубліцы сталі два нацыянальныя лінгвагеаграфічныя атласы – «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (ДАБМ; 1963 г.) і «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак у 5 тамах» (ЛАБНГ; 1993–1998 гг.). Насамрэч, гэта не проста звычайныя навуковыя выданні, нязменным аўтарам і навуковым рэдактарам якіх яна з'яўлялася, – гэта велічныя помнікі беларускай мове, яго народу. Абодва атласы – фундаментальныя навуковыя калектыўныя даследаванні, стварэнне якіх вымагала вырашэння шматлікіх уласнанавуковых і розных картаграфічных праблем. Для таго каб на высокім навуковым узроўні скласці лінгвагеаграфічныя карты, на пасяджэннях аддзела абмяркоўваліся шматлікія моўныя з'явы, выяўляліся і ўстанаўліваліся шляхі і спосабы іх картаграфавання, прымаліся аптымальныя рашэнні пры рэалізацыі розных картаграфічных задач. Ідэйным кіраўніком, натхняльнікам тых, часам вельмі палкіх навуковых абмеркаванняў, калі падчас спрэчак нараджаліся новыя ідэі, была Юзэфа Фларыянаўна. Яна не проста кіравала працай: падказвала, дапамагала, прапаноўвала рашэнні, – Юзэфа Фларыянаўна сама рабіла карты. Як навуковы рэдактар выдання разам з аўтарамі яна аналізавала карты з нанесенымі на іх лінгвістычнымі з'явамі, пры неабходнасці ўмела далікатна паправіць калегу, станоўча вырашыць праблемныя пытанні, займалася сістэматызацыяй уключаных у кожны том матэрыялаў. Стварэнне панарамнай выявы беларускай мовы, адлюстраванай у дыялекталагічным лінгвагеаграфічным атласе беларускай мовы, вымагала яе тэарэтычнага асэнсавання. Вынікам «расчытвання» карт дыялекталагічнага атласа стала публікацыя калектыўных выданняў «Нарысы па беларускай дыялекталогіі» (1964), «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» (1968–1969). «Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі» (1962) з'явілася практычным дадаткам, у якім адлюстроўваўся плён збіральніцкай палявой дзейнасці дыялектолагаў. Супольныя навуковыя набыткі ў галіне нацыянальнага мовазнаўства былі настолькі важкімі, што за комплекс лінгвагеаграфічных даследаванняў, фактычна інавацыйных для тагачаснай савецкай навукі, аўтарскі калектыў у 1971 годзе быў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй СССР. Гэта ўзнагарода – адна з першых на той час вышэйшых дзяржаўных узнагарод у галіне лінгвістыкі.

Прызнаннем дасягненняў у галіне нацыянальнай лінгвагеаграфіі з'яўляецца таксама Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь за 2000 г. Яе атрымаў аўтарскі калектыў, прадстаўнікі старэйшага пакалення аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі А. І. Чабярук, Я. М. Рамановіч, Ф. Д. Клімчук, І. Я. Яшкін, С. Г. Лобач, за стварэнне пяцітомнага «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак». Узначальвала працу па выкананні гэтага найбуйнейшага навукова-даследчага праекта мінулага стагоддзя, як і папярэдняга дыялекталагічнага атласа, былы загадчык аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі, нязменны рэдактар усіх тамоў і складальнік лінгвакарт у першых чатырох тамах атласа Ю. Ф. Мацкевіч. Ацэнка навуковага набытку працы такога маштабу – гэта прызнанне дасягненняў усяго навукова-творчага калектыву, а не толькі яго ўганараванай часткі, бо адолець такі аб'ём працы не пад сілу невялікаму калектыву даследчыкаў. Пра тое, колькі было зроблена, колькі людзей – даследчыкаў-лінгвістаў, выкладчыкаў спецыялізаваных кафедраў вышэйшых навучальных устаноў, іх студэнтаў і проста карэспандэнтаў-аматараў – было задзейнічана ў выкананні задуманага даследавання, сведчаць некаторыя лічбы. Напрыклад, да ўласна картаграфічнай працы над «Дыялекталагічным атласам беларускай мовы» аўтарскаму калектыву на этапе збірання матэрыялаў неабходна было, паводле папярэдняй задумы, абследаваць каля 1200 н. п. (населеных пунктаў). Праўда, першапачаткова запланаваны спіс потым крыху скараціўся, ён склаў 1027 н. п. Сама лічба яскрава сведчыць, што трэба было, без перабольшвання, выканаць велізарны аб'ём палявой даследчай работы. З пастаўленай задачай калектыў паспяхова справіўся. Праца над дыялекталагічным атласам пачалася ў 1948 годзе і працягвалася да 1955 г. І хоць у Атлас быў уключаны не ўвесь сабраны палявы матэрыял, а толькі з 1027 н. п., у некаторых з першапачаткова вызначаных для абследавання вёсках навукоўцы пабылі не аднойчы, бо з 1955 да 1959 г. праводзіліся кантрольныя экспедыцыі. У выніку сістэматызацыі і апрацоўкі назапашаных звестак у канцавы варыянт Атласа было ўключана 338 лінгвістычных карт і 8 інфармацыйна-даведачных. Карты ў Атласе былі ўкладзены згодна з загадзя

падрыхтаванай спецыяльнай Праграмай па збіранні матэрыялаў для Атласа беларускай мовы. Як відаць, збіранне матэрыялаў – гэта велізарны аб'ём працы. Цяжка паддаецца асэнсаванню, як можна было ажыццявіць задуманае ў такія сціслыя тэрміны. Насамрэч, і абмежаваныя часавыя рамкі для выканання працы на дакартаграфічным этапе, і сам картаграфічны этап стаў аператыўным толькі дзякуючы таму, што гэтае навуковае даследаванне было агульнадзяржаўным. Для рэалізацыі такога буйнога праекта былі прыцягнуты выкладчыкі ўсіх тагачасных вышэйшых навучальных устаноў. Аднак асноўны цяжар, найперш арганізацыйны, каардынацыйны, тэарэтыка-аналітычны, быў ускладзены на Нацыянальную акадэмію навук, Інстытут мовазнаўства, перадусім на аддзел дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі. Менавіта Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч узяла на сябе абавязкі галоўнага арганізатара і каардынатара.

Згадаем іншы лінгвагеаграфічны атлас – «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак». Каб падрыхтаваць ЛАБНГ да выдання, навукоўцам неабходна было наведаць 142 населеныя пункты, якія былі ўключаны ў сетку для абавязковага абследавання. Пазней, прагледзеўшы сабраныя матэрыялы, было вырашана колькасць вёсак, уключаных у сетку ЛАБНГ, пашырыць. У выніку замест 142 вёсак даследчы матэрыял збіраўся ў 149 н. п. Каб зразумець мала гэта або, наадварот, многа, прывядзём такую інфармацыю. У кожным са 149 н. п. неабходна было запісаць адказы на пытанні. У спецыяльна падрыхтаваным для збірання матэрыялаў апытальніку (ён называўся «Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання лексічнага атласа беларускай мовы»), змяшчалася 3972 пытанні, 1700 з якіх (яны ў «Інструкцыі» пазначаны індэксам А) былі абавязковымі. Такім чынам, на 1700 пытанняў трэба было атрымаць адказ у 149 беларускіх вёсках. Гэта яскравае сведчанне той тытанічнай навуковай працы, якую патрабавалася выканаць для стварэння ілюстрацыйнай дыялекталагічнай базы. Заўважым у звязку са сказаным і такі факт: у 95 н. п. з першапачатковай колькасці 142, матэрыял збіраўся менавіта тагачаснымі супрацоўнікамі аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі. Удзел у яго збіранні бралі А. І. Чабярук, С. Г. Лобач, Ф. Д. Клімчук, А. А. Крывіцкі, І. Я. Яшкін, Н. У. Быкава, П. А. Міхайлаў, Т. М. Трухан, Г. У. Арашонкава і іншыя мовазнаўцы. Нязменным арганізатарам палявых даследаванняў і іх сталым удзельнікам была Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч. Дзякуючы яе намаганням збіральніцкая праца была пастаўлена на такі высокі ўзровень, што даследаванне атрымала статус дзяржаўнага навуковага мерапрыемства. Пра стварэнне атласа і працу над ім ведала вышэйшае ўрадавае кіраўніцтва рэспублікі. Аднак мала арганізаваць і правесці палявыя даследаванні, у навуцы атрыманыя звесткі перапраўляюцца і ўдакладняюцца. На працягу ўсяго 5 гадоў (з 1971 да 1975 г.), калі непасрэдна збіраўся матэрыял, значная колькасць звестак адначасова перапраўлялася і ўдакладнялася. З гэтай мэтай навукоўцам прыйшлося зрабіць больш за 200 выездаў на даследчыя аб'екты і апытаць за час збірання матэрыялу звыш 1100 мясцовых жыхароў. Прыкладна такая ж колькасць часу была прысвечана аналітыка-тэарэтычнаму асэнсаванню і апрацоўцы назапашанай навуковай інфармацыі – стварэнню лінгвістычных карт. Аналітычная праца, накіраваная на складанне лінгвагеаграфічных карт, заняла прыкладна пяць гадоў (1976–1980). Першапачатковы варыянт лексічнага атласа, у якім на адпаведнай навуковай базе дэманстраваліся набыткі беларускай нацыянальнай мовы, да 1980 г. быў падрыхтаваны да друку. Была складзена 1791 лінгвістычная карта і 19 інфармацыйных. Гэтыя лічбы сведчаць пра натхнёную працу кіраўніка праекта Юзэфы Фларыянаўны Мацкевіч, яе ўменне арганізаваць аўтарскі калектыў, каб за такі непрацяглы час падрыхтаваць да друку пяцітомнае фундаментальнае навуковае даследаванне – «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак».

На жаль, у архіве аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі не захаваўся летапіс дыялекталагічных экспедыцый аддзела. Таму нельга назваць дакладна, колькі ўсяго выездаў зрабіла асабіста Юзэфа Фларыянаўна. Былыя супрацоўнікі аддзела, якія працавалі разам з тагачасным загадчыкам, расказваюць, што хутчэй можна ўспомніць, якія мясціны ў Беларусі яна не наведала. Была, як кажуць, усюды, бо з'яўлялася проста дзейным дыялектолагам-палевікам, які пастаянна сам выязджаў у экспедыцыі, а таксама кіраваў дыялекталагічнымі выездамі. Яна любіла жывую працу з людзьмі, месяцамі жыла сярод вяскоўцаў, рупліва занатоўваючы кожнае пачутае ад іх слова.

У вясковым асяроддзі Юзэфа Фларыянаўна была сваёй, блізкай. Да яе ішлі за парадамі сяльчане, ёй давяралі, з ёй раіліся. У дыялекталагічных экспедыцыях яна правяла істотную частку свайго навуковага жыцця, бо часам выязджаць даводзілася па некалькі разоў на год.

Шматлікія экспедыцыі, у тым ліку і тыя, што арганізоўваліся для збірання матэрыялаў для супольнага міжнароднага даследавання «Агульнаславянскі лінгвістычны атлас», сталі, відаць, штуршком для стварэння адметнага лексікаграфічнага дыялектнага даведніка. Ім з'яўляецца пяцітомны «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (1979–1986). Гэты слоўнік істотна адрозніваецца ад іншых выданняў такога тыпу. Яго адрознасць шматбаковая. Найперш тэрыторыя абследавання. Ю. Ф. Мацкевіч задумала скласці слоўнік, які б уключаў лексічныя сродкі, характэрныя для гаворак паўночна-заходняй зоны беларускай мовы. Зональныя ўтварэнні – гэта адметныя тэрытарыяльна-моўныя згрупаванні гаворак. Моўныя асаблівасці, найперш лексічныя, на падставе якіх адасабляецца пэўная частка тэрыторыі ў межах нацыянальнай лінгвапрасторы, маюць статус міжмоўных. Апошняе азначае, што пэўнае слова ў сваёй адметнай форме ўжываюць у маўленчай практыцы не толькі носьбіты беларускай гаворкі. Такія ж лексічныя сродкі выкарыстоўваюцца ў маўленні і памежнымі суседзямі. Існаванне ў кантактных гаворках агульных лінгвістычных асаблівасцей сведчыць пра тое, што любое занальнае ўтварэнне міжмоўнае па сваёй сутнасці. Паўночна-заходняя частка Беларусі – рэгіён актыўных славянскіх і балта-славянскіх моўных зносін. Такім ён склаўся гістарычна. Таму даследаваць, якія лексічныя сродкі характарызуюць маўленчую дзейнасць жыхароў кантактнай міжмоўнай тэрыторыі, падавалася звышцікавай навуковай ідэяй. Каб рэалізаваць задуму, неабходна было аб'яднаць даследчыкаў некалькіх дзяржаў – Польшчы, Літвы, дамовіцца аб супрацоўніцтве з Інстытутам мовы і літаратуры імя А. Упіта тагачаснай Латвійскай ССР. Галоўнае – зладзіць інтэрнацыянальныя дыялекталагічныя экспедыцыі, а таксама распрацаваць метадалагічныя прынцыпы ўкладання матэрыялу ў слоўніку. Усё гэта было арганізавана і ўвасоблена ў жыццё дзякуючы нястомнай энергіі і надзвычайнаму працалюбству Юзэфы Фларыянаўны. І, бясспрэчна, дзякуючы таму аўтарытэту, які яна мела ў сваіх замежных калег. Яна асабіста падтрымлівала цесныя сувязі з А. І. Грынавіцкене з Інстытута літоўскай мовы і літаратуры тагачаснай Літоўскай акадэміі навук, з А. Я. Блінкене, Б. Э. Лаўмане, Б. П. Рэйдзане, А. Б. Брэйдак – супрацоўнікамі Інстытута мовы і літаратуры імя А. Упіта былой Латвійскай ССР, з А. Абрэмска-Яблонскай, С. Глінкам, Э. Смулковай і многімі-многімі іншымі польскімі навукоўцамі, з ёй кантактавалі і раіліся вядомыя рускія навукоўцы Р. І. Аванесаў, Т. Г. Строганава, К. Ф. Захарава і іншыя. Таму «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» не мог не з'явіцца. Ён выйшаў і не толькі стаў адметнай лексікаграфічнай крыніцай найкаштоўнейшай моўнай інфармацыі, а і застаўся ў гісторыі нацыянальнай дыялектаграфіі як помнік гістарычных сацыяльна-культурных дачыненняў славянскіх і балцкіх народаў, увасобленых у слове, як рэальная дэманстрацыя вынікаў міжнароднага навуковага супрацоўніцтва.

Юзэфа Фларыянаўна ўсё сваё навуковае жыццё не толькі займалася напісаннем даследчых прац, якім сёння можна надаць статус агульнацыянальных культурна-гістрычных каштоўнасцей, – гэта перадусім дыялекталагічны і лексічны атласы, – яна паспяхова даследавала і многія моўныя з'явы, вынікі вывучэння якіх у выглядзе спецыяльных артыкулаў змяшчаліся ў розных навуковых беларускіх і замежных выданнях. Гэта публікацыі па складаных і спрэчных праблемах дыялектнай фанетыкі, у тым ліку і па актуальных у свой час пытаннях класіфікацыі беларускіх гаворак паводле моўных асаблівасцей: «О классификации белорусских диалектов» (1959; у сааўтарстве), «Некоторые вопросы вокализма литовских заимствований в белорусских говорах» (1985; у сааўтарстве), «Нерегулярные явления в фонетике, акцентуации и грамматике белорусских говоров западной зоны» (1977; у сааўтарстве) і інш. Асаблівай увагі заслугоўваюць тыя яе артыкулы, у якіх разглядаюцца шматлікія лексічныя асаблівасці, характэрныя для беларускіх гаворак, выказваюцца цікавыя думкі пра прычыны іх паходжання. Наогул Ю. Ф. Мацкевіч напісала звыш 80 навуковых прац. Гэта ў дадатак да іншых фундаментальных даследаванняў у галіне дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі. Яе апантанасць навуковай справай, самаахвярнасць у служэнні навуцы,

грамадзянская актыўнасць былі высока ацэнены дзяржавай. Яна ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў, медалём «За доблесную працу», Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. Але калегі, вучні, супрацоўнікі запомнілі Юзэфу Фларыянаўну не столькі як слыннага даследчыка, арганізатара дыялекталагічнай працы ў нашай рэспубліцы. З вялікай сімпатыяй узгадваюць яе як простага, цудоўнага чалавека. Яна мела шчодрае сэрца. Усім, хто сустракаўся з нейкімі жыццёвымі праблемамі і цяжкасцямі, старалася дапамагчы, атуліць цяплом, супакоіць добрым словам. Таму да Юзэфы Фларыянаўны ішлі людзі. Хто за падтрымкай, хто па параду, хто для душэўнай размовы, хто дзеля вырашэння навуковых праблем. Яе ведаў, вопыту, чалавечай зацікаўленасці хапала на ўсіх, усім яна імкнулася дапамагчы, падтрымаць, пахваліць, павіншаваць.

Лёс Юзэфы Фларыянаўны склаўся так, што сямейныя клопаты саступалі месца навуковым, але яна любіла свой родны дом, была захавальніцай сямейных традыцый, любіла прымаць, дакладней, як кажуць у народзе, «прывячаць» гасцей. Яе дом наведаў не адзін замежны даследчык, калега па працы. Звычайна ў дзень нараджэння тут збіраліся блізкія па навуковых інтарэсах і жыццёвых памкненнях людзі. Камфортна было ўсім, і асабліва радавалася Юзэфа Фларыянаўна. Яе вочы праменіліся цяплом, твар асвятляла шчырая ўсмешка, якой яна, тады ўжо амаль невідушчая, адорвала кожнага. У доме панавалі гасціннасць і ўсцешанасць ад сустрэчы з гаспадарамі, ад размоў з паважанай Юзэфай Фларыянаўнай. А яна цікавілася літаральна ўсім: і што робіцца ў аддзеле дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі, якія навуковыя задумы ёсць, ці прыйшлі ў дыялекталогію маладыя даследчыкі, якія дыялекталагічныя выезды запланаваны і з якой мэтай. Не стамлялася даваць парады, прапаноўвала сваё вырашэнне той ці іншай навуковай праблемы, зважала, на што скіраваць даследчую цікавасць, што з'яўляецца найбольш актуальным сёння і запатрабаваным у перспектыве ў дыялекталагічнай навуцы. З ёй было заўсёды цікава, бо сама Юзэфа Фларыянаўна адметная жанчына. Як чалавек высокай духоўнасці, яна была сваёй і ў розных навуковых колах, і сярод вясковых жыхароў, і сярод сяброў, і радзіны. Якраз вось такая – дэмакратычная, па-чалавечы шчырая ў зносінах з людзьмі, самаахвярная і неўтаймаваная ў навуковай працы, у здзяйсненні задуманага – яна прыгадваецца ўсім, хто меў шчасце быць з ёй, працаваць, дзяліць радасць і перажываць нягоды.

Такой успамінаецца нам Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч у свой стагадовы юбілей. Яна крыху не дажыла да яго, але яе пранікнёны, светлы погляд застаўся з намі. З намі і яе працы – ад буйнамаштабных да невялікіх па аб'ёме, але незалежна ад гэтага і сёння актуальных і запатрабаваных у дыялекталагічнай навуцы.

*Ф. Д. Клімчук*

## УСПАМІНЫ ПРА ЮЗЭФУ ФЛАРЫЯНАЎНУ МАЦКЕВІЧ

Маё завочнае знаёмства з Юзэфай Фларыянаўнай адбылося ў 1957, а непасрэднае – у 1958 годзе. Сталася гэта так.

У той час я працаваў настаўнікам у Сіманавіцкай сярэдняй школе Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці, выкладаў гісторыю. Сіманавічы – мая родная вёска. Я напісаў пісьмо ў АН БССР, у Інстытут мовазнаўства. У пісьме я прасіў адказаць мне на некаторыя пытанні, у прыватнасці: ступень вывучанасці гаворак Драгічынскага раёна; як вызначаюць вучоныя характар гэтых гаворак; ці адбіваюцца на гэтых гаворках рысы мовы колішніх славянскіх плямёнаў.

У хуткім часе атрымаў пісьмо ад Юзэфы Фларыянаўны. Яна была тады загадчыцай сектара дыялекталогіі. У пачатку лета 1957 г. Юзэфа Фларыянаўна паведамляла, што драгічынскія гаворкі вывучаліся, але недастаткова. Прыводзіла погляды некаторых вучоных на іх. Паведамляла, што сектар дыялекталогіі працуе над дыялекталагічным атласам беларускай мовы. Калі гэты атлас будзе апублікаваны, тады пра драгічынскія гаворкі будзе вядома болей. Але нават нягледзячы на выданне атласа ў будучым, пажадана было, каб гаворкі даследаваліся глыбей.

У гэтым пісьме Юзэфа Фларыянаўна параіла мне заняцца даследаваннем драгічынскіх гаворак. Гэтым яна мяне акрыліла. Я зразумеў, што змагу нешта зрабіць для навукі. Было заўважана, што пры даследаванні заходнепалескіх гаворак неабходна звяртаць увагу на суадносіны беларускага і ўкраінскага кампанентаў у іх.

У хуткім часе Юзэфа Фларыянаўна прыслала мне «Праграму па вывучэнню беларускіх гаворак і збіранню звестак для складання дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (Мінск, 1950). Прапанавала мне яе выканаць, г. зн. даць адказы на пытанні праграмы. Выкананне праграмы заняло ў мяне некалькі месяцаў. Але затое ў сектары дыялекталогіі маёй працы далі высокую ацэнку і прапанавалі ў наступным 1958 г. прыняць удзел у дыялекталагічнай экспедыцыі ў якасці яе члена.

Да адказаў на пытанні праграмы я дадаў кароткае апісанне драгічынскіх і суседніх з імі гаворак. Апісанне было, зразумела, дылетанцкім, але ў ім мелі месца і сур'ёзныя назіранні.

Тады ж, у 1957 г., я пачаў інтэнсіўна запісваць старадаўнія песні, не толькі дзеля таго, каб іх пры нагодзе спяваць, але і каб захаваць нашчадкам.

Перапіска працягвалася. Пазней мне перадавалі, што ў сектары дыялекталогіі чыталі адно маё пісьмо, і слухачам яно спадабалася. Спрабаваў здагадацца чаму. Прыйшоў да такой высновы. Мой бацька, звычайны селянін, быў кніжнікам. І ён вельмі паважаў вучоных. Гэтую павагу ён перадаў і мне. Пра гэта я, відаць, нешта выказаў у сваім пісьме.

У 1958 г. я прыняў прапанову Юзэфы Фларыянаўны ўзяць удзел у дыялекталагічнай экспедыцыі, якую арганізоўваў Інстытут мовазнаўства АН БССР. Прыехаў у Мінск. Гэта было маё першае наведванне сталіцы.

Перш чым з'явіцца ў Інстытут мовазнаўства, я трохі азнаёміўся з горадам. Што мяне найбольш уразіла на той час у Мінску? А гэта тое, што тут панавала беларуская мова. Праўда, гэта была не літаратурная мова, гэта была «трасянка». Але ў гэтай «трасянцы» пераважаў беларускі кампанент. Тады ў Мінску рускую-расейскую мову рэдка было чуваць. Значна часцей можна было пачуць «так званую рускую мову». У ёй пераважаў рускі кампанент, але вельмі значным з'яўляўся і кампанент беларускі. Чаму мне запомнілася беларускамоўнасць Мінска? Як гэта: Мінск – такі буйны горад і ў ім не пануе руская мова?! У нас, на Заходнім Палессі, Брэст і Пінск намнога меншыя, чым Мінск, і ў іх часцей за ўсё пачуеш рускую мову. Праўда, там таксама можна адрозніць рускую-расейскую мову і «так званую рускую мову». У Брэсце і Пінску чулася таксама і заходнепалеская гаворка, але яна там не пераважала. У невялікіх гарадках і мястэчках Берасцейшчыны тады гаварылі па-мясцоваму. Нават у такім даволі буйным горадзе, як Баранавічы, у той час гаспадарыла панямонская гаворка, вельмі блізкая да літаратурнай беларускай мовы.

Першую ноч у Мінску я начаваў у сваіх землякоў. І зноў я быў уражаны. Гаспадары аддавалі сваю дачку ў першы клас, таму яны ўвесь час раздумвалі, у якую школу яе аддаць – рускую ці беларускую. Справа ў тым, што ў 40–50-я гады ў Мінску беларускія школы працавалі па ўсім горадзе. Рускіх, праўда, было болей. Але, калі бацькі жадалі аддаць сваё дзіця ў беларускую школу, для іх ніякіх праблем не існавала. І напаўняльнасць у беларускіх школах была добрая.

У панядзелак я пайшоў у Інстытут мовазнаўства, у сектар дыялекталогіі. Там была Юзэфа Фларыянаўна і іншыя супрацоўнікі. Мяне сустрэлі, як добрага знаёмага. Пагаварылі пра многае. Паказалі мне кнігі, якія знаходзіліся ў сектары, машынапісы дысертацый, рукапісныя дыялектныя матэрыялы, на аснове якіх складаўся Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Запомніліся падарункі – новыя навуковыя выданні, праграмы для збору дыялектных матэрыялаў.

Ішла гутарка пра тое, каб я праз нейкі час стаў супрацоўнікам сектара дыялекталогіі. Як гэта зрабіць практычна? Найлепш праз аспірантуру. Але тут меліся немалыя праблемы. Вышэйшай адукацыі ў мяне не было, толькі няпоўная вышэйшая. Ды і закончыў я не філалагічны, а гістарычны факультэт. Сышліся на тым, каб я завочна закончыў філалагічны факультэт ВНУ.

У той свой першы візіт пазнаёміўся я з тагачаснымі супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства – А. І. Чабярук, А. А. Крывіцкім, Г. У. Арашонкавай, М. В. Бірылам, І. Я. Яшкіным і іншымі.

Юзэфа Фларыянаўна звярнулася да мяне за кансультацыямі, каб я даў ацэнку матэрыялам, сабраным у Берасцейска-Пінскім Палессі. Якасць гэтых матэрыялаў была неаднолькавай. З такі-

мі пытаннямі наконт якасці запісаў берасцейска-пінскіх (заходнепалескіх) гаворак звярталася да мяне Юзэфа Фларыянаўна і ў далейшым. Яна ўвогуле надзвычай сур'ёзна адносілася да якасці запісаў народных гаворак. Каб выявіць недакладнасці, яна любіла матэрыялы перапраўляраць. Для гэтага выкарыстоўвала веды людзей з вышэйшай адукацыяй ці вучонай ступенню, але носьбітаў гаворак. Пры зборы матэрыялаў з Заходняга Палесся для Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы ёй дапамагалі выкладчыкі і студэнты філалагічных факультэтаў Берасцейскага і Пінскага настаўніцкіх інстытутаў.

Я ўладкаваўся ў інтэрнат АН БССР. Аднойчы сустрэў на вуліцы Юзэфу Фларыянаўну. Яна была з заплечнікам: адпраўлялася ў экспедыцыю. Перакінуліся некалькімі словамі. Хвалявалася, каб я не перадумаў, каб прыняў удзел у экспедыцыі.

Удзельнікі экспедыцыі дзяліліся на невялікія групы. Гэтыя групы ехалі ў розныя куткі Беларусі. Групу, у якую ўваходзіў я, узначальвала А. І. Чабярук. Мы даследавалі гаворкі Мазырскага (в. Лешня, Гурыны, Мялешкавічы) і Калінкавіцкага (в. Клінск) раёнаў. Дабіраўся я самастойна. Ляцеў самалётам да Мазыра. У Мазыры начаваў у выкладчыка Мазырскага педінстытута, кандыдата філалагічных навук Сямёна Аляксандравіча Грыгор'ева. А раніцой я адправіўся аўтобусам у Лешню. У Лешні сустрэўся са сваімі калегамі.

Лешня Мазырскага раёна – першая з ліку многіх беларускіх вёсак, у якой я пабыў у час свайго экспедыцыйнага жыцця. Мне пашанцавала з ёй. Прыгожыя краявіды, працавітыя і добразычлівыя людзі, багатая гаворка. Перад нашым ад'ездам, вечарам, запрасіў мяне ў госці адзін хлопец з Лешні, прыкладна мой аднагодак. Імя яго я забыўся, а маці звалі Марфа. Тая сустрэча запала ў памяць: дужа адметным было частаванне, багатае на стравы, традыцыйныя, палескія, такія смачныя, проста найцудоўнейшыя.

Пасля экспедыцыі мы раз'ехаліся. Час ішоў. Я працягваў працаваць настаўнікам гісторыі ў Сіманавіцкай сярэдняй школе Драгічынскага раёна. Час ад часу наведваў Мінск. Тады ж завітваў і ў сектар дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства.

Сустракаўся з Юзэфай Фларыянаўнай і іншымі супрацоўнікамі. Працягвалася перапіска з Юзэфай Фларыянаўнай. Пры нагодзе пасылаў ёй нейкія дыялектныя матэрыялы і сам атрымліваў ад яе розныя звесткі.

З часам высветлілася, што для паступлення ў аспірантуру пры Інстытуце мовазнаўства не абавязкова мець вышэйшую філалагічную адукацыю. Можна мець і гістарычную. Атрымаць гістарычную вышэйшую адукацыю мне было прасцей, паколькі я ў свой час закончыў гістарычны факультэт Пінскага настаўніцкага інстытута і меў няпоўную вышэйшую адукацыю. Мяне залічылі адразу на трэці курс завочнага аддзялення Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага, які я закончыў у 1967 г.

Праўда, каб здаць уступныя экзамены ў аспірантуру, мне неабходна было самастойна падрыхтаваць філалагічныя дысцыпліны.

У аспірантуру я паступіў у 1968 г. Маім навуковым кіраўніком зацвердзілі Юзэфу Фларыянаўну. Пад яе кіраўніцтвам я напісаў сваю кандыдацкую дысертацыю, прысвечаную фанетыцы заходнепалескіх гаворак. Тэма дысертацыі была прынята не адразу. У прыватнасці, прапаноўвалася тэма «Назвы лекавых траў».

Юзэфа Фларыянаўна была выдатным навуковым кіраўніком. Я заўсёды звяртаўся да яе з пытаннямі, яна ўважліва чытала і перачытвала напісаны мною першапачатковы варыянт дысертацыі. Прапанавала звяртацца з пытаннямі не толькі да яе, але і да іншых старэйшых калег. І ў той жа час да думак розных вучоных раіла заўсёды ставіцца крытычна. Дапамагала мне ў пошуках навуковай літаратуры па дысертацыйнай тэме.

Дысертацыю я напісаў у тэрмін. Але тут надарылася неспадзяванка. Выйшла пастанова, у якой адзначалася, што аб'ём кандыдацкай дысертацыі не павінен перавышаць 200 старонак. У мяне ж у першапачатковым варыянце налічвалася звыш 300 старонак.

Прыйшлося дысертацыю перапрацоўваць, каб укласціся ў неабходныя 200 старонак і захаваць той жа змест. Гэта заняло пэўны час. Тым больш, што я ўжо працаваў у сектары дыялекталогіі

Інстытута мовазнаўства. Трэба было выконваць планавыя работы, найперш выязджаць ў палявыя дыялекталагічныя даследаванні. У экспедыцыях знаходзіліся прыкладна тры месяцы на год, а то і болей. Збіралі матэрыял для «Лексічнага атласа народных гаворак Беларусі» і для «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча».

Юзэфа Фларыянаўна шмат гадоў запар загадвала сектарам дыялекталогіі. Пазней сектар дыялекталогіі быўператвораны ў аддзел дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі. Некалькі гадоў яна яшчэ працавала ў аддзеле, але ўжо не загадвала ім. Пазней перастала працаваць у Інстытуце. Праз некаторы час Юзэфу Фларыянаўну напаткала вялікае няшчасце: яна страціла зрок.

Што можна расказаць пра Юзэфу Фларыянаўну, якой яна была ў часы нашай сумеснай працы ў Інстытуце мовазнаўства?

Найперш, Юзэфа Фларыянаўна – гэта буйны вучоны-лінгвіст, шырока вядомы ў славянскім свеце. Яе як выдатнага навукоўца, добра ведалі не толькі ў Беларусі, але і ў іншых краінах, у першую чаргу ў Літве, Польшчы, на Украіне, у Расіі, у Латвіі. Юзэфа Фларыянаўна заўсёды цікавілася навуковымі дасягненнямі ў галіне лінгвістыкі, у першую чаргу дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі, як у Беларусі, так і ў Літве, Польшчы, на Украіне, у Чэхаславакіі, Латвіі, у іншых краінах. Вывучала літаратуру па гэтай праблематыцы. Атрыманымі ведамі яна дзялілася з усімі. У час працы ў сектары (аддзеле) і ў прыватных гутарках любіла абмяркоўваць навуковыя навінкі – новыя апублікаваныя працы, навіны з канферэнцый і сімпозіумаў. Гэта не проста навуковец, даследчык, гэта чалавек, апантаны працай. У шэсць гадзін раніцы яна ўжо была ў сваім кабінеце. Ад сваіх падначаленых гэтага ніколі не патрабавала. Працавала ў Інстытуце да таго часу, да якога дазваляла адміністрацыя (недзе да дзесяці гадзін вечара). На выхадныя (субота і нядзеля) брала спецыяльны дазвол, каб працягваць працу. У час экспедыцый, калі экспедыцыя пачыналася ў панядзелак, зяць, Эдуард Адамавіч Малькевіч, адвозіў яе ў вёску раней, пераважна вечарам у пятніцу. Калі экспедыцыя заканчвалася ў пятніцу, за ёй зяць прыязджаў пазней, звычайна вечарам у нядзелю. Праграма, якую навукоўцы выконвалі ў час экспедыцый, складалася з дзвюх частак – абавязковай і дадатковай. Удзельнікі экспедыцый часцей за ўсё абмяжоўваліся абавязковай праграмай. Юзэфа Фларыянаўна заўсёды выконвала і дадатковую праграму. Матэрыялы дадатковай праграмы, сабраныя Юзэфай Фларыянаўнай, былі пазней уключаны ў «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча».

Юзэфа Фларыянаўна ўмела натхнёна працаваць і фізічна. Успамінаю: у час суботнікаў Юзэфа Фларыянаўна з граблямі ў руках выраўноўвае градку або зграбае лісце, і яе твар асвятляе ўсмешка задавальнення.

Хоць сям'я, як мне здавалася, была ў яе на другім плане, Юзэфа Фларыянаўна любіла сваіх унукаў. Асабліва часта ўспамінала Кірыла.

Нарэшце, яна ўмела сябраваць. У Юзэфы Фларыянаўны была вялікая дружба з Аленай Грынавецкене, літоўскім вучоным. У экспедыцыі яны часцей за ўсё ездзілі разам.

Некалькі разоў я наведваў Юзэфу Фларыянаўну дома, калі яна ўжо не працавала ў Інстытуце. Многа гутарылі. Яе цікавіла ўсё, але найперш, найбольш інстытуцкае жыццё: што новага ў Інстытуце? Якія працы апублікаваны? Над чым працуюць людзі? Не было выпадку, каб не спытала: якія лінгвістычныя навіны дайшлі з іншых краін, перш за ўсё суседніх. Выпытвала яна і пра навуковыя канферэнцыі, што адбыліся ці яшчэ плануюцца. Абмяркоўвалі звычайна і нейкія прыватныя навуковыя праблемы. Аднак пра што б ні гаварылі, Юзэфа Фларыянаўна ніколі не забывалася спытаць і пра прыватнае жыццё .

Юзэфы Фларыянаўны ўжо няма сярод нас, а мне часта здаецца, што яна побач, што яна і зараз мне падказвае, дапамагае, раіцца са мною, як з роўняю, надае імпэту і жадання працаваць.

# З ЛЕКСІКІ НАРОДНЫХ ГАВОРАК

*М. Н. Крыўко*

## З ГАВОРАК ДЗІСЕНШЧЫНЫ

**АЛІ́** 1. *злучн.* Але. *Ну дзе там біз чагó ён паляцéў у рыбу, алі ж ты павінін быў сазнавáць, што хáту пілнавáць нáда, дык і ён слéдам.* 2. *часц.* Ну, ну ж. *Алі і заўзéнтый ты мáліц, калі ўдýмайіш што, дык каб тóлькі було́ па-твóйму.*

**БУЗЕ́ЦЬ** *незак.* Станавіцца дрыгвяністым. *Там астáтні час стáла дóбра бузéць, упéрад так ні було́.*

**БУЗЯНЕ́ЦЬ** *незак.* Тое ж. *Тут усё бузянéйіць і бузянéйіць, сýшчая балóта зрóбілася.*

**ВАГЭ́ТАЧКІ[Й]** *займ.* Вось гэтакі, вось такі (пра што-н. малое). *Там усе вагэ́тачкійі грыбы́.*

**ВАСТО́ЛЕЧКІ (вастóлічкі, вустóлічкі)** *ліч.* Вось столькі. *Вастóлічкі ш насéна там йішчэ́ астáўшысі. Вустóлічкі тóлькі жжáла і ўсё пакýль.*

**ВАТА́М** *прысл.* Вунь там. *Ватáм Пáўкава пýня стаяла.*

**ВАТАЧКІ́[Й]** *займ.* Вось гэтакі, вось такі (пра што-н. малое). *Ай, там астáўшысі ужó ватачкі кусóчак хлéба.*

**ВАТО́Й (вутóй)** *займ.* Вунь той. *Падáй мне ватóя вядрó. Вутоя бярнó ужо сусём гнілóя.*

**ВАТУ́Т (вутýт)** *прысл.* Вось тут. *Ватýт пóйдзім, тут сушэ́й бýдзіць. Пастáў вутýт начóўкі.*

**ВІШЭ́ННІК** *м.* Вішняк. *Нéкатрая курыца знісłácя ў вішэ́ннiку.*

**ВО́ДЗІКА** *часц.* Вось. *Ватакóя вóдзіка пальтó і я сабé дýмаю купіць.*

**ВЫДУМЛЁНСТВА** *н.* Выдумка, выдумванне. *Што за выдумлёнства, роп, як скáзана.*

**ВЫ́МКНУЦЦА (вымкнацца)** *зак.* Прагаварыцца; саскочыць з языка. *Ай, як гэ́та я вымкналася? У мянé гэ́та нéйік вымкналася.*

**ВЫ́ПУГАЦЬ** *зак. экспр.* Выесці, з'есці, вычарпаць. *Адзін выпугуў цэ́лую вялікую міску булёну.*

**ВЫ́ТАҐАНІЦЬ** *зак. экспр.* Вынасіць, выцягаць. *Дзякуй бóгу, усё сéна вытаґанілі із гэ́ный латóчыны.*

**ВЯСЕ́ННЫ[Й]** *прым.* Які з'явіўся на свет вясной. *Вясéнный кабанóк.*

**ГАЛЫ́НДА** *ж. неадабр.* Паша, дзе няма травы. *Што там пáсціць карóў, там жа цяпéр галында.*

**ГАНЯ́ЦЬ** *незак.* Акучваць (бульбу). *Ужó парá бýльбу ганяць.*

**ГАРАТНІ́К** *м.* Гаротнік. *Ай, які ты, мáліц, гаратнік.*

**ГЭ́ТАЧКІ[Й]** *займ.* Гэтакі, гэты. *Гэ́тачкі, як і гэ́тат.*

**ДАТВАРА́ЦЬ** *незак.* Вытвараць, выраблядь. *Што ён там п'яный дакáзывуў, што датварáў!*

**ДАТУВА́НІК** *м. неадабр.* Злы, надзьмуты чалавек. *Ня лéзьці да гэ́нага датувáніка, йішчэ́ атмéсіць.*

**ДАХАДО́ВЫ[Й]** *прым.* Прабіўны, даступны. *Йінá бáба дахадóвая, усюдых усягó дастýкайіцца.*

**ЕРЗАНУ́ЦЦА (йірзанýцца)** *зак.* Слізгануцца, паслізнуцца і ўпасці. *На панадвóрку дýжа слізка, глядзі, ні йірзаніся тáмака.*

**ЗАВУ́ХАЦЦА** *зак. неадабр.* Стаміцца ад доўгай цяжкай працы. *Завýхалісі на гэ́ный рабóці, чуць ідзём дамóў.*

**ЗАПА́МЯЦЦЮ (запáміццю)** *прысл.* Пакуль помніцца. *Нáда запáміццю люхту залажыць.*

**ЗАПРА́ЎДАШНІ[Й]** *прым.* Сапраўдны. *Гэ́та ж запрáўдашнійі вéшчы, а ні цáцачныйі.*

**ЗАСІКТА́ЦЬ** *зак. неадабр.* Закапрызіць. *А чагó ты засіктáла, што я тýтака такóга табé сказáла? Йінá засіктáла і паляцéла, нічóга ні стáла тут рóбіць.*

**ЗА́ЎТРАКА** *прысл.* Заўтра. *Зáўтрака, мóжа, Марýся пад'éдзіць.*

**ЗБУРБУЛІ́ЦЬ, ЗБУРБО́ЛІЦЬ** *зак. неадабр.* Зліць, змяшаць, ссыпаць. *Ай, усё рáзам збурбулілі тýтака. Збурбóліць усё ў мéста рóзуму ні нáда.*

**ЗЛО́ДЗЯ** *м.* Злодзей. *Мýсіць, нéйкі злóдзя гэ́та укрáўшы.*

**ЗЫ́КАЦЬ** *незак. неадабр.* Гыркаць, злосна гаварыць, адказваць. *Што ты зыкайіш, што тут злувáцца.*

**КА́ЖАН** *прым.* Кожны. *Ай, кáжан дзень дош і дож.*

**КАСАВУ́РА** *агульн. неадабр.* Пра касавокую асобу або пра асобу, што скоса пазірае на каго-н., што-н. *Куды ж пашлá гэ́на касавýра? Што паглідáйіш, касавýра, злáя ты нéйкая сягóння.*

**КОШТ** *м.* Расход, выдаткі. *Кóшту панёс мнóга, а скóлькі ш яны тáмака пагулялі, пуўдня.*

**ЛА́НТРУ́ГА** *агульн. неадабр.* Гультай, лодыр. *Ну й лáнтруга чалавéк. Што з лантрýгі хацéць, гэ́та ж пáдла, пабóйня.*

**ЛАТАТО́НІЦЬ** *незак. неадабр.* Гаварыць беспераспанку, лапатаць. *Дóсыць табé тут лататóніць, ужó аж галавá мая трашчыць.*

**ЛАХА́НКА** *ж.* Любая пасудзіна. *Улі гэ́та у якýю лахáнку. Нáда ш ісці лахáнкі мыць.*

**ЛЯ́ПКА** *ж.* Ніжняя скіўіца, пашчэнкі. *Во змерс, аш ляпка трасéцца.*

**МАЙСА́ЦЬ** *незак.* Трэсці, махаць (галавой). *Што ты майсáйіш галавóй, як конь ат мух ці аваднёў?*

**МУ́МА** *агульн. неадабр.* Маўклівая, хмурая, панурая асоба. *А гэ́та мýма усё маўчыць і маўчыць, ні з кім ні гукáйіць.*

**НАВУРЫ́ЦЦА** *зак. экспр.* Наесціся. *Навуры́ўся капу́сты, са́ла і паляцёў узно́ва касíць.*

**НАЛАМÍЦЦА** *зак.* Прызвачаіцца, прывыкнуць пэўным чынам рабіць, выконваць што-н. *Наламíўся ма́ліц зма́лку гэ́дак піса́ць, гэ́дак і пíшыць.*

**НАЎПРО́ЦЬ, НАЎПРО́ЦІ** 1. *прыназ.* Насупраць. *Гэ́та бу́дзіць йікра́с наўпро́ць Я́нкава ло́гу. Цёччына ха́та вун жа наўпро́ці ёлачак.* 2. *прысл. Там сат, а наўпро́ць – руччэ́й.*

**НА́ЎРА** *агульн. неадабр.* Непажаданы, няпрошаны чалавек. *Зачыняйся, запіра́йся, а то йішчэ́ йіка́я на́ўра наўрэ́йіцца.*

**НАЦО́ХЛІЦЦА** *зак.* Нассацца. *Ну што, нацо́хлілісі, парася́ткі?*

**НЕЎЗНАКУ́ (ніўзнаку́)** *прысл.* Незаўважна, непрыметна, вельмі мала. *Ай, ніўзнаку́, ро́бліна тут што-нібу́дзь ці не. Там бра́дзіна се́на ніўзнаку́.*

**НЕ́ЧАГА** *займ.* Нешта, чамусьці. *Нага́ не́чага ду́жа разбале́лася.*

**НЯЎЗДО́ЛЫ[Й]** *прым.* Хілы, нядужы, слабы. *Ён жа ўжо няўздо́лы чалаве́к, што ш вы хо́чыці.*

**ПАПО́ЎНІЦЫ** *прысл.* Напоўніцу. *Еш акура́тна, што ты папо́ўніцы жарэ́ш!*

**ПА-СВАЕ́МУ** *прысл.* Па-свойму. *Яму́ ска́жыш так, а ён усё ро́ўна зро́біць па-сваему.*

**ПЕКАТА́ (пíката́)** *ж.* Спякота. *Куды ш руша́ць тако́й пíкато́й. Гэ́ткый пíкато́й і ро́біць цяжка.*

**ПЕРАЗЫ́ЎКІ (піразы́ўкі)** *толькі мн.* Пачастунак у бацькоў маладой праз тыдзень пасля вяселля. *У нядзе́лю ш у Вало́дзькавых бу́дуць піразы́ўкі.*

**ПЁРУН** *м.* Пярун (звычайна ў лаянцы). *Ашы́ш, дзірыцё ле́хі, кап на вас пёрун!*

**ПЛЯЎДУ́РЫЦЬ** *незак. неадабр.* Плявузгаць, малоць пустое. *Ай, слу́хаць, што там бу́дзіць гэ́нан п'я́ный пляўду́рыць.*

**ПО́ШЛІНА** *ж.* Пошасць, эпідэмія, хвароба. *Не́йкая по́шліна на мяне́ напа́ла: хварэ́ю і хварэ́ю.*

**ПРЫБО́Й** *м.* Бойкае месца (звычайна выган). *Ай, там і травіна́ ні праб'е́цца, там жа са́мы прыбо́й, скаціна таўчэ́цца, калі выганя́юць, калі пірыйма́юць.*

**ПРЫ́ХАДЗЬ** *ж.* Праход, месца каля праходу. *Скінь гэ́та ўсё лі са́май пры́хадзі.*

**ПРЫШЧЭ́МКА** *ж.* Прыколка. *Дзе дзе́лася мая́ прышчэ́мка ат валасо́ў?*

**ПУГРА́К, ПУГРУКА́** *м.* Пагорак. *Там пугра́к, што на йім мо́жыць вы́расці?*

**ПУСТАДЭ́ЛЯ** *агульн. неадабр.* Пустая, недалёкая асоба. *Што табе́ згука́йіць гэ́на пустадэ́ля.*

**ПУ́СТКІ** *толькі мн.* Холад у памяшканні. *Сяго́ння ў ха́ці пу́сткі, на́да ве́чарам пліту́ пратапíць.*

**РАЗА́К** *м.* Від асакі. *Раза́к ду́жа рэ́жыць ру́кі.*

**РУ́ХАЦЬ** *незак.* Рохкаць. *Не́шта сяго́нніка свіння́ ня рухайіць.*

**РЫГАЦЬ** *незак. неадабр.* Моцна, суха кашляць. *П'ець а п'ець гэ́ткую хало́днаю ваду́, а тады́ но́ччы ры́гаць бу́дзіць.*

**РЭ́ПА** *ж.* Цыпкі (на нагах). *Вымува́й чы́ста но́гі, а то жа́варанка рэ́пу пасе́йіць на твайі́х нага́х.*

**СВЕ́ТНІЦА** *ж.* Вялікая адлегласць. *Ай, туды́ ісці́ ня хо́чыцца, гэ́та ж гэ́ткая све́тніца.*

**СВЭ́ТАР** *м.* Світар. *Надзе́нь йішчэ́ і свэ́тар: сяго́ння халаднава́та на дварэ́.*

**СЕЛАВЫ́[Й] (сілавы́)** *прым.* Вясковы, сельскі. *Гэ́та мне каза́лі на́шы сілавы́йі ба́бы.*

**СКАВА́ЦЬ (скува́ць)** *незак.* Цкаваць. *Скува́ць саба́ку на зло́дзюў.*

**СКЛАДКО́ВАЯ** *ж.* Складчына, гулянка ў складчыну. *Складко́вую зро́білі, пілі, гуля́лі.*

**СПО́ЗНЫМ** *прысл.* Позна. *Учо́ра на́шы прые́халі з фэ́сту спо́зным.*

**СПУ́ЛЬНА** *прысл.* Супольна, калектыўна. *Гэ́ткую рабо́ту на́да ро́біць спу́льна.*

**УЦУ́РЫ** *прысл.* Ушчэнт, на дробныя кавалачкі. *Ай, там усё пабі́лі уцу́ры.*

**ХЛЯВО́К** *м.* Хляўчук. *Зацягні́ кары́та у хлявок.*

**ЦУЛО́ГАЦЬ** *незак. асудж.* Забруджваць, часцей чым-н. тлустым. *Ты такі́мі жы́рнымі рука́мі бу́дзіш то́лькі адзе́жу цуло́гаць.*

**ШАЛЫ́ХНУЦЬ (шалы́хнаць)** *зак.* Шуснуць. *Шалы́хні пад ко́ўдру ды грэ́йся.*

**ШЧУБО́ЎКАЦЦА** *незак.* Боўтацца ў вадзе. *Хто там у кана́віні шчубо́ўкайіцца?*

**ШЧЭ́ЛКА** *ж.* Шчыліна. *Адны́ шчэ́лкі, дзе ж тут ня бу́дзіць дмуць.*

*Л. П. Кунцэвіч*

## ЭМАЦЫЯНАЛЬНА-ЭКСПРЭСІЎНАЯ ЛЕКСІКА З ГАВОРКІ ВЁСКІ РУХАВА СТАРАДАРОЖСКАГА РАЁНА МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

У падборку ўключана лексіка, якая характарызуе чалавека ў асноўным з адмоўнага боку, дае яму негатыўную характарыстыку. Запісы зроблены ў 2010–2011 гадах ад мясцовых жыхароў.

**АБЖО́РА** *агульн.* Абжора. *Абжо́ра ты, ко́лькі мо́жно е́сці, ло́пнеш ско́рэ.*

**АБЭ́ЛТУС** *м.* Неразумны, някемлівы чалавек. *О дзе ўжэ абэ́лтус, сваім ро́зумом ні да чо́го ні до́йдзе, усе́ трэ́ба, кап паказа́лі, расказа́лі і ў рот укла́лі.*

**АЛКА́Ш** *м.* П'яніца. *Схава́ла насто́йку ві́шнёву, ду́мала на які пра́зьнік дастану, а алка́ш нашо́ў і ўсю вы́піў.*

**АПІВО́ХА, АПІВО́ША** *агульн.* Тое ж. *О ўжэ дзе апіво́ха, ко́жын дзень п'я́ны, і дзе гро́шы бярэ́, за што*

*п'е? Ну што, апівóша, учóрэ ўсю вýпіў, а сёні німá й пахмяліцца?*

**АХЛАМÓН** *м.* Пра дурнаватага чалавека. *Ну што, ахламóн, абы-дзé кінуў лісапéт, тамý і ўкрáлі, што валяўса, а цяпéр хадзі пяшкóм.*

**БАЛАБÁЙКА** *ж.* Балаболка. *Ой, éта балабáйка табé нагавóрыць і пра тóе, што былó і чагó ні былó.*

**БАЛАБЭ́ХА** *ж.* Тое ж. *Балабэ́ха ты, што ты людзéй с тóлку зьбівáеш?*

**БАЛАМУ́Т** *м.* Прайдоха, падманшчык, інтрыган. *Зьвязáласа з баламýтом éтым, то ўсю жызь гарýе, што янá дóбрае бáчыла за ім, ён цягáецца па сьвéце, а янá аднá дзяцéй гадýе.*

**БАЛВÁН** *м.* Дурань. *Балвáн éты ўчыцца ні хóчэ, бýдзе карóвом хвасты́ круціць на хвéрме.*

**БАНДЗЮ́ГА** *м.* Забіяка, задзіра. *Алéнін хлóпец настаяшчы бандзю́га расьцé, ні прапýсьціць ні сабáку, ні катá, ні дзіця малóе, усіх б'е, страляе з рагáткі вераб'ёў.*

**БÓЎТАЛО** *агульн.* Чалавек, які туляецца без справы. *А ты, бóўтало, што бóўтаесса, ні вéдаеш, што рабóты сьвет?*

**БРУХÁЧ** *м.* Брухач, пузан. *Брухáч той лянýецца сам схадзіць у лес, а гатóвых ягад зь вядрá зьеў бы німавéдама кóлькі.*

**БЭ́ЙБУС** *м.* Пра высакарослага хлапчука, які паводзіць сябе неадпаведна свайму ўзросту. *Бэ́йбус твой усё бéгае па сялé, прывучáй ужэ́ ягó да рабóты.*

**ВАЛАЦУ́ГА** *агульн.* Валацуга. *Яé сын валацýга, дзяцéй кінуў малы́х, нідзé ні рóбіць, цягáецца па сьвéце.*

**ВЫ́РАДАК** *м.* Вырадак; нікчэмны чалавек. *У яé дзяцéй багáто, мо дзéсець, і ўсе харóшые, а адзін настаяшчы вы́радак, нідзé ні рóбіць, п'е, ніжанáты, у яé пéньсію атбірáе, ужэ́ і ў цюрмé сядзéў.*

**ВЯДЗЬМÁРКА** *ж.* Вядзьмарка. *Яе бáба булá вядзьмáрка, маглá і карóве прырабіць, кап малакá ні давáла, і на чалавéка сухóты нагнáць.*

**ВЯЛІКДУ́Р** *м.* Пра высакарослага гультаяватага хлапчука. *Такі вялікдýр вýрас, а мáцяры памахчы́ ні хóчэш.*

**ГЛУШЭ́Ц** *м.* Глухаваты або глухі чалавек. *Глушэ́ц ты, крычý на ўсю хáту, а ён ні чýе.*

**ГÓМЗА** *агульн.* Пра чалавека, які дрэнна, невыразна гаворыць. *Што ты там, гóмза, нагóмзоў сабé пуд нос, нічóго ні разабрáць.*

**ГУБÁР** *м.* Губаты. *Губáр той рáньшэй піў да пут плóтом валяўса, а цяпéр закадзіраваўса, то ні п'е.*

**ГУЛЬТАÍНА** *агульн.* Лайдак. *А гультаіна дзень ляжыць, і бóкі ні паатлéжвоў, хоць бы за што ўзяўса.*

**ДАРМАЁД** *м.* Дармаед. *Што ты, дармаёд, ляжы́ш, карóву ідзі вýгані с хлявá, а то дзень стаяцьме без ядý і вады́.*

**ДАСТÁЧА** *агульн.* Той, хто настойвае на сваім, усіх павучае. *О ўжэ дзе дастáча, дзéсець раз застáвіць перарабіць, каб булó ўсё па ягó.*

**ДАЎБÉШКА** *агульн. перан.* Пра тупога, някемлівага чалавека. *Скарэ́й сам зрабіў бы, чым даўбéшцэ éтуй уталкавáць.*

**ДАХАДЗЯ́ГА** *агульн.* Нездаровы, кволы чалавек. *Мой дахадзяга сёні нéшто кóрпаецца ў дварэ́ цэ́лы дзень, нéйку рабóту нашóў, а то ляжáў сýткамі.*

**ДЗЯВУ́ЛЯ** *ж.* Пра высакарослую, але гультаяватую дзяўчыну. *Такáя дзявýля вýрасла, а каб мáцяры памахчы́ што, ці ў хáце прыбрáць – не.*

**ДЗЯ́ЎКАЛО** *агульн.* Чалавек, які ўсім незадаволены, з усімі сварыцца. *А éтае дзяўкало цэ́лы дзень дзяўкае, усé ёй ні так, усé ні ў папáд.*

**ДÓЎБНЯ** *агульн. перан.* Пра тупога, някемлівага чалавека. *Ну што за дóўбня, кóлькі раз мóжно пакáзваць, ніяк ні ўцяміш, як трэ́ба рабіць.*

**ДУДУ́КАНКА** *ж.* Пра жанчыну, якая многа гаворыць. *А тáя дудýканка ўсе ду-ду-ду цэ́лы дзень, аш галавá забалéла, дудýкае ні пра што.*

**ДУ́КА** *ж.* Пра неразгаворлівую, панурую жанчыну. *У éтае дýкі нічóго ні дапытáесса, вéчно абдýта, нідавóльна.*

**ДУРАЛÉЙ** *м.* Дурань. *Дуралéй ты, калі ты ўжэ паразумнéеш?*

**ДУРНІ́ЦА** *ж.* Тое ж (пра жанчыну). *Нащтó табé, дурніца, булó раскáзваць абы-камý, цяпéр на ўсе сялó разьнясýць.*

**ДЫ́РДА** *ж.* Пра высокую, худую, няскладную дзяўчыну ці жанчыну. *Мáніна ды́рда саўсім здыр-дзіласа, вýрасла ўжэ дзьве мéтры, а худáя, як гліст.*

**ЁЛУПЕНЬ** *м.* Ёлупень; бесталковы чалавек, асталоп. *А ёлупню éтаму ніяк ні ўбіць у гóлаву, што трэ́ба пераахвóрміць хáту, на дзяцéй перапісáць.*

**ЖВÉНЬКАЛО, ДЖВÉНЬКАЛО** *агульн.* Хто многа і абы-што гаворыць. *Ну от што ты жвéнькало жвéнькаеш, ты разьбярыса, што к чамý, а тады́ жвéнькай.*

**ЖЛУ́КТО** *агульн. перан.* Пра таго, хто многа п'е. *От жлýкто, усё малакó вýжлукціў і дзіцяці ні пакінуў.*

**ЖМІ́НДА** *агульн.* Жмінда, скнара. *У éтае жмінды нічóго ні вýпрасіш, хай лепш згніé, а ні дась нікóму.*

**ЗАГАВÁЙЛО** *агульн.* Няздатны, нікчэмны чалавек. *Лю́дзі грыбóў панабірáлі, а загавáйло пахадзіў па лéсе і прышóў с пусты́м вядрóм.*

**ЗАДАВÁКА** *агульн.* Зазнайка, задавака. *Што ўжэ твая́ дзéўка задавáка, і ў кагó янá такáя ўдаласа?*

**ЗÁДАЎБЕНЬ** *агульн.* Някемлівы, недалёкі чалавек. *От зáдаўбень, сказáла ш табé, што трэ́ба булó рáно цялі напаіць, а янó й да вéчара ніпóянае.*

**ЗАДЗІ́РА** *агульн.* Задзіра, буян, забіяка. *Чычýха буў такі задзіра, бандзіт, што к любóму мог прычапіцца і зьбіць ні за што.*

**ЗАЖЫ́РА** *агульн.* Пра чалавека, якому ўсё мала. *Дзіцятко, цяпéр німá к камý вýйці. Кáця такáя зажы́ра, што ні вулáзіць з лéсу з рáнку да вéчара, а больш я ні к кóму ні хаджý.*

**ЗАМÓРАК** *м.* Пра невысокага худога чалавека. *Анюцін замóрак, здэ́цца, ніздаляшчы, а ўсю рабóту вéрне, янá ні хóдзіць па сялé як я, ні прóсіць, кап хто памóх арáць ці касіць.*

**ЗАНУ́ДА** *агульн.* Зануда, назола. *Ну што ты за зану́да, цэ́лымі дня́мі адно́ і то́е ж тылды́чыш, сто раз ужэ́ чу́лі.*

**ЗАСКА́ЛЬКО** *агульн.* Пра чалавека, які ўвесь час прыжмурваецца. *Заска́лько ты, што ты ўсе жмў-рысса, ачкі́ трэ́ба купі́ць, калі́ ні ба́чыш.*

**ЗДЫ́ХЛЯ** *агульн.* Здыхляк; худы, нездаровы чалавек. *Зды́хля е́та ледзь но́гі цяга́е, а ў бальні́цу ні е́дзе.*

**ЗЛЫ́ДЗЕНЬ** *м.* Пра злоснага, скупога, панурага чалавека. *Е́ты злы́дзень ні дась табе́, хоць і е ў яго́. У яго́ і прасі́ць стра́шно, хо́дзіць, як воўк, зло́сны ўсягда́.*

**КАЛО́ША** *ж. перан.* Пра поўную, непаваротлівую, гультаяватую жанчыну. *З кало́шаю е́таю лепш ні дагава́рвайса іці́ ў я́гады, бо яна́ бу́дзе пау́дня́ зьбіра́цца і ні зьбярэ́цца.*

**КАЛТЫ́ГА** *агульн.* Пра неахайнага (часта п'янага) чалавека. *О, калты́га на дзіва́не разлёгса ў чо́батах, у кухва́йцэ і храпе́, у яго́ рабо́ты німа́.*

**КАРА́К** *м.* Неахайны, вельмі брудны чалавек. *Што ты паміна́еш пра е́тага карака́, ён зро́ду чы́стае саро́чкі ні надзе́ў, німу́ты ніко́лі, ністры́жаны.*

**КАРА́ЎКА** *ж.* Тое ж (пра жанчыну). *У е́тае кара́ўкі ў ха́це горш, чым у до́брае хаджа́йкі ў хляве́.*

**КАРТАВЕ́ШКА** *агульн.* Картавы. *А е́та картаве́шка сло́ва ні дась ніко́му ўста́віць, лепш бы памаўча́ла, што гаво́рыць – ні разабра́ць.*

**КІЖЛА́Ч** *м.* Невысокі, крываногі чалавек. *Ма́нін ба́цько сам кіжла́ч і дзе́ці такі́е – малы́е, крывано́гіе і дзяў́кі, і хло́пцы.*

**КІ́РЗА** *агульн.* Кірпаносы. *Кі́рза ты, уся́ ў ма́цяру ўдала́са, харо́ша дзе́ўка, дабрыво́тліва.*

**КІ́РХАЛО** *агульн.* Пра таго, хто ўвесь час кашляе. *Што ты, кі́рхало, кі́рхаеш дзень і ноч? Кі́дай куры́ць, бо лёгкіе ўжэ чо́рныя ад ды́му.*

**КЛУ́ША** *ж.* Пра непаваротлівую, тоўстую жанчыну. *А е́та клу́ша ўсё сядзі́ць на ла́ўцэ, дзіва што разьне́сло яе́, як бо́чку.*

**КЛЫ́ПША** *ж.* Пра поўную жанчыну, якая ідзе, перавальваючыся з нагі на нагу. *О, клы́пша паклы́пала ў магазі́н, ка́жэ но́гі баля́ць, а дзе́сець раз про́йдзе за дзень ту́ды-сю́ды.*

**КО́ПША** *ж.* Пра жанчыну, якая ўсё робіць марудна, вяла. *Што ты, ко́пша, цэ́лы дзень у е́туй ха́це прыбіра́еш, ке́шкаесса, ужэ́ мо́жно було́ сто раз усе́ перамў́ць, перачы́сьціць.*

**КРАСЕ́Й** *м.* Чырванатвары чалавек. *О, красе́й зноў цягнецца, па п'яць раз на дзень хо́дзіць, надаело ўжэ на яго́ кра́сну, ве́чно п'я́ну мо́рду глядзе́ць.*

**КРАСЛА́Ч** *м.* Невысокага росту, каржакаваты чалавек. *Е́ты красла́ч, хоць і малы́ ро́стом, а цягаві́ты, се́на нако́сіць і на каня́, і на каро́ву і до́ма ўсе паро́біць.*

**КРУЦЕ́ЛЬ** *м.* 1. Ашуканец, падманшчык. *Глядзі́ на вясы́, бо е́ты круце́ль абяза́цяльно скру́ціць, абма́ніць.* 2. Гуляшчы. *Сын яе́ круце́ль круцялём, с кім то́лькі ні круці́ўса, то ў анно́й пажыве́, то ў друго́й, нія́к к аднаму́ бе́рагу ні пры́б'ецца.*

**КРЫВЯНДА́** *агульн.* Кульгавы чалавек. *Шчэ е́та крывянда́ майго́ бра́та ганьбу́е, са́ма сядзі́ць у ха́це, а ён усю рабо́ту до́ма ро́біць і ў лес ко́жны дзень бе́гае.*

**КУДЛА́Ч** *м.* Нястрыжаны, валасаты. *Кудла́ч Галу́зішын нёс цэ́лы кашэ́ль грыбо́ў, му́сіць, по́сьле дажджу́ ста́лі расьці́.*

**ЛАМА́КА** *агульн.* Пра незгаворлівага чалавека. *Што ты лама́ка ламае́сса, ко́лькі цябе́ мо́жно ўгаво́рваць? Саглаша́йса ўжэ.*

**ЛАХУ́ДРА** *ж.* Пра непрычасаную дзяўчыну (жанчыну). *Куды́ ты, лаху́дра, пабе́гла, вярні́са ко́сы запляці́.*

**ЛЕ́ЖАНЬ** *м.* Гультай, абібок. *А ле́жань ляжы́ць, лю́дзі се́но пакасі́лі і павазі́лі, а ле́жню ні́чо́го ні трэ́ба.*

**ЛУПА́Ч** *м.* Лупаты, вірлавокі. *Чаго́ ву́лупіўса, лупа́ч ты, хіба́ я ніпра́ўду кажу́?*

**ЛЯПЕ́Ш** *агульн.* Пра непаваротлівага, тоўстага чалавека. *А е́ты ляпе́ш усе́ ля цілівізара сядзі́ць, ду́мае, што рабо́та сама́ паро́біцца.*

**НІЗДАЛЕ́КА** *агульн.* Кволы, нездаровы чалавек. *Куда́ ты, ніздале́ка, ця́гнесса, што без цябе́ німа́ каму́ се́на грэ́пці, што ты за памачні́к?*

**ПАСЯЛУ́ХА** *ж.* Пра дзяўчыну (жанчыну), якая любіць хадзіць па хатах. *А тае́ пасялу́хі дасю́ль німа́, ні ўтыка́ецца ў ха́ту, як пабе́гла зрання́, то й німа́.*

**ПАХА́ТНІЦА** *ж.* Тое ж. *А паха́тніца ўжэ ў пахо́д сабра́ласа, міню́ты до́ма ні пасядзі́ць.*

**ПАЦЯГА́ЙЛО** *агульн.* Пра таго, хто не сядзіць на месцы. *А дзе то́е пацяга́йло? Бяжы́, найдзі́ і скажы́, каб вячэ́рацб ішо́ў.*

**ПРАМУДРО́НЕЦ** *м.* Занадта кемлівы. *Прамудро́нца е́таго ні абду́рыш, ён усе́ лепш за ба́цька зна́е.*

**ПРАСТА́К** *м.* Дурань. *Ну што, праста́к, аддаў суседу каня́, а цяпе́р сам шука́й, чым разагна́ць бо́разны.*

**ПРЫБЛУ́ДА** *агульн.* Прыблуда; чужы, прыезджы чалавек. *У Купцо́вуй ха́це прыблу́да не́йкі жыве́, прысла́лі на во́льнае пасяле́нне, со́ваецца па сяле́ без рабо́ты, на людзе́й страх наганя́е.*

**ПУЖА́ЙЛО** *агульн.* Пра апушчанага, неахайнага чалавека. *О пужа́йло прышло́, на каго́ ты пахо́жы, дзе ты кача́ўса?*

**ПУСТАДО́МАК** *м.* Пустадомак, нядбайны чалавек. *Лю́дзі ў ха́ту дба́юць, а пустадо́мак с ха́ты нясе́.*

**ПУСТАЛЬГА́** *агульн.* Пустальга, легкадумны, пусты чалавек. *Пра пустальгу́ німа́ чаго́ і ўспаміна́ць, ён гаво́рыць анно́, а ро́біць другое.*

**ПУСТАМЕ́ЛЯ** *агульн.* Пустаслоў, пустазвон, балбатун. *А пустаме́ля ўсё пераліва́е с пусто́го ў паро́жняе, жве́нькае абы-што.*

**П'ЯНТО́С** *м.* П'яніца. *Е́ты яе́ п'янто́с хоць і п'е, але́ і рабо́ту ўсю ро́біць: і се́на нако́сіць, і дроў наво́зіць, і агаро́д заарэ́.*

**РАБЕ́ЙЗА** *агульн.* Веснушчаты чалавек. *Рабе́йза е́та шчэ с сябе́ не́што стро́іць, на чалаве́ка ні пахо́дзіць, ры́жа, рабая́, а га́ньбіць на́шых хло́пцоў.*

**РАСКІРЭ́КА** *агульн.* Няўклюдны, крываногі чалавек. *А е́та раскірэ́ка ўсе нявестку дапякае, сама́ на чо́рта пахо́дзіць, а німо́жно нія́к угадзі́ць.*

**РАСПУ́СЬНІК** *м.* Распуснік, свавольнік. *Уну́к яé ўжэ такí распу́сьнік, што ні давядзí Гаспóдзь, усю́ды лéзе, усё паламáў, пакрышы́ў, бáбу ні слу́хае, куды́ бацькí глядзя́ць.*

**РУ́МЗА** *агульн.* Плакса. *Што ты, ру́мза, ру́мзаеш, скáзано табé, што ні пóйдзеш сёні гуля́ць, знáчыць ні пóйдзеш.*

**САЛАПА́Ч** *м.* Разява. *Салапáч éты ні глядзíць пуд нóгі, а варóн лóвіць, ву́салапіўшы язы́к.*

**СКУПЯРДЗЯ́Й** *м.* Вельмі скупы чалавек. *Што ўжэ Даніло буў скупярдзя́й, зрóду нікóму я́блычка ні даў зьéсьці, а пам'ёр, і ўсе прапáло, і я́блыні ты́е паламáла бу́ра, паўсыхáлі.*

**СЛАБА́К** *м.* Кволы, слабы чалавек. *Ой, слабáк ты, бярнá ні пады́меш, якóе тут бярнó, я жанчы́на і то аднá занéсла б.*

**СЛЕПАНДА́** *агульн.* Слепавокі, блізарукі. *Слепандá ты, во на віду́ ляжы́ць, а ты ні бáчыш.*

**СО́НЯ** *агульн.* Соня. *А éта сóня, калí ні зайдзí, усé сьпіць. І калí ўжэ янá ву́сьпіцца.*

**СТРАХАЛЮ́ДЗІНА** *агульн.* Вельмі непрыгожы. *Прыўёз жóнку паказáць, такáя страхалю́дзіна, алé, кáжуць, багáта.*

**СТРЫ́КЛЯ** *ж.* Пра кучаравую жанчыну. *Éта стры́кля ні вéльмо і дась што, ні разгóніцца, сваíм нябóгом і то карэ́ц малакá шкаду́е даць, лепш сьвіня́м ву́лле.*

**СЦЯГА́Ч** *м.* Чалавек, які не сядзіць на месцы. *Дзе той сцягáч цягáецца, ноч на дварэ́, а ягó німáшака.*

**ТО́РБА** *ж. перан.* Пра тоўстую, нязграбную жанчыну. *О ўжэ к вéчару і тóрба éта ву́шла на лáўку, як ся́дзе, ўсю лáўку зóйме.*

**ТРАПЛО́** *агульн.* Балбатун. *Ні слу́хай ты ягó, éтае траплó табé натрэ́пле чагó хóчэш.*

**ТРЫБУХА́Ч** *м.* Пузаты, з вялікім жыватом. *О ўжэ трыбухáч, ні нагну́цца німóжно, ні адзéцца нармáльно, ён і сам ні рад, а што зрóбіш.*

**УБО́ІНА** *агульн.* Упарты, непаслухмяны чалавек. *Алé што за ўбóіна, кóлькі ні кажы́, што ні рабí éтаго, сяраўнó сваé прáвіць.*

**УДО́Д** *м. перан.* Пра напышлівага, ганарлівага чалавека. *Таíсін удóд прыéхоў, хвáліцца нóваю машы́наю, ужэ́ раз купля́ў і нядзéлі ні паéзьдзіў, пабíў, а éто зноў купíў.*

**ХВАРСУ́Н** *м.* Хвалько. *Парáшчынаго Гры́шка так і звáлі – хварсу́н, усягдá чóбаты блішчáстые, галіхвé, тáнцы ўсякіе ўмеў танцавáць, на ліцó харóшы буў, алé любíў хвалíцца.*

**ХО́ЎЧА** *агульн.* Пра чалавека, які хутка і многа есць. *Што ты, хóўча, хапáеш стóячы, сядзь да паéш нармáльно, а то шчэ ўдáвісса.*

**ХРЫПЛЯ́К** *м.* Пра чалавека, які часта кашляе. *А éты хрыпля́к усё кáшляе, усё хрыпíць і зімóю і лéтом.*

**ЦЕ́ЛЬБУХ** *м. перан.* Чалавек з вялікім жыватом, вельмі тоўсты. *Такí цéльбух хібá ўзлéзе на хаду́ на воз? Трэ́ба ку́чаю патсáджваць.*

**ЦЕЛЯПЕ́Й** *м.* Пра непаваротлівага, маруднага чалавека. *Целяпéй éты пакá прынясé, то ўжэ і ні трэ́ба бу́дзе.*

**ЦЯЛЕ́Ш** *м. перан.* Тоўсты, непаваротлівы чалавек. *Цялéш ты, трóхі хадзíць больш трэ́ба, а то скóрэ ў дзьвéра ні ўлéзеш.*

**ШАЛАПУ́Т** *м.* Шалапут; легкадумны, пусты чалавек. *Што з éтаго шалапу́та вóзьмеш, ён ужэ́ на дзéсецьь рабóт устрáйваўса і нідзé больш за год ні рабíў.*

**ШМАРАВО́З** *м.* Пра бруднага хлапчука. *А ты шмаравóз, дзе так умурзаўса, бяжы́ паммы́йса і перадзéньса.*

**ШЫ́БЯЛЬНІК** *м.* Свавольнік, шаляніца, непаседа. *Палядзí ты, той шы́бяльнік ужэ́ на я́блыні сядзíць.*

**ЯЗЫКА́Ч** *м.* Балбатун, паклёпнік. *Ну што ты вярзéш, языкáч ты, пасарóмеўса п стары́х бап.*

*В. М. Курцова*

## З ГАВОРКІ ВЁСКІ ЗАЛЕССЕ ЧАЧЭРСКАГА РАЁНА
## (матэрыялы да ідыялектнага слоўніка)

Прапанавая лексічная падборка – гэта спроба скласці ідыялектны слоўнік на аснове тэкставых матэрыялаў. Наяўныя ў аўтарскім тэкставым корпусе матэрыялы яшчэ поўнасцю не апрацаваны, таму гэта падборка не з'яўляецца вычарпальнай. У слоўніку адлюстроўваецца толькі тое значэнне (значэнні) загалоўнага слова, якое было вызначана пры працы з запісамі.

Пры складанні слоўніка ставілася мэта раскрыць рэальны, ужывальны ў маўленчай практыцы набор забяспечвальных сродкаў сучаснага ідыялектнага маўлення. Адпаведна як рэестравыя тут выступаюць словы, якія належаць да ліку рэгулярна ўжывальных ці адносяцца да рэдкіх. Ёсць сярод іх і такія абазначальныя адзінкі, якія можна характарызаваць як інавацыйныя. Прысутнасць апошніх у сучасным вясковым асяроддзі выклікана іншамоўным уплывам, у першую чаргу рускамоўным. Прыналежнасць слоў да адпаведнай моўнай сістэмы не ўлічвалася. Загалоўнае слова і ілюстрацыі да яго захоўваюць асаблівасці мясцовага вымаўлення.

**АБАБІ́ЦЬ** *зак.* Абабіць; ачысціць ад чаго-н. *Канóплі стáнуць цвёрдзінькіе такéя, зярнó цвёрдая стáне. Тады́ іх пабяру́ць, жмéнячкамі павяжуць, пасу́шуць і абаб'ю́ць, пачы́сьцюць.*

**АБАЗВА́ЦЬ** *зак.* Абразіць, назваць непрыстойным словам. *Цібé ніхтó ні абі́дзіў, цібé ніхтó ні абазвáў.*

**АБАРВА́ЦЬ** *зак.* Адарваць. *Сьві́ньні абарвáлі ўсé дóшчачкі.*

**АБА́Я** *ліч.* Абое. *Яны́ абáя на стáлай рабóці, дамóў увéчары прыхóдзюць.*

**АБВЁРТВАЦЬ** *незак.* Заматваць, абкручваць. *Мы курэ́й у бумагу́ абвёртвалі і стáвілі у печ.*

**АБГАВАРЫ́ЦЬ** *зак.* Абгаварыць, нагаварыць. *Тады́ ж яны́* [мясцовыя пляткаркі] *мінé аблáюць, абгавóруць.*

**АБГА́ДЗІЦЬ** *зак.* Зняважыць. *Абгáдзіць чалавéка – грэх.*

**АБГЛЕ́ДЗІЦЬ** *зак.* Агледзець, заглянуць усюды. *Мне ж пéрвай нáда у шкóлу прыцíць, усё абглéдзіць, усё зьдзéлаць.* 2. Разглядзець ацэньваючы. *Яны́ абглéдзілі мінé і пагавары́лі.*

**АБДЗЯЛІ́ЦЬ** *зак.* Надзяліць падарункамі, падарыць. *Каравáй абдзéлюць.*

**АБЕ́Д** *м.* 1. Абед, полудзень. *Абéд у нас калі́ як. Бывáя, што і к тром часáм тóлькі сабяру́ся перакýсіць. Мы ў лісхóз як хадзі́лі, тады́ скóрынька абéд праглынéш і нашукáіш арахóў.* 2. Поўдзень. *Да бéда во цярпéла, а ціпéр пайшóў дождж. Быó цёпла пастаянна, но з абéду, казáба, бярэ́ на марóз.* 3. *абрад.* Памінальны стол па нябожчыку. *Нінка Дзéрбава дзéлая па мáццы абéд, крэ́пка прасíла мінé прыйці́ць.*

**АБЕ́ДНІК** *м.* Ручнік для страў. *Дзéжку паставю́ць на вéка, на вéка сьцéлюць абéднік, і кладу́ць блі́ны, а йны такéя рыхлые.*

**АБ'Е́СЬЦЬ** *зак.* Аб'есці, абшчыпаць. *Кóршун мя́са на ку́рыцы усё аб'éсьць да грáма, апшчы́пя – ні́йдзе парушы́нкі ні бу́дзя мя́са.*

**АБ'Е́ХАЦЬ** *зак.* Аб'ехаць, абмінуць. *Як аб'éхаць éту хáту? – Давáй заéдзім.*

**АБЖЫ́ЦЦА** *зак.* Прывыкнуць, прызвычаіцца (да жыцця на новым месцы). *Трóхі абжы́ўся у Нáсьці і начáў іé муштравáць.*

**АБІ́ДА** *ж.* Крыўда. *Іна́ ў абі́дзі бальшóй, ні хóча нікóму нічóга гавары́ць.*

**АБІ́ДНА** *прысл.* Крыўдна. *Як жа ніабі́дна, друзьйá Валóдзя'вы гуля́юць, а ягó засы́палі зямлёй. Абі́дна.*

**АБІЖА́ЦЦА, БІЖА́ЦЦА** *незак.* Крыўдзіцца, крыўдаваць. *Кáжа: «Ні біжáйся, што я рэ́дка éжджу».*

**АБІЗА́ЦІЛЬНА, БІЗА́ЦІЛЬНА** *прысл.* Абавязкова. *Абізáцільна к Раздву́ заб'ю́ць ці кабанá ці сьві́нку. Яны́ б на кагó ні паглядзéлі – абізáцільна чалавéку плóха. З тóга каранька́ бізáцільна пупы́шачка.*

**АБІРА́ЦЬ** *незак.* ◊ АБІРА́ЦЬ ВО́ШЫ[1]. Дапамагаць па гаспадарцы. *Паку́ль быў мой хазя́ін і памагáў табé вóшы абірáць, ты дружы́ла.*

**АБІСЬПЕ́ЧАНЫ** *дзеепрым.* Забяспечаны, які мае матэрыяльны дастатак. *Гэ́чкава сім'я́ былá абісьпéчана.*

**АБКЛАДА́ЦЬ** *незак.* Абшываць чым-н. *Рукавы́ абкладáлі ткáньням красі́вым, маціp'ялам які́м-нéбудзь.*

**АБКЛЕ́ІЦЬ** *зак.* Паклеіць. *Як абклéілі хáту гадóў з двáццаць назáд, і ціпéр стаі́ць тáя чарнатá.*

**АБКРУГЛЯ́ЦЬ** *незак.* Аточваць, абкружваць. *Мядзьвéдзька абкругляе мéста, іх там* [маленькіх] *жмéня.*

**АБКРЫ́ЦЬ** *зак.* Накрыць. *Памідóры пасаджу́ на ву́ліцы, абкры́ю іх.*

**АБЛА́ЗІЦЬ** *зак.* Аблазіць. *Нáда маёй кóш$^{с}$цы на стол – іна́ на стол, іна́ усю́дах на сьвéці аблáзя, каб тóлькі мя́са паéсьць. Пад'éла – на печ.*

**АБЛА́ІЦЬ** *зак.* Абгаварыць, напляткарыць, зняславіць. *Я ж ні хачу́, каб éтые лáйкі што-нéбудзь знáлі, то тады́ ж яны́ мінé аблáюць, абгавóруць.*

**АБЛІВА́ЦЦА** *незак.* Пакрывацца ледзяной корачкай. *На дварэ́ цéста ні мішáю: халóдна, ру́кі лёдам аблівáюцца.*

**АБЛІВА́ЦЬ** *незак.* Абліваць, паліваць зверху. *Éта сéмя* [канапель] *тады́ і сы́пюць па капу́сьці. Аблівáлі ім капу́сту.*

**АБМАРЫ́ЦЬ** *зак.* Змарыць (пра сон). *Абмары́ў бáбу сон так, што іна́ упáла на дарóзі. Сон абмары́ў такí, што я у́пáла і заснýла.*

**АБМЕ́РЦЬ** *зак.* Абмерці, упасці ў летаргічны сон. *Памéрла бáба, а йна навéрна не памéрла, а абмéрла.*

**АБМЫ́ЦЬ** *зак.* ◊ АБМЫ́ЦЬ КО́СЬЦІ. Абгаварыць. *Абмы́юць маé кóсьці і ўсё на сьвéці на мне абмы́юць, калí ні атмéціць мне éты год.*

**АБНО́ЖКІ** *толькі мн.* Абножкі; кароткавалосая воўна з ног авечак. *Як з абнóжкі, што там вóўна? Такáя – па санці́мітру.*

**АБО́РАЧКА** *ж.*, **АБО́РКІ** *мн.* 1. Аборы; вераўчаныя шнуры ў лапцях для прывязвання іх да ног. *У нас, які́ лён, такéя абóркі* [у лапцях]. 2. Вяроўка. *На ўся́каю вярóўку скáжуць абóрка. Абóркі кі́нулі на воз, каб сéна тады́ увізáць.* 3. Шнуркі. *Я дам уну́ку бацíнкі і абóрачкі, шнурóчкі такéя, ён сядзі́ць і забáрсая у бацíнкі.* 4. Завязка. *Усярэ́дзіну зацягáлі абóрачку, абóрачку сьцíскáлі, тады́ табáка ні рассы́піцца.*

**АБО́РТ** *м.* Аборт. *Абóрту дзéлаць ні ўзя́ліся: срок бальшы́.*

**АБПА́РЫЦЬ** *зак.* 1. Запарыць, заліць варам, каб распарыць. *Салóму абпáруць гарáчай вадóй, абсы́пюць мукóй.* 2. Абкласці тушу саломай, якую заліваюць варам. *Абпáруць – éта салóмай абкладу́ць, і зноў ягó* [кабана] *абшкрабу́ць.*

**АБРАБО́ТАНЫ** *дзеепрым.* Аброблены, апрацаваны. *У лéсі éта ж ні на пóлі, што зімля́ абрабóтана, усё цвéрда, у лéсе карэ́ньня.*

**АБРАЗУ́МІЦЦА** *зак.* Абразуміцца; абдумацца, прыйсці да развагі. *Ён, Трыхванёнак, такí і малады́ быў і пад стáрасць ні абразу́міўся. Мóжа ўжо éта дзéўка абразу́мілась, мóжа ж стáня хоць трóшкі набыля́цца і бу́дзя вучы́цца.*

---

[1] Сімвалам ◊ тут і далей у тэксце абазначаюцца сінтаксічна звязаныя канструкцыі.

**АБРАКА́ЦЦА** *незак.* Даваць зарок, пэўнае абавязацельства, прыносячы ахвяру. *Абрака́цца – е́та на́да малі́цца Бо́гу, абішча́ць, што што́й-та ні бу́дзіш дзе́лаць.*

**АБРАЦІ́ЦЦА** *зак.* Звярнуцца за дапамогай, папрасіць. *Я ні зна́ю, куды́ мне абраці́цца, к каму́. Абраці́лась бы Га́ля па-чалаве́чыскі, я б усёй душо́й к йім.*

**АБРО́ШНЫ** *прым.* Аброчны (месца, прадмет, дзе давалі зарок, абавязацельствы, прыносілі ахвяру). *У Мо́ліні у нас абро́шная ме́ста, е́та спрэ́ку вякоў там.* ○ АБРО́ШНЫ ХРЭСТ[1]. Крыж, абвязаны ручніком (іншым прадметам) як аброкам. *Там* [ля калодзежа] *абро́шны хрэст стаіць.*

**АБРУБІ́ЦЬ** *зак.* Абрубіць; адсячы падраўноўваючы. *Кало́дзіж ба́цька абрубі́ў.*

**АБРУ́Ч** *м.* Абруч (на бочцы). *Абручы́ даўне́й дзе́лалі са рэ́шніка.*

**АБСКУ́БЛІНЫ** *дзеепрым.* Абскубены, абскубаны. *Быў гусёнак абску́бліны, но німа́ліны.*

**АБСКУ́БСЬЦЬ** *зак.* Абскубці, паабрываць пер'е скубучы. *Прыня́сьлі ку́рыцу, галаву́ атсе́клі, абску́блі міну́тай.*

**АБСЛУ́ХАЦЬ** *зак.* Абслухаць. *Харашэ́нячка абслу́хаў міне́ до́ктар, уко́лы даў, пасядзе́ў, сказа́ў, што за́ўтра прыйдзя.*

**АБСНО́ЎВАЦЦА** *незак.* Фарміравацца (пра плод). *Абсно́ўваіцца гусёначак – шчэ го́лінькі.*

**АБСЫ́ПАЦЦА, АПСЫ́ПАЦЦА** *зак.* Абсыпацца. *Яны́* [лясныя арэхі] *уво́сінь абсы́пюцца, і лісьцям іх засы́пя. Ба́рхат е́ты ні цьвіў, уво́сінь ліcьця апсы́піцца, а цьвісьць ні цьвіло́.*

**АБСЫПА́ЦЦА** *незак.* Абсыпацца. *Як ве́цір, ве́тка аб ве́тку ша́хаіцца – і абсыпа́іцца про́са.*

**АБУ́ТЫ** *дзеепрым.* Абуты. □ *Прышо́ў люты – правіра́я, як ты абу́ты*[2].

**АБХАПІ́ЦЬ** *зак.* Змарыць, прыхапіць (пра сон). *Чалаве́к п'я́ны, йдзе сон абхапі́ў, абмары́ў, там і ля́жа.*

**АБЧЫ́СЬЦІЦЬ** *зак.* Абабраць, адарваць. *Нюняк нарву́ць, пе́р'я абчы́сьцюць, а той лісьці́начак сь сярэ́дзіны, што то́лькі начыная́ рэсьць, ён жа мя́кінькі, сла́дзінькі-сла́дзінькі, яго́ ідзя́ць.*

**АБШАХНУ́ЦЦА** *незак.* Аступіцца, няўдала ступіць. *На кра́йняя вакно́ ста́ла ве́шаць і абшахну́лася.*

**АБШНЫ́ПЫРЫЦЬ** *зак.* Абшнырыць. *Ка́ця з О́ляй усё на сьве́ці абшны́пырылі, усё піратро́галі і забра́ліся наве́рх на стол.*

**АБШЫ́ЎКА** *ж.* Абшыўка. *Ха́та плаха́я йе была́ – ста́рая, хало́дная, то́лькі абшы́ўка йе дзяржы́ць.*

**АБЫ́-ЙДЗЕ** *прысл.* Абы-дзе, у любым месцы. *Абы-йдзе яго́* [вадзянога хвашчу] *ні было́. Ён* [чарнобыль] *расьце́ абы-йдзе́, па ўсёй зямле́.*

**АБЫЙЦІ́ЦЦА, АБЫСЬЦІ́ЦЦА** *зак.* Закончыцца без непрыемнасцей, уладзіцца. *Усё або́йдзіцца, прыіжджа́ць ні на́да. Сла́ва бо́гу, усё абышло́сь.*

**АБЫЙЦІ́ЦЬ** *зак.* Абысці. *Ра́дам жа ён ні пайшо́ў, а з друго́га бо́ку абыйшо́ў гусака́.*

**АБЫХО́ДЖАЦЦА** *незак.* Абыходзіцца, задавольвацца тым, што ёсць. *Зь е́тымі грашáмы бу́ду абыхо́джацца.*

**АБЫХО́ДЖАЦЬ** *незак.* Абыходзіць. *Прышла́, хо́дзя па ха́ці, круго́м ха́ту абыхо́джая.*

**АБЫХО́ДКА** *ж.* Дастатковая колькасць нечага для патрэб. *Вады́ мне то́лькі вядро́ на абыхо́дку.*

**АБЫ-ЯКІ́** *займ.* Абы-які, нікудышні. *Пе́ўні у міне́ два, другі́ абы-які́.*

**АБ'Ю́ДЗІЦЬ** *зак.* Зганіць, зняважыць. *Мне каб то́лькі ні аб'ю́дзіць чалаве́ка – грэх э́та.*

**АБ'ЯДЗЕ́НІЯ** *н.* Аб'ядзенне, нешта надзвычай смачнае. *Бу́льба як папячэ́цца з хле́бам – аб'ядзе́нія.*

**АБ'ЯДЗЬДЗЁ** *н.* Аб'едкі. *Ад каня́ аб'ідзьдзя́ набра́ла, кі́нула ім* [свінням], *замо́ўклі.*

**АБЯРНУ́ЦЦА** *зак.* Абярнуцца, перакуліцца, перавярнуцца. *Абярну́ўся дуб, у́се вы́плылі, усе́ ўпляліся ў дубу́, улезьлі ў дуб.*

**АБЯРНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Перавярнуць, перакуліць. *Во быў ве́цір, абярну́ў воз гру́жаны.* 2. Высыпаць. *На двор абе́рня ско́рынька карзі́нку і пабе́г за друго́й.*

**АВА́РЫЯ** *ж.* Нечаканасць, неспадзяванка. *У міне́ у ха́ці ава́рыя – бяро́завік ні уячэ́ць.*

**АВЕ́ЧАЧКІ** *толькі мн.* Коцікі, суквецце ў асобных дрэў і раслін. *Як пая́вюцца, каза́лі, што аве́чачкі расьцьвілі́сь, аве́чачкі распукну́лісь. Вы́бі^е^г на Васілёвіну, і ўжэ нясе́ аве́чачак жо́ўцінькіх.*

**АВЁС** *м.* Авёс (расліна). *Авёс пасе́іла, у по́лі.* 2. Збожжа. *Конь наш стар́энны, у яго́ зубо́ў ма́ла, стара́юся яму́ дава́ць авёс.*

**АГЛЕ́ДЗІЦЬ** *зак.* Угледзець, прыкмеціць, заўважыць. *Агле́дзіла: бальшы́ крэ́пка ко́рань ідзе́ць пад ха́ту. У я́мцы ко́шачку кіда́ла, дык ні агле́дзіла, што іна́ там пас...а. Ніхаро́шая скаці́на мая́ ко́шачка.*

**АД, АТ** *прыназ.* Ад. *Калі́сь так гавары́лі: калі́ да Благаве́шчаньня усё ўрэ́мя хало́дна, ад Благаве́шчаньня так бу́дзя цёпла. Во́льга ат вайны́ рабо́тала ў Го́млі. У канцэ́ град ат ву́ліцы гарбузы́ пасаджу́.*

**АДБІРА́ЦЬ** *зак.* Адбіраць, выбіраць. *Друге́я мушчы́ны – вот Васілёк – то́жа йіх забі́ралі у Гірма́нію, іх адбі́ралі адзьдзе́льна.*

**АДДАВА́ЦЬ, АТДАВА́ЦЬ** *незак.* Аддаваць. *Я ха́ту вам ні атда́м і ніякіх спра́вак вам аддава́ць ні бу́ду. Атдала́ дзьве ча́ркі.*

**АДДЫХНУ́ЦЬ** *зак.* Адпачыць, перадыхнуць. *Скрысе́ньня пры́дзя – ра́дасьць, што ру́кі і но́гі аддыхну́ць.*

**АДЗЁЖА** *ж.* Адзенне. *Ма́тка пірасушы́ла адзе́жу, у я́мках зако́пана у бо́чках была́.*

**АДЗЕ́ЦЦА** *зак. перан.* Пакрыцца лісцем. *Загрыме́ў гром, а лес ні адзе́ўся – го́лад бу́дзя. Ні адзе́ўся лес – лі́сьційка ні паказа́лась, зна́чыць ні адзе́ўся.*

---

[1] Сімвал ○ ужываецца для абазначэння састаўных тэрміналагічных адзінак.

[2] Пад сімвалам □ падаюцца своеасаблівыя формулы народнай моватворчасці – прыказкі, прымаўкі і іншыя адметныя выслоўі, якія не атаясамліваюцца з фразеалагічнымі адзінкамі ў іх традыцыйным навуковым разуменні.

**АДЗІВА́ЦЦА** *незак.* 1. Апранацца. *Харашо́ так адзіва́ліся лю́дзі.* 2. Пакрывацца чым-н. *На́ зіму гу́сі адзяю́цца цёпла, у̌ пух.*

**АДЗІ́Н** *ліч.* 1. Адзін. *Ро́у̌нінька накладу́у̌ць радо́к адзі́н упе́рак, тады́ так удо́у̌ж кладу́у̌ць.* 2. *прым.* Пэўны. *На́да сы́паць кура́м у разьдзьве́нскаю куцьцю́ у абру́ч, штоб нясьлі́ я́йцы у адно́м ме́сьці, штоб яны́ ні ціра́лі яе́ц.*

**АДЗІЯ́ЛА, ДЗІЯ́ЛА** *н.* Коўдра. *Ён за дзія́ла, на-крыу̌. Накры́у̌ адзія́ла, і я патхапі́лася.*

**АДЗЬДЗЯЛІ́ЦЦА** *зак.* Аддзяліцца. *Як зарабі́у̌ гро́шы, зноу̌ адзьдзялі́у̌ся.*

**АДНЕ́СЬЦЬ, АТНЕ́СЬЦЬ** *зак.* Аднесці. *Ба́ба ка-ро́ву падо́я к Га́ньні малако́ атнясе́. Аднясу́ сьвяжы́ну і папрашу́, каб ні біжа́у̌сь, што ні ту́ю міну́ту прынісла́.*

**АДНО́ ШТО** *злучн.* Таму што, бо. *Я ва́лінкі сё-літа й нашу́, адно́ што у цёплым нага́ мая́ – у па́льцы ні ко́ля.*

**АЖ** *злучн.* Ажно. *Утомліна ду́жа была́, аж га-лава́ мая́ бале́ла.*

**АЖ** *часц.* Аж. *Аж трасе́ міне́ ат хо́ладу.*

**АЙ** *выкл.* Пры незадаволенасці, у злосці. *Ай, нашлі́ па́хара! Ай, ні браши́ ты сваі́м языко́м.*

**АКАЛО́ТАК** *м.* Ваколіца. *Я не пажале́ла, на у̌весь е́ты акало́так са сваёй пе́ньсіі купі́ла вядро́.*

**АКЛІМАЦІЗІ́РАЦЦА** *зак.* Акліматызавацца, прызвычаіцца. *У се́нцы вы́нісла памідо́ры, а ніха́й тро́хі акліматізі́раюцца к друго́й цімпірату́ры.*

**АКУРА́ТНА** *прысл.* Акуратна; старанна. *Дзе́жку абчы́сьцюць акура́тна, акура́тнінька, дно пашкра́-буць – е́та табе́ к друго́му ра́зу бу́дзя заква́ска.* АКУ-РА́ТНІНЬКА *памянш.* *Ён* [Аляксей] *рабо́таў усігда́ акура́тнінька.*

**АЛЕ́Й** *м.* Алей. *Ране́й бы́у̌ але́й, а ціпе́р вада́, штоб ні прыгарэ́ла. Пакладзе́* [у грыбы] *ходзь але́ю, ходзь сьвінно́га жы́ру.*

**АЛЕ́ШЫНА** *ж.* Алешына, вольха. *Альшні́к засе́у̌ ча́ста, адзі́н кала аднаго́ але́шыны.*

**АЛЬХА́** *ж.* Тое ж. *Альха́ расьце́ па ні́зкіх ме́стах. Альха́ расьце́ ні з ко́рня, а з шы́шачак.*

**АЛЯ́-АЛЯ́-АЛЯ́** *выкл.* Выгукі, якімі падганяюць свіней. *Аля́-аля́-аля́, пашлі́ у̌ хлеу̌, дзю́лькі.*

**АМЁГА** *ж.* ◊ АМЁГІ ЗЬЕСЬЦЬ. Нічога не атры-маць. *А паразі́т жа ты* [на каня]! *Жджэш падая́нія, жджэш, паку́ль ау̌са́ прынясу́ – амёгі зьеж.*

**АМІЛА́** *ж.* Лугавая трава. *Амі́ла́ – така́я трава́ ві́со́кая, лі́сьця длі́нная, а сі[е]рцаві́на то́у̌стая, як па́ліц.*

**АМІРЫКА́НКА** *ж.* Пустазелле. *Аміры́ка́нка бе́-лінькім цьвіце́.*

**АНАЛГІ́Н** *м.* Анальгін (лекі). *Аналгі́ну на ко́рні пакладу́ – успако́юцца.*

**АНІГА́ДКІ** *прысл.* Хоць бы што. *Я тры разы́ папрасі́ла па́хара, штоб так ні дзе́лаў, то́лькі ж яму́ аніга́дкі.*

**АНЦЫ́БАЛ** *м.* Чалавек з адметнымі фізічнымі асаблівасцямі: надзвычай доўгімі, худымі нагамі. *Анцы́бал – вот но́гі таке́я до́у̌гіе, худы́е стра́шна. У ле́сі каб уба́чыу̌ тако́га чалаве́ка, спужа́у̌ся б.*

**АПАРА́ШАЦЦА** *незак.* Прыводзіць парасят. *Сьвінама́тка дзе́лая сабе́ лагво́, штоб было́ ёй су́ха, йна бу́дзя апара́шацца.*

**АПА́РЫЦЦА** *зак.* Апарыцца, апячыся ад гарачыні і высокай вільготнасці (пра расліны). *Апа́рылася цыбу́ля, а пёрак нае́лася, ко́лькі уле́зла.*

**АПАШО́Ў** *выкл.* Вокліч, якім адганяюць сабаку. *Апашо́у̌ ты, прычапі́у̌ся. Чаго́ ты разбраха́у̌ся?*

**АПЕ́НЬКІ** *мн.* Апенькі. *Ку́ркі, апе́нькі, рыжкі́ – э́та сла́дкіе грыбы́. Апе́няк назьбі́ра́ла, насушы́ла на пе́чы.*

**АПЕРА́ЦЫЯ** *ж.* Аперацыя. *Тры апера́цыі зьдзе́-лалі А́нькінай дзе́у̌цы.*

**АПІЦІ́Т** *м.* Апетыт. *Што́-та з апіці́там, ні е́сца мне.*

**АПО́РА** *ж.* Сіла, дужасць. *Як ба у цібе́ но́гі бале́лі, ты б ні касі́у̌: уся́ апо́ра у нага́х.*

**АПРА́ВІЦЦА** *зак.* Спаражніцца. *Лёкса, штоб яго́ вы́гнаць с ха́ты, у таз апра́віцца і паста́вя яго́, йдзе Пятро́к сьпіць пад карва́ць.*

**АПРЭ́ЛЬ** *м.* Красавік. *Пе́рвы апрэ́ль – ніко́му ні вер.*

**АПУШЧЭ́НІЦ** *м.* Неахайны, лайдак. *Са́шка такі́ ж апушчэ́ніц, як і ма́тка, гі́дкі, гра́зны, рабо́таць грам ні хо́ча.*

**АПУШЧЭ́НСТВА** *н.* Неахайнасць, неахайства. *Ра́зьві ты ні мо́жыш памы́ць рук? Апушчэ́нства е́та.*

**АПЦІСА́ЦЬ** *зак.* Абчасаць, сасклюдаваць. *Апцэ́-ша Ярэ́ма пале́нцаў (дзе́лаў жа е́ты наве́с), дык трэ́-сачкі ніка́лі у̌ жы́зьні ні прыбра́ла.*

**АПЦУГІ́** *толькі мн.* Абцугі. *І гвозд вязе́, і апцу́гі вязе́ць, і малато́к – усё вязе́.*

**АРЭ́ХІ, АРАХІ́, ВАРАХІ́** *мн.* Арэхі. *Арахі́ рас-ту́ць на арэ́шніку. Арэ́хі, што у̌сярэ́дзіні чо́рна, назы-ва́юць – мала́нка спалі́ла. Хо́дзюць у варахі́ у пра́зьнік, як ніч́ога нільзя́ дзе́лаць, тады́.*

**АРГАНІ́ЗМ** *м.* Звычка, рэжым. *У йе так атра-бо́таўся арга́нізм: ёй любо́я дзе́ла на́да кі́нуць і дзе́сіць міну́т паліжа́ць.*

**АРЭ́ШНІК** *м.* Арэшына, ляшчына. *Стаі́ць куст арэ́шніку і уме́сьці е́лка. Арахі́ расту́ць на арэ́шніку.*

**АРЭ́ШЫНА, АРЭ́ШЧЫНА** *ж.* Тое ж. *Сама́ арэ́-шына цьвіце́ бе́лым цьве́там. Вясно́й пад арэ́шчынай нашука́іш е́тых арахо́у̌.*

**АСІДА́ЦЬ** *незак.* Асядаць, паніжацца за кошт ушчыльнення. *Ідзе́-не́будзь зімля́ мо́жа асіда́я, асіда́я.*

**АСІ́НАВІЦА, СІ́НАВІЦА** *ж.* Назва лугавой мясціны (мікратапонім). *Асі́навіца тут блі́зка кала дзярэ́у̌ні, ціпе́р як вы́ган. По́йдзім у шча́віль на Сі́-навіцу.*

**АСІ́НЬНІК** *м. зб.* Асіннік. *Бэз з ко́рня расьце́, як асі́ньнік, так расьсіва́іцца.*

**АСЛАБАНІ́ЦЬ** *зак.* Вызваліць. *Васі́лька і като́-рых ішчэ́ аслабані́лі парці́за́ны.*

**АСО́БІННА** *прысл.* Пераважна, найперш. *Е́тые* [рыжыкі] *расту́ць па паля́нках, па траве́, пау̌з даро́жку йдзе-не́будзь, па тра́у̌цы асо́біннa. Хвошч, што у̌ ле́сі, лі[е]савы́, расьце́ асо́бінна у̌ бало́тах, па ні́зкіх ме́стах, па балаця́нках.*

**АСО́Т** *м.* Асот палявы, дзядоўнік. *Ёсьць асо́т нікалю́чы, про́ста асо́т. Асо́т расьце́ сьцёбілям такім.*

**АСТАВА́ЦЦА, СТАВА́ЦЦА** *незак.* 1. Заставацца. *Часо́ў у дзе́сіць хто ідзе́ць дамо́ў, хто астае́цца, і часо́ў да дзьвіна́ццаці пяю́ць і мо́люцца.* 2. Адбіцца; адстаць ад таго, з кім быў. – *А чаго́ ні на́да паіць?* – *Ну чаго́? Штоб каро́ва ні става́лісь ат ста́да у ле́сі.*

**АСТА́ЦЦА, СТА́ЦЦА** *незак.* 1. Застацца. *Калі на́да бу́дзя каму́ аста́цца, ніхто́ ні тка́жа, пабу́дзя дзень-другі. Гу́ска ста́рая, ні ста́ніцца на бало́ньні.* 2. Захавацца, не пашкодзіцца. *Е́сьлі стрэ́лкі збо́ку, паўцыбу́лінкі то́лькі астае́цца.*

**АСУ́НУЦЦА** *зак.* Ссунуцца, спаўзці. *Е́сьлі ро́ўна ні бу́дзіш класьць* [сена ў стог], *зна́чыць е́ты вяршо́к асу́ніцца на ніз, і се́на ўсё замякня.*

**АСУ́ХІ** *мн.* Узвышанае месца на лузе (мікратапонім). *Асу́хі пад са́мым Кра́сным Бе́рагам. Там гры́ва бальша́я.*

**АТА́ВА** *ж.* Атава. *Ата́ву касілі, сушы́лі. Стара́ліся іййе́ зра́зу піраве́зьць. Іна́ палуча́лася дро́бнінькая, іе́ атдава́лі ско́ту.*

**АТАРВА́ЦЬ** *зак.* Адарваць. *Калі йдзе палу́чыцца тро́шкі атарва́ць* [ажын], *то е́лі. У яго́* [некалючага асоту] *лі́сьця атарве́ш, і атту́ль бе́лая така́я жы́жка.*

**АТВА́Л** *м.* Жаўлак, пухліна. *Жаўла́к ка́жуць, ці атва́л. Атва́л атваліў ці на руцэ́ ці пад пахо́й, ці на шы́і.*

**АТВАЛО́ЖАЦЬ** *зак.* Павільгатнець, увільгатнець. *Калі пабу́дзя за́ўтра, пасьлі́за́ўтрага дождж, то зімля́ атвало́жая, бу́дзя атліга́ць зімля.*

**АТВЕ́С** *м.* Адвес, грунтвага. *Атве́сам я лінію адбіва́ю, каб ро́ўна дзе́лаць.*

**АТВЕ́СЬЦЬВІННЫ, АЦЬВЕ́СЬЦЬВІННЫ** *прым.* Адказны, абавязковы. *А́нька атве́сьцьвінная жэ́ншчына, іна́ к Кашчае́вым ка́жды дзень хо́дзя. Ёй* [загадчыку пошты] *на́да прыня́ць гро́шы, пасы́лкі, газе́ты – усё, е́та ж тако́я дзе́ла ацьве́сьцьві́нная.*

**АТГАЛО́САК** *м.* Адгалосак. *Я гукаю, ма́тка чу́я мой атгало́сак.*

**АТДУБА́СІЦЬ** *зак.* Аддубасіць, пабіць, адлупцаваць. *Я яго́ так атдуба́сіла, так памя́ла бакі – бу́дзя знаць, як на чужо́я за́рыцца.*

**АТДЫХНУ́ЦЬ** *зак.* Адпачыць. *Пабы́ў у санато́рыі, атдыхну́ў, і до́бра.*

**АТЖЫВА́ЦЦА** *незак.* Аджываць, прыходзіць у занепад. *Атжыва́іцца вёска.*

**АТЖЫВІ́ЦЦА** *зак.* Аджыць; вярнуцца да жыцця, ажыць. *Калдуны́ ця́жка памiráюць. І Тру́шчыха так. Іе́ не хава́лі. Іе́ сабяру́цца харані́ць – іна́ во́зьмя атжы́віцца.*

**АТКАЗА́ЦЬ, ТКАЗА́ЦЬ** *зак.* Адмовіць. *Я табе́ век ў жы́зьні ні тка́жу, вы́ручы ты міне́. Пыта́ю: «Чаго́ вы така́я, Хрола́ўна?»* – *«Бага́та ў чом атка́заю сабе́ ў ядзе́».*

**АТКА́ШЛІВАЦЦА** *незак.* Адкашлівацца. *Раз атка́шліваіцца, то здараве́й.*

**АТКЛЮЧЫ́ЦЬ** *зак.* Адключыць, выключыць. *Атключу́ радзі́ва, падаждзы́.*

**АТКО́РМ** *м.* ◊ СЬВІ́НЬНІ НА АТКО́РМІ. Адкормачнікі. *Даду́ць сто́лькі яды́, што за два-тры ме́сіцы нарастя́ са́ла. Сьві́ньні е́тые ужо́ называ́ліся сьві́ньні на атко́рмі.*

**АТКРЫ́ТЫ** *прым.* ○ АТКРЫ́ТЫ УРО́К. Урок для педагогаў, як дэманстрацыя вынікаў працы настаўніка. *Былі ж аткры́тые уро́кі, на іх вучыцiля́ міне́ усігда́ вызывалі.*

**АТЛІГА́ЦЬ** *незак.* Вільгатнець. *Зімля́ ніха́й атліга́я, тады́ лягчэ́й бу́дзя паха́ць.*

**АТЛІЖА́ЦЦА** *зак.* Доўга паляжаць, каб поўнасцю ачуняць. *Атпусьці́лі яго́ з бальні́цы і сказа́лі, што ніха́й атле́жыцца до́ма, на рабо́ту ні йдзець.*

**АТЛІЧА́ЦЦА** *незак.* Адрознівацца. *Хвошч, што ў ле́сі, атліча́іцца, што ў по́лі.*

**АТЛЫ́ГНУЦЬ** *зак.* Адлегчы, зрабіцца больш сухім, марозным. *К ве́чару атлы́гнула: каза́ба тро́шкі маро́зік стаў, і такі сьняжо́к.*

**АТО́** *злучн.* Бо. *Набу́йся, ато́ хало́дна разу́таму. Так я дзе́лала хазя́іну сваймў, ато́ ж яму́ ніяк нільзя́ было́ станаві́цца: іна́, е́та кyры́ная сра́чка, балю́чая така́я.*

**АТПАДА́ЦЬ** *незак.* Адыходзіць у нябыт. *У сва́ты прыхо́дзілі, а тады́ начало́ ўсё е́та атпада́ць.*

**АТПА́СЬЦЬ** *зак.* Адарвацца, адпасці, адваліцца. *Пад'е́ў вуж, атпа́ў, і малачко́ з ро́та – сто́лькі нае́ўся.*

**АТПРАЎЛЯ́ЦЬ, ТПРАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* Адпраўляць, праводзіць, накіроўваць. *Атпраўля́лі Пе́цьку на Кра́сны Бе́раг, была́ ві́сна, у мато́рцы е́зьдзілі.* 2. Спраўляць провады. *Мары́ніны дзе́ці павы́расьлі. На́да то сва́дзьбу* [гуляць], *то сы́на ў а́рмію тпраўля́ць.*

**АТРАВІ́ЦЦА** *зак.* Атруціцца. *Атраві́ўся што́-та жалу́дак, ужо́ таке́я рво́ты у міне́.*

**АТРАКНУ́ЦЦА** *зак.* Вырачыся. *Атракну́лася Ні́нка ат ма́ткі.*

**АТРУ́ТА** *ж.* Нешта нясмачнае, атрута. *У аўгу́сьці скрышы́ капу́сту, тады́ яка́я йна – аме́га, атру́та, кісла́та.*

**АТРЫ́ЖКА** *ж.* Адрыжка. *Што пае́м, усё атры́жкай, атры́жкай.*

**АТСА́ДЖАЦЬ** *незак.* Саджаць, сеяць паўторна. *Тэ́я маладзэ́я* [гарбузы], *што Тацья́на атса́джала, гнію́ць.*

**АТСЕ́ДЗІЦЬ, АТСЯДЗЕ́ЦЬ, АТСІ́ДЗІЦЬ** *зак.* Адседзець; прабыць у няволі (у турме, высылцы і інш.). *Е́ты, другі хазя́ін, два́ццаць пяць гадо́ў атслу́жы́ў – атсі́дзіў на Калыме, атсе́дзіў два́ццаць пяць. Прышлі з Гірма́ніі дамо́ў, атсядзе́лі.*

**АТТА́ЦЬ** *зак.* Адтаць. *Со́нца пады́міцца – во́кны атта́нуць.*

**АТТУ́ЛЬ, АДТУ́ЛЬ** *прысл.* Адтуль. *Ба́чу ён, дзіця́, накрада́іцца атту́ль бежч сюды́. Е́зьдзя у Хінля́ньдзію, вязе́ атту́ль пушні́ну, тады́ прадае́. Вады́ адту́ль ні бра́лі піць: кот утапі́ўся.*

**А́ЎГУСТ, ВА́ЎГУСТ** *м.* Жнівень. *То́лькі а́ўгуст, а бу́льбу капа́юць. У ва́ўгусьці ме́сіцы начына́юцца харо́шые грыбы́. Грыбы́ харо́шые – баравікі́, масьля́ты, падаба́бкі, сураве́жкі, рыжкі́.*

**АХА́ПАК** *м.* Ахапак, абярэмак. *К абе́ду цяпле́й, я вазьму́ аха́пак се́на, каню́ укі́ну, гуся́м сало́мы падсьцялю́.* АХА́ПАЧАК *памянш.* *Аха́пачак* [сена] *пакла́ў, а другі́ стара́йся тро́шкі заніма́ць аха́пачак, като́ры ўжо ляжы́ць.*

**АХО́ТА** *ж.* Ахвота. *Я ёй: «Зна́іця, мо́жа с ахо́ты*[1]*, да то́шчы жалу́дак бы́ў, дык яно́ і праняслó».*

**АХО́ТНІК** *м.* Ахвочы, аматар. *Я на ры́бу нікрэ́пка ахо́тнік.*

**АЧЧА́ІЦЦА** *зак.* Адважыцца, рашыцца нешта зрабіць. *Ён аччаі́ўся пазвані́ў учо́ра.*

**АЧЧАПНО́Я** *н.* Неістотны выкуп. *Ка́ждая* [дзяўчына, якая гуляе на вечарынцы] *бя́рэ жме́ньку, каб ім аччапно́га даць.*

**АЧЧЫНІ́ЦЬ** *зак.* Адчыніць. *Сьні́цца: сын пры-шо́ў у ха́ту, дзьве́ры аччыні́ў і хо́дзя па ха́ці.*

**АШЧУШЧЭ́НІЯ** *н.* Адчуванне. *Арэ́шыкаў як на-шука́іш, штук пяць-шэсьць зьясі́, у галаве́ тако́я ашчушчэ́нія – харашо́ так дзе́лаіцца.*

**АЯВІ́ЦЦА** *зак.* З’явіцца. *Аяві́ўся зноў сасе́д. Ціпе́р с ха́ты ніку́дзінячкі.*

**БА́БА** *ж.* Старая жанчына, бабуля, матчына або бацькава маці. *На Раздва́ сы́пюць се́мкі. Ба́ба на́ша ціраз жэ́рдку се́мкі сы́пя і крычы́ць: «Як се́мкі пат-пры́гаюць, так каб і ціля́ткі падпры́галі». Былі́ ба́бы пяву́чые, яны́ абізаці́льна схо́дзюць на рэ́чку і папяюць.* ◊ ПУПАВА́Я БА́БА. Павітуха. *Ба́ба, называ́іцца пупава́я ба́ба, далжна́ пры́несьць уну́ку пялёнкі, памы́ць ма́лінькага дзіця́тку.* ◊ БА́БА-ГРОМ. Мажная жанчына. *О, Зі́нка ціпе́р – ба́ба-гром, у дзьве́ры чуць ува-хо́джая.*

**БА́БІН** *прым.* Бабін, бабчын. *Ба́бін гаро́д бага́та рабо́ты трэ́бая.* ◊ БА́БІНА КА́ША. Абрадавая каша (прасяная каша ці любы іншы пачастунак, пакладзены ў гаршчок) на хрысцінах. *Кум даўжо́н пабі́ць дзьве ка́шы – ку́маву і ба́біну.*

**БА́БСКІ** *прым.* 1. Жаночы, характэрны, уласцівы жанчыне. *Ба́бская душа́ тако́й даўжна́ быць – усі́м дагадзі́ць каб. То́лік красі́ва ігра́ў, ён лу́ччы ўсіх тут ігра́ў. Ён ба́бская усё.*

**БАГАМАЛЕ́ННЫ** *прым.* 1. Набожны. *Во́льга така́я багамале́нная.* 2. Царкоўны. *Я крэ́пка люблю́, як багамале́нные пе́сьні пяю́ць.*

**БАГА́ТА** *прысл.* Багата, шмат. *Чаро́муха цьвіце́ – камаро́ў бага́та. Каро́ўка у нас была́ Рабе́нька, служы́ла іна́ нам до́ўга і малака́ дава́ла бага́та.*

**БАГА́Ч** *м.* Багач, багаты. *А ты во, бага́ч, дык на валі́нкі ла́пці надзе́ў.*

**БАДЗЮ́ЛЬКА** *ж.* Калючка, востры шып. *Уво́сінь на траве́ таке́я калю́чые бадзю́лькі, но ні зна́ю, як называ́іцца трава́, забы́лася.*

**БАДЗЮ́ЛЬКІ** *мн.* Невядомая калючая трава. *Расту́ць бадзю́лькі. Іна́ така́я калю́чая трава́. Іе́ ніхто́ ні есьць.*

**БАЗА́Р** *м.* Базар. *У Зале́сьці сьпіцыя́ліста тако́га дзе́лаць рызі́ны ні было́ ніко́га, купля́лі на база́ры ўсё.*

**БАЙЗУ́К** *м.* Здаровы, дужы. *Такі́ байзу́к малады́, хло́піц Ма́нькін, вы б заціва́лі рабо́ту, а ён гуля́я.*

**БАКАВЫ́** *прым.* Бакавы. *Пампу́шачка – е́та цьвяткі́ таба́кі, а бакавэ́я пабе́гі – па́сынкі, іі́х сы́рвалі, е́та ўсё паіда́лі.*

**БАЛАЦЯ́НКА** *ж.* Балаціна. *Хвошч, што ў ле́сі, лі*[е]*сав́ы, расьце́ асо́бінна ў бало́тах, па ні́зкіх ме́стах, па балацянках.*

**БАЛБУ́КА** *ж.* Нешта, што мае круглую форму, пухір. *Яны́* [грыбы вясёлка] *расту́ць так: пачына́я рэсьць така́я балбу́ка, як яйцо́. Зь е́стага іі́ца́ грыб тады́ расьце́.*

**БАЛБУ́ЧКА** *ж.* Гуз, нараст (на целе). *На нага́х балбу́чкі, і яны́ баля́ць.*

**БАЛЕ́ЦЬ** *незак.* 1. Балець. *Е́сьлі у чалаве́ка што балі́ць: ці галава́, ці сярэ́дзіна, ці што, е́ты чалаве́к далжо́н падле́зьць пад е́ту Сьвячу́* (прымета). 2. Хварэць. *У нас Со́нька Дані́лава падла́зіла пад е́ту сьвячу́, но як іна́ бале́ла, так і бале́ла.*

**БАЛО́Н** *м.* Газавы балон. *Калі́ хто папро́ся балон, е́дуць патклю́чуць газ.*

**БАЛО́ТА** *н.* Балота. *Пасяро́д гаро́да – бало́та. У Дзяні́савых на гаро́дзі яно́ ні было́ бало́там.*

**БАЛЬНЕ́Й** *прысл.* Самы балючы, трывожны. *Мае́ успамі́ны бальне́й за ўсяго́.*

**БАЛЬШУ́ШЧЫ** *прым.* Вялізны, вельмі вялікі. *Яны́ мне купі́лі ры́біну бальшу́шчаю, і зье́ла.*

**БАЛЬШЫ́** *прым.* 1. Высокі. *Яно́* [*ба́рхат*; дрэўца] *бальшо́я ні раслó, а ні́зкая тако́я.* 2. Моцны (пра пах). *За́пах бальшы́, далёка ад чаро́мухі за́пах чу́ці́н, далёка.*

**БАЛЬШЫНА́** *ж.* Памер. *Жаві́ніны бальшыно́й як мали́на, то́лькі іна́ така́я бардо́вая.*

**БАЛЯ́ЎКА** *ж.* Болька, балячка. *Прыдстаўля́ецца мне, што у яго́, як у Во́льгі, така́я баля́ўка.*

**БАЛЯ́ЧКА** *ж.* Тое ж. *Іна́* [вогнік] *така́я во баля́чка. Яно́ тако́я мо́края. Зь яго́ ўро́дзі во цячэ́ яка́я-та жы́жка.* БАЛЯ́ЧАЧКА *памянш.* *Пад пахві́най баля́чачка вы́скачыла.*

**БА́НАЧКА** *ж.* Слоік. *Ба́начкі ста́лі, у ба́начку сы́палі е́ту таба́ку, ба́начкі закрыва́ліся.*

**БА́НЯ** *ж.* Лазня. *Мя́тай галаву́ мы́лі ці так у бо́чку ў ба́ні укі́ніш, но ў чай ні кла́лі. Успаха́лі за ба́няй тэй кусо́чык.*

**БАРАБА́Н** *м. спец.* Барабан, рухомая дэталь у машыне. *Бараба́н бальшы́ такі́, кру́глая така́я кату́шка кру́ціцца. Вот кру́ціш уве́сь бара́бан: два чалаве́кі з аднаго́ бо́ку, два – з друго́га.*

**БАРАБА́НІЦЬ** *незак.* Іграць на бубне. *Ма́тка мая́ каза́ла, што, як ба́цька, бараба́ніў Ляксе́й.*

**БАРАВІКІ́** *мн.* Баравікі. *Хто ні кладзе́ пра́вільна* [сушыць], *баравікі́ чо́рные. На сало́мі іх на́да караньќа́мі уве́рх пло́тна класьць, дык яны́ тады́ бе́лінькіе, харо́шые.* БАРАВІЧКІ́ *памянш.* *Во як ку́кліцкая даро́га, йдзе бага́та баравічко́ў калі́сь зьбіра́лі, ідзі́ паўз даро́гу – яны́* [рыжыкі] *скрозь ёсьць і ёсьць.*

[1] Словаформа вымаўляецца як *са хоты.*

**БАРАЗЁНКА** *ж.* Баразна. *У Зёнінага усігдá баразёнкі рóўнінькіе, як бумáга.* БАРАЗЁНАЧКА *памянш. Баразёначкі паразьмічáла.*

**БАРАНÁ** *ж.* Барана-сукаватка, прымітыўная барана, зробленая з дрэва (звычайна ёлкі). *Ёлку дзéлалі на баранý.*

**БÁРЖА** *ж.* Баржа, судна для перавозкі грузаў. *Да вóсіні ат'éўся і паплы́ў з бáржай.*

**БАРЖЫ́СТ** *м.* Чалавек, як працаваў на баржы. [Дзеці] *адзін ат ягó, баржы́ста, адзін ат Павукá.*

**БÁРХАТ** *м.* Коркавае дрэва (?). *Éты бáрхат садзілі у лéсі.*

**БÁРХАТНЫ** *прым.* ○ БÁРХАТНЫ КЛЁН (?). Коркавае дрэва. *На рагý нáшай вýлачкі стаяла дзéрава, ягó вéцір з год ці два паваліў, звáлі бáрхатны клён.*

**БАРЫ́Ш** *м.* Барыш, прыбытак, выгада. *Ні нáда піцьдзісят карóў дзіржáць, нáда двáццаць пяць даглідáць, і усіднó бары́ш бýдзя тэй жа.*

**БАС** *м.* Бас, нізкі голас. *Сьцéліцца гóлас па ўсіх басáх.*

**БАЎТАНУ́ЦЦА, БАЎТНУ́ЦЦА** *зак.* Баўтануцца, пахіснуцца, нахіліцца. *Сяджý, сяджý, тады́ баўтанýся, заснý. Стаяла у магазíні Міччыха, плóха стáла, баўтнýлася набóк, і канцы́ ёй.* 2. Рэзка нахіліцца. *Ягó галавá – боўць на мянé, і ўсё.*

**БАЎТÁЦЬ** *незак.* 1. Матляць, хістаць. *Вéцір баўтáя сарóчку, і іх* [вераб'ёў] *пужáя пужáйла.* 2. Ківаць. *Стаіць п'яны і галавóй баўтáя-баўтáя, як барáн.*

**БАЎТНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Кіўнуць. *Нічóга Баранéц ні казáў, баўтнýў галавóй, што пры́йдзя.*

**БÁЦЬКАЎ** *прым.* Бацькаў. *Бáцькава піраняўся, а ён жа ні чуў, як бáцька барабáніў.*

**БÁЦЬКАЎШЧЫНА** *ж.* 1. Сядзіба, дзе жылі бацькі, родны куток. *Там, на бáцькаўшчыне, як у вýлачку увахóдзіш, быў бугарóк.* 2. Спадчына па лініі бацькоў, бацькі. *Хáта éта – мая бáцькаўшчына, ніхáй пакá стаіць.*

**БАЦЬКІ́** *мн.* Бацька і маці. *Яны́ ж табé бацькі.*

**БÁЧЫЦЬ** *незак.* Бачыць. *Што жылí – бáчылі, бýдзім жыць – бýдзім бáчыць.*

**БАШКÁ** *ж.* Галава. *Дáй-ка я табé бязьмéнам па башкé па тваёй дам, што ты на людзéй бязьмéн нóсіш.*

**БАЯ́ЦЦА** *незак.* Баяцца. *Я ні маглá дастáць* [вадзяныя арэшкі] *так: баялася вады́, тады́ на бéраг лягу і рукáмі шукáю.*

**БÉДНА** *прысл.* Бедна. *Бéдна-бéдна жылí.*

**БÉЗДАРАЖ** *ж.* Бездарожжа. *Ні ў такýю ж бéздараж éхаць, дарóга саўсíм пагáная.*

**БЕЗУМÉРЫ** *прысл.* Без пачуцця меры, надзычай многа. *Спáла тады́ ужó безумéры, мóжа і дзéсіць часóў праспáла.*

**БÉЛЫ** *прым.* 1. Белы. *Груздзы́ бальшэ́я-бальшэ́я такéя. Яны́ бéлые, зьядóмые грыбы́, тóлькі іх мóчуць.* 1. БÉЛІНЬКІ *памянш. Малачкó там, у канапéль, такóя бéлінькая.* 2. БÉЛІНЬКАЯ *н.* Штосьці белае. *Бáчу штось бéлінькая – там яечкі, а дастáць ніяк нільзя́, ні качаргóй, ні шкрабкóм.*

**БЕЛЬ** *ж.* Выдзяленні з палавых органаў (у жывёлы пры захворванні). *У йе* [цёлкі] *такáя бéль плывé і плывé.*

**БÉРАГ** *м.* Бераг. *Піравалóка – бéраг круты́, дык яны́, арэ́хі, там, лі вады́ расьлí. Па бірагáх Піравалóкі рос – называ́ўся хвошч, – а у ягó на кóрнях арэ́шыкі.*

**БЁРДА** *н.* Бёрда; прылада для прыбівання ўточнай ніткі ў ткацкім станку. *Сýкно вы́ткуць. Ягó ткáлі у шырóкая бёрда.*

**БІНÓКІЛЬ** *м.* Бінокль. *Хадзілі нáнач сьцярэ́жч, штоб нéмцы ні йшлі. А ні бінóкіля, нічóга у сьвéці німá.*

**БІСПРАРЫ́ЎНА** *прысл.* Бесперапынна. *Матрýніна па бальнíцах біспрары́ўна éзьдзя, éзьдзя па ўкóлах.*

**БІСТЫ́ЖЫ** *прым.* Бессаромны. *Па бісты́жых па такíх бýду плáкаць – німá па чым.*

**БІ́ЦЦА** *незак.* 1. Брыкацца. *Вы б пабáчылі, як біўся конь.* 2. Стукацца. *Мне нядзéлі дзьве пірад тым прыляціць сінічка і б'éцца у вакнó.*

**БІЦЬ** *незак.* 1. Біць. *Хлóпіц тэй п'яніца, ён ужó біў дзéвачку éту раз.* 2. Збіваць (пра масла). *Сьмітáну сабірáлі і білі.* 3. Трэсці, ліхаманіць. *Мне, як шэсьць часóў, самую б'е хóладам.*

**БЛАГАВÉШЧАНСКІ** *прым.* Які адносіцца да Благавешчання, звязаны з Благавешчаннем. *На благавéшчанскі дзень зірнá ні нáда сéіць: вы́бяруць усё птýшкі* (з назіранняў).

**БЛАГАВÉШЧАНЬНЯ** *н.* Веснавое свята народнага календара. *На Благавéшчаньня птýшка гніздá ні ўе, а дзéўка касы́ ні пляцé.*

**БЛІ́ЗКІ** *прым.* Кароткі. *За бліндажáмы сáмая блíзкая дарóга у Крáсны Бéраг.*

**БЛІСКУ́ЧЫ** *прым.* Зіхатлівы, бліскучы, блішчасты. *Ражóк быў на вужý. Такí ўжо бліскýчы, блішчы́ць нівынасíма.*

**БЛУДЗІ́ЦЬ** *незак.* Блудзіць. *Лёкса крэ́пка блудзíла ўсюдах.*

**БЛЮСЬЦЬ** *незак.* Берагчы, захоўваць. *Загадáлі Мáньцы Хíмінай, каб інá здалá іé* [ікону Васільеўскую] *у цэ́ркву, а йна ні здаéць, блюдзé. Кудá я бýду гарбузы́ блюсьць?*

**БОГ** *м.* ◊ ДАЙ БОГ. Пажаданне дабра, здароўя. *Дай бог мне такóга здарóўя, як у вас.*

**БÓЙКА** *ж.* Пасудзіна для збівання масла. *Éсьлі ё такáя сьмітáна рэ́дзінькая, жы́дкая, тады́ іé у бóйку білі.*

**БÓЛІ, БÓЛІЙ, БÓЛЯЙ** *прысл.* Больш. *Мóжа йдзе ў лясьсí, йдзе бóлі так глыбóка, мóжна і назьбірáць мяшóк арахóў, у нас не. Бóлій усягó у нас вы́расла сёліта гарбузóў. Пахаладнéя бóляй, у сеньцябрэ́ мéсяцы апéнькі пóйдуць.*

**БОЛЬ** *ж.* Боль. 1. *Тóлькі аддавáла ямý боль у лéваю рукý.* 2. Трывога, непакой. *Ой, дзéці, такáя на сéрцы боль.*

**БÓЛЬНА** *прысл.* Надта, дужа, вельмі. *Мы бóльна ні прымічáлі, як што цьвіцé.*

**БОР** *м.* Бор. *Сáмые смáшные чарнíцы па барý: бóлій усягó ёй сóнца дахóджая, а ў цянькý ні такéя*

*чарніцы, на сонцы смашней. Падсочку як дзелаць, выбяруць бор, каторы будуць выразаць, у строй каторы.* БАРОК *памянш. Па тэй бок кукліцкай дарогі, туды к барку ідзеш, і там ё* [рыжыкі].

**БОРАЦЦА** *зак. перан.* Намагацца шмат пасеяць, пасадзіць. *Капаюся, бораюся с пасадкай.*

**БОЧКА** *ж.* Бочка. *Рыжкі і у бочку мачылі, і груздзы.*

**БРАДЖАВЫ** *прым.* Радкаваты, няшчыльны (пры тканні; пра сукно). *Сукно такоя браджавая, ні так, як палатно. Браджавая – ні такоя плотная, яно рэдкая.*

**БРАЗНУЦЦА** *незак.* Бразнуцца, грукнуцца. *Сані на ухаб кінула, я с саней бразнулася на дарогу.*

**БРАТАВАЯ** *ж.* Братавая, жонка брата. *Брат ё брат, а братавая ё братавая, разам ні пражывеш.*

**БРАТКА** *м.* Зварот да мужчыны. *О братка, сынок ты мой, пры сям'е і званіць ні хочыш.*

**БРАХАЦЬ** *незак.* Ілгаць. *Я ні буду брахаць, што ні званіла. Званіла, сын атказаўся.*

**БРАЦЕНЬНІК** *м.* Браценік, дваюрадны брат. *Браценьнікаў німа нікога, адна. Па браценьніку, па Пецьку, сяструшка.*

**БРАЦЦА** *незак.* Брацца, чапляцца. *Дзяды – што шышкі на іх растуць, што за цела бяруцца.*

**БРАЦЬ** *незак.* 1. Браць. □ *Пройдзя Спас – бяры вязёнкі пра запас.* 2. Збіраць. *Ягады мы пробалі браць блізінька, но болі хадзілі ў Сасновая балота. Браць ягады быстра якся ні ўмею. Мы іх* [касцяніцы] *ні разу ні бралі, но ні магу сказаць чаму.* 3. Набіраць. *Длі скота бралі, а гатаваць хадзілі вады у Сенькаў калодзіж.* 4. Рваць (лён, каноплі). *Іх, каноплі, што цьвітуць і ні цьвітуць, бяруць. Кожная сваю дачку бярэ лён.* 5. Прымаць, браць. *Біз дзіплома туды сходзіш – ні бяруць, туда сходзіш – ні бяруць.* 6. Жаніцца. *Васіль Шуман браў Марусю Сьціпанаву. Прасіў бацька: ні бяры, сынок, йіхнаю дзеўку, а ён: не, буду браць Чэпікаву.* 7. Уздзейнічаць. *Ета атрава, што купілі, ні бярэць жукоў, нада якуюсь новаю. Каларадзкіх жукоў ніякая чэмірадзь ні бярэ, ніякая атрава, толькі людзі травюцца.* 7. Мацнець (пра мароз). *К вечару зноў бярэ на мароз, наверна ён і заўтра ні тляжа.*

**БРУШНІЦЫ** *мн.* Брусніцы. *Брушніцы мачылі у бочкі. Брушніцы і сушылі, як і чарніцы.*

**БРЫЗКА** *ж.* Іскра, кропля. *Уцікай: брызка брызкане – руку аппаліш.*

**БРЫЗКІ** *мн.* Пырскі (пра ваду). *У чабатах жа быў, і брызкі па баках* [разлятаюцца].

**БРЫЗНУЦЬ** *незак.* Пырснуць. *Пальчык – колькі там таго парэзу, – а кроў як брызнула зь яго усюдах.*

**БРЫК** *зак.* Раптоўна ўпасці. □ *Брык вальком – цялісь на месьці. Брык вальком – ета як усердзіцца чалавек, гавоpуць брык вальком.*

**БРЫК-БРЫК** *выкл.* Пра рухі, падобныя на брыканне. *Харошы конь упобрыкі бегая. Упобрыкі – заднімы нагамы так брык-брык.*

**БРЭЗГАЦЬ** *незак.* Грэбаваць. *Яны можа будуць брэзгаць, дык я ім лап ні клала.*

**БУБКА** *ж.* Зернейка, семечка. *Каб жа елі гусі, а то расьцягваюць, шукаюць ідзе бубка, ідзе каласок.* БУБАЧКА *памянш. Каждая бубачка прарастая у гуркоў, семя ета.*

**БУВАЯ** *злучн.* Калі, калі раптам. *Бувая зойдуць ці гусі, ці коні, ці што, дык нашкодзюць на гародзі.*

**БУГОР** *м.* Узгорак, грудок. *Мы сталі на бугру, давай пець.* БУГАРОК *памянш. Баня у йіх была ніжай к рэццы, на бугарку.*

**БУГУН** *м.* Багун. *Бугун расьце у лесі, ён расьце толькі па балотах. Дурніцы з бугуном растуць. Бугун у лесі пахня-пахня.*

**БУЙНЫ** *прым.* Буйны, вялікіх памераў. *Жар буйны, во як дух дзяржыцца.* 2. Тоўсты (пра памер). *Есьлі каноплі* [прасці] *– сільна буйная пража.*

**БУЛКА** *ж.* Булка, бохан хлеба. *Адзін раз сталі абнімаць кольля і найшлі булку хлеба.*

**БУЛЬБА** *ж.* Бульба. *Бульба на рост харошая. Зарываюць усі падрад бульбу. Па дарозі як ідзеш і патрэсканая зімля, гавоpуць: вот зімля патрэсканая – то харошы уражай будзя на бульбу* (з naзіранняў).

**БУЛЬБЯНЬНЯ** *н.* Бульбянішча. *На бульбяньні пасаджу тожа буракоў.*

**БУМАГА** *ж.* Папера. *Тады ж лапці скора рваліся, дак хлопцы абматалі бумагай ногі і так прыходзілі дамоў. Бумагу красіваю найдуць, цьвяткоў надзелаюць, навешаюць.*

**БУРАКІ** *мн.* Буракі. *Буракі ат дарогі згарэлі, а трава пашла рэсьць бальшая.*

**БУРГОНАК** *м.* Узгорак, купіна, грудок, невялікая ўзвышанасць. *Рэдка калі паднімая вада еты бургонак.* БУРГОНАЧАК *памянш. Тут бургоначак, малінькіе* [гусяняты] *шчыпюць траўку, а бальшым* [гусям] *нада бежч на балоньня купацца.*

**БУРКІ** *мн.* Буркі. *Я купляла хазяіну тоўстые буркі, но бурка ё бурка, ета табе ні харошые валінкі.*

**БУРЫ** *прым.* Буры, карычняваты. *Буры – ета як ціпер усходжы на карычнявы.* БУРЫНЬКІ *памянш. Як па таком лясу – то па верасу, то па бярэзьніку, – то у баравікоў такая бурынькая кожка.*

**БУТЫЛКА** *ж.* Бутэлька, пляшка. *Бутылак назьбіраіцца багата, дык я гукну каго з хлопцаў, ніхай забіраюць, вязуць у Чычэрск.* БУТЫЛАЧКА *памянш. Ты ж глядзі, сакол, мне яды пірадай смашінькай і бутылачку гарэлкі.*

**БУХНУЦЬ** *зак.* 1. Выбухнуць. *Бухнуў снарад, і яго забіла.* 2. Лінуць. *Ён чарпак бальшы вады бярэ – і бух на каменьня.* 3. Упасці (пры размове з дзецьмі). *Я крычу: «Маша, бухніш, ні лезь на весьліцу».* 4. Стрэліць. *Можа, тэй чалавек нівінаваты, но ён жа з ружжа бухнуў, і Паўла ні стала.*

**БЫВАЦЬ** *незак.* Бываць, траплядца. *І работаць, і радам сядзець – так ні бывая. Яны* [лясныя арэхі] *па дном мала бываюць. Самая малая – ета два-тры.*

**БЫЛЬНІК** *м.* Чарнобыль (расліна). *Быльнік караністы такі, расьце вісачэнны.*

**БЫСТРА** *прысл.* Скора, на працягу кароткага часу. *Шайка мокрая-мокрая, дык ён* [драўляны абруч] *сапрэя і быстра прападая.*

**БЫЦЬ** *незак.* Быць. *У куклічáнь быў бóлі лісьцьвінны лес, там травы́ ні былó, а у нас былó бóлі травы́.*

**БЭЗ** *м.* Бэз. *Бэз завýць і сірэ́нь завýць. Бэз з кóрня расьцé, як асíньнік, так расьцісіваíцца.*

**БЯГУ́ЧЫ** *прым.* Хуткаплынны. *Тут рэ́чка бальшáя, вадá бягýчая.*

**БЯЛЬЛЁ** *н.* Бялізна. *Людзя́м жа нáда йдзе памы́ць бяльлё сваё.*

**БЯРÓЗАВІК** *м.* Бярозавік, бярозавы сок. *Сасéд узяў дóлата, прабíў, а бярóзавік усіраўнó ні йдзéць.*

**БЯРЭ́ЖЧ** *незак.* Берагчы. *Бірагý я вáлінкі, усігдá бірагý, гляджý ж каб і ў сухóм былí.* □ *Біражэ́ш адзéжыну у нягóду, а йна цібé у пагóду.*

**ВАГІНІ́Т** *м. спец.* Заразнае захворванне ў жывёлы. *У ягó* [быка] *быў вагінíт. Вагінíт па скацíне, як пажэ́нскі éта сíфліс.*

**ВАГЛАВЫ́** *прым.* Волглы, вільготны, сыры. *Пагóда ж ні тóлькі сухáя бывáя, но і ваглавáя, сырáя.*

**ВАДÁ** *ж.* 1. Вада. *Вот трóшкі глы́бяй пракапáю, там усёднó вáда.* 2. Плынь, цячэнне. *На Піравалóцы мы мáла купáліся: там вадá бы́страя.* 3. Паводка, разводдзе. *Тэй год былá бальшáя вадá, разьлілóся к Пад'я́саўцы.* 4. Вадкасць. *Як пражэ́ш сáла замарóжаная, дык вады́ крэ́пка багáта на скаўрадзé.*

**ВАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Вадзіць. □ *Як стáда вадзíць, лýччы за стáдам хадзíць.* ◊ ГАЛАВУ́ ВАДЗІ́ЦЬ. Пра галавакружэнне. *Галавý ні вóдзя нікудá, а крэ́пка балíць.* ◊ ВАДЗІ́ЦЬ БАЛ. Ладзіць вечарынку, гуляць, пераходзячы з хаты ў хату. *І так тры дні хóдзюць, бал вóдзюць.* ◊ ВАДЗІ́ЦЬ БАНКÉТЫ. Тое ж. *Старэ́я банкéты вóдзюць, зáйдуць у хáту, патанцýюць і пóйдуць.* ◊ ВАДЗІ́ЦЬ СВÁДЗЬБУ. Быць у стане цечкі (пра ваўкоў, сабак). *Ваўкí свáдзьбы вóдзюць, як пры́дзя пост пірад нóвым гóдам. Э́та называíцца піліпаўскі пост.*

**ВАДКАВÁТЫ** *прым.* Рэдкі, негусты. *Цéста ні крэ́пка густóя, а вадкавáтая, і яны́ такéя тóўстые, ры́хлые.*

**ВАЙНÁ** *ж.* Вайна. *У вайнý усё піравялóся. Садзíлі бэз ужó пóсьлі вайны́.*

**ВАЙСТРÁЧ** *м.* Завостраны канец чаго-н. *Во так атсéчана былó дзéрава, я́кся сéчана вайстрачóм.*

**ВАКНÓ** *н.* Акно. *Тады́ ці такéя ж вóкны былí? Яны́ ж малюпя́нечкіе, малю́пінькіе такéя акéнцы* [былі]. ВАКÉНЦА, АКÉНЦА *памянш. Во на вакéнца пасы́піш, янó вы́сахня, тады́ сéіш іх.*

**ВАЛ** *м.* Вал; высокая хваля. *Вáда ідзéць вáлам, лёд разьбівáя, і ты ні пачýіш, як лёд трашчы́ць.*

**ВАЛАКІ́ТА** *ж.* Цяганіна, клопат. *Калí на гарóдзі дóма сéіць авёс, валакíты тады́ зь ім.*

**ВАЛІ́К** *м. спец.* Частка шпулькі, на якой насаджаны жалезныя вострыя цвічкі. *Ідзéць вóўна, рашчэ́саіцца па вáліках.*

**ВÁЛІНКІ** *мн.* Валёнкі. *У міné ё вáлінкі, даўны́мдаўнó дзéлалі.*

**ВАЛІ́ЦЦА** *незак.* Паміраць. *Скóлькі баб-алкагóлікаў і мушчы́н – яны́ жывýць, а такéя лю́дзі тóлькі вáлюцца.*

**ВАЛІ́ЦЬ** *незак.* Вырабляць, біць (валіць) валёнкі. *Ён крэ́пка дóбра валíў вáлінкі, лёгінькіе, харóшые.*

**ВАЛНÁ** *ж.* Хваля. *Валнóй такóй страшэ́ннай кóця, хáты плывýць, машы́ны.*

**ВАЛÓК** *м.* Валок (сена). *Калí два валкí рáзам, тады́ янó* [сена] *рабрачкáмы, дубкóм такíм стаíць, дык янó лýччы сóхня.*

**ВÁЛЬШЧЫК** *м.* Спецыяліст, які вырабляе, б'е (валіць) валёнкі. *Вáльшчык – хто вáля вáлінкі. Мы éтага вáльшчыка знáлі.*

**ВÁЛЬШЧЫК** *м.* Чалавек, які працаваў на сукнавалцы. *Вáльшчык і чы́сьціў машы́ну, і змáзаў.*

**ВАЛЯ́ЦЦА** *незак.* Валяцца, ляжаць у беспарадку. *Пялёнкі валя́юцца, хістáюцца, но у міné здарóўя ні капíлькі німá, каб йіх пасьцірáць.*

**ВАЛЯ́ЦЬ, ВАЛІ́ЦЬ** *незак.* Валіць (пра сукно). *Сукнó валя́лі – éта ці прáнікам прáлі ці ў стýпі таўкачáмы таўклí. Но тóлькі сукнó валíлі, ходзь трóшкі.*

**ВАНЮ́ЧКА** *ж.* Назва травы з непрыемным пахам. *Вот аднá такáя травá – іé ат мышэ́й кíдáюць, ідзé бýльбу закáпаюць, – íнá называíцца ваню́чка.*

**ВАНЮ́ЧЫ** *прым.* Ванючы, смуродны. *Травá тáя ваню́чая-ваню́чая. Яны́* [грыбы вясёлкі] *ваню́чые такéя грыбы́.*

**ВÁРАНАЯ** *н.* Любая ежа, прыгатаваная спосабам варкі. *Былó б вáранаяᵉ, былó б смашнéй.*

**ВАРÓТЫ** *толькі мн.* Вароты. *Лазы́ багáта пасьвіцáлі, дык у хлéві, у варóты утóркніш кудá.*

**ВАРÓЧАЦЦА** *незак.* Вяртацца. *Раз* [гусі] *Асíнкі пераплылí на тэй бок, то ўжо бýдуць варóчацца* [гусі].

**ВАРÓЧАЦЬ** *незак.* 1. Паварочваць, варушыць. *Сéна пóйдам варóчаць: вéтрык, янó ужó прачэ́рсьцьвіла. Клéвір нáда ні раз і ні два варóчаць, каб вы́сах дóбра.* 2. Кіраваць, распараджацца. *Ён такí: кудá йім варóчаць, тóя ён і бýдзя дзéлаць.*

**ВАРÓЧАЦЬ** *незак.* Вяртацца, узнаўляць ранейшае. *Плáчу, плáчу, но я ж нічóга éтым нікóга ні варóчаю.*

**ВАРСАНУ́ЦЬ** *зак.* Утыкнуць, упароць канцом чаго-н. *Ой, варсанýла шчэ́пкай ці чым кала вóка прáма у я́гадку.*

**ВАРСÁЦЬ** *незак.* Тыкаць, паказваць што-н. некаму. [Хадоска] *рукý пат пахóй пад прáвай дзяржы́ць і хвíгу ямý* [Ігнасю] *варсáя і варсáя.*

**ВАРЫ́ЦЬ** *незак.* Варыць. *Лісянкі кóлькі ні тýшы, кóлькі ні вары́, яны́ крэ́пкіе.*

**ВАРЭ́ЙКА** *ж.* Варэйка; гліняны гаршчок для прыгатавання ежы. *Трóхі малакá, трóхі вады́ у варэ́йку. Крышнёў, ігрýш, чарнíц – усягó туды́, у варэ́йцы кампóт вары́лі. Варэ́йку бальшýю, лíтраў на пяць, навáруць і п'юць.*

**ВАРЭ́НЬНЯ** *н.* Варэнне, сочыва. *Дурнíц мáла брáлі, варэ́ньня зь іх ні вары́лі, а сушы́ць – яны́ ні сóхнуць.*

**ВАСІ́ЛЬЛЯ** *н.* Традыцыйнае народнае свята ў дзень Новага года паводле старога стылю.

**ВАСІ́ЛЬЛЯЎСКІ, ВАСІ́ЛЬЯЎСКІ** *прым.* Які адносіцца да свята Васілля (у ноч з трынаццатага на

чатырнаццатае студзеня). ◊ ВАСІ́ЛЬЛЯЎСКАЯ КУЦЬЦЯ́. 1. Абрадавая вячэра ў ноч з трынаццатага на чатырнаццатае студзеня. *Іна́* [жанчына, у каторай знаходзіцца Свяча] *атмічáя кóжны год кýцьцю васі́льляўскую. На васі́льяўскаю куцьцю у шчóдры хóдзюць.* 2. Ікона, якая ўшаноўваецца на народнае свята Васілле (у дзень Новага года паводле старога стылю). *У нас у Залéсьці былá Васі́льляўская куцьця́. Éта ікóна Васі́льляўская.*

**ВАСЬМЎХА** *ж.* Мера даўжыні бёрда. *Сáмая мáлая бёрда – васьмýха. Васьмýха – éта вóсім пáсам. Пáсма – дзéсіць пáрак.*

**ВА́ТА** *ж.* Вата. *Як стáла паяўля́цца вáта, ужó на вáці шы́лі.*

**ВАЎНЕ́НКІ** *мн.* Ваўнянкі. *Таўсты́шкі к канцý сіньцябрá растýць, як пахаладнéя. Тады́ і ваўнéнкі растýць.*

**ВЕК** *м.* Колькасць пражытых гадоў. *Яй-бóгу, ні жалéла, ці так янó нáда былó, ці маё сéрца чýставала, што ягó век такí карóткі.*

**ВЕЛЬБАВА́ЦЬ** *незак.* Услаўляць. *Вяльбýя сваю дачкý. А што ты мне вяльбýіш, выхваля́іш, узьвялíчваіш.*

**ВЕ́РАС** *м.* Верас. [Верас] *цьвіцé сірэ́нявым. Цьвятóчкі у ягó дрóбнінькіе, но сірэ́нявыя. Вéрас – травá ядóмая.*

**ВЕ́РАСІНЬ** *м.* Верасень. *Вéрас увóсінь цьвіцé. Ё ж такí мéсіц – вéрасінь.*

**ВЕ́РБІНА** *ж.* Вярба. *Лісты́ вýзінькіе і дóўгіе у ягó* [багуна], *прымéрна, як на вéрбіне лістóчкі, но у бугунá вузéйшые, дóўгіе такéя.*

**ВЕ́РБНЫ** *прым.* ○ ВЕ́РБНАЯ СКРЫСЕ́НЬНЯ. Вербніца. *У Вéрбная скрысéньня калíсь-та насíлі пасьвіцáлі лазý.*

**ВЕРХ** *м.* Вершаліна, макаўка. [У маладой] *верх атсéчаны паляжы́ць, паляжы́ць, і інá ягó вы́кіня.* ВЯРШО́К *м.*, ВЯРХЎШАЧКА *ж. памянш. Вяршóк астаéцца у маладэ́я, вярхýшачку аддаю́ць нявéсьці.*

**ВЕ́РХАМ** *прысл.* Вярхом. *Узя́лі кóніка, Івáн сеў вéрхам і на кóніку паéхаў.*

**ВЕС** *м.* Вага. *Бýдзіш жы́ва, здарóва, набярэ́ш вес.*

**ВЕ́СЕЛА** *прысл.* Весела. *Свáдзьба дýжа вéсела прахóдзіла, асóбінна на трэ́цьці дзень.*

**ВЕ́СКІ** *прым.* Важкі, пераканаўчы. *Бáцькава слóва бóляй вéская.*

**ВЕ́ТКА** *ж.* Мяцёлка, галінка, пладаноснае сцябло. *Як вéцір, вéтка аб вéтку – і абсыпáіцца прóса.* ВЕ́ТАЧКА *памянш. Лíсьця* [на арэшыне] *ні дýжа бальшóя, як на лíпі, дáжа шчэ й мéншая, тóлькі лíсьця ні па дном, а йны два-тры, вéтачкамы такíмы.*

**ВЕ́ЦІР** *м.* Вецер. *На рагý нáшай вýлачкі стая́ла дзéрава, ягó вéцір з год ці два павалíў. Ціпéр вéцір паціх, марóз пабóльшаў.* ВЕ́ТРЫК *памянш. Ай, вéтрык ды́ша халóдны такí, сыры́.*

**ВЕ́ШАЦЬ** *незак.* Вешаць. *Сь пéчы вы́нюць, на нíзку панíжуць і вéшаюць* [грыбы] *на дух.*

**ВІКО́НА, ІКО́НА** *ж.* Абраз. *Званы́ ськідáлі, а вікóны клáлі у кýчу і палíлі. Усé стáрые сабірáліся, вéчар правадзíлі перад éтай ікóнай. Кот íхны узьлéз там, йдзе ікóна, сядзíць.*

**ВІ́ЛАЧКІ** *мн.* ◊ У ВІ́ЛАЧКАХ. Расліна (пра буракі), якая мае два лісткі. *Буракí тóлькі ў вíлачках. У вíлачках – éта як два лíсьцікі.*

**ВІ́ЛАШНІК** *м.* 1. Качарэжнік. *У вíлашніку качаргá, там і вíлкі ўся́кіе.* 2. Дзяржанне ў вілках. *Вíлашнік во з альхí, ён жа лёгкі і сíльна крэ́пкі.*

**ВІ́МЯ, ВЫ́МЯ** *н.* Вымя. *Карóва бéгла, самá перaскóчыла, а вíмем на сук. Вы́мя праварснýла на сук, аднý сóску.*

**ВІНАВА́ТЫ** *прым.* Вінаваты. *Я шчытáю: éта Нíна вінавáта.*

**ВІНІ́ЦЬ** *незак.* Вінаваціць. *Я іé ні ў чом ні вінýю, інá ж ягó дзяржы́ць.*

**ВІ́НТАР** *м.* ◊ ПА ВІ́НТАРУ (ПА ВІНТАРЎ). Спосаб падзелу (зямлі, сенажаці і да т. п.) па суседстве. *Дзялíлі зямлю па вíнтару. Éта вот сасéд зь éстага бокý, тады́ тэ́я, што за ім жывýць. Вот так па сасéдству, сасéд за сасéдам.*

**ВІРАБЕ́Й** *м.* Верабей. □ *Увóсінь і ў вірабʼя́ півá. Вірабʼі гнёзды улéтку бýдуць віць.*

**ВІСАКАВА́ТА** *прысл.* Высакавата. *Іé ж* [калядную свячу] *нясýць так вісакавáта.*

**ВІСАЧЭ́ННЫ** *прым.* Вельмі высокі. *Тэй Мікóла такí ніпуцёвы, вісачэ́нны, да старэ́нны, нікрасівéнны быў хлóпіц.*

**ВІСЕ́ЦЬ** *незак.* Вісець, трымацца. *Сёліта арахóў багáта былó, так кíсьцямы вíся́ць бальшы́мы.* 2. Спадаць, звісаць. *Нічóга на йім* [на саку] *ні бýдзя вісéць, шы́лі так акурáтнінька.*

**ВІСНА́** *ж.* Вясна. *Якíе вёсны былí? Былí і рáньніе і пóзьніе. Інá* [чаромха] *цьвіцé вяснóй бéлінькім цьвéтам.* ◊ ГУКА́ЦЬ ВЯСНЎ. Сустракаць вясну (звычай). *Пéрва за ўсё на Благавéшчаньня гукáюць вяснý. Дóўгадóўга гуля́юць.* ◊ ПЕЦЬ ВЯСНЎ. Пець песні-загуканкі. *Вяснý красíва пéлі.*

**ВІ́СНУЦЬ** *незак. перан.* Віснуць; ліпнуць да каго-н. *Мáтка піражывáя: чагó ты лéзіш к ямý? Ты лéзіш, на шы́ю вíсьніш? Чагó?*

**ВІСО́КІ, ВЫСО́КІ** *прым.* Высокі. *Максíм і Фёдар – браты́, яны́ вісóкіе такéя мужчы́ны былí і з барóдамі. Атáва раслá ідзé па ніжэ́йшых мéстах, па высóкіх іé ні былó.* ВІСАКАВА́ЦІНЬКІ *памянш. У лéсі ё такí хвошч, пéрʼя на ём німá, а такéя прýцікі вісакавáцінькіе бýдуць с паўмéтры.*

**ВІСЬНЯ́НКІ** *мн.* Вяснушкі. *У éтых, якéя кóсы ры́жые, у іх па ліцý вісьня́нкі.*

**ВІЦІ́НАР** *м.* Ветэрынар. *Паглядзéў віцíнар, скáзáлі, што зь цёлкі нічóга ні бýдзя, здавáйця.*

**ВІ́ЦЦА** *незак.* Віцца; расці, абвіваючыся вакол чаго-н. *Былá квасóля дзярýнка. Йе на ты́чкі тóркалі. Інá вілáся па ты́чках і назывáлася дзярýнка.*

**ВІЦЬ** *незак.* Віць; рабіць гняздо. *Вірабʼі гнёзды улéтку бýдуць віць. Мушчы́ны вілí* [вяроўкі з канапель] *крýчкамі.* ◊ ВІЦЬ Е́ЛКУ (ЁЛКУ) *абрад.* Упрыгожваць дрэўца (хваёвае, лісцевае) у нявесты на вяселле. *Казáлі: пóйдзім, напрымéр Вóльзі, éлку віць.*

**ВІЧАРЫ́НКА** *ж.* Вечарынка, вечар провадаў на службу ў войска. *Мам, я хачу́, каб ба́цька быў на вічары́нцы.*

**ВО́БЛАКА** *н.* Воблака. *Як во́блака ні днаго́ німа́, маро́з падзяржы́цца.* ВО́БЛАЧКІ *памянш. Як на не́бі во́блачкі і ты се́іш гуркі́, то бу́дзя уража́й на гуркі́* (зназіранняў).

**ВО́БЛІВІЦА** *ж.* Галалёдзіца. *Во́блівіца – на зямлю́ ідзе́ць дождж і сыча́с жа ён замірза́я.*

**ВО́БЛІЦА** *ж.* Шрот. *Ішла́ во́бліца. Крупі́нкі дажджа́ аблівалі́ся, а тады́ ішо́ў сьнег.*

**ВО́БМАРАК** *м.* Замарачэнне, непрытомнасць. *Лігла́ ў дзе́віць часо́ў, часо́ў у адзі́наццаць – во́бмарак.*

**ВО́ЖКІ** *мн.* Лейцы. *Конь ё – на́да вяро́ўка, во́жкі, на́да пацьця́жка.*

**ВОЗ** *м.* Воз, калёсы. *Насе́ла бага́та баб на воз, шчы́тай у два рады́.*

**ВО́ЗДУХ** *м.* Паветра. *Бу́льбу вару́ у ха́ці: во́здух нікрэ́пка такі́, ніха́й во́здух сухі́ бу́дзя. Во́здух сыры́, хало́дны.*

**ВО́ЙСТРЫ** *прым.* Востры. *У яго́* [каршуна] *сі́льна бальша́я дзю́бка, як у савы́, і но́гці, кі́пці е́тые, таке́я во́йстрые.* ВО́ЙСТРЫНЬКІ *памянш. Трапы́шка – э́та дзірвя́нная то́нінькая до́шчачка. Іна́ во́йстрынькая. На крайку́ у лі́сьціках* [арэшыны] *таке́я прарэ́зачкі, прарэ́зачкі, во́йстрынькіе таке́я.*

**ВО́КУНЬ** *м.* Акунь. *Бяжы́ць труско́м-труско́м з вады́, а во́кунь так трапе́чыцца у рука́х.*

**ВО́ЛАК** *м.* След, які застаецца пасля працягвання чаго-н. *Во́лак пашо́ў к Зу́ськам.*

**ВО́ЛАКА** *ж.* Тое ж. *Во́лака – е́та як ця́гніш, пясо́чык разрыва́іцца і ві́дна, што ця́гнута што́-та.*

**ВО́ЛАС** *м.* ◊ НА ВО́ЛАС. Ніколькі, зусім (не заснуць, не спаць). *Сёдні на во́лас вачэ́й ні заплю́шчыла, ні засну́ла.*

**ВО́ЛЬНЫ** *прым.* Вольны. *На лу́зі ж во́льны во́здух, а ў ле́сі ні так.*

**ВОНЬ** *ж.* Смурод, непрыемны пах. *У ха́ці там гра́зна, вонь.*

**ВОСЬ** *ж.* Вось. *Тут вось ні́зка сядзі́ць, і каткі́ е́тые ні́зінькіе такі́е.*

**ВО́ТПУСК** *м.* Водпуск, адпачынак. *Вы на па́лку ні ме́раліся, каму́ во́тпуск браць, каб бацько́ў дагліда́ць.*

**ВО́ЎНА** *ж.* Воўна; састрыжаная авечая поўсць. *Воўну мы пачаса́лі.*

**ВО́ЎЧЫ** *прым.* ○ ВО́ЎЧЫЕ Я́ГАДЫ. Крушына. *Во́ўчые я́гады – е́та та́я са́мая крушы́на. Есьць іх ніхто́ ні бярэ́, ні ідзя́ць. Яны́ ідаві́тые.*

**ВОХ-ВОХ-ВОХ** *выкл.* Выгукі, якія падаюць свінні. *Вох-вох-вох – так свіньні мае́ гаво́руць, як чу́юць, што іду́.*

**ВО́ХАЦЬ** *незак.* Падаваць голас (пра свіней). [Свінні] *вох-вох-вох, во́хаюць так.*

**ВО́ЦЬЦІПЕЛЬ** *ж.* Адліга. *Во́цьціпель пры́дзя, яно́ тро́хі атта́ня, у зямлю́ ўбярэ́цца е́та ва́да.*

**ВО́ЧАРАДЗЬ** *ж.* Чарга. *Была́ глыбо́кая во́сінь. По́зна. Па́сьцілі каро́ў, во́чарадзь. І тут воўк.*

**ВУ́ГАЛЬ** *м.* Вугаль, рэшткі не да канца згарэлай драўніны. *Вот сто гадо́ў прашло́, а ціпе́р стань паха́ць, вуглі́ выпа́хаюцца.*

**ВУГНА́ЦЬ** *незак.* Гугнявіць. *Вугна́ць – гавары́ць у нос, абы́-як. Вугна́я: чаго́й-та мой нож тут ляжы́ць.*

**ВУГО́ЛЬЛЯ** *н. зб.* Вуголле. *Альхо́вые дро́вы жа́ру до́бра даюць і вуго́льля, яго́ ж на́да каб па ўсе́й пе́чы рассы́паць.*

**ВУДО́Д, УДО́Д** *м.* Удод. *Вудо́ды красі́вые, у іх красі́вые чу́бкі на гало́вах. Удо́д ву́ткая.*

**ВУЗЁЛ** *м.* Клунак, пакунак. *Вузёл накла́ла ры́хмазьзя, на́да палі́ць, куды́ яго́ ціпе́р.* ВУЗЯЛО́К *памянш. Хрэ́зьбіны про́йдуць, ба́ба сабіра́я вузяло́к і паніслá.*

**ВУ́ЗКІ** *прым.* Вузкі. *Ідо́м, а кла́дачка ву́зкая, баі́мся, каб ні ўпа́сьць у ваду́.* ВУ́ЗІНЬКІ, ВУ́ЗІНЯЧКІ *памянш. Даро́гі былі́ ву́зінькіе. Хло́пцы во́зьмуць жэ́рдку ву́зінькую, нішыро́кінькаю, дзіржа́ць: атдава́йця за́йца. Рэ́чка была́ ні ву́зіня[і]чкая, а шыро́кінькая.*

**ВУ́ЛАЧКА** *ж.* Завулак. *Ву́лачка ж была́ ву́зінькая, то́лькі калёсам праехаць.*

**ВУ́ЛІЦА** *ж.* Вуліца. *Па ву́ліцы ніхто́ ні йдзець, а ні то, што сабіра́юцца гуля́ць.*

**ВУТ-ВУТ-ВУТ** *выкл.* Выгукі, якія падае ўдод. *Удо́ды вясно́й начына́юць так: вут-вут-вут.*

**ВУ́ТАЦЬ** *незак.* Крычаць (пра ўдода). *Ён* [удод] *начы́ная ву́тацць папе́рад за зязю́лі, за куку́шкі ране́й.*

**ВЫБІВА́ЦЦА** *незак.* ◊ ВЫБІВА́ЦЦА СА СНА. Доўга не засынаць, збівацца з рэжыму. *Біз выхадны́х сто́лькі мы рабо́талі, да выбіва́імся са сна.*

**ВЫБІРА́ЦЬ** *незак.* Выбіраць. *Выбіра́й каранька́ пастая́нна, яно́ ўсё вывядзіцца, і та́я ж сны́тка.*

**ВЫ́БІЦЦА** *зак.* 1. Зрабіцца няроўным. *Кірпі́ч на по́дзі вы́біўся, на́да піраклада́ць яго́.* 2. З цяжкасцю знайсці дарогу, шлях. *Паўдня́ пракружы́ла ў ле́сі, паку́ль вы́біваліся на даро́гу к Клю́чыкам.*

**ВЫ́БЛІСНУЦЬ** *зак.* Выбліснуць. *Вот ціпе́р, ходзь во сьнег ідзе́ць уно́ччы, но удзе́нь со́ўнейка вы́бліснула, і е́ты снег зьдзе́лаўся, як ка́ша.*

**ВЫВА́ЖАЦЬ, ВЫВО́ЖАЦЬ** *незак.* Вывозіць. *Адту́ль* [з Гарадоўкі і прылеглых вёсак] *так лес ні вазі́лі, тут усё выва́жалі. Куры́нцы выво́жаю вясно́й і ўво́сінь.*

**ВЫ́ВІСЦА** *зак.* 1. Звесці, вынішчыць. *Вы́біра́й каранька́ пастая́нна, яно́ ўсё вы́вядзіцца.* 2. Вывесціся (пра птушак), выседзець з яйца. *Вы́вілася у міне́ тры гусе́нкі ат адно́й гу́сі і пяць у друге́я.*

**ВЫ́ВІСЬЦЬ** *зак.* 1. Вывесці (пра птушак), выседзець з яйца. *Сёліта чатыры гу́скі – во ко́лькі вы́вілі гусяня́так. Выве[і]ла ку́рыца трох куро́начкаў, но ку́рачкі.* 2. Звесці, вынішчаць, выкараніць. *Яго́* [хвашча палявога] *тру́дна вы́вісьць. Патсіка́іш, патсіка́іш е́тые карэ́ньні, а ён ніяк.*

**ВЫВО́ДЗІЦЬ** *незак.* Зводзіць, выводзіць. *Ста́ніш траву́ выво́дзіць, дык усё вы́вядзіш.*

**ВЫГАНЯ́ЦЬ** *незак.* Хутка расці, выпіраць. *Вот вясно́й выганя́я шы́шачкі на ёй, іїх сабіра́ім, су́шым.*

**ВЫ́ГЛЫТАЦЬ** *зак.* Выесці, з'есці. [Каршун] *усё вы́глытая: ён жа бальшэ́нны.*

**ВЫДАВА́ЦЬ** *незак.* Выглядаць, рабіць уражанне. *На кра́снай лазе́ жо́ўта-зялёньнікіе, красі́вые е́тые пупы́шачкі, так выда́е, што тако́га цьве́ту.*

**ВЫ́ДАВІЦЦА** *зак.* Вырваць, званітаваць. *Глыто́к вады́ і тэй вы́давіцца: так рва́ла міне́.*

**ВЫДЗІЛЯ́ЦЦА** *незак.* Вылучацца, быць бачным, выдавацца. *Быў у майго́ ба́цькі пінджа́к, што выдзіля́лась кле́тачка.*

**ВЫ́ДРАЦЬ** *зак.* Выдраць, выцягнуць. *У па́хату ле́зя, яго́* [корань плюшчаю] *ні пірабра́ць, ні вы́драць.*

**ВЫКА́ПАЦЦА** *незак.* Выкопвацца, адкопвацца. *Ідзе́ ку́зьня была́, там і ціпе́р шчэ ўсё выка́паіцца вуга́льля.*

**ВЫ́КАТ** *м.* ◊ НА ВЫ́КАЦІ (пра вочы). Лупаты, вірлавокі. *Іна́ такая Во́льга красіве́нная, разглядзе́ецца то́лькі: во́чы на вы́каці, бальшэ́я і ко́сы чо́рнінячкіе.*

**ВЫ́КІНУЦЬ** *зак.* Выгнаць, выштурхнуць. *Прышо́ў у ха́ту чалаве́к, гамо́ня, што ж мне яго́ вы́кінуць і само́й па ціліхво́ні гавары́ць.*

**ВЫ́КІНУЦЬ** *зак.* Выкінуць (пасля страўлення). *Ву́ткі тож ідзя́ць ра́ску. Яны́ чатыры разы́ ухапілі, то́я вы́кінулі, зноў ідзя́ць.*

**ВЫКУ́ПВАЦЬ** *незак.* Купаць, мыць. *Бывая ніро́слая дзіця́, хілы дзіцёнак, дык усё выку́пвалі яго́ у мацяры́нцы.*

**ВЫ́КУПІЦЬ** *зак.* Заплаціць выкуп. *Е́лку вы́купілі.*

**ВЫЛА́ЖАЦЬ, ВЫЛА́ЗІЦЬ** *незак.* 1. Вылазіць. *Ё наве́рна йдзе́-та ме́ста: выла́жаюць кураня́ткі.* 2. Паказвацца, прабівацца. *Дажджы́ памачы́лі, і трава́ выла́зя.* 3. Выпадаць (пра валасы). *Чаго́й-та так у ціба́ ко́сы выла́жаюць?* ◊ ЯЗЫКІ́ ВЫЛА́ЖАЮЦЬ ДА КАЛЕ́НЬ. Абгаворваць, ганіць. *У людзе́й языкі́ выла́жаюць да кале́н.* ◊ НЕ ВЫЛА́ЗІЦЬ З ДАЎГО́Ў. Мець увесь час даўгі. *А як жыве́ Ка́ця? З даўго́ў ні вылазя: гло́тка шыро́кая.*

**ВЫ́ЛІЗЬЦЬ** *зак.* 1. Выйсці. *Усе́ вы́лязуць з-за стала́, ён* [дзед] *садзі́цца.* 2. Выпасці (пра валасы). *У міне́ ко́сы были́ ніплахе́я, но ціпе́р вы́лязьлі, нічо́га німа́.* ◊ ВЫ́ЛІЗЬЦЬ З КО́ЖЫ. Пастарацца з усёй сілы. *Та́ня б с ко́жы вы́лізла, іна́ б хазя́йства дзіржа́ла.*

**ВЫЛІ́НЯЦЬ** *незак.* Ліняць, скідваць верхнюю поўсць. *Зашла́ к Кашчая́м. Ба́чу: каты́ на пасьце́лі, а йны вылі́нюць, сто́лькі шэ́рсьці там валя́іцца.*

**ВЫ́ЛЯЦІЦЬ** *зак.* Вылецiць. *Е́сьлі да Благаве́шчаньня выля́ціла пчала́ із вулья́, то по́сьлі Благаве́шчаньня іна́ схава́іцца і бу́дзя сядзе́ць – бу́дзя хало́дна.*

**ВЫМА́ЗАЦЦА** *незак.* Вымазвацца, грзніцца. *Бізрука́вачка выма́заіцца, дык я надзя́ю тады́ хала́т наве́рх.*

**ВЫ́МІРКАЦЬ** *зак.* Выгадаць, пакінуць сабе (з агульнага). *Яны́ гра́матные былі́, тэ́я яўрэ́йкі, у магазі́ні рабо́талі. У магазі́н зь цётка́й прыйдам – адна́ і другая нам па бу́лцы хле́ба дасьць і сабе́ вы́міркая. Пла́ча ба́ба: «Забіра́юць пе́ньсію дзе́ці. Ужо́ ні вы́міркаю гро́шы на ліка́рства сабе́».*

**ВЫ́НАСІЦЦА** *зак.* Вынасіцца, працерціся ад доўгага нашэння. *Бу́ркі вы́насіліся, знасі́ліся саўсі́м.*

**ВЫ́НІЦЬ** *зак.* Выняць, дастаць. *Сь пе́чы вы́нюць* [баравікі], *на ні́зку пані́жуць і ве́шаюць на дух.*

**ВЫНО́ШАЦЬ** *незак.* Выносіць. *І тады́ выно́шаюць е́ту ка́шу на двор і заву́ць маро́за.*

**ВЫ́ПІСАЦЬ** *зак.* Напісаць для некага дакумент. *Заўтры пайду́ у канто́ру, каб вы́пісаць аве́су.*

**ВЫ́ПЛАКАЦЦА** *зак.* Выплакацца, паплакаць. *Гля́джу на е́тые палтрэ́ты, вы́плачуся, і мне на се́рцы лягчэ́й.*

**ВЫПЛЫВА́ЦЬ** *незак.* Збягаць, сцякаць. *Во ж сьліў нільзя́ сушы́ць, цэ́лые ні со́хнуць, а разрэ́ж, пакладзі – сок выплыва́я.*

**ВЫ́ПРАМІЦЬ** *зак.* Выпрастаць, разагнуць. *Ма́тка й ка́жа: «Ідзі на печ, вы́прам пле́чы, паляжы́».*

**ВЫПУСКА́ЦЬ** *незак.* 1. Выпускаць. *Ціпе́р я яго́* [каня] *выпуска́ю на двор пабе́гаць.* 2. Скідаць, пазбаўляцца ў час лінькі чаго-н. (пра птушак). [Гусі] *і пе́р'я выпуска́юць і пух.*

**ВЫ́ПУСЬЦІЦЬ** *зак.* Выбраць, дастаць, выняць. *Тады́ іх* [агуркі] *вы́пусьціш, зярно́ то́я памы́іш, пасу́шыш.*

**ВЫПЫ́ТАЦЬ** *незак.* Выпытваць, выведваць. *Я ні ста́ла выпы́таць, чаго́ прые́хаў.*

**ВЫ́РАДЗІЦЦА** *зак.* Звесціся. *Таўсту́ш было́ бага́та ране́й, а яны́ як-та вы́радзіліся.*

**ВЫ́РАЙ** *м.* Пералётныя птушкі. *На Со́ракі даўжно́ прыля́цець со́рак вы́раяў, со́рак вы́раяў пту́шак.*

**ВЫ́РАСЬЦЬ** *зак.* Вырасці, падрасці. *А раса́дка* [сасны] *далжна́ вы́расьціць прыме́рна ш чэ́цьвірць.*

**ВЫ́РУЧЫЦЬ** *зак.* Выручыць, аказаць дапамогу. *Як хо́чыш, но вы́ручы, дай на хлеб гро́шай.*

**ВЫРЫВА́ЦЬ** *незак.* Ванітаваць. *Што вы́пя, што зьесьць – усё вырыва́я, выта́шнівая яго́ зь сярэ́дзіны.*

**ВЫ́РЫГАЦЬ** *зак.* Вынітаваць. *Нічымчаге́нькі мне ні на́да. Як ні вы́рыгая, дык што-не́будзь зьдзе́лаю.*

**ВЫ́САДАК** *м.* Высадкі (пра месца). *Сто́лькі сазрэ́ла капу́сты на вы́садку тым.*

**ВЫСКА́ЗАЦЦА** *незак.* Выказвацца, меркаваць, гаварыць. *Ізьлячы́мы рак, выска́заюцца.*

**ВЫ́СКАЧЫЦЬ** *зак.* Выскачыць, выбегчы. *Калду́п вы́скачыў с ха́ты як пу́ля і бязьме́н кі́нуў.*

**ВЫ́СТУПІЦЬ** *незак.* Выступіць, з'явіцца. *Цьвяты́* [у сніткі] – *такі́ ствол вы́ступя бе́лы.*

**ВЫ́СЫПАЦЬ** *незак.* Паказацца, выйсці з трубкі (пра колас). *Е́сьлі дажджы́ прахо́джаюць, як жы́та высыпа́я, мо́гуць пракі́нуцца баравíчкі.*

**ВЫСЫПА́ЦЦА** *незак.* Высыпацца, рассыпацца. *Як пасо́хня іна́, тады́ высыпа́іцца, а так жа дзіраза́ ні высыпа́іцца.*

**ВЫ́СЬЦІБАНЫ** *дзеепрым.* ◊ ЯК ШКУ́РА ВЫ́СЬЦІБАНАЯ *лаянк.* Пра абжорлівую істоту. *Ко́шачка мая́ то́лькі пад'е́сьць, як шку́ра вы́сьцібаная сто́лькі пад'е́сьць, зноў у но́гі сту́кая: дава́й ёй есьць.*

**ВЫ́СЬЦЯГНУЦЦА** *зак.* Выцягнуцца. *Сам гуса́к вы́сьцігніцца і бе́гая туды́-сюды́, гусе́й ні пуска́я.*

**ВЫ́ТАПІЦЦА** *зак.* Выпаліць. *Печ вы́тапіцца, сало́мы пасьцёлюць на под і пасаджа́юць іх* [баравікі].

**ВЫ́ТКАЦЬ** *зак.* Выткаць. *Вы́ткалі, но сукно́ ні так, як лён, прыстае́ друг да дру́га.*

**ВЫ́ТРАШЧЫЦЬ** *зак.* Вытарашчыць. *Сьвіньні вы́трашчылі сваé бéльмы і ры́гаюць: вох-вох-вох, во́хаюць так.*

**ВЫ́ТРЫМАЦЦА** *зак.* Стрымацца. *Іна́* [жанчына] *ні вы́трымалася ат сьмéху, зьніла́ чуло́к.*

**ВЫ́ХАД** *м.* Працадзень. *Е́сьлі ні зьдзéлаў дзьвéсьця трыццаць вы́хадаў, зна́чыць, табé то́га зірна́ ні даду́ць.* ◊ НА ВЫ́ХАД (пра адзенне). Святочны, для ўрачыстага моманту. *Сак быў на вы́хад.*

**ВЫЦІКА́ЦЬ** *незак.* Збягаць, сцякаць (пра сок). *Іх* [дурніцы] *пасы́піш на сушэ́ньня, а яны́ усé выціка́юць.*

**ВЫЦІ́РКА** *ж.* Ручнік. *Выці́рка éта ста́рая, мы́тая-пірамы́тая.*

**ВЫ́ЦІЦЬ** *зак.* Мінуць, прайсці. *Вы́дзя парася́ткам тры нядзéлі, тады́ яны́ йдуць к кары́ту есьць.*

**ВЫЦЯ́ГАЦЬ** *незак.* Выцягваць. *Яно́* [каноплі] *памя́кне, выця́гаюць, сьцéлюць.*

**ВЫЦЯРПІЦЬ** *незак.* Выцерпець, вытрываць. *Дзед ні вы́ця́рпіў і сказа́ў хло́пчыку: «Маць тваю́ таку́ю, а ры́нься».*

**ВЫ́ШКА** *ж.* Вышка, вежа. *Пара́сьця глянула на вы́шку: «Пятро́к, éта ты нас сьціражэ́ш?»*

**ВЫ́ШНІ** *прым.* Узвышаны, больш высокі. *Пасéіла на вы́шнім мéсьці.*

**ВЫ́ШШЫ** *прым.* Больш высокі. *Е́сьлі да бугра́ паха́ць, тады́ бу́дзя шчэ бугóр вы́шшы.*

**ВЫШЭ́Й, ВЫ́ШАЙ, ВЫ́ШЫ** *прысл.* Вышэй. *Там, Пад Барaво́й, нізкі луг. Дабра́нскі луг быў тро́хі вышэ́й. Йдзе вы́шай было́, туды́ к Сажу́, яго́ ні ві́дна. Б'ець сам* [кум] *ка́шу, но снача́ла крычы́ць: «Расьці́, дзіця́, вы́шай стала́, расьці́ бальшы́, здаро́вы», – і тры разы́ так. У нас на дварэ́ за́ціш, дык сьнéгу накруці́ла вы́шы калéн.*

**ВЯДРО́** *н.* Вядро. *Вёдры бéлые стая́лі з вадо́й, но́ччы хтось вы́ліў ваду́ і забра́ў усé.* ВЯДЗЁРКА *н.*, ВЯДЗЕ́РЦА *н.*, ВЯДЗЕ́РАЧКА *ж. памянш. Вядзёрка маё нібальшэ́нькая, пяць лі́траў, я шчэ сама́ сабé ў сілі прынéсьць вады́. Вядзёрцам ма́лінькім нашу́ ваду́. Пайду́ вадзі́чкі вядзéрачку набяру́.*

**ВЯЗЁНКІ** *мн.* Самаробныя вязаныя рукавічкі. *Шчэ на дварэ́ й цёпла, а я ўжо вязёнкі надзіва́ю: крэ́пка ру́кі сты́нуць.*

**ВЯЛІ́КІ** *прым.* Тоўсты, вялікі. *Хлеў на дваіх ма́лы, а яны́* [свінні] *вялі́кіе.*

**ВЯРНУ́ЦЦА** *зак.* Вярнуцца. *Іна́ туды́ пра́шла, аттуль ні вярну́лася, іи́é убі́лі.*

**ВЯРО́ЎКА** *ж.* Вяроўка. *С пло́сканьня́ў вяро́ўкі ві́лі. Зь іх* [канапель] *ві́лі во́жкі, вяро́ўкі. Яны́ былі крэ́пкіе-крэ́пкіе.*

**ВЯРСТА́** *ж.* ◊ ЗА ТАКЕ́Я ВЁРСТЫ. Надзвычай далёка, так далёка. *Ні магу́ за такé́я вёрсты везьць каля́со́.*

**ВЯРХО́ЎЯ** *н. зб.* Горшае палатно, пакулле з вярхоў ільнотрасты, пачаскі. *Лён, абадра́ны на грэ́бінь, называ́іцца вярхо́ўя. Вярхо́ўя каро́ціныкая, нікрэ́пкая.*

**ВЯРХУ́ШКА** *ж.* Вяршок, верхняя частка (дрэва, травы і пад.) *Яго́* [чарнобыля] *і вярху́шкі зьіда́юць, паку́ль сцéбіль éты ніта́ўсты́.*

**ВЯРШЫ́НА** *ж.* Вяршыня; верхняя частка чаго-н. *У дзéраві вярши́на – éта яго́ ма́каўка.* ВЯРШЫ́НКА *памянш. Вярши́нка шарханéцца ці заплятýцца сукі́, закру́цюцца, яны́ шарха́юцца друг аб дру́га, тады́ звук палуча́іцца.*

**ВЯСЕ́ЛЬЛЯ** *н.* Вяселле. *У скрысéньня вясéльля. А тут у Ва́лі памéрла ма́тка. Е́ты дзень со́рак дней* [будзе].

**ВЯСЁЛКА** *ж.* Неядомы грыб, які ў народнай медыцыне выкарыстоўваюцца як лекавы сродак. *Яны́, вясёлкі, ванючые такéя грыбы́. Яны́ расту́ць так: пачына́я рэсьць така́я балбу́ка, як яйцо́. Зь éстага іі́ца́ грыб тады́ расьцé.*

**ВЯСЁЛЫ** *прым.* Вясёлы, радасны. *Ба́бскіе та́нцы – тако́я вясёлая: по́лькі, страда́нія, кракавя́к, вальс, матлёты. Сьні́лася: я на гаро́дзі, і йдзець мой хло́пчык. Ён такі́ вясёлы.* ВЯСЁЛІНЬКІ *памянш. Стаі́ць кала по́граба, усьміха́іцца, такі́ вясёлінькі.*

**ВЯЧЭ́РА** *ж.* Вячэра. *На вячэ́ру ё хлеб, на сьнéданьня ні хва́ця.*

**ГАВАРЫ́ЦЬ** *незак.* Гаварыць, размаўляць, гутарыць. *Мне ж німа́ сь кім до́ма гавары́ць.* ◊ ГАВАРЫ́ЦЬ УСЯ́К. Абражаць, зневажаць. *Сама́ ні йдзець, што ж усяк гаво́ра на прэ́дзіху.*

**ГАДАВА́ЦЬ** *незак.* Гадаваць, выхоўваць. *Гадава́ла дзіцéй, а ён ніка́лі ў жы́зьні ні ўзяў на ру́кі дзіцёнка.*

**ГАДЗІ́ЦЦА** *незак.* Гадзіцца, быць прыгодным. *Сьвірэ́пку, калі́ маладая, каро́ва і ску́ся зьесьць, но длі ко́рма іна́ нікуда́ ні гадзі́цца. Сало́му* [з канапель], *іна́ бу́дзя то́ўстая, па па́льцу, папа́люць, íна нікуда́ ні гадзі́лася – така́я то́ўстая.*

**ГАЗ** *м.* Газа (паліва). *Газ ні паступа́я. Газ грам падступі́ў і ўсё – бо́лій ні падступа́я. На́да звані́ць, прасі́ць, каб прыéхалі.*

**ГАЛАВА́** *ж.* 1. Галава. *У ие* [дзяўчынкі] *про́ста была́ уся́ галава́ у баля́чках. Ка́ждая касі́нка на галавé у іé стая́ла, така́я во апу́хшая была́ галава́. У галавé шу́міць, гудзі́ць. Увéчары мая́ так забалéла галава́.* 2. Розум. *Як сын з галаво́й, дык бі́зьніс у яго́, усё у яго́.* 3. Гаспадар дома. *О, ты ціпéр зажывéш, як ста́ніш жыць біз галавы́ ў до́мі.* ◊ ПРЫКЛА́СЬЦЬ ГАЛАВУ́. Дадумацца, зразумець. *Но як яны́ туды́ узабра́лісь, галавы́ ні прыкладу́.* ◊ НАДУРЫ́ЦЬ ГАЛАВУ́. Надакучыць. *Ба́бі на́шай надаéсьць, яны́ наду́руць галаву́, дык іна́ ім: «Ідзі́ця ужо́ с ха́ты».* ◊ НІ ЙЦІ́ЦЬ У ГАЛАВУ́. Не заставацца ў памяці, не запамінаць. *Па́міць згубі́лася, ні йдуць мне ў галаву́ ні пéсьні, ні ба́сьні людзкéя, ніч́ога ні хачу́ ні чуць, ні ба́чыць.* ◊ НІ ВЫХО́ДЗІЦЬ З ГАЛАВЫ́. Заставацца ў думках, турбаваць. *Ні выхо́дзіць мне з галавы́, чаго́ Жук імсьці́ў Базыля́м.* ◊ НА ЎСЮ ГАЛАВУ́. Моцна, з усёй сілы. *Руга́юцца, крычы́ць Шу́ціха па-ўся́каму, па-ўся́каму на Іва́на, і так крэ́пка, на ўсю галаву́ пры людзя́х.*

**ГАЛАДЗЕ́ШЧА** *ж.* Вялікі голад. *По́сьлі вайны́ галадзе́шча така́я была́, дык і есьць хаце́лі бага́та.*

**ГАЛІХВЕ́** *н.* Галіфэ. *Штаны́-галіхве́ былі́ – цём-на-кары́чнівые, красі́вые.*

**ГАЛО́ЎКІ** *толькі мн.* Галоўкі; пярэдняя частка саней. *У са́нях то́я ме́сьцячка, што к каню́, йдзе пала-зы́ закру́чаныя, называ́юцца гало́ўкі.* ◊ У ГАЛО́ЎКАХ. Наперадзе ў санях. *Га́нна се́ла у гало́ўках.* ◊ У ГА-ЛО́ЎКІ. Тое ж. *Се́на у гало́ўкі накладзе́ш і пае́халі.*

**ГАЛУБАВА́ТЫ** *прым.* Блакітны, блакітна-шэры. *Дурні́цы буйнэ́я, яны́ таке́я, як галубава́тые.*

**ГАЛУ́ШКА** *ж.* Клёцка, пампушка. *Галу́шка – е́та та́я са́мая клёцка, а галу́шкі – суп такі́ з малако́м.* ГАЛУ́ШАЧКА *памянш.* *Бу́льбы надзяру́ць, крэ́пка, су́ха вы́ціснуць і дзе́лаюць іййе́ галу́шачкамі такі́мі нібальшэ́нькімі.*

**ГАЛЮЧКА, ГАЛЮШКА** *ж.* 1. Галінка. *Як пло́с-каньні – дро́бнінькіе галю́чкі. Галю́шка так хіста́іцца.* 2. Парастак. *Я галю́чку зь лісхо́за, па́растак, прыніслá.*

**ГАМАНІ́ЦЬ** *незак.* Гаманіць, гаварыць, расказ-ваць. *Гамані́лі тро́шкі. Німа́ с кім гамані́ць, дык я кармлю́ каго́ і гаманю́.*

**ГА́НАЧКІ** *толькі мн.* Прыступкі (у ганку). *А зна́ю харашо́, што ўсё па га́начкам так ідо́м і ідо́м.*

**ГАНЯ́ЦЬ** *незак.* Акучваць. *Ганя́іш, ты ж пато́п-чыш бу́льбу, цьвяткі́ бу́дзіш зьбіва́ць.*

**ГАНЯ́ЦЬ** *незак. перан.* Перабіраць кнопкі пульта, каб выявіць прычыну непаладак. *Я ні ба́чыла, што ён ганя́ў. Но пакавыра́ўся у пульту́, уключы́ў – цілівізар пашо́ў.*

**ГАРА́** *ж.* Гара, высокае месца, узвышша. *Про́ці Ігна́ся, дзе Ігна́т жыў, дзед Бабі́ч (Бабі́ч – ву́лашная і́мя) така́я была́ гара́, усё на ёй е́зьдзілі. Во́зьмуць ка́ры, пае́дуць каўза́цца на Губано́ву гару́.*

**ГАРАВА́ЦЬ** *незак.* Гараваць. *Сваццу́я па сваём гару́я, а я па сваём гару́ю.*

**ГАРА́ЧА** *прысл.* Горача; пра адчуванне цеплыні ад нечага, моцна нагрэтага. *Іва́н крычы́ць: «Мне гара́-ча, падажджы́ця, я загараджу́ ло́жкай, ніха́й прас-ты́ня».*

**ГАРА́ЧЫ** *прым.* 1. Гарачы, моцна нагрэты. *По́піл гара́чы абсыпа́іцца на кабана́, яно́ сма́ліцца, шчаці́на уся́ згара́я. Ні на́да ста́ўляць іх* [крывянкі] *у гара́чаю печ, штоб яны́ так ні трэ́скаліcь.* ГАРА́ЧЫНЬКІ *па-мянш.* *Іна́ пры́йдзя з рэ́чкі – пасірба́я гара́чыньніе* [бульбы]. 2. *н.* Гарачая, цёплая страва. *Ура́ньні гара́чага тро́шкі бо́лі зьём. Гара́чая п'ю – тады́ харашо́.*

**ГАРБУ́ЗЬНІК** *м.* Гарбузнік. *Гарбу́зьнік шчэ вы́-сахня: во́сінь бальша́я.*

**ГАРМО́НЬ, ГАРМО́НЯ** *ж.* Гармонь. *У на́шых двох гарманіста́ў гармо́нь была́ на двох адна́. З гармо́няй іду́ць. Ба́бы танцу́юць, пяю́ць.*

**ГАРНУ́ЦЦА** *незак.* Туліцца, гарнуцца, хіліцца. *Была́ б ты самастая́цільна, ты б гарну́лася да яго́.*

**ГАРО́Д** *м.* Агарод. *Ціпе́р усе́ гаро́ды загаро́д-жаны, а тады́ ад бо́льшага ско́ту жэ́рдкі якея́ хто прыця́гня. Пабе́гла туды́ на гаро́д пасадзі́ла хваcо́ль, што кіда́лі зямлю́.*

**ГАРО́ДНІНА** *ж. зб.* Агародніна. *Міро́ны сабе́ га-ро́дніны со́дзюць багачэ́нна.*

**ГАРТА́ЦЬ** *незак.* Перабіраць, пераграбаць. *Бу́ль-бу ссы́пім усю́ пад наве́с, а я тады́ бу́ду сама́ гарта́ць.*

**ГАРУСО́ЎКА** *ж.* Хуста, зробленая з гарусу. *На-су́шым, здава́лі – плато́к які́, гарусо́ўку ку́піш.*

**ГАРШО́К, ГАРШЧО́К** *м.* Гаршчок. *Гаршкі́ пры-во́зілі на ваза́х з Украі́ны. Жыць пачына́лі, а каб табе́ які́ гаршчо́к было́ купі́ць, яку́ю ло́жку, ві́лку.* ◊ ЯК ГАРШЧКО́Ў. Шмат, многа. *Насадзі́ў уну́каў на воз як гаршко́ў.*

**ГАСЬЦІ́НЕЦ** *м.* Гасцінец, пачастунак. *Хадзі́, я ж табе́ гасьці́нца дам. Гасьці́нцаў тады́ ні было́, і ні было́ за што купля́ць.*

**ГАСЬЦІ́ННІЦА** *ж.* Гасцініца, гатэль. *Каба́наў сын до́ўга жыў так у гасьці́нніцы, рабо́ты яму́ ні было́.*

**ГАТАВА́ЦЬ, ГАТО́ВІЦЬ** *незак.* Гатаваць, рыхта-ваць. *Чалаве́к жа вячэ́ру гату́я, на́да ж накупля́ць. Гусяня́так пашчу́ і ме́ста е́та гато́ўлю на гарбузы́. Там і мы́ла, і ры́ла, і гато́віла. Іна́ уме́ла харашо́ гато́-віць.*

**ГАТО́ВЫ** *прым.* Гатовы, падрыхтаваны (для па-садкі). *Як садзі́ць з раса́дніка* [расаду сасны] *іе́ ні рвуць, яна́ далжна́ быць гато́вай.*

**ГВОЗД** *м.* Цвік. *Пад наве́с пашла́, узяла́ гвазды́ў і дзьве до́скі і забі́ла.*

**ГІ́ДКІ** *прым.* Агідны, брыдкі. *Напіла́ся Ма́нька на хаўту́рах, стра́шная така́я, гі́дкая, ру́кі німы́тые.*

**ГЛА́ДКІ** *прым.* 1. Поўны, тоўсты, дагледжаны. *Ні́нка Мака́рава така́я гла́дкая ціпе́р – у дзьве́ры чуць прала́жая. Гла́дкі то́лькі. Ой-ой. Гла́дкі хло́піц, таў-сты́.* □ *У каго́ ма́тка, у таго́ гало́ўка гла́дка* (або: □ *Паку́ль ма́тка, гало́ўка гла́дка*).

**ГЛО́ТКА** *ж.* Глотка. □ *Мя́ніны і ўго́дкі – усё для гло́ткі.*

**ГЛУПЯЧО́К** *м. ацэн.* Дзівак. *Во ўжо глупячо́к малы́, чаго́ ён ні есьць мя́са.*

**ГЛУХІ́** *прым.* ○ ГЛУХА́Я КРАПІ́ВА. Глухая кра-піва. *Глуха́я крапі́ва ні стрыка́іцца, но таке́я шпы́лькі на ёй во́йстрые, што й то́жа нільзя́ ўзяць у ру́кі.*

**ГЛЫБІНА́** *ж.* Глыбіня. *Ко́рань* [плюшчаю] *– ні давядзі́ гаспо́дзь, за тры ме́тры бу́дзя у глыбіну́ сядзе́ць.*

**ГЛЫБО́КА** *прысл.* Далёка, у далечыні ад густа-населеных мясцін. *Мо́жа йдзе ў лясьсі́, йдзе бо́лі так глыбо́ка, мо́жна і назьбіра́ць мясшо́к араха́ў, у нас не.*

**ГЛЫ́ЖКА** *ж.* Камяк (снегу). *Зімо́й гуля́лі у глы́жкі.*

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ** *незак.* 1. Глядзець (накіроўваць зрок). *Па маладзіку́ глядзе́лі, яка́я бу́дзя паго́да.* 2. Гадаваць, выхоўваць. *Ім не́калі дзіце́й глядзе́ць: ско́ту сто́лькі дзіржа́ць.*

**ГЛЯ́НУЦЬ** *незак.* Глянуць, накіраваць зрок. *Зна́ю: стая́лі ві́лкі у вуглу́, гля́нула – нійдзе́ німа́, прапа́лі.* ГЛЯДЗЬ. Хутка, імгненна глянуць. *Глядзь: а ўсі ўзялі́ – пае́лі.*

**ГНАЦЬ** *незак.* 1. Пасвіць. – *Табе́ во́чарадзь сёдні каро́ў гнаць? – Ага́.* 2. Займацца перагонкай. *У смаля́-ным заво́дзі дзёгаць гна́лі.*

**ГНІЛУ́ШКІ** *мн.* Гатунак груш. *Етые ігру́шы, што гнілу́шкі называ́юць, мя́ккіе.*

**ГНОЙ** *м.* Гной, угнаенне. *Гной на про́са ні на́да. Яны́ так бая́ліся гно́ю, да нівазмо́жнасьці.*

**ГНЯЗДО́** *н.* 1. Гняздо. *У нас ла́ставачкі зьвілі гняздо́ пад страхо́й.* □ *Ка́ждая пту́шка сваё гняздо́ сьціражэ́ць.* 2. Гняздо, паглыбленне, у якое штосьці змяшчаецца. *Гняздо́ – што ю́шку упуска́іш, кладзе́ш кружо́к.*

**ГОД** *м.* Год. *Год на год ні слу́жа. Іх* [брусніц] *у тэй год было́ бага́та, мы набра́лі.* ◊ ГОД АД ГО́ДА. Паступова, з кожным годам. *Год ад го́да ста́лі украпля́цца у жы́зьні бо́ляй.*

**ГО́ЛАС** *м.* Голас. *У Хрысьці́ны, з Гаўры́лькавых е́тых, го́лас са́мы красі́вы быў.*

**ГО́РКІ** *прым.* Горкі. *Палы́н сі́льна го́ркі. Табле́тка была́ нівынасі́ма го́ркая.*

**ГРА́БАЦЬ** *незак.* Плывучы, рабіць рухі рукамі. *Я пача́ла гра́бацЬ, но міне́ ні наве́рх, а наніз пацягну́ла.* ГРАБ. Плывучы, рабіць хуткія рухі рукамі. *Усе́ дзіўча́ткі рука́мы гра́бають, як жа́ба, – граб-граб.*

**ГРАМ** *м.* ◊ НІ ГРАМ. Зусім. *Ні есьць се́на ні грам.*

**ГРАМКАТА́** *ж.* Гучнасць, добрае гучанне, звонкасць. *У ле́сі грамката́ така́я, то дзе́рава як шархане́цца, то і пішчы́ць.*

**ГРА́НУЛЫ** *мн.* Пасяўное насенне ў форме гранулаў (пра буракі). *Даў гра́нулаў е́тых сасе́д.*

**ГРА́НУЦЬ** *зак.* Кінуць у роспачы, бразнуць. *Ні палучы́лась, я кі́нула, гра́нула – ўсё, луччы́ пайду́ падграба́ць.*

**ГРАШЫ́ЦЬ** *незак.* Ускласці віну. *Німа́* [цукру] – *на каго́ грашы́ць? На каго́ ты пагрэ́шыш?*

**ГРОМ** *м.* Гром. *Куды́сьця ішлі́, загрыме́ў гром, і з на́мы като́рые ба́бы былі́, яны́ крыча́ць: «Лажы́цісь, па́дайця на зямлю́, штоб жыво́т ні бале́ў».*

**ГРО́ШЫ** *толькі мн.* Грошы. *Ён* [сват] *заплаці́ў, гро́шы даў.*

**ГРУ́БКА** *ж.* Грубка; невялікая пакаёвая печ для абагрэву. *Гру́бкі піраклáлі, вы́бялілі.*

**ГРУ́ДЗІ** *толькі мн.* 1. Грудзі; пярэдняя частка тулава. – *Я шчас е́тым нажо́м, – і к грудзя́м яму́.* 2. Малочныя залозы ў жанчыны. *Як прышла́ к ма́цы, гру́дзі разьнясло́, і ціміпрату́ра, і нізьве́сна што.*

**ГРУ́КАЦЬ** *незак.* Грукаць, стукаць. *Ні чу́ла нічо́га: ці хто хадзіў, ці хто крычэ́ў, ці сту́каў, ці гру́каў.*

**ГРЫБО́К** *м.* Грыбок, паразітны грыб. *У ха́ці заво́джаіцца грыбо́к, ён то́ча ха́ту. Асо́бінна грыбо́к на ні́зкіх мі́стах заво́дзіцца.*

**ГРЫБЫ́** *мн.* Грыбы. *Па ве́расу баравікі́ расту́ць, грыбы́ – падаба́бкі, сураве́жкі, лісі́чкі, падасі́навікі. Ужо́ к канцу́ ма́я, нача́ла і́юня начну́ць масля́ты і сьві́ньні, і лісі́чкі. Е́та ра́ньніе такé́я грыбы́.*

**ГРЫ́ВА** *ж.* Прадаўгаватае ўзвышша. *Там гры́ва бальша́я, там бы́стра вада́ спада́я.*

**ГРЫ́ЖА** *ж.* Жаўлак, гуз, грыжа. *Гры́жа усю́дах быва́я, як у каго́. У Жу́кавага у сьпіне́.* ○ ХАДАВА́Я ГРЫ́ЖА. Від грыжы. *На́дзя ка́жа, што е́та ў міне́ хадава́я гры́жа, іна́ й хо́дзя па ўся́му жывату́.*

**ГРЫЗА́НІК** *м.* Рэшткі чаго-н. пасля грызення (ежы). *Мы́шы бу́льбу патачы́лі, грыза́нікі е́тые гнію́ць. Бага́та ў міне́ рабо́ты ў я́мцы.*

**ГРЭ́БАЦЬ** *незак.* Грэбаваць. *І́на нічы́м ні грэ́бала, што на стале́ стаі́ць, то́я й есьць бу́дзя.*

**ГРЭ́БЛЯ** *ж.* Грэбля. *Чэраз грэ́блю быў мост.*

**ГРЭСЬЦЬ** *незак.* Збіраць. *Па крыні́цы грабу́ць ра́ску, а йна ж па́хня ры́бай і сьві́ньні йе ідзя́ць.*

**ГРЭХ** *м.* Грэх; нядрэнна б было. *Ра́зьві ж быў грэх тваі́м дзіця́м пазвані́ць?* ◊ ГРЭХ НАКЛА́СЬЦЬ. Абвінаваціць у зладзействе. *Цап-лап – ліжа́ць ко́лам ты́е гро́шы. А я на яго́* [гаспадара] *грэх накла́ла.*

**ГРЭ́ЦКІ** *прым.* Грэцкі, з грэцкіх круп. *Грэ́цкіе бліны́ уку́сные-уку́сные.*

**ГРЭ́ЧКА** *ж.* 1. Грэчка; расліна. *Грэ́чка цьвіце́ по́зна.* 2. Зерне з грэчкі. *Грэ́чку мало́лі на муку́. У начо́ўках таўклі́ про́са, пшані́цу, грэ́чку і пала́лілі. На па́раніну се́юць то грэ́чку, то́ проса, таке́я культу́ры.*

**ГУБА́** *ж.* Губа. *Гу́бы ўсы́палі не́йкіе баля́ўкі.* ◊ ГУБА́ АДНА́. Посны. *Ні ста́ла дзе́лаць е́тых гусе́й: яны́ губа́ адна́, ну по́сные.*

**ГУБІ́ЦЬ** *незак.* Забіваць. *Лю́дзі нівінава́тыя, за што йіх гу́бюць, малады́х.*

**ГУДЗЕ́ЦЬ** *незак.* Гусці, рохкаць. *Сьві́ньні пае́лі і ру́хаюць, гуду́ць, як гудкі́.*

**ГУЗЬНЯ́** *ж.* Прамая кішка. *Гузьня́, йдзе кал выхо́джая. Асо́бінна як атраўле́ньня да ўзду́ція, гаво́ра чалаве́к: на́да так атраві́ўся, што гузьня́ вы́лізла.*

**ГУЛЬНЯ́** *ж.* Гулянка, вечарынка. *Начына́юць гу́льні: сазыва́юць усі́х дзіце́й на чэсьць. Гульня́ зако́нчылася да заўтра́га.*

**ГУЛЯ́КА** *агульн.* Лайдак, труцень. *Я ні гуля́ка ніякая. Рабо́тала, стара́лася.* 2. Гуляка, весялун. *Дзя́дзька Ігна́т, як і ўсе Калі́стравы, ён любі́ціль пагуля́ць, гуля́ка, пяву́н.*

**ГУЛЯ́ЦЬ** *незак.* 1. Гуляць, адпачываць. *Сама́ гуля́ю, ужо́ ж тры дні гуля́ю.* 2. Хадзіць па гулянках, праводзіць час. *І так тры дні гуля́юць. Людзе́й было́ бага́та, да ско́лькі пе́сін.* 3. Веснаваць (пра курэй і іншых птушак). *Гусі́ ста́нуць з гусако́м гуля́ць – яны́ малады́х гусе́й зганя́юць з двара́.*

**ГУ́МАВЫ** *прым.* ○ ГУ́МАВЫ КО́РАК. Корак з коркавага дрэва. *Зь яго́* [коркавага дрэва ?] *дзе́лаюць гу́мавые про́бкі, што віно́ закрыва́юць.*

**ГУРКО́ЎНІК** *м.* Агурочнік. *Гурко́ўнік сарва́ла.*

**ГУРО́К** *м.* Агурок. *Зра́зу гурко́ў пе́рвых кіда́іш на насе́ньня, і яны́ ліжа́ць, вон паку́ль ссо́хня наці́на.*

**ГУРО́ШНІК** *м.* Агурочнік. *Як ста́лі гуркі́, то ба́ба пастая́нна абсыпа́ла гуро́шнікам, цьвіта́мі сы́на свайго́.*

**ГУСА́К** *м.* Гусак. *Йдзе два гусакі́, гуса́к адзі́н аднаго́ начына́юць зьбіва́ць.*

**ГУСЁНАК** *м.* Гусяня, гусянё. *Разаб'ю яе́чка – усе́ з гусяня́тамі. Гусяня́так пашчу́ і ме́ста е́та гато́ўлю на гарбузы́.*

**ГУСЯ́** *н.* Гусяня, гусянё. *Сыму́ гусь: ні бу́дзя то́га гуся́.*

**ГУШЧЭ́ННЫ** *прым.* Вельмі густы. *Былі́ таке́я ко́сы гушчэ́нные, што іх у жме́ню ні́льзя было́ ўзяць – таке́я гушчэ́нные.*

**ГЫРЧЭ́ЦЬ** *незак.* Гыркаць, пакрыкваць, лаяцца. *Сасе́дка мая́ ка́жны дзень на Мі́колу свайго́ гырчы́ць і гырчы́ць.*

*С. П. Кусянкова*

## ЛУЧЫНСКІ СЛОЎНІК
## (З лексікі вёскі Лучын Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці)

С. П. Кусянкова, карэнная жыхарка в. Лучын, па сваіх прафесійных занятках і адукацыі не з'яўляецца філолагам, яе працоўны шлях быў звязаны з сельскагаспадарчай вытворчасцю. Але характар працы не засланіў галоўнага жыццёвага інтарэсу жанчыны – любові да роднага краю, яго гісторыі, духоўнай культуры народа. Улюбёнасць у роднае слова, жаданне і ўменне расказаць суайчыннікам пра прыгоды лучынцаў і іх жыццё падштурхнулі да працы са словам. У газеце «Звязда» дзякуючы ініцыятыве яе супрацоўнікаў, прынамсі асабістай зацікаўленасці А. Дзядзюлі, вядзецца адметная рубрыка «Слоўніца». Шматлікія і разнастайныя лексічныя матэрыялы з гаворкі в. Лучын даслала і дасылае ў газету С. П. Кусянкова. Даведаўшыся праз газету, а таксама праз перадачы на беларускім радыё, што ў Інстытуце мовы і літаратуры НАН Беларусі пачынаецца вялікая навуковая праца – складанне «Зводнага слоўніка беларускіх народных гаворак» – сабраныя мясцовыя моўныя набыткі яна прапанавала аддзелу дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Інстытута.

Лучынская лексічная падборка С. П. Кусянковай не адпавядае цалкам патрабаванням навуковай лексікаграфічнай працы. У аматарскім слоўнічку фактычна адсутнічаюць тэкставыя ілюстрацыі, толькі асобныя лексемы суправаджаюцца прыкладамі. Апошняе не дазваляе вызначыць ступень дакладнасці і правільнасці значэння слоў, пазбаўленых кантэксту. Разам з тым, нягледзячы на адсутнасць кантэкстнага суправаджэння, і такія словы ўключаны ў выданне. Па-першае, аналіз слоўных матэрыялаў С. П. Кусянковай шляхам іх супастаўлення з наяўнымі ў нацыянальным мовазнаўстве лексікаграфічнымі і іншымі крыніцамі паказаў, што прапанаваная аўтарам семантыка лексем у большасці выпадкаў устаноўлена дакладна. Па-другое, асобныя з абазначальных сродкаў лучынскага слоўніка належаць да рэдкаўжывальных і малавядомых у дыялекталогіі. Таму іх адлюстраванне нават як фіксацыя матэрыялу – гэта найперш увядзенне ў навуковы ўжытак новай каштоўнай інфармацыі, запатрабаванай у мовазнаўстве і, акрамя таго, узбагачэнне нашых ведаў пра беларускую лексіку.

Матэрыялы лучынскага слоўнічка маюць у асноўным адаптаваную да літаратурных нормаў форму запісу, аднак асобныя з лексем ужываюцца ў гаворкавай форме. У публікацыі аўтарскі запіс слоў захоўваецца.

Гаворка вёскі Лучын комплексам моўных асаблівасцей належыць да сярэднебеларускіх гаворак паводле іх дыялектнага ці этнагенетычнага статусу, паводле занальнага падзелу ўваходзіць у склад гаворак паўднёва-ўсходняй моўнай зоны. Прыналежнасць лучынскай гаворкі да гаворак сярэднебеларускага тыпу абумоўлівае яе моўную спецыфіку, сутнасць якой у тым, што шматлікія асаблівасці беларускай дыялектнай мовы, якія з'яўляюцца нарматыўнымі ў яе літаратурным варыянце, таксама выступаюць у мясцовым маўленні. Разам з тым, як і ў кожнай лакальнай дыялектнай сістэме, у лучынскай гаворцы ёсць тое, што нейкай рысай, адметнасцю ў вымаўленні асобных гукаў ці іх спалучэнняў або марфалагічных формаў вылучае яе сярод гаворак навакольных вёсак. Якраз на гэтыя асаблівасці і зважае назіральны чалавек. Некаторыя з такіх мясцовых лучынскіх асаблівасцей адзначыла С. П. Кусянкова.

Характэрнай асаблівасцю мясцовай гаворкі з'яўляецца вымаўленне слоў тыпу: *б'ёрда*, *м'ёд*, *п'ёс*, *в'ёдры*, *падў'ёў*, *аў'ёс*, *ваў'ёрка*, *м'якнуцца*, *м'яккі*, *кам'як*, *сп'яць*, *заў'язуваць*, *п'якнуцца*. Цвёрдае вымаўленне губных зычных *б*, *п*, *м*, *в*, *ў* у становішчы перад наступнымі націскнымі галоснымі *а*, *о* замест іх мяккіх адпаведнікаў у літаратурным ужытку – адметная рыса, уласцівая слуцка-мазырскім, ці ўсходнепалескім, гаворкам паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы. У сярэднебеларускіх гаворках паўднёва-ўсходняй лакалізацыі такая асаблівасць адносіцца да ліку спарадычных моўных з'яў і не мае сістэмнага характару. Інфармацыя пра такую адметнасць мясцовага вымаўлення тым больш цікавая, што в. Лучын з'яўлялася адным з н. п., які спецыяльна

абследаваўся навукоўцамі пры збіранні матэрыялаў для дыялекталагічнага атласа (на картах ДАБМ в. Лучын пазначана № 604), аднак у каментарыях да лінгвагеаграфічных картаў № 50, 51 звесткі наконт фіксацыі падобнага тыпу рэалізацыі губных у лучынскай гаворцы адсутнічаюць.

Выразную дыялектную асаблівасць у гаворцы складае функцыянаванне формаў тыпу *указуваць, выверачуваць, абматуваць, разбуруваць, разнехаюваць, настаюваць, настраюваць, успакаюваць, выкраюваць.* З'яўленне губнога галоснага *у* на месцы негубнога галоснага пры суседстве губнога (-ых) зычнага – з'ява шырока распаўсюджаная ў беларускім дыялектным вымаўленні, у тым ліку і ў гаворках паўднёва-ўсходняй лакалізацыі. Адметнасць лучынскай гаворкі выяўляецца ў наступным. Галосны *у* выступае тут у складзе дзеяслоўнага суфікса *-ува-* (*-юва-*), тым самым яго рэалізацыя абумоўліваецца якасцю наступнага суседняга зычнага *в*, інакш кажучы, мае пазіцыйны характар. Якасць жа папярэдняга зычнага кораня не ўплывае на якасць галоснага ў складзе суфікса.

Да ліку яскравых рыс мясцовай гаворкі адносіцца тут і ўжыванне граматычных формаў назоўніка як *хвостам, мостам, гвоздам* і да т. п. Асобасць адзначаных слоў у захаванні націску на корані, яго нерухомасці пры змене склонавай формы слова. Такая адметнасць у пастаноўцы націску ў слове належыць не толькі лучынскай гаворцы. Навукоўцамі і даследчыкамі-аматарамі яна адзначалася таксама і ў іншых гаворках паўднёва-ўсходняй зоны. Разам з тым, вывучэнне характару і асаблівасцей акцэнталагічнай сістэмы дыялектаў беларускай мовы застаецца тэмай мала распрацаванай у нацыянальным мовазнаўстве, таму нельга пакуль што дакладна адзначыць арэалы ўжывання падобных націскных словаформаў.

Некаторыя іншыя асаблівасці гаворкі лучынцаў адлюстраваліся таксама ў пададзеным ніжэй слоўніку.

**АБРЫХА́НЫ** *дзеепрым.* Абадраны.

**АБСЛА́ВІЦЬ** *незак.* Абняславіць, зняважыць.

**АБЫ́** *часц.* ◊ АБЫ́ ГО́СПАДЗІ (зрабіць, працаваць). Дрэнна, абы-як.

**АБЫЙСЦІ́** *зак.* ◊ АБЫЙСЦІ́ СЕМ СЁЛ І ПА́НСКІ ДВОР. Абысці шмат.

**АБЫ́РАЦЬ** *зак.* Набрацца моцы, падужэць.

**АБЫЙСЦІ́СЯ** *зак.* Уступіць у сілу праз тры дні пасля надыходу квадры (пра месяц). *Маладзі́к* [або іншая квадра] *абыйшо́ўся.*

**АДКАЛУПІ́ЦЦА** *зак.* Адчапіцца, адстаць.

**АДСТА́ЦЬ** *зак.* ◊ АДСТА́ЦЬ АД РУК. Ператаміцца, выбіцца з сіл (?)[1].

**АДЧУРА́ЦЦА** *зак.* Адмаўляцца, адракацца.

**АДЫСЦІ́** *зак.* Закончыцца, перастаць расці. *Адышлі́ грыбы́.*

**АЖАГНУ́ЦЬ** *зак.* Абразіць, пакрыўдзіць, апячы словам.

**АКРА́З** *прысл.* Якраз.

**АПІЯ́КА** *агульн.* П'яніца.

**АПО́Й** *м.* 1. Цяля на выпойванні. 2. П'яніца.

**АПО́ЕК** *м.* Тое ж.

**АПО́ЛТАНЫ** *прым.* Апантаны.

**АПО́РКІ** *мн.* Абутак без халяў; чаравікі.

**АТЛЁТ** *м.* Зух, шаляніца.

**БА́БСКІ** *прым.* ◊ РАБІ́ЦЬ БА́БСКАЙ СПРА́ВАЙ. Пра працу жанчыны, зробленую без мужчынскай падтрымкі.

**БАГА́ТЫ** *прым.* Багаты, багач. □ *Бага́таму і чорт дзяцёй калы́ша.*

**БІЦЬ** *незак.* Біць, лупцаваць. □ *Бі свой свайго́, каб чужы́я бая́ліся.*

Выслоўе ўжываецца, як з'едлівая ацэнка непаразумення паміж сваякамі[2].

**БО́КАМ** *прысл.* ◊ ВЫ́ЛЕЗЦІ БО́КАМ. Не прайсці дарэмна, кепска скончыцца для некага.

**БРА́ЗНУЦЬ** *зак.* Бразнуць, гакнуць, з сілай кінуць.

**БУТ** *м.* Боты, бот. □ *Адзі́н ла́паць, другі́ бут.*

Выслоўе ўжываецца, калі нехта незаможны, маламаёмасны хоча паказаць сваю шляхетнасць.

**БЫЧЫ́ЦЦА** *незак.* ◊ НІ БЫЧЫ́ЦЦА НІ ЦЕ́ЛІЦЦА. Ні тое ні сёе.

**ВАДА́** *ж.* Вада. □ *За вадо́ю, як за бядо́ю.*

Выслоўе ўжываецца, калі падкрэсліваецца немагчымасць пільнай патрэбнай дапамогі.

**ВАЛЯ́ЦЦА** *незак.* ◊ ВАЛЯ́ЦЦА Ў ВО́ЧЫ. Насміхацца з некага, зневажаць некага.

**ВАРО́НА** *ж.* ◊ ЯК ВАРО́НА ЗАГУМЁННАЯ (сядзіць). Пра някемлівага, неразумнага, нехлямяжага чалавека.

**ВЕ́ТРЫЦЦА** *незак.* Апранацца лёгка, не па сезоне.

**ВО́ГІРАМ** *прысл.* ◊ ГЛЯДЗЕ́ЦЬ ВО́ГІРАМ. Злосна, з недаверам.

**ВО́ЖАГ** *м.* ◊ *Но́сіцца, як чорт з во́жагам.* Пра хвалько, які нешта выстаўляе напаказ.

[1] Знак пытальнік ставіцца пры немагчымасці дакладна вызначыць значэнне слова, выразу ці пры няўпэўненасці ў правільнасці ўстаноўленага значэння.

[2] Заўвагі наконт ужывання выслоўяў і іх абагульненага значэння належаць аўтару.

**ВО́ЛАС** *м.* Валасы. □ *Чужую бяду па воласу развяду.* ◊ НА ВО́ЛАС. Нікольні, зусім (не заснуць, не спаць). *На волас не заснула.*

**ВО́МЕГАМ** *прысл.* ◊ ВЫ́ЛЕЗЦІ ВО́МЕГАМ. Не прайсці дарэмна.

**ВУ́ГАЛ** *м.* Вугал. □ *Шукаць пяты вугал.*

Выслоўе ўжываецца, каб падкрэсліць нявызначанае жаданне, магчыма, і нездзяйсняльнае.

**ВУЖА́ЎКІ** *мн.* Неядомыя ядавітыя грыбы.

**ВЫДЗЕ́ЛУВАЦЦА** *незак.* Вытвараць, вычвараць, выраблявцца.

**ВЫ́ДУРЫЦЬ** *зак.* Выманіць, выпрасіць.

**ВЫ́КАЗАЦЦА** *зак.* Выказаць думку, меркаванне. □ *Выказаўся – і пад стол.*

Выслоўе ўжываецца, калі чалавек не з'яўляецца гаспадаром свайго слова, думкі.

**ВЫКІ́ДВАЦЬ** *незак.* ◊ ВЫКІ́ДВАЦЬ КО́НІКІ. Рабіць, казаць нешта недарэчнае; строіць жарты; выхваляцца.

**ВЫ́ЛЮДНЕЦЬ** *зак.* Папрыгажэць, паправіцца.

**ВЫ́МАНІЦЬ** *зак.* Выманіць, выпрасіць, выцягнуць абманам, хітрыкамі.

**ВЫ́ПРАСТАЦЦА** *зак.* Выпрастацца, памерці.

**ВЫ́РАКНУЦЦА** *зак.* Вырачыся.

**ВЫСТАНЧА́ЦЬ** *незак.* Зберагаць нешта праз эканомію.

**ВЫ́ТНУЦЬ** *зак.* Выцяць, ударыць, стукнуць. *Паспрабуй толькі вытні мяне.*

**ВЫЦІРА́ЛЬНІК** *м.* Ручнік.

**ВЫ́ЦЯЦЬ** *зак.* Выцяць, моцна ўдарыць.

**ВЯСЕ́ЛЛЕ** *н.* ◊ НАГАТАВА́ЦЬ ЯК НА МАЛА́НІНА ВЯСЕ́ЛЛЕ. Нарыхтаваць шмат.

**ГАНАШЫ́ЦЦА** *незак.* Мітусіцца.

**ГА́НІЦЬ** *незак.* Ганьбіць, зневажаць.

**ГАТАВА́ЦЬ** *незак.* Гатаваць, рыхтаваць. □ *Умела гатаваць, ды не умела падаваць.*

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ** *незак.* ◊ ГЛЯДЗЕ́ЦЬ ЯК СА́РА Ў ГРО́ШЫ. Не разумець сэнсу сказанага.

**ГО́РНІЦА** *ж.* Хата, дом. □ *Наша горніца з Богам не спорніца.*

Выслоўе ўжываецца, калі ў хаце паляць мала, без уліку тэмпературы на дварэ.

**ГРО́ШЫ** *мн.* ◊ ІЗНО́Ў ЗА РЫ́БУ ГРО́ШЫ. Надакучліва паўтараць ужо вядомае.

**ГУЖА́ВЫ** *прым.* Улежаны (пра плод).

**ГУРТАВЫ́** *прым.* Агульны. □ *Гуртавое – чартавое.*

**ДАТУ́МКАЦЦА** *зак.* Дадумацца, зразумець.

**ДАЎГУ́ЛЬ** *м.* Высокі (пра чалавека).

**ДА́ЦЦА** *незак.* ◊ НЕ ДА́СЦА ГАВАРЫ́ЦЬ. Ухіляцца ад размовы.

**ДАЦЬ** *незак.* 1. Адлупцаваць, набіць. □ *Удваіх – не адзін, як дагонім, дык дадзім.* ◊ ДАЦЬ ЯК МЕ́НДЗЕЛЬ ГЛІ́СНІКУ. Даць вельмі мала, неістотную колькасць. ◊ ДАЦЬ ГАЙДА́РА. Адлупцаваць.

**ДЗЁБАМ** *прысл.* 1. ◊ СЯДЗЕ́ЦЬ ДЗЁБАМ. Не расці (пра расліну). 2. Заставацца нерухомым; не мець змен пры хваробе.

**ДУБАДЗЕ́Л** *м. эмац.-ацэн.* Нялоўкі, няспрытны чалавек.

**ДУКАВА́ЦЬ** *незак.* Навучаць.

**ДУХ** *м.* ◊ ДУХ НЕ ДЫ́ША. Быць у трывозе, хваляванні, баяцца нечага.

**ДЫ́ХАННЕ** *н.* ◊ ЧАСЦЕ́Й ДЫ́ХАННЯ. Надта часта (узгадваць, гаварыць).

**ЖА́БА** *ж.* ◊ ДРА́ЦЦА ЯК ЖА́БА НА КОРЧ. Задзірацца, прыставаць.

**ЖАЛЕ́ЦЦА** *незак.* Лашчыцца.

**ЖА́ЛКА** *прысл.* Шкода. □ *І з'есці гадка і выкінуць жалка.*

**ЖЫ́ЖА** *ж. эмац.-ацэн.* Простая, прымітыўная ежа. □ *Такую жыжу і дома віжу.*

**ЗАБЕГА́ЦЬ** *зак.* Апераджаць словы, жаданні некага.

**ЗАДРЫ́ПАНЫ** *прым.* Задрыпаны, запэцканы, брудны, неахайны.

**ЗАКАПЁРШЧЫК** *м.* Закапёршчык, завадатар, верхавод.

**ЗАКАПЫ́ЛІЦЦА** *незак.* Надзьмуцца; зафанабэрыцца.

**ЗАКЛЯ́КНУЦЬ** *зак.* Занямець, адзеравянець, страціць адчувальнасць. *Ногі закляклі, рукі закляклі.*

**ЗАЛЫГНУ́ЦЬ** *зак.* Прасунуць, звязаць. *Залыгнуць супонь.*

**ЗАНІМА́ЦЬ** *незак.* Перапыняць (для размовы).

**ЗАНЯ́ЦЬ** *зак.* Перапыніць (для размовы).

**ЗА́РАЗ** *прысл.* Зараз. □ *Твой сівас, як жыдоўскі зараз.*

Выраз ужываецца, каб падкрэсліць няхуткае выкананне абяцанага.

**ЗАСМАЛЬЦАВА́ЦЬ** *зак.* Зашмальцаваць, забрудзіць.

**ЗАТУ́РКАНЫ** *прым.* Затуканы, зацюканы, забіты.

**ЗАТУ́РКАЦЦА** *зак.* Закорпацца, заняцца справай.

**ЗАЦУРАВА́ЦЬ** *зак.* Зацыраваць, залапіць, зашыць.

**ЗАЧАПІ́ЦЬ** *зак.* Зачапіць, дакрануцца. ◊ ЗАЧАПІ́ЦЬ РУ́КІ. Заняцца чым-небудзь, знайсці які-н. занятак. *Няма за што рукі зачапіць.*

**ЗАША́РХ** *м.* Тонкі слой лёду.

**ЗАША́РХНУЦЬ** *зак.* Зашэрхнуць; замерзнуць, пакрыцца тонкім лёдам.

**ЗАЮШЫ́ЦЦА** *зак.* Замітусіцца.

**ЗБЭ́СЦІЦЬ** *зак.* Зганьбіць, зняславіць.

**ЗБЯЁДАЦЦА** *зак.* 1. Страціць (пра розум). *Зусім розум збяёдаўся.* 2. Пакалечыцца.

**ЗБЯЁДАЦЬ** *зак.* 1. Сапсаваць. *Ну хіба можна так абыходзіцца з рэччу? – Ты ж яе збяёдаеш.* 2. Пакалечыць. *І трэба ж было так збяёдаць руку.*

**ЗВЯ́ГА** *ж.* Звяга. □ *Воўк сабакі не баіцца, а звягі не любіць.*

**ЗДЗІВІ́ЦЬ** *зак.* Сурочыць.

**ЗЕ́МСКІ** *м.* ◊ ДЗЯЛО́Ў ЯК У ЗЕ́МСКАГА. Шмат, многа.

**ЗНАК** *м.* Знак, метка, след. □ *На казаку няма знаку.*

Выслоўе ўжываецца як папярэджанне дзяўчатам пры любошчах з хлопцамі.

**ЗНІ́ЦІЦЦА** *зак.* Змізэрнець, мець бездапаможны выгляд.

**ЗЫКАВА́ЦЬ** *незак.* Нерваваццa, злавацца, знаходзіцца ў стане нервовага ўзрушэння (пра чалавека).

**КАПШУКО́М** *прысл.* ◊ З КАПШУКО́М (накласці, насыпаць). З верхам.

**КАРА́ЦЬ** *незак.* Дакараць, ушчуваць, незлабліва лаяць.

**КАРЦЕ́ЦЬ** *незак.* Непакоіць, хваляваць.

**КЛО́ПАТ** *м.* Клопаты, турботы. □ *Не ме́ла ба́ба кло́пату – купі́ла парася́.*

**КЛО́ПАТ** *часц.* ◊ А КЛО́ПАТ ЯГО́. Няхай сабе.

**КО́КАТ** *м.* Тоўстая галіна, сук.

**КО́ПТУРАМ** *прысл.* ◊ З КО́ПТУРАМ (накласці, насыпаць). З верхам.

**КРЫВАТА́** ж. Крыўда, сваркі; зайздрасць.

**КРЫЧА́ЦЬ** *незак.* ◊ КРЫЧА́ЦЬ НЕ СВАІ́М МА́ТАМ. Моцна, голасна (крычаць) з-за бяссілля, адчаю.

**КУ́БЛІЦЦА** *незак.* Мітусіцца, круціцца на адным месцы.

**КУЁЎДЗІЦЦА** *незак.* Тое ж.

**КУ́ЧА** *ж.* ◊ ВО́КА Ў КУ́ЧЫ НЕ БЫЛО́. Пра стан, калі чалавек не самкнуў вачэй.

**ЛА́ДЗІЦЬ** *незак.* Дагаджаць. *Ладзь яму́.*

**ЛАЦВЕ́Й** *прысл.* Лаўчэй, зручней. *Садзісь лацьвей.*

**ЛЕ́ТАНКА** *ж.* Альтанка.

**ЛЁД** *м.* ◊ ЯК ЛЁДУ. Дакладна, роўна столькі, колькі названа. *Тут сто кілагра́м як лёду.*

**ЛЯ́БЕХ** *м.* Лайдак, абібок, гультай.

**ЛЯ́ДА** *н.* Ляда; участак лесу, які распрацоўваўся пад поле, сенажаць. □ *Пабыла́ Хі́ма ў ля́дзе.*

Выраз ужываецца, калі гаворка датычыцца лайдакаватай жанчыны, якая, не робячы працы, заяўляе, што стамілася.

**МАЛЯ́К** *м.* ◊ ХАЙ ЦЯБЕ́ МАЛЯКІ́ ВО́ЗЬМУЦЬ (праклён). Пажаданне няшчасця, гора (пры сварцы, лаянцы).

**МАРАКАВА́ЦЬ** *незак.* Меркаваць.

**МАРДАВА́ЦЦА** *незак.* Прыкладваць вялікія намаганні, высільвацца.

**МАЎМЫ́РА** *ж.* Сярдзіты, надзьмуты чалавек.

**МЕ́СЯЧКА** *м.* Месяц.

**МЕХ** *м.* ◊ ЯК ПО́ МЕХУ (біць). Бязлітасна, жорстка.

**МІ́ТУЛЕМ** *прысл.* Хутка, імгненна.

**МО́ДА** *ж.* ◊ УЗЯ́ЦЬ МО́ДУ. Мець звычку.

**МО́КРЫ** *прым.* ◊ ЯК МО́КРАЕ ГАРЫ́ЦЬ. Вельмі павольна, ледзь-ледзь.

**МУРЛА́ТЫ** *прым.* Шыракатвары.

**МУ́СІЦЬ** *незак.* Быць вымушаным, магчы. □ *Хо́чаш не хо́чаш, а му́сіш.*

**МУ́ТАРНА** *прысл.* Моташна, млосна, нядобра.

**МЫ́ЦЦА** *незак.* Мыць (пра бялізну). □ *Не сле́па было́, што па вадзе́ брыло́ – было́ мы́цца.*

Выраз выкарыстоўваецца, каб сказаць пра кепска вымытую бялізну.

**НА́БРЫДЗЕНЬ** *м.* Чужынец, нетутэйшы, перасяленец.

**НА́ВАРАТ** *м.* Неаднаразова, некалькі разоў.

**НАВЯРНУ́ЦЦА** *зак.* Завітаць, зайсці, заехаць.

**НАДАРАЖА́ЦЦА** *незак.* Настырацца, гарачыцца, упірацца.

**НАДСЫ́Р** *прысл.* Сыраваты, недавараны. *Мя́са на́дсыр.*

**НАДЫ́СЬ** *прысл.* Некалі, калісьці, нейкі час таму.

**НАЙЛЮБЯ́** *прысл.* Што заўгодна, на выбар.

**НАРУЛЯ́ЦЬ** *зак.* Накрэмсаць што-н.

**НАСТЫРНЯ́ЦЦА** *незак.* Настырацца, гарачыцца, упірацца.

**НАШАТЫ́РЫЦЦА** *зак.* 1. Начапурыцца, прыбрацца. 2. Надзьмуцца.

**НЕ́ЎВАРАЦЬ** *ж.* ◊ ІСЦІ́ НЕ́ЎВАРАЦЦЮ (праклён). Не вяртаючыся. *Ідзі́ не́ўвараццю.*

**НІШКНУ́ЦЬ** *незак.* Маўчаць стаіўшыся, не адзывацца. *Нішкні!*

**НЯГЕ́ГЛЫ** *прым.* Нягеглы, нязграбны.

**НЯМЕ́ЦКІ** *прым.* ◊ ЗАГАРНУ́ЦЬ ЯК НЯМЕ́ЦКАЕ СА́ЛА. Загарнуць надзейна, добра.

**НЯЎКО́ННЫ** *прым.* Няўрымслівы.

**НЯЎХЛЮ́Й** *м.* Неахайнік, неахайны, брудны чалавек.

**ПАБЕ́ГЦІ** *зак.* Пабегчы. □ *Уцёк не ўцёк, а пабе́гці мо́жна.*

**ПАВЕ́ТРАЯ** *ж.* Легкадумная, безразважная жанчына.

**ПАДБІВА́ЦЬ** *незак.* ◊ ПАДБІВА́ЦЬ КЛІНЫ́. Паддобрывацца да некага з карыслівай мэтай; падлашчвацца, спрабаваць завесці стасункі.

**ПАД'ЕЛДЫ́КНУЦЬ** *зак.* Падбіць, падбухтарыць.

**ПАДЗЯРЭ́ЧА** *агульн.* Задзіра.

**ПАЖАЛЕ́ЦЬ** *зак.* Пагладзіць. *Пажалей па гало́ўцы* (пры размове з дзіцём).

**ПАМЯНУ́ЦЬ** *зак.* Памянуць, узгадаць. □ *Памяні нячы́сціка, а ён з-за пляча́.*

Выраз ужываецца, калі гаворкі ідзе пра з'яўленне некага непажаданага.

**ПАМЯНЯ́ЦЬ** *зак.* ◊ ПАМЯНЯ́ЦЬ БЫ́КІ НА ІНДЫ́КІ. Зрабіць нераўназначны абмен.

**ПАПО́Ў** *прым.* ◊ СПАЦЬ ЯК ПАПО́ВЫ ДО́ЧКІ. Спаць бестурботна, бесклапотна.

**ПАСВЯЦІ́ЦЬ** *зак. перан.* Пасыпаць нешта рэдка. *То́лькі пасвяціла цу́крам.*

**ПАТА́ЧКА** *ж.* Патуранне.

**ПАТУРА́ЦЬ** *незак.* Патураць, дазваляць усё.

**ПАХВА́ТНЫ** *прым.* Зручны ў карыстанні.

**ПАХРЫСЦІ́ЦЬ** *зак. перан.* Пасыпаць нешта рэдка.

**ПАШКІРА́ЦЦА** *незак.* Выхваляцца, задавацца, ёрнічаць.

**ПЕЛЕ́ГУВАЦЬ** *незак.* Пялегаваць, любоўна даглядаць, песціць, лашчыць.

**ПЕРАБО́РЫ** *мн.* Перабіранне. □ *З перабо́раў – адны́ або́ры.*

**ПЕРАНЯ́ЦЬ** *зак.* 1. Пазычыць. 2. Спыніць некага ці нешта.

**ПЕРАХЛЯ́БІЦЦА** *незак.* Схуднець, зрабіцца тонкім, сагнуцца.

**ПЕ́ТУВАЦЦА** *незак.* Прыкладваць вялікія намаганні, высільвацца.

**ПЕЧ** *ж.* Печ. □ *У ко́жнай ха́це па пе́чы.*

Выраз ужываецца, каб падкрэсліць, што ў кожнай сям'і, гаспадарцы свой лад і парадак, свае сакрэты, і кожны павінен думаць пра сябе, вырашаць свае праблемы.

**ПЛЯСКА́ТЫ** *прым.* Пляскаты, плоскі, прыплюснуты.

**ПЛЯЦ** *м.* ◊ ЗАГНА́ЦЬ НА МУ́РЗАЎ ПЛЯЦ. Загнаць далёка.

**ПО́РСТКІ** *прым.* Нявыхаваны, грубы (пра чалавека).

**ПО́ТВАР** *м.* Патуранне. *Далі́ дзе́цям по́твар.*

**ПРАКІ́НУЦЬ** *зак.* Пакінуць ні з чым, праігнараваць.

**ПРАЛА́Т** *м.* Прайдзісвет, прайдоха, хітрун.

**ПРАНЕ́СЦІ** *зак. метаф.* Паказацца на людзі. *Хоць во́чы пране́сці.*

**ПРА́НЦЫ** *мн.* ◊ ХАЙ ЦЯБЕ́ ПРА́НЦЫ НЕ ЯДЗЯ́ЦЬ (праклён). Пажаданне ліха.

Часцей выраз ужываецца, калі скаціна (свінні) перастаюць есці.

**ПРЫВЫ́КНУЦЬ** *зак.* Прывыкнуць, прызвычаіцца. □ *Прывы́к чорт у сваі́м бало́це.*

**ПРЫКАЛУПА́ЦЦА** *зак.* Прычапіцца, дамагацца.

**ПРЫПУ́ЦІЦЬ** *зак.* Давесці да ладу, упарадкаваць.

**ПРЫ́САК** *м.* Сухая зямля.

**ПРЫСЛЯПІ́ЦЦА** *зак.* Прычапіцца, назаляць.

**ПРЫХЛУ́ПІЦЬ** *зак.* Затушыць (пра агонь). *Прыхлу́піць аго́нь.*

**ПУСТЫ́** *прым.* ◊ У ПУСТЫ́Я ГАЛАСЫ́. Занадта позна. ◊ ПУСТЫ́ КВАС. Неперспектыўная справа.

**ПЯРЭ́ВАЛЫ** *мн.* Прамежкі, перыяды.

**П'Я́КНУЦЦА** *зак.* Ударыцца, грукнуцца, ляснуцца, бразнуцца.

**П'Я́КНУЦЬ** *зак.* 1. Ударыць, грукнуць, ляснуць, сцёбнуць. 2. Сесці (пра сонца). *Со́нца п'якнула.*

**РАБЫ́** *прым.* ◊ АБО́Е РАБО́Е. Аднолькавы.

**РАДНЯ́** *ж. зб.* Радня. □ *Така́я радня́: прышы́й кабы́ле хвост.*

**РАЖНО́** *н.* ◊ АТРЫМА́ЦЬ РАЖНА́ РАСПЕ́ЧАНАГА. Нічога не паймець, не атрымаць.

**РАЗНЕХА́ІЦЬ** *зак.* Адгаварыць (ад нечага).

**РАСКІРЭ́ЧЫЦЦА** *зак. перан.* Расплысціся. *Аж вум раскірэ́чыўся.*

**РАССЫПА́ЦЦА** *незак.* ◊ РАССЫПА́ЦЦА ДРАБНЕ́Й МА́КУ. Ліслівіць, падлізвацца.

**РАСТУ́РКАЦЦА** *зак.* Прачнуцца, раскатурхацца.

**РАСШАЛО́ПІЦЦА** *зак.* Расшалопаць; зразумець, выйсці са стану ніякаватасці.

**РО́ЗУМ** *м.* Розум, здольнасці. □ *Які рост, такі ро́зум.*

**РУ́ШЫЦЬ** *зак. астр.* Мяняць фазу (пра месяц), сходзіць.

**РУ́ШЫЦЬ** *незак., зак.* Чапаць. *Ні руш яго́.*

**РЫМСТАВА́ЦЬ** *незак.* Капрызіць, канозіцца.

**РЭ́КАЗНЯ** *ж.* Нязграба, недарэка.

**САБА́ЧЫНА** *ж.* Сабачына; мяса сабакі. □ *Хоць саба́чына, абы́ во́ка не ба́чыла.*

Выраз ужываецца, калі прапануецца новая невядомая страва.

**САВА́** *ж.* ◊ ПАШАНЦАВА́ЦЬ ЯК СМА́ЛЕНАЙ САВЕ́. Пра чалавека, які трапіў у цяжкую сітуацыю.

**САСТРО́ІЦЬ** *зак.* ◊ САСТРО́ІЦЬ ЖАРТ. Пажартаваць, панасміхацца, пакпіць з некага.

**СКАЖЭ́ННЫ** *прым.* ◊ НАСІ́ЦЦА ЯК СКАЖЭ́ННЫ. Быць у стане нервовага ўзрушэння, нагадваючы сваімі паводзінамі вар'ята.

**СМОЛЬ** *ж.* ◊ ЛЕ́ЗЦІ СМО́ЛЛЮ. Прыставаць, назаляць, дакучаць.

**СПАКВАЛЯ́** *прысл.* Спакваля, павольна.

**СТАРЫ́К** *м. астр.* Апошняя квадра месяца.

**СХОД** *м. астр.* Тое ж. *Бялі́зну трэ́ба праць заўсёды схо́дам (на сходу́): гразь до́бра адхо́дзіць.*

**СЫН** *м.* Сын. □ *Які пень, такі клін, які філін, такі сын.*

**ТАРНАВА́ЦЦА** *незак.* Хваляваццa, непакоіцца, нервавацца.

**ТА́ЯЧКА** *ж.* Ласкавы зварот да жанчыны. *А мая́ ты та́ячка.*

**ТУРА́ЦЬ** *незак.* Кідаць.

**ТУРНУ́ЦЬ** *зак.* Кінуць.

**УБЛАГАТА́ЦЬ** *зак.* Улагодзіць, задаволіць.

**УБО́ІНА** *агульн.* Упарты, упірлівы, непаслухмяны, сабедум.

**УБО́Й** *м.* Тое ж.

**УВАЛА́ЦЬ** *зак.* Прымусіць, загадаць. *Ніяк яго́ ні ўвала́ць.*

**УКО́Н** *м.* ◊ НЯМА́ УКО́НУ. 1. Пра адсутнасць сілы, здароўя. 2. Пра адсутнасць пачуцця стомы і інш. *Няма́ ёй уко́ну.*

**УКО́ЦАЦЦА** *зак.* Знясілецца, замучыцца ад працы.

**УКО́ЦАЦЬ** *зак.* Знясілець.

**УКУРА́ЖЫЦЬ** *зак.* Укрыўдзіць, раззлаваць, раздражніць.

**УЛА́ДЗІЦЬ** *зак.* Дагадзіць. *Ты яму́ паспрабу́й шчэ ула́дзіць.*

**УЛЮБІ́ЦЬ** *зак.* Палюбіць, упадабаць.

**УЛЯГА́ЦЬ** *незак.* Мець схільнасць, цягу да нечага; захапляцца нечым.

**УМЯНТАШЫ́ЦЬ** *зак.* Умяць, шмат з'есці.

**УТАЛАВА́ЦЬ** *незак.* Утаптаць, утрамбаваць.

**УХЛУ́ПІЦЦА** *зак.* Праваліцца ў багну, утапіцца.

**УЦІРА́ЛЬНІК** *м.* Ручнік.

**ХАМУ́Т** *м.* Хамут. □ *Жыць табе́ ў дзярэ́ўні і спаць на хаму́тах.*

Выслоўе ўжываецца пры характарыстыцы нехлямяжага, абыякавага чалавека.

**ХВАБРЫ́ЦЦА** *незак.* Выхваляцца, задавацца, фанабэрыцца.

**ХВОСТ** *м.* ◊ КРУЦІ́ЦЬ ХВО́СТАМ. Хітраваць, выкручвацца, крывадушнічаць.

**ХЛУПІ́ЦЬ** *незак.* Цяжка дыхаць з-за духаты.

**ХЛУПО́ТА** *ж.* Духата, гарачае вільготнае надвор'е.

**ХО́ДЦЫ** *мн.* Сходцы, сходы, ступенькі.

**ЦЕПЕ́РСЯ** *прысл.* Даўно, вельмі даўно.

**ЦІЎ́Н** *м.* ◊ СТАЯ́ЦЬ ЯК ЦІЎ́Н. Мець выгляд наглядчыка.

**ЦЫ́ГАН** *м.* ◊ ЗАПЛАЦІ́ЦЬ ЯК ЦЫ́ГАН ЗА БА́ЦЬКУ. Нічога не заплаціць, паймець задарма.

**ЦЯПЛЯ́К** *м.* Першы начны марозік з шэранню на траве.

**ЧА́ЎРАЦЬ** *незак.* Чаўрэць, ліпець, мадзець.

**ЧОРТ** *м.* Чорт. □ *Ты на гару́, а чорт за нагу́.* ◊ ЧОРТ ПАДМЫКНУ́Ў. Паддацца спакусе; сказаць ці зрабіць нешта неабдуманае, нядобрае.

**ЧУЖЫ́** *прым.* Чужы, народны. □ *Свой свайго́ бі – забіва́йся, а чужы́я – не мяша́йся.*

**ШКА́РАДЗЬ** *ж. зб.* Гнус, драбната.

**ШТАНЫ́** *мн.* ◊ БЕ́ГАЦЬ ЯК ШМЭ́РКАВЫ ШТАНЫ́. Бессэнсоўна, без толку.

**ШУКА́ЦЬ** *незак.* Шукаць. □ *Шука́ць учара́шні дзень.*

**ШУ́ЯДЗЬ** *ж. зб.* Гнус, драбната.

**ШЧА́СЦЕ** *н.* Шчасце. □ *Не было шча́сця з ра́ння, не бу́дзе да змярка́ння.*

**ШЧЭ́ЛЕПЫ** *мн.* Сківіцы.

**ЮШЫ́ЦЦА** *незак.* Мітусіцца; корпацца.

**ЯЗЫ́К** *м.* Язык. □ *Язы́ча, язы́ча, ці не чорт цябе́ зы́ча?*

Выраз ужываецца, каб падкрэсліць нешта недарэчна сказанае. ◊ ПРЫКЛА́СЦІ ЯЗЫ́К. Папрасіць. ◊ РАСПРА́МІЦЬ ЯЗЫ́К. Пагаварыць з некім. *Нямá з кім і язы́к распра́міць.*

*І. І. Лучыц-Федарэц*

## З ДЗЕЯСЛОЎНАЙ ЛЕКСІКІ ВЁСКІ АКРОПНА ДРАГІЧЫНСКАГА РАЁНА

Афіцыйна вёскі Акропна цяпер няма. Яна яшчэ ў 1976 годзе была разам з Бурмакамі ўключана ў склад вёскі Нямержа (Драгічынскі раён Брэсцкай вобласці).

Пададзеная ніжэй лексіка, запісаная ў пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя ад маёй маці Лучыц-Федарэц Алены Тарасаўны (1909–1982), уяўляе з сябе хутчэй семасіялагічнае, чым лексічнае, даследаванне. Нам хацелася як мага паўней прадставіць лексіку Беларускага Цэнтральнага Палесся не адасоблена, а ў слоўным акружэнні, ужывальную ў гаворках у пэўных семантычных палях.

Фанетыка гаворкі адрозніваецца наяўнасцю (цяпер ужо) слабага дыфтангічнага [ⁱэ], як правіла, націскнога, які моладзь цяпер вымаўляе як звычайнае *е* [јэ]. Гэты гук пазначаецца як ĕ (Ĕ). Рэалізуецца тут пасля цвёрдых зычных таксама гук верхне-сярэдняга пад'ёму пярэдняга рада [і], які на пісьме перадаецца як (рускае) *и*, у адрозненне ад гука задняга рада [ы]. Літары *і*, *е* абазначаюць [і], [э] пасля мяккіх зычных.

Дзеясловы пададзены ў лексіка-семантычным гняздзе, часам з іншакаранёвымі сінонімамі. Першым у гняздзе даецца слова, нарматыўнае ў беларускай літаратурнай мове, пасля яго – палескі адпаведнік, з характэрнымі для яго значэннямі.

АБГАРНУЦЬ, ЗАГАРНУЦЬ – **ОБГОРНУ́ТЭ**. *Трэ́ба обгорну́тэ кніжку і кае́ту* ('сшытак') *бума́гію, коб ны пэ́цалися* ('пэцкаліся'). **ОКРУТЭ́ТЭ**. *Окрутэ́ вазо́на ґазе́тию, коб там у сло́йіковэ зымнĕ ны цвыла́.* **УКРУТЭ́ТЫСЬ**. *Укрутэ́ся кожу́хом, бо шось у ха́тэ ста́ло холоднова́то.*

АБІРАЦЬ (бульбу) – **ОБЫРА́ТЭ**. *Обыра́тэ карто́плі, зва́ранэ з лупэ́ньнім, у мунді́рах.* **ОБРІ́ЗУВАТЭ** 'абразаць, чысціць (бульбу і да т. п.)'. *Обрі́зуватэ сырэ́йі карто́плі; мо́жна обрі́зуватэ чырвэ́вэ ĕблика, ріпу, рэ́дьку.* **СКРЫПТА́ТЭ** 'чысціць' (пра моркву). *Мо́ркву скрэ́пчуть.*

АБЯЦАЦЬ – **ОБИШЧЁТЭ**. *Обишчĕю, шо я тобі́ більш заплачу́, оно́ прода́й мині́.*

АПЫТАЦЬ 'знайсці апытваючы' – **ОПЫТА́ТЭ** 'папярэдне, перад тым дазнацца'. *Ба́ло* ('бывала') *опэ́тують чы́риз знако́мых, чы хтось у йі́хому сылі́ ны продае́ коро́ву, чы конĕ, пото́м пырыдають тому́, хто продае́, шо хо́чуть купэ́тэ. Прыйі́дуть, поба́чать і сторгу́юца, даю́ть зада́ток. Ĕк у сво́му сылі́, то посусі́дзку даю́ть зра́зу половэ́ну цынэ́, а ĕк куплĕ́ють на ярма́рку* ('на базары'), *то мусо́во оддá́тэ ўсі гро́шэ одра́зу.* **ОПЫТА́ТЫСЬ** 'прывітацца, паздароўкацца'. *Чого́ тэ схава́ўся ў комо́рэ, ідэ́ опыта́йся з дĕдьком.*

БАРАБАНІЦЬ 'часта і дробна стукаць' – **БАРАБАНІ́ТЭ**. *Дошч барабанэ́ть у гокно́, у стину́, ĕк ду́е ві́тĕр – по блĕ́сэ* (калі дах пакрыты ацынкаванай бляхай). **ШУМІ́ТЭ**. *Ĕк ха́та крэ́та соло́мию, то дошч шумэ́ть по стрі́сэ. Шумі́тэ мо́жэ й суп, чы ю́шка, ĕк ва́рaца; шу́му* ('пены') *мно́го жывэ́ од мнĕ́са.*

БІЦЬ, НАБІЦЬ – **БЭ́ТЭ**, **НАБЭ́ТЭ**. *Ба́тько набэ́у нас за тое, шо мэ до Ку́ньдіхэ ла́зылэ рва́тэ моркву.* **ГНЭ́НУТЭ** 'ударыць адзін раз'. *Гнэ́нутэ у плычэ́, у го́лову.* **ПЭ́РЫТЭ** 'біць чым заўгодна шматразова'.

*Бэ́тэ чэм хоч когóсь мнóго раз.* **ПРА́ТЭ** 'перыць пранікам'. *Онó одэ́жу пыру́ть прачэ́м* ('пранікам'). **ОДДУБА́СЫТЭ** 'моцна набіць'. *Дуба́сытэ кеём, гулэ́нию, шэ́тиком* ('дзягай'). **ВЭ́СВЫСТАТЭ** 'набіць бічом, дубцом'. *Побэ́тэ бычэ́м, дупцэ́м.* **ПОТЯГНУ́ТЭ, ВЭ́ХЛЫСТАТЭ** 'набіць па твары'. *Вэ́хлыстатэ по мордáх.* **ДА́ТЭ ШТУЛЬГАНИ́Ў** 'надаваць кухталёў пад бакі'. **ВЭ́ТЯТЭ** 'ударыць далонню'. **ГА́ХНУТЭ** 'моцна ўдарыць' (кіем, кулаком). **НЫЗНУ́ТЭ** 'хутка і нечакана ўдарыць кулаком' (напрыклад, пад вока). **ТРА́ХНУТЭ** 'стукнуць надзвычай моцна, да звону шкла'. *Сту́кнутэ так, шоб аж гóкна задзвыні́лэ.* **ПОВЫТРЁХУВА́ТЭ** 'паразбіваць' (напрыклад, увесь посуд). **ВЭ́ШМОРГАТЭ** 'адлупцаваць дубцом'. *Дупцэм лупэ́тэ, вэ́шморгатэ. Дыткé, ны шымрі́тэ* ('шумець, крычаць, сваволіць'), *бо заро́бытэ кичкáмэ* ('завязкі ў фартуху') *або́ кáжному лу́пня дам шэ́тиком* ('дзягай'). *Ёк ді́тэ нашкóдять, то ту́залэ ййх за кóсэ* ('за валасы') *або́ скру́тять за ву́хо.* **ХВОЛО́ШЧЫТЭ** 'біць венікам'. *Хволóшчытэ ві́ником.* **ВЫРГНУ́ТЭ** 'ударыць нагой адзін раз'. *Выргну́тэ ногóю одэ́нь раз.* **ТРІ́СНУТЭ** 'ударыць нечым па лбе'. *Трі́снутэ лóжкию по лбу́.* **ШТЭ́РХАТЭ** 'штурхаць чым-небудзь вострым' (у галаву, у плячо). *Штэ́рхатэ вола кеём чы оснóм* (Н. адз. л. *осён*), *коб ху́ччі йшоў.* **ТОЎЧЭ́** 'біць кулаком' (перпендыкулярна да цела). *Тоўчэ́ – кулакóм бэ́тэ.* **КАРА́ТЭ.** *Кара́тэ – гáнытэ когóсь.* **ПРЫБЭ́ТЭ** *Прыбэ́тэ пáльца колíдкию.*

ВАЛАЧЫ – **СУ́НУТЭ**. *Су́нутэ шо-ныбу́дь по зымні: гульлё ў лі́сэ, кавáлок хвоййнэ. Малáня, бáло, ныкóлэ ны нысэ́ мышка чы радю́шку, а зáўшэ* ('заўсёды') *су́нэ: бойі́цца, коб ны порвáтысь. Свыньню ў хлыві закóлють швáйкию і су́нуть на двір, а ўжэ ёк ошмáлять, то ў хáту – нысу́ть. Су́нутэ корóву на пашу на ворóўцэ – выстэ́* ('весці'). *У сóрок сёмому рóцэ, ёк мынёлыся грóшэ, і ў Антóна ййх мнэ́го пропáло, то зо злосці він су́нуў Пішчучэ́ху за кóсэ* ('валасы') *од хлывá до хáтэ, шо чому́ ны помынёла. Су́ныца* ('цягнецца, трымаючыся за спадніцу') *дытэ́на за мáтырынию спуднэ́цию. Су́ныца, бы облу́да (ёк чолові́к помалу хóдыть). Облу́да – гэ́то чолові́к ны тóе ны сёе, хóдыть, бы ныжывэ́й, опу́шчани. Засу́нутэ ру́ку ў сі́но і забрáтэ гнёлке* ('дзічкі, якія спецыяльна кладуць у сена, каб яны там сталі гнілыя; праз пару дзён яны стануць смачныя, смачнейшыя за зялёныя'). **СМЭ́КАТЭ** 'насіць з цяжкасцю што-н.'. *Пóке посмэ́калэ ўсі копыці* (*сі́на*), *то й пóночэ* ('цёмна') *зробэ́лося. Засу́нутэ жырдэ́ну ў плóтовэ, у пырэ́городцэ (у хлыві). І нáшо* ('нашто') *гэ́та мáтэ за собóю ўсю́дэ дытэ́й смэ́чэ?*

ВАЛАЧЫЦЬ – **ВОЛОЧЭ́ТЭ**. *Бáтько споўднé волочэ́ў боронóю пóлэ.* **ВОЛОЧЭ́ТЫСЬ** 'бадзяцца'. *Бáдзіско!* ('валацуга') *Дэ́ гэто тэ ўсю нич швэ́ньдялася (// волочэ́лась)?*

ВАРУШЫЦЬ 'шавяліць', 'разбіваць валкі сена' – **ВОРУШЭ́ТЭ** (пальцамі). *Зымóю, бáло, ў вылі́кі морóз йі́дымо санкáмэ, і нóгэ помэ́рзнуть, то бáтько казáў: «Воруші́тэ, дыткé, пáльчикамэ, бо нóгэ поодмі́рзають!». Ворóчалэ сі́но на дру́гі бік, коб вэ́сохло, а розбывáлэ – гний: брáлэ ёгó з громадóк і рострёсалэ по пóлю (мужчэ́нэ выкидáлэ гний с хлывá, накидáлэ на віз, у якóму зáмість страмынэ́й* ('драбіны') *клáлэ дошкé, коб гний ны пáдаў по дорóзэ, і на пóлэ. Жэ́то на пычі, ёк сóхло, то мышёлэ* ('перамешвалі'), *а ны ворóчалэ. Зáрэ шэ кáжуть: «Ны мышёй мыні!»* ('не перашкаджай'), *а колэ́сь казáлэ: «Ны заважёй мыні!»*

ВЕЗЦІ, ВАЗІЦЬ – **ВЫЗТЭ́, ВОЗЭ́ТЭ**. *Мэ сі́но пошчі кáжного рóку возэ́лэ здалі́к – то з Спóрова, то з-за канáла* ('Днепра-Бугскага'); *а ёк сынокóс буў блэ́сько, то ёк онó згрыбэ́мо, накладáлэ на віз, дай прывóзылэ ў клу́ню. А жэ́то одрáзу с пóля звóзылэ ў клу́ню.*

ВЕШАЦЬ – **ВІ́ШАТЭ**. *У хáтэ од бáльке до пэ́чэ ві́сыла жырдэ́на, і на ййі ві́шалэ мóкру одэ́жу. Повісь хамутá з вуздэ́чкию на гóздзя!*

ВЫМЕНЯЦЬ – **ВЭ́МИНЯТЭ**. *Помытáю, ёк нас ужэ од ні́мцу освободэ́лэ, то дід вэ́минёў у солдáту нáшого чóрного бaранá з овэ́чкию на дьві бі́лэ овэ́чке з дóўгию вóўнию. А танкі́стэ продалэ́ бáтьковэ бачкá люмі́нёвого на дванáццыть лі́тру. Лóўкі бачóк буў: самогóнка булá ў ёму зáўшэ холóдна, нáвіть у жару́.*

ВЫСЫПАЦЬ – **ВЭ́СЫПАТЭ**. *Ёк роé* (пчолы) *высыпáють з рышитá чы з корóбке, – у шó ўжэ ёгó злóўлять, то зрáзу ёгó ді́лять і пырисáджують з рáмкамэ ў дру́гі гу́лий.*

ГЛАДЗІЦЬ – **ГЛА́ДЫТЭ**. *Ёк помáлыньку хорошэ́нько* ('спакойна, ціха') *провыдэ́ш рукóю, – то гэ́то глáдыш, ны одэ́нь раз, а бі́льш. Шарпáту ру́чку* (вылóк, *ножё чы чогó гэ́нчого*) *вычі́шчёють наждáчнию бумáгию, і вонá стáнэ глáдынька. А по зылі́зовэ, ёк шарпáтэ, то шмулёють рáшпилём, вычышчёють, і вонó зрóбыца глáдыньке.*

ГНАЦЬ – **ГНА́ТЭ** *(жыну́, жынэ́ш, жынэ́, жынэ́мо, жынэ́тэ, жыну́ть). Быжэ́ хучі вэ́жінь корóву с пóля (оджынэ́ од жэ́та). Пастухэ́ пырыгнáлэ корі́ў на Дя́лке* (колісь назва сенажаці, цяпер – назва пашы). *Курэ́й выганёють з горóда, корі́ў запынёють* ('адганяюць') *од пóля.* **ПОТУРЭ́ТЭ**. *Пасту́х захватэ́ў свойі́ дьві корóвэ і потурэ́ў ййх, а ззáду ўсі коровэ́ пороcхóдылися, котóра кудэ́.*

ГУТАЦЬ ('гушкаць') – **ГУ́ТАТЭ** 'калыхаць'. *Ёк дытэ́на малáя ны спэть, ййі трэ́ба колихáтэ: у колэ́ску чыплёйіца гу́сялка* ('вяровачка'), *а дру́гім концэ́м – на ногу́, зачэ́пыш і гу́тайіш колэ́ску, а самá дрэ́млиш.* **ГО́ЙДАТЭ** 'гушкацца на арэлях'. *Гóйдатэ на гóйдашцэ: тудэ́ і сюдэ́.*

ДАВАЦЬ – **ДАВА́ТЭ**, *зак.* **ДА́ТЭ** (што-н.). *Дáтэ сусі́дцэ кóшик картóплю. Колэ́сь, ёк онó* ('як толькі') *зробэ́лэ колхóзэ, то Сцёпані́дэ ны ті́лько далэ́ мыдалё, алэ́ шэ й ді́путáтчию вэ́бралэ. А шэ мóжна дáтэ шо хоч: датэ сі́на конэ́вэ, корóвэ, овычкáм (положэ́тэ ў ёсла ў хливі), а ў жóлуб конэ́вэ вэ́сыпатэ обрі́к. Ёк кінь стоёў на дворі́, то ёму́ давáлэ сі́но чы травý або́ й обрі́к у тóрбэ. Свэ́нюм дають тóўчу, с картóплю і óсыпке, пі́йло або на ризакóвэ нарі́жуть зі́льля і укéнуть у пі́йло чы й так, у порóжне корэ́то. Гэ́нчі раз мóжуть зі́льле ны рі́затэ, а так укéнуть у пырэ́городку, коб свэ́нэ ны квычёлэ. І ку́рум дають: ідэ́ вэ́кінь*

*пшанэ́цэ, хай ку́рэ ззидётъ! Або́: сыпнэ́ ку́рум шо-ныбу́дь, дай про́са курынётюм.* **ДАРЁТЬ** 'падаваць міластыню'. *Ёк даю́ть шо ста́рцовэ* ('жабраку'), *то гэ́то – дарётъ. Дарётъ і на висі́льлі, алэ́ тоді ска́жуть, шо пырыпива́ють молодэ́х.* **УРУЧЁТЭ** 'дарыць', **ДА́ТЭ ПОДА́РКА** 'дарыць'. *Уручёють, даю́ть пода́рка – ста́лэ тыпэ́р каза́тэ. Колэ́сь ныхто́ ниёкіх пода́рку ны дава́ў. Сиба́ оно́* ('хіба што') *гостэ́нца яко́го ба́ба чы ті́тка дасць ону́ковэ (ёблыко, окру́шчык хлі́ба, бу́лочку).*

ДАКРАНАЦЦА – **ДОТЫКА́ТЫСЯ, ДОТКНУ́ТИСЬ, ЧЫПЭ́ТЭ** 'кранаць'. *Ба́ло, ёк на сьвяткóвэ* ('на фэсце') *ді́ўка хло́пцовэ понара́выца, то хло́пыц йійі зачэ́пыть – пожарту́е чы похва́лить до́брым сло́вом.* **ПРЫЧІ́ПАТЫСЯ, ЧЫПЛЁТЫСЯ**. *Ны чыплёйся до мынэ́, тэ мыні ны нара́выся.* **ВЫРИДЭ́ТЭ, УВЫРИДЭ́ТЭ** – *ёк ны хо́чучэ штырхнэ́ш у ра́ну'. Навыридэ́тэ ру́ку (жну́чэ) чы но́гу або́ нажмынэ́тэ, ёк мно́го і тёжко ро́быш. Колэ́сь хло́пцэ на вычурку́х ма́цалэ дыўчёт і на́віть шчыпа́лэ йіх за гру́дэ: провырёлэ, чы вонэ́ ны з ґу́мэ, а свойі, то пры По́льшчэ за шчыпа́ньне судэ́лэ, бо каза́лэ, шо на то́му мі́сьці, дэ ўшчыпну́ў, мо́жэ бу́тэ рак. Колэ́ пі́дыш увэ́чырэ ў комо́ру, коб прынистэ́ стиль шо-нэ́будь, то ла́пайіш ('шукаеш') рукóю, по́ке ны наму́ляйіш, бо лётрыкэ тоді ж ны бу́ло.* **ШЧУ́ПАТЭ** 'правяраць курыцу ці іншую птушку, калі знясецца'. *Шчу́патэ ку́рыцу – провірытэ, чы тыпэ́р* ('сёння') *знысэ́цца або́ шчу́пають матір'ял, ёк выбыра́ють у ла́ўцэ матёрию, чы пудэ́йдэ.* **П^У^ХА́ТЭ** 'штурхаць', **П^Ы^ХА́ТЫСЯ** 'штурхацца'. **НЫЗНУ́ТЭ** 'ударыць выспяткам'. *Нызну́тэ ногóю (носко́м).*

ДЗІВІЦЦА 'здзіўляцца', 'глядзець з захапленнем або з цікавасцю'– **ДЫВЭ́ТЫСЯ** 'глядзець'. *Подывэ́ся* ('паслухай'), *Га́нно, я тобі о́т шо скажу́: поке́нь тэ ёго́: він тыбэ́ ны на́дто глядэ́ть* ('не клапоціцца') *за́рыска, а ёк постарі́йіш, заныду́жайіш, то й зусі́м ны глёнэ на тыбэ́.*

ДРАЦЬ – **ДРА́ТЭ**. *Ёго́ ті́ло так мі́цно свырбі́ло, і він усё чухрэ́уся* ('чухаўся'), *шо аж надра́ў пазі́ў* ('пісягоў') *до крыві. Ёк шось прысо́хнэ, то дрёпають, коб вонó одпа́ло.*

ЖАРАБІЦЦА – **ЖЫРИБЭ́ТЫСЬ**. *На́ша кобэ́ла ожырибэ́лась і прывыла́ жыры́бку. А ёк йій спо́ўныца одэ́нь рік, то вона́ ўжэ бу́дэ жырибэ́ца.*

ЗАБІЦЬ 'загнаць' – **ЗАБЭ́ТЭ**. *Мо́жна забэ́тэ мох, трі́сочку ў шчёйіну або́ ў шчылю́быну* ('у шчыліну'); *забэ́тэ шпа́ґіну* ('стрэмку') *у па́ліц пуд пазі́р.*

ЗАГАНЯЦЬ – **ЗАГАНЁТЭ**. *Скотэ́ну, овычке́ ў хлі́ў заганёють, конё заво́дять, соба́ку прыўёзують (каля́ хлыва́), кота́ ў ха́ту ўпуска́ють.*

ЗАГНАЦЬ 'прымусіць увайсці ў што-н.', 'убіць, увагнаць з сілай – **ЗАГНА́ТЭ**. *Загна́тэ ґо́зьдзя ў дошку глыбо́ко, шо й ны вэ́нятэ. Загна́тэ скотэ́ну ў ліс. Загна́тэ шпа́ґіну ў роўчёк* ('шпунт у паз').

ЗАКАПАЦЬ – **ЗАКОПА́ТЭ**. *Мэ на зэ́му закопа́лэ ў скопэ́ц два ко́шыке буракі́ў і ко́шык мо́рквэ ра́зом с карто́плямэ.*

ЗАТКНУЦЬ – **ЗАТКНУ́ТЭ**. *Заткну́тэ ножё, мынтэ́шку за холёву; заткну́тэ карандашё за ву́хо* (звычайна гэтак робяць майстры – цесляры, муляры ці будаўнікі). *Ді́тэ розбэ́лэ гокно́, то трэ́ба хоч заткну́тэ шэ́бу по́душкію, бо на дворі́ холодэ́ча. У клу́ні, ёк віялэ* ('веялі') *збіж, то гокэ́нцэ над то́ком затыка́лэ соло́мию, коб ны ду́ў сквозьнёк.*

ЗГАРНУЦЬ – **ЗГОРНУ́ТЭ**. *Мэ нарі́залэ сі́чке і згорну́лэ йійі ў грома́ду ў куто́к* ('у кут'). *Роспрётайся* ('распранайся'), *скень с сыбэ́ одэ́жу і згорнэ́ ('складзі') йійі хорошэ́нько, коб ны помнёлася у сундуко́вэ.*

ЗМЯСЦІЦЦА – **ПОМЫСТЭ́ТЫСЯ**. *Ха́та ў ді́да була́ ма́лая – ныма́ дэ помыстэ́тись усі́м, ны було́ дэ кро́сна поста́вытэ. Конё поста́выў у хлі́ў, а коро́ву пырыві́ў (чы пыригна́ў) у прыбудо́ўку. Оста́лыся овычке́, алэ́ ёк оно́* ('як толькі') *трава́ зазылині́ла, ба́тько оддáў йіх на па́шу.*

ЗНАХОДЗІЦЦА – **СТОЁТЭ**. *Свэ́нэ і овычке́ стоёлэ ў ку́ццэ* (Н. адз. л. ***ку́чка*** 'невялікая загародка ў хляве', 'падпечча').

ЗЫЧЫЦЬ – **ЗЭ́ЧЫТЭ**. 1. Жадаць: *Дохно́* ('дачка'), *дытё мое́ рі́днэ, зэ́чу тобі я здоро́ўя, до́лі шчаслэ́вийі і до́ўгийі жэ́зьні.* 2. Пазычаць: *Ба́ло, колэ́сь пры По́льшчэ, продава́лэ ўсё, шо моглэ́, зэ́чылэ гро́шэ, збырлэ́ і ўсё стара́лыся, коб ёк зымні́* ('зямлі') *купэ́тэ.*

КАЗЫТАЦЬ – **КЫЦІ́КАТЭ**. *Каза́лэ, шо хло́пцовэ ны мо́жна спа́тэ каля водэ́, бо вэ́йдуть руса́лке і закыці́кають хло́пца до смэ́ртэ.*

КАЛЫХАЦЬ 'гайдаць, хістаць', 'ківаць', 'гайдаць калыску' – **КОЛЫХА́ТЭ**. *Колыха́тэ дытэ́ну ў колэ́сцэ.* **КЫЛЫВА́ТЭ** 'хістаць', **КЫЛЫВА́ТЫСЯ** 'хістацца'. *Дывэ́ ('подывэся'), гэ́ндэ* ('вунь там') *Го́лька стойі́ть п'ёна і кылывайі́ца, гото́ва ўпа́стэ.*

КАЛАЦІЦЬ 'хістаць, трэсці', 'выклікаць дрыжыкі (ад страху, пры ліхаманцы і да т. п.), 'атрасаць салому на кулі', 'часта і моцна грукаць' – **КОЛОТЭ́ТЭ** 'трывожыць, непакоіць, турбаваць'. *Гэ́той* ('гэты') *Дзэ́ґар усю́ жызь колоты́ца – то з жі́нкію, то з дытьмэ́, то з сусі́дамэ. Ма́тэ* ('маці') *минэ́ сколотэ́ла, шэ по́ночэ* ('цёмна') *було́, і сказа́ла, коб я шыхува́лася* ('рыхтавалася'), *бо шэ за поноче́ пойі́дымо ў ліс. А соло́му на кулі́ ў нас трасу́ть.*

КАЦІЦЬ – **КОТЭ́ТЭ, ВЫКО́ЧУВАТЭ, ВЭ́КОТЫТЭ**. *Бо́чка з шатко́ванию капу́стию зра́зу стоёла ў сцёбцэ* ('варыўня'), *а пото́м йійі вы́кочувалэ ў ші́пку, дэ холодні́, коб ны так укиса́ла. А на высні́, ёк капу́сту ззидётъ* ('з'ядуць'), *бо́чку трэ́ба вэ́мытэ. Йійі налыва́ють водо́ю і пото́м, коб вэ́литэ шчуз* ('асадак'), *якёй зобра́ўся знэ́зу, бо́чку так покачёють-покачёють на ўто́рах, поколо́тять і вылива́ють ёго́.*

КАТАЦЬ – **КАЧЁТЭ**. *Мэ колэ́сь пра́су* (Р. мн. л. ад ***прас***) *ныёкіх ны ві́далэ; а пото́м, дэсь шэ до войнэ́ Наста́ся Тодо́рцова купэ́ла тако́го зылі́ного пра́са, шо ого́льля накладэ́ш тудэ́, і він ста́нэ гаре́чі. А так за́ўшэ бабэ́ одэ́жу качёлэ качёламэ. А шэ ді́тэ з сні́гу на горо́дэ качёлэ ба́бу,– го́чэ з ого́льля, нис з мо́рквэ, – стоёла злі́пляна, по́ке ны прэ́дэ* ('прыйдзе') *одлэ́га.* **РОСКА́ЧУВАТЭ** 'размотваць'. *Роска́чувалэ (або роз-*

*мóтувалэ) нитке́ з катýшке.* **КАТÁТИСЬ** 'ездзіць, вазіцца, коўзацца'. *Зáрэ кáжуть: катáтысь вóзом, рóвыром, самохóдом (або́ ліхковýшкию), на конькáх.* КАТАЦЦА (на санках) – **КАТÁТЫСЯ САНКÁМЭ** 'катацца ў вялікіх санках'). *Катáтыся санкáмэ або́ ґалёсамэ* 'малыя саначкі' *на Мáсныцу. Панэ́ і богáтэ колэ́сь ййздылэ брэ́чкамэ. У брэ́ццэ спэ́роду такáя шыро́ка до́шка, пырэ́нджа* ('поручні'), *по бокáх – крэ́ла* ('крылы'), *коб ны вэ́паў той, хто ййдэ. Узáду булэ́ сідéньня ля* ('для') *трох людэ́й.*

КІНУЦЬ, ПАКІНУЦЬ – **КЕ́НУТЭ, ПОКЭ́НУТЭ**. *Мо́жна ке́нутэ мышкá, ко́шика чы шось гэ́нчэ. Кáмыня, ёк блэ́сько, то ке́нутэ, а розозлэ́ўшыся, з-за вýха, то попустэ́тэ.* **ПОПУСТЭ́ТЭ** 'энергічна кінуць з-за вуха'. *Попустэ́тэ мо́жна й цо́глынию чы нáвіть (хай Госпо́дь охилéе!) сокі́рию.* **ШПУРНУ́ТЭ, БУРНУ́ТЭ** 'кінуць энергічна'. **ЛЫНУ́ТЭ** 'лінуць з невялікай пасудзіны'. *Лыну́тэ водо́ю з ку́бка на ко́гось, а ёк з видрá лыну́тэ, то шыбо́снутэ.* **ШЫБО́СНУТЭ** 'энергічна лінуць з вядра і да т. п.'. **ПОКЭ́НУТЭ** 1. 'кінуць'. *Го́лька покэ́нула мужыкá-п'ёницу, забрáла дытэ́й і пошлá жэ́тэ до бáтька з мáтырию.* 2. 'пакінуць'. *З вэ́чора покэ́нулэ молоткá на дрэ́вотні, дай хтось «прыбрáў» уно́чі.*

КРУЦІЦЬ, КРУТ(А)НУЦЬ – **КРУТЭ́ТЭ, КРУНУ́ТЭ**. *Ко́лысо трэ́ба покрутэ́тэ, коб шмаровэ́дло розмáзалось по восі. Укру́чуватэ шру́бу, лáмпочку, ёк пыригорэ́ть. Гáйку одкру́чують, закру́чують. Вісь закру́чуйіца гвінтом.*

КУШНЕРЫЦЬ – **КУШНІРÔВÁТЭ** (кушнер – ***чымбáр***). *Чымбáр выроблёе барáныцэ* ('аўчыны') *і шэ́е кожухэ́. Чымбáрня – 'майстэрня чымбара'. Ёк устро́ять хло́пцэ чымбáрню, то дыру́ть* ('забаўляюцца') *дéвок ці́ли вэ́чор.*

МАХАЦЦА 'рухацца з боку ў бок' – **МАХÁТЫСЬ**. *У гэ́тийі тонклёвийі бáбэ зáвшэ спуднэ́ца на ві́тровэ махáйіца.* МАХАЦЬ 'рабіць узмахі, рухі ў паветры', 'трэсці чым-небудзь, пагражаючы' – **МАХÁТЭ**. *Онэ́ся, ёк посварэ́лася з сусі́дкию, то шэ до́ўго стоёла на дворі, клялá ййі і махáла кулакáмэ.* **МАТАЛГÁТЫСЯ** 'рабіць частыя махі', 'сноўдаць, рухацца бясконца туды-сюды'. *Ны матал(ь)гáйся тут мыні́ пырид но́сом! Колэ́ску одпухнэ́ш і шэ раз маталгнэ́ш.*

НАКЛАСЦІ – **НАКЛÁСТЭ**. *Наклáў картóплю* (Р. мн. л. ад ***картóпля***) *увэ́рх полýпышку* ('палукашкаў'), *шо аж пáдають з вóза. Насэ́патэ по́уно, аж з вырхо́м. Насыпáтэ картóплі ў мышóк, буракé у скопэ́ц* ('капец, бурт'). *Сэ́патэ зірно́ ў скрэ́ню, картóплі ў пóгриб, алэ́ ўпырі́дж* ('раней') *мусóво* ('трэба') *нансэ́тэ ййх с по́ля. Одэ́нь снопэ́ с хýрэ носыть до́ўгімэ вылкáмэ ў клýню і подаé ййх на вэ́шке, чы ў сто́рону, а дрýгі там подхвáчуе і лáдыть, коб вонэ́ рі́мно лыжéлэ, осóбінно ў стороні́.* **НАПАКУВÁТЭ** 'накласці многа (пра чамадан і да т. п.)'. *Наклáстэ много, шо аж чумайдáн ны зачынёйіца. Кладэ́* ('кладзі') *шчильні́, коб усё ўлізло.* **НАМОСТЭ́ТЭ** 'накласці надзвычай многа'. *Шчэ́лно наклáстэ ўсёго́ по́уну шáньку* ('рукзак'), *шо й ны пуднётэ.* **ЗАКИДÁТЭ** *полі́ньнё за косьцёр у шчéйіну.*

НАСАДЗІЦЬ 'асадзіць, наткнуць, начапіць' – **НАСАДЭ́ТЭ**. *Насадэ́тэ квоктýх на ёйцах.* **НАБЭ́ТЭ** *чырынкá ў вылке́, дыржакá ў злызнёк.* **УБЭ́ТЭ** *ру́чку ў молото́к. Убэ́тэ клынкá ў дырвэ́ну.* **ЗАБЭ́ТЭ** *Забэ́тэ затýлка ў косі́.* **НАСÁДЖУВАТЭ, НАСАДЖЁТЭ** *шо-ныбýдь на шось го́стрэ.* **НАБЫВÁТЭ** *грáблышча ў грáблі.* **ПОЗАБЫВÁТЭ** *зубэ́ ў насáд* ('у галоўку грабель'). **УБЫВÁТЭ** *кéя* ('палку') *ў крэ́эж у біéнцэ (у ййй б'ють мáсло).* **УТКНУ́ТЭ** *ключе́ ў замо́к, ру́ку ў кішэ́ню.*

НАСТАВІЦЬ 'нацэліцца ў бок каго-н.' – **НАСТÁВЫТЭ. НАСТÁВЫТЭ РО́ГЭ** 'пступаць насуперак, адчуць сваю сілу і не падпарадкоўвацца'. *Бáчыш, жі́нко, мэ свою дывýлю годувáлэ, хýхалэ на ййі, а вонá ро́гэ настáвыла і хо́чэ, коб усё було́ по ййі.* **ПОСТÁВЫТЭ ЗАЛО́ГУ** 'паставіць каўнер (у кажусе)'. *Ні́мыц настáвыў на мынэ́ ружо, і я мýсыла йтэ з гэ́нчымэ бабáмэ тягну́тэ бо́рону по доро́зэ (дэ партізáнэ позакладáлэ мі́нэ).*

НАЧЫСЦІЦЬ – **НАХÁЯТЭ**. *По́ке тэ ходэ́ў у мі́сто, я нахáяла* ('начысціла ад шалупіння') *тобі́ то́рбочку бо́бу* ('фасолі').

НЕСЦІ – **НЫСТЭ́**. *Ёк дро́ва порубáйіш, то пото́м поно́сыш ййх у ші́пку* ('шопа, прыбудоўка'). **ТЫМБІ́РЫТЭ** *экспрэс. Подывэ́* ('глянь'), *кі́лька Трэ́чка тымбі́рыть, хоч тёжко, алэ́ хватáйіца, коб хуччі́ доныстэ́, а ёк на лю́дюх, то самá лэ́дьшо но́гэ смэ́чэ* ('цягае'), *і ўсё вонá хво́ра, усё дохторі́ў додо́му закáзуе. А ўжэ ж, молодэ́й ёк нысэ́, то тэ́йі но́шэ й ны чýе, а старо́му – і само́му тёжко йтэ.* **ПРЭ́ТЫТЭ** 'несці паволі, з цяжкасцю': *набрáў такóе вылі́ке нарýччэ дроў, шо лэдь прэ́тыть.*

ПАДÁЦЬ – **ПОКАЗÁТЭ**. *Покажі́тэ мыні́ гэ́того пінджакá помі́ратэ, чы він бýдэ на мынэ́ ёкрáз. А подáтэ мо́жна шо-ныбýдь: подáтэ старому ку́бка з водо́ю, коб він напэ́уся; подáтэ ру́ку, опэ́туючысь* ('вітаючыся').

ПАКЛАСЦІ – **ПОЛОЖЭ́ТЭ**. *Положэ́тэ мышке́ на віз, сі́но ў ёсла. Положэ́ лучэ́ну на піч, хай вэ́сохнэ. Розослáтэ ґазéтыну, радю́жку* ('посцілку'), *насти́лныка* ('абрус'). *Наслáтэ рушыкá на ослі́н* ('услон'). *Слáтэ лён* (каб выбеліўся). *Слáтэ посьці́ль. Застылэ́ столá хоч бумáгію, ёк насти́лныка ў тыбэ́ нымá. Склáстэ сі́но ў копэ́цу, зложэ́тэ сі́но ў стожо́к. Шо ж тэ наклáў* (або *накéдаў*) *сі́на абэ́-ёк: гэ́та хýра зáрэ* ('зараз') *розвáлица. Поносэ́тэ сі́но ў сто́рону (у клýні) або́ на вэ́шке. Клáстэ дро́ва ў піч.*

ПАРОЦЬ 'распорваць пашытае' – **ПОРО́ТЭ**. *Стáла поро́тэ то́е пальто́ і побáчыла, шо воно́ мýтылём пошло́, лі́зэ* ('лезе'), *і ёго́ ўжэ нымá чого́ пырышывáтэ.*

ПАСЯЛІЦЦА – **ПОСЫЛЭ́ТЫСЯ**. *Ёк чолові́к узэ́ў усáдьбу, пострóйіўся там, то кáжуть, шо він посылэ́ўся. А ёк нанёў кóмнату дочёсно* ('на нейкі час'), *то він стаў* (інф. ***стáтэ***) *на квартíру. Гэ́нче* ('іншыя') *збо́ку хливá прічі́плюють ші́почку* ('паветку ці прыбудоўку са сценамі – сцены маглі быць

і плеценымі'). *Пошоў міцни дошч, – трэ́ба знайтэ́ нёке* ('нейкае') *прыхільле* ('прытулак'). *Лаўка зарэ зайнёта, то тэ посудок* ('посуд') *прытулэ́ дэ-нёбудь у кутковэ.*

ПРЫБІРАЦЬ – **ПРЫБИРА́ТЭ**. *Твоїі прыборэ мыні ў пычінёх* ('у пячонках') *сыдёть: попрыбирайіш кудэ́сь, похавайіш, шо потом нэц ны найдыш. Ножныцэ прыбрала... кудэ́ тэ йіх поділа? Попрыбирай у сыбэ́ ў коморэ – там у тыбэ́ ўсёго стілько наваляно, шо чорт можэ собі шэю звырнутэ, а чоловік – ногэ поламатэ. Хутынько попрыбирай усё хорошэ́, бо ўвэ́чырэ хлопцэ прэ́дуть з гармонію. Тут у тыбэ́ скрізь одэ́жа роскёдана, то позгортай йіїі хорошэ́нько і вэ́нись у комору, а то прышла, плёснула ўбраньне абэ́-дэ́ і забулася про ёго. У нашыйі тітке Мані заўшэ ўсё до ладу довэ́дяно.*

ПРЫЦІСНУЦЬ – **ПРЫЧАВЭ́ТЭ**. *Можна прычавэ́тэ дырвэ́нию руку, ёк кладучэ́ йіїі на віз, учёс ны прэ́йміш руку. Прышчимэ́тэ пальцэ ў двэ́рух, у шчёйінэ. Я люблю, ёк хто опэ́туйіца і шчёвіть* ('сціснe') *руку, а то гэ́нчі подасьць руку, бы лапу здохлого собаке.*

РАЗБЛЫТАЦЬ – **РОЗБЛЮ́ТАТЭ**. *Розблютуйіш нитке тоді, ёк чёсом чёшка зсуныца з клубка, чы гэ́нчі раз дітэ заблютають клубке з ниткамэ. У войну колэ́сь, помытаю, мадярэ ныналжано* ('нечакана') *ускочылэ ў сыло; мэ ўспілэ ўтычэ́ ў ліс, а ёк вырнулися з лісу, то побачылэ, шо вонэ́ ўсі нитке поблюталэ і дыўчёта потом ціли тэ́ждинь йіх розблютувалэ. Мадярэ розозлэ́лися, шо мэ ўсю горілку с собою забралэ, а йім нэц ны покёнулэ, і прострэ́лылэ парніка (у ёму грійіца брага).*

РАЗМОТВАЦЬ – **РОЗМО́ТУВАТЭ**. *Ёк прёжу хочуть хварбуватэ, чы выбілюватэ, то мотають у мотке с клубка (*або *в'ють). Повэ́ ручайке на мотушку, на клубок міцно, коб чёшка ны зсунулася.*

САДЗІЦЬ – **САДЭ́ТЭ**. *У нас садять росаду, цыбулю, часнэ́к, картоплі, бураке, біб, горох, а гурке, моркву, окріп – сіють; на полэ горох по картоплях уздоўж радкіў таксамо сіють. Курыцу на загранэ ёйца садять.*

САДЖАЦЬ – **САДЖЁТЭ**. *Коб піч нагрітэ, у піч кладуть дрова, подпалюють йіх, а тоді, ёк напалять, выгортають жёр і на лопатэ хліб саджёють у піч. Вылікого чыгуна у піч усунуть вылкамэ – у гэ́нчіх навіть булэ́ такёйі вылке з колісцамэ* ('з калёсікамі'), *коб лёхчі було ўсунутэ, а малого чыгуна чы горшчыка ставылэ за гусце, коб йіжа зварэ́лася.*

СКРЭБЦІ – **СКРЫПТА́ТЭ**. *Можна скрыптатэ рэ́бу (звэ́рху), моркву, брукву, картоплі молодэ́йі, а шкрёбатэ кружка, шо закрываё бочку з гуркамэ чы з капустию квашанию, дыжу, каструлю, ёк прыгорэ́ть йіжа. А з сырэ́дынэ рэ́бу чэ́стять.*

СНАВАЦЬ (аснову) – **СНОВА́ТЭ**. *Сноватэ дьві нэ́тке з двох клубкіў сновачкію – гэ́то такая дошчычка з двома дырочкамэ, а ў кёёвэ* ('у кіёчку') *два кольці, і чыриз гэ́тэ дьві дэ́рочке і кольца проходять дьві нэ́тке.*

СТАВІЦЬ – **СТА́ЎЛЯТЭ**. *Ёк унадыца тхір, то ў хлыві, дэ курэ сыдёть, стаўляють капканэ́, а на лэ́са* ('на ліса, лісу') *чы на зайца – пётлі або роскидають галке с трутэ́зном* ('круглыя шарыкі'). *Стаўляють хату, хлива, ля овычок – хліўчыка, роблять будку – ля собаке* (ля = 'для').

СУКАЦЬ – **СУКА́ТЭ** *(сучу, сучыш, сучыть, сучымо, сучытэ, сучать). Ёк шэ́йіш рукамэ, то трэ́ба зсукатэ нэ́тку, коб було мицні.*

ТАРАБАНІЦЬ – **ТАРАБА́НЫТЭ**. *Колэ́ ёшчык на возовэ нішчэ́мни* ('парожні') *і ў ёго шосьтам положыш нывыліке, то ў вэ́боях воно міцно тарабаныть. Бочка на возовэ, ёк нышчэ́мна, то роскачуйіцца і таксамо тарабаныть.* **ТАЛАДА́ХАТЭ** 'разбоўтваць кружачы, трасучы, размешваючы змесціва ў посудзе'. *Ны таладахай, бо молоко ўжэ зстоялося* ('стала густым, закісшым').

ТОРГАЦЬ (рэзкімі рыўкамі) – **ТО́РГАТЭ**. *Ёк прёжа ўжэ станэ сухая, йіїі торгаюць, збирають у плытінку, бо так нитке заблюталыся б.*

ТЫКАЦЬ – **ТЭ́КАТЭ**, *зак.* **ТКНУ́ТЭ**, **ТЭ́КАТЭ Ў ГО́ЧЭ** 'гаварыць з'едліва, падпускаць шпількі'. *Вырыратэ гочэ: ны ходжу на гулыцу, бо бабэ́ гочэ мыні выбырають: усё тэ́кають: «Колэ́ ўжэ твій Коля ожэ́ныца?* **СОЎГНУ́ТЭ** 'тыцнуць'. *Нывістка моя раптово ёк соўгнула вылкамэ, то чуть мынэ́ слыпэ́ю ны зробэ́ла. Тэ́чуть нэ́тку ў голку, ключё ў дэ́рку. Тылё* ('цялё') *мордыю тэ́чуть, коб ловэ́ло цэ́цку* ('сасок') *і дають йіїі тылётэ ў рот.* **МЭ́ШКАТЭ** 'тыкаць, поркаць'(напр., лыжкай у талерцы).

ТЫРЧАЦЬ – **ТЫЧЁТЭ**. *Чому тэ хуру ны огріб? А то, бачыш, сіно тычэ́ть і оподатымэ по дорэ́зэ, ёк вызтэ́мыш. Тыбэ́ нычого* ('кепска') *пострэ́глэ: онё* ('вось') *тут за вухом косэ* ('валасы') *тычёть.*

УКАЛОЦЬ – **УКОЛО́ТЭ**. *Я зашываю рубашку* ('кашулю'), *а тэ мынэ́ штырхнула ў локоть, і я голкію пальца ўколоў.* **ПУРНУ́ТЭ** 'пырнуць'. *Нёкось* ('неяк') *пурнуў я шэ́лом у кёшку ў хамутовэ, дай порваў йіїі; боюся, шо з йіїі зарэ вылазытымэ солома і мулятымэ конэ́вэ ў шэю.* **НЫЗА́ТЭ.** *Низатэ пацурке на нэ́тку. Низатэ (низнутэ) чы штырхнутэ чэмсь гострим.* **СКОЛО́ТЭ**. *Утыкайтэ, дытке, у хату, бо гэ́та корова колюча – можэ ызнутэ рогом, дай обызвічыть вас чы остаными́ся калікамэ на ўсю жызь.*

УСОЎВАЦЬ – **УСМЫКА́ТЭ**. *Усунуў нэ́тку ў голку, нэ́тку ў бэ́рдо, у нэт* ('ніт'). *Засунутэ люхту ў комынэ.*

УСТАВІЦЬ – **УКЛА́СТЭ**. *Укластэ ціўку ў чоўнык.*

ХАВАЦЬ – **ХАВА́ТЭ**. *І колэ́сь було, і тыпэ́р гэ́так: ёк хто ўмрэ́, то гэ́того мырцё хавають пошчі ўсім сылом.*

ХІСТАЦЬ 'ківаць, кідаць з боку ў бок (пры хваробе, стомленасці, у п'яным стане','быць няўстойлівым' – **ХИТА́ТЭ** 'калыхаць, гушкаць дзіця'. **ХИТА́ТЫСЯ** 'зрабіцца хісткім', 'злёгку рухаць галавой'. *Хитатэ можна стоўпа, коб вэ́нятэ ёго з зымні, зуба, коб вэ́нятэ ёго з ёсёл (ёсла* 'дзясны').

ЦАЛАВАЦЬ – **ЦЫЛÔВА́ТЭ**. *Бало хто там кого цылуваў? Ёк засватають з чужого сыла, і вона йдэ за*

*молодого, то пэршi раз оно і побачыть ёго пуд вынцом, і оно тодi пэршi раз поцылуйіца з йім. Потом ужэ і обнiмаюца, і любляца, ěк мэли* ('мілы') *одэнь одному.* **ОБНИМАТЭ**. *Обниматэ – гэта хвойіна такая тоўста, шо й п'ěть чоловік разом йійі ны обнэмуть.*

ЦЕРЦІ – **ТЭРТЭ**. *Труть картоплі на блінэ* ('дранікі') *чы на бабку. А ěк у кого ныма зубіў, то моркву і ěблыка труть на тірцэ. Госыню труть лён.*

ЦІСНУЦЬ – **ЧАВЭТЭ**. *Гэнчі раз сваволячэ мушчэна прыгорнэ, обнэмэ якую бабу чы дійку і прычěвить йійі до сыбэ. Ěк одэжа тісна, то вона чěвить, а обуй – чěвить і муляе. У нас ěк вытоплювалэ восок чы робэла матэ сэра, прычěўлювала чэм тěжкім. Гурке ў боццэ прывалювалэ камынём, а сіно прытягалэ рублэм. Ěк опэтуйіся* ('здароўкаешся') *с кэм, то трэба руку счавэтэ, а то гэнчі подасць руку, мнěхку да шэй мокру* ('потную').

ЦУРЧАЦЬ 'ліцца струменем' – **СЮРЧЁТЭ**. *Вода з стріхэ льлěцца кроплямэ, а над вугламэ – сюрчэть, бо там прыбэтэ з блěхэ роўчаке, дэ збирайіца водэ більш, ěк з подоўжного боку.*

ЦЫРКАЦЬ (маленькімі струменьчыкамі, дозамі) – **ЦЭРКНУТЭ** *дробэну* (пра карову). *Корова ўжэ запускайіца зусім – сцэкнэ // цэркнэ дробэну молока, бы мэш* ('мыш'). *Оно потынутэтэ – гэто ěк зусім мало закрасэтэ суп ложкію сала чы кашу молоком.*

ЦЯГНУЦЬ – **ТЯГНУТЭ**. *Ек пальца насторчыш, то трага* ('трэба') *потягнутэ ёго, коб аж тріснуў, то він станэ на місьце. Тягнулэ нэтку основэ – пропускалэ нэтку чырыз нэта.*

ЧАСАЦЬ (бервяно) – **ТЫСАТЭ** (*дырвэну*). *А чысатэ можна лён чы косу, ěк доўга коса ў которыйі дійке, а колэ коротка, то косэ* ('валасы') *росчісують. Чысатэ можна і навіть трэба конě чы корову, ěк вонэ лынěють навысьні, або чэстытэ зграблом* ('скрабніцай'). *Літом, ěк мнэга роботэ і ныма колэ навіть помэтыся, то тіло почынае свирбітэ, і хоч ёго почухриш* (***чухрэтэ*** 'чухаць') *у тому місьці, дэ свырбэть, сёромно прэдыца мэтысь. Ěк спэна свирбэть, то гэто на дошч, на нигоду.*

ШАРАВАЦЬ – **ШАРÔВАТЭ**. *Мнэго чого з посудку шарують, ěк прыгорэть: чыгунэ, мыске, каструлі, горшке, гладышке, – коб булэ чэстэ. Гэнчі раз пыском так вэшарують, шо блышчěть, бы юстро* ('люстэрка'). *І пôдлогу ныпохварбовану шарують віныком з пыском, ěк вона жывэ зачоўгана і надто марата* ('брудная').

ШМОРГАЦЬ 'шморгаючы зрываць' – **ШМОРГАТЭ**. *Шморгають ěгодэ, лэст* ('ліст') *з гулэнке* ('з галінкі'). *Колэ кошыка плытуть, то дубцé, дэ тоўшчі, зріжэ, а там, дэ тонкі, на коліновэ рукою шморгнэ, коб дубчык ны зламаўся. Шморгають таксамо носом, колэ простуджанэ.*

ШМУЛЯЦЬ 'выціраць адзенне ад частага ўжытку' – **ШМУЛЯТЭ** 'амаль зусім не рэзаць' (пра тупую пілу ці касу). *Ěк пэлка* ('піла') *гостра, то шмульнуў, шмульнуў, дай порізаў усі дрова, а тупэю – дражнить, а ны ріжэ.* **ЗАШМУЛЯТЫСЯ** 'запэцкацца'. *На, помэй мыні сорочку, а то зашмулялася, шо аж гэдко дывэтысь.*

*К. М. Панюціч*

## З ЛЕКСІКІ ГАВОРАК УШАЧЧЫНЫ

Гэта падборка лексікі – працяг публікацый, змешчаных у дыялекталагічных зборніках «Жывое наша слова» (2001), «Скарбы народнай мовы» (2005), «Народныя скарбы» (2008), «Беларуская дыялекталогія: матэрыялы і даследаванні» (2010). Запісы зроблены ў гаворках Ушацкага раёна Віцебскай вобласці.

**ТАБУНІЦЦА** *незак.* 1. Збірацца ў табун (пра коней). *Коні табуняцца на сéліцы.* Арэхаўна. 2. *перан.* Трымацца разам, гуртам. *Пірад бацькамі дзеўкам з мальцамі было сорамна йісці, табуніліся так: мальцы з мальцамі, дзеўкі зь дзеўкамі.* Наваселле.

**ТАКАЎНЯ** *ж.* Ток, пярэдняя частка восеці. *У восіці сушылі снапы, а пасьля вынасілі ў такаўню, вымалочвалі, а салому вытрасалі.* Арэхаўна. *Як сыпанéць зірняты ў веялаццы па такаўні – чысьцілі, веялі збожжа.* Судзілавічы.

**ТАЛАН** *м.* Шчасце, удача. *Талан у вашага сына: добра ўчыўся, у інсьцітут паступіў, настаўнікам будзіць.* Чэрсвя. *Нашаму Яну нідзе німа талану* (прыказка). Арэхаўна.

**ТАЛАНІЦЬ** *незак.* Шанцаваць, удавацца. *Нешта ні таланіць мальцу, усё ніўдачы ў яго.* Арэхаўна.

**ТАЛАНЧЫВЫ** *прым.* Шчаслівы, удачлівы. *Таланчывая маладзіца: мужык добры, дзеткі выўчыліся, бацькоў уважаюць.* Судзілавічы. *Нічога завіднага, а такая таланчывая: выйшла за люцкага мальца.* Вялікія Дольцы.

**ТАМАКА** *прысл.* Там. *Тамака яны жылі посьлі вайны.* Судзілавічы.

**ТАНКА** *ж.* Танк. *Танка зь лесу выскачыла – і на людзей.* Шчарбёнкі. *Пасьля абеда тут йішлі дзьве танкі, манеўры праводзяць.* Арэхаўна.

**ТАНЦУЁРКА** *ж.* Танцорка. *Во танцуёрка! Таніц у таніц ідзéць, біс пірадыху.* Наваселле.

**ТАНЯНЁХАЦЬ** *незак.* Няньчыць, вазіцца. *Усё танянёхайіць дзяцёнка, з рук ні спускайіць.* Арэхаўна. *Што ты яго танянёхайіш? Хай у калысцы пабудзіць сам!* Шчарбёнкі.

**ТАПЧА́** *ж.* Балоцістая, топкая мясціна, дрыгва. *Зыба́йіцца тапча́, но́гі прамачы́лі без бо́таў.* Чэрсвя. *Ты́я разы́, быва́ла, ко́ні тапі́ліся ў гэ́тай тапчы́.* Слабада.

**ТАРАДО́Н** *м. неадабр.* Балбатун. *Тарадо́н разышо́ўся, ноч, му́сіць, прагаво́рыць, німа́ спако́ю.* Судзілавічы. *Сьці́хні ты, тарадо́н!* Вялікія Дольцы.

**ТАРАДЭ́Й** *м. неадабр.* Балбатун. *Такі́ тарадэ́й, гаво́рыць і гаво́рыць, трапло́!* Арэхаўна. *Балбо́чыць біс пуця́, тарадэ́й.* Шчарбёнкі.

**ТАРАДЭ́ЙІЦЬ** *незак.* Многа гаварыць, балбатаць. *Лю́дзі даўно́ на рабо́цї, а ты ўсё тарадэ́йіш тут*! Наваселле. *Тарадэ́йіць біс пара́тку абы-што́.* Арэхаўна.

**ТАРАДЭ́ЙКА** *ж.* Балбатлівая жанчына. *Быва́юць ба́бы – тарадэ́йкі, балбату́хі.* Судзілавічы. *Тарадэ́йка прыйшла́.* Вялікія Дольцы.

**ТАРАДЭ́ЙЛА** *агульн.* Балбатлівы чалавек. *Мно́га ба́ба гаво́рыць, дык і пазва́лі тарадэ́йла.* Судзілавічы. *Ня ве́рці тарадэ́йлу.* Вялікія Дольцы.

**ТАРАПКІ́** *прым.* Хуткі, паспешлівы. *Усё сьпіша́йіцца, міну́ткі ні пасядзіць, тарапкі́ чалаве́к.* Наваселле.

**ТАЎКО́ЛКА** *ж.* Таўкач. *Нялю́цкая ба́ба: таўко́лкай дачку́ апсіні́ла, зьбі́ла.* Слабада. *Сьвіну́ю е́жу таўко́лкай стаўкла́.* Наваселле.

**ТАЎЧО́НІК** *м.* Піражок з тоўчанай бульбы. *Стаўку́ бу́льбы, туды́ крахма́лу й яйцо́ – во і таўчо́нікі.* Вялікія Дольцы. *Вазьмі́ таўчо́нік с сабо́й.* Судзілавічы.

**ТЛУЯ́НІЦЬ** *незак.* Гаварыць няпраўду, абманваць. *Што яна́ тлуя́ніць? Яе́ сын даўно́ ня быў, а ка́жыць – ле́тась.* Арэхаўна.

**ТРАЙНЮКІ́** *мн.* Трайняты. *Трайнюкі́ радзі́ліся.* Судзілавічы.

**ТРАМБО́ЎКА** *ж.* 1. Машына для трамбавання. *Трамбо́ўку прывязьлі́.* Арэхаўна. 2. *перан.* Тоўстая жанчына. *Расплыла́ся це́шча, трамбо́ўкай заву́ць.* Арэхаўна.

**ТРАНЦЁ** *н. зб.* Транты, старое адзенне, рыззё. *Кіда́й гэ́та транцё на печ, хай сагрэ́йіцца.* Судзілавічы. *Укры́ла но́гі транцём, замёрзла на па́сьці.* Вялікія Дольцы.

**ТРАПА́ЧКА** *ж.* 1. Мянташка. *Купі́ў но́вую трапа́чку, на́да касу́ найстры́ць.* Арэхаўна. 2. *перан.* Балбатуха. *Век трапа́чка была́, балбо́чыць і балбо́чыць.* Судзілавічы.

**ТРАПЕ́ШКА** *ж.* 1. Трапашка. *Была́ трапе́шка, лён чы́сцілі.* Судзілавічы. 2. Балбатуха. *Ці ей ска́жаш што? Трапе́шка ўсё сялу́ разьнясе́ць.* Вялікія Дольцы.

**ТРОХРО́ДНЫ** *прым.* Траюрадны. *Га́нна мне трохро́дная сі́стра́.* Арэхаўна. *Далёкая радня́ – трохро́дны брат.* Наваселле.

**ТРУДАВЫ́** *прым.* Працавіты. *Міко́ла трудавы́ быў, сам ха́ту паста́віў, хлявы́.* Арэхаўна. *Трудавы́ ён, чэ́сны чалаве́к.* Астраўляны.

**ТРУДЗІ́ЦЦА** *незак.* 1. Мучыцца, пакутаваць. *Ня хо́чыць за таго́ ма́льца йісці́ – ніха́й ня йдзець, а то по́сьлі бу́дзіць трудзі́цца.* Судзілавічы. 2. Цяжка хварэць. *І табле́ткі прыма́ю, а труджу́ся ўсю ноч, німа́ пупра́ўкі.* Вялікія Дольцы. *Так до́ўга ліжа́ла, трудзі́лася.* Судзілавічы.

**ТРУДЗІ́ЦЬ** *незак.* Мучыць. *Ідзі́ ты, кажу́, ма́ліц, ні трудзі́ маю дзяўчы́ну.* Старына.

**ТРУ́ДНА** *прысл.* Балюча, пакутліва. *Тру́дна было́, му́чылася пі́рат сьме́рцю.* Наваселле. *Адзі́н бок як мёртвы, тру́дна мне.* Судзілавічы.

**ТРУДЫ́** *мн.* Пакуты, боль. *Ні жа́ртачкі, такі́я труды́ – во́пух на ўсю нагу́.* Вялікія Дольцы.

**ТРУЛІ́ЦЬ** *незак.* Гаварыць няпраўду, выдумляць. *Трулі́ш ты*! *Наш сын і ня ду́майіць жо́нку кіда́ць.* Судзілавічы.

**ТРЫЛУ́ЗА** *агульн.* Той, хто гаворыць пустое, абы-што; пустазвон. *Трылу́за ты! Абы-што́ вярзе́ш бяс то́лку.* Арэхаўна. *Трылу́за здумля́йіць, а вы, дурны́я, ве́рыці яму́, прычапі́ўся, як смала́.* Слабада.

**ТРЫЛУ́ЗІЦЬ** *незак.* Гаварыць абы-што, несці лухту. *Што ён трылу́зіць? Ні разабра́ць.* Арэхаўна. *Ай, ні трылу́сь ты*! *Ні было́ гэ́тага.* Судзілавічы.

**ТРЫСЦІ́ЦЬ** *незак.* Злучаць дзве ніткі ў адну. *Трысьці́лі ні́ткі, дзьве ў адну́.* Судзілавічы.

**ТУ́КАЦЬ** *незак.* Папракаць, нападаць. *Ту́калі ўсе на сястру́: куды́ ты ў сьвет ш чужы́м чалаве́кам пае́дзіш?* Судзілавічы. *Ма́чаха кажы́нны дзень ту́кайіць, німа́ жыцця́ па́ччарыцы.* Арэхаўна.

**ТУРНАВА́ЦЬ** *незак.* Турбаваць, непакоіць. *Ні турну́й ты яго́, дай спако́йна паляжа́ць.* Чэрсвя. *Нашто́ ты мяне́ турнава́ла, я п паліжа́ла – і ляхчэ́й ста́ла п.* Судзілавічы.

**ТУ́ТАКА** *прысл.* Тут. *Ту́така мне ўсе сваé, а там чужы́я.* Арэхаўна.

**ТУ́ТАЦЬКА** *прысл.* Тое ж. *Не́міц ні пагла́дзіць па шэ́рсьці, а пат шэрсь: ту́тацька ў нас усё папалі́ў.* Наваселле.

**ТЫНІНА́** *ж.* Нятоўстая палка з тыну. *Вазьмі́ тыні́ну, пасо́б быка́ загна́ць у хлеў.* Слабада.

**УБО́ІШЧА** *агульн. асудж.* Упарты, непаслухмяны, убоіна. *Во ўбо́йішча*! *Тако́га ні піра́йна́чыш, хоць гавары́, хоць бі.* Вялікія Дольцы. *Вы́расла ўбо́йішча, здуры́лі зма́лку.* Арэхаўна.

**УБРЫ́ДЗЕЦЬ** *зак.* Збрыдзець, надакучыць. *Убры́дзіла ты мне сваі́м ка́шлім, на, вы́пі багу́льніку.* Вялікія Дольцы.

**УВА́ГА** *ж.* Павага. *І табе́ ўва́га ле́пшая была́ п, кап пайшо́ў ды пакасі́ў.* Судзілавічы. *На сьвякро́ў насвары́лася, ні́якай ува́гі да старо́й.* Наваселле.

**УВАЖА́ЦЦА** *незак.* Асцерагацца, шанавацца. *Ні ўважа́лася ні́колькі, е́ла ра́зам зь йім – вот і набра́лася хваро́бы.* Судзілавічы. *Уважа́йся, дзяўчы́на, ні гуля́й по́зна, ско́ра лю́дзі па́льцам пака́зваць бу́дуць.* Кублішчына.

**УВА́ЖНЫ** *прым.* Гатовы саступіць, праявіць павагу да каго-н. *Такі́ ўва́жны ма́ліц, саступі́ў таму́ задзіра́ху, ні стаў бі́цца.* Слабада. *Няве́стка ўва́жная, ні сва́рыцца са свякро́ўкай.* Судзілавічы.

**УВАРО́ТНЫ** *прым.* Хуткі, вёрткі, паваротлівы. *Ду́жа ўваро́тная ба́ба, ні міну́ткі спако́йна ні пася-*

*дзіць.* Арэхаўна. *Маладзіца ўваротная, усюды пасьпівайіць.* Кублішчына.

**УВО́СНІ** *прысл.* У сне. *Раз відзіла ўнучку ўвосьні.* Судзілавічы. *Увосьні клікаў мяне тата дамоў.* Арэхаўна.

**УВУ́РЫЦЬ** *зак. груб.* Ударыць. *Статуйі вялікія хату нашу патпёрлі былі. Алесь бег за йімі, увурыў аднаму палкай па плічах.* Арэхаўна.

**УГАМАВА́ЦЦА** *зак.* 1. Уціхамірыцца, аціхнуць, спыніцца. *Ніяк на дварэ ні ўгамуйіцца, усё сьнех йідзець, такая вея.* Судзілавічы. 2. Перастаць рабіць што-н. *Пара табе ўгамавацца, лажыся спаць.* Арэхаўна.

**УГАМАВА́ЦЬ** *зак.* Уціхамірыць, спыніць. *Угамуйці вы гэтага крыкуна!* Старына. *Ніяк ні ўгамаваць людзей, піражываюць дужа.* Арэхаўна.

**УГРАЖА́ЦЦА** *незак.* Пагражаць. *Угражаўся нам Пілíп: ня будуць жыць тыя йігрушкі, што пасадзілі на мяжы.* Судзілавічы. *Той злодзя яшчэ й угражаўся: сатру, кажыць, у мякіну, толькі скажы, што відзіла мяне!* Арэхаўна.

**УГРАЖА́ЦЬ** *незак.* Пагражаць. *Ні ўгражай, ні баюся цябе!* Арэхаўна.

**УДО́ДЛІВЫ** *прым.* Звяглівы, дакучлівы, незадаволены. *Удодлівая ты баба, усё табе ніўлат: капуста сьвежанькая, а ты дудзіш, ня хочыш есьці.* Судзілавічы.

**УЗВА́ЛЛЕ** *н.* Узвышша, высокі бераг над ручаём. *На ўзваллі кусты растуць.* Арэхаўна. *Спусьціліся ўніз з узвалля.* Чэрсвя.

**УЗГАЛАВА́Ч** *м.* Узгалоўе. *На палку даўней спалі. Гарахвіння, саломы пакладзём, пад галаву – узгалавачы, а поверх – сяннік, падушкі.* Старына.

**УЗГА́ЛІЦЦА** *зак.* Паквапіцца. *Узгалілася на чужыя грошы.* Судзілавічы. *Узгаліўся, што там зімля добрая, і піраехаў туды.* Слабада.

**УЗГЛЕ́ДЗІНЫ**, **УЗГЛЯ́ДЗІНЫ** *мн.* Агледзіны. *Сьпірва едуць на ўзгледзіны, а пасьля сватоў пасылаюць.* Судзілавічы. *Езьдзілі на ўзглядзіны.* Арэхаўна.

**УЗДУ́ХІ** *мн.* 1. Бакавая ўпадзіна паміж апошнім рабром і клубам у каровы. *Каля клуба ўздухі ў каровы.* Вялікія Дольцы. 2. Месца пад лыжачкай. *Як даў яму пад уздухі, дык той і заваліўся.* Арэхаўна.

**УЗНО́Ў**, **УЗНО́ВА** *прысл.* Зноў. *Мы былі аддзяліліся, а тады ўзноў да сьвякроўкі вярнуліся.* Вялікія Дольцы. *Матачкі сьвятыя! Трохі былі палепшалі ногі, а цяпер узнова баляць.* Судзілавічы.

**УЗРО́ЎЕ** *н.* Узгорак над ровам. *Агарот у йіх на ўзроўі, вада сьцікайіць, бульба нікалі ні гніець.* Чэрсвя. *На ўзроўі паставіў хату.* Слабада.

**УЗРЫ́ЖЖУ**, **УЗРЫ́ЗЗЮ** *прысл.* Наўзрыд (плакаць). *Паланейка маладая памёрла, сімнаццаць гадоў. Бацькі ўзрыжжу плакалі.* Чэрсвя. *Дваццаць гадоў ні слуху ні духу, а тады прыехаў, дык узрыззю плакалі родныя.* Арэхаўна. *Пахаронку палучылі, узрыжжу плакалі.* Шчарбёнкі.

**УКВЯЛІ́ЦЬ** *зак.* Развярэдзіць, раздражніць. *Рана ні зажыла, а ён ужо ўстаў. Нядоўга ўквяліць нагу.* Вялікія Дольцы.

**УЛАБУ́НІЦЬ** *зак.* Уціхамірыць, улагодзіць. *Пасварыліся, а цяпер ён бегайіць, каб улабуніць дзеўку.* Судзілавічы. *Матка з братам езьдзілі, троху ўлабунілі яго, ні стаў так піць, вярнуўся к жонцы.* Міхалкаўшчына.

**УЛЕ́ТАВАЦЬ** *зак.* Перажыць лета. *Улетавала цёлка, дык хай гадуйіцца ў зіму.* Чэрсвя.

**УЛО́НІ** *мн.* Улонне. *Усё на ўлонях ваша дзевачка, пара ўжо самой хадзіць.* Арэхаўна.

**УЛЮБІ́ЦЬ** *зак.* Упадабаць. *Улюбілі мы новую настаўніцу.* Астраўляны.

**УЛЯКНУ́ЦЦА** *зак.* Спалохацца, злякнуцца. *З-закуста як выскачыць сабака – так я ўлякнулася.* Арэхаўна. *Улякнулася дзіўчынёшка і захварэла.* Міхалкаўшчына.

**УНА́НАЧКІ** *прысл.* Нанач. *Дзевак шэсь унаначкі ў адну хату зьбіраліся. Прынясём с сабой лучыну, прадзём.* Судзілавічы. *Хадзілі прасьці ўнаначкі.* Вялікія Дольцы.

**УПА́ДАВАЦЬ**, **УПАДА́ЦЬ** *незак.* Заляцацца да каго-н. *Так упадаваў за дзеўкай, а йіна – ня бліска: наштó, кажыць, мне такі мармыль.* Судзілавічы. *Дужа Вольгачка ўпадала, каб за сына нашага выйсьці.* Міхалкаўшчына.

**УПА́РТАВАЦЬ** *незак.* Не слухацца, капрызіць. *У бабы ўпартываў, а ў бацькі рахманы.* Слабада. *У маткі ўпартывайіць, крыўдзіцца, а ў цёткі вун як гуляйіць!* Вялікія Дольцы.

**УПАЦЁМКАХ**, **УПАЦЁМКУ** *прысл.* Упоцемку, у цемнаце. *Чаго ты ўпацёмку пішаш? Запалі сьвет.* Шчарбёнкі. *Будзіць табе страшна йісьці ўпацёмку.* Астраўляны. *Упацёмках на вядро ўссунуўся.* Арэхаўна. УПАЦЁМАЧКУ *памянш.* *Забавілася, упацёмачку вярнулася.* Міхалкаўшчына.

**УПЕ́РАДЗЬ** *прысл.* Уперад, раней, спачатку. *Уперадзь было так: якая дзеўка многа трубак палатна мела, тая, лічылі, багатая.* Вялікія Дольцы. *Уперадзь дай супу, а тады малака.* Міхалкаўшчына.

**УПЕ́РАК** 1. *прысл.* Упоперак. *Бярно ўперак паклаў.* Арэхаўна. 2. *прыназ.* *Сьвінёнак парадашны, уперак хліва яму неяк піракруціцца.* Судзілавічы.

**УПІ́РА** *агульн.* Упарты, непаслухмяны чалавек. *Гавары ні гавары, а ня зробіць, упіра дзеўка.* Арэхаўна. *Ціцепірся яму сказала, а ён, упіра, ні пайшоў.* Судзілавічы.

**УПО́РА** *агульн.* Тое ж. *Гэткая ўпора: і песінь ні піяла, і слова ні сказала.* Міхалкаўшчына.

**УПО́РЫСТЫ** *прым.* Упірысты. *Палучыш дзягі, як будзіш упорысты, бацькоў ня слухайіш.* Арэхаўна. *Хочыць, кап па-ягонаму было, упорысты, як удот.* Вялікія Дольцы.

**УПО́ЎЗІНЫ** *мн.* Уваходзіны. *Ужо справілі ўпоўзіны, у новай хаці жывуць.* Вялікія Дольцы.

**УПУ́Д** *м.* Спалох. *Казёл дзевачку пабіў, з упуду захварэла.* Арэхаўна. *Жаўтуха з упуду бывайіць.* Судзілавічы.

**УПЯ́ЦІЦЦА** *зак.* Упяцца, настойліва дамагацца. *Маліц нідалужнінькі, а як упяціўся браць яе ў танцы, аж надаела дзяўчыні.* Арэхаўна.

**УРА́ГАВАЦЬ** *незак.* Капрызіць, упарціцца. *Малáя чáста ўрáгавайіць: пувáліцца ў пясóк і нагáмі б'ець.* Арэхаўна. *Конь йішóў, а тады́ як стаў урáгаваць, ні зь мéста.* Мажэйшчына.

**УРА́ГЛІВЫ** *прым.* Капрызлівы, непаслухмяны. *Урáглівы дзяцёнак, прóста гóра зь йім, крычы́ць, аш пасінéйіць.* Слабада. *Урáглівы ўнук, біз мáткі ні бярэ́ць éсьці, плáчыць, крычы́ць.* Арэхаўна.

**УРО́ДА** *ж.* Ураджай. *На грýшы сёліта ўрóда, я́драныя, смáчныя.* Міхалкаўшчына. *Бýльбы насадзілі, каб на ўрóду, мнóга былó п.* Судзілавічы.

**УРО́ІЦЦА** *зак.* Запасці ў галаву. *Урóілася нéшта мне – усё пра сы́на дýмаю, мóжа зь йім дрэ́нна, увóсьні нядóбра вíдзіла.* Арэхаўна.

**УРО́ЦЫ** *мн.* Урокі; хвароба ад дрэннага вока. *Лю́дзі баяцца ўрóцаў, хавáюць малакó, каб такí чалавéк ні сурóчыў.* Арэхаўна. *Прóсіць зéлля ат урóцаў.* Старына.

**УРУ́ЧЧА** *н.* Тое, што ў руках. *Лісíца падбірáлася к курáм, а ў мянé нія́кага ўрýчча.* Арэхаўна. *Вазьмí пáлку ці дубéц, хоць якóя ўрýчча бýдзіць, загóніш быкá ў хлеў.* Судзілавічы.

**УСІ́ХНЫ** *займ.* Усіх. *У вайнý ўсíхная дабрó папрападáла, гаравáлі лю́дзі.* Арэхаўна.

**УСЛУ́ГЛІВЫ** *прым.* Услужлівы. *Услýглівая дзяўчы́на: сéна пумаглá нам склáсьці.* Арэхаўна. *Кані́ запрóх, услýглівы.* Судзілавічы. *Дру́жаць яны́ с табóй, бо ты ўслýглівы.* Чэрсвя.

**УССІ́ЛІЦЬ** *зак.* Асіліць. *Гнілáя ўжо здарóўйім, ня ўсьсíлю й пéсьню запія́ць.* Наваселле. *Яшчэ́ янá ўсьсíліць агарóт прапалóць.* Астраўляны.

**УСУ́ГАНЬ** *прысл.* Следам, усутыч. *Усýгань йішóў за мной нéйкі чужнíк.* Чэрсвя. *Ён у магазін – і жóнка за йім усýгань.* Слабада.

**УСЫ́ПІШЧА** *н.* Пасудзіна, у якую ссыпалі муку, збожжа. *Бóчкі, скры́ні, лýпкі – усё гэ́та ўсы́пішча, мукý, зéрне ссыпáлі.* Вялікія Дольцы.

**УСЫ́ПКА** *ж.* Высыпка, сып. *Нéйкая ўсы́пка ў дачкí па цéле.* Міхалкаўшчына.

**УСЮ́ДЫХ** *прысл.* Усюды. *Усю́дых ён даскóчыць, такí дасýжы.* Старына. *Усю́дых сьнех.* Астраўляны.

**УХАДЗЁНКУ** *прысл.* На кожны дзень. *Гэ́та пальтó ўхадзёнку бýдзіць, а тóя выхаднóя, ня блоць ягó!* Судзілавічы.

**УХАЖО́Р, УХАДЖО́Р** *м.* Кавалер. *Даўнéй і гавóркі аб тóя ні былó, кап с ухажóрам па вýліцы прайсьці.* Наваселле. *А хай цябé валасéнь! Гэ́так па ўхаджóру ўбівáйіцца! Тры́ццаць яшчэ́ знóйдзіш.* Судзілавічы.

**УХАЖО́РКА, УХАДЖО́РКА** *ж.* Каханка, дзяўчына, да якой заляцаецца хлопец. *Для сваéй ухажóркі старáйіцца: дроў прывёс, варóты папрáвіў.* Старына. *Вýндзіка ўхаджóрка твая́ пайшлá.* Арэхаўна.

**УЦЯ́ЦЬ** *зак.* Зацяць, адняць мову. *Як сказáў, што вíдзіў йіх зь мяшкóм, дык і ўцялó йім, ні стáлі спóрываць.* Судзілавічы.

**УЧО́РЫХ** *прысл.* Учора. *А парашóк ты ўчóрых знайшлá?* Судзілавічы. *Зьéзьдзіў учóрых, палядзéў тых парася́т – хýдзінькія, як пілá.* Арэхаўна.

**УЧЫНЯ́ЦЬ** *незак.* Рашчыняць. *Парá ўчыня́ць хлеп.* Арэхаўна.

**ФАМІЛЬЯ́НСТВА, ПАМІЛЬЯ́НСТВА** *н.* Сваяцтва, радня. *Чуць ні пабíў нас сват! Во завялí фамілья́нства!* Судзілавічы. *Дóбрую дзéўку Сьціпáн узя́ў. Сóвісная ўсё памілья́нства.* Старына.

**ХАДАЛА́** *прысл.* Наўцёкі, ходу. *Чýйім: нéмцы йідýць! Мы хадалá, у лес пабéглі.* Арэхаўна. *Бяжы́ хадалá ат тагó злóдзя.* Кублішчына.

**ХАДЖА́ЛЫ** *прым.* Які часта бывае дзе-н., шмат ходзіць. *Былá хаджáлая, а цяпéр пастарэ́ла, ні хаджý далёка.* Чэрсвя. *На ўзглéдзіны хóдзіць, чалавéк ён хаджáлы.* Слабада.

**ХАДЗЯ́КА** *агульн.* Хадок. *Дзет éйны сагнýўся, згарбацéў, хоць бы трóшку ён хадзя́ка бы́ў.* Вялікія Дольцы. *Якáя зь яé хадзя́ка? Старáя, няўздóлая.* Арэхаўна.

**ХАДУ́Н** *м.* Хадункі. *Хадýн купілі ўнýку, хай вýчыцца хадзíць.* Наваселле. *Хадýн такí с калёскамі, аднó калёска сьпéраду, другóя ззáду, дзяцёнка стáвяць у хадýн.* Слабада.

**ХАЗЯ́ЙНЫ** *прым.* Гаспадарлівы. *Мужы́к яé хазя́йны, усё дóма рóбіць.* Арэхаўна. *Ні які там пустадóмак, а хазя́йны.* Судзілавічы.

**ХАЗЯ́ЙСКІ** *прым.* Тое ж. *Усё ў хáту, а ні с хáты – хазя́йскі мужы́к.* Арэхаўна. *Хазя́йская маладзíца, рукáтая, усё ўмéйіць.* Судзілавічы.

**ХАЛАДЗЁНКА** *ж.* Халодная вада. *У бóццы халадзёнка.* Арэхаўна. *Прынясí ў бáню халадзёнкі.* Судзілавічы.

**ХАЛЕРАВА́ЦЬ** *незак. асудж.* Паводзіць сябе неспакойна, злавацца, раздражняцца, нервавацца. *Чагó ты лёта йіш, халярýйіш? Успакóйся!* Арэхаўна. *Халеравáў, што капýсту пірасалíла, дýжа наравíсты!* Кублішчына.

**ХАЛЕ́РНІК** *м. лаянк.* Дрэнны, нягодны чалавек. *Што ты, халéрнік, абмáнывайіш нас?* Арэхаўна.

**ХАЛЕ́РНІЦА** *ж.* Тое ж. *Кап ты калóм пайшлá, халéрніца! На чужóя пагáлілася!* Судзілавічы. *Дзе ты цігáйісься, халéрніца?* Старына.

**ХАЛТАМА́** *агульн. асудж.* Бесталковы чалавек. *Халтамá ён! То аднó пры́йдзіць ямý ў галавý, то другóя.* Судзілавічы. *Тáя халтамá ўсё кíнула-ры́нула й паляцéла за йім аш у Сібір.* Арэхаўна.

**ХАЛТАМАВА́ТЫ** *прым. асудж.* Не вельмі разумны, бесталковы. *Халтамавáтая дзéўка! Адзéла вáлінкі к такóму дóбраму пальтý!* Старына.

**ХАЛТАМЕ́ШКА** *агульн. асудж.* Бесталковая жанчына. *Халтамéшка век былá: к мáльцу самá паéхала!* Астраўляны. *Халтамéшка! Ты́я кáртачкі ні ў шкáпі, а ў канвéртах во ліжáць.* Судзілавічы.

**ХАМЛА́К** *м.* Кавалак чаго-н., жмак. *Вур-вур-вур у вýху. Мóжа, бóльшым хамлакóм заткнýць?* Судзілавічы. *Хамлáк травы́ пранісла́.* Мажэйшчына.

**ХАРА́КЦЕРНЫ** *прым.* З характарам, настойлівы, рашучы. *Такí харáкцірны, дабівáйіцца свайгó.* Шчарбёнкі. *Цíма харáкцірны, ні паддáсца жóнцы, піралóміць.* Судзілавічы.

**ХАРО́Ш** *прым.* Поўны, здаровы. *Хату прадаў, грошы ёсь, цяпер харош стаў, падбарадавіч вісіць.* Міхалкаўшчына. *У пікарні робіць, харашá стáла, а былá хýдзінькая.* Вялікія Дольцы.

**ХАРЧАВІ́ТЫ** *прым.* З добрым апетытам. *Мужык яе харчавіты, што ні зварыць, усё з'есь, як за сябе закініць.* Старына. *Ні харчавітая маладзіца, няешчая саўсім, худáя.* Арэхаўна.

**ХА́ТНІК** *м.* Сямейнік; той, хто жыве ў хаце. *Каб ужó лёх дый памёр, а то натрýдзісься пірат сьмéрцю, і сам сабé зьнілюбéйіш, і хáтнікам свайім.* Слабада. *Мой хáтнік пamóжыць мне.* Мажэйшчына.

**ХА́ТНІЦА** *ж.* Тое ж. *Харóшыя кварціранткі, ні баюся нічóга на йіх кідáць, усё даглéдзяць, мае хáтніцы!* Вялікія Дольцы.

**ХАТО́МКА** *ж.* Клунак. *Уцякáлі с хатóмкамі ад нéмцаў.* Арэхаўна. *Зьвізáла ўсё ў хатóмку і пайшлá.* Шчарбёнкі.

**ХАХАТУ́ЛЛЯ** *ж.* Рагатуха, весялуха. *Такáя хахатýлля дзеўка, век сьмяéцца, дýжа вясёлая.* Арэхаўна. *Вáша Нінка вісялýха, хахатýлля.* Судзілавічы.

**ХА́ЯЦЬ** *незак.* Абгаворваць, знеслаўляць. *Тут вы на яе брахáлі, хáялі, а йінá паéхала на стрóйку і такóга лóўкага жаніхá знайшлá.* Вялікія Дольцы.

**ХВАРУ́ХА** *ж.* Хваравітая жанчына. *Янá хварýха: на вéтры пабýдзіць – і ўжо ляжыць.* Судзілавічы.

**ХВАРЫНА́** *ж.* Тое ж. *Табé то тóя баліць, то гэта – такýю хварынý ніхтó зáмуш ня вóзьміць.* Судзілавічы.

**ХВАРЫ́Ш** *м.* Хваравіты, кволы чалавек. *Мне мéншага ўнýка шкадá: хварыш, чуць што – ляжыць, хварэйіць.* Судзілавічы.

**ХВАШЧА́НКА** *ж.* Мачалка, вехаць з хвашчу. *Хвашчáнкі з хвашчý рóбюць.* Судзілавічы. *Хвашчáнкай шаравáлі катлы.* Вялікія Дольцы.

**ХІ́РЫ** *прым.* Недагледжаны. *Стаў ён хіры, ня брыйіцца, ня мыйіцца.* Наваселле.

**ХЛЕ́БНІЦА** *ж.* 1. Дзяжа. *У хлéбніцы рашчыняюць хлеп.* Арэхаўна. 2. *перан.* Поўная жанчына, з добрым апетытам. *Такáя былá хлéбніца, дужáя дзеўка, а цяпéр ні стáла апіціту, схуднéла, няўсыць есь.* Наваселле.

**ХЛІХАТУ́Н** *м.* Рагатун. *Нéйкі хліхатýн, біс канцá сьмяéцца.* Наваселле.

**ХЛІХАТУ́ХА** *ж.* Рагатуха. *Дзеўкі-хліхатýхі, йім пáліц пакажы – і бýдуць сьміяцца.* Судзілавічы.

**ХЛУС** *м.* Манюка. *Прáўды ні скáжыць, хлус.* Арэхаўна.

**ХЛУ́СКА** *ж.* Тое ж. *Ай, хлýска! Гавóрыць, бытта йіх дзяцька акадзéмік там, у гóрадзі.* Вялікія Дольцы.

**ХМЫЗ** *м.* Хмызняк. *Хмызам усё параслó.* Арэхаўна.

**ХО́ДКА** *ж.* 1. Хадня. *Хóтка далёкая, сем кіламéтраў.* Мажэйшчына. 2. Паходка. *Ківіль-ківіль, такáя ягó хóтка.* Наваселле.

**ХО́ПАМ** *прысл.* На скорую руку, спяшаючыся. *Якóя там былó крыццё пасьля вайны, у дзьве дранічкі, хóпам, вот хáта й пацíклá.* Вялікія Дольцы.

**ХРЫБЁТ** *м.* Хрыбет. *Ня лесь, лéпі ні чапáйся, дам каршнём у хрыбёт.* Судзілавічы. *Нéшта хрыбёт баліць.* Вялікія Дольцы.

**ХУ́ДА** 1. *прысл.* Складана, цяжка. *Хýда былó ў бальніцу запісáцца: ні тáмашні, дык ня хóчуць браць.* Старына. 2. Дрэнна, моташна. *Аш хýда стáла ад грыбóў.* Арэхаўна. *Ай, хýда мне! Бытта і прáўда ён кініць тут усё сваё і паéдзіць у сьвет!* Вялікія Дольцы.

**ХУДАБА́** *ж.* Хвароба. *Ні былó ў ягó ніякай худабы, а машына як прыціснула, з упýду і стаў прыпáдак.* Мажэйшчына.

**ХУ́КАЎКІ** *мн.* Клубы пару. *Хóладна ў хáці, хýкаўкі відáць.* Арэхаўна.

**ЦАЛІЗНА́** *ж.* Пропуск пры ворыве, агрэх. *Плух па вéрху прайшóў – во й цалізнá.* Чэрсвя. *Вярні плух назáд і прагані яшчэ рас, кап цалізны ні былó.* Наваселле.

**ЦАПЭ́-ЛАПЭ́** *прысл.* Цапу-лапу, наспех. *Мы цапэлапэ, на хадý сабрáліся і згулялі запóйіны.* Арэхаўна.

**ЦЕ́МКІ** *прым.* Цямкі, кемлівы. *Цéмкі дзяцёнак: рас прачытáў – і ўсё запóмніў.* Вялікія Дольцы.

**ЦЕ́ПЕРСЯ, ЦІЦЕ́ПЕРСЯ** *прысл.* Даўно. *Карóў цéперся прыгнáлі, а дзяўчыны нáшай ўсё німá.* Арэхаўна. *Ціцéперся бýльбу выкапалі, адны буракі астáліся.* Наваселле.

**ЦЕ́ПЦЯ** *агульн. неадабр.* Марудлівы чалавек. *Цётка такáя цéпця, няскóра кóнчыць складáць сéна.* Арэхаўна.

**ЦЕЦЯНЁХАЦЦА** *незак.* Няньчыцца, вазіцца. *Цэлны дзень зь дзяцёнкам ціцянёхайіцца, падгóцвайіць ягó.* Наваселле.

**ЦЁПЛЫ** *прым.* 1. Пагодлівы. *Цёплы дзень.* Арэхаўна. 2. Добра ацеплены. *Цёплая хáта, і марóс ні стрáшны.* Чэрсвя. 3. *перан.* Багаты. *Катóрыя былí цёплыя, багатыры, тыя ні хацéлі калхóзаў.* Слабада.

**ЦЭ́ЎКА** *ж.* Трубачка для намотвання нітак. *Бярэш цэўку і сукáйіш.* Судзілавічы.

**ЦЭ́ЎКА** *ж.* Частка рукі ад кісці да локця. *Цэўка баліць, удáрыла ўчóра.* Арэхаўна.

**ЦЯГ** *м.* Цяга. *У пéццы дóбры цях.* Арэхаўна. *У шчыткý такí цях, што і пéр'я ўцягніць.* Вялікія Дольцы.

**ЦЯ́ГАМ** *прысл.* Увесь час. *Ляжыць бáба, устáць ня мóжыць, лі яе цягам нáда чалавéк, каб глядзéў.* Слабада.

**ЦЯГІ́ЛА** *агульн. асудж.* Нячысты на руку, зладзеяваты чалавек. *Што ягó вóчы ўвідзяць, тóя й вóзьміць, такí цягíла.* Арэхаўна. *Бáцька цягíла быў, і сын па йім. Яблык ад яблыні далёка ні ляцíць.* Судзілавічы.

**ЦЯГІ́ЛЬ** *м.* Тое ж. *Нялюцкі чалавéк, цягíль: кудý ня пóйдзіць, што-нібýць ды сьцягніць.* Слабада.

**ЦЯГЛО́** *агульн.* Тое ж. *Ні любілі ягó ў нас, цягло быў: салóму чужýю браў.* Судзілавічы. *І аткýль гэта цягло са сьвéту явілася?* Арэхаўна.

**ЦЯПЕ́РАКА** *прысл.* Цяпер. *Цяпéрака ўсе вýчацца.* Арэхаўна.

**ЦЯПЕ́РАЦЬКА** *прысл.* Тое ж. *Цяпе́рацька лю́дзі ле́пей жывýць, чым ране́й.* Наваселле.

**ЦЯПЛО́** *н.* 1. Цеплыня. *На дварэ́ цяпло́, ні замёрзьніш.* Арэхаўна. 2. Святло, агонь. *Запалі́ цяпло́, чаго́ ўпацёмку пі́шаш?* Судзілавічы. *Цяпло́ запа́львалі но́ччы, ба́бі дрэ́нна было́.* Судзілавічы. 3. Лямпа. *Ні нясі́ сюды́ цяпло́, мне і так усё віда́ць.* Судзілавічы. 4. Вогнішча. *Цяпло́ раскладалі, бу́льбу пяклі́.* Старына.

**ЦЯСЮ́ТА** *ж.* Карова (пры падзыванні). *Цясю́та-цясю́та, хадзі́ ў хлеў.* Арэхаўна.

**ЧАЛЕ́СНІК** *м.* Уваход у печ. *По́лынь аш у чале́снік шуга́йіць.* Арэхаўна.

**ЧАМЯРЫ́НІХА** *ж.* Чамярыца (ужываецца звычайна ў кленічах). *А каб на цябе́ чамяры́ніха*! *Абышто́ гаво́рыць пры дзе́цях!* Міхалкаўшчына. *Чамяры́ніха йіх вазьмі́*! *Пазабыва́ліся да́ўных пе́сінь.* Вялікія Дольцы.

**ЧАМЯРЫ́ШНІК** *м.* Тое ж. *На апіндзіцы́т даўне́й гавары́лі*: *чамяры́шнік схваці́ў.* Арэхаўна. *Лю́дзі памі-ра́лі с чамяры́шніку.* Слабада.

**ЧАМЯРЭ́ННЕ** *н.* Тое ж (звычайна ў кленічах). *Хай цябе́ чамярэ́ння*! *Куды́ ты маю ку́ртку палажы́ла, ні́як ні знайду́*! Судзілавічы. *А каб на цябе́ чамярэ́ння*! *Век жжыва́йіць, а ня ўме́йіць печ тапі́ць.* Вялікія Дольцы.

**ЧМУРА́** *агульн.* Выдумшчык, чмут. *Чмура́ ты*! *Здумля́йіш абы-што́, ні чмуры́ ты сьве́ту.* Наваселле. *Выдумля́йіць, што ў галаву́ пры́йдзіць, чмура́ гэ́та*! Арэхаўна.

**ЧМУЦІ́ЛА** *агульн.* Тое ж. *Во чмуці́ла*! *Сьмяю́цца ўсе кала́ яго́, здумля́йіць абы-што́.* Наваселле. *Такі́ чмуці́ла, нагаво́рыць уся́чыны.* Слабада.

**ЧО́СНЫК** *м.* Часнок. *Чо́сных на́да е́сьці, тады́ ня бу́дзіць гры́ба.* Судзілавічы. *Пасадзі́ла чо́сных.* Шчарбёнкі.

**ЧО́ХАЎКА** *ж.* Чыхаўка. *Усе́ ў ха́ці, як пласто́чкі, ліжа́ць*: *на́смарк, чо́хаўка, грып у йіх.* Судзілавічы. *Чо́хаўка ўзіла́.* Арэхаўна.

**ЧО́ХАЦЬ** *незак.* Чхаць. *Чо́хайіць, прастудзі́ўся ма́ліц.* Арэхаўна.

**ЧУДЛІ́ВЫ** *прым.* Жартаўлівы. *Зь йім ні засуму́йіш, такі́ чудлі́вы, вясёлы.* Чэрсвя. *Чудлі́вая ба́ба, мно́га чаго́ раска́зывала, сьмія́ліся мы.* Наваселле. *Каза́ў*: *каб зна́ў, што ў цябе́ мужыка́ німа́, пасва́таўся п. Чудлі́вы чалаве́к*! Судзілавічы.

**ЧУЖАНІ́ЦА** *агульн.* Чужы, нетутэйшы, прыезджы чалавек. *Чужані́ца ён, прые́хаў адне́куль здалёку.* Наваселле. *Чужані́цу прывёс, а свайі́х дзе́вак тут по́ўна.* Арэхаўна.

**ЧУЖНІ́К** *м.* Тое ж. *Прые́хаў аш с Сі́біру, чужні́к ён.* Слабада. *Чужні́коў цяпе́р разьвяло́ся, нае́халі адусю́ль.* Арэхаўна.

**ЧУ́ЛЫ** *прым.* Здаровы, дужы. *Хоць і стары́, алі́ яшчэ́ чу́лы.* Судзілавічы. *Ваш дзет чуле́йшы за на́шага.* Міхалкаўшчына.

**ЧУЛЯДЗІ́НА** *агульн.* Здаровы, прыгожы чалавек. *Дужа́ до́бры пасва́таўся да яе́, такі́ чулядзі́на – вялі́кі, здаро́вы*! Наваселле. *Дзе́ўка-чулядзі́на, стро́йная, сукры́стая.* Слабада.

**ЧУ́ТКА** *прысл.* Чуваць, чутно. *Ня чу́тка, ці ўзя́ў Сьціпа́н Васілі́ну*? Судзілавічы. *Чу́тка, як дро́вы сяку́ць.* Вялікія Дольцы.

**ЧУЦЬ** *незак.* Чуваць. *Чуць, як страко́чыць камба́йн.* Наваселле. *Каро́ў яшчэ́ ня чуць, по́зна цяпе́р прыганя́юць.* Слабада.

**ШАКО́ЛІНЫ** *мн.* Высеўкі. *Муку́ прасе́яла, а шако́ліны ўсы́пала ў ме́шанку парсюку́.* Міхалкаўшчына.

**ШАКО́ЛЫ** *мн.* Тое ж. *Шако́лы сьві́нцы аддаю.* Вялікія Дольцы.

**ШАЛАМА́НІЦЬ** *незак.* Шаламіць, муціць. *Захварэ́ла дачка́, шалама́ніла яе́, галава́ кружы́лася.* Судзілавічы.

**ШАЛТА́ЦЦА** *незак.* Хістацца. *Чаго́ занаве́ска шалта́йіцца?* Вялікія Дольцы. *Зуп шалта́йіцца, пайду́ йірва́ць.* Арэхаўна.

**ШАЛУ́П'Е** *н.* Шалупінне. *Звары́ла шалу́п'я і дала́ каро́ві.* Судзілавічы.

**ШАЛУ́ПКА, ШКАРЛУ́ПКА** *ж.* Лупіна. *Зьмяці́ гэ́тыя шалу́пкі.* Чэрсвя. *Шкарлу́пкі звары́ла парсюку́.* Арэхаўна.

**ШАЛУХА́** *ж.* Перхаць. *Ста́ла мыць дзе́ваццы галаву́, а там сто́лькі шалухі́*! Судзілавічы.

**ШАЛЯНІ́К, ШАЛЁНІК** *м.* Дуронік, шаляніца. *Ах ты, шаляні́к! Сьці́ху на цябе́ німа́*! Наваселле. *Малы́ ён шалёнік бы́ў, а ў ва́рміі цяпе́р до́бра слу́жыць.* Чэрсвя.

**ША́НАСЦЬ** *ж.* Шанаванне, пашана. *Цяпе́р мне ша́нась*: *уну́чка падмяні́ла ру́кі, у агаро́дзі прапало́ла, агуро́чкі палі́ла́.* Судзілавічы. *Каб была́ ша́нась, то надо́ўга хапі́ла б гэ́тай адзе́жы.* Вялікія Дольцы.

**ШАПЯТЛІ́ВЫ** *прым.* Шапялявы. *Про́ста го́ра*: *шапятлі́вы дзяцёнак.* Слабада.

**ШАРГУНЫ́** *мн.* Званочкі, шамкі. *На вясе́лля ко́ній убіра́юць*: *хаму́цік харо́шанькі, а на йім шаргуны́.* Наваселле.

**ШАРО́ЦЦЕ** *н. зб.* Рабацінне. *Вясно́й прыкі́дывайіцца шаро́ццяў на́шай дачкі́, усю апсыпа́йіць.* Арэхаўна. *Кла́ва хаце́ла шаро́ццяў зь ліца́ вы́гнаць, не́йкую ма́ску купля́ла.* Наваселле.

**ШАРЭ́ННЕ** *н. зб.* Тое ж. *Каза́лі, што ва́шы до́чкі пахо́жыя, а яны́ ш ро́зныя*: *адна́ ры́жая, і шарэ́ння мно́га, а друга́я бе́лінькая, ліцо́ чы́стая.* Кублішчына.

**ШАСТУ́ХА** *ж. устар.* Адна шостая надзелу. *Дзе́ўка была́ нікары́сьнінькая, ніпрыго́жая, алі́ шасту́ха зямлі́, тры дзінсяцы́ны.* Старына.

**ШАСЦЯРА́К** *м.* Запрэжка з шасці коней; шасцярык. *Пан на шасціраку́, на васьміраку́ е́зьдзіў, а лю́дзі на прыго́н хадзі́лі.* Старына.

**ШАФЯРЫ́ЦА** *ж.* Шаферка. *Сьпірва́ е́дуць з маладу́хай ша́фіры і шафяры́цы, а по́сьлі аста́тнія прыда́нкі.* Слабада.

**ШАЦІ́Н** *м.* Сацін. *Маладу́ха падары́ла мне шаці́ну на ко́хту.* Судзілавічы.

**ШВАГРЭ́ЦКІ** *м.* Швагер. *Швагрэ́цкі прыяжджа́ў.* Арэхаўна. *Швагрэ́цкі пумага́ў хлеў стро́йіць.* Шчарбёнкі.

**ШВЕ́ЙКА** *ж.* Швачка. *Сістра́ мая́ шве́йка была́, ко́хты, пла́цці шы́ла.* Вялікія Дольцы.

**ШКО́ЛІЦЬ** *незак.* Выхоўваць, дакараць, ушчуваць. *Мало́га на́да было́ шко́ліць, дык ня быў ба такі́ не́слух.* Арэхаўна.

**ШКУРЛЯТЫ́НА** *ж.* Шкарлятына. *У мяне́ сістра́ і брат паме́рлі са шкурляты́ны, яшчэ́ пры не́мцах.* Вялікія Дольцы.

**ШМАТО́К** *м.* 1. Невялікі кавалак чаго-н. *Валя́ліся шматкі́ во́ўны.* Арэхаўна. 2. Невялікая колькасць чаго-н. *Вы́пі шмато́к со́ды, мо́жа, ле́пі табе́ бу́дзіць?* Вялікія Дольцы. 3. Невялікі адрэзак часу. *– На шмато́к, уну́чка прые́хала? – На пяць дней.* Судзілавічы.

**ШНІЦЬ** *ж.* Снітка. *Шніць на мае́й по́жні рассье́ць, скаці́на ня бу́дзіць е́сьці.* Слабада.

**ШО́РХІ** *мн.* Шамкі, званочкі. *У царкву́ е́халі вінча́цца, круго́м цьвяты́, а над хамуто́м шо́рхі зьвіня́ць.* Судзілавічы.

**ШПУ́ЛЬНУЦЬ** *зак.* Шпурнуць. *Як шпу́льніць па́лкай па саба́ку!* Мажэйшчына.

**ШПУЛЯ́ЦЬ** *незак.* Шпурляць. *Ты паду́май: зь ляўшы́ так далёка мяч шпуля́йіць!* Арэхаўна. *Што ты, Ко́лька, у дзе́вачку я́блыкам шпуля́йіш?* Мажэйшчына.

**ШПЫ́РКА** *ж.* Ласкут. *Яку́ю шпы́рку ні вазьмі́, усё ў вас йіго́лкі тырча́ць.* Судзілавічы.

**ШТУКАВА́ТЫ** *прым.* Жартаўлівы, схільны да выдумак, хітрыкаў. *Дзя́цька наш штукава́ты быў: на Купа́лу, быва́ла, дзьве́ры ўсім пападпіра́йіць.* Наваселле. *Як прыду́майіць што, усе́ за жываты́ бяру́цца, такі́ штукава́ты.* Чэрсвя.

**ШТУРА́ЦЬ** *незак.* Штурхаць. *Што ты мяне́ штура́йіш, магу́ павалі́цца!* Міхалкаўшчына.

**ШУ́МА** *ж.* Смецце. *Дзе́ўка ў ха́ці, а шу́мы по́ўныя вуглы́.* Арэхаўна. *Ку́ры шу́му раскапа́лі.* Судзілавічы.

**ШУМЕ́ТНІК** *м.* Сметнік. *Вы́кінь на шуме́тнік гэ́тыя ацяро́пкі.* Арэхаўна. *Ку́ры грэ́баюцца на шуме́тніку.* Міхалкаўшчына.

**ШУ́МІНА** *ж.* Пылінка. *Шу́міна ўляце́ла ў во́ка, аж бяло́к пакрасьне́ў!* Судзілавічы.

**ШУРГАНУ́ЦЬ** *зак.* Кінуць, шпульнуць. *Як уляці́ць у ха́ту, ля́нпу як шургане́ць, як вы́зьвірыцца на ўсі́х!* Судзілавічы.

**ШУТЛІ́ВЫ** *прым.* Жартаўлівы. *Шутлі́вы ён, алі́ няўрэ́дны, зла ніко́му ня зро́біць.* Вялікія Дольцы. *Улля́на ба́ба шутлі́вая, расьсмяшы́ла нас.* Слабада.

**ШУЦІ́ЛЬ** *м.* Жартаўнік. *Ні ахці́ які́ прыго́жы ма́ліц, алі́ вясёлы, шуці́ль.* Вялікія Дольцы.

**ШЧАВУ́ЛЬНІК** *м.* Конскае шчаўе. *Не́каліська шчаву́льнік рва́лі на піра́гі.* Судзілавічы.

**ШЧЫ́БЕР** *м.* Юшка. *Шчы́бір засу́нь, а то тапі́лі-тапі́лі печ, а ўпусту́ю, ні́якага ду́ху на ха́ту.* Судзілавічы.

**ШЧЫТО́К** *м.* Грубка. *Шчыто́к пратапі́, цяпле́й бу́дзіць.* Арэхаўна. *Маро́с ці́сьніць, на́да шчыто́к пратапі́ць.* Шчарбёнкі.

**ШЧЭ́ЛКА** *ж.* Шчыліна. *Прусакі́ ў шчэ́лках сядзе́лі.* Арэхаўна.

**ШЧЭ́ПКА** *ж.* 1. Трэска. *Прыняс́і шчэ́пак, растапі́ць печ.* Арэхаўна. 2. Стрэмка. *Загна́ў шчэ́пку ў па́ліц, цяпе́р нарыва́йіць.* Мажэйшчына.

**ШЫ́ШКА** *ж.* 1. Шышка. *Мно́га шы́шак пад ёлкай.* Арэхаўна. 2. Пачатак (кукурузы). *Прыняс́і ты ма́льцу шы́шку куркуру́зы, усё про́сіць.* Астраўляны.

**ШЭ́РКІ** *мн.* Вяснушкі. *Шэ́ркі яе́ апсы́палі.* Судзілавічы.

**ЯДЖГУ́Р** *м.* Ёрш. *Налаві́ў адны́х яджгуро́ў.* Арэхаўна. *Яджгу́р калю́чы.* Судзілавічы.

**ЯР** *м.* Ярына. *– Дзе сёліта папа́р? – А там, дзе яр быў.* Міхалкаўшчына.

**Я́РНЫ** *прым.* Які адносіцца да яру. *Яку́ю ш табе́ пе́сьню ўзду́маць? Во, я́рную сьпяю́, слу́хай!* Наваселле.

*Н. Ф. Патапава*

## З ЛЕКСІКІ ГАВОРКІ ВЁСКІ ПАЛЕССЕ ЧАЧЭРСКАГА РАЁНА ГОМЕЛЬСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Гэтыя матэрыялы ў Інстытут мовы і літаратуры даслала Ніна Фёдараўна Патапава, бібліятэкар па спецыяльнасці. Яна карэнны жыхар вёскі Палессе, у якой жылі яе бацькі і іх продкі. Вёска Палессе – самае аддаленае ад раённага цэнтра пасяленне на тэрыторыі Чачэршчыны. Знаходзіцца яна ў напрамку на поўнач ад Чачэрска. Ніна Фёдараўна – чалавек, улюбёны ў родны край, яго культуру. Яна выдатны знаўца мясцовых звычаяў і традыцый. Шмат гадоў запар гэта жанчына рупліва збірае і занатоўвае ўсё, што звязана з традыцыйным побытам мясцовага насельніцтва. Дзякуючы самаахвярнай працы яна здолела сабраць вялікі архіў каштоўных запісаў. Матэрыялы, якія мае гэты даследчык-аматар роднай культуры, рознага зместу і моваэнаўчай каштоўнасці. У дасланай лексічнай падборцы большасць слоў забяспечана адпаведнымі ілюстрацыямі для ўстанаўлення і спраўджвання іх значэння, семантыка некаторых лексем суправаджальнымі ілюстрацыямі не падмацоўваецца. Але нягледзячы на адсутнасць прыкладаў, яны таксама

ўключаны ў гэты малы слоўнік, бо асобныя з абазначальных сродкаў з'яўляюцца рэдкімі і, здаецца, не зафіксаванымі ў лексікаграфічных крыніцах. Частка сабранага Н. Ф. Патапавай лексічнага скарбу прапануецца для друку.

**АБМАТА́НКА**[1] *ж.* Саматканая, цёплая суконная (з авечай воўны) хустка. *У мяне́ шчэ ў сундуку́ ляжы́ць абмата́нка суко́нная, што ма́тка мая́ калі́сь тка́ла.*

**АДЧЫ́НЯТЫ** *дзеепрым.* Адчынены. *Граза́ е́дзе, зачыні́ во́кны адчы́нятыя.*

**АНДАРА́К З ДЗЯЯ́ТКАЙ (АДЗЯЯ́ТКАЙ).** Андарак з прышыўным ліфам.

Андарак *з адзяяткай* паводле пакрою нагадвае рускі сарафан з прыгожым ліфам. *Адзяятка* прышывалася да спадніцы, спераду меўся разрэз пазухі, які зашпіляўся на трычатыры гаплікі[2].

**БО́РКІ** *мн.* Аборкі.

**БУ́РКІ** *мн.* Буркі.

Абутак пашыты з сукна і ваты, пастрочаны.

**БЯЗМЕ́Н** *м.* Бязмен; вагі. *Нава́ж мне са́ла ху́нты тры, бязьме́н у цябе́ ё.*

**ВАШАКО́БІЦЦА** *незак.* Задавацца, выхваляцца. *Не сто́іць і ху́нта глі́ны, а вашако́біцца.*

**ВЕ́ЗІНКА** *ж.* Тонкая квяцістая хустка. *Ве́зінку красі́ваю купі́ла.*

**ВЕ́КА** *н.* Века, крышка на дзежку.

**ВЕ́ХАЦЬ** *м.* Жмут, жменя хвашчу для мыцця посуду. *Пайду́ ў хвошч. Ве́хцяў надзе́лаю.*

Вехаць рабілі з хвашчу. Хвошч сабіралі на полі, сушылі, надавалі форму скрутку, звязвалі ніткай, выкарыстоўвалі па прызначэнні – мылі посуд, церлі чыгуны.

**ВЫ́ЛЮДНЕЦЬ** зак. Паправіцца, папрыгажэць, пахарашэць. *Пара́сся худа́я была́, а то вы́людніла.*

**ВЫ́ХАД** *м.* ◊ НА ВЫ́ХАД (пра адзенне). Святочны, для ўрачыстага моманту. *Хве́дзя, ты на рабо́ту кухва́йку насі́, а ку́ртка ніха́й на вы́хад.*

**ВЯЗЁНКІ** *мн.* Самаробныя вязаныя рукавічкі. *Надзе́нь вязёнкі – маро́з на двару́.*

**ГАНЧУ́РКА** *ж.* Ануча (для чыгуноў). *Ганчу́рка за гру́бкай ляжы́ць, вы́цягні чугу́н з пе́чы.*

Такая ануча выкарыстоўвалася для нашэння чыгуноў з бульбай і сцэджвання з іх вады.

**ГАНЯ́ЦЬ** *незак.* ◊ ГАНЯ́ЦЬ КЛЕ́ЙНІ. Сплаўляць плыты.

Звязвалі па некалькі штук бярвёнаў і пускалі па вадзе.

**ГАРЛА́Ч** *м.* Гарлач. ГАРЛА́ЧЫК *памянш.* *Закі́нула гарла́чык малака́ на смята́ну, паста́віла на ко́мін. Бяры́, скаку́ха там у гарлачу́.*

Ганчарны выраб, меў розныя памеры, прызначаўся для захоўвання малака. У ім таксама ставілі ў печ адтопліваць тварог.

**ГЛУЗД** *м.* Розум, здольнасць разумець. *Глуздо́ў у цябе́ ні́ма́ ў галаве́.* ◊ З'Е́ХАЦЬ З ГЛУ́ЗДУ. Страціць розум, развагу, здурнець. *Ці ты з глу́зду з'е́хала?*

**ГРЫБО́ВІШЧА** *н.* Грыбная мясціна. *Да рабо́ты я па сваі́х грыбо́вішчах пабе́гала.*

**ГУ́БЫ** *мн.* Грыбы. *Пайду́ ў лес, мо́жа, губ на скаваро́дку набяру́. Губ на скавараду́ набра́ла да рабо́ты, а перабіра́ць не́калі, на наря́д запа́здавала.*

**ГУМНО́** *н.* Гумно.

Спецыяльная гаспадарчая пабудова, у якую звозілі сухія снапы, а пазней іх малацілі.

**ДАКУЛЯ́РНІЦА** *ж.* Шчырая, добрая працаўніца.

**ДАЦЬ** *зак.* ◊ ДАЦЬ ХЛУСЦА́. Адлупцаваць, набіць. *Дай хлусца́ до́брага, хай не ле́зе.*

**ДА́ЧКА** *ж.* Надзел (буракоў і інш. культур) для апрацоўкі. *Да́чкі бурако́ў пабі́лі, за́ўтра пало́ць по́йдзім.*

**ДЗЯЛЁНКА** *ж.* Пачастунак свежынай. *Свяжы́на сёдні ў нас, на́да дзялёнкі разне́сць.*

**ДЗЯРУ́ГА** *ж.* Дзяруга. *Накры́йся дзяру́гай, цяпле́й бу́дзе.*

Тканая посцілка з тоўстай грубай тканіны, замяняла коўдру.

**ДРАЧО́НІКІ** *мн.* Дранікі, драчонікі. *Напікла́ драчо́нікаў, куле́ш звары́ла.*

**ДРА́ЧЫК** *м.* Дзяркач, галень. *Аббі́ снег на нага́х дра́чыкам.*

**ДУШАГРЭ́ЙКА** *ж.* Душагрэйка; цёплая жакетка без рукавоў.

Безрукаўка, доўгая, знізу пры таленая світка, якую носяць у розную пару года для саграванння цела.

**ЖАКЕ́ТКА** *ж.* Жакетка.

Святочнае адзенне з чорнага плюшу.

**ЖЛУ́КТА** *ж.* 1. Бочка для жлукчання. 2. Адзенне, якое жлукцілі.

1. Бочка без дна, у якой складвалі мокрае, палатнянае адзенне і перасыпалі попелам, праварвалі кіпенем, а потым мылі.

**ЖЛУ́КЦІЦЬ** *незак.* Жлукціць. *Жлу́кцілі пла́цце палатня́нае.*

Мыццё бялізны спосабам жлукчання.

**ЖЫ́ЖА** *ж.* Агонь (пры размове з дзецьмі).

**ЗА́БЛАЦЬ** *ж.* Мулінэ. *Кара́вашнік прые́хаў, дак тра́пкі здала́ да за́блаці купі́ла.*

**ЗАГАРО́ДДЗЕ** *н.* Месца, прастора за агародамі. *Чаго́ ты ціга́ешся па загаро́ддзю, даро́гі табе́ ні́ма́?*

---

[1] Лексічныя матэрыялы аўтара і ілюстрацыі да іх з боку іх граматычнага аблічча ўяўляюць сабой запісы, пераважна адаптаваныя да арфаграфічных нормаў беларускай літаратурнай мовы. Аднак абраная дыялектна-літаратурная форма фіксацыі матэрыялу вытрымліваецца збіральнікам непаслядоўна. У артыкуле арыгінальныя запісы захоўваюцца. Улічваючы характар іх падачы, гэты тэкст нельга выкарыстоўваць як крыніцу звестак для навуковага фанетыка-марфалагічнага апісання мясцовай гаворкі.

[2] Памерам шрыфту, адрозным ад асноўнага, – ім афармлены слоўнікавыя артыкулы – падаюцца значэнні, вызначаныя збіральнікам матэрыялаў. Асобныя з аўтарскіх тлумачэнняў з'яўляюцца звесткамі этнаграфічнага характару, якія адлюстроўваюць мясцовыя рэаліі побыту. Улічваючы, што такія заўвагі могуць быць адметнымі артэфактамі, яны захоўваюцца ў тэксце.

**ЗАГАРО́ДКА** *ж.* Палісаднік. *Пасадзі сабе́ цвяты ў загаро́дцы.*

**ЗАГНЕ́Т** *м.* Прыпечак, загнетак. *Абе́д на загне́цi стаіць, падагрэ́й.*

**ЗАКА́ЗНІК** *м.* Фартух, пашыты з тканіны чырвонага колеру, але крыху дапоўнены белым паркалем або белымі карункамі.

**ЗАКЛАДА́НКА** *ж.* Саматканая посцілка, вытканая спосабам закладання ніткамі рознага колеру на чорным фоне. *Кро́сны навіла́ ў ха́це, на́да заклада́нак-пасці́лак – наткáць, ніткі січа́с я́ркія, шарсцяны́я.*

**ЗА́НІЗКІ** *мн.* Пацеркі, бусы.

Маленькія пацеркі нанізвалі на ніткі, некаторыя да 15 ніток, і звязвалі ў адно вязьмо.

**ЗАПАЛАСКА́ЦЬ** *зак.* Заліць (дажджом). *Така́я граза́ нае́хала, за міну́ту ўсё запаласка́ла на гаро́дзі.*

**ЗАРА́НІ** *прысл.* З самага ранку, на золаку. *Куды́ ты так зара́ні бяжы́ш?*

**ЗАСЛО́НКА** *ж.* Засланка. *Цілівізар цэ́лы дзень глядзіць, як у засло́нку, – і ўсё.*

**ЗАСУЯЦІ́ЦЦА** *зак.* Закорпацца, затрымацца. *Засуяці́лася кала пе́чы і забы́лася каро́ву вы́гнаць на паля́.*

**ЗБРАТДЗЕ́ЦІ** *мн.* Дваюрадныя браты і сёстры.

**ЗЕ́ЛЛЕ** *н.* Лекі. *За́ўтры схаджу́ ў апцéку, на́да зе́лля купіць, а то зако́нчылася.*

**ЗРЭ́ЗАЦЬ** *зак.* Раскроіць. *Зрэ́зала з калінко́ру сабе́ саро́чку, дай пашы́ла.*

**ЗЮ́ЗЯ** *м.* Холад (пры размове з дзецьмі).

**КАГА́Т** *м.* Кагат, бурт (бульбы, інш. гародніны). *Мы шчэ кага́т на́ зіму не зары́лі.*

**КА́ДАЎБА, КО́ДАЎБА** *ж.* Сажалка (для мыцця бялізны, выгулу качак, іншых свойскіх птушак). *Калі́сь на хе́рмі дзяжу́рылі па во́чарадзі, ваду́ з каlóдзежа каро́вам цiга́лі ў ко́даўбу, шчэ ўмудра́ліс і кару́нкі вяза́ць пры ла́мпі. Вады́ напусці ў ка́даўбу.*

**КАЖУ́Х** *м.* Кажух.

Вопратка для зімы, шылася з дублёных тоўстых аўчын.

**КАНА́ПА** *ж.* Лава для сядзення з разьбяной спінкай.

**КАПАНІ́ЦА** *ж.* Матыка.

**КАРО́МІСЕЛ** *м.* Каромысел.

**КАРУ́НКА** *ж.* Карункі.

Вязанае з белых нітак упрыгожванне для ручнікоў, абрусаў, падзораў.

**КАРЭ́Ц** *м.* Кубак.

Чашка або кружка для піцця вады.

**КА́ХНУЦЦА** *зак.* Гакнуцца, бразнуцца, пляснуцца. *Так слізка сёдні, пашла́ упраўля́цца дай ка́хнулась на га́нках, чуць паднiла́ся.*

**КАЦЕ́ЛКІ** *мн.* Сланечнік.

**КАЧАРЭ́ЖНІК** *м.* Качарэжнік. *Вазьмі ве́нік у качарэ́жніку.*

**КАШО́ЛКА** *ж.* Кош.

Плецены з лыка, прадаўгаватай формы кош з дзвюма ручкамі. Насілі ў ім ежу, хадзілі ў грыбы, ягады.

**КЛЕЦЬ** *ж.* Пабудова для пражывання ў летні час. *З Пакро́ваў мы ўжо хадзілі на хваце́ры, а да е́тага ў кле́цях спа́лі.*

Будыніна без печы. У ёй жылі ў летні час, спалі да Пакрова (свята прыпадае на 14 кастрычніка).

**КОШ** *м.* Кош.

Высокі, круглы, плецены з шырокага лыка гаспадарчы выраб. У ім садзілі гусей на яйкі.

**КРО́СНЫ** *мн.* Кросны. *Ма́ня така́я рукадзе́льніца, па шку́мціку тка́наму, які́ найшла́ на даро́зі, мне кро́сны накіда́ла, я во́сім гу́бак вы́ткала ў во́сім ніто́ў.*

**КРУЦЕ́НЬ** *м.* 1. Форма галаўнога ўбору. 2. Від прычоскі (валасы раздзелены на прабор, іх звівалі ў дзве пасмы і злучалі ў валік, ці *круцень*. Прычоска падобна на вянок).

**КРЫШНІ́** *мн.* Сушаныя яблыкі, папярэдне парэзаныя на крышаны. *Сушу́ крышні́, ужо́ два мяхі́ ёсць.*

Звычайна для сушкі яблыкі рэзалі скрылькамі.

**КУ́БЕЛ** *м.* Кубел.

Зроблены з лыка выраб для захавання адзення.

**КУЁЎДА** *агульн.* Мітуслівы, але марудлівы чалавек. *Куёўда ты, кі́даішся, і ўсё на адны́м ме́сці.*

**КУ́ЗКА** *ж.* Берасцяны спадручны кошык. *Набра́ла цэ́лае вядро́ я́гад, не́куды браць, дак ку́зку з бяро́сты здзе́лала.*

**КУРА́ПА** *ж.* Жаба рапуха.

**КУ́ТНІЦА** *ж.* Вышыванае, упрыгожанае карункамі палатно, якое вешалі на кут.

**КУ́ХЛІ** *мн.* Туфлі. *Ку́хлі купіла це́сныя.*

**ЛА́ПЦІ** *мн.* Лапці.

Абутак, які плялі з лыка. Заматвалі на нагі анучы, завязвалі *боркамі.*

**ЛЁПАНІК** *м.* Неахайны мужчына, неахайнік.

**ЛУ́БКА** *ж.* Сявалка.

Круглая, лёгкая пасудзіна, у якой былі прасвідраваны дзірачкі. Праз іх працягвалі аборку, каб вешаць на шыю. Насыпалі зерне, неслі перад сабой і сеялі.

**ЛЮ́ЛЬКА** *ж.* Калыска. *Заве́сіла лю́льку по́лагам, а то му́хі дзіце́нку надае́лі.*

Калыска з дрэва для дзіцяці. Яе падвешвалі на крук у столі і калыхалі дзіця.

**ЛЯ́ДА** *н.* ◊ БІЦЬ ЛЯ́ДА. Распрацоўваць лес пад поле, сенажаць. *Калі́сь хадзі́ла ў лес ля́ды біць.*

**МАЖА́РА** *ж.* Калёсы, воз, павозка. *Садзі́сь на мажа́ру паедзім за се́нам.*

**МАТЫ́КА** *ж.* Матыка. *Бу́льбу ўжо маты́кай аббі́ла да ка́ліўца, а то́лку німа́.*

**МАХО́ТКА** *ж.* Нізкі, круглай формы гаршчок. *Ета махо́тка стара́я.* МАХО́ТАЧКА *памянш. Звары́ла ка́шы махо́тачку на хрэ́сьбіны, ба́бай мяне́ ўзялі́.*

**МОСТ** *м.* Падлога. *Масты́ на́да памы́ць.*

**МУЗЫ́КА** *м.* Музыка, гарманіст. *Пашлі на Балсуны́, сёдні Храшчэ́ння, музы́кі там найма́ныя.*

**МУ́РЗА** *агульн.* Неахайны чалавек. *Што глядзіш, як му́рза ў зацірку?*

**МЯРЦВЯ́К** *м.* Мёртвы, памерлы, пакойнік. *Чу́тна, што мярцвя́к у ха́це.*

**НАБО́ЖНІК** *м.* Ручнік (на абразы).

Набожнікам упрыгожвалі кут сялянскай хаты. Вешаўся ён толькі на абразы. Ткалі яго чырвоным.

**НАЛІ́СНІК** *м.* Налíснік, тонкі блінчык. *Налі́снікі напікла́ да ў чугуно́к, смíта́нкі наве́рх і ў лёгкі дух.*

**НАМІ́ТКА** *ж.* Намітка.

Доўгі, нешырокі ручнік, аздоблены вышыўкай геаметрычнага арнаменту, з махрамі на канцах. Павязваўся на галаву.

**НАПА́РЫЦЬ** *зак.* Зварыць. *Напа́рыла рэ́пкі: так сі́ласу, ну вінегрэ́ту, захаце́лася.*

**НАЧО́ЎКІ** *мн.* Начоўкі.

Лёгкае карыта, выдаўбанае з тоўстага дрэва.

**НА́ШАНЬСКІ** *прым.* Тутэйшы, мясцовы. *Е́ты чалаве́к не на́шаньскі.*

**НАШЫВА́ЦЬ** *незак.* Вышываць. *У на́шай дзярэ́ўні лю́бяць нашыва́ць, пашці́ ў ко́жнай ха́ці нашыва́нні, як прыбяру́ць к Вялі́кадню – лю́ба гля́нуць.*

**НЕ́ВАСЬ** *прысл.* Даўно, надзвычай даўно. *Не́вась каро́ва прышла́, а я яе́ не падаі́ла.*

**НУЖНІ́К, НЮЖНІ́К** *м.* Туалет. *Нужніка́ тут не ві́дна, пашлі́ за пу́ню.*

**ПАГАНЯ́ЦЬ** *зак.* Акучыць. *Бу́льбу паганя́ць на́да, зарастáе.*

**ПА́ДАНІК** *м.* Апад (пра яблыкі). *Я́блак-па́даніка́ў назбіра́ла каро́ве.*

**ПАЙ** *м.* Сенажаць, выдзеленая паводле ўстаноўленай нормы. *Се́на капёшак дзе́сіць награблі́, пай харо́шы ўда́ўся. Пашлі́ на луг паі́ дзялі́ць.*

**ПАКО́МЧАНЫ** *дзеепрым.* Пакамечаны, скамечаны. *Ху́сту пако́мчаную завяза́ла, паглáдзіць не магла́.*

**ПАЛА́ЦІ** *мн.* Палаці.

За брус замацоўвалі доўгую планку, насцілалі на яе дошкі. Залазілі на палаці з печы. Зімой на іх спалі, летам захоўвалі трубкі палатна.

**ПАЛА́ЦЬ** *незак.* Палаць (зерне).

Патоўчанае ў ступе зерне высыпалі ў начоўкі і трусілі, каб адляталі шалушкі.

**ПАЛІ́ЦА** *ж.* Паліца.

Дошка(-і), прыбітая да сцяны, на якую ставілі посуд і іншыя дробныя гаспадарчыя рэчы.

**ПАЛУЧА́ЦЦА** *незак.* Атрымлівацца. *У жываце́ не ву́чуцца, бу́дзе і ў цябе́ палуча́цца ўсё.*

**ПАМЫ́ЙНЫ** *прым.* Прызначаны для памыяў. *Вы́нісь памы́йнае вядро́ з ха́ты.*

**ПАРО́ЦЬ** *незак.* Мыць, чысціць. *Парасёнка забі́лі, іду́ на крыні́цу кі́шкі паро́ць.*

**ПАСЦІ́ЛКА** *ж.* Тонкая тканая з лёну прастыня.

**ПЕРАБЕ́ЛУХА** *ж.* Шчырая, добрая працаўніца.

**ПЕРАБІРА́НЫ** *дзеепрым.* Вытканы ў тэхніцы перабірання. *Падары́ла нявéстцы ска́церць перабіра́наю* (*ткáлі на до́шчачках, цяжо́лы ўзор*) *да рушніко́ў палатня́ных на па́мяць.*

**ПЕРАКО́ПКІ** *мн.* Перакопванне. *Пашлі́ на перако́пкі ў калхо́з, ходзь бу́льбай запасо́мся.*

**ПЕТУШКІ́** *мн.* Капытнік (?). *Бу́льбы е́ты год ма́ла, пашлі́ ў петушкі́* (трава балотная), *а то свіне́й не́чым кармі́ць.*

**ПЛА́ЦЦЕ** *н. зб.* Палатняная бялізна. *Качу́лкі ў мяне́ на пе́чы ў адны́м ме́сяці ліжа́ць, на́да пла́цця пакача́ць – дастаю.*

**ПЛЯЦЕ́НЬ** *м.* Пляцень, агароджа.

Забор, якім абгароджвалі агароды. Рабіўся ён з тонкіх прутоў, якімі абпляталі каркас.

**ПО́ЛАДЗЕНЬ** *м.* Полудзень.

**ПОСЛІБЕ́ДДЗЕ** *н.* Час пасля абеду або час з абеда да вечара. *Мне сёдні нара́д у кладо́ўку, ходзь до́ма што за послібе́ддзя здзе́лаю.*

**ПРА́НІК** *м.* Пранік. *Пра́нік ба́цька здзе́лаў но́вы, пайду́ на крыні́цу пла́цце праць.*

**ПРА́СЛА** *н.* Агароджа. *Перале́зь цераз пра́сла, хадзі́ бліжэ́й.*

**ПРО́СТА** *прысл.* ◊ У ПРО́СТА. Від ткання. *Кро́сны у про́ста вы́ткала на суко́нкі хазя́іну, а то ў рызі́навіках хало́дна хадзі́ць.*

**ПРЫ́ПІК** *м.* Прыпечак. *Сёдні ўго́дкі па ба́бі, засцялі́ рушніко́м пры́пік і паста́ў ка́шу.*

**РА́БЫ** *прым.* Пярэсты. *У на́шым ста́дзі пашці́ ўсі каро́вы ра́быя, не разлі́чыш ідзе́ чыя́.*

**РАДЗІ́МЕЦ** *м.* ◊ РАДЗІ́МЕЦ ЦІБЕ́ ПЕ́ТАЯ. Пажаданне няшчасця, хваробы (пры сварцы). ◊ РАДЗІ́МЕЦ ЦЯБЕ́ ЗАБІ́, ЗАМАЛАЦІ́. Тое ж. *Радзіме́ц цябе́ забі́, замалаці́, а мне та́я ня́вестка, з кім мой сын жыве́.*

**РА́ДАМ** *прысл.* Побач. *Пагляддзі́ во на рабі́ны: дзве ра́дам стая́ць, на адно́й я́гады ара́нжавыя, а на друго́й кра́сныя.*

**РАДО́ЎКА** *ж.* Чарга пасціць кароў. *Каро́ў нам сёдні радо́ўка. Са́мі ўжо бессі́льныя ста́лі, каго́ нам найці́ць каро́ў рядо́ўку адпа́сціць.*

**РА́ЖКА** *ж.* Драўляная пасудзіна для паення скаціны.

Гэту пасудзіну бондары рабілі спецыяльна для паення кароў. Ражкі мелі невялікія закругленыя ручкі з адтулінамі, каб пралазіў палец.

**РА́НКІ** *мн.* ◊ НА РА́НКІ. Летні выпас кароў з перапынкам апоўдні. *Каро́ў ужо́ з сёднішняга дня на ра́нкі* (з 3 да 11, з 16 да 21 гадзін) *пагна́лі, а то ва́дні не даю́ць хадзі́ць, джы́гаюць да крыві́ скаці́ну.*

**РАСПЕРАЗА́ЦЬ** *зак.* Распеup разаць, развязаць (фартух). *Калі́сь бывáла ма́ткі не слу́халіся, як ма́лыя былі́, дак яна́ распіра́жа хвартýк да нас матузáмі наб'е́.*

**РУЙ** *м.* Неахайны мужчына, неахайнік.

**РУ́ЙДА** *ж.* Неахайная жанчына, неахайніца.

**РЫЗЗЁ** *н. зб.* Рыззё, лахманы. *Не́шта ты рыззя́ на сябе́ начапля́ла, ці надзе́ць німа́ чаго́.*

**РЫЗІ́НЫ** *мн.* Галёшы. *Надзе́нь рызі́ны на ва́лінкі.*

Абутак, які абувалі ў асноўным на буркі, валёнкі.

**СА́ЛЬНІЦА** *ж.* Спецыяльная бочачка для засольвання і захавання сала. *Парасёнка забі́лі, паку́ль упара́дзілі: са́ла ў са́льніцу, маслы́ пасе́клі да ў ку́бел, жыр патапі́ла, на каўба́сы цэ́лы таз нарэ́залі, ад кішо́к жыр яшчэ́ вымі́кáе ў вадзе́, за́ўтры ў печ паста́ўлю.*

Выраб з дрэва, у якім захоўвалі сала. Мела *сальніца* круглую форму, кнізу шырэйшая, з крышкай. У дне рабілі невялікую адтуліну для сцёку *жывасолу.*

**САНАПРА́ХА** *ж.* Самапрадка, калаўрот. *Закі́нула сваю санапря́ху на ха́ту.*

На *санапрясе* пралі лён, воўну.

**САЯ́Н** *м.* Жаночае адзенне, якое складалася са спадніцы і (*а*)*дзяяткі. Сая́н суко́нны надзе́ла, дак цяпле́й.*

Тканая ў некалькі *полак*, прысабраных да шчыльнага (*абціслага*) ліфа-безрукаўкі, спадніца з *дзяяткай.*

**СВІ́ТКА** *ж.* Верхняя вопратка з тоўстага даматканага сукна.

Світкі былі пераважна белага або шэрага, ці *сівага*, колеру.

**СЁДНІ** *прысл.* Сёння. *Сёдні мне нéкалі, сусéда хавáць бýдуць, прасілі на клáдаўі ямку капáць.*

**СКЯЛЁПКІ** *мн.* Трэскі, шчэпкі. *Бяжы на траскóўню назбірáй скялёпкаў.*

**СМÁШНЫ** *прым.* Смачны. *Смáшны сёдні абéд у нас.*

**СМЯРЦЁЛЬНАЕ** *н.* Адзенне, прыгатаванае на пахаванне. *Смярцёльнае сабé і хазяіну загатóвіла, штоб тады дзéці не беспакóіліся, як пампóм.*

**СНІДÁННЕ** *н.* Снеданне (ежа для снедання). *Я пашлá на рабóту, снідáння за зáсланкай бяры, малакó ў камóрцы ў гарлáчыку. На снідáння сёдні бýльба жыдкая.*

**СПАДНІЦА** *ж.* Спадніца. *Спадніца нóвая ў цябé сёдні.*

Спадніца, якая шылася з чатырох-пяці саматканых *полак*, ці кавалкаў тканіны рознай якасці.

**СТАЛЮГА** *ж.* Станок для распілоўвання дроў.

Прылада, зробленая з дрэва, на якой распілоўвалі дровы.

**СТÝПА** *ж.* Ступа. *Бýльбы нáда натóўч у стýпі, хачý каржóў напéч.*

Выдаўбленая з тоўстага дрэва прылада, у якой таўклі крупы.

**СУНДÝК** *м.* Куфэрак.

Куфэрак, у які складвалі адзенне. Збоку была скрыначка для іголак, булавак і іншай дробязі.

**СУРАДÓЙ** *м.* Сырадой. *Сурадóем памáж нóгі, і цыбак не бýдзе.*

**СЦЭ́ЛЬНІЦА** *ж.* Жаночая доўгая, вышываная, палатняная сарочка. *У мянé шчэ ў сундукý ляжыць сцэ́льніца і саяны бýры і крáсны, жáлка выкідáць.*

**ТÁЙКА** *ж.* Зварот да жанчыны. *Ой, тáйка, устамілась я.*

**ТАЎКÁЧ** *м.* Таўкач.

Драўляная таўставатая палка, дрэва пасярэдзіне якой выбіралася, каб добра было трымаць у руках. Таўкачом таўклі ў ступе сушаныя крупы.

**ТÁЧКА** *ж.* Тачка.

**ТКÁНКІ** *мн.* Каснікі. *Сёдні бáня, хоць кóсы расчашý ды ткáнкі памыю. У мянé шчэ ў сундукý спадніца з ткáнкамі ляжыць.*

Вузенькія шаўковыя стужкі, якія ўвязвалі ў валасы, заплятаі ў касу.

**ТРАПКÁЧ** *м.* Ручнік (для посуду).

Тоўсты тканы ручнік, якім выціралі посуд, стол.

**УЗБÓЙ** *м.* Удар (пранікам) і наступнае апусканне бялізны ў ваду. *Нáда ж кóжную лахманіну ад залы атапрáць, ходзь па тры ўзбóі здзéлаць да выпаласкаць.*

**УПАРÁДЗІЦЬ** *зак.* Упарадкаваць, давесці да ладу. *Парасёнка забілі, пакýль упарáдзілі.*

**УСЛÓН** *м.* Услон, пераносная лава.

**УСЛÓНЧЫК** *м.* Услончык. *Здзéлай услóнчык нóвы карóву даіць.*

Пераносная лаўка для сядзення. Рабілі іх розных памераў.

**УСТРÝБ** *м.* Зруб. *Устрýб нóвы рýбюць плóтнікі.*

**УЦІРÁЛЬНІК** *м.* Ручнік (для твару, рук). *Уцірáльнікі памыла – яшчэ не высахлі.*

**ХАЎТÝРЫ** *мн.* Хаўтуры, памінальны абед. *Пашлі на хаўтýры.*

**ХВАЦÉРА** *ж.* ◊ НА ХВАЦÉРЫ. На вячоркі, нанач. *Ад Пакрóваў дзéўкі ўжо на хвацéры хадзілі, з санапрáхамі, з нашывáннем, рабóталі пры лучынцы, і вéсела былó.*

**ХВАШЧÁНКА, ХВАШЧЫ́НКА** *ж.* Мачалка, вехаць з хвашча. *Дачýшк, як бýдзеш мыць масты хвашчáнкай, натры харашó услóны, дзе вадá стаіць. Вымый чугуны хвашчынкай, а то чóрныя.*

**ХВÓРТАЧКА** *ж.* Калітка. *Зачапі ходзь на бóрачку хвóртачку, ні бýдзя адкрывáцца.*

**ЦАПÓК** *м.* Палка, кій.

**ЦЭ́ЎКА** *ж.* Цэўка. *А ў мянé кудзéля былá, дак цэ́ўку напрáла вóўны.*

**ЧУХМÉНЬ** *м.* Верхняя суконная вопратка з башлыком.

Апраналі чухмень у непагадзь.

**ШÁЙКА** *ж.* Драўляная пасудзіна для вады. *Шáйку нóвую закажы, карóву нé ў чым паіць.*

Шайкі рабіліся невялікімі па памеры, мелі круглую форму.

**ШАТРÓЎКА** *ж.* Пашаткаваная капуста. *Цэ́брык цэ́лы шатрóўкі нашаткавáла.*

**ШКÝМАЦЬ** *м.* Шкумат, кавалак тканіны. *Дзéці, забярыце шкýмці гуляць сабé.*

**ШЛÝННЕ** *н.* ◊ ВЫ́БРАЦЬ ШЛÝННЕ. Вельмі надакучыць, спрацівець. *Усё шлýння выбраў сваёй п'янкай.*

**ШЧЭ́ПЦІК** *м.* Дробачка, шчэпці. *Шчэ́пцік сóлі сыпні, смашнéй бýдзе.*

*В. П. Трайкоўская, І. А. Гапоненка*

## З ЛЕКСІКІ ТКАЦТВА АДНОЙ ВЁСКІ

Ткацкае хатняе рамяство бадай усіх славян адносіцца да імкліва аджываючага спосабу выпрацоўкі прадметаў матэрыяльнай культуры, паколькі ў цяперашні час яно практычна ўсюды выціснута прамысловай вытворчасцю тканін. Адначасова з забыццём гэтага рамяства і рэзкім памяншэннем колькасці людзей, якія ім займаюцца, знікаюць і самаробныя ткацкія прылады, а таксама хатнія ткацкія вырабы. А ў сувязі з гэтым традыцыйная ткацкая лексіка знаходзіцца амаль што на мяжы знікнення.

У артыкуле падаецца падборка лексікі, што абазначае рэаліі, звязаныя з ткацкай сыравінай і сродкамі яе апрацоўкі, ткацкім станком і яго начыннем, адзінкамі вымярэння матэрыялаў, рознага віду гатовай прадукцыі, а таксама бракаванымі вырабамі і адыходамі вытворчасці.

Лексічны матэрыял запісаны падчас дыялекталагічнай практыкі ў 2010 годзе ад ***Раманюк Марыі Мікалаеўны 1944 г. н., карэннай жыхаркі в. Раманюкі, адукацыя – сем класаў.*** Вёска Раманюкі (яшчэ яе называюць хутар Раманюкі) знаходзіцца ў заходняй частцы Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці. Гаворкі гэтага раёна ўваходзяць у склад гродзенска-баранавіцкай групы паўднёва-заходняга дыялекту.

**БЁРДА** *н.* Бёрда; прылада з тонкіх пласцінак для прыбівання ўточнай ніткі. *Бёрда памагáлі пры навівáнні красён для таго́, каб ро́ўна ішлí ніці. Ніці зацяггваюць у бёрда.*

**БЛІ́ЗНА** *ж.* ○ **ВАСЬМЁРНАЯ БЛІ́ЗНА.** Тканне ў восем панажоў. *Ткаць у васьмёрныя блізны азначáла тканнё ў во́сем панажо́ў*[1].

**ВАЛО́ВІК** *м.* Тоўста спрадзеная нітка. *На вало́вік накру́чвалася прáжа.*

**ВАРСТÁТ** *м.* Ткацкі станок. *Варстáт называ́лі таксáма кро́снамі. Кадá садзíліся за прáжу, то казáлі, што садзёмся за кро́сны.*

**ВЕРАЦЯНО́** *н.* Верацяно; прылада для ручнога прадзення лёну, воўны, пянькі. *Верацяно́ нагáдвало пáлачку, на като́ру кру́цяць нíтку, сукáюць нíтку.*

**ВІРО́К** *м.* Вірок; прылада для звівання пражы ў клубок. *Прáлася кудзéля, по́тым брáлі нíтку ў вíро́к і кру́цілі ў клубо́к.*

**ВІТУ́ШКІ** *мн.* Вітушка; прыстасаванне, на якое намотваюць ніткі. *У віту́шкі скру́чваліся гато́выя нíткі.*

**ГРЭ́БЕНЬ** *м.* Грэбень. *Рабíліся грабяне́ з цвічкáмі, убíтымі ў до́шчачку, на яé садзíлісё і дрáлі лён.*

**ГУ́БІЦА** *ж.* Губіца; мера асновы і палатна ў кроснах (звычайна даўжынёй на хатнюю сцяну). *Гу́біца слу́жыць 4 метры, якая брáлася для вы́раба аднаго́ яко́га палатнá.*

**ДЗЯРУ́ЖКА** *ж.* Дзяружка; льняная посцілка з тоўстай грубай тканіны. *Тры́ццаць нíцей брáласё для дзяру́жкі; 16–18 для ручнікá. Ўсё залéжала ад бёрда.*

**ЗАЗУ́БНІК** *м.* Галоўка з зубцамі ў навоі для палатна. *Зазу́бнік памагáў то́му, каб прыціскáць натканó палатно́, каб не шатáлася.*

**ЗБЛІ́ЗНА** *ж.* Блюзна; памылка ў палатне, калі ніткі асновы ідуць зверху без ператыкання. *Тканнё ў дзве нíткі называ́ласё зблíзна.*

**ЗЯВЭ́** *мн.* Зеў; прамежак паміж верхнімі і ніжнімі ніткамі асновы ў кроснах, праз які праходзіць чаўнок. *Панажэ́ націскáюцца на нíчальніцы і палучáюцца зявэ́. Нíчальніцы ро́бяць зявэ́.*

**КАЗЛЭ́** *мн.* Прыстасаванне, пры дапамозе якога звіваюцца ніткі. *У казлэ́ скру́чваліся гато́выя нíці.*

**КАЛАЎРО́ТАК** *м.* Калаўрот; прыстасаванне для ручнога прадзення кудзелі, якое прыводзіцца ў рух панажом. *Калаўро́так памагáў то́му, каб рабíліся нíці.*

**КАЛО́ША** *ж.* Верхні або ніжні рад петляў у ніце. *Кало́ша былá начáлам асно́вы.*

**КІЁК** *м.* Клін, палка для замацавання палатнянага навоя. *Кіёк зацяга́ваецца ў нíчальніцы.*

**КЛУБО́К** *м.* Маток нітак. *У клубке́ скру́чвалісё гато́выя нíці.*

**КРО́СНЫ** *мн.* Ткацкі станок. *Кадá садзíліся за прáжу, то казáлі, што садзёмся за кро́сны.*

**КУДЗÉЛЯ** *ж.* Кудзеля. *Ачы́шчаны лён называ́ўсё кудзéляю, като́ры ачасáлі і мо́жно было́ прымяня́ць для прáжы.*

**КУ́ЖАЛЬ** *м.* Кужаль; валакно ачэсанага лёну. *Ку́жаль ткáўсё на про́сціны, мо́цныя нíці.*

**КУЛЬ** *м.* Вялікі сноп ільну, звязаны пасля вылежвання. *Вязáць у куле́ азначáла звя́зваць бы́ццам бы ў снапэ́.*

**ЛЯ́ДА** *ж.* Рухомая рама ў ткацкім станку з устаноўленым у яе бёрдам. *Ля́да збíвае нíткі, каб рабíласё палатно́.*

**МАТАВІ́ЛО** *н.* Матавіла; прыстасаванне для змотвання нітак у маткі. *У матавíла скру́чваліся нíткі.*

**НАВО́Й** *м.* Навой; пярэдні і задні валік у кроснах. *Наво́й падо́бны на ко́ло, на яко́ё прымацо́ўвалася асно́ва.*

**НІДАСÉКІ** *мн.* Загана ў палатне, калі ўток слаба прыбіты бёрдам. *Нíдасéкі – гэ́то рэ́дко палатно́, несцíснуто.*

**НІ́ЧАЛЬНІЦЫ** *мн.* Прыстасаванне з нітак або шнуркоў, праз якія працягваюць ніткі асновы. *За панажэ́ дзéржацца нíчальніцы.*

**ПАНАЖЭ́** *мн.* Панажы; прылада ў ткацкім станку ў выглядзе дзвюх або некалькіх дошчачак пад кроснамі, пры дапамозе якіх нагамі прыводзяцца ў рух ніты. *За панажэ́ дзéржацца нíчальніцы.*

**ПАНАРÁД** *м.* Усё ткацкае начынне. *Панарáд складо́ў ткáцкі станóк.*

**ПÁСМО** *н.* Пасма (30 нітак або валокнаў, складзеных удоўж). *Пáсмо складáла тры́ццаць нíцей, като́рыя маглí быць ро́знае даўжынí.*

**ПРÁНІК** *м.* Пранік; плоскі драўляны брусок для абмалоту лёну і выбівання палатна. *Палатно́ замо́чвалі ў залу́, клáлі на лáву і прáнікам выбівáлі. Гало́ўкі лёну выбівáліся прáнікам.*

[1] Зафіксаванае значэнне не адпавядае вядомаму ў дыялектаграфіі значэнню слова *блізна*, ужыванне яго з такой семантыкай выклікае пытанні.

**ПРУГÉ** *мн.* Прылада для нацягвання (напружвання) палатна ў час ткання. *Пругé памагáлі, каб не звужáлася палатнó.*

**ПРЎЦІК** *м.* Палачка, на якую насаджваецца цэўка ў чаўнаку. *На прўцік чаплялася цэўка, катóра памагáла ў ткáнні палатнá.*

**СНÁЎНІЦА** *ж.* Прылада, пры дапамозе якой снуюць кросны. *З вітўшак брáліся ніці і снавáліся на снáўніцу.*

**СУВÓЙ** *м.* Сувой; цэлы кусок палатна, скручаны ў трубку. *Палатнó, якóе скрўчвалася, называлáсё сувóем.*

**СУКÁЛА** *н.* Сукала; прылада для навівання ніцак на цэўкі. *На сукáла насáджваюцца цэўкі і накрўчваецца нітка.*

**СУКНÓ** *н.* Сукно; шарсцяная або паўшарсцяная тканіна з гладкім ворсам, якая пры вырабе апрацоўваецца валеннем. *Шарсцяная нітка ткáлася і палучáласё сукнó.*

**ТРАСЦІНКА** *ж.* Асобная пласцінка ў бёрдзе. *Трасцінка мéла дзве пáлачкі, паміж катóрымі прымацóўваецца тóнкая нітка.*

**УСЛÓНЧЫК** *м.* Услончык. *Мéсца, дзе сядзéла ткáля, звáлася ўслóнчыкам.*

**УТÓК** *м.* Уток; папярочная нітка, якая пераплятаецца з асновай. *Папярóчная нітка ў ткáнні назывáлася ўтóк.*

**ЦЭЎКА** *ж.* Цэўка; драўляная трубка, на якую навіваюцца ніткі і якая ўстаўляецца ў чаўнок пры тканні. *На цэўку звычáйна навівáлася нітка.*

**ЧАПЁЛКІ** *мн.* Брускі з кольцамі, па якіх рухаюцца ніты пры тканні палатна. *Чапёлкі памагáюць пры ткáнні палатнá. Казáлі: «Нічальніцы хóдзяць па чапёлцы», што азначáла, што палатнó тчэцца без памéх, дóбра.*

**ЧАЎНÓК** *м.* Чаўнок; дэталь у ткацкім станку, якая мае форму чоўна, з пражай для пракладвання ўточнай ніткі. *На чаўнóк наклáдваецца цэўка і накрўчваецца ніць, дапамагáе рабіць зявэ.*

**ЧЫНЫ** *мн.* Месца перакрыжавання ніцей пры снаванні. *Мéсца, дзе перасякáліся ніткі аснóвы, звáлася чыны.*

*Т. М. Трухан*

## З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ ЗАМОШША ЛЮБАНСКАГА РАЁНА

**АБАРВÁТЫ** *прым.* Абарваны. *Парцізáны éхалі злые, абарвáтые, у кагó аднá нагá абўта, а другáя бóса.*

**АБГАНЯЦЬ** *незак.* Акучваць. *Зáўтрэ абгóніш картóплі, бо скóрэ ты туды ні ўлéзеш.*

**АБЎШАК** *памянш.* Абух. *Цéсно звяжў травў і тады ашпáру яé, і разаб'ю абушкóм эту травў.*

**АБЯСПÉЧЫЦЬ** *зак.* Забяспечыць. *Мы ўжэ абясьпéчылі сябé дрывáмі на пяць гадóў упярóт.*

**АГАРÓД** *м.* Кавалак зямлі каля дома для вырошчвання бульбы і гародніны. *На агарóдзе з аднагó бóку картóплі пасéялі, а з другóго – буракі, мóркаў, капўсту і гарбузóў сóткі дзьве.*

**АГАРÓЧЧЫК** *м.* Палісаднік. *У нáшум агарóччыку травá, трóшкі агуркóў і часнóк, яшчэ сёлета памідóры былі.*

**АКРÁЗ** *прысл.* Якраз. *Зіна акрáз на лáўцэ былá, я ішлá і прысéла ля яé.*

**АПÉЛЬКА** *ж.* Пятля ў вопратцы. *Здымі кўртку, я табé ўсе апéлькі папрáўлю, а то кўртка рашпільваецца.*

**АРÁЦЬ** *незак.* Араць; апрацоўваць зямлю плугам. *Тóлік Матрыхáнавых арэ вéльмі дóбрэ, загóн – любо паглядзéць.*

**АТВÉТКІ** *мн.* Адведкі. *Людзéй былó цэлэ сяло, тóлькі ў атвéткі і хадзілі.*

**АТВÓДЗІЦЬ** *незак.* Нахіляць у супрацьлеглы бок. *Каласкі дóбрэ атвóдзіць у тўю стóрану, атó паляглі на рат картóшкі.*

**АТСКÓКВАЦЬ** *зак.* Аддзяляцца ад сывараткі. *Тварóх атскóчыў, я ягó ў клінóк і павéшу на пáлку над вядрóм.*

**АТСЮЛЬ** Адсюль. *Атсюль мнóгія выехалі ў Камўну, мóжэ двáццаць гадóў назáт.*

**АЎЁС** *м.* Авёс. *Каню дóбрэ аўёс давáць, свайгó ні былó, то мянялі на жыто.*

**БАГЎН** *м.* Багульнік. *Багўн у Кульбóчы расьцé, як карóвы вы пáсьцілі, то я чáсто ягó рвáла.*

**БАЛАМЎТ** *м.* Прайдоха. *Нéйкі баламўт, а ні чалавéк: накáжэ абы-чагó, што і сам ні разбярэцца.*

**БАЛÉЯ** *ж.* Ванначка для мыцця бялізны. *Вазьмі балéю, нашаткўй капўсты і хай стаіць у хáце.*

**БÉЛЬМА** *мн. зневаж.* Вялікія вочы. *Што ты бéльма сваé вытрашчыў? Ідзі карóву загані ў хлеў.*

**БÉСТАЛАЧ** *м.* Бесталковы чалавек. *Такі ўжэ бéсталач: скáзала, а ён нічóго тóлкам ні зрабіў.*

**БЛІСЬЦЯШЧЫ** *прым.* Бліскучы. *Таранóвачка былá ў палóскі, тóлькі блісьцяшчые паўз край.*

**БЛЯХА** *ж.* Тонкая жалезная пасудзіна для сушкі і выпечкі. *Цяпéр на блясе тóлькі і сушыла яблыкі. У мяне дзьве бляхі на ўсю печ.*

**БРАЦІХА** *ж.* Братава жонка. *Брацiха мянé любіла, мы з éю дрўжно жылі.*

**БЎДКА** *ж.* Драўляная невялікая пабудова для гаспадарчых патрэб. *Бáцько зьбіў бўдку, пéчку там зрабіў на два кругі, сьвіням варыць вéльмі дóбрэ.*

**БУШАВÁЦЬ** *незак.* Імкліва расці. *Я бўду ляжáць, а штоб бушавáло зéлье на загóне.*

**БЫВА́ЛО** *прысл.* Бывала, калісьці. *Быва́ло стары́я лю́дзі му́дрые былі́, і гарэ́лкі мно́го ні пілі́ мушчы́ны.*

**БЯРЭ́М'Е** *н.* Бярэма. *Прынясі́ адно́ бярэ́м'е дроў і хва́ціць у пе́чку, а то ду́ху, хоць дзьве́ры на ноч аткрыва́й.*

**ВАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Прыводзіць, нараджаць. *Ма́ня ўсе хло́пцаў вадзіла, а цяпе́р вялікія і ўсе харо́шые.*

**ВАЗО́Н** *м.* Пакаёвая расліна. *Цяпе́р вазо́наў німа́ на во́кнах, дубе́льты стая́ць, ба́цько крычы́ць, што яму́ ўсе хо́ладно.*

**ВА́ЛІЦЬ** *незак.* Ліцца (пра пот). *З мяне́ пот ве́льмо ва́ліць, як паго́да, со́нцэ – ні магу́ наўціра́цца.*

**ВАЛІ́ЦЬ** *зак.* Катаць валёнкі. *Валёнкі ў Слу́цку валілі, ба́цько хадзіў пяшко́м і купля́ў.*

**ВАЛЯР'Я́НКА** *ж.* Валяр'ян. *Трэ́ба нарва́ць і насушы́ць валяр'я́нкі, на зі́му добрэ́ напа́рыць.*

**ВАПРО́С** *м.* Пытанне. *Паеха́ць жэ ні вапро́с, каб жэ было́ на чом е́хаць.*

**ВАТО́** *прысл.* Адразу. *І по́сле Іспа́са яшчэ́ вато́ ні даду́ць камба́ін жаць.*

**ВІ́ЛКІ** *мн.* Вілы. *Вазьмі́ ві́лкі ў хляве́, по́йдам картапля́нік палі́ць на гаро́т.*

**ВО́БМАРАК** *м.* Непрытомнасць. *Ляжы́ць і ляжы́ць на палку́, у яго́ во́бмарак у галаве́.*

**ВО́БРАЗ** *м.* Ікона. *Памы́ла вы́шыты рушні́к, запо́ну і на во́браз паве́сіла.*

**ВО́ЧАРАДЗЬ** *ж.* Чарга. *У пе́ршу во́чарадзь цыбу́лі начы́шчу, парэ́жу дро́бнянько.*

**ВУ́КСУС** *м.* Воцат. *Палажы́ла шэсь ба́нак гуркоў, а ву́ксус забы́ла ўлі́ць.*

**ВЫ́ВЯРНУЦЬ** *зак.* Перавярнуць унутраным бокам наверх. *Вы́вярні кажу́х, перасушы́ на пло́це і ў скры́ню на зі́му.*

**ВЫ́ВЯТРАЦЬ** *зак.* Выветрыць. *Така́я су́ша, вы́сахло ўсе на сьве́це, вы́вятрало.*

**ВЫГАТАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* Гатовіць. *Тады́ ні выгатаўля́лі ге́так жэ, ці боршч, ці суп, ці пасо́лі яко́й зва́раць.*

**ВЫ́САТКІ** *мн.* Высадкі; пасаджаныя клубні буракоў, морквы і інш. для атрымання насення. *Трэ́ба падвяза́ць вы́саткі, а то по́йдзе дож, ве́цер і ўсе насе́не апсы́пляцца.*

**ВЫХО́ДЗІЦЬ** *незак.* Атрымліваецца. *Мне сёне ні выхо́дзіць ісьці́ да Ка́ці, мо́жэ ў нядзе́лю зьбяру́са.*

**ВЫ́ШКІ** *мн.* Вышкі; насціл пад страхой у хляве або ў канюшні. *Сама́ на вы́шкі пазацяга́вала до́брые до́скі, мо дзе на падло́гу спатрэ́бяцца.*

**ВЯПРУ́К** *м.* Кабан. *Былі́ малады́е здаро́вые, то й свіне́й дзяржа́лі і вяпруко́ў.*

**В'Я́СКА** *ж.* Звязак. *Зьвяза́ла ў в'я́ску галі́нкі, пранясла́ тро́хі пад Гара́ськавых сюды́ бліжэ́й.*

**ГА́ЛО** *н.* Голае месца, чыстая прастора. *Завяжы́ ху́стку, у га́ле хо́ладно, ву́шы праду́не і ку́ртку апрані́.*

**ГАРА́** *ж.* Гарышча. *Як то́лькі жы́то прыбра́лі з заго́на, усе́ мы́шы на го́ру.*

**ГАРБУ́ЗЬНІК** *м.* Гарбузнік; гарбузовае націнне. *Гарбузы́ вы́бралі за тры дні, ба́цько гарбу́зьнік пасця́гваў сахаро́м і пад ве́чар спалі́ў.*

**ГЕ́ТЫ** *займ.* Гэты. *Пасадзіла ране́й радо́к гуркоў, тады́ яшчэ́ адзі́н, то, ма́біць, птушкі паўклёўвалі, але хва́ціць і ге́тых.*

**ГІБЕ́ЦЬ** *незак.* Пакутаваць. *Ада́рчына Але́нка ні жыве́, а гібе́е, нічо́го ні са́дзіць і пе́ньсія мала́я.*

**ГІЧНІ́К** *м.* Націнне бульбы. *Дзе гра́ды былі́, то гічні́к высо́кі, аж чо́рны, а туды́ да́лей, то нау́ра́д ці што бу́дзе.*

**ГНОЙ** *м.* Угнаенне. *Калі́ до́брэ гно́ю ні дасі́, то нічо́го на агаро́дзе ні вы́расце.*

**ГО́ЦАЦЬ** *незак.* Бегаць, насіцца. *Што вы го́цаяце па ха́це, паля́дзіце ко́лькі пы́лу нарабі́лі?*

**ГРАБІ́ЛЬНО** *н.* Грабільна; ручка ў граблях. *Грабі́льно паламаласо, ба́цько пайшо́ў у Пажарні́цу і мо тры вы́разаў.*

**ГРУ́СКО** *прысл.* Гразка, топка. *У канцы́ заго́на вада́ стаі́ць, там конь ні про́йдзе, гру́ско.*

**ДАВА́ЦЬ** *незак.* Карміць (пра свойскую жывёлу). *Цяпе́р ма́ло карто́пель, то буракі і сьвіня́м дава́цьму.*

**ДЗЕРАЎЛЯ́НЫ** *прым.* Драўляны. *Даёначкі рабілі дзераўля́ные, нівялі́кіе, як кубе́льцы.*

**ДЗІЕ́ЧАСКІ** *прым.* Дыетычны. *Та́ня і катле́ткі ры́бные, яна і су́пчыкі дзіе́часкіе, яна́ ўсё.*

**ДЗЯБЕ́ЛЕЙШЫ** *прым.* Дужэйшы, мацнейшы. *Яшчэ́ тады́ ма́ма і дзябе́лейша была́, я ча́сто к ёй е́зьдзіла.*

**ДЛІ́НО** *прысл.* Доўга. *Шыро́кі заго́н і ве́льмо длі́но, Ко́ля там се́яў карто́шку і жы́то.*

**ДОЖ** *м.* Дождж. *На́шуй зямлі́ трэ́ба дож, адзін пясо́к, гэ́ты дож як праз сі́то.*

**ДО́ЎБНЯ** *агульн. перан.* Дурань, неразумны чалавек. *Не́йкі до́ўбня расьце́: ці кажы́ яму́, ці не, лепш само́й зрабі́ць.*

**ДУБЕ́Ц** *м.* Дубец; тонкі прут. *Дубе́ц усягда́ стая́ў у вуглу́, як каро́вы іду́ць с па́шы, я за яго́ і пашла́ па каро́ву.*

**ДУХ** *м.* Пар. *Ні мый до́ўго ў бу́цце, там ду́ху мно́го, хоць дзьве́ры атчыні́.*

**Е́ТАК** *прысл.* Гэтак. *А вы́мачыло е́так, цэ́лы ме́сяц ішоў дож, ні бу́дзе цяпе́р карто́пель.*

**Е́ТЫ** *займ.* Гэты. *На е́туй даро́зе, што е́хаць у Лю́бань, былі́ карто́плі, дак е́ты ўвесь гарадо́к там рваў.*

**ЖАЎТЛЯ́К** *м.* Насенны агурок. *Было́ ве́льмі мно́го жаўтляко́ў на градзе́, адзі́н бальшы́ да́жэ пакі́нула на сямяна́.*

**ЖЫТО́** *н.* Жыта. *Як дзяржа́лі худо́бу, то было́ со́рак со́так зямлі́: палаві́ну жы́там засява́лі.*

**ЗАВІХА́ЦЦА** *незак.* Рабіць што-н. старанна, руплiва. *Са́мо завіха́юса малаці́ць, спача́тку ў Замошы, а по́тым у Дарасіно́.*

**ЗАГО́Н** *м.* Загон; участак ворнай зямлі. *Цяпе́р пасе́ю то́лькі адны́е карто́плі на заго́не, а гра́ды – у гаро́чыку.*

**ЗАДРА́ЦЬ** *незак.* Задраць; падняць угору. *Задзярэ́ галаву́, ляці́ць па дзярэ́ўні і ніко́го ні ба́чыць.*

**ЗАЙЗДРО́СНІЧАЦЬ** *незак.* Зайздросціць. *Дак вро́дзе бы зайздро́снічаюць, што е́то чаму́-то табе́ больш гро́шэй, а мне меньш.*

**ЗАЛА́ТАЦЬ** *зак.* Палатаць; адрамантаваць, паклаўшы латку. *Мяшкі трэ́ба зала́таць, мышы папраядáлі. Ся́ду на парóзе к сóнцу і ўсе зашыю.*

**ЗАМЕ́ЦІЦЬ** *зак.* Заўважыць. *А нéмцы замéцілі парціза́н, яны éту дзярэ́ўню акружылі і ўсіх сагналі ў гумнó.*

**ЗАПЛІКНУ́ЦЬ** *зак.* Зашпіліць. *Заплікні камзэ́льку на ўсе гу́зікі і куха́йку зьвéрху надзéнь.*

**ЗАРО́БАК** *м.* Зарабóтак. *Я рабіла ў калхóзе і дзень і ноч, у мяне́ дóбрые выхóдзілі зарóбкі.*

**ЗАЎЯЗА́ЦЬ** *зак.* Завязаць. *Набічкава́лі цэ́лы мех картóшкі, ён узяў за адзін рог, а яна́ за éты хвост, што заўя́зваюць.*

**ЗАХЛЯБНУ́ЦЦА** *зак.* Затхнуцца (ад лісця). *Там жэ захлябнéса ад лісту, за нага́мі клéіцьмеца.*

**ЗЕ́ЛЯНО** *прысл.* Зеляна (пра наяўнасць пустазелля на агародзе). *Мéсяц наза́т прапалóла картóшку, а счас ста́ло зéляно, хоць зноў палі, ра́ды німа́ зь éтым зéлем.*

**ЗЯРНО́** *н.* Зерне. *Сажа́лі жытó і ўсе зярнó ў дзéжкі. Стая́ць на пóграбе, мо дзéжак шэсь.*

**КАКАРУ́ЗА** *ж.* Кукуруза. *Какару́зу сёлета ні садзіла, яé ні паўрываць, брала лапа́тку і паткóпвала.*

**КА́ЛІВО** *н.* Каліва, адна расліна. *Вырві ка́ліво ўкрóпу, пакладзі агуркі ў ба́нку, часныку́, хрэ́ну і ўвесь укрóп туды.*

**КАЛО́ДЗЕЗЬ** *м.* Калодзеж. *У калóдзязі трэ́ба ба́бу памяня́ць, а то на гóлаў упадзé, і вóчап.*

**КА́ЛЬВА** *н.* Каліва, адна расліна. *То там ка́льва ўкрóпу, то там, панасяéцца сам, дак я паўкіда́ла. Выпалала ўсе да зяліначкі, нідзé і ка́льва ні пакінула.*

**КА́ПА** *ж.* Посцілка. *Адна́ ка́па бéла ў цябé ў Мінску, а другая дóма. Яшчэ́ дзве галубые есь. Яны вéльмо мóцные.*

**КАРАСІ́НА** *ж.* Газа. *Бу́дзеш éхаць дадóму, прывязі карасіны, свет пату́хне і бу́дам сядзéць у цемнацé.*

**КАРТО́НАВЫ** *прым.* Кардонавы. *Я ўзяла вядрó картóнавэ і пашла́ ў балóтцэ да начэ́рпала вады.*

**КАРТО́ШЫНА** *ж.* Бульбіна. *Па чатыры картóшыны ў ратку́, па п'яць, глядзéла.*

**КА́ЎКАЦЬ** *незак.* Мяўкаць. *Кот хóдзіць і ка́ўкае, яшчэ́ і кацяня́ малóе за сабóю вóдзіць.*

**КА́ЎКНУЦЬ** *зак.* Падаць голас, пікнуць. *Паку́ль начальнік ні дась кама́нду жаць, то да́жэ і ні ка́ўкнуць.*

**КАШЭ́ЛЬ** *м.* Кош. *Сып чатыры кашалі ў мяшóк і завя́звай, ба́цько пакідае на воз і ў хлеў. Цэ́лы кашэ́ль агурцóў набра́ла на э́тай гра́ццэ.*

**КО́ШАНЫ** *прым.* Скошаны. *Два сташкі ў мяне́ і Тóлі заўёз ужэ́ с тóну, шчэ кóшанаго ляжыць.*

**ЛАЗЬНІ́К** *м.* Лазняк. *Балóто былó і лазьнік éты, нівялікі лес, алé лазьнік быў.*

**ЛЕБЯДЗІ́НА** *ж. зб.* Лебяда. *Лебядзіна папраска́квала, паўця́гвала трóхі яé, у ха́ту прышла́, перакусіла і зноў на гарóт.*

**ЛЕ́СКІ** *мн.* Лесвіца. *Вазьмі лéскі ў хлявé, прыстáў к ха́це, трэ́ба кóмін выцярці, там ужэ́ мех са́жы.*

**МАЗЫ́ЛЬ** *м.* Мазоль. *Узяла́ сахóр у ру́кі, то тóлькі мазылёў панаганя́ла на рука́х.*

**МАКАРО́НА** *ж.* Макарона. *Ба́цько любіць макарóны, прывязіце яму́ цэ́лы пакéт, хай есь і ні крычыць.*

**МО́РДА** *ж.* Шчака. *На мóрдзе нéйкі прышчык вырас, трэ́ба éхаць у Любань у бальніцу.*

**МЯЖА́** *ж.* Мяжа; вузкая палоска неўзаранай зямлі паміж двума палеткамі. *Паўз мяжу́ трэ́ба гарбузóў насадзіць, хоць зéл'е расьці ні бу́дзе.*

**НАБРО́ХАЦЦА** *зак. экспр.* Наесціся. *Ужэ́ набрóхаўса капу́сты, да вéчара éсьці ні бу́дзеш.*

**НАЗА́ЎТРЭ** *прысл.* Назаўтра, на наступны дзень. *Яшчэ́ прыéхаў наза́ўтрэ аранда́тар з Паўстыня і сажа́ў жыто.*

**НАЛАСТАВА́ЦЬ** *зак.* Насыпаць вельмі шмат. *І Міша мяшóк бальшы картóшкі так наластава́ў, што ледзь заўязаў.*

**НАПАЗА́ЎТРЭ** *прысл.* Паслязаўтра. *Напаза́ўтрэ яшчэ́ прыéхаў аранда́тар і жаў усім папара́тку.*

**НАПРО́ЦІ** *прысл.* Насупраць. *Адзін гот сéялі картóплі напрóці Барсукóвых, то былó – цэ́лы пóграп.*

**НАРАВІ́СТЫ** *прым.* Упарты. *Такі ўжэ наравісты, што ні за што ні перапра́віш.*

**НО́ЧАЎКІ** *толькі мн.* Начоўкі. *Дак нóчаўкі перакулю на стол, да на нóчаўках на тых абма́зваю пазы.*

**ПАДВЯ́ЗАНКА** *ж.* Вялікая суконная хустка. *На воз пóсцілку засьцялі і падвя́занку з сабóю вазьмі.*

**ПАДЗЯЎБА́ЦЬ** *зак.* Падзяўбці чым-небудзь вострым. *Ба́цько ўзяў савóк і падзёўб кусóчак травы ля ву́ліцы.*

**ПАДЛАВІ́ЦЬ** *зак.* Падлавіць; знянацку застаць. *Брат падлавіў Тóлю, у хлявé дóшкі краў і прадава́ў за гарэ́лку.*

**ПАДУЗО́РНІК** *м.* Вузкая палоска белай тканіны, унізе упрыгожаная карункамі, якая прывязваецца спераду да металічных ложкаў. *Падузóрнікі памяняла на лóжках, памыла і ў шкаф склала.*

**ПАЗАПЛЯХО́ЎВАЦЬ** *зак.* Пазаліваць частымі дажджамі. *Рады шырóкіе, ця́шко капа́ць, одэ́тые ляхчэ́й, і то пазапляхóўвало.*

**ПАКРЫ́ШКА** *ж.* Накідка на падушку. *Пакрышкі цэ́лу ноч вышыва́ла, лісцік за лісцікам і да двух часóў нóчы.*

**ПАНАКУПО́ЎВАЦЬ** *зак.* Накупляць. *Цяпéр і зефіру панакупóўваюць, і пячэ́ня, і пірóжнаго, і ўсягó.*

**ПАПРАСКА́КАЦЬ** *зак.* Рэдка ўзысці. *Дзе-нідзé там зéле папраска́квало, паўця́гвала трóхі ягó.*

**ПАПУСКА́ЦЬ** *зак.* Апусціць. *Папуска́ла мяшкі с капу́стай у пóграп, зла́жыла ў дзéжку.*

**ПАСАБЛЯ́ЦЬ** *незак.* Дапамагаць. *Адзін з Дарасінó прыéхаў пасабля́ць сéно пагрузіць, а тады другі.*

**ПАСРЭДЗІ́** *прыназ.* Пасярод. *Увайшла́ ў вакза́л, сядзіць чалавéк пасрэдзі вакза́ла.*

**ПАСЬЦІ́** *прысл.* Амаль. *Пасьці за зіму пасьці ўсю і з'éлі капу́сту, такая была́ ўку́сна.*

**ПАСЯЛУ́ХА** *агульн. асудж.* Той, хто без справы ходзіць па сяле. *Гэ́тай пасялу́се дóма ні сядзіцца, хоць і рабóты мнóго.*

**ПАТПЯРА́ЗАНЫ** *прым.* Завязаны на таліі. *Бітóнчык патпяра́заны, нéйдзе абіра́ла смурóдзіну ў гарóччыку.*

**ПАЎЗ** *прыназ.* Каля. *Іва́н то́жэ браў зе́млю і се́яў паўз Ко́лю, Іва́н і Ко́ля.*

**ПАХАРАШЫ́ЦЬ** *зак.* Пачысціць (пра капусту). *На заго́не пахарашы́ла капу́сту, у мяшкі́ палатня́ные і ў по́грап панасі́ла.*

**ПЕ́ЛЯНА** *ж.* Падол. *Пало́ла карто́плі, зе́л'е ў пе́ляну і на мох вы́сыпала.*

**ПЕ́НДАЛЬ** *м.* Пэндзаль. *Тым пе́ндлям і столь пабяліла, і сце́ны ў ха́це.*

**ПЕ́РВЫ** *ліч.* Першы. *Пе́рвы гот абрабі́лі зе́млю і садзі́лі карто́шку напро́ці да́чніка.*

**ПІЙСЯ́Т** *ліч.* Пяцьдзясят. *Пійся́т кілагра́м жы́та ў канцы́ го́да дава́лі, вот і пакармі́ сьвіне́й.*

**ПІЛІ́ЦЬ** *незак. эмац.* Іграць на музычным інструменце. *Купіў брат гармо́нік і ве́чар пі́ліць.*

**ПЛОТ** *м.* Агароджа. *Калы́ ў хляве́ і на тачку́ мно́го, трэ́ба плот загарадзі́ць ад Жу́кавых.*

**ПЛЯ́СКАЦЬ** *незак.* Гаварыць абы-што. *Хва́ціць языко́м пля́скаць, усе́ бяс то́лку ты гаво́рыш. Што ты пля́скаеш языко́м з пусто́го ў паро́жне.*

**ПЛЯ́ШКА** *ж.* Бутэлька. *Налі́й пля́шку малака́, хле́ба вазьмі́ і к каро́вам ма́цяру падмяні́.*

**ПО́ТБЕШКІ** *прысл.* ◊ У ПО́ТБЕШКІ. Вельмі хутка, подбегам. *І пабе́гла про́сто ў по́тбешкі ў двор, яшчэ́ пабе́гла ў агаро́ччык за по́грап.*

**ПО́ЎНІК** *м.* Поўны месяц, поўня. *По́ўнік, по́мню быў, відната́, што про́сто і́гла зьбіра́й.*

**ПО́ЎНО** *прысл.* Шмат. *Цяпе́р карто́пель по́ўно ў по́грабе, трэ́ба перабра́ць, каб ні пагнілі́, ле́то сыро́е было́.*

**ПРАСЬЦІРА́ЦЬ** *зак.* Памыць нязначную колькасць. *Трэ́ба памы́цца ба́цьку і мне, прасьціра́ць тро́хі і паве́шаць.*

**ПРУ́ГАЦЬ** *незак.* Інтэнсіўна піць. *Ба́цько пру́гае і кі́слэ малако́, і сало́тке, у яго́ ўсе ідзе́ хараш́о.*

**ПРЫДАБЫ́ЦЬ** *зак.* Прыдбаць, раздабыць. *Што прыдабу́дзеш, усё прыбярэ́ш. На гот о́чэнь мно́го на́да е́таму чалаве́ку.*

**РО́СТВО** *н.* Роднасць. *Ба́цько із дваюро́дным бра́там там ро́ство.*

**РЫДЛЁЎКА** *ж.* Рыдлёўка; металічная лапата. *У мяне́ рыдлёўка ве́льмі во́стра, я і ба́цьку ні даю капа́ць.*

**САЎЯ́К** *м.* Падасінавік. *Хадзі́ў у грыбы́ ў Про́се, адны́х саўяко́ў набра́ў, хай ма́ці крышаны́ зва́рыць і іх укі́не.*

**СКІ́РДА** *ж.* Сціртa. *Камба́ін сажа́ў жы́то, а ўсю сало́му ў скі́рду склалі́, каля́ ха́ты, ніда́лёка.*

**СПАРНЕ́ЙШЫ** *прым.* Больш выгадны, спорны. *Як ме́лка карто́шка, то лепш свіня́м, яна́ спарне́йша.*

**СПА́СЦІ** *зак.* Апасці (пра бульбоўнік). *Яшчэ́ ме́сяц да Ільі́, а картапля́нік ужэ́ спаў.*

**СРАДЗІ́НА** *ж.* Сярэдзіна. *Мяшо́к карто́шкі паклалі́ ці то ў бага́жнік, ці ўжэ ў срадзі́ну. Пары́чкі яшчэ́ зеленава́тые ў срадзі́не, а наза́ўтрэ ўжэ дажджы́.*

**СЯЛКО́** *н.* Сялцо. *Яны́ жылі́ пасрэдзі́не е́таго сялка́.*

**ТУ́ТАКА** *прысл.* Тут. *Стая́ла ту́така цыбу́ля ў каро́пцы, а дзе яна́ дзе́ласа – ума́ ні прылажу́.*

**УГНАІ́ЦЬ** *зак.* Унесці ўгнаенне ў глебу. *Як дасі́ жы́жы, да до́брэ ўгно́іш заго́н, то і карто́плі бу́дуць до́брые.*

**УДВО́Х** *прысл.* Удвух. *Ве́дамо здаро́вые, дак яны́ са́мі і насі́лі мяшкі́, яны́ са́мі і се́ялі ўдвох.*

**УПА́ДВАЦЬ** *незак.* Станавіцца рэдкім (пра хустку). *Шта́пельные тарано́вачкі ні про́чные, яны́ ўпа́двалі як-то.*

**УПЯРО́Т** *прысл.* Уперад. *А тады́ злазь жэ і зноў стол атцяга́й усе́ ўпяро́т і ўпяро́т.*

**УЦІРА́НІК** *м.* Ручнік. *Адзі́н уціра́нік ля бу́дкі паве́сіла, а другі́ чы́сты ў ха́це.*

**ХАЛО́ДНЭ** *н.* Студзень, халоднае. *Прынясьлі́ мі́сачку хало́днаго, то ба́цько ўсю і з'еў, сма́чнэ.*

**ХА́ЦІНА** *ж.* Невялікая хата. *Ха́ціну злажы́ў ба́цько – баба́х вайна́, забра́лі ба́цька.*

**ХЕ́ЎРА** *ж.* Кампанія. *За ма́газінам усе́ хе́ўра збіра́ецца: стол накрыва́юць, заку́скі – яко́й хо́чэш, і дзень сядзя́ць за стало́м.*

**ХРА́ПА** *ж.* Мёрзлая зямля. *Адны́е хра́пы ў дварэ́, вазьмі́ лапа́тку, пазбіва́й тро́хі.*

**ХРЫШЧО́НА** *ж.* Хросная маці. *Хрышчо́на адзі́н раз пла́це ў кра́сну пало́ску падары́ла, то по́мню ўсю жысь.*

**ХРЫШЧО́НЫ** *м.* Хросны бацька. *Хрышчо́ны ба́цько то́лькі што лічы́ўса, а ніко́лі нічо́го ні даў.*

**ХУ́ДЖЭ** *прысл.* Горш. *Бу́ду ячме́нь дава́ць каню́, яго́ разьмялі́, то не ху́джэ аўса́.*

**ХУДО́ПКА** *ж. памянш.* Худоба. *Я прышла́ з рабо́ты, да свіня пакармі́ла, да худо́пку е́ту ўсю.*

**ЦЁСКА** *ж.* Трэска. *Прынясі́ дроў у пе́чку і цёсак, патпалі́ і чаты́ры пале́нца дроў укі́нь, угара́цца, тады́ больш паткі́неш.*

**ЦЯПЕ́РАКА** *прысл.* Цяпер. *Ле́тась прыяжджа́ў жаць аранда́тар, а цяпе́рака ня пусьці́ла жанчы́на.*

**ЦЯПЕ́РАЧЫ** *прысл.* Цяпер. *Вы́мачыло ве́льмі зямлю́, а цяпе́рачы зямля́ гара́ча.*

**ЧАГА́Н** *м.* Чыгун. *Я закіпяці́ла вады́ чага́н у пе́чы да туды́ чарні́ц су́шаных насы́пала, пакіпе́лі, пато́м даба́віла са́хару – і ў печ.*

**ЧАРЭ́НЬ** *ж.* Чарэнь; ляжанка на печы. *Цяпе́р на чарані́ ма́ло гарбу́зікі сушы́ла, усе́ на ву́ліцы.*

**ШВЭ́НДАЦЦА** *незак.* Швэндацца, сноўдацца; хадзіць без толку. *Швэ́ндаецца па ву́ліцы з аднаго́ канца́ ў другі́, а рабо́ты свет до́ма.*

**ШУ́ПЕЛЬ** *м.* Шуфель. *Ідзі́ ў дрыво́тнік, вазьмі́ шу́пель і ўвесь гарбу́знік раскі́дай па по́лі.*

**ШУПЛЯ́ТКА** *ж.* Шуфлядка. *Замкну́ла се́нцы і палажы́ла ключ у шупля́тку ў віра́ньдзе.*

**ШЧЫ́ЛАЧКА** *ж.* Шчылінка. *Прахуква́ем ў вакне́ шчы́лачку, штоб е́то ба́чыць, як ма́ма ісьці́ме.*

**Э́ТАК** *прысл.* Так. *Ко́ля э́так слу́хаў. Калі́ ні скажы́, тады́ прые́дзе, усе́ памага́ў.*

**ЯТРО́ЎКА** *ж.* Братава жонка. *У мае́й ятро́ўкі паду́шкі до́брые былі́: ёй ма́ці і цётка дала́ на вясе́лі.*

*Н. А. Чабатар*

# З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ РУХАВА СТАРАДАРОЖСКАГА РАЁНА

Паводле вынікаў лінгвагеаграфічных даследаванняў беларускамоўнай прасторы гаворка вёскі Рухава адносіцца да слуцкай падгрупы гаворак паўднёва-заходняга дыялекту. Найбольш прыкметнымі фанетычнымі і марфалагічнымі асаблівасцямі мясцовай гаворкі з'яўляюцца наступныя:

ужыванне ненаціскнога этымалагічнага *о* ў канцавым адкрытым складзе (*сáло, жы́то, мы́ло, дзíво, вóзеро, цётухно, жалéзо, кары́то, вóлаво, цёмно, хóладно*);

рэалізацыя канцавога *о* не пад націскам у назоўніках ніякага роду з памяншальна-ласкальным адценнем, якія абазначаюць назвы маладых істот (*качаня́тко, птушаня́тко, кураня́тко, гусяня́тко*);

зацвярдзенне мяккіх губных перад *а, о* (*п'яць, м'ясо, м'ёд, жараб'я́*);

вымаўленне *у* замест *ы* ў літаратурнай мове пасля губных зычных *б, в, м* (*буць, вýняць, памýцца*);

наяўнасць падоўжаных зычных у інтэрвакальным становішчы (*вясéлле, насéнне, карэ́нне, свíнне*);

вымаўленне *е* ў займенніках назоўнага і вінавальнага склону ніякага роду (*маé дзіця́, сваé цяля́, чыé вядрó, тваé зéлле*);

наяўнасць у асобных словах выбухнога ґ (*ґáнак, ґáрнец*);

наяўнасць цвёрдага папярэдняга зычнага асновы ў дзеясловах першага спражэння 1-й асобы множнага ліку (*грабóм, паскубóм, паўзóм, грызóм, чаўпóм*);

вымаўленне зваротных дзеясловаў з постфіксам *-са* (*вýспаўса, памýўса, пытáюса, абýўса, вучýса, узялáса, сабрáласа, здавáласа*);

функцыянаванне формы парнага ліку назоўнікаў жаночага і ніякага роду ў спалучэнні з лічэбнікамі *два, тры, чатыры* (*дзве назé, чаты́ры вакнé, тры каровé*);

наяўнасць канчатка *-а* ў назоўніках ніякага роду ў назоўным склоне множнага ліку (*гусяня́та, кураня́та, бусляня́та, вóкна, вёдра*);

вымаўленне мяккага зычнага *с* у адпаведнасці з канцавым спалучэннем *с'ц'* (*гось, шэсь, нóвась, рáдась*).

**АБÁБЕЦЬ** *зак.* Агрубець (пра аблічча, выгляд жанчыны). *Тáнька абáбілася, як пайшлá зáмуж.*

**АБАПНÝЦЦА** *зак.* Накрыцца чым-н. *Бáба абапнýласа хýсткаю і пакавыляла ў ягады.*

**АББАМБÉРЫЦЬ** *зак.* Пастрыгчы нагала. *Дзя́цько пóўнасцю аббамбéрыў Тóлю.*

**АБІЖÁЦЦА** *незак.* Крыўдзіцца. *Дачкá абіжáецца на мáцяру, што не атпісáла ёй хáту.*

**АБРАБÍЦЦА** *зак.* Запэцкацца, вымазацца. *Я ўся абрабíласа ў гразь, пóкуль прышлá дадóму з пóля.*

**АБШЧАПÉРЫЦЬ** *зак.* Абняць рукамі. *Унýк абшчапéрыў бáбу за шы́ю і не хацéў злáзіць з рук.*

**АГÍЛЯ** *выкл.* Выгук, якім адганяюць гусей. – *Агіля, агіля! – крычы́ць Нáдзя на гусéй.*

**АГЛАÉД** *м.* Абжора, ненажэрны чалавек. *Éты аглаéд і гразь бы пажрáў.*

**АДЗÉЖА** *ж.* Адзенне. *Сын прыцягнýўса з рабóты грáзны і паскідáў адзéжу мóкрую ў сéнцах.*

**АДЗІНÁКАВЫ** *прым.* Аднолькавы. *Алéна і Нíна пашы́лі адзінáкавыя кóхты.*

**АДЗІЯ́ЛО** *н.* Коўдра. *У Дарóгах вáтняе адзія́ло купíла.*

**АКЫ́Ш** *выкл.* Выгук, якім адганяюць курэй. – *Акы́ш! – адганя́е мáма курэ́й ад кары́та.*

**АМЕРЫКÁНКА** *ж.* Пустазелле. *Амерыкáнка запаланíла ўвесь гарóд.*

**АНІКАГÉНЕЧКІ** *займ.* Нікога. *У лéсе анікагéнечкі ні былó, так стрáшно аднóй.*

**АПÉНІКІ** *мн.* Апéнькі. *Зяць кóжную вóсень прыязжáе з гораду ў апéнікі.*

**АПІВÓШЫНА** *агульн.* П'яніца. *Вýняка апівóшына зноў пасýнуўса ў магáзін за пля́шкаю чарнíла, зусíм апусцíўса чалáвек.*

**АПУШЧÓНІК** *м.* Неахайны, неакуратны чалавек. *Éты апушчóнік лянýецца сам сабé агóраць.*

**АТПÉРЫЦЬ** *зак.* Моцна набіць. *Даніло дóбрэ атпéрыў éтаго хлýса.*

**АТТАПÝРЫЦЦА** *зак.* Адтапырыцца. *Кішэ́ні аттапýрыліся ад груш, якіх нарвáў Васíль у Парáскí.*

**БÉЖКОМ** *прысл.* Бягом. *Бéжком пазаві бáбу.*

**БРАЦÍХА** *ж.* Жонка брата. *Брацíсе пазы́чыла грóшай, так ніяк ні аддáсь.*

**БРУХÁТАЯ** *прым.* Цяжарная. *Яé дачкá хóдзіць брухáтай.*

**БРЫ́ТКО** *прысл.* Сорамна. *На цябé бры́тко глядзéць.*

**БÝТТО** *часц.* Быццам. *Бýтто дож сабірáецца.*

**БÝХАЦЬ** *незак.* Моцна кашляць. *Усю ноч бáцько бýхаў, нікóму ні даў спаць.*

**БЭ́ЙБУС** *м.* Гультай. *Éты бэ́йбус нічóго не хóча рабíць.*

**ВО́ДЦЕПЕЛЬ** *ж.* Адліга. *Пóкуль вóдцепелі німá, ты б сéно прывёз з балóта.*

**ВОТО́ЛЕЧКІ** *прысл.* Толькі што. *А я вотóлечкі с пóля прыцягнýласа.*

**ВУ́КАЛУПІЦЬ** *зак.* Успомніць, прыпомніць што-н. дрэннае. *Ён мне вýкалупіў прадкавéцкае.*

**ВУ́ЛЮДНЕЦЬ** *зак.* Папрыгажэць. *Ты паглядзí, як Тáнька вýлюднела за летó.*

**ВУ́НЕКА** *часц.* Вунь. *Паглядзí, сынóк, вýнека карóва Мáніна ў нáшых кардóплях, ідзí вы́гані.*

**ВУ́СЦЯГНУЦЦА** *зак.* Выпрастацца, легчы прама. *Чагó ты вýсцягнуўся на каравáці, ідзí паглядзí ці гаўя́да ідýць.*

**ВУ́ШМАЛЬЦАВАЦЬ** *зак.* Зашмальцаваць. *Усю кухвáйку бáцько вýшвальцаваў.*

**ВЫ́РАДЗІЦЦА** *зак.* Прыгожа апрануцца. *Кудá éто ты так вы́радзілася.*

**ГА́НІЦЦА** *незак.* Брыдкасловіць. *Сóрамно слýхаць, як Паўлó гáніцца.*

**ГАРЦАВА́ЦЬ** *незак.* Бегаць туды-сюды. *Чагó ты гарцýеш, каб цябé чэ́рці насілі.*

**ГА́ТКО** *прысл.* Брыдка. *Éто ж так напíцца, што гáтко глядзéць на ягó.*

**ГІ́БЕЛЬ** *прысл.* Шмат. *У éтым гóдзе гíбель грыбóў людзі нанасілі.*

**ГІ́РКАЦЦА** *незак.* Сварыцца. *Я тóлькі і гíркаюся са сваім.*

**ГЛА́ТКІ** *прым.* Поўны, тоўсты. *Вóлька такáя глáткая зрабілася.*

**ГЛЁ́ЎКІ** *прым.* Недапечаны. *Хлеб палучы́ўса глёўкі, відаць ранó вýняла.*

**ГНІ́ЛКІ** *мн.* Гнілыя грушы. *Пуд грýшаю гнілак насабірáла свіння́м.*

**ГО́МЗАЦЬ** *незак.* Гугнявіць. *Сядзіць за сталóм і гóмзае сам сабé.*

**ГРА́ВЕЛЬКА** *ж.* Гравійка, дарога, пакрытая гравіем. *Трэ́ба з'éздзіць на грáвельку дачкý сустрэ́ць, з Мінску éдзе.*

**ДРАБІ́НЫ** *мн.* Драўляная лесвіца. *Вазьмі драбíны за стóпкаю і злазь на вы́шкі.*

**ДУ́БАР** *м. экспр.* Холад. *На дварэ́ такí дýбар.*

**ДУ́БЧЫК** *м.* Розга. *Дзед адсцягáў дóбрэ унýка дýбчыкам, каб ні лáзіў дзе папáла.*

**ДУ́НДЗІЦЬ** *незак.* Ссаць. *Ён да пяці гадóў дýндзіў цы́цку.*

**Е́СЕКА** *незак.* Ёсць. *У цёткі éсека багáто яшчэ́ сáла.*

**Е́ТЫ** *займ.* Гэты. *Éту салóму трэ́ба ў хлеў укíнуць.*

**ЖА́ЛО** *н.* Джала. *Пчалá ўкусíла, так чуць жáло вýняла.*

**ЖАЎТЛЯ́К** *м.* Грыб жоўтага колеру. *Адны́х жаўтлякóў сёні мой прынёс.*

**ЖЫ́ТКА** *ж.* Жыццё. *Цяжка мáя жы́тка бýла.*

**ЗАБАГАЦЕ́ЦЬ** *зак.* Разбагацець. *Брат забагацéў, так і ні прыязжáе к нам.*

**ЗАБРУХА́ЦІЦЬ** *зак.* Зацяжарыць. *Анюта забрухáцела ад Пáўла.*

**ЗА́ПЕЧАК** *м.* Прамежак паміж печчу і сцяной хаты. *У зáпечку ўсе лахманы́ ляжáць.*

**ЗАСЛО́НЧЫК** *м.* Услончык, невялікая лава. *Сынóк, прынясі з сéнцаў заслóнчык.*

**ЗАЦЁМНО** *прысл.* Зацемна. *Даяркі на хéрму ідýць яшчэ́ зацёмно.*

**ЗБУЗАВА́ЦЬ** *зак.* Зрабіць непрыгодным для карыстання. *Тóлькі нідáўно штаны́ купіла сы́ну, а ён іх ýжэ збузавáў.*

**ЗБЭ́РСАЦЬ** *зак.* Зблытаць. *Назывáецца памóг мне, усé нíткі збэ́рсаў.*

**З ВЯРХО́М** *прысл.* Вышэй краёў пасудзіны. *Кóжны дзень вядрó я́гад набірáла з вярхóм.*

**ЗНА́ЦЦА** *незак.* Падтрымліваць з кім-н. адносіны. *Так янá не хóча знáцца са сваім бáцьком.*

**ЗУ́РКО** *прысл.* Вялікі жар, добра напалена. *У пéчы ячшэ́ зýрко.*

**КАВЯНЯ́** *ж.* Качарга. *Жар вазьмі адграбí кавянéю.*

**КАКАРУ́ЗА** *ж.* Кукуруза і пачатак кукурузы. *Трэ́ба схадзíць свіння́м наламáць какарýзы.*

**КАЛАТУ́ША** *ж.* Зацірка. *Забяліла калатýшу малакóм.*

**КАЛІ́-ТО** *прысл.* Даўней. *Калí-то тут жыў Мáрко.*

**КАМАКІ́** *мн.* Бульбяное пюрэ. *На дзень камакóў пастáвіла ў печ.*

**КАПШУ́К** *м.* Шарык. *Капшýк лóпнуў, так унýка так плáкала.*

**КЕ́ЎЧЫЦЬ** *незак.* Камечыць. *Што ты кéўчыш éту хýстку, вазьмі палажы́ ў шкап.*

**КІНЬДЗЮ́К** *м.* Сальцісон (свіны страўнік, начынены вантробамі). *Кіньдзю́к палучы́ўса вялíкім.*

**КО́СЫ** *мн.* Валасы. *Прычашы́ сваé кóсы, а то хóдзіш, як русамáха.*

**КРУЖЭ́НІКІ** *мн.* Нарэзаная кружочкамі бульба. *Паглядзí, дóча, каб на скаварадзé кружэ́нікі ні прыгарэ́лі.*

**КУ́БЛІК** *м.* Кубелец. *Усé м'я́со злажы́лі ў адзін тóлькі кýблік.*

**КУРАНЯ́ТНІЦА** *ж.* Курыца, якая вывела куранят. *Куранятніца ў дрывóтніку вы́седзіла куранят.*

**ЛА́ЙБА** *ж.* Жанчына з вялікім жыватом. *Вýнека лáйба пáйшла на пóле.*

**ЛІСАПЕ́Д** *м.* Веласіпед. *Мáня на лісапéдзе éздзіць у я́гады.*

**МАКРЭ́Ц** *м.* Макрыца. *На грáдах адзін макрэ́ц апанавáў.*

**МАЛАДЗЁЖ** *ж.* Моладзь. *Маладзёж не хóчэ жыць у дзярэ́ўні.*

**МОЙ** *займ.* Муж. *Мой даўнó ужэ́ ўстаў і пайшóў касíць сéно.*

**МУДРАВА́ЦЦА** *незак.* Корпацца. *Не мудрýйся, ідзí ў хáту ужэ́.*

**НАВУ́ПЕРАТКІ** *прысл.* Наперагонкі. *Жанкí аднá пéрад аднóй навýператкі пóлюць калхóзныя буракí.*

**НАДУБІ́ЦЬ** *зак.* Нанасіць, навалачы. *Надубíў цэ́лыя сéнцы грыбóў.*

**НАМКНУ́ЦЬ** *зак.* Павесіць (пра замок). *Закры́й хáту і намкні на дзвéры замóк.*

**НАПЯРЭ́СЦІЦЬ** *зак.* Адлупцаваць, набіць. *Добрэ ён напярэ́сціў сы́на.*

**НАСТРАПЯЛІ́ЦЬ** *зак.* Настроіць супраць некага. *Зо́ся настрапяліла ўсіх су́праць Пара́скі.*

**НАТРАЛЯВА́ЦЬ** *зак.* Навазіць. *Во ўжэ дроў натралява́ў сусед.*

**ПА́ДАЛКІ** *мн.* Апад. *Пуд гру́шай бага́то па́далак ляжы́ць.*

**ПАМАРА́ЦЬ** *зак.* Вымазаць. *Усю спадніцу памара́ла ў гразь.*

**ПАМЕРГАВА́ЦЬ** *зак.* Параіцца. *Дава́й памяргу́ем, як лепш зрабі́ць.*

**ПАНАЛІВА́ЦЬ** *зак.* Начыніць (каўбасу, крывянку). *Увечарэ з дачко́ю паналіва́лі крывя́нкі і паста́вілі ў печ.*

**ПАНАХО́ДЗІЦЬ** *зак.* Знайсці, адшукаць. *Панахо́дзіла ўсю гарэ́лку яго́, што пахава́ў у сто́пцэ.*

**ПАПЕ́РАДУ** *прысл.* Уперадзе. *Папе́раду ўсіх каро́ў ішла́ на́ша Ра́бка.*

**ПАХА́ТНІЦА** *ж.* Пахатуха, жанчына, якая любіць хадзіць па хатах. *Ву́няка ўжэ пашла́ паха́тніца.*

**ПАШАРАВА́ЦЬ** *зак.* Пашараваць, начысціць да бляску. *Пашарава́ла дзеркачо́м памо́ст, так ве́льмі блішчы́ць.*

**ПЕ́ЙСЫ** *мн.* Пэйсы, валасы. *Во́ля распусціла свае́ пе́йсы і падско́квае ў клу́бе.*

**ПЛЯВУ́ЗГАЦЬ** *незак.* ◊ ПЛЯВУ́ЗГАЦЬ ЯЗЫКО́М. Гаварыць абы-што. *Нажарэ́цца е́тага чарні́ла і плявузгае абы́-што́.*

**ПЛЯ́СКАЦЬ** *незак.* ◊ ПЛЯ́СКАЦЬ ЯЗЫКО́М. Гаварыць многа і абы-што. *Га́нна, як ні пры́дзеш у мага́зін, стаіць і пля́скае сваі́м языко́м.*

**ПРАВАРЫ́ЦЬ** *зак.* Зварыць. *А я ўве́чарэ правары́ла сабе́ кардо́пляў, і так сма́шно нае́ласа з кі́слым малако́м.*

**ПРАЦЬ** *незак.* Перыць. *На рацэ́ до́брэ праць палатня́ныя рушнікі.*

**ПРО́БКА** *ж.* Корак. *Ні адно́й про́бкі ў ха́це німа́шака, што б пля́шку закры́ць.*

**ПРЫДУМО́ЎВАЦЬ** *незак.* Выдумляць. *Ма́ня прыдумо́ўвае абы што і зво́ды зво́дзіць.*

**ПЭ́ЎНЕ** *прысл.* Напэўна. *Пэ́ўне яна́ ўжэ́ і не прые́дзе.*

**РАДАБО́ДЗІНЫ** *мн.* Лахманы. *Трэ́ба пamы́ць радабо́дзіны, пaго́да до́брая.*

**РА́ДЗІВО** *н.* Радыёпрыёмнік. *Як уклю́чыць ра́дзіво, так цэ́лы ве́чар не выключа́е, усе́ слухае.*

**РАЗВА́РЫСТЫ** *прым.* Рассыпісты, сопкі. *Кардо́плі ў е́тым го́дзе такія сма́шныя, разва́рыстыя.*

**РАСТЫ́РКАЦЬ** *зак.* Раздаць. *Пара́ска ўсе́ гро́шы расты́ркала дзе́цям, а ей то ніхто́ ні дась.*

**РУДЛЁЎКА** *ж.* Рыдлёўка, лапата. *Вунь та́то атграба́е пясо́к рудлёўкай, ідзі памажы́, сыно́к.*

**РУЧА́ЙКА** *ж.* Жменя лёну. *Руча́йку лёну атрапа́ла.*

**РЫ́ХЦІК** *прысл.* Дакладна, якраз. *Сын – ры́хцік як ба́цько.*

**СКАПА́ЦЬ** *зак.* Выкапаць. *Мы ў нядзе́лю скапа́лі ўсе кардо́плі.*

**СКА́ЦЕРКА** *ж.* Абрус. *У Даро́гах ве́льмі харо́шую ска́церку ба́чыла, але гро́шай пашкадава́ла.*

**СКО́ЧЫЦЬ** *зак.* Хутка збегаць. *Скоч у мага́зін і купі але́ю.*

**СЛУ́ЧАЙ** *м.* Здарэнне. *З ім такі́ стра́шны слу́чай бы́ў.*

**СЛЯПЕ́НДА** *агульн.* Чалавек са слабым зрокам. *Сляпе́нда ты, нічо́го не ба́чыш.*

**СО́ВЕСЛІВЫ** *прым.* Сарамлівы. *Ты паглядзі на яе́, якая со́весліваяя ста́ла.*

**СРАМ** *м.* Сорам. *Ну і сра́му нарабі́ў Ва́нька ў клу́бе сваі́мі ско́камі.*

**СЫБО́ТА** *ж.* Субота. *У е́ту сыбо́ту стол бу́дам атпраўля́ць па ба́бе.*

**СЯННІ́К** *м.* Матрац, набіты сенам. *Ране́й заме́сто матра́саў сяннікі былі́.*

**ТАБА́К** *м.* Тытунь. *Хазя́ін насушы́ў бага́то табаку́.*

**ТАЛАКАВА́ЦЬ** *незак.* Гуляць, адпачываць (пра моладзь). *Маладзёж усю ноч талакава́ла ля клу́ба.*

**ТА́МАКА** *прысл.* Там. *Вазьмі та́мака дзяру́шку і прынясі квасо́лю ў ха́ту.*

**ТУДЭ́Ю** *прысл.* Туды, у той бок. *Трэ́ба іці тудэ́ю, а то заблу́дзімся.*

**ТУ́ТАКА** *прысл.* Тут. *Спярша́ ту́така папа́сцім каро́вы, а тады́ паго́нім дале́й.*

**УВЯРЭ́ДЗІЦЦА** *зак.* Стаміцца. *Во́лька ўвярэ́дзілася, но́сячы з ле́су я́гады.*

**УДО́СВЕТА** *прысл.* Досвіткам, на золаку. *Удо́света ўста́ю і пайшла́ пало́ць гра́ды.*

**УЗДУ́МАЦЬ** *зак.* Успомніць. *Як узду́маю сваю жы́тку, так стра́шно стано́віцца.*

**УСЁ РО́ЎНО** *прысл.* Усё адно. *Хо́чэш не хо́чэш, усё ро́ўно трэ́ба іці грэ́бці сало́му.*

**УТРУБІ́ЦЬ** *зак.* Шмат з'есці. *За адзін раз усе́ дра́нікі ўтрубі́ў.*

**УТУ́ПАЦЦА** *зак.* Утаміцца, стаміцца. *Так уту́палася за ра́нак ля пе́чы, што но́гі баля́ць.*

**УЦІРА́ННІК** *м.* Ручнік. *Пада́й уціра́ннік го́сцю.*

**ХВАМІ́ЛІЯ** *ж.* Прозвішча. *І маю хвамілію ўпіса́лі ў спісак на дро́ва.*

**ШЧА́ВЕЛЬ** *м.* Шчаўе. *Шча́велю на дзень прыста́віла.*

**ШЧЭ́ЛЬКА** *ж.* Шчыліна. *У хляве́ багато́ шчэ́лек, так кураня́та туда́-сюда́ ла́зяць.*

**ШЫ́ПКО** *прысл.* Хутка. *Га́нна яшчэ́ шы́пко хо́дзіць.*

**Я́ГАДЫ** *мн.* Чарніцы. *Я́гады ў е́тым го́дзе бы́лі ве́льмы дарагія.*

**ЯГО́ДНІК** *м.* Ягаднік. *На е́тым яго́днiку заўсёды было́ я́гад бага́то.*

*С. П. Кусянкова*

## МЯНУШКІ ВЁСКІ ЛУЧЫН РАГАЧОЎСКАГА РАЁНА

**АЛІ́СА** *м.* Мянушка хлопца Аляксея, імя якога па прычыне шапялявасці маці прамаўлялася ці як *Алёса*, ці як *Аліса*.

**АПАЛО́НІК** *м.*

**АПЕЛЬСІ́Н** *м.* Чалавек са смуглявым тварам, колер якога атаясамілі з колерам апельсіна.

**АСО́Н** *м.*

**БАРКА́С** *м.* Мужчына па імені Барыс.

**БАРКО́ЎЦЫ** *мн.* Асобы, якія маюць прозвішча Борыкавы.

**БАНА́Н** *м.* Чалавек, які ў свой час набыў штаны фасону *банан*, чым надзвычай ганарыўся.

**БАСУРМА́Н** *м.* Мужчына з роду *Басурманаў.*

**БАСУРМА́НІХА** *ж.* Зладзеяватая, шкадлівая жанчына, вылучалася тым, што магла загнаць нават чужую атару авец у свой хлеў.

**БАСУРМА́НКА** *ж.* Дачка першай жанчыны, якой прыклалі мянушку *Басурманіха.*

**БАСУРМА́НЫ** *мн.* Род *Басурманаў.*

**БО́БА** *м.* Чалавек, які гаворыць *бо-бо-бо* ці *бу-бу-бу – бобкае* або *бубніць.*

**БО́ЖАНЬКА** *м.* Надзвычай багаверны чалавек.

**БОЛТ** *м.* Мянушка мужчыны, праца якога звязана з розным жалезным начыннем.

**БО́ЛЦІКАВА** *ж.* Жонка *Болта.*

**БО́СЫ** *м.* Трансфармаваная мянушка *Басурмана.*

**БРУСО́К** *м.* Чорны, вельмі смуглы чалавек.

**БУРЖУ́Й** *м.* Прадстаўнік роду па мянушцы *Панскія.* Новае імя выступае як сучаснае перастварэнне ранейшай мянушкі.

**БУРЖУ́ЙЧЫК** *м.* Сын *Буржуя.*

**БУРЖУ́ЙЧЫНКА** *ж.* Дачка *Буржуя.*

**БУРЖУ́ІХА** *ж.* Жонка *Буржуя.*

**БУ́ТАЛЬ** *м.* Чалавек, які піў гарэлку прама з бутэлькі, або *з бутлі.*

**ВЕ́ЦЕР** *м.* Чалавек, які вылучаўся незвычайнай энергічнасцю.

**ГА́ЙКА** *ж.* Дачка чалавека па мянушцы *Болт.* Як і іншыя члены сям'і (брат, маці) атрымала мянушку ў адпаведнасці з асаблівасцямі працы бацькі – «*з жалеззем*» – гайкамі, балтамі, шрубамі і г. д.

**ГАНЦ** *м.* Хлопец, які мае пэўнае падабенства з героем кінафільма, немцам па імені Ганс.

**ГІПАТА́Р** *м.*

**ГОРШ** *м.* Мужчына, які рэгулярна ўжываў выраз *а то горш будзе*, калі нешта было не па ім.

**ГО́РЫК** *м.* Перастворанае на мясцовы лад імя Герасім.

**ГРАКІ́** *мн.* Агульная назва насельнікаў в. Забалацце.

**ГРУКІ́** *мн.* Людзі з прозвішчам Гручанковы. Уладальнікі яго пры размове не гаварылі, а крычалі, ці *грукалі.*

**ДЖЭД ДЗЕ́ДУШКІН.** Мужчына вымаўляў гук *д* як *дж*, пры гэтым замест слова дзед ужываў толькі форму *дзедушка.*

**ДО́ДЗІК** *м.* Хлопец па імені Валодзька, скарочана *Додзька* або *Додзік.*

**ДО́ЛАТА** *м.* Вельмі настойлівы, настырны чалавек, які гнуў (доўб) сваё, не прызнаючы нічога іншага.

**ДРА́ЙКА** *м.* Мужчына дрэнна вымаўляў гук *р.* Пры ўжыванні слоў з гэтым гукам атрымлівалася спалучэнне, якое ўспрымалася як *д-р-р*, напрыклад, як у імя *Сід-р-р.*

**ДУС** *м.* Надменна важнага выгляду мужчына.

**ДУ́ША** *м.* Чалавек па імені Анатоль, маці яго *Дуня, Дуняша.* Хлопец стаў *Душа.*

**ДЫПЛАМА́Т** *м.* Жанчына, бухгалтар па прафесіі, якая хадзіла на працу ў строгіх жаночых гарнітурах, з дыпламатам у руках.

**ДЗЯДКО́ЎЦЫ** *мн.* Асобы, якія маюць прозвішча Дзядковы.

**ЗА́БАЛАЦКАЯ** *ж.* Ураджэнка в. Забалацце.

**ЗАБЕ́ЛКІ** *мн.*

**ЗУБІ́ЛА** *м.* Паралельны варыянт да мянушкі *Долата.*

**ЗА́ЙЧЫК** *м.* Добразычлівы, лагодны, спагадлівы чалавек.

**КАЗАНЕ́Ц** *м.* Былы цясляр, магчыма, спрабаваў рабіць драўляныя чыгуны, ці *казаны.*

**КАЛЮ́НЧЫК** *м.* Варыянт імя Мікалай, які ператварыўся ў мянушку.

**КАЛЮ́НЧЫКІ** *мн.* Нашчадкі асобы па мянушцы *Калюнчык.*

**КАМЕРСА́НТ** *м.* Мужчына, які строіў з сябе пэўнага дзеяча, выдаваў за камерсанта.

**КАПЕ́ЙКА** *ж.* Жанчына, якая на грошы любога наміналу казала *капейка.*

**КАРЫ́М** *м.* Хлопец, знешне падобны да прадстаўніка ўсходняй нацыянальнасці.

**КАТО́К** *м.* Кульгавы чалавек, які пры хадзьбе нібы перакочваўся.

**КЛІЧВО́ЙТЫ, КЛЮЧВО́ЙТЫ** *мн.* Кажуць, што мянушка нейкім чынам звязана з ключамі.

**КЛЮ́ЧЫКІ** *мн.* Трансфармаваная форма былой мянушкі продкаў *Клічвойтаў* або *Ключвойтаў*, якія некалі жылі ў Лучыне.

**КО́КА** *м.*

**КО́РШЫК** *м.* Зласлівая асоба, якая ў парыве гневу разадрала, як гэта робіць каршун (коршак), чужую курыцу.

**КО́РШЫК** *м.*, **КО́РШЫКІ** *мн.* Прадстаўнік (-і) сям'і, у якой жыве жанчына па мянушцы *Коршык.*

**КО́ШЛА** *м.* Мужчына з кучаравымі валасамі.

**КРОК** *м.* Чалавек з адметнай хадой: пры хадзьбе ён адбіваў крок, як вайсковец.

**КУ́ДЛА** *ж.* Жанчына неахайнага выгляду, з незачасанымі валасамі.

**КЭ́БАЛЫ** *мн.* Агульная назва насельнікаў в. Лучын. Апошнія замест слова *каб* ужывалі *кэб.*

**ЛЕСНІЧКІ́** *мн.* Нашчадкі чалавека па мянушцы *Леснічок.*

**ЛЕСНІЧО́К** *м.* Невялічкага росту мужчына з густымі бровамі, знешне нечым падобны да казачнага лесавіка.

**ЛІС** *м.* Чалавек, нечым падобны да лісы.

**ЛУЮ́С** *м.* Вялізны, мажны мужчына, які знешне нагадваў персанажа кіно.

**ЛУ́КАЎКА** *ж.* Ураджэнка в. Лукі.

**ЛУ́КАЎЧЫН** *м.*, **ЛУ́КАЎЧЫНЫ** *мн.* Нашчадак (-дкі) сям'і жанчыны, ураджэнкі в. Лукі.

**ЛУПА́ТЫ** *м.* Пра чалавека, які мае выпучаныя вочы, вірлавокі.

**ЛЫ́ЧЫК** *м.* Чалавек быў майстрам па забойстве свіней, таму яго заўсёды запрашалі вяскоўцы пры такой нагодзе. Калі ён рабіў гэту справу, то трымаў жывёліну за лыч.

**МАЗО́ЛЬ** *м.*

**МА́МА СКАЗА́ЛА**. Мужчына, які пры сцверджанні ўжываў выраз *так мама сказала.* Апошняя пасля вайны гадавала сына адна і з'яўлялася дзіцяці аўтарытэтам.

**МАМУ́ЛЬКА** *ж.* Жанчына, якая пры звароце ўжывала выраз *мая мамулька.*

**МАМУ́ЛЬЧЫН** *м.*, **МАМУ́ЛЬЧЫНЫ** *мн.* Нашчадак (-дкі) сям'і, у якой жанчына мела мянушку *Мамулька.*

**МАРО́З** *м.* Хваравіты чалавек, які заўсёды кукожыўся, курчыўся як ад марозу.

**МАРО́ЗІК** *м.* Малодшы брат *Мароза.*

**МАРО́ЗІКІ** *мн.* Дзеці з сям'і *Марозіка.*

**МА́РЫК** *м.* Унук *Марозіка.*

**МЕНЬ** *м.* Заядлы рыбалоў, які праславіўся па лоўлі ментузоў.

**МЕ́ША**, **МЕ́ШАЧКА**, **МЕ́ШАЛКА** *м.* Перастворанае на мясцовы лад імя Міша.

**МІЛО́К** *м.* Чалавек, які пры звароце ўжываў слова *мілок.*

**МУГА́МБА** *м.* Чалавек, які мае пэўнае падабенства да героя індыйскага кінафільма.

**МУ́ЗЫКА** *м.* Зמененае іператворанае ў мянушку прозвішча Музычэнка.

**МУ́ЛІК** *м.* Ненадзейны, фарсісты да пыхлівасці, а таму мулкі ў стасунках чалавек.

**МУШТУ́К** *м.* Мужчына, які ў адрозненне ад іншых вясковых мужчын не курыў самакруткі, а карыстаўся муштуком.

**НАЖДА́К** *м.* Чорны, вельмі смуглы ў твары чалавек.

**НЕ́СЦЕРКА** *м.* Маленькі, хітраватага выгляду мужчына.

**ПАН** *м.* Чалавек, які падчас развалу Савецкага Саюза першым у вёсцы стаў ездзіць у Польшчу, да паноў.

**ПА́НСКІЯ** *мн.* Нашчадкі роду, у якіх нехта з продкаў служыў у пана.

**ПЛАСКІ́НКА** *ж.* Ураджэнка вёскі Плоскіні.

**ПОП** *м.* Іншае імя *Божанькі*, надзвычай багавернага чалавека.

**ПРАЦАЎНІ́К** *м.* Мужчына, які вылучаўся шчыраваннем у працы. За гэта яго хвалілі на калгасных сходах. Паколькі сходы вяліся па-беларуску, то выступоўцы выкарыстоўвалі слова працаўнік, якое стала яго імяннай адзнакай.

**ПРАЦАЎНІ́ЦА** *ж.* Жонка *Працаўніка.*

**ПРЫЖЫ́М** *м.* Мужчына пры паездцы на веласіпедзе калашыну штаноў унізе заўсёды заціскаў *прышчэпкай*, ці *прыжымам.*

**ПУД** *м.* Каржакаваты, дужы мужчына, які падаваўся вельмі важкім.

**ПУ́ДЗІК** *м.* Сын *Пуда.*

**ПУ́ХАЛА** *м.*

**РАЗУ́МНАЯ** *ж.* Жанчына, якая асабістае меркаванне лічыла адзіна правільным і разумным.

**РУХО́МЫ** *м.* Новая мянушка чалавека, якога ў школьныя гады называлі *Тулягам.* Туляга стаў Рухомым праз празмерна актыўную дзейнасць, якую разгарнуў пры прызначэнні яго на кіроўчую пасаду ў калгасе.

**РЫ́БІНА** *м.* Заядлы спрактыкаваны рыбак.

**РЫ́БКІН** *м.* Тое ж.

**СВЕ́РДЗЕЛ** *м.* Чалавек асаблівага целаскладу – тонкі, худы і прамы.

**СВІСТУ́Н** *м.* Лайдакаваты мужчына, абібок, які пазбягаў працы і, знікаючы з дому, хаваў рукі ў кішэні і, пасвістаючы, прагульваўся па вёсцы.

**СВІСТУНЦЫ́** *мн.* Нашчадкі чалавека па мянушцы *Свістун.*

**СВЯТЫ́** *м.* Іншае імя *Божанькі*, надзвычай багавернага чалавека.

**СІ́МАН** *м.* Мясцовы варыянт імя Сымон, якое стала мянушкай усяго роду.

**СІ́МАНЫ** *мн.* Нашчадкі *Сімана.*

**СІНЕ́Ц** *м.* Спрактыкаваны ў лоўлі *сінцоў* (назва рыбы) мужчына.

**СМЕРЦЬ ГРЫБА́М**. Жанчына, адметная грыбніца, пасля якой знайсці хоць адзін грыб немагчыма.

**СМЕ́ШНЫ** *м.* Чалавек адметнага знешняга выгляду – з усмешкай на твары.

**СУК** *м.* Мужчына задзірыстага нораву, які чапляўся да кожнага.

**СУЧО́К** *м.* Сын *Сука.*

**СЫНЫ́ШКІ** *мн.* Працяглы час у адной вясковай сям'і нараджаліся толькі дзяўчынкі, нарэшце з'явіўся хлопчык. Бацька зваў яго *мой сынышка.* Усе дзеці, у тым ліку і дзяўчынкі, таксама пачалі называцца *Сынышкі.*

**ТАХТЫ́ЛЬ** *м.*

**ТУЛЯ́ГА** *м.* Школьная мянушка хлапчука, паводзіны якога мелі моцнае падабенства з паводзінамі адпаведнага літаратурнага персанажа.

**ФЕЎРА́ЛЬ** *м.* Невысокі, маленькага росту мужчына, кароценькі, як зімовы месяц *февраль*.

**ФІ́КСА** *м.* Малады бяззубы чалавек, які вымушаны быў паставіць зубныя пратэзы, або *фіксы*.

**ХАМО́ВЫ** *мн.* Асобы з роду, продак якіх меў імя Хама.

**ХЛАПУ́ШКА** *ж.* Жанчына з прозвішчам Хлапкова.

**ХО́ДАСАЎКА** *ж.* Ураджэнка в. Ходасавічы.

**ХРУ́ЛЯ** *ж.*

**ХУЛІ́К** *м.* Чалавек, які меў асаблівы нораў, бясконца брыдкасловіў. Каб уціхамірыць неўгамоннага, вяскоўцы злавілі яго ноччу і забілі рот зямлёй. Той ледзь не захлупіўся.

**ЦВІК** *м.* Чалавек адметнага целаскладу – вельмі тонкі і прамы.

**ЦЕЦЕ́** *м.* Мянушка гаспадара, які трымаў на падвор'і гусей, сам іх пасвіў і ўвесь час падзываў *це-це-це*.

**ЦЕЦЕРУКІ́** *мн.* Нашчадкі людзей, прашчуры якіх былі глухаватыя людзі, такія глухія, як *цяцеры*.

**ЦІЛІ́КА** *ж.*

**ЦУПА́РКА** *ж.* Ураджэнка в. Цупер.

**ЦУПА́РЧЫН** *м.*, **ЦУПА́РЧЫНЫ** *мн.* Нашчадак (-дкі) жанчыны, ураджэнкі в. Цупер.

**ЦЫГАНО́К** *м.* Невысокага росту, чарнявы і кучаравы чалавек, знешне падобны да цыгана.

**ЦЭ́ЗАР** *м.* Фанабэрысты і пыхлівы чалавек па прозвішчы Цароў.

**ЧАРАПКІ́** *мн.* Мянушка людзей усяго роду, кожны прадстаўнік якога быў сам па сабе.

**ЧАРНЯ́К** *м.* Чорны, смуглы ў твары чалавек.

**ЧАРПА́К** *м.*

**ЧО́БАТ** *м.* Змененае і ператоранае ў мянушку прозвішча Чабатар.

**ЧЫГУНО́К** *м.* Чорны, вельмі смуглы чалавек.

**ЧУБА́К** *м.*

**ЧЫЧКО́** *м.* Мужчына, які ўвесь час прыводзіў у якасці прыклада свайго вайсковага сябра па прозвішчы Чычко.

**ША́МКА** *м.*

**ШВЭ́БАЛ** *м.*

**ШМО́ЙЛА** *м.* Мясцовы варыянт імя Самойла, якое само ўтворана ад формы Самуэль.

**ШМО́ЙЛІХА** *ж.* Жонка *Шмойлы*.

**ШУРУ́П** *м.* Сын чалавека па мянушцы *Болт*.

**ШЦІ́РЛІЦ** *м.* Жанчына, якая вызначаецца незвычайнай назіральнасцю і аналітычнасцю. Яе характар нечым падобны на характар адпаведнага персанажа кіно.

**ШЭ́ВЕЛІ** *мн.* Зладзеяватыя людзі, якія бралі, ці *шэвелілі*, усё, што дрэнна ляжыць.

**Я́ЯЧКІН** *м.* Мужчына па прозвішчы *Ларачкін*, які не вымаўляў гук *л*.

# ТАПАНІМІЯ

*І. І. Бубновіч*

## МІКРАТАПАНІМІЯ ВЁСКІ ШЫНКАЎЦЫ ШЧУЧЫНСКАГА РАЁНА ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Вёска Шынкаўцы знаходзіцца ў Дзембраўскім сельсавеце Шчучынскага раёна па дарозе ад в. Астрына да г. Шчучын. У другой палове XX стагоддзя гэта досыць мнагалюдная вёска (больш за 50 хат з хутарамі). У савецкія гады ў вёсцы была сямігадовая школа, сельсавет, пошта, магазін, жывёлагадоўчыя фермы, «крыты» ток. Пастунова адбыліся змены: землі далучылі да іншага калгаса, сельсавет перанеслі ў в. Лядск, пасля ў в. Дзембрава. Школу закрылі, а ў школьным будынку размясцілі ФАП, магазін, Дом быту. Зараз у в. Шынкаўцы няма ўжо ніводнай культурнай установы, нават магазін не працуе. У вёсцы засталіся жыхары пераважна пенсійнага ўзросту, моладзь на працягу другой паловы XX ст. выязджала ў гг. Шчучын, Гродна, Ліду, вербавалася на «цаліну», у Карэлію на лесараспрацоўкі; на радзіму людзі вярталіся рэдка. Цяпер тут засталося толькі тры сям'і працаздольнага ўзросту, але яны не мясцовыя, а пераехалі сюды гадоў пятнаццаць назад. Многія назвы, што выкарыстоўваліся мясцовым насельніцтвам на працягу дзесяцігоддзяў, забываюцца і могуць увогуле адысці ў нябыт.

Мікратапанімія в. Шынкаўцы выразна адлюстроўвае асаблівасці гаспадарчага жыцця насельніцтва і прыродна-геаграфічнага рэльефу мясцовасці. На яе значны ўплыў аказаў той факт, што некалі многія жыхары атрымалі зямлю і пасяліліся на хутарах, таму і сёння многія назвы палёў, частак лясоў, дарог і сцяжынак звязаныя з найменнямі былых хутароў, іх гаспадароў. Да таго ж, вёска Шынкаўцы з усіх бакоў на рознай адлегласці акружаная лясамі, таму шмат найменняў, звязаных з лесам. Затое гідронімаў амаль няма, бо рэчка, якая раней цякла каля вёскі, у выніку асушэння балот была ператворана ў роў, і таму згубілася сярод іншых равоў, што перарэзваюць навакольныя палі і сенажаці.

**АЛЕ́КАЎСКІЯ** *мн.* Хутар паміж вв. Шынкаўцы і Астрына.

**АЛЕ́КАЎШЧЫНА** *ж.* 1. Хутар паміж шашой на г. Шчучын і в. Пісклюкі. 2. Палетак каля аднайменнага хутара.

**АЛЕ́НЧЫНА ДАРО́ЖКА**. Сцяжынка ў лес насупраць хаты гаспадыні па імені Аленка.

**АНУ́ЛІНА ЗЯМЛЯ́**. Участак зямлі, які належаў жанчыне па імені Ануля на Велькіх Грудах.

**БАБРО́ВІНА** *ж.* Сенажаць за шашою на г. Шчучын насупраць в. Шынкаўцы.

**БАГНО́** *н.* Лес на балоце паміж вв. Шынкаўцы і Намейкі (бліжэй да в. Намейкі).

**БАРА́НІХА** *ж.* Лес паміж в. Шынкаўцы і в. Астрына.

**БАРСУКО́ВІНА** *ж.* Трыба ў лесе пад хутар Горбава.

**БАЎШО́ЎСКАЯ ДАРО́ГА (БАЎШО́ЎСКА ДАРО́ГА).** Дарога ад в. Шынкаўцы да в. Багушы.

**БАЎШО́ЎСКАЯ ТРЫ́БА**. Трыба ад в. Шынкаўцы да в. Багушы праз Стары лес.

**БАЎШО́ЎСКІ БЕ́РАГ**. Край лесу, што выходзіць на в. Багушы.

**БЕРАЗІНА́** *ж.* Сенажаць паміж Старым лесам і хутарамі.

**БОР** *м.* Лес справа ад дарогі на в. Багушы.

**БЯЛКІ́** *мн.* Месца каля могілак, дзе некалі былі хутары.

**БЯРЭ́ЗАЎСКІ ЛЕС**. Лес паміж в. Шынкаўцы і в. Бярэзаўцы.

**ВАЎЧКО́ВА ТРЫ́БА**. Трыба з Беразіны на Баўшоўскую дарогу.

**ВАЎЧКО́ЎСКА ПО́ЛЕ**. Поле каля хаты чалавека па прозвішчы Ваўчок, якое да ўтварэння калгаса належала яму.

**ВЕ́ЛЬКІЯ ГРУДЫ́**. Палеткі пад лесам (Стары і Новы Груды).

**ВО́ТКАЎШЧЫНА** *ж.* Месца каля Старога лесу, дзе былі раней хутары з такой неафіцыйнай назвай.

**ГАЙ** *м.* Частка Андрашоўскага лесу, дзе было шмат чарніц.

**ГЛІ́НІШЧА** *н.* Месца каля аўтобуснага прыпынку, дзе капалі гліну.

**ГО́РБАВА** *н.* Хутар у лесе, дзе жыў ляснік.

**ГО́РБАЎСКАЯ ДАРО́ЖКА.** Дарожка ад хутара Воткаўшчына на хутар Баўшы, якая праходзіла недалёка ад хутара Горбава.

**ГО́РБАЎСКІ ЛЕС**. Частка лесу каля хутара Горбава.

**ГРАНІ́ЦА** *ж.* Мяжа, дарога паміж лесам і полем, якая пачыналася ад хутара Воткаўшчына.

**ГРУДАЎСКО́Е ПО́ЛЕ**. Поле на Грудах.

**ГУЛЫ́** *мн.* 1. Раней поле, пазней частка вёскі в. Шынкаўцы, бліжэйшая да в. Багушы. 2. Сенажаць каля гэтай часткі вёскі.

**ГУСІ́НАЯ Я́МА (ГУСІ́НА Я́МА)**. Невялікая сажалка каля в. Шынкаўцы (у пачатку калгаснага жыцця там разводзілі гусей).

**ДАВЫ́ДКАЎ ХУ́ТАР**. Месца недалёка ад Глінішча, дзе жыў чалавек па мянушцы Давыдок.

**ДАВЫДКО́ВА ДАРО́ГА**. Дарога ад хутара Воткаўшчына да шашы.

**ДАРО́ГА Ў САЛДА́ЦКІ ЛЕС**. Дарога ад хутара Алекаўшчына да Салдацкага лесу.

**ДА́РЧЫН ХУ́ТАР**. Хутар жанчыны па імені Дарка, знаходзіўся за шашой у лесе (насупраць месца, дзе цяпер аўтобусны прыпынак).

**ДЗЁДАЎКА** *ж.* 1. Частка лесу. 2. Сенажаць каля лесу насупраць Скаўрэва.

**ДЗЯ́ЛЕЎКА** *ж.* Сенажаць ад Воткаўшчыны пад Горбава каля Старога лесу.

**ДЗЯ́ЛЕЎСКАЯ ТРЫ́БА**. Трыба на сенажаць Дзялеўка да хутара Горбава.

**ДЗЯЛЯ́НКА** *ж.* Месца ў Старым лесе, дзе некалі былі прасеклі дзялянку.

**ЕСЯНЮКЕ́** *мн.* Лес каля в. Шынкаўцы.

**ЖЫДО́ЎШЧЫНА** *ж.* Частка поля з сенажаццю за шашой пад в. Андрашоўцы.

**ЗА́ГАРАДА** *ж.* Сенажаць за хатамі.

**ЗАГО́РБАВА (ГО́РБАЎСКІ ЛЕС).** Лес за хутарам Горбава.

**ЗАГУМЕ́НЯ** *н.* Поле непасрэдна за вёскай.

**ЗАКУ́ТПАЛЕ** *н.* Лес за хутарам Кутпале.

**ЗАКУ́ТПАЛЬСКІ ЛЕС**. Тое ж.

**ЗАРО́ДЗЯ** *н.* Поле непасрэдна за хатамі.

**ЗАРЭ́ЧА (ЗАРЭ́ЧЧА)** *н.* 1. Поле за рэчкай паміж Вёскай і Скаўрэвам. 2. Частка вёскі паміж Вёскай і Скаўрэвам.

**ІГНА́СЕВА СЕНАЖА́ЦЬ**. Сенажаць каля Ігнасева хутара.

**ІГНА́СЕЎ ХУ́ТАР**. Хутар паміж в. Навасёлкі, вв. Пісклюкі, Шынкаўцы (бліжэй да в. Пісклюкі).

**КА́ЛЯ ГАРНУ́ШКА**. Поле каля хаты чалавека па мянушцы Гарнушак.

**КА́ЛЯ ФЕ́РМЕРА**. Поле каля хаты чалавека па мянушцы Фермер.

**КАМЕ́ННЫ МАСТО́К**. Мост каля в. Шынкаўцы па дарозе на в. Багушы.

**КАПІ́ЧЫСІН ХУ́ТАР**. Хутар, дзе жыла сям'я па прозвішчы Капіца.

**КАРЧЫ́** *мн.* Поле, дзе некалі быў лес, недалёка ад лесу каля хутара Лукаша.

**КУЗЬМО́ЎСКІ ЛЕС**. Лес за хутарам Горбава пад в. Кузьмы.

**КУ́ТПАЛЕ** *н.* Поле, а раней хутары каля в. Шынкаўцы недалёка ад Юркавага лесу.

**ЛЕС ЗА КРУТЫ́М**. Частка лесу за хутарам чалавека па мянушцы Круты.

**ЛЕС КА́ЛЯ СЛЯПО́ГА**. Лес каля хутара чалавека па мянушцы Сляпы.

**ЛЕС СКАБІ́НСКАГА**. Лес пад в. Лядск.

**ЛІСІ́НЫЯ НО́РЫ**. Месца ў лесе насупраць хутара Кутпале, дзе было шмат лісіных нораў.

**ЛУКАШО́ВА ДАРО́ЖКА**. Сцяжынка ў лес насупраць хаты гаспадара па імені Лукаш.

**ЛУКАШО́Ў ХУ́ТАР**. Месца, дзе раней быў хутар чалавека па імені Лукаш.

**ЛЮПНІ́КІ** *мн.* Палетак каля хутара Алекаўшчына.

**МАЯЧО́К** *м.* Былы хутар лесніка, цяпер на тым месцы прыпынак на шашы на в. Астрына.

**МІСЮКО́ЎШЧЫНА** *ж.* Сенажаць каля Школкі.

**МОСТ ПАД НАВАСЁЛКАМІ**. Мост на дарозе паміж вв. Шынкаўцы і Навасёлкі.

**МУРАЎЁВА ТРЫ́БА**. Трыба ад в. Багушы на хутар Горбава.

**НАВАСА́ДСКІ ЛЕС**. Лес за хутарам Горбава ў бок в. Навасады, належаў пану Навасадскаму.

**НАМЕ́ЙКАЎСКА ДАРО́ГА**. Дарога ад хутара Кутпале на в. Намейкі праз лес.

**НАМЕ́ЙКАЎСКА ТРЫ́БА**. Трыба ад хутара Кутпале на в. Намейкі праз лес.

**НАМЕ́ЙКАЎСКІ БЕ́РАГ**. Месца ў Намейкаўскім лесе бліжэй да в. Намейкі, дзе высеклі стары лес, і цяпер там вырас малады лес.

**НАМЕ́ЙКАЎСКІ ЛЕС**. Лес паміж вв. Шынкаўцы і Намейкі.

**НО́ВЫ ГРУД**. Палетак пад Андрашоўскім лесам каля Старога Груда.

**ПАГАРЭ́ЛКА** *ж.* Сенажаць ад хутара Воткаўшчына да Школкі.

**ПАГАРЭ́ЛКАЎСКАЯ ТРЫ́БА**. Трыба ад Гулоў да сенажаці Пагарэлка, да Беразіны.

**ПАД АЛЕ́НКУ**. Месца, дзе быў раней хутар жанчыны па імені Аленка.

**ПАД БА́НЯЙ**. Паша, а таксама балоцістае месца каля будынка калгаснай бані.

**ПАД БАПЦІ́СТАМ**. Месца недалёка ад хаты чалавека па мянушцы Бапціст.

**ПАДБЕРАЗІ́НКА** *ж.* Хутар за шашой.

**ПАД БО́ЧКУ (ПАД БО́ЧКАЙ)**. 1. Выган каля хаты чалавека па мянушцы Бочка. 2. Сажалка на аднайменным выгане.

**ПАД ВО́СІПАМ**. Выган пад хатамі, гаспадаром адной з якіх з'яўляецца чалавек па імені Восіп.

**ПАД ГО́РБАВАМ**. Дзялянка пад хутарам Горбава.

**ПАД ДЗЁДАЎКАЙ**. Агароды каля лесу Дзедаўка.

**ПАД ЛЯЎШУ́ЧКУ**. Поле каля хутара жанчыны па мянушцы Ляўшучка.

**ПАД ПІСКЛЮКА́МІ**. Паша паміж вв. Шынкаўцы і Піскліюкі бліжэй да в. Піскліюкі (цяпер ужо нежылой).

**ПАДСЫРО́ЎКА** *ж.* Хутар.

**ПАД ФЕ́РМАЙ**. Поле недалёка ад будынка калгаснага кароўніка.

**ПАДЧАШЧЫ́** *мн.* Палетак каля шашы недалёка ад могілак.

**ПАД Ю́РКУ.** Лес каля былога хутара, гаспадара якога звалі Юркам.

**ПАПО́ЎКА** *ж.* Палетак, на якім больш за дзвесце гадоў таму была капліца. Знаходзіцца ў канцы в. Шынкаўцы каля дарогі на в. Багушы.

**ПАЎЛЮКО́ВА ДАРО́ЖКА**. Сцяжынка ў лес насупраць хаты гаспадара па імені Паўлюк.

**ПЕРАКУ́ЛІСІНА ЗЯМЛЯ́.** Участак зямлі, які належыў жанчыне па мянушцы Перакуліха, знаходзіцца недалёка каля Давыдкавага хутара.

**ПО́ЛЕ ЗА ШАШО́Й**. Поле, што знаходзіцца за шашой на г. Шчучын.

**РАБАРЫ́** *мн.* Хутар каля Хвойніка, дзе жылі людзі па мянушцы Рабары.

**САЛДА́ЦКІ ЛЕС.** Лес за могілкамі, куды ездзілі салдаты на вучэнні.

**СКАЎРЭ́ВА** *н.* 1. Частка вёскі, у якой была школа. 2. Поле.

**СКРА́СКІ ЛЕС**. Лес паміж в. Шынкаўцы і в. Скрагі.

**СТАДЫЁН** *м.* Былы школьны стадыён.

**СТАРАДВО́РСКА ТРЫ́БА.** Трыба праз Старадворскі лес у бок в. Старадворцы.

**СТАРАДВО́РСКІ ЛЕС.** Лес за шашой у бок в. Старадворцы.

**СТАРЫ́ ГРУД**. Палетак пад Андрашоўскім лесам.

**СТАРЫ́ ЛЕС**. Лес паміж хутарам Воткаўшчына і хутарам Баўшы.

**ТУ́ЛЯЎ ХУ́ТАР**. Хутар у канцы в. Шынкаўцы (каля Гулоў), дзе жыў гаспадар па прозвішчы Туля.

**УНУ́КАЎ ХУ́ТАР**. Месца, дзе раней быў хутар чалавека па мянушцы Унук.

**ХВО́ЙНІК** *м.* Лес каля Старога лесу.

**ЦЕРАБЕ́ЖЫК** *м.* Сенажаць, дзе раней слалі лён, знаходзіцца паміж вв. Шынкаўцы і Навасёлкі.

**ШКО́ЛКА** *ж.* Частка лесу, дзе садзілі маладыя дрэўцы, якія пасля высаджвалі ў другім месцы.

**ШКО́ЛЬНЫ САД**. Сад каля былой школы, пасаджаны вучнямі.

**Ю́РКАЎ ЛЕС.** Лес каля былога хутара, гаспадара якога звалі Юркам.

**ЮРКО́ВА ДАРО́ЖКА**. Лясная дарога ў лесе каля хутара гаспадара па імені Юрка.

**ЯСЮКО́ЎШЧЫНА** *ж.* Лес за хутарам Горбава.

*М. А. Даніловіч, Н. К. Памецька*

## ГІДРОНІМЫ БАСЕЙНА РАКІ КОТРЫ

На сёння даследчыкі маюць цікавую інфармацыю пра засяленне тэрыторыі ўздоўж ракі Котры. Вось што вядома. Археалагічныя даследаванні выявілі, што людзі тут жылі ўжо ў каменным веку. На беразе Котры недалёка ад вёскі Бершты знаходзіцца гарадзішча ранняга жалезнага перыяду.

З прычыны нізкай урадлівасці глебы земляробства ў басейне ракі Котры развівалася слаба, і шчыльнасць насельніцтва была і застаецца невялікай. Жыхары займаліся ў асноўным рыбалоўствам, паляваннем,ляснымі промысламі.

У Вялікім Княстве Літоўскім мясцовая пушча (у розныя часы яна называлася па-рознаму: Гарадзенская, Берштаўская, Катранская і інш.) была месцам палявання князёў і знаці. Для абслугоўвання гэтага занятку не хапала служывых людзей, і таму ў 1526 г. вялікі князь Жыгімонт надаў прывілеі на дваццаць гадоў тым, хто пасяляўся ў пушчы. Паводле ардынацыі каралеўскіх пушчаў 1641 г., у Берштаўскай пушчы налічвалася 15 лясных уступаў – урочышчаў, багатых зверам і не кранутых чалавекам. Уступы засяляліся асочнікамі, абавязкам якіх было ахова лесу, дапамога каралю на паляванні, пракладка дарог паміж уступамі. Кожнаму асочніку выдзелілі паўвалокі зямлі, а галоўнаму з іх, дзясяцкаму Мікалаю Даніловічу, – цэлую валоку (гл: Токць С. Беларуская вёска ў эпоху зьменаў. – Мінск: Тэхналогія, 2007. – С. 194–195). Ва ўступах асочнікі засноўвалі дымы – сядзібы. З цягам часу дымы разрасталіся ў вёскі. Пушча абжывалася чалавекам.

Сёння назіраецца адваротны працэс. Масавае перасяленне людзей у горад, якое адбылося за апошняе паўстагоддзе, аказала разбуральны ўплыў на пушчанскія вёскі і хутары. Шэраг населеных пунктаў знаходзіцца на мяжы знікнення, а некаторыя ўжо замерлі пустымі хатамі. Палі

і сенажаці зарастаюць лесам. Знікае багаты пласт мікратапанімічнай лексікі, што ствараўся і назапашваўся мясцовымі жыхарамі цягам стагоддзяў.

Кафедра беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы апошнія гады займаецца вывучэннем мікратапаніміі басейна ракі Котры. Абследаваны гаворкі шэрагу населеных пунктаў, якія размешчаны на адлегласці 15–20 кіламетраў абапал ракі Котры.

Рака Котра – правы прыток Нёмана. Пачынаецца на тэрыторыі Літвы і цячэ ў Шчучынскім і Гродзенскім раёнах праз маляўнічыя лясныя мясціны. Даўжыня ракі каля 140 кіламетраў. З даўніх часоў рака Котра была цэнтрам, які кансалідаваў мясцовых жыхароў у эканамічных, культурных і моўных адносінах.

З сістэматызаванага картатэчнага матэрыялу для гэтай падборкі прапануем толькі ўласныя назвы водных аб'ектаў, балот і забалочаных мясцін.

**АБРО́ЧНО** *н.* Балота. Парэчча Гродз.

**АДКРЫ́ТЫ ВІР** *м.* Месца на рацэ Нявіша. Лозкі Шчуч.

**АЗЯРАВІ́НА** *ж.* Балота. Сухары Гродз.

**АЗЯРКО́** *н.* 1. Невялікае возера. Бабіна Гродз. 2. Балота. Ліпнікі Шчуч.

**АЗЯРЫ́ШЧА САЛА́ЦКАЕ**. *Дно былога возера, якое сплыло ў 1841 годзе.* Салацце Гродз.

**АКЕ́НЯЧКО** *н.* Акно сярод дрыгвы. Сухары Гродз.

**АКЛІ́ВА** *н.* Возера. Бершты Шчуч.

**АКО́НЯЧКО** *н.* Возера. Лозкі Шчуч.

**АКУНЁВАЕ** *н.* Возера. Бершты Шчуч.

**АЛЁС** *м.* Балота. Бабіна Гродз.

**АНТ, АНТ О́ЗЯРО** *н.* Возера. Новая Руда Гродз.

**АСО́ЧНІЦКО ВО́ЗЯРО**. Возера. Гліняны Гродз.

**АСТРАЎКІ́** *мн.* Балота. Ліпнікі Шчуч.

**АСТРЫ́НКА** *ж.* Рэчка каля г. п. Астрына. Астрына Шчуч.

**АСТРЫ́НСКО ВО́ЗЯРО**. Возера. Астрына Шчуч.

**АЎСЯ́НІЦА** *ж.* Канава, вада з якой сцякае ў р. Котру. Сухары Гродз.

**БАБА́ЙКІ** *мн.* Балота. Сабаляны Гродз.

**БАБРО́ВА РУ́СЛО**. Частка р. Нявішы. Голеўцы Шчуч.

**БАБРО́ЎНЯ** *ж.* Возера. Скідзель Гродз.

**БА́БСКАЕ** *н.* Месца для купання. Скідзель Гродз.

**БАГО́Н** *м.* Балота. Парэчча Гродз., Бабіна Гродз.

**БАЛАТА́** *мн.* Сенажаць, раней забалочаная, на захад ад в. Замошша. *Натта шмат вады было раней на Балатах.* Замошша Шчуч.

**БАЛО́ТНІКІ** *мн.* Балота. Сухары Гродз.

**БАЛО́ТО** *н.* Балота. Гліняны Гродз.

**БАРСУКІ́** *мн.* Балота. Глушнева Гродз.

**БАШЫ́** *мн.* Балота. Сабаляны Гродз.

**БАЯ́РЫШКА** *ж.* Рэчка, якая выцякае з Берштаўскага возера і ўпадае ў р. Котру. Бершты Шчуч.

**БЕЗЫМЕ́ННАЕ** *н.* Возера. Бершты Гродз.

**БЕ́ЛАЕ** *н.* Возера. Белае Гродз.

**БЕ́ЛАЯ БУ́ДКА**. Месца для купання на возеры. Азёры Гродз.

**БЕ́РШТАЎСКО БАЛО́ТО**. Балота. Новая Руда Гродз.

**БЕ́РШТАЎСКО ВО́ЗЯРО, БЯРШЧА́НСКО ВО́ЗЯРО**. Возера. Бершты Гродз.

**БО́МБА** *ж.* Вадаём у варонцы ад бомбы. Вярхполле Гродз.

**БРАДО́К** *м.* Брод праз балота. Бабіна Гродз.

**БРОД ПАДГРАБЭ́ЛЬСКІ**. Ручай, які злучае балоты Сакоўка і Мікулішкі. Старая Руда Гродз.

**БРЫ́ДКАЯ ВАДА́**. Балота. Парэчча Гродз.

**БУЛАВІ́НА** *ж.* Балота. Лозкі Шчуч.

**БУЛО́ВІНА** *ж.* 1. Канава. Сухары Гродз. 2. Балота. Бабіна Гродз.

**БУ́НЦАВА БАЛО́ТА**. Балота. Астрына Шчуч.

**БЯРВЕ́НКА** *ж.* Невялічкі левы прыток р. Пыранкі. Азёры Гродз.

**ВАДЗЯ́НКА** *ж.* Крыніца. Матылі Шчуч.

**ВАЕ́ННА ТРЫ́БА**. Балота. Аўсяніца Шчуч.

**ВАЙТО́ЎСКА** *ж.* Рэчка. Новая Руда Гродз.

**ВАПНО́** *н.* Месца для купання на р. Котры. Сухары Гродз.

**ВЕ́РАЎСКАЕ, ВЕРАЎСКО́Е** *н.* Возера. *Прыходзілі да нас некія людзі, кажуць, прыехалі на Вераўское, а запалкаў узяць забыліса.* Глушнева Гродз.

**ВЕ́РХІН КАР'ЕР**. Кар'ер, запоўнены вадой. Матылі Шчуч.

**ВІРШ** *м.* Месца для купання на р. Котры. Сухары Гродз.

**ВО́ЗЕРА** *н.* Невялікае возера. *У Возеры можна і рыбы сабе налавіць.* Раманова Шчуч.

**ВО́ЙТАЎ РАВО́К**. Роў. Вялікая Нявіша Шчуч.

**ВОЛЬНАНАЕ́МНА** *ж.* Балота. Вярхполле Гродз.

**ВО́ЛЬШАЧКІ** *мн.* Балота. Кронькі Шчуч.

**ВО́ЎКАВО БАГНО́**. Балота. Лозкі Шчуч.

**ВО́ЎЧЫ БРОД**. Брод. Бабіна Гродз.

**ВУ́ЗКАЕ ВО́ЗЕРА**. Возера. Новая Руда Гродз.

**ВУ́ЧЫРКІ** *мн.* Балота. Сабаляны Гродз.

**ВЫ́СМАЛЫ** *мн.* Балота. Парэчча Гродз.

**ВЫ́СПА** *ж.* Месца, дзе перасохла рэчка. Гліняны Гродз.

**ВЯЛІ́КАЕ БАГНО́**. Балота. Аўсяніца Шчуч.

**ВЯ́ЛЛЯ** *ж.* Рака. Рыбакі Шчуч.

**ГАЙДУКО́Ў ВІР**. Глыбокі ўчастак р. Котры каля вёскі Гайдукі. Падбершты Шчуч.

**ГА́ЛАЕ БАЛОТО́**. Балота. Парэчча Гродз.

**ГЛІ́НЕЦ** *м.* Возера. Бабіна Гродз.

**ГЛІ́НІСКО** *н.* Возера. Новая Руда Гродз.

**ГЛУБО́ЧКА** *ж.* 1. Возера. Новая Руда Гродз. 2. Бераг возера. Дзертніца Гродз.

**ГЛУ́ШНЯЎСКО ВО́ЗЯРО**. Возера. Глушнева Гродз.

**ГЛЫБО́КАЕ** *н.* Месца для купання на р. Котры. Скідзель Гродз.

**ГНІЛЕ́Ц** *м.* Возера. Берšты Гродз.

**ГНІЛО́Е** *н.* Возера. Падбелае Гродз.

**ГРАМКА́ШЧАНКА** *ж.* Рэчка. Прудзяны Шчуч.

**ГРУДЫ́** *мн.* Возера. Берšты Шчуч.

**ГУ́ЛАЧКА** *ж.* Роў. Александрова Гродз.

**ГУ́РСКАВЫЯ ВІРЫ́**. Месца на р. Котры. Сухары Гродз.

**ГУСІ́НЫ БРОД**. Брод. Еўлашы Шчуч.

**ДАЛЬНЯРО́ЎКА** *ж.* Рэчка. Ліпічанка Шчуч.

**ДЗЕРВАНІ́ШКІ** *мн.* Возера. Берšты Гродз.

**ДЗІ́КАЕ** *н.* Возера. Голеўцы Шчуч.

**ДЗІ́НТАВА ВО́ЗЕРА**. Возера. Ліхачы Гродз.

**ДЗІНЯ́ЦКА РЭ́ЧКА**. Рэчка, якая ўпадае ў р. Котру. Сухары Гродз.

**ДО́ЎГАЕ, ДО́ЎГЯНСКО** *н.* Возера. Прыдоўгае Гродз.

**ДО́ЎЖЫЦА** *ж.* Рэчка, прыток р. Спушанкі. Партызанская Гродз.

**ДРАЦІ́ЛІХА** *ж.* Рэчка. Рыскі Шчуч.

**ДРУГІ́ БРОД**. Брод. Бабіна Гродз.

**ДУБ, ДУБ-ВО́ЗЯРО** *н.* Возера. *На Дуп-возеры вада ната ш чыстая, ціпер там сталі ракаў разводзіць.* Запур'е Гродз.

**ДУБАВЕ́Ц** *м.* Частка возера Вераўское. Старая Руда Гродз. *Узоўтра паедзям на Дубавец, трэба на сьвята рыбы налапаць.* Старая Руда Гродз.

**ДУ́БРАЎКА** *ж.* Сажалка. Замасцяны Шчуч.

**ЕЗАВІ́ЦА** *ж.* Рэчка. Дубінка Гродз.

**ЖВІРО́ЎНЯ** *ж.* Сажалка на месцы кар'ера. Пыра Гродз.

**ЖО́ЎТЫЯ ПЯСКІ́**. Брод. Аўсяніца Шчуч.

**ЖЫДО́ЎСКІ ПЛЯЖ**. Месца для купання на в. Малочнае. *Сёння на Жыдоўскум пляжу тыля людзей было, хіба як нігды.* Старая Руда Гродз.

**ЖЫ́ЛА** *ж.* Балота. Падберšты Шчуч.

**ЖЭ́ЧКА** *ж.* Рэчка, прыток р. Котры. Берšты Шчуч.

**ЗАБАГО́ННЕ** *н.* Балота. Парэчча Гродз.

**ЗАБО́РНАЕ ВО́ЗЕРА, ЗАБО́РСКАЕ ВО́ЗЕРА**. Возера. Карашава Гродз.

**ЗАВО́НЬКА** *ж.* 1. Рэчка. Сухары Гродз. 2. Возера. Навасёлкі Гродз.

**ЗАЛАТЫ́ ПЛЯЖ**. Месца для купання на р. Котры. Некрашы Гродз.

**ЗАЛІСКО́ЎШЧЫНА** *ж.* Сажалка. Замошша Шчуч.

**ЗАНЯВІ́ШКА** *ж.* Рэчка. Замасцяны Шчуч.

**ЗА́ЦКАВА** *н.*, **ЗА́ЦКАВА ВО́ЗЕРА**. Возера. Дзертніца Гродз.

**ЗДУ́ХА** *ж.* Балота. Сабаляны Гродз.

**ЗЕЛЬВО́НІСКА** *н.* Возера. Новая Руда Гродз.

**ЗІНЯ́ЦКА РЭ́ЧКА**. Рэчка. Сухары Гродз.

**ЗУ́БРАЎКА** *ж.* Возера. Берšты Гродз.

**ІГНА́ТАЎ ЕЗ**. Запруда на в. Белае. Дзертніца Гродз.

**ІЛЛЮ́ХІНА БАЛО́ТА**. Балота. Скідзель Гродз.

**КАБЕ́ЛЬСКА ВО́ЗЕРА**. Возера. Берšты Шчуч.

**КА́ЛЬНІЦА** *ж.* Возера. Берšты Гродз.

**КАЛЬЦІ́ХА** *ж.* Месца перасохлага ручая. *Застануцца дровы яшчэ адну зіму зімаваць на Кальцісі.* Замошша Шчуч.

**КАЛЮ́ЖЫНА** *ж.* Яма, запоўненая вадой. Сухары Гродз.

**КАЛЯ ІГНА́ТКА**. Месца на р. Котры. Сухары Гродз.

**КАМАРЭ́Ц** *м.* Балота. Дзертніца Гродз.

**КА́МЕНЬ** *м.* Месца для купання на р. Котры. Сухары Гродз.

**КАНА́ВА** *ж.* Канава. Глушнева Гродз., Бабіна Гродз.

**КАНСТАНЦІ́НАЎ ВІР**. Вір. Ліпнікі Шчуч.

**КАНЬ, КАНЬ-ВО́ЗЕРА** Возера. *н. Людзі бачылі, як нат Кань-Возярам нешто сьвяціласо.* Азёры Гродз.

**КАРАЛЕ́ЎСКА КУ́ХНЯ**. Балота. Парэчча Гродз.

**КАРАНА́Я** *ж.* Канава. Сухары Гродз.

**КАРА́НІК** *м.* Балота. Аўсяніца Шчуч.

**КАРП** *м.* Возера. Берšты Гродз.

**КА́РТЫ** *мн.* Канавы. Сухары Гродз.

**КАРЧО́ЎСКА КАНА́ВА**. Канава. Сухары Гродз.

**КАСМА́ТО БАГНО́**. Балота. Ліпнікі Шчуч.

**КАТО́ВА БАЛО́ТЦА**. Балота. Табольская Будка Гродз.

**КІ́ПЕНЬ** *м.* Балота. Раманова Шчуч.

**КО́ПАНІЦКІ БРОД**. Брод. *Калісьці цераз гэты брот было ні праехаць, гэта ціпер тут вадэ німа.* Старая Руда Гродз.

**КО́РАВА** *н.* Возера. Берšты Шчуч.

**КО́СЦЕЎСКІ ВІР**. Глыбокае месца на р. Котры каля вёскі Косцевічы. Берšты Шчуч.

**КО́ТРА** *ж.* Рака, прыток Нёмана. Котра Гродз.

**КО́ТРЫНСКАЯ ЗАТО́КА**. Частка р. Котры. Канюхі Гродз.

**КРА́СЕНСКО БАГНО́**. Балота каля х. Краснае. *Неча карова ў Красянско багно ўваліласа, добро, што хоць выцягнулі.* Старая Руда Гродз.

**КРАСКО́ВА** *н.* Возера. Рыскі Шчуч.

**КРА́СНАЕ** *н.* Балота. Новая Руда Гродз.

**КРУ́ГЛАЕ** *н.* Возера. Берšты Шчуч.

**КРУ́ГЛАЕ, КРУ́ГЛАЕ БАГНО́**. Балота. *Пойдзяш заўтра на кругла багно, бо пакуль зьбярэса, там усе журавуліны павыбіраюць.* Старая Руда Гродз.

**КРУГЛЯ́К** *м.* Балота. Берšты Шчуч.

**КРУЖО́ВІНА** *ж.* Крыніца. Сухары Гродз.

**КРУЛЕ́ЎСКА КУ́ХНЯ**. Рэчка, якая выцякае з в. Малочнае і ўпадае ў Лот-возера, якое знаходзіцца на тэрыторыі Літвы. Старая Руда Гродз.

**КРУ́ПІНСКА КАНА́ВА**. Канава. Сухары Гродз.

**КСЁНДЗАВА** *н.* Возера. Скідзель Гродз.

**КУ́БА** *ж.* Тарфяны кар'ер. Сухары Гродз.

**КУЛІНА, КУЛІНАЎСКА КАНА́ВА**. Канава. Сухары Гродз.

**КУЛІНАЎСКО БАГНО́**. Балота. Дубінка Гродз.

**КУЛЬБА́РКІ** *мн.* Месца для купання на р. Котры. Сухары Гродз.

**КУПА́ЛІШЧА** *н.* Месца для купання на р. Нявішы. Пілаўня Шчуч.

**ЛАКНО́** *н.* Возера. Лакно Гродз.

**ЛАКЯНСКО́Е БАЛО́ТА**. Балота. Лакно Гродз.

**ЛАСЯЎСКО́Е** *н.* Балота. Лосева Гродз.

**ЛАХ** *м.* Балота. Абухава Гродз.

**ЛЕБЯДЗІНАВА** *н.* Балота. Глушнева Гродз.

**ЛЕБЯДЗІНАЕ** *н.* Месца былога возера. *Пэўна, лебядзі тут вялеса, рас возяро было названо Лебядзіная.* Салацце Гродз.

**ЛІНЬКАВА** *ж.* Сажалка. Замасцяны Шчуч.

**ЛІХО́Е ВО́ЗЕРА, ЛІХО́Е** *н.* Возера. *Што за ліхо тут было і чаму возяро Ліхім назвалі, ніхто ні ведая.* Ліхачы Гродз.

**ЛОТ-ВО́ЗЕРА** *н.* Возера. Старая Руда Гродз.

**ЛУПАЧО́Ў ГРУД**. Балота. Глушнева Гродз.

**ЛУ́ЧКА-ХАМЯНЕ́Ц** *м.* Балота. Парэчча Гродз.

**ЛУЧНЁЎСКАЕ** *н.* Возера. Новая Руда Гродз.

**ЛЯВАНЁВА** *ж.* Рэчка. Забагоннікі Гродз.

**ЛЯГУ́ШКІ** *мн.* Балота. Парэчча Гродз.

**ЛЯ́ДАВА КАНА́ВА**. Канава. Сухары Гродз.

**МА́ЛЕЎКА** *ж.* Ручай. Коматава Гродз.

**МАЛО́Е БАГНО́**. Балота. Лозкі Шчуч.

**МАЛО́ЧНАЕ** *н.* Возера. *А вада ў Малочнум вечарам цёпла-цёпла і такая бела, сяраўно як ні вада гэта, а малако.* Парэчча Гродз.

**МА́Р'ІНА ГО́РКА**. Месца для купання на р. Котры. Скідзель Гродз.

**МАРКІШО́ВО АЗЯРКО́**. Невялікае возера. Маркішы Гродз.

**МАРКІШО́ВО БАГНО́**. Балота. Бабіна Гродз.

**МА́РКО** *н.* Бераг ракі. Лозкі Шчуч.

**МАСТАЎЛЯ́НСКІ МОСТ**. Месца для купання на р. Скідлянцы. Сухаўляны Гродз.

**МАТА́РА** *н.* Месца, дзе разліваюцца канавы. Матылі Шчуч.

**МАТА́РА, МАТО́РА** *ж.* Невялікая рэчка. Рыскі Шчуч.

**МАТО́РА** *ж.* Возера. Берішты Шчуч.

**МАШО́НКА** *ж.* Возера. *Кажуць, Машонку так назвалі, бо і возяро гэта падобно нато на мяшок.* Запур'е Гродз.

**МАШТАЛЕ́РЫ** *мн.* Балота. Машталеры Гродз.

**МІГО́ЎСКІ РОЎ**. Роў. Коматава Гродз.

**МІКУ́ЛІШКІ** *мн.* Балота. Старая Руда Гродз.

**МІХАСЁВА БАЛО́ТА**. Балота. Новая Руда Гродз.

**МЛІНЬКІ́** *мн.* Балота. Ліпнікі Шчуч.

**МО́ЖНЕВА** *н.* Возера. Дубінка Гродз.

**МО́ЛЬЗЫКА ВО́ЗЕРА**. Невялікае возера. Партызанская Гродз.

**МО́ЛЬЧЫН РОГ**. Частка берага Берштаўскага возера. Бершты Шчуч.

**МО́СЦІК** *м.* Месца на р. Котры. Сухары Гродз.

**МО́ЧАВІНА** *ж.* 1. Балота. 2. Роў. Мігова Гродз.

**МУЗЫ́КАЎ ВІР**. Вір. Ліпнікі Шчуч.

**МУ́ЦЬВІЦА** *ж.* Роў. Коматава Гродз., Парэчча Гродз.

**МЯДЗВЕ́ЖАЕ БАЛО́ТА**. Балота. Парэчча Гродз.

**НАВАДВО́РКА** *ж.* Рэчка, прыток р. Нявішы. Новы Двор Шчуч.

**НАВАСЕ́ЛЬСКО БАГНО́**. Балота. Сухары Гродз.

**НА ВЫ́ГАНЕ**. Балота. Парэчча Гродз.

**НА КАБІ́НЕ**. Месца для лоўлі рыбы на р. Скідлянцы. Скідзель Гродз.

**НО́ВАЕ БАЛО́ТА**. Балота. Парэчча Гродз.

**НО́ВЫЯ** *мн.* Балота. Парэчча Гродз.

**НО́ЗДРЫ** *мн.* Роў. Сухары Гродз.

**НЯВІ́ША** *ж.* Рэчка, прыток р. Котры. Савічы Шчуч.

**НЯВІ́ШЧА** *н.* Балота. *Нівішча некалі велько было балото, гэта ціпер асушылі, та там вадэ німа.* Старая Руда Гродз.

**НЯЗЯ́НКА** *ж.* Рэчка, прыток р. Нявішы. Падбершты Шчуч.

**НЯМЕ́ЦКІ ГРОНД**. Балота. Ліпнікі Шчуч.

**ПАДБЕ́ЛЯНСКА РЭ́ЧКА**. Ручай. Парэчча Гродз.

**ПАДБЯРО́ЗКА** *ж.* Бераг в. Белае. Дзертніца Гродз.

**ПАДГРАБЭ́ЛЬКА** *ж.* Брод. Парэчча Гродз.

**ПАДКУЛІ́НАВА** *н.* Балота. Дубінка Гродз.

**ПАДПАЛО́НІШЧА** *н.* Бераг в. Белае. Дзертніца Гродз.

**ПАДЧА́ПЛІ** *мн.* Бераг в. Белае. Дзертніца Гродз.

**ПАСТАЎНІЧО́К** *м.* Балота. Жытомля Гродз.

**ПЕРАБРО́Д** *м.* Мелкае месца на р. Котры. Сухары Гродз.

**ПЕРАКО́П** *м.* Частка берага р. Котры. Аўсяніца Шчуч.

**ПЕ́РШЫ БРОД**. Брод. Бабіна Гродз.

**ПІРС** *м.* Месца для купання на в. Малочнае. *Чаво ты нас на тым беразі шукоў. Мы на Пірсі былі.* Парэчча Гродз.

**ПО́ЛЯНЕ** *н.* Балота. Вярхполле Гродз.

**ПРЫ́СТАНЬКА** *ж.* Бераг в. Белае. Дзертніца Гродз.

**ПУ́ХАЎКА** *ж.* Возера. Лозкі Шчуч.

**ПУ́ЦІСКА** *ж.* Рэчка, прыток р. Нявішы. Падбершты Шчуч.

**ПЫРА́НКА** *ж.* Рэчка, прыток р. Котры. Пыра Гродз.

**РАВО́К** *м.* Перасохлы ручай. *За раўком маланкай ліпу зваліло, добро, што хоць нічово ні загарэласо.* Старая Руда Гродз.

**РАДУ́ЦІШКА** *ж.* Бераг возера. Лозкі Шчуч.

**РАЖКО́ЎСКО ВО́ЗЕРА**. Возера. Сухары Гродз.

**РАЖО́К** *м.* Возера. Сухары Гродз.

**РА́ЙСТА** *н.* Балота. Матылі Шчуч.

**РАМА́Н, РАМА́Н-ВО́ЗЕРА** *н.* Возера. *Раней каля Рамана ўночы баяліса праяжджаць ці праходзіць, кажуць, там нешто страшыло.* Хамуты Гродз.

**РАЎЧА́К** *м.* Роў. Бабіна Гродз.

**РО́ЙСТА** *ж.* Рэчка. Сухаўляны Гродз.

**РУ́СІНА БАЛО́ТА**. Балота. Філявічы Шчуч.
**РУ́СКІ ВІР**. Вір на р. Котры. Сухары Гродз.
**РЫБА́ЦКО ВО́ЗЕРА**. Возера. Сухары Гродз.
**РЫ́Б'Е** *н.* Возера. Саволеўка Гродз.
**РЫ́БНАЕ** *н.* Возера. Курпікі Гродз.
**РЫ́БНІЦА** *ж.* Возера. Рыбніца Гродз.
**РЫЖДО́Р** *м.* Востраў на р. Котры. Коматава Гродз.
**РЫ́ЧА** *ж.* Рэчка, прыток р. Котры. Бершты Шчуч.
**РЭ́ЧКІ** *мн.* Ручай. Абухава Гродз.
**САКО́ЎКА** *ж.* Балота. Старая Руда Гродз.
**САЛАМЯ́НКА** *ж.* Рэчка. Новая Руда Гродз.
**САЛА́ЦКАЕ АЗЯРЫ́ШЧА**. Дно возера, якое сплыло ў 1841 годзе. Салацце Гродз.
**САЛА́ЦКАЕ ВО́ЗЕРА**. Возера. Салацце Гродз.
**САРО́ЧА** *н.* Возера. Бершты Гродз.
**САРО́ЧАЕ БАЛО́ТА**. Балота. Парэчча Гродз.
**САСНО́ВАЕ** *н.* Возера. Бершты Гродз.
**СВЯТО́Е БАЛО́ТА**. Балота. Дубінка Гродз.
**СЕРАБРА́НКА** *ж.* Рэчка. Старая Руда Гродз.
**СІНІ́ЧКІНА** *н.* Месца для купання на р. Скідлянцы. Скідзель Гродз.
**СІРО́ЧАЕ ВО́ЗЕРА, СІРО́ЧА, СІРО́ТЦО** *н.* Возера каля вёскі Глушнева. Глушнева Гродз.
**СКАРБЕ́НКА** *ж.* Рэчка. Скарбы Шчуч.
**СКІ́ДАЛЬКА, СКІ́ДАЛІЦА, СКІДАЛЯ́НКА, СКІДЛЯ́НКА** *ж.* Рэчка, прыток р. Котры. Скідзель Гродз.
**СКІ́ДЗЕЛЬСКАЕ ВО́ЗЕРА**. Возера. Сухаўляны Гродз.
**СПУША́НКА** *ж.* Рэчка, прыток р. Скідалькі. Скідзель Гродз.
**СТА́ВІСКА** *н.* Месца для купання на р. Нявішы. Амбілеўцы Шчуч.
**СТА́ВЫ** *мн.* Возера. Скідзель Гродз.
**СТАРО́Е БАЛО́ТА**. Балота. Парэчча Гродз.
**СТРЫЕЎЛЯ́НКА** *ж.* Канава. Стрыеўка Гродз.
**СТРЭ́ЛКА** *ж.* Канава. Бабіна Гродз., Сухары Гродз.
**СУБО́ТНАЕ, СУБО́ТНЕ ВО́ЗЕРА, СУБО́ТНЁ** *н.* Возера. Сухары Гродз.
**СУХА́РСКАЕ** *н.* Возера. Сухары Гродз.
**СУХАЎМЕ́НСКАЕ БАЛО́ТА**. Балота. Гліняны Гродз.
**СЦЮ́РАЎКА** *ж.* Возера. Лозкі Шчуч.
**СЯДЗІ́ЛІШЧА** *н.* Балота. Доўгае Шчуч.
**СЯРЭ́ДНЯЕ** *н.* Балота. Абухава Гродз.
**ТАПІ́ЛІХА** *ж.* Балота. Сухары Гродз.
**ТАПЛЕ́НІШЧА** *н.* Дрыгва, топкае месца. Сухары Гродз.
**ТАПЛЁННІК** *м.* Дрыгвяністае месца каля р. Котры. Сухары Гродз.
**ТАРА́САВА БАЛО́ТА**. Балота каля вёскі Рыскі Гродзенскага раёна. Рыскі Гродз.
**ТАРФЯ́НІКІ** *мн.* Сажалка. Забалоцце Гродз.
**УВЫ́ГАН** *м.* Балота. Парэчча Гродз.
**У́ЛА** *ж.* Рэчка. Юшкаўцы Шчуч.
**ФРАНЦІ́ШКАВА БАГНО́**. Балота. Бабіна Гродз.
**ХАМУТО́ЎКА** *ж.* Рэчка. Хамуты Гродз.
**ХАНЕ́ВІЧАВА ЖЫ́ЛА**. Балота. Лозкі Шчуч.
**ЦЭНТРА́ЛЬНАЯ** *ж.* Канава. Бянькі Шчуч.
**ЧАПКЕ́ЛІ** *мн.* Балота. Ліпнікі Шчуч.
**ЧАРЛЁНКА** *ж.* Балота. Парэчча Гродз.
**ЧАРНУ́ХА** *ж.* Месца перасохлай рэчкі. Пыра Гродз.
**ЧАРЭ́МЕСЛЕВА** *н.* Месца для купання. Азёры Гродз.
**ЧО́РНАЕ** *н.* Возера. Дзертніца Гродз.
**ЧО́РНАЕ АЗЯРКО́**. Возера. Рыскі Шчуч.
**ЧО́РНАЕ ВО́ЗЕРА**. Возера. Ліпнікі Шчуч.
**ЧО́РТАВА АЗЯРКО́**. Возера. Бабіна Гродз.
**ЧО́РТАВА БАЛО́ТА**. Балота. Глушнева Гродз.
**ЧО́РТАВА КУ́ДРА**. Частка балота. Прыдоўгае Шчуч.
**ЧЫЖО́ЎКА** *ж.* Возера. *Братэ паехалі на Чыжоўку качак страляць, а да іх тут чалавек прышоў, нечава папрасіць хоча.* Парэчча Гродз.
**ЧЭ́РНЯ** *ж.* Рэчка – прыток ракі Котра. Скарбы Шчуч.
**ША́ПКІ** *мн.* Балота. Парэчча Гродз.
**ШВЭ́ДАЎ ВІР**. Мясціна на р. Котры. Аўсяніца Шчуч.
**ШЧУ́КА** *ж.* Возера. Бершты Гродз.
**ШЧУЦІ́НСКА КАНА́ВА**. Канава. Сухары Гродз.
**ШЧУ́ЧА** *н.* Возера. Бабіна Гродз.
**ШЫМАНО́Ў АСТРАВО́К**. Востраў на р. Котры. Коматава Гродз.
**ШЫМАНО́Ў РОЎ**. Канава. Коматава Гродз.
**ШЫРО́КО БАЛО́ТА**. Балота. Сухары Гродз.
**ШЫРЫНА́** *ж.* Балота. Аўсяніца Шчуч.
**ШЭ́ЙПІНО** *н.* Балота. Абухава Гродз.
**Ю́СТАНА** *ж.* Сажалка. Скідзель Гродз.
**ЯЗЫ́** *мн.* Пачатак в. Салацкае. Салацце Гродз.
**Я́МА** *ж.* Вір. Аўсяніца Шчуч.
**Я́МКА** *ж.* Месца для купання на р. Скарбянцы. Дудкі Шчуч.
**ЯЎРЭ́ЙСКІ БЕ́РАГ**. Частка берага в. Малочнае. Парэчча Гродз.
**ЯЧМЕ́НКА** *ж.* Возера. Бершты Гродз.

### Скарачэнні

в. – возера, х. – хутар.

*С. П. Кусянкова*

## З ТАПАНІМІІ ВЁСКІ ЛУЧЫН РАГАЧОЎСКАГА РАЁНА

Лучын – адно з найстаражытнейшых паселішчаў на тэрыторыі Беларусі. Упершыню яго назва ўзгадваецца ў летапісных крыніцах (у Грамаце смаленскага князя Расціслава Смаленскага ад 1136 г.), аднак паводле вынікаў археалагічных раскопак людзі пасяліліся тут звыш 7 тыс. гадоў да н. э. У 15 ст. Лучын належаў да тых гарадоў ВКЛ, якія мелі права браць мыту за правоз тавараў па Дняпры. З канца 19 ст. Лучын з'яўляецца сялом Рагачоўскага павета Магілёўскай губерні. Сёння гэта вёска Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці.

Жыццё на вялікай рацэ – Дняпры – прадвызначыла шматлікія падзеі, што адбываліся ў гісторыі Лучына. Яны, як напамін, адлюстраваліся ў трапных назвах мясцовых краявідаў. Найменні гэтыя і сёння жывуць у памяці лучынцаў.

### *Назвы мясцін, размешчаных уздоўж цячэння Дняпра ў ваколіцах Лучына*

**АХВО́СЦЕ** *н.* Затокі, якія адыходзяць ад Дняпра. Пайсці *ў Ахвосце.*

**ВО́ЙСТРАЯ** *ж.* Мясціна, дзе Днепр робіць рэзкі, на 180 °, ці востры паварот на поўнач, потым зноў паварочваецца на 180 ° на поўдзень. Пайсці *ў Войструю.*

**ГЛІ́НКА** *ж.* 1. Бераг Дняпра. 2. Невялікае возера. Пайсці *ў Глінку.* Магчыма, назва звязана з гліністай мясцінай. У час археалагічных раскопак якраз тут былі знойдзены прадметы побытавага ўжытку, зробленыя з гліны.

**ДО́БРАЕ** *н.* Возера. Пайсці *на Добрае.*

**ЖАРАЛО́** *н.* Водная пратока, якая злучае азёры Падсёл і Добрае з Дняпром. Пайсці ў *Жарало.*

**КА́МЕННАЕ** *н.* Возера, размешчанае ў раёне Прылаконня па левым беразе Дняпра. Пайсці *ў Каменнае.*

**ПАДСЁЛ** *м.* Возера пад сялом. Пайсці *ў Падсёл.*

**ПРЫЛАКО́ННЕ** *н.* Месца на Дняпры, цэнтр вылучыны – месца, дзе Днепр выгінаецца ў форме лука (дугі). Пайсці *на Прылаконне.*

**СКАЛА́** *ж.* Месца, дзе выяўляюцца падобныя да скальных замацаванні. Пайсці *на Скалу.*

**УВІ́ЧЧА** *н.* Месца, дзе Днепр робіць паварот на 95 °, утвараючы вылучыны, увіваецца. Пайсці *ва Увічча.*

**УСТУ́П** *м.* Мясціна, дзе Днепр пасля *Войстрай* уступае ў новае рэчышча. Пайсці *на Уступ.*

### *Назвы невялікіх водных крыніц і прылеглых да іх мясцін, размешчаных у пойме Дняпра*

**АКО́ШНАЕ** *н.* Месца ля возера, якое можна было абкасіць да самай вады.

**БРОД** *м.* Крыніца. Першая на шляху да лугу, якую трэба перабрысці, каб трапіць туды.

**БЫСТРЭ́Ц** *м.* Працяглая водная артэрыя з быстрай вадой.

**ВЫ́ГАР** *м.* Невялікая крыніца.

**ГЛУХАВО́Д** *м.* Крыніца, якая раней не злучалася з іншымі крыніцамі і не мела ў адрозненне ад іх воднага падсілкавання. Сёння яна высахла, засталася адна толькі ўпадзіна.

**ГЛЫБО́КІ ЛОГ**. Нізкая, глыбокая мясціна.

**КАЛДАБА́НЯ** *ж.* Азярына.

**КРУ́ГЛАЯ ЛАЗА́**. Мелкае азярцо круглай формы, пасярэдзіне якога кругам расце лаза.

**МЕЖАСТРО́ЎЕ** *н.* Крыніца.

**МУРАЧО́ЎКА** *ж.* Частка старарэрышча Дняпра.

**ПАПО́Ў ЛОГ**. Возера.

**ПРО́РВА** *ж.* Невялікая, але з вельмі глыбокімі ўпадзінамі крыніца, працяг старарэрышча Дняпра.

**РАЗЛА́ДДЗЕ, РАЗЛА́ДЗІСТАЕ** *н.* Возера.

**СО́САНКА** *ж.* Частка старарэрышча Дняпра.

### *Назвы мясцін (лугоў), размешчаных у пойме Дняпра*

**ВЫ́ЛАЗАК** *м.* Невялікі луг паміж лазы.

**ГУСІ́НЫ ВО́СТРАЎ**. Месца выпасу гусей.

**ДЗЕ́ВІЧАК** *м.* Месца, дзе дзяўчаты выбельвалі льняныя палотны.

**ЕРЫ́ШНІКАВА, ЯРЫ́ШНІКАВА** *н.* Луг пад ярам.

**ЗАВО́ДНАЕ** *н.* Луг за ракой.

**СЕ́ЛЬСКІ ВО́СТРАЎ**. Мясціна, востраў, з двух бакоў акружаны Дняпром, з двух – лазой. На месцы лазняку некалі была пратока.

*Назвы лясных мясцін*

**КАРА́БІШЧА** *н.* Мясціна, побач з якой было балота.

**МАЛАДЗЕ́НЬКАЕ** *н.* Мясціна, на якой расце малады бярозавы гай, пасаджаны замест старога.

**МАШКІ́** *мн.* Мясціна, дзе бралі мох.

**УЗВА́ЛЛЕ** *н.* Града ўзгоркаў.

*Назвы палёў і няўдобіц*

**АЛЁС** *м.* Балоцістая мясціна, парослая альхой.

**БАЛО́ННЕ** *н.* Прырэчныя мясціны, не прыдатныя для сенакосу праз балоцістасць; часткова выган.

**ЖУРАЎЛЁВА ГАРА́**. Узвышанае поле.

**ІВА́НСКІЯ** *мн.* Землі, сярод гаспадароў якіх было многа Іванаў.

**КО́ЎЗАЛКІ** *мн.* Поле са схілам, па якім цяжка было падымацца ўверх.

**МЯДЗВЕ́ДДЖА** *н.*, **МЯДЗВЕ́ДДЖЫ ЛОГ**. Распрацаванае поле (ляда) сярод лесапасадак.

**ЦАГЕ́ЛЬНЯ** *ж.* Мясціна на месцы цаглянага завода.

**ЧЭ́РНЯ** *ж.* Балацянка з асаблівым чорным ілам, у якім замочвалі бялізну для фарбавання.

*Назвы частак вёскі, мясцін у вёсцы*

**ГАРА́** *ж.* Вуліца, размешчаная на высокім беразе Дняпра, ці, па мясцовых уяўленнях, на гары. Вышыня ўзвышанасці над узроўнем Дняпра складае каля 15 метраў.

**ГАРАДО́К** *м.* Месца на павароце Дняпра пад прамым вуглом ад *Гары*. Тут, як і на *Гары*, некалі былі крэпасці і мытныя станцыі.

**ЗАРО́ЎШЧЫНА** *ж.* Вуліца, якая знаходзіцца за ровам.

**КО́НЦЫ** *мн.* Месца, дзе заканчваецца вёска.

**ПАДНІ́ЗЗЕ** *н.* Вуліца, размешчаная ў месцы, дзе адбываецца рэзкі спад да поймы Дняпра. Гэта частка вёскі (само паселішча знаходзіцца на ўзвышшы) адносна іншай яе тэрыторыі месціцца пад нізам.

**ПАПО́ВА ГАРА́**. Месца, дзе некалі быў папоўскі падворак, які размяшчаўся на ўзвышанасці, каля *Гары*.

**РАСТА́НЬКІ** *мн.* Месца скрыжавання мясцовых вуліц *Шляха* і *Слабады*. Тут звычайна развітваліся, ці па-мясцоваму «*раставаліся*», людзі, праводзячы каго-н. у дарогу.

**СЛАБАДА́** *ж.* Вуліца, якая злучала *Шлях* і *Сяло*, па ёй адбываўся найбольш значны мясцовы рух.

**СЯЛО́** *н.* Вуліца, прылеглая да былой царквы.

**ФЁДАРАЎКА** *ж.* Вуліца, на якой жылі вяскоўцы, многія з якіх насілі імя Фёдар.

**ЦАРКО́ЎЕ** *н.* Месца, дзе стаяла царква.

**ШЛЯХ** *м.* Вуліца, якая выводзіла на дарогу ў Рагачоў і Жлобін.

*Назвы дарог*

**ЗА́БАЛАЦКАЯ** *ж.* Дарога на Забалацце, суседнюю з Лучынам вёску.

**МЯДЗВЕ́ДСКАЯ** *ж.* Дарога на ляда пад назвай *Мядзведджа.*

**ПРАГО́Н** *м.* Дарога, вядомая таксама пад назвай *Забалацкая*, па ёй ганялі жывёлу на пашу на балота.

**СЦЕНАВА́Я, СТАНАВА́Я** *ж.* Дарога для прагону кароў на стан.

*Н. Ф. Патапава*

## З МЯСЦОВЫХ НАЙМЕННЯЎ ВАКОЛІЦ ВЁСКІ ПАЛЕССЕ
**(Чачэрскі раён Гомельскай вобласці)**

*Назвы лясных мясцін, балот, лугоў, палёў і няўдобіц*

**АРУДЗІ́ЙНАЕ БАЛО́ТА**. Назва такая за балотам замацавалася з часоў Вялікай Айчыннай вайны. У гэтым балоце ўтапіўся танк.

**АСІНА́ВАЯ КАНА́ВА**. Канава, паабапал якой калісьці расло шмат асін.

**АСІ́НАВЫ ЛЯСО́К**. Лясная мясціна.

**БАРСУКО́ЎСКАЯ ГАРА́**. Узвышаная мясціна (*гара* па ўяўленні вяскоўцаў), якая знаходзіцца побач з пасёлкам Барсукі.

**БЕ́ЛЬГА** *ж.* Луг. Раней у вёсцы жыў род Белюганавых (вясковая мянушка), якія распрацавалі гэтыя землі пад луг.

**БУ́СЛАВА ГАРА́**. Узвышаная мясціна (вясковыя могілкі ў в. Балсуны), побач з якой было падвор'е Райковага Змітрака, вядомага ў вёсцы пад мянушкай Бусел. Гара ля яго падвор'я стала Буславай.

**ВАЎКАРЭ́ЗІНА** *ж.* Лугавая мясціна, на якой было шмат кустоў, дзе ваўкі часта рэзалі свойскую жывёлу.

**ВУ́ЗКАЯ ГРАНІ́ЦА**. Вырубка ў лесе даўжынёй у некалькі кіламетраў і шырынёй у 1–2 метры. Вяскоўцы, ідучы па ягады, гавораць: «*Пойдзем за Вузкую граніцу*».

**ВЫ́ГАР** *м.* Луг на тарфяной мясціне, дзе адбыўся пажар.

**ВЯЛІ́КАЕ ПО́ЛЕ**. Поле вялікіх памераў, якое знаходзіцца за пасёлкам Палам.

**ГА́ЛЬНАЕ БАЛО́ТА**. Вялікае па памерах, але з рэдкай расліннасцю балота.

**ГАРБУЗО́ЎШЧЫНА** *н.* Мясціна ў лесе, якую выкарчавалі вяскоўцы па прозвішчы Гарбузавы. Зараз на гэтым месцы расце лес, але завецца ён па-старому – Гарбузоўшчына.

**ГАРЭ́ЛІКІ** *мн.* Луг, размешчаны на пагорку. На ім у спякотнае надвор'е выгарае трава.

**ДЗЯ́ТЛАВА ПАЛЯ́НА**. Мясціна ў лесе за пасёлкам Камунар. Калісьці яе распрацавалі і засявалі Дзятлавы (вясковая мянушка).

**ДЗЯ́КАВЫ ЛУГ**. Верагодна, гэта культавае месца, вядомае надзвычай даўно.

**ДУБНІКІ́** *мн.* Луг за вёскай Балсуны паміж зніклымі пасёлкамі Палам і Машчонае. На ім раслі маладыя дубкі, кусты.

**Е́ЛЬНІКІ** *мн.* Мясціна ў лесе, дзе расце шмат елак.

**ЖАЎРО́НКІ** *мн.* Мясціна ў лесе, дзе вадзілася шмат птушак.

**ЖУРАЎКО́ВА БАЛО́ТА**. Мясціна, дзе вадзілася шмат жураўлёў.

**ЗА́ВАДНІШЧЫ** *мн.* Мясціна ў лесе.

**ЗАГАРО́ДКА** *ж.* Луг. З аднаго боку яго працякае Каўпіта, з іншых – знаходзяцца агароды вяскоўцаў, таму луг як бы агароджаны з усіх бакоў.

**ЗУ́БАРАЎ ЛОГ**. Луг, названы па прозвішчы чалавека, які жыў побач з ім.

**КАЗЁННАЕ** *н.* Мясціны ў лесе, якія належалі або пану, або лесніку, або дзяржаве.

**КАЛЕ́НЧЫХА** *ж.* Луг, распрацаваны родам Каленчыкавых.

**КАЛО́ДЗЕЖАК** *м.* Луг ля ракі Каўпіты. Калісьці там стаялі гумны і быў выкапаны калодзеж.

**КАМЯНЬКІ́** *мн.* Луг за в. Палессе. Глеба на ім усыпана мноствам невялікіх каменьчыкаў.

**КА́РЛІКАВА РО́ШЧА.** Мясціна, якую распрацоўвалі Карлікавы (мясцовая мянушка).

**КЛА́ДКІ** *мн.* Луг паміж в. Палессе і п. Камунар. На ім шмат топкіх мясцін, і, каб прайсці праз іх, людзі клалі кладкі.

**КЛЕ́ТКІ** *мн.* Луг. Атрымаў сваю назву пасля меліярацыі мясцовасці, калі ён быў перарыты меліярацыйнымі канавамі прамавугольнай формы.

**КЛІН** *м.* Назва лесу, размешчанага каля вёскі, які мае форму кліна.

**КЛЯ́ПІН** *м.* Луг, назва яго пайшла ад зніклай вёскі Кляпін.

**КО́ЧКАЎ КУРГА́Н**. Луг. Назва пайшла па прозвішчы гаспадароў, якім ён належаў – Кочкавых (мясцовая мянушка).

**КРА́СНІЦА** *ж.* Луг за вёскай Балсуны. На ім здабывалі чырвоную, ці *красную*, гліну для мясцовай цагельні.

**КРУ́ГЛЕНЬКАЕ** *н.* Луг у лесе, які мае круглую форму.

**КУРГА́ННЕ** *н.* Месца на паўночны захад ад пасёлка Заруцча, каля дарогі на в. Выдранка. Там знаходзяцца 12 курганоў вышынёй ад 0,7 да 2 м, дыяметрам ад 6 да 10 м. Іх адкрыў і даследаваў у канцы XIX ст. Е. Р. Раманаў.

**ЛАЖО́К** *м.* Невялікі луг па дарозе на пасёлак Палам.

**ЛА́СІНКА** *ж.* Луг мясцовага калгаса побач з вёскай Ласінка Краснагорскага раёна Бранскай вобласці[1].

**ЛЫСУ́ХА** *ж.* Узвышаная мясціна, на якой вельмі пясчаная глеба і мала расліннасці.

**МЕ́ЛЬНЫ ВІР**. Месца, дзе выкопвалі, здабывалі мел.

**ПАДЛІ́ПКІ** *мн.* Мясціна ў лесе, дзе расце шмат ліп.

**ПАЛО́МЫ** *мн.* Лясная глухая мясціна, дзе не праводзяцца вырубкі.

**ПАПО́ЎШЧЫНА** *ж.* Месца ў в. Палессе, дзе жылі царкоўныя служкі і дзе знаходзяцца іх могілкі.

**ПО́ЖНІ** *мн.* Луг паўз рэчку Каўпіту, які залівaецца вадой пры паводцы.

**РА́КАЎ** *м.* Луг, па ім працякае рака Каўпіта, дзе вяскоўцы раней лавілі шмат ракаў.

**РУДНІ́ЦКІЯ ЛЯ́ДЫ**. Мясціны ў лесе, былыя ляды, якія знаходзяцца па дарозе ў вёску Рудня-Барталамееўка.

**РЫ́ХЛІЦА** *ж.* Узвышаная мясціна (гара ў мясцовым разуменні), з рыхлай пясчанай глебай, на якой расце пераважна хвошч.

**САМУСЕ́ЎШЧЫНА** *ж.* Мясціна, ачышчаная ад лесу і кустоў сям'ёй Самусевых для сенакосу.

**СЦЯПА́НЬКАЎ ЛУГ**. Мясціна, якая знаходзіцца ў канцы агарода, гаспадаром якога некалі быў дзед Сцяпан.

**ТАРФЯ́НАЕ БАЛО́ТА**. Месца, дзе даўней здабывалі торф.

**ТО́ПКАЕ БАЛО́ТА**. Гіблае, дрыгвяністае месца.

**УБО́РАК** *м.* Асвоены пад поле лес, дзе рос бор.

**УСО́ВЕЦКАЕ** *н.* Мясціна ў лесе, на якой стаяла вартавая вежа лясніцтва і альтанка для адпачынку людзей.

---

[1] Вёска Палессе Чачэрскага раёна знаходзіцца на сумежжы Беларусі і Расіі. Тут праходзіць дзяржаўная мяжа паміж Гомельскай і Бранскай абласцямі.

**ХІМЛЁЎШЧЫНА** *ж.* Мясціна ў лесе каля ручая Хімліву.

**ЧА́ПЛІНА** *н.* Луг, на якім шмат азярын, балот, балацянак, таму вядуцца чаплі.

**ШЫ́КАВА ДУБРО́ВА**. Мясціна ў лесе, якую некалі раскарчавала сям'я Шыкавых. Зараз гэта невялікае калгаснае поле.

*Назвы розных водных аб'ектаў і мясцін, прылеглых да іх*

**БРАЗКУ́ЧЫ РУЧА́Й**. Ручай, які мае камяністае дно з мноствам крыніц. Крыніцы вымываюць ямачкі і здалёк чуваць, як бяжыць вада.

**БЫ́КАЎ ВІР**. Месца для купання каля вёскі Балсуны.

**ГАРАДО́К** *м.* Мясціна за пасёлкам Камунар каля ракі Покаць. Раней там жылі людзі, жыллё іх было абкопана канавамі.

**ДЗЯДО́ЎСКІ ВІР**. Месца для купання, куды не пускалі малых дзяцей.

**ЖУ́КАЎКА** *ж.*, **ЖУ́КАЎСКІ РУЧА́Й**. Ручай. Глеба вакол яго чорная, як колер жука.

**ЖЫ́РЫКАВА КРЫНІ́ЦА**. Крыніца, пра якую дбаў некалі вясковец Жырык Лёша.

**ЗА́ВАНЬ** *ж.* Мясціна на рацэ, дзе ціхая вада.

**КАМЯНІ́СТЫ ВІР**. Месца для купання, з камяністым дном.

**КАРЧО́ЎСКІ РУЧА́Й**. Ручай. Побач з ручаём раскарчоўвалі кусты пад луг, таму ён стаў называцца Карчоўскі.

**МАЛЕ́НЬКІ ВІР**. Месца для купання маленькіх дзяцей.

**МІ́НЧЫКАВА КРЫНІ́ЦА**. Крыніца, якая знаходзілася побач з падвор'ем Мінчыкавых, царквой.

**МЫШЫ́НАЯ РЭ́ЧКА**. 1. Невялікая рачулка, як мыш, малая. 2. Луг каля рачулкі Мышыная рэчка.

**ПА́НСКАЯ** *ж.* Крыніца, знаходзілася на двары Палескага лясніцтва, ляснічы забараняў сялянам браць з яе ваду.

**ПАПО́ЎСКІ ВІР**. Месца, дзе звычайна купаліся папы.

**ПАРНЯ́ЎКА** *ж.* Ручай, які даглядаў, рабіў праз яго масток малады вясковец (*паранёк*).

**ПЕРАГО́Н** *м.* Месца на рацэ, дзе пераганяюць скаціну.

**ПРО́РВА** *ж.* Невялікае возера каля в. Балсуны. Гавораць, што ў гэтым месцы калісьці правалілася царква.

**ПРОРВЕ́НСКІ РУЧА́Й**. Ручай, які ўпадае ў Прорву.

**ПРУДО́К** *м.* 1. Мясціна ў лесе, а таксама луг, размешчаны паабапал берагоў лясной рачулкі. 2. Невялікая лясная рачулка. Раней на ёй рабілі запруды, лавілі рыбу.

**СА́ЎКАЎ ВІР**. Месца для купання, побач з сялібай Саўкавых.

**СІ́ВАЯ КРЫНІ́ЦА**. Некалі вялікая крыніца з вадой мутнавата-белага (сівага) колеру.

**СІРАКО́ВА КРЫНІ́ЦА**. Крыніца, якую даглядаў дзед па мянушцы Сірак (пры паводцы заўсёды затапляецца).

**СУХІ́ РУЧА́Й**. 1. Ручай, які бяжыць да ракі Каўпіты. У спякотнае лета ён перасыхае. 2. Мясціна, дзе бяжыць Сухі ручай.

**ХІМЛІ́ВА** *н.*, **ХІМЛІ́ЎСКІ**. Ручай, які ўпадае ў Каўпіту.

**ХЛО́ПЯЧЫ ВІР**. Месца для купання дзяцей, дзе купаліся толькі хлопчыкі, дзяўчынак не пускалі.

**ШЫРО́КАЕ** *н.* 1. Месца для купання. 2. Шырокае поле.

*Назвы частак вёскі, мясцін у вёсцы*

**АЛЬХО́ЎКА** *ж.* Вуліца, якая атрымала назву па зніклым пасёлку Палам, у якім расло шмат алешын.

**ВЕРАБ'ЁЎКА** *ж.* Вуліца ў в. Палессе. Калісьці на гэтай вуліцы было некалькі хат, а поле побач з вуліцай засявалі просам. Вераб'і спусташалі пасевы, і людзі называлі поле Вераб'ёўка. Калі пачалі будавацца на гэтым месцы, назва засталася ранейшая.

**ЖУ́КАЎКА** *ж.* Вуліца, размешчаная каля Жукаўскага ручая.

**КАПУ́СНІК** *м.* Вуліца, якая знаходзіцца за Жукаўкай.

**КАРМА́** *ж.* Крайняя вуліца ў в. Балсуны, па якой ганялі на пашу коней, кароў.

**КАЦЯРЫ́НІНСКІ ШЛЯХ**. Дарога ля вёскі, па якой калісьці праязджала Кацярына ІІ. У мінулым шлях быў з абодвух бакоў прыгожа абсаджаны бярозкамі, частка з іх захавалася і зараз.

**КАЧАРГА́** *ж.* Мясцовая назва вуліцы ў в. Балсуны. Сваёй формай яна нагадвае гэты прадмет хатняга ўжытку.

**ЛАЗО́ЎКА** *ж.*, **ЛАЗО́ВЫ КУСТ**. Вуліца ў в. Палессе. Раней на ёй стаяла пяць хат. За іх агародамі былі вялікае балота і лазовыя кусты. Потым кусты высеклі, балота спусцілі ў глыбокую канаву.

**МАКА́РАВА ВУ́ЛКА**. Перавулак, які злучае вуліцы Капуснік і Качаргу.

**ПАЛЁЎКА** *ж.* Вуліца ў зніклым пасёлку Палам. Будаваліся пасялкоўцы сярод поля.

**СЛАБАДА́** *ж.* Вуліца ў вёсцы Балсуны. Першапачаткова на ёй свабодна, дзе хацелі, будаваліся людзі. Яе афіцыйная назва цяпер Калгасная.

**СЯЛО́** *н.* Цэнтральная частка сучаснай Калгаснай вуліцы.

**ХО́МКАВА ВУ́ЛАЧКА**. Невялічкая вуліца ў в. Балсуны, названая ў гонар сям'і Хомкавых (мясцовая мянушка).

*Ж. С. Сіпліценя*

## АГРАОНІМЫ ВЕРЦЯЛІШКАЎСКАГА СЕЛЬСКАГА САВЕТА

Тэрыторыя Верцялішкаўскага сельскага савета размешчана на паўночным усходзе Гродзенскай вобласці. А гэта, як вядома, адна з частак рэгіёна, дзе кантактуюць розныя этнасы, якія ўзаемадзейнічаюць у адзіным сацыякультурным працэсе. Таму, зразумела, што вынікі такога ўзаемадзеяння знаходзяць сваё адлюстраванне і ў матэрыяльнай культуры насельніцтва сельскага савета, і ў духоўным жыцці, у тым ліку і ў мове.

Асноўны масіў навакольных вёсак (а іх у складзе сельсавета налічваецца 31; праўда, у двух, паводле апошніх звестак, ужо не зарэгістравана пастаянных жыхароў, а ў 10 вёсках жывуць у пераважнай большасці толькі людзі старэйшага, непрацаздольнага ўзросту) шчыльна групуецца вакол аднаго з найстаражытнейшых у Гродзенскім раёне населеных пунктаў – вёскі Верцялішкі, гісторыя якой звязана з імёнамі Аляксандра Неўскага і Давыда Гарадзенскага.

Галоўным заняткам жыхароў Верцялішак і прылеглых да вёскі тэрыторый спрадвеку было земляробства. Развіццю гэтага віду дзейнасці садзейнічалі спрыяльныя прыродна-геаграфічныя ўмовы, адносна нядрэнная ўрадлівасць глебаў. Рэльеф мясцовасці ўзгорыста-раўнінны. У мінулым адкрытыя раўнінныя тэрыторыі змяняліся нізкімі балоцістымі мясцінамі, зараснікамі, кустоўем. Але ўжо ў савецкі час у сувязі з правядзеннем меліярацыйных работ навакольны ландшафт істотна змяніўся. Шмат якія балоты былі асушаны і ператвораны ў сенажаці, палі, пашы. Былыя ўзгоркі распрацоўваліся пад ворыўныя землі для вырошчвання зерневых культур, бульбы, буракоў. Мясціны, зарослыя хмызнякамі, кустоўем, высякаліся і з цягам часу таксама сталі выкарыстоўвацца пад ворыва. Усё згаданае вышэй знайшло адлюстраванне ў багатай сістэме мікратапанімічных назваў Верцялішкаўскага сельсавета, і найперш – у катэгорыі гэтак званых аграонімаў.

Асноўнымі крыніцамі ўзнікнення аграонімаў вёскі Верцялішкі і яе ваколіцаў з'яўляюцца ўласныя імёны і апелятывы. Так, значную частку аграонімаў складаюць назвы палёў, лугоў і сенажацей, утвораныя ад імёнаў, мянушак, прозвішчаў былых уладальнікаў зямельных надзелаў. Пры гэтым нярэдка ўласныя асабовыя імёны, ад якіх узніклі аграонімы, маюць гутарковую, эмацыянальна-ацэначную форму. Не меншую па колькасці адзінак групу складаюць аграонімы, у аснове якіх ляжаць агульныя назоўнікі, што абазначаюць прыродна-геаграфічныя і сацыяльна-эканамічныя паняцці. У пэўную мікрасістэму можна аб'яднаць аграонімы, у структуры якіх ёсць лексемы, што змяшчаюць указанне на асаблівасці размяшчэння палёў, сенажацей, лугоў адносна іншых аб'ектаў.

Паходжанне большасці аграонімаў Верцялішкаўскага сельсавета матываванае (у якасці тапаасновы выступаюць як агульнавядомыя літаратурныя назвы, так і дыялектныя найменні). Але, безумоўна, сустракаюцца і мікратапанімічныя адзінкі, якія маюць цьмяную, непразрыстую структуру. І толькі народная этымалогія часам дазваляе зрабіць пэўныя высновы пра паходжанне падобных мікратапонімаў. У асобных выпадках аграонімы ўзніклі дзякуючы зусім выпадковым здарэнням, што маглі адбыцца з жыхарамі таго ці іншага населенага пункта. Але такія назвы «прыжыліся», бо былі падтрыманы моўнай практыкай жыхароў сельсавета.

Змешчаны ніжэй матэрыял (а запісаны ён быў аўтарам у палявых умовах падчас дыялекталагічных экспедыцый) якраз і адлюстроўвае згаданыя назіранні.

**АБРЎБЫ** *мн.* Поле каля чыгункі паблізу вёскі Завадзічы. *На Абрўбах аж я́мы парабіліса вялізныя ад гнóю.*

**АДРЫ́НА** *ж.* Сенажаць за вёскай Тапалёва. *Што то за сéно ў Адры́ні: адзін асóт ды пласкугá.*

**АКÓПЫ** *мн.* Поле, на якім падчас Вялікай Айчыннай вайны адбываліся жорсткія баі за вызваленне вёскі Верцялішкі. *Кáжуць, на Акóпах Зумóрыхін сын снарáт плугáмі вы́гараў.*

**АСАКА́** *ж.* Сенажаць каля вёскі Сколабава (раней на месцы сенажаці было балота, зарослае асакой). *Фургóн на нéмцы сёньня Асакý кóсіць, то што ён там накóсіць.*

**АСÓВЫ ГРЎД.** Сенажаць, размешчаная на поўначы ад вёскі Верцялішкі. *Нéмцы на Асóвым Грудý другí ўкос рóбяць.*

**АСÓКІ** *мн.* Поле на ўсходзе ад вёскі Табала. *У Асóках зямля́ лёхка, вóрна.*

**АЎСЯ́НКІ** *мн.* Поле паблізу вёскі Табала. *Аўся́нкі – гэ́та бы́ўшыя па́нскія зе́млі, з Гро́нна адзі́н хацéў там стро́іцца, ды калхо́з ні даў, зямля́ до́бра.*

**БАГНЯ́НКА** *ж.* Сенажаць за вёскай Рыдзялі. *Багня́нку рыдзе́льцы ко́сяць самы́я, калга́с ні чапа́я.*

**БАЛО́ТО** *н.* Поле, размешчанае ўздоўж дарогі ў вёсцы Эйсманты. *По́мню, як на Бало́ці бу́льбу выбіра́лі, на ноч нагара́лі, а ра́нкам маро́з даў, уся́ ля́снула.*

**БАЛО́ЦЦА** *н.* Сенажаць каля вёскі Сколабава. *Ле́тась Бало́цца так заліло́, што бяз бо́таў і ні прайсьці́.*

**БАРКО́ЎСКІЯ ГО́РЫ**. Сенажаць каля вёскі Баркі. *Не́чаго замно́го да́лі, відáць, уся трава́ на Барко́ўскіх го́рах пасо́хла, дзе ш ты́я я́мы да во́сені закладу́ць.*

**БРАДЭ́** *мн.* Паша на балоце паблізу вёскі Галаўнічы. *Па́ру цяля́ткаў калхо́зных на Брадэ́ вы́гналі, няйна́чай не́кіх хво́рых, бо адгаро́жаны.*

**БУРТЭ́** *мн.* Поле на ўсходзе ад вёскі Грынёўка. *Уся́ Грынёўка з Бурто́ў какуру́зу цяга́я.*

**БУСЛЯ́НКА** *ж.* Сенажаць, размешчаная каля вёскі Казіміраўка (назву сенажаці далі мясцовыя механізатары). *Буслэ́ на Бусля́нцы ані́чо́га ні баяцца: ні лю́дзі, ні трахтарэ́ іх ні пало́хаюць.*

**БЫ́ЛЬНІК** *м.* Поле, размешчанае недалёка ад хутара Санкоўшчына. *Бы́льнік лебядо́й паро́с, хіба́ хі́міі ні да́лі зусі́м.*

**ВАЛО́КІ** *мн.* Нівы ў ваколіцах вёскі Житомля. *Вало́кі ты́я зеляня́ць на мно́го кіло́метраў, вачэ́й ні хапа́я.*

**ВАЎКЕ́** *мн.* Поле на поўначы ад вёскі Житомля (раней на месцы гэтага поля была пустоша, зарослая ваўчкамі). *Бура́кі до́бро пакры́лі ўсе Ваўке́, зямлі́ ні віда́ць.*

**ВАЎЧКЕ́** *мн.* Сенажаць каля хутара Санкоўшчына. *На Ваўчка́х се́на тако́я духмя́на.*

**ВЫГАРА́НЫ** *мн.* Паша каля вёскі Пундзішкі. *На Выгара́ны то́лькі калхо́зныя каро́вы жану́ць.*

**ВЫ́ГІБ** *м.* Сенажаць за хутарам Аленічы. *Вы́гіб ране́й то́лькі Але́нскі касі́ў.*

**ВЫ́ГУЛ** *м.* 1. Луг каля вёскі Дворцы. 2. Паша каля вёскі Дворцы. *Вы́гулам ідзе́ця да фе́рмы, а там і аўто́бус бу́дзя.*

**ВЫ́ЖАР** *м.* Паша паблізу вёскі Баркі. *На Вы́жары пашла́ ата́ва маладая́, за́ўтро каро́вы пажану́ць тудэ́.*

**ВЫ́СЯЧКІ** *мн.* Поле на месцы кустоўя каля вёскі Батароўка. *Вы́сячкі карэ́нямі пераві́ты, ні до́бра там зямля́.*

**ГАЙКЕ́** *мн.* Поле за два кіламетры ад вёскі Сколабава. *Гайке́ гэ́тым ле́там заліло́, усе́нька бу́льба вы́макла.*

**ГЛІ́НІШЧА** *н.* Поле за вёскай Грынёўка. *Глі́нішча яно́ і ёсьць глі́нішча: ско́лькі бу́льбы паса́дзіш, сто́лькі і во́зьмеш.*

**ГРУДО́К** *м.* 1. Пясчанае поле на поўначы ад вёскі Верцялішкі. *Грудо́к у тым го́дзі га́рэў, дзетвара́ ве́льку скі́рду сало́мы патпалі́ла.* 2. Паша паблізу вёскі Рыдзялі. *На Груткý каро́вы калхо́зныя хо́дзяць.*

**ГРУ́ШКІ** *мн.* Поле на месцы былога хутара, які быў размешчаны на поўначы ад вёскі Грынёўка. *Лані́ на Гру́шках жы́та до́бро урадзі́ла, хоць і пякло́ мо́цно.*

**ГРЫ́ВА** *ж.* Сенажаць паблізу канюшні, размешчанай каля вёскі Табольская Будка. *На Гры́ві калхо́зныя ко́ні пасу́ць.*

**ЖА́БЯЧА ВУ́ЛІЦА**. 1. Сенажаць, размешчаная за сажалкай каля хутара Санкоўшчына. 2. Выган каля хутара Санкоўшчына. *Жа́бяча ву́ліца называ́юць, бо гэ́тулькі жа́баў ка́ля са́жалкі было́ ране́й, а вот ціпе́р і ні чува́ць іх зусі́м, хі́бо пераяліса.*

**ЖА́РЫ** *мн.* Поле каля вёскі Табольская Будка (поле ўзаралі пасля пажару, што адбыўся на ўскраіне лесу). *На Жа́рах зямля́ мя́хка, бу́льбу калхо́с са́дзіць.*

**ЖВІРО́ЎКА** *ж.* Поле каля кар'ера, размешчанае недалёка ад вёскі Казіміраўка. *Жвіро́ўку пад какуру́зу ко́жны год выдзяля́юць, і перады́ху ні даю́ць зямлі́.*

**ЗАБАЛО́ЦЬЦЕ** *н.* Луг за вёскай Сколабава. *Дзенісо́ў сын у Забало́цьці бывáя з ме́сяц ко́сіць на не́мцы.*

**ЗА́ГАДЗЬ** *ж.* Частка поля каля вёскі Баркі. *Сла́бо на За́гадзі бу́льбачка расьце́.*

**ЗАГО́НЫ** *мн.* Поле каля вёскі Пілюкі. *Заго́ны далекава́то, ды і зямля́ там ця́шкая, канём бу́льбу там ні абго́раш.*

**ЗАГУМЕ́НЯ** *н.* Поле каля вёскі Эйсманты. *Загуме́ня трэ́ці ўча́стак мало́ціць, харо́ша пшані́чка там у гэ́тым ро́ку вы́расла.*

**ЗАЛЕ́САК** *м.* Луг за хутарам Ракітна. *Зале́сак так заро́с, што да ху́тара Гаўры́лікаў то́лькі пе́шай до́йдзяш.*

**ЗАРАКО́ЎШЧЫНА** *ж.* Поле, размешчанае каля былой рэчкі Лазоўка. *Заракóўшчыну ніго́ы ні засе́йваюць жы́там, то́лькі ячме́нь ці аве́с се́юць.*

**ЗА СА́ДАМ**. Поле паблізу калгаснага сада, размешчанае недалёка ад вёскі Завадзічы. *За Са́дам зноў ве́лькі бурт навалі́лі, смуро́д стаі́ць мо́цны.*

**ЗА ФЕ́РМАЙ**. Поле, размешчанае паблізу вёскі Пілюкі. *За Фе́рмай кажню́ткі год бураке́ се́юць, і ве́лькія расту́ць.*

**КАЛЯ БУ́БАВІЦЫ**. Поле паблізу могілак у вёсцы Верцялішкі. *Ка́ля Бу́бавіцы такі́ пясо́к, ні́чо́га ні хо́ча там расьці́, анну́ ты́лько какуру́зу се́юць.*

**КАЛЯ ВАЙНАРО́ВІЧА**. Поле паблізу хаты, у якой ужо амаль стагоддзе жыве сям'я па прозвішчы Вайнаровіч (Бейнаровіч). *Во кап ка́ля Вайнаро́віча со́ткі да́лі, дык і бу́льбачка была́ б до́бра.*

**КАЛЯ КАНЮ́ШНІ**. Луг паблізу канюшні, што знаходзіцца ў вёсцы Верцялішкі. *Ка́ля Каню́шні ко́ні ўсё аб'е́лі, хай бы тро́шко да́лей ім вы́гул зрабі́лі.*

**КАЛЯ ЛАЙКО́ЎСКАГА**. Частка поля паблізу хутара Ракітна. *Вясно́й ка́ля Лайко́ўскага трахтарэ́ гусяні́чнікамі выця́гвалі, так там затапі́ло.*

**КАЛЯ СУШЫ́ЛКІ**. Агароды калгаснікаў, што знаходзяцца паблізу зернесушылкі. *Ка́ля Сушы́лкі ні́чо́го ні паса́дзіш, паку́ль яшчэ́ расьце́, памо́гуць вы́браць.*

**КАЛЯ ФЕ́РМЫ**. Луг за вёскай Батароўка. *Ка́ля фе́рмы ўсё вы́сахло ў гэ́тым ро́ку. Се́на ні накасі́лі за пе́ршы прахо́д зусі́м.*

**КАМЯНІ́СТА** *н.* Поле за вёскай Рыдзялі. *Шко́лу вясно́й камéня на Камяні́ста збіра́ць выпраўля́юць.*

**КА́МЯНКА** *ж.* Камяністае поле за вёскай Казловічы. *Брыга́днія на Ка́мянцы ўчо́ра с кра́ю бураке́ пало́лі, пэ́ўно сімінáр не́йкі е́дзя зноў.*

**КАПЦЫ́** *мн.* Сенажаць паблізу хутара Аленічы. *У Капца́х ране́й было́ гэ́тулькі бусло́ў, а ціпе́р ні ўба́чыш. ні́ɣды.*

**КАРЧЭ́** *мн.* Поле пры вузкакалейцы за вёскай Верцялішкі. *Дзіке́ ўсе Карчэ́ перавярну́лі, бу́льбы ні бу́дзя.*

**КАЎШЫ́** *мн.* Поле, размешчанае на месцы былога хутара паблізу вёскі Баяры. *Каўшы́ люцко́й бу́льбай і лані́ былі́ заса́жаны, і ў гэ́тым ро́ку.*

**КЛІН** *м.* Луг за вёскай Пілюкі. *Клі́н уве́сь гно́ям завалі́лі, а ране́й бывáло сто́лькі се́на з яго́ лю́дзі нако́швалі.*

**КЛІНО́К** *м.* Невялікае поле, размешчанае за вёскай Пілюкі. *От жа замéлька на Клінку́, пшані́чка вы́расла така́я, што заглядзе́ньня.*

**КРУГЕ́** *мн.* Поле каля хутара Тапалёва. *З Кругóў ужэ́ і сало́му вы́вязлі і заспружынава́лі.*

**КУ́ДРА** *н.* Поле, размешчанае на захадзе ад вёскі Эйсманты. *Ку́дра мы то́я по́ля зва́лі, а чаму́, хто ж яго́ ве́дая.*

**КУТАВЫ́Я** *мн.* Палеткі па абодва бакі дарогі, што праходзіць праз вёску Табала. *Кутавы́я зноў ўсе́нькі скі́рдамі застáўлены.*

**ЛАХЧЫ́НКА** *ж.* Сенажаць, размешчаная на поўначы ад вёскі Дворцы. *Ско́лькі разо́ў Лахчы́нку кашу́, сто́лькі разо́ў зайцо́ў падрэ́жу.*

**ЛУ́ЖЫНА** *ж.* Невялікі луг каля возера, размешчанага за вёскай Верцялішкі. *На Лу́жыні ціпе́р то́лькі люцкі́х аве́чак ды ко́заў па́сьвяць.*

**МАЛАДЫ́ САД**. Поле, якое знаходзіцца на месцы выкарчаванага маладога калгаснага саду, што рос паблізу вёскі Верцялішкі. *Лані́ Малады́ Сад усе́нькі жаўцо́ў, так рапс до́бро цьвіў, а ў гэ́тым го́дзі вы́мярз уве́сь чы́сто.*

**МАЛЫ́ ЯР**. Частка поля, што размешчана за вёскай Грынёўка. *Кап хоць зноў ні давáлі садзі́ць бу́льбу ў Малы́м Я́ры, уся ж вы́макня.*

**МЛЫНЫ́** *мн.* Поле каля калгаснага млына, што размешчаны ў вёсцы Эйсманты. *Какуру́за на Млына́х стаі́ць така́я, што і самаго́ млы́ну ні віда́ць.*

**МО́КРАЕ** *н.* Поле паблізу вёскі Казловічы. *На Мо́крым ні́ɣды нічо́га ні вы́рася.*

**МО́ШКО** *н.* Сенажаць каля чыгуначнай станцыі Жыдомля. *З Мо́шко ўчо́ра брыгадзі́р люцкі́х аве́чак павыганéў, ужэ́ дасьць прыкуры́ць до́бро.*

**НА МАСТКА́Х**. Сенажаць, размешчаная за вёскай Верцялішкі на месцы асушанага балота. *І палівáюць, і патсяваюць на Мастка́х, а травá ні́як ні расьце́, мо, з адзі́н ці два ўко́сы мáюць.*

**НА ПАЛІЦЭ́ЙСКАЙ**. Палетак за два кіламетры ад вёскі Верцялішкі. *На Паліцэ́йскай анны́ го́ры, ні зямля́, а жві́р.*

**НАВАЗЭ́** *мн.* Поле паблізу фермы ў вёсцы Рыдзялі. *На Наваза́х бу́льба до́бра ро́дзіць, то́лькі асату́ мно́га.*

**ПА МАШЭ́РАЎЦЫ**. Частка поля ўздоўж дарогі, якую мясцовыя жыхары называюць Машэраўкай. *Жы́то па Машэ́раўцы ро́ўненька стаі́ць, і град яго́ ні пабі́ў.*

**ПАД АМБА́РАМ**. Выдзелены для агародаў калгаснікаў зямельны надзел, што знаходзіцца побач з калгасным зернясховішчам. *Пад Амба́рам у канцы́ ле́та ваўке́ вы́юць, так усё пазарастáя бур'яно́м.*

**ПАД ГРУДКО́М**. Сенажаць на поўначы ад вёскі Галаўнічы. *Не́калі пад Грудко́м галаўні́цкія сабе́ се́на на ца́лу зі́му нако́швалі.*

**ПАД ЗАСТА́ВАЮ**. Поле, размешчанае на захадзе ад вёскі Верцялішкі (мяркуецца, што ў старажытныя часы на выездзе з вёскі на гэтым месцы знаходзілася застава і стаялі ваяры). *Пад Застáваю ўра́нні дзіке́ кукуру́зу ласто́жаць.*

**ПАД ІВА́НУШКІНАЙ**. Частка пашы за вёскай Верцялішкі. *Па чампіё́ны трэ́бо ісьці́ пад Іва́нушкіну, там ко́ні па́сьвяць.*

**ПАД ЛО́ГАМ**. Поле, размешчанае на захадзе ад вёскі Пундзішкі. *Пад Ло́гам заўсягда́ жнуць по́зна, там ка́ля ле́су зярно́ сьпе́я даўжэ́й.*

**ПАД ЛЯСКО́М**. Поле, размешчанае на ўсходзе ад хутара Ракітна. *От жа ячме́нь пад Ляско́м вы́рас, паглядзе́ць лю́ба.*

**ПАДРЭ́ЧНІЦА** *ж.* Сенажаць, размешчаная паблізу сажалкі каля вёскі Казіміраўка (раней паблізу сенажаці цякла рэчка Лазоўка). *Падрэ́чніца аш кішы́ць вужа́мі, а ско́лькі ж іх там не́мцамі падушы́лі.*

**ПАД ЧЫГУ́НКАЙ**. Поле побач з чыгункай, што праходзіць паблізу вёскі Жытомля. *Зь нідзе́лю малаці́лі пад Чыгу́нкай, дажджэ́ так улілі́, што камба́йны ўвайсьці́ ні маглі́.*

**ПАД ЭВАЭ́МАМ** (эваэмам некалі называлі прадпрыемства па перапрацоўцы травы). Невялікае поле ў ваколіцах вёскі Верцялішкі. *Пад Эваэ́мам не́калі такі́ лён рос, ціпе́р у калхо́зі нідзе́ тако́га ні ўба́чыш.*

**ПАД ЯРО́ЦКІМ**. Пясчанае поле на поўдзень ад вёскі Баяры. *Пад Яро́цкім по́зно се́ялі, бо сьнег аж да ма́я ляжа́ў.*

**ПАЛО́САЧКА** *ж.* Поле ўздоўж дарогі, што праходзіць у вёсцы Верцялішкі каля мясцовых могілак. *Пало́сачку ка́жны год засе́йваюць какуру́зай, каб люцкі́х гарадо́ў ні было́ віда́ць.*

**ПАЛЯЎНІ́ЧЫ ВЫ́ГАН**. Паша каля вёскі Завадзічы. *Узе́ў свайго́ саба́ку на Паляўні́чы вы́ган каро́ў па́сьвіць, а ён не́дзе ў вёску ўцёк.*

**ПА́ПАРАТНІКІ** *мн.* Выган каля вёскі Дворцы. *Праз гэ́тыя Па́паратнікі аннаму́ ўра́нні стра́шно і каро́ў гнаць, ваўко́ў там ба́чылі.*

**ПА́СЕКА** *ж.* Поле, размешчанае паблізу хутара Ракітна (раней на гэтым месцы знаходзілася калгасная пасека). *На Па́сецы лані́ лось пакале́чаны ляжо́ў, трахтары́сты знайшлі́, як гара́лі по́ля.*

**ПАСТЭ́ЎНІК** *м.* Поле на месцы былой пашы. *Пастэ́ўнік так загара́лі, ні паду́маяш на́ват, што тут каро́вы не́калі хадзілі.*

**ПАЦЯРО́БЫ** *мн.* Сенажаць на месцы кустоўя, што размешчана паблізу вёскі Заполле. *Пацяро́бы касіць ста́ло ця́шко, кустэ́ зноў чаранке́ папуска́лі.*

**ПРЫБАЛО́ЦЬЦЯ** *н.* Луг паблізу вёскі Батароўка. *За зі́му на Прыбало́цьця гэ́дулькі сьне́гу навзо́зілі трахтара́мі, што аж да ма́ю ляжо́ў, аля ж я і се́на до́бро там накасі́ў.*

**ПЧО́ЛЬНІК** *м.* Поле каля вёскі Казіміраўка. *Не́шта Пчо́льнік ра́псам ні засе́ялі, мо, што друго́я се́яць бу́дуць.*

**ПЯШЧА́НКА** *ж.* Поле паблізу вёскі Казловічы. *Пяшча́нку мо́рквай засе́ялі, яна́ на́тто до́бро ро́дзіць.*

**РАГА́ТКА** *ж.* Паша за вёскай Табала. *Па́шу гэ́ту так называ́ям, бо падо́бна да рага́ткі.*

**РАЎНІ́НА** *ж.* Поле, што размешчана на ўсходзе за вёскай Баяры. *Раўні́на ўся здалёк жаўцё́я, ды так па́хня, рапс, мусіць, до́бры бу́дзя.*

**РОГ** *м.* Сенажаць паблізу вёскі Эйсманты. *Ка́ля Ро́га склад на хі́мію пабудава́лі, якоя там се́но бу́дзя.*

**СПУСКЕ́** *мн.* Сенажаць на месцы былой рэчкі Лазоўка. *Спуске́ так ця́шко касі́ць, гэ́дулькі я́маў.*

**СТАРО́Е БАЛО́ТА**. Паша, размешчаная ўздоўж вузкакалейкі за вёскай Верцялішкі. *Люцкія каро́вы ране́й на Стары́м Бало́цы па́сьвілі.*

**СТАРЫ́ САД**. Поле, якое знаходзіцца на месцы былога калгаснага саду, што рос паблізу вёскі Верцялішкі. *Ране́й у Стары́м Са́дзі со́ткі дава́лі, а ціпе́р то́лькі зярно́ се́юць.*

**СЬЦЯПУ́РАЎ ГАРО́Т**. Частка поля каля вёскі Казіміраўка. *Сьцяпу́раў гаро́т По́лудзянь ра́ньняй бу́льбай засадзі́ў, зноў на база́р павалачэ́.*

**ТАРФІ́СКО** *н.* Поле на месцы асушанага балота, што размешчана за вёскай Баяры. *Тарфі́ско ў тым го́дзі вы́гарала, так пякло́.*

**ТРАЦЯ́К** *м.* Частка сенажаці паблізу вёскі Казловічы. *Траця́к Міну́чыц ко́сіць, яму́ ўсё ма́ло.*

**ТЭ́КЛІНА ПО́ЛЯ**. Поле каля вёскі Галаўнічы (раней побач з полем стаяў хутар удавы Тэклі). *Капу́сту са́дзяць на Тэ́кліным по́лі, яна там, што го́лавы вырастя́я.*

**У ГО́РАХ**. Поле на захадзе ад вёскі Баяры. *У Го́рах нічагу́тка ні расьце́: ні бу́льба, ні бураке́, ні кукуру́за.*

**ЧА́ПЛІ** *мн.* Палетак, размешчаны за вёскай Верцялішкі (назва паходзіць ад прозвішча мясцовага жыхара, хата якога стаіць паблізу). *Ча́плі ўво́сень так трахтара́мі ўваб'ю́ць, што і плуге́ пасьля́ ні ця́гнуць.*

**ШЫБКЕ́** *мн.* Поле, што знаходзіцца за кіламетры два ад вёскі Верцялішкі. *По́йдземо ў Хвайну́ па грыбэ́ праз Шыбке́, іх яшчэ́ ні перагара́лі.*

**Я́МЫ** *мн.* Сенажаць, дзе раней знаходзіліся вялікія ямы, у якіх захоўвалі бульбу. *Што яны́ там нако́сяць на тых Я́мах, мо, з ба́шню ці дзьве закладу́ць.*

**ЯР** *м.* Сенажаць паблізу хутара Аленічы. *Лапы́ш ле́там Яр касі́ў, дык падрэ́заў бусла́.*

# ФРАЗЕАЛОГІЯ, ПАРЭМІЯЛОГІЯ

*М. А. Даніловіч*

## З ФРАЗЕАЛОГІІ ГАВОРАК ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Прапануюцца фразеалагізмы, запісаныя ў апошняе дзесяцігоддзе на Гродзеншчыне ад носьбітаў беларускіх гаворак. Змешчаныя тут фразеалагізмы раней не падаваліся ў дыялектных і літаратурных фразеалагічных слоўніках беларускай мовы.

**АБАГНУЦЬ ВЕРСТЫ**. Выпусціць з-пад увагі, прапусціць што-н. пры апавяданні. *Ну і абагнуў версты, а хто будзя астатнё расказваць?* Сакольнікі Свісл.

**АГОНЬ НА ЎСЁ СЯЛО** *адабр.* Вельмі жвавы, рухавы, энергічны чалавек. *Ганьдзя самая жвава была, агонь на ўсё сяло.* Валковічы Навагр.

**АДКІНУЦЬ КАЦЮТЫ**. Адпачываць лежачы, спаць. *Мой ужэ даўно прыйшоў с поля, аткінуў кацюты і храпе.* Лычкаўцы Шчуч.

**АДНА ІЗВІЛІНА І ТАЯ ПРАМАЯ** (*у каго*) *неадабр.* Хто-н. неразумны. *А ні ты яму што гавары ні гавары – толку мала, у яго ш адна ізьвіліна і тая прамая.* Іўе Іўеў.

**АДНА ПАПЕРА.** Аднолькавае, тое самае. *Што сын, што бацька – адна папера.* Руда Яварская Дзятл.

**АДНЫМ КАЛОМ.** Разам, супольна (жыць). *Яны ўжо многа гот жывуць адным калом.* Малюкі Воран.

**БОБРЫКА СМАЖЫЦЬ.** Імкнуцца раззлаваць, вывесці з раўнавагі каго-н. *Ты мне тут бобрыка ні смаш, усё раўно ў цібе нічога ні выдзя, ні на таго напала.* Баяры Шчуч.

**БОКІ АБАБРАЦЬ** (*каму*). Збіць, сурова расправіцца з кім-н. *За дзеўку бокі абабралі адзін аднаму.* Бершты Шчуч.

**ВОСПА ЯГО ВЕДАЕ** *неадабр.* Невядома. *Воспа яго ведая, чаго ён у горат паехаў.* Руда Яварская Дзятл.

**ВОЧЫ ВЫМЕ І НОВЫЯ ЎСТАВІЦЬ** *неадабр.* Вельмі сварлівы, непамяркоўны. *Гэльця такая баба, што яна табе вочы вымя і новыя ўставіць.* Навасёлкі Гродз.

**ВОЧЫ ЗАМАРОЗІЛА** (*каму*) *асудж.* Хто-н. не бачыць, не заўважае відавочнага. *Табе што, вочы замарозіло, ні бачыш, куды ідзеш.* Засецце Дзятл.

**ВУЧЫ ВУЧЫ – АДНЫЯ ДВОЙКІ** *неадабр.* Выказванне папроку таму, хто някемлівы, няздатны да навучання. *Ты ш ізноў ні так бульбу парэзала, вучы вучы – адныя двойкі.* Ананічы Дзятл.

**ВУШЫ ЎШМЫЛІЎШЫ** *непахв.* Разгублена, з вінаватым выглядам (стаяць). *Што стаіш вушы ушмыліўшы, ужэ вырабіў нешто ці што?* Сухары Гродз.

**ГАЛАВА З ДЗІЧКІ** (*у каго*) *асудж.* Пра неразумнага, някемлівага чалавека. *Ні зьвязвайся ты зь ім, у яго ж галава зь дзічкі.* Навасёлкі Гродз.

**ГАРАДЫ СТАВІЦЬ.** Паводзіць сябе ганарыста. *Пачаў гарады ставіць, даказваць.* Голдава Лід.

**ГАРБУЗ ПРАГЛЫНУЎ** *гумар.* Пра чалавека з вялікім, тоўстым жыватом. *Пра Папялуху некалі казалі, што гарбуз праглынуў, натто жывот меў велькі.* Зенявічы Навагр.

**ГІВЕРА ЗАЛУПІЎШЫ** *асудж.* Безупынна (бегаць, насіцца і пад.). *Носіцца гівяра залупіўшы.* Падчарнейкі Свісл.

**ГУБЫ Ў МАЛАКУ** (*у каго*) *неадабр.* Хто-н. малады, нявопытны. *Нічога ты ні ўмееш, губы шчэ ў малаку ў цябе.* Бяцюны Ашм.

**ДА СКУРЫ.** Цалкам, поўнасцю, наскрозь (прамокнуць). *На дварэ такі лівянь, што я пакуль дабег дахаты, то да скуры прамок.* Пеляса Воран.

**ДАЦЬ ВОЛЮ СЭРЦУ**. Вельмі моцна выяўляць свае эмоцыі, пачуцці, душэўныя пакуты. *Як Маня памярла, то Казя ўжо дала волю сэрцу, чаго яна толькі ні вычытвала.* Амбілеўцы Шчуч.

**ДАЦЬ КАНДЫГАНДЫ**. Пабіць, пакалечыць. *Прышлі немцы, далі ўсім кандыганды, і за што?* Дварчаны Воран.

**ДА ЯЗУЛЯ ЗАПІСАЦЦА** *насмеш.* Не збірацца жаніцца ці ісці замуж. *Чаму замуш ні йдзеш? Мо да Язуля запісалася?* Замошша Шчуч.

**ДЗЮНДЗЕЛЬ ПАВЕСІЦЬ** *жарт.* Засумаваць, замаркоціцца. *Ну што ты дзюньдзяль павесіла? Ні бядуй, знайдзем табе хлопца.* Карабы Ашм.

**ДЗЯДЗЬКА ЛЯВОН ПРЫЕХАЎ** (*да каго*) *гумар.* Пра ленуе, лайдакаватую асобу, якой расхацелася працаваць. *Чаго ты сядзіш? Мусі дзяцько Лявон да цібе прыехаў.* Сухары Гродз.

**ДОЛЯ ЯГО ВЕДАЕ**. Невядома. *Доля яго ведае, як гэта сталася.* Гута Дзятл.

**<ЕДНЫМ РАЗАМ> ПОЦЯНГ НЕ АБ'ЕДЗЕ** (*каго*) *іран.* Вельмі тоўсты, мажны. *Яго едным разам поцянг ні аб'едзя, такі трыбухаты. За гэты рок такая стала, што і поцянг ні аб'едзя.* Алекшыцы Бераст.

**ЖАБА ДУШЫЦЬ** (*каго*) *неадабр.* Быць у стане неўтаймаванай зайздрасці. *Яе аж жаба душыла, што я сабе мабільнік купіла.* Скідзель Гродз.

**ЗАВАЛІЦЬ ЛУПАТАГА** *жарг., гумар.* Напіцца гарэлкі. *Хлопцы ўчора завалілі лупатага, так сёньня ніяк ні ачухаюцца.* Белякі Дзятл.

**ЗА ДУШУ ЗАСКРАБЛО** (*каму*). Стала вельмі балюча, непрыемна, прыкра каму-н. *Як расказвала яна мне пра своё жыцця, мне аж за душу заскрабло.* Яблынька Дзятл.

**ЗАКІНУЦЬ ГРЫВУ** *неадабр.* Заганарыцца, паводзіць сябе важна. *Як купіў машыну, дык закінуў грыву – ні падысьці.* Котра Гродз.

**ЗАЛЕЗЦІ ЗА ПАЗУХУ** (*каму*) *неадабр.* Выкарыстоўваць каго-н. для задавальнення сваіх інтарэсаў, патрэб. *Вера, ні дай залесьці за пазуху, бо будзя бяда. Пусьціць па сьвеці с пустымі рукамі.* Талькаўцы Ваўк.

**ЗАЛЕЗЦІ НА НЕБА** *адабр.* 1. Дасягнуць вялікіх поспехаў у чым-н. *Залес на неба наш Аўсей, стаў прэтсідацілям.* Даліняны Шчуч. 2. Адчуць вялікую радасць, задавальненне ад нечага, некага. *Наста на неба залезла, як яе Васік далей вучыцца пайшоў.* Турэц Карэл.

**ЗА РУБЕЛЬ САБАКАМ ГАЎКНЕ** *асудж.* Вельмі скупы, прагны, хціві. *Ідзі наймай вун таго, ён табе за рубель сабакам гаўкня.* Навасёлкі Гродз.

**ЗАСКАЛІЦЬ ОКА.** Не глядзець, не зважаць на каго-н. з-за злосці, непрыязнасці. *Яна ідзе па воду, та цёнгля заскаліць око, нігды ні паздароўкаяцца. А я ціпер да яе хадзіць ні буду.* Ліцвінкі Гродз.

**ЗАЮРЫ БЯРУЦЬ** (*каго*) *неадабр.* З'яўленне неспакою, нервовасці, раздражнёнасці ў паводзінах. *Ну што, зноў цібе заюры бяруць, няма табе спакою.* Заполле Шчуч.

**ЗБІЦЬ АБЦАСЫ**. Многа выхадзіць, змучыцца ад хадзьбы. *Маладажоны зьбілі ўсе апцасы, пакуль знайшлі кватэру ў горадзі.* Малыя Краглі Дзятл.

**ЗВАЛІЦЬ З ГАЛАВЫ** (*што*). Вызваліцца ад чаго-н. клопатнага. *Мне і самой надаела, ні знаю, калі звалю з галавы гэту працу.* Парэчча Гродз.

**ЗДРАСЦЕ Я ВАША НАСЦЯ**. Нядобразычлівая рэакцыя на чыё-н. выказванне. *Ну, здрасьця я ваша Насьця! Гавары ды думай, што гаворыш.* Сурынка Сл.

**ЗДЫХАТА АПОЎЗЛАЯ** *зларад.* Хворы, нядужы чалавек. *Вун пасунулася здыхата апоўзлая. Ледво ногі перастаўляя.* Паніжаны Маст.

**З ЛЯЖАЧАГА САБАКУ** *іран.* Невысокі, нізкарослы. *Хлопяц мой ужо ў шосты клас ходзіць, а вырас зь ляжачаго сабаку.* Уселюб Навагр.

**ЗНЯЦЬ З ЯЗЫКА** (*у каго*). Апярэдзіць каго-н. у выказванні думкі. *Я адно падумала, а ты ўжэ сказала – ну проста зь языка ў міне зьняла.* Стокі Свісл.

**З ПАДВОРКА СНЕГУ НЕ ВЫПРАСІШ** (*у каго*) *асудж.* Пра вельмі скупога. *Во суседа маю, у яго с падворка сьнегу ні выпрасіш, такая скупяга.* Зенявічы Навагр.

**З ЧОРТАМ ЗМЕШАНЫ**. Нядобры, злы, нелітасцівы, хціві. *Тая баба ш чортам зьмешана.* Навасёлкі Гродз.

**ЗЯМЛЯ ЯГО (ЯЕ, ІХ) РЭЖ.** Выказванне абурэння, пажадання нядобрага каму-н. *А зямля іх рэш тых немцаў.* Руда Яварская Дзятл.

**І САБАКІ НЕ БРЭШУЦЬ** (*пра каго*). Адсутнасць размоў, плётак пра некага. *А пра цябе зусім і сабакі не брэшуць.* Казляны Воран. *А пра гэтага п'яніцу і казаць німа чаго, пра яго і сабакі ні брэшуць.* Дзеткі Воран.

**КАЛІ КАТУ ЗАД ЗАРАСЦЕ** *насмеш.* Невядома калі (адбудзецца што-н.). *Я ту замуш ні выйду, а мне ніхто і ні нравіцца, а можа калі кату зад зарасьце, тады я замуш пайду.* Амбілеўцы Шчуч.

**КАНЕЦ НЕ ВОЗЬМЕ** (*каго*). Нічога не зробіцца з кім-н. *Як захоча, то ажэніцца, канец яго ні возьмя.* Дзеткі Воран.

**КАРАСЬ ЛУПАТЫ** *неадабр.* Пра чалавека з вялікімі выпучанымі вачыма. Бершты Шчуч.

**КАЦЮТЫ ЗЛАЖЫЦЬ**. Памерці. *Як я кацюты злажу, то што тады рабіць будзеце?* Далёкія Лід.

**КІПАЧКУ ЛАМАЦЬ** (*перад кім*). Падхалімнічаць, выслужвацца перад некім. *Ты паглядзі, як Алесь кіпачку перат старшынёй ламая.* Беліца Лід.

**КОТ ПАМЫЙНЫ** *асудж.* Валацуга, бяздомнік. *Цягаяцца гэты кот памыйны па вёсках, галодны, п'яны ўвесь, аборваны.* Уселюб Навагр.

**КРУГОМ-КРУГОМ І Ў СЯРЭДЗІНКУ**. Паступова, хітрыкамі дабівацца ажыццяўлення задуманага, намечанага. *Яна хітра, паўдня будзя зубы загаварваць, а свайго даб'ецца, як тая ліса, кругом кругом і ў сярэдзінку.* Ананічы Дзятл.

**КРУЦІЦЬ МАТАВІДЛА** *неадабр.* Гаварыць абы-што, пустое, непатрэбшчыну. *Ён анно матавідло круціць, а больш нічого, мусіць нейкі дурнаваты.* Пораза-ва Свісл.

**ЛЁДЫ ВАДЗІЦЬ**. Пляткарыць. *Нашы жонкі зьбяруцца ў кучу лёды вадзіць.* Кладнікі Іўеў.

**ЛОМАМ НЕ ПАДВАЖЫШ** (*каго*) *неадабр.* Пра немагчымасць прымусам дамагчыся выканання чаго-н. *Ніколі ні зробіць адразу тоя, што яго папрашу, яго ломам ні падважыш.* Кавалі Слон.

**МАНЯ З БАТОНАМІ** *неадабр.* Нязграбная, няўмелая, разяватая жанчына. *Аля й Маня з батонамі, што ў рукі ня возьмяш, усё валіцца.* Пеляса Воран.

**МЫМРА БАЛОТНАЯ** *неадабр.* Кепскі, немілаэрны, сквапны чалавек. *У гэтай мымры балотнай і вады зімой ні выпрасіш.* Уселюб Навагр.

**НА ВЕСНУ ВАДА ПАНЕСЛА** (*што*) *іран.* Адкладзенае на потым, нязробленае, што не адбываецца. *Атклалі вяселя на другі гот, а маладыя й разьляцеліся. Я казала: на весну вада панесла тоя вяселя – так і ёсьць.* Вялікія Канюшаны Лід.

**НА ГАРАЧЫ ЯЗЫК**. У стане ўсхваляванасці, раздражнення, запальчывасці (сказаць што-н.). *Дык я табе многа чаго нагаварыла на гарачы язык.* Ганчары Лід.

**НА ГРУШКУ ДЗІЧКУЮ**. Вельмі моцна (збіць). *Такая бойка моцная была, што аднаго хлопца на грушку дзічкую зьбілі.* Казляны Воран.

**НА ДАЛЬНЯЙ ВАДЗЕ.** У далёкім сваяцтве. *Якая яна яму роственіца, сваха на дальняй вадзе.* Руда Яварская Дзятл.

**НА КАНТ** *адабр.* Шыкоўна, прыгожа, па модзе (апрануты). *Чалавек адзеты на кант, што трэ.* Талькаўцы Ваўк.

**НАПАЛОХАЦЬ ВОЖЫКА ГОЛЫМ ЗАДАМ** *іран.* Зусім не (напалохаць). *Ты мне тут ні пагражай... Напалохала вожыка голым задам.* Ананічы Дзятл.

**НА ПЕРШЫХ ДНЯХ**. Напачатку, спачатку. *На першых днях я з мужыком маім сварылася.* Руда Яварская Дзятл.

**НА ПЛЯЧАХ ТРЫМАЦЬ** (*каго*). Дапамагаць ва ўсім некаму. *Цесьць на плячах трымае, вось і жывуць добра маладыя.* Маісеевічы Ваўк.

**НА ЎСЕ БАКІ**. Уволю, колькі хацелася (вылежацца, выспацца). *Дзісь пры сьвяця такой ната работы ні рабіла, затоя на ўсе бакі выляжалася, выспалася, хоць пазнала, што сьвята.* Навасяды Ашм.

**НА ЎСЕ ПЯЦЬ**. Вельмі добра. *Пераехала я сюды, работу знайшла і жыву на ўсе пяць.* Руда Яварская Дзятл.

**НА ЎСЮ ВОЛАСЦЬ**. Вельмі моцна (крычаць, лямантаваць, сварыцца). *Як раскрычыцца, нават на сваіх дзяцей на ўсю воласць крычыць.* Куляшы Шчуч.

**НЕ БУЛКА З МАСЛАМ** (*каму*). Нялёгка, мала прыемнага, радаснага. *Працаваць тут нялёхка, гэта табе ні булка з маслам.* Хадзілоні Шчуч.

**НЕ ДАПЛЮНУЦЬ** (*да каго*). Ганарысты, зазнавака, фанабэрысты. *Зь Мінску прыехаў такі ўжэ ганаровы, ні даплюнуць да яго.* Ананічы Дзятл.

**НЕ ІДУЦЬ РУКІ**. Не хочацца рабіць, выконваць што-н. *Ні йдуць рукі бураке палоць.* Уселюб Навагр.

**НЕ ТАЯ ПЧАЛА ЎКУСІЛА** (*каго*) *неадабр.* Быць у дрэнным настроі, паводзіць сябе раздражнёна. *Што гэта зь ім, мусі, ні тая пчала ўкусіла.* Падольцы Астр.

**НЕ ПАСЛЕДНІ Ў БОГА**. Уяўляць з сябе пэўную вартасць. *Ох, усьпелі, пачакаў аўтобус! Ні пасьледнія мы ішчэ ў Бога!* Стокі Свісл.

**НІ РУБІНКІ**. Зусім нічога (не даць). *Як памерла мама, то мне ні рубінкі ні далі.* Тракелі Воран.

**НІ САМОМУ З'ЕСЦІ НІ ЛЮДЗЯМ АДНЕСЦІ** *неадабр.* Вельмі нясмачны. *Наварыла такой капусты, што ні самому зьесьці, ні людзям аднесьці.* Парэчча Гродз.

**НІ ЧАРТА НІ ХАРТА**. Нічога (не мець). *Гэты халасьцяк ні чарта ні харта не мае.* Дварчаны Воран. *Аднаму зямлі колькі хочаш, а другому ні чарта ні харта.* Дзеткі Воран.

**НОЧ АПОЎНАЧ**. Вельмі позна. *Ноч – апоўнач, а яго ішчэ дома німа.* Райца Карэл.

**НЯМА КАЛІ ДУХ ЗЛАПАЦЬ**. Не мець магчымасці, часу адпачыць, зрабіць перапынак у працы. *За работай тату німа калі дух злапаць.* Пракопавічы Гродз.

**ОЧЫ Ў ЯМАХ** (*у каго*) *неадабр.* Скупы, прагны, сквапны. *Нашто ты назвалакаў гэтых кніжак. Чытаць хіба ты іх будзяш, пыліцца адно будуць на гарэ. А так можа каму спатрэбіліся п. Очы ў цібе ў ямах.* Стокі Свісл.

**ПАВЕСІЎШЫ ЛЕЙКУ.** Маркотна, заклапочана, з кепскім настроем (стаяць, сядзець). *Не стой павесіўшы лейку, а бярыся за работу.* Дарагляны Маст.

**ПАВЕСІЦЬ ЗАМОК АМБАРНЫ (ЗАМКІ АМБАРНЫЯ)** (*каму*). Прымусіць каго-н. маўчаць, не распаўсюджваць звесткі. *Генавыя малыя нічого калісь с хаты ні выносілі, што казаласё, бацько ўсім замкі амбарныя павесіў.* Поразава Свісл.

**ПАДНЯЦЬ ШОРЫ**. Ачуняць, прыйсці ў сябе. *Мы думалі, усё яму, а ён, бач, падняў шоры.* Вялікія Баяры Шчуч.

**ПА-ЗА НАМІ.** Мінуцца, застацца ў мінулым. *Цяшко было, але ўсё ужэ па-за намі.* Пугачы Шчуч.

**ПАЙМАЦЬ ЖАБУ ЗА ПЯТУ**. Спахапіцца запознена, несвоечасова. *Ага, паймала жабу за пяту, учора ужэ ўсе сукенкі расхваталі. Схадзіла па розум, ды позна.* Бракава Слон.

**ПАКАЗАЦЬ КУДЫ ПІСАР ГУСІ ГАНЯЕ** (*каму*) *паграж.* Пакараць каго-н. *Нягонік, я табе пакажу, куды пісар гусі ганяе.* Ананічы Дзятл.

**ПАРАЎНЯЦЬ ДЗЮБУ** *іран.* Упасці, стукнуўшыся носам. *Калі зьляціш с плоту, параўняяш дзюбу, то боляй ні палезяш на яго.* Вольна Бар.

**ПАСЛАЦЬ ЯГНЯ НА СПОВЕДЗЬ ДА ВАЎКА**. Прымусіць каго-н. выконваць непасільную ці небяспечную справу. *Ну й куды ты гэто горко дзіця выправіў? Паслаў ягня на споваць да ваўка.* Скрыдлева Навагр.

**ПАСТАВІЦЬ ВОЧЫ** (*на каго*). Выглядам выявіць варожасць да каго-н. *Сказаў Антон гэдак, дык Гэля паставіла вочы на яго – ён і сьціх.* Скрагі Шчуч.

**ПЕРАБІРАЦЬ ПЕР'Е** (*каго, чыё*). Абгаворваць каго-н. *Чаго раскудахталіся, ужэ ўсіх пер'я перабралі?* Бракава Слон.

**ПЛЯГА ЦЯБЕ БЯРЫ**. Выказванне абыякавасці, няўвагі або згоды, прымірэння, уступкі. *Захоць у хату, пляга ўжэ цібе бяры.* Талькаўцы Ваўк.

**ПОПЕЛ ВЫСЯВАЦЬ** (*каму*). Замаўляць ад пярэпалаху. *Маю малую так сабака напалохаў, цэлу ноч дзіця ні спало. Трэба Ольгу Вінскаву пазваць, кап попял высяяла ёй.* Стокі Свісл.

**ПРАНЦАМ У ВОЧЫ ЛЕЗЦІ** (*каму*) *неадабр.* Неадчэпна, назойліва прыставаць, дакучаць. *Ні лесь пранцам ў вочы.* Масты Маст.

**ПРЫБІЦЬ САБЕ Ў ГАЛАВЕ**. Цвёрда запомніць. *Як ты хочаш, аля доўжан прыбіць гэта сабе ў галаве, кап ні было ніякіх распросаў.* Студзянец Ваўк.

**ПРЫВАЛАЧЫ СВАЕ ХОДЫ**. Прыйсці куды-н. *Прывалок свае ходы толькі прас пяць гадзін.* Бародзічы Зэльв.

**ПУТА КАЛХОЗНАЕ** *неадабр., груб.* Нікчэмны, нікуды не варты чалавек. *Што зь яго возьмяш – путо калхозно, нічого ні ўмея.* Сурынка Слон.

**ПЯТУХ ПАДЖАРАНЫ**. Нецярплівы, гарачы, запальчывы чалавек. *Ну й пятух паджараны, слово ні так – і панёс на чом сьвет стаіць.* Дзеравянчыцы Слон.

**РАДЗІВА НА ПЛОЦЕ** *неадабр.* Той, хто разносіць плёткі. *Яна табе нічога ні раскажа?.. Канешна, спадзявайся... Яна ш радзіво па плоці.* Руда Яварская Дзятл.

**РАЗБІРАЦЬ ПА ЧЛУНКАХ** (*каго*). Абгаворваць каго-н. *Бабы зьбяруцца і па члунках разьбіраюць другіх бап.* Жылі Іўеў.

**РАЗМАХАЦЬ КАДЗІЛАМ**. Падняць шум вакол якой-н. справы, распусціць чуткі. *Вольга размахала кадзілам на ўсю акругу, што яе абакралі, то дзе тых злодзяяў ціпер знойдзяш.* Зачэпічы Дзятл.

**САБАКАМІ НЕ ЎГОНІШ** (*каго*). Пра вельмі хуткі бег, уцёкі. *Во паляцеў – сабакамі ні ўгоніш.* Руда Яварская Дзятл.

**САБАКАМ СЕНАВАЦЬ** *асудж.* Займацца пустой, непатрэбнай справай. *Другія людзі ў гаспадарцы працуюць, а сын мой сабакам сянуе.* Дварчаны Воран.

**САВЕЦКАЕ РАДЗІВА** *гумар.* Той, хто ведае ўсе навіны, плёткі і любіць распускаць іх. *Маруська, савецко радзіво, усім пра гэто раскажа.* Ананічы Дзятл.

**САЛОДКІ ЦУКАР**. Добрае, бесклапотнае жыццё. *Салоткі цукар было панам, бо работы ні знаві, акрамя паляжаць.* Бародзічы Зэльв.

**СВЕТАМ ПАЦЯЧЫ**. Жыць вечна, ніколі не паміраць. *Яму ўжэ шэйсят, мусі, думая, што сьветам пацячэ.* Бершты Шчуч.

**СЕСЦІ Ў ЛАПАЦЬ**. Пацярпець няўдачу, аказацца ў недарэчным становішчы. *Жыта я тады зараней пасеяў, вось і сеў у лапаць.* Забалаць Воран.

**СЛЯДКІ ПРАГРАБАЦЬ**. Успамінаць з жалем, спачуваннем, настальгіяй. *От ні будзя міне – што ты тады рабіць будзяш? Сьляткі будзяш праграбаць, ды позно будзя.* Стокі Свісл.

**СМАРКАЧЫ ПАПУСКАЦЬ**. Плакаць. *Наб'е нас маці, і стаім смаркачы папусціўшы.* Руда Яварская Дзятл.

**СТАЦЬ ДУБА**. Катэгарычна адмовіцца, заўпарціцца. *Як стала дуба – не хачу за гэтага хлопца замуш ісьці.* Казляны Воран.

**СТРЭХУ ЗБІЛА** (*у каго*). Пра неразумныя, не адпаведныя моманту паводзіны і дзеянні. *У міне зусім стрэху зьбіла тады, нагаварыў нечаго са злосьці.* Бародзічы Зэльв.

**СУЧКА З'ЕЛА І ДЫМ НЕ ПАЙШОЎ** *іран.* Што-н. згубілася, прапала, страцілася. – *Я пытаюся, дзе мае кнішкі? – А я знаю, сучка зьела і дым ні пашоў, німа нідзе.* Рыбалы Свісл.

**ТАПОР З ТАПАРА** *асудж.* Неразумны, някемлівы, дурнаваты чалавек. *Пайшоў людзей вучыць, а сам тапор з тапара.* Руда Яварская Дзятл.

**ТОЛЬКІ ШЛЯГІ ПА ГАЛАВЕ** (*каму*) *асудж.* Хто заслугоўвае асуджэння, пакарання. *Во галаву садову маяш, толькі шлягі табе па галаве, гэта ш трэба было дадумацца, у студні хацела паплаваць. Але што яму кажы ні кажы, толькі шлягі па галаве.* Амбілеўцы Шчуч.

**ТРАСЦІ ПАНЧОХУ** *гумар.* Раскашэльвацца, разлічвацца. *Трасі панчоху, расчытвайся скарэй, і пойдзям.* Вольна Бар.

**ТУДЫ ПАЕХАЎ ТУДЫ ПАЙШОЎ** *асудж.* Гаварыць абы-што, непатрэбнае. *Зноў ты мне пачынаеш туды паехаў туды пайшоў.* Сянькоўшчына Слон.

**У ДАРОГУ** (*каму*). Дагаджаць, лісліваць, падхалімнічаць. *Такі ўжэ наравісты, увесь час трэба гаварыць яму ў дарогу, ба калі што ні па яго, та пачыная нарвавацца, аш халера яго бярэ.* Бабіна Гродз.

**У ДРЫСЬ** *неадабр.* Вельмі моцна (п'яны). *Пецянька сёньня п'яны ў дрысь. Піліпок вёў пад рукі, бо сам ні мох ісьці.* Мацвееўцы Ваўк.

**У ДУГУ АКРУЦІЦЬ** (*каго*). Пакараць каго-н. *Не зробіш гэтага – у дугу акручу!* Казляны Воран.

**У ЗАПАЛЫ**. У нешта спрэчнае, канфліктнае (пайсці, палезці, пусціцца і інш.). *Тады ён нагаварыў абы-чаго, чаго ні трэба было. Пазьней толькі паняў, што дарэмна палес у запалы.* Руда Яварская Дзятл.

**У КАРЫЦЕЧКУ ЗАМЕШАНА** (*каму*) *зневаж.* Пра немагчымасць удзелу ў чым-н. *Ні тваё дзело! Табе вун у карыцячку замешано.* Бершты Шчуч.

**У ЛАСЦЫ** (*да каго, з кім*). У добрых адносінах з кім-н. *Калі ў ласцы да чалавека, ды й жыцё ляхчэйшо.* Балотца Навагр.

**У РАДЗЮШКАХ** *неадабр.* У стане моцнага ап'янення. – *А ці Янак у хаці? – Янак ужэ даўно ў радзюшках! Такі п'яны, што гаварыць ні можа!* Драчаны Свісл.

**У ТОЙ СЛЕД**. След у след, неадступна (ісці). *Я ішла ў той сьлет за бацькам, а за мной ужо завея замятала сьляды, і адразу стала ні відаць.* Пеляса Воран.

**У ХВОСТ** *неадабр.* Неадступна, следам (хадзіць за кім-н.). *Што ты за мной у хвост ходзіш, месца табе німа.* Зенявічы Навагр.

**ФАЛЬДЫ НА ГРУДЗЯХ ЗБІРАЦЬ**. Навучыцца варушыць, матляць рукамі (пра немаўля). *Мой Валоцька ужэ фальды на грудзях зьбірая і сьміецца так файна.* Першамайск Шчуч.

**ХАДЗІЦЬ У ПАРТЫЗАНЫ** *гумар.* Прагульваць заняткі ў школе. *Мы некалі ў школі часто ў партызаны хадзілі, ні хацелі вучыцца.* Зенявічы Навагр.

**ХАЙ БОГ АБНОСІЦЬ** (*каго*). Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. непажаданага, непрыемнага, недапушчальнага. *Як ужэ іх бяда за бядою насьцягая, то хай Бог абносіць.* Занкі Свісл.

**ХАЙ У ВОПАДЗЬ КІДАЕ** (*каго*). Выказванне асуджэння, неадабрэння. *Хай цібе ў вопаць кідая за такія справы.* Рахавец Навагр.

**ХАПУН НЕ ЎХОПІЦЬ** (*каго*). Нічога не здарыцца з кім-н. *Хапун ні ўхопіць гэтых кацянят, хай папішчаць, мо зарас і кошка верняцца.* Багушоўка Гродз.

**ХОЦЬ ЗАПАЛКІ Ў ВОЧЫ ЎСТАЎЛЯЙ**. Вельмі хочацца спаць. *Так сёньня запрацавалася, што ні магу ўжо хадзіць, на сон цягня, хоць запалкі ў вочы ўстаўляй.* Варнакелі Воран.

**ХОЦЬ НА ЛАПАЦЕ ВЫНОСЬ** (*каго*) *неадабр.* Быць моцна, да непрытомнасці п'яным, вельмі многа напіцца. *І нікепскі хлопяц, а як нап'ецца – хоць на лапаце выносъ яго.* Стокі Свісл.

**ХОЦЬ НА МЯСА ЗДАВАЙ** *іран.* Вельмі шмат (хлопцаў, кавалераў). *Тэрас хлопцаў у нашай вёсцы хоць на мяса здавай. І ніхто жаніцца не хоча.* Дварчаны Воран.

**ХОЦЬ У КОСМАС ЛЯЦІ**. Вельмі добрае (здароўе). *Нашаму дзеду зарас дзівяноста, а здароўя ў яго хоць у космас ляці.* Яблынька Дзятл.

**ХОЦЬ У НОС ДАЙ**. Вельмі цёмна. *А цёмна была, хоць у нос дай.* Бершты Шчуч.

**ЦЕНЖКА ЖЫЦЦЁ МАРНЫ ЛЁС**. Выказванне заклапочанасці жыццём, лёсам, неўладкаванасцю. *Няма ані работы, ані грошай. Ценшко жыцё марны лёс.* Бабіна Гродз.

**ЦЁНГНІ МАШКА ТО САБЕ**. Адказ таму, хто скардзіцца на сваё цяжкое становішча. – *Цяшко жыць бяз мужыка ў хаці, усё самой трэбо рабіць... – Цёнгні Машка то собе...* Хрустава Свісл.

**ЧАБАН ЗАДРАЎШЫ** *насмеш.* Фанабэрыста, ганарліва (ісці і пад.). *Ідзе чабан задраўшы, нікого перат сабой ні бачыць.* Лайкоўшчына Лід.

**ЧЫКІ-ПІКІ.** Найлепшым чынам. *Усё будзя чыкі-пікі, абы пагода, а там высахня тоё сено.* Вольна Бар.

**ШТО НА БОК ТО НА НОГІ** *іран.* Невысокі і тоўсты, мажны. *І жонка ў яго таксама, што на бок то на ногі.* Ананічы Дзятл.

**ШТО ПАЛЫНУ НАПІЦЦА** (*каму што*). Вельмі непрыемна, балюча, крыўдна. *Для Марусі бачыць свайго кавалера з другою было што палыну напіцца.* Ананічы Дзятл.

**ЯК БОГ ПАХІЛЯЕ**. Як наканавана лёсам. *Як Бох пахіляя, так і жывуць.* Руда Яварская Дзятл.

**ЯК ВАДУ Ў СТУПЕ ПРАТАЎЧЫ.** Вельмі дрэнна, няўдала (пражыць). *Прычапілася адзін рас цыганка паваражыць мне. Кінула карты й сказала: «Ты пражыла як ваду ў ступе пратаўкла, і нават казаць німа чаго».* Бялужышкі Воран.

**ЯК ВАНТРОБА** *неадабр.* Павольна (ісці, плесціся). *Быстрэй, Галя, даганяй, а то цягняся як вантроба.* Пеляса Воран.

**ЯК ВОШ НА ГРЭБЕНІ** *неадабр.* Залішне, празмерна. *Яна мондрыцца замнога, як вош на грэбені.* Адэльск Гродз.

**ЯК ДА АКНА ДЗВЕРЫ**. Зусім не (патрэбны). *Забірай ты свае лахманы і ідзі згэтуль! Патрэбна ты тут як да акна дзьверы!* Рыбалы Свісл.

**ЯК ЖЫД З ПЕРШАГА ДЗІЦЯЦІ**. Вельмі рады, задаволены і да т. п. *Аддаў замуж дачку за кладаўшчыка, то рады як жыт сь першага дзіцяці.* Амбілеўцы Шчуч.

**ЯК ЖЫД ПАД АСІНАЮ** *неадабр.* Ціха, стоена, непрыкметна (сядзець). *Пры немцах як пан хадзіў, а зараз во сядзіць як жыт пад асінаю.* Мяшэтнікі Маст.

**ЯК ЗАЙЦУ ЗБАНОК** *неадабр.* Зусім не (патрэбны). *Патрэбны ён у гэтум хоры як зайцу збанок.* Дзеравянчыцы Слон.

**ЯК ЗАЯЦ КАБЫЛЕ ВОЗ ПАДЦЯГНУЦЬ** *іран.* Зусім не (дапамагчы). *Аля ш ты і памох прыбраць у хаці як заяц кабылі вос пацьцягнуць.* Пеляса Воран.

**ЯК З БОГАМ ПАГАВАРЫЎ**. Пачуццё значнага паляпшэння здароўя, самаадчування. – *Ну як, памагла табе Насьця? – Ой, як з Богам пагаварыў, нідзе нічого ні баліць.* Зэльва Зэльв.

**ЯК З БОЖАГА ДАЗВОЛУ**. Вельмі добра, дасканала (ведаць што-н.). *Як з Божага дазволу ведаў кожную сьцяжынку ў гэтым лесе.* Бародзічы Зэльв.

**ЯК З БРОВАРА ШЫЛАВІЦКАГА** *насмеш.* Вельмі моцна (нясе, патыхае, смярдзіць перагарам ад некага). *Ну баба, нацюкалася, нясе як з бровара шылавіцкага.* Дзеравянчыцы Слон.

**ЯК З КУЛЯ**. Нечакана, раптоўна (выскачыць). *Ішоў празь лес, аж заяц с кустоў як с куля выскачыў.* Хадзявічы Слон.

**ЯК З СМАРКАТЫМ ЕСЦІ** *неадабр.* Без толку, безвынікова (гаварыць з кім-н.). *Ой, зь ім гаварыць як с смаркатым есьці.* Зачэпічы Шчуч.

**ЯК З ЯГНЯЦІ ВОЎНЫ** (*з каго*). Вельмі мала карысці з каго-н. *Што зь яго возьмяш, зь яго як зь ягняці воўны.* Данцы Маст.

**ЯК КАМЯК У РОТ ЗАПХНУЎШЫ**. Невыразна, неразборліва (гаварыць). *Нешто ты сёньня гаворыш як камяк у рот запхнуўшы. Трэба ш трохі выразьняй.* Малыя Краглі Дзятл.

**ЯК КАРОВА НА НАРТАХ** *іран.* Нязграбна, валюхаста (ісці). *Глянь, ідзе як карова на нартах, зара зваліцца.* Дайнова Воран.

**ЯК КІСЛЯК**. Зняможана, у хваробе (ляжаць). *Дзіцятка тоя ляжала як кісьляк, ажно вырасла тэрас і добра. Знала я, што Метак хутка памрэ, ляжаў цэлы месяц як кісьляк.* Апонаўцы Воран.

**ЯК КОТ ЦЫБУЛЮ** *іран.* Зусім не (любіць). *Любіць старого як кот цыбулю, любіць, покуль у таго грошы есьць.* Ананічы Дзятл.

**ЯК МЁРТВАМУ ЯДА** *іран.* Зусім не патрэбны. *Бабы кажуць, што я яшчэ выду замуш, але мне той замуш як мёртваму яда.* Вольна Бар.

**ЯК НАКРУЧАНЫ**. Без упынку, без перадыху, у пастаянным руху. *Цэлы дзень ані сесьць, а ні стаць пастаяць – столькі работы... Як устаняш з раніцы, і лётаяш як накручаны.* Амбілеўцы Шчуч.

**ЯК НА СВІННІ БЛОХ** *неадабр.* Вельмі многа (гонару). *Пятрусёва дачка і знацца ні с кім ні хоча, гонару як на свіне блох.* Ананічы Дзятл.

**ЯК НУДА** *асудж.* Павольна (рухацца, рабіць што-н.). *Чаго ты цягнясься як нуда.* Даўгялы Воран.

**ЯК ПАЛЕНАМ ПА САГАНЕ** *неадабр.* Неўпапад, абы-што (сказаць). *Ой ён быў сьмешны, як скажа што, як паленам па сагане.* Старынкі Шчуч.

**ЯК ПАНЦАК**. Нерухома, ціха (сядзець). *Быў дошч, але я адзеў плашч і сядзеў як панцак на возі.* Задвор'е Навагр.

**ЯК ПАТЭЛЬНЯ** *неадабр.* Вельмі глухі. *Не стары яшчэ, а глухі як патэльня.* Шынкаўцы Шчуч.

**ЯК ПЯЧАЙКА ПЯЧЫ**. Гаварыць што-н. непрыемнае, крыўднае. *Алі ш так пачне гаварыць, уся раўно як пячайка пячэ.* Крапіўніца Свісл.

**ЯК РАК НА БАГДАНАЎСКАЙ ГАРЫ СВІСНЕ**. Невядома калі або ніколі. *Я зь ёю паміруся як рак на Багданаўскай гарэ сьвісьня.* Ананічы Дзятл.

**ЯК РОВАР** *жарт.* Вельмі худы. *Што з таейных грошаў, сюды лятае, туды лятае, зрабілася як ровар.* Копаніха Смарг.

**ЯК СВЕЧКА МАЁВА** *неадабр.* Роўна, нерухома, на месцы (стаяць). *Што ты тут стаіш, як сьвечка маёва, што табе тут трэба?* Забалаць Воран.

**ЯК СЫЧ НА ПЛОЦЕ** *неадабр.* Надзьмуўшыся (сядзець), быць пакрыўджаным. *Сядзіць як сыч на плоце с самаго ранку.* Лозкі Дзятл.

**ЯК СЯРПОМ ПА ШЫІ** (*каму што*). Вельмі непрыемна, балюча. *А мацяры такія сваркі як сярпом па шыі, вельмі перажывая.* Зэльва Зэльв.

**ЯК У ЖЫЦЕ КУПАЦЦА**. Добра, багата, заможна (жыць). *Ну яны й жывуць, як у жыце купаюцца.* Новы Двор Свісл.

**ЯК У РУПАР**. Моцна (кашляць, бухаць і пад.). *Дзіця прастыло і бухая як у рупар на ўсю хату.* Дарагляны Маст.

**ЯК ФЕЙ**. Засяроджана, задуменна. *Што ты як фей стаіш? Ходзь бы што сказаў.* Чуркі Ашм.

**ЯК ЧОРТ ВАРОНУ ПАГНАЎ.** Надзвычай хутка (бегчы). *Ну і панёсься малы, як чорт варону пагнаў.* Руда Яварская Дзятл.

**ЯК ЧОРТ ДА СМАЛЫ** *неадабр.* Неадчэпна прыставаць, чапляцца да некага. *Што ён за чалавек, прыліп як чорт да смалы... Казала яму, што ні буду продаць карову, а яму ніначай прадай і прадай.* Грабяні Гродз.

*М. В. Абабурка*

## ЖЫВЕ МОВА – ЖЫВЕ НАРОД, ЖЫВЕ НАРОД – ЖЫВЕ МОВА

Выслоўі, пададзеныя ніжэй у алфавітным парадку, запісаны ад маёй маці – Абабурка (Буйвіла) Ефрасінні Пятроўны (1914–1995), якая амаль усё сваё жыццё правяла ў в. Морач Клецкага раёна Мінскай (былой Баранавіцкай) вобласці, і ад маёй цешчы – Рэдзька (Паўлоўскай) Марыі Сяргееўны (1914–2003), якая ў асноўным пражыла ў в. Тумілавічы Докшыцкага раёна Віцебскай (былой Маладзечанскай) вобл. Матэрыял збіраўся на працягу 1968–2003 гг. Асаблівасці мясцовага вымаўлення пераважна захоўваюцца. У круглых дужках таксама адзначаюцца варыятныя лексічныя сродкі.

*Ад дабра дабра не шукаюць.* Морач Клецк.
*Ад добрага куса я й вады нап'юся.* Тумілавічы Докш.
*Ад свайго – ізжога, ад чужога – нічога* (*анічога*). Тумілавічы Докш.
*Адтуль гарачо, адсюль балячо.* Морач Клецк.
*Адзін – задзірака, другі – неўступака.* Тумілавічы Докш.
*Адзін як вецер у полі.* Морач Клецк.
*Адзін як месяц на небі.* Морач Клецк.
*Адно – а волі жадно.* Морач Клецк.
*Бабы і мужыкі – (усе) з адной мукі.* Тумілавічы Докш.
*Беларусы – такая нацыя, якую не бярэ й радыяцыя.* Морач Клецк.
*Бог ды Бог, але (ж і) сам будзь не (я) плох.* Тумілавічы Докш.
*Бог не без мілосці (літосці), а бядняк (казак) не (я) без кагосьці.* Тумілавічы Докш.
*Будзем жывы – будзем (і) рады.* Морач Клецк.
*Будзем жыць як набяжыць.* Морач Клецк.
*Бывае (-ць), што баба на каня сядае (-ць).* Тумілавічы Докш.
*Бывае (-ць), што баба на каня не сядзе (-ць).* Тумілавічы Докш.
*Бывае (-ць), што варона (сабака) лапці абувае (-ць).* Тумілавічы Докш.
*Век зжыць – не мяшок сшыць.* Тумілавічы Докш.
*Восень – пагод восе (і) м.* Морач Клецк.
*Восень – есці не (і) просім.* Морач Клецк.
*Вышэй за пуп (пупа) не (і) падскочыш.* Морач Клецк.
*Вышэй за пуп (пупа) не (і) пераскошыш.* Морач Клецк.
*Вышэй сябе (за сябе) ні падскочыш.* Морач Клецк.
*Горла ўсё пражорла (прапёрла).* Тумілавічы Докш.
*Герой перад свіннёй старой.* Тумілавічы Докш.
*Глядзець (глядзяць), як у лубе (ілбе) вока.* Морач Клецк.
*Гультай, абібок, але ў свой бок.* Морач Клецк.
*Гультай, гультай, а любіць дай-дай.* Морач Клецк.
*Гэта не (ні) кума, што пад кумам не была.* Морач Клецк., Тумілавічы Докш.

*Далёкая дарога смяецца з блізкай.* Тумілавічы Докш.
*Дзіця не іголка: знойдзеш долка.* Тумілавічы Докш.
*Дзе фэст, там і я ест.* Тумілавічы Докш.
*Дзе кухарак шэсць, там няма чаго есць.* Тумілавічы Докш.
*Дзе баба жондзіць, там чорт блондзіць.* Тумілавічы Докш.
*Дзякуй (дзякаваць) дажджышку, што зрабіў аддышку (перадышку).* Морач Клецк.
*Дзяцей расціць – работу (суткамі) рабіць.* Тумілавічы Докш.
*Дзяцей чакай – і торбу (сумку) прыбірай (збірай).* Морач Клецк.
*Добры і ахвочы глядзіць скупому ў вочы.* Тумілавічы Докш.
*Дурань дае, а разумны бярэ.* Морач Клецк.
*Дурань дае (-ць), а разумны (вумны) бярэ (-ць).* Тумілавічы Докш.
*Дурань ці п'яніца – адно і тое (я) ж.* Тумілавічы Докш.
*Дурню хоць дзверы, абы на плячах (-ох) насіць.* Морач Клецк.
*Дурню хоць ступа, абы на плячах (спіне) насіць.* Тумілавічы Докш.
*Дурню хоць плюй у вочы, а ён кажа: дождж ідзе.* Морач Клецк.
*Дурнем быў, дурнем і застаўся (-се).* Морач Клецк.
*Дурнем нарадзіўся, дурнем і памёр.* Морач Клецк.
*Еш, пакуль рот свеж, бо як (ак) памрэш, з (с) сабой не (і) забярэш.* Морач Клецк.
*Еш, пакуль навылёт праходзіць.* Морач Клецк.
*Жыць ды жыць (зжыць, пажыць, пажываць).* Морач Клецк.
*Жыць – дзяцей расціць.* Тумілавічы Докш.
*Жыць – як набяжыць: не (ні) так, як (ак) хочацца, а як прыходзіцца.* Морач Клецк.
*Жыву: хлеб жую ды воду (водку) п'ю.* Морач Клецк.
*Ждаў, ждаў – і жданкі паеў.* Тумілавічы Докш.
*За выбірачку дае Бог гарачку.* Морач Клецк.
*Зараз (зарэ) за так і тата маму не цалуе.* Морач Клецк.
*За сон не (ні) бярусе (-ся).* Морач Клецк.
*За сон не (ні)* бярыся *(-се).* Морач Клецк.
*Закапыліць губу – і йдзе на згубу.* Морач Клецк.
*Замужам (у гасцях) добра (э), а дома лепш (лепей).* Морач Клецк.
*За такія рэчы гром табе у плечы.* Морач Клецк.
*І Бог не бярэ (-ць) і чорту не (я) трэба.* Тумілавічы Докш.
*І чорт не бярэ (-ць) і Богу не (я) трэба.* Тумілавічы Докш.
*І на гнілы тавар пакупнік е (есцека).* Морач Клецк.
*І піў, і еў, а плаціць не (ні) хацеў (схацеў).* Морач Клецк.
*Каб знаў, дзе паваліішся, там сеў бы.* Тумілавічы Докш.
*Казаў Бог, каб ты памог, а казала Божа маці, што не (ні) трэба памагаці.* Морач Клецк.
*Кавалер – свінні па каўнер.* Морач Клецк.
*Кап-кап-кап, ды і (а потым) цур-р-р.* Тумілавічы Докш.
*Калі сабаку (сабацы) няма чаго рабіць, дык (дак) ён блохі шукае (яйца ліжа).* Морач Клецк.
*Каб да еслі б на неба ўзлезлі б.* Морач Клецк.
*Кій ці палка – адна паганялка.* Тумілавічы Докш.
*Кухарак шэсць, а няма чаго есць.* Тумілавічы Докш.
*Куды вецер вее, туды я хілюся.* Морач Клецк.
*Ласкі не каляскі, на іх не (ні) катаюцца.* Морач Клецк.
*Ленькі (улезлі) у каленькі.* Тумілавічы Докш.
*Лепш саломенны муж, чым залатыя дзеці.* Тумілавічы Докш.
*Ляціць, як з піпкі.* Тумілавічы Докш.
*Мужык, прыкусі язык.* Морач Клецк.
*Многа бярэш, а (але) мала даеш.* Морач Клецк.
*Мужыкі ядуць, пакуль досць, бабы – пакуль ёсць.* Тумілавічы Докш.
*Малыя дзеткі – малыя бедкі, выраслі дзеткі – выраслі (вырастуць) бедкі.* Тумілавічы Докш.
*Менш часцей – нам прасцей.* Тумілавічы Докш.
*Мужык да (жончынай) морды, як сабака да торбы.* Тумілавічы Докш.
*Малыя дзеткі спаць не даюць, а вялікія жыць (спакойна) не (ня) даюць.* Тумілавічы Докш.
*Малыя дзеткі спаць не даюць, а з вялікімі – сам не засынаеш (не заснеш).* Тумілавічы Докш.
*На бітай дарожцы (дарозе) гарох не расце (-ць).* Тумілавічы Докш.
*Наелася баба жаб, дык і (дак і) крумкае.* Морач Клецк.

*Наедзе гасцей з усіх абласцей.* Тумілавічы Докш.
*На ўсякае хаценне ёсць цярпенне.* Тумілавічы Докш.
*Навука – мука, а (але) за спінай насіць не (ні) будзеш(-м).* Морач Клецк.
*На вялікую адлегласць і іголкі – цяжар.* Тумілавічы Докш.
*Не абманеш (падманеш) – не пражывеш (-м).* Морач Клецк.
*Не драпячы драбней маку.* Морач Клецк.
*Не (ні) спіш – не (ні) сніш.* Морач Клецк.
*Не (ні) дай Божа гэтага бачыць (чуць, да гэтага дажыць, дачакацца* і г. д.). Морач Клецк.
*Не давядзі, Госпадзі, бачыць (верыць* і інш.) *гэтай (етай) поскудзі.* Тумілавічы Докш.
*Не хвалі за яду (стол) сеўшы, а хвалі паеўшы (пад'еўшы).* Тумілавічы Докш.
*Не (ня) еў – не (ня) мог, а паеў – не (ня) рук не (ня) ног.* Тумілавічы Докш.
*Не (ня) плакала дзеўка, замуж ідучы, (то) хай паплача, штаны (хрэн) дзеручы* (г. зн. мыючы, таркуючы – *М. А.*). Морач Клецк., Тумілавічы Докш.
*Па адном, па адном – і ўсе памром.* Тумілавічы Докш.
*Пабудзь, пакуль не (ні) пойдзеш.* Морач Клецк.
*Падманам (абманам) доўга (о) не (ні) пражывеш.* Морач Клецк.
*Павер, што й жаба – звер; павер: жаба тожа (э) звер.* Морач Клецк.
*Палі ў печы ды (да) грэй плечы – усё роўна (сяроўна, сераўно) зіма.* Морач Клецк.
*Плачучы рот не направіш (паправіш).* Тумілавічы Докш.
*Прывет на старасці лет.* Тумілавічы Докш.
*Прывет ад старых шчыблет.* Тумілавічы Докш.
*Пнецца (прэцца) як жаба на купіну.* Морач Клецк.
*Прападзеш як сліна.* Морач Клецк.
*Пры(й)шлі каляды, ды (але) не ўсе (ім) рады.* Тумілавічы Докш.
*Піў, піў, а пра дружбу (й) забыў.* Морач Клецк.
*Раз, раз – і на матрас, чык, чык – і мальчык.* Морач Клецк.
*Разгуляўся (расхадзіўся, разбегаўся) як свіня на дождж.* Морач Клецк.
*Работа не (ня) бес – не ўцячэць (збяжыць) у лес.* Тумілавічы Докш.
*Растуць дзеткі ды не (ня) так, як кветкі.* Тумілавічы Докш.
*Рэж, піла, сама – у мяне сілы няма.* Тумілавічы Докш.
*Сам такі – і другому даеш такія адзнакі.* Тумілавічы Докш.
*Свайго не (ня) меўшы, будзеш спаць не (ня) піўшы і не (ня) еўшы.* Тумілавічы Докш.
*Свой убаку, а сусед у ваку.* Тумілавічы Докш.
*Сонца ўгару – снег у зямлю.* Тумілавічы Докш.
*Сказаў бы па-польскі, але (ды, да) язык конскі.* Морач Клецк.
*Сказаў «маць» – трэба даць.* Морач Клецк.
*Спіш – сніш.* Морач Клецк.
*Стыд не (ня) дым: вочы не (ня) выесць.* Тумілавічы Докш.
*Стары што зробіць – як Бог дасць, што з'есць – лічы: прапала.* Тумілавічы Докш.
*Стары што з'есць, а малы што зносіць – лічы: прапала.* Тумілавічы Докш.
*Сыны – не (ня) дочкі: будзеш хадзіць без сарочкі.* Тумілавічы Докш.
*Там гарачо, а тут балячо.* Морач Клецк.
*Там невыежно (а), а тут невылежно (а).* Морач Клецк.
*То не кума, што пад кумам не была.* Тумілавічы Докш.
*Трохі няежно, затое вылежно.* Морач Клецк.
*Трымай свечку ўбаку, а суседзяў (суседку, суседа) у ваку.* Тумілавічы Докш.
*Тэлефон (ціліфон) не вінаваты, што табе (нам, вам) ніхто не (ні) звоніць.* Морач Клецк.
*У вялікай дарозе і іголка – цяжкасць (цяжар).* Тумілавічы Докш.
*Узяло, як багатага (о) за жывот.* Морач Клецк.
*У аднаго паснедаў, у другога (о) паабедаў, у трэцяга (о) павячэраў – вот так і жыву.* Морач Клецк.
*У горадзе жыць – махляром (абманшчыкам) быць.* Морач Клецк.
*У горадзе як (ак) не (ні) падманеш (абманеш), дык (дак) не (ні) пражывеш.* Морач Клецк.
*У панскую кашу, ды (але) не (ня) нашу.* Тумілавічы Докш.
*Усе глядзяць, што яны (мужыкі) ядзяць.* Тумілавічы Докш.
*Усе мужыкі з аднае мукі.* Тумілавічы Докш.
*Усе відальцамі, а я (ты, ён, яна, яно, яны, вы, мы) пальцамі.* Тумілавічы Докш.
*У няўмекі рукі калекі.* Морач Клецк.
*У мяне (рот), як і ў цябе: колькі не (ні) з'еш – усё мала (сераўно, сяроўна есці хоча (э) цца).* Морач Клецк.

*Хваляць, покі* (*пакуль*) *не* (*ня*) *паваляць*. Тумілавічы Докш.
*Хваляць, хваляць, а после уваляць*. Морач Клецк.
*Хоць за вала, абы дома не* (*ня*) *была*. Тумілавічы Докш.
*Хоць целяпей, але ўдваіх ляпей*. Морач Клецк.
*Хоць я і* (*й*) *мразь, але ўсе на мяне глядзяць*. Тумілавічы Докш.
*Хоць які мужчына, але зь ім – дровы і* (*й*) *лучына*. Тумілавічы Докш.
*Хто зь іх лучшы* (*лепшы*): *хлопец дроў насячэ* (*-ць*), *а дзеўка бліноў напячэ* (*-ць*). Тумілавічы Докш.
*Хто пойдзе нацянькі, той праходзіць* (*пройдзе*) *тры дзянькі*. Тумілавічы Докш.
*Хто прастуе, той дома не* (*ні*) *начуе*. Морач Клецк.
*Хто хлусіць, той вып'е і закусіць, а хто праўду кажа, той так* (*ні еўшы*) *спаць ляжа*. Морач Клецк.
*Хто ўмее аддымаць і дзяліць* (*дзяліцца*), *той і ў начальніках будзе* (*хадзіць*). Морач Клецк.
*Цешча шануе зяця для свайго* (*ж*) *дзіцяці*. Тумілавічы Докш.
*Цюк ды цюк – лепей дзеўка, чым дзяцюк*. Тумілавічы Докш.
*Чужое дабро вылазіць* (*вылезе*) *цераз рабро*. Морач Клецк.
*Чорт як саган* (*чаган, цыган*). Морач Клецк.
*Што б ні рабіць, абы нічога* (*о*) *не* (*і*) *рабіць*. Морач Клецк.
*Што ні гавары, а ён* (*яна, яно, яны*) *дагары*. Морач Клецк.
*Эх, цешча мая, я твой зяць буду*. Морач Клецк.
*Эх, цешча мая, а дзе ж дочка твая*. Тумілавічы Докш.
*Юда быў, юдаю і застаўся* (*се*). Морач Клецк.
*Юдаю радзіўся* (*нарадзіўся*), *юдаю і памёр*. Морач Клецк.
*Як справа, так і злева*. Морач Клецк.
*Як мажам, так і едзем*. Морач Клецк.
*Якая мысль, такая й жызнь* (*жысцьь*). Морач Клецк.
*Якая матка, такое й дзіцятка*. Тумілавічы Докш.
*Як не* (*я*) *еў – не* (*ня*) *мог, як паеў* (*пад'еў*) *– не* (*ня*) *рук не* (*ня*) *ног*. Тумілавічы Докш.
*Як умееш аддымаць і дзяліць, то і* (*й*) *начальнікам будзеш* (*станеш, паставяць*). Морач Клецк.

*Н. Ф. Патапава*

## АДМЕТНЫЯ ВЫСЛОЎІ ВЁСКІ ПАЛЕССЕ
## (Чачэрскі раён Гомельскай вобласці)

### А спадарку весці – не лапці плесці

Аддай жонку, ды сам – у саломку[1].
Даём карове дулю з макам, а даіць бяжым з бакам.
Дзеравенская работа не багаця, а гарбаця.
Доўга запрагаюць, ды быстра ездзяць.
Запас бяды не чыніць.
Знайшоў – не ўзрадаўся, згубіў – не засмуціўся.
Жыраваць дык жыраваць – за яйцо ды ў боршч.
Жыццё пражыць – не лукошка сплесці.
Каб не Савіла, ды не Варварыла, дык пакрывала ісправіла б.
Лепш у латаным, чым у хватаным.
Наша сора шые ды пора.
Не гані каня кнутом, а аўсом.
Не хвалі не кілу, не волю.
Піліпаўскія ночкі дзелаюць сарочкі.
Ранняя сяўба не родзіць, ды і з насення не зводзіць.

[1] Падборка выслоўяў, дасланая Н. Ф. Патапавай, цалкам захоўвае аўтарскую форму запісу. Тэкставыя запісы пераважна адаптаваныя збіральнікам да нормаў беларускай літаратурнай мовы, аднак у некаторых выпадках з улікам адметнасцей формы ў выслоўях адлюстроўваюцца асаблівасці мясцовага маўлення. Размеркаванне выслоўяў па сэнсава адрознівальных групах належыць аўтару.

Свая сырамяжка не цяжка.
У каровы малако на языку.
Улетку – ножкай, а ўзімку – ложкай.
Харашо зрабіць – спінка забаліць, харашо згатаваць – трэба пастаяць.
Хлеб – не зяць, паглядзяць ды з'ядзяць.
Хоць не скора робіць, затое і не хвора.
Хоць сто коп, хоць адзін сноп – усё роўна на адзін год.
Хто святы пытае, той лапічкі латае.
Хто цягне, таго і паганяюць.
Чалавек збірае грошы, а чорт машну шые.
Як бы хто пёк ды варыў, дык бы еў ды хваліў.
Як прапаў мех, то і на бацьку грэх.
Як просяць, дык жнуць і косяць.
Якая не барышэнька, а прыбяры харашэнька.
Які не дожджычка, а лодырам аддышка.

## Менш гавары – больш рабі

Бог шэльму меце.
Будзе галава, будзе і барада.
Воўк сабакі не баіцца, а звягі не любіць.
Да пары збан ваду носіць.
Загадай дурню маліцца, дык ён лоб разаб'е.
Заракалася свіння грязь не есці.
Каню не вер у дарозе, а бабе дома.
Карову б'юць за зык, а бабу за язык.
Куме, куме, дурны ў цябе ў вуме.
Курыца на сваю галаву пяе.
Не дай бог свінне рогі, а мужыку панства.
Не смейся чужой бядзе, свая наперадзе.
Не разлівай чужых слёз, самому прыйдзецца напіцца.
Не той друг, хто мёдам мажа, а той, хто праўду скажа.
Не тронь чужое цела, будзе сваё цэла.
Не хвалі сам сябе, хай людзі пахваляць.
Пан любіць даносы, а даносчыкаў – не.
Сварка ад бога, гнеў ад чорта.
Слухайце, баяры, што князь бае.
Харошая мысля прыходзіць апасля.
Чужыя грахі іспаведуем, а сваіх не ведаем.
Язык у роце, як чорт у балоце.
Як п'ян, дык пан, а праспіцца, дык і свінні баіцца.

## Дзеці і іх выхаванне. Сям'я

Адзін і той нелюдзім.
Ад маленькіх дзетак рукі баляць, а ад вялікіх – сэрца.
Ад харошага целяша і трэска хараша.
Брат мой, але еж хлеб свой.
Будзеш даваць дзецям волю, сам будзеш у няволі.
Дзве маткі ў адным вуллі не ўжываюцца: раіцца будуць.
За зубамі пад'есць, за маткай паспаць.
Каждая сварка ў сям'і папраўка.
Маленькія дзеткі – маленькія бедкі, дзеткі падрастаюць – гора дабаўляюць.
Па пародзе куры хахлаты.
Сава не родзіць сокала, а такога, як сама.
Сваё ёсць сваё, нямытае і тое бяло.
Сеннік – не падушка, нявестка – не дачушка.

Такая матка, як у барана хатка.
У каго дочкі, у таго маткі без сарочкі.
У каго матка, у таго і галоўка гладка.
У каго сем – тым і доля ўсем, а ў каго адно – і тое не ладно.
Чужы ворах веяць – вочы парушыць.
Чым бы дзіця не цешылася, абы не плакала.
Якое палена – такі і клін, які бацька – такі і сын.

## Каханне. Шлюб. Вяселле

Брат любіць сястру багатую, а мужык жонку здаровую.
Выйшла б і за пана, ды доля пагана.
Вяселле сарочку знойдзе.
Другая жонка, як чужая світка.
За выборкі падкіне чорт аборкі.
Замуж выйсці – не напасць, абы замужам не прапасць.
З прыгожага ліца не спячэш блінца.
Краса да вянца, а дурак да канца.
Любоў зла – палюбіш і казла.
Не дай божа, сем раз сяліцца і сем раз жаніцца.
Не радзіся холен, а радзіся долен.
Не тое дабро, што прывязеш, а тое, што замужам нажывеш.
Папаў у вараны, каркай, як яны.
Па Сеньку і шапка.
Удвох усё-такі лепшы брох.
У харошага мужа і чуліндра жонка, а ў плахога – і ў пана раба.
Хто каго любіць, той таго і чубіць.
Які Бог кусок удзяліў, такі і цяпай.
Якія самі, такія і сані.
Які Хомка, такая і жонка.
Я свайго Кузьму, дзе хочаш вазьму, а ты сваю Арынку павадзі па рынку.
Нявестцы нада ладзіць, як скулу гладзіць.

## Чалавек і яго якасці

Ад роду не ў воду.
Будзеш даха, будзеш і ўзяха.
Вінавата хата, што нарадзіла Ігната.
Гэты чалавек ні Богу свечка, ні чорту качарга.
Дарма што сух, затое злы дух.
За чужой спіной кожны герой.
З кім павядзешся, таго і набярэшся.
І чорт бы піў, як бы хто наліў.
Кожны чорт сваё балота хваліць.
Ласкавае цялятка двух матак сасе.
Маўчыць, ды сем навучыць.
Ні сноп звязаць, ні слова сказаць.
Не плюй у лужу, можа прыйдзецца напіцца.
Плачуць, ды слёз людзі не бачуць.
Хто напрамую ходзіць, той дома не начуе.
Ціхі чалавек, ды глыбока зямлю рые.
Чалавек не арэх, адразу не раскусіш.
Як ё грошы, будзеш усім харошы.
Які мяшок пашыўся, такі і парвецца.
Як чалавек багаты, завуць у кумы і сваты.
Яхідства і яду – спераду і ззаду абыйду.
Жыві не тужы, і памрэш не ў убытак.
Часам з квасам, парой з вадой.

## Доля. Старасць. Хаўтуры

Вялікаму дабру не радуйся і большога гора не пужайся.
Зарыта і забыта.
Каб знаў, дзе ўпаў, саломкі б падаслаў.
Калі не паміраць, усё роўна дзень траціць.
Клін клінам выбіваюць.
На каго Бог, на таго і людзі.
На гэтым свеце гаравалі і на той прыгатавалі.
На свеце заўсёды так: палавіна свету скача, а другая плача.
Не даў Бог долі, не шукай ніколі.
Не тыя ўжо леці, каб спаць у клеці.
Няма долі – не купіш.
Прыходзіць каза да ваза.
Сваю долю канём не аб'едзеш.
Смерць ды радзіны не выбіраюць гадзіны.
Удавіно – савіно, дзе ні крыкнеш, адусюль гоняць.
Хоць піў, ды быў.
Як памрэ багачок, дык прыйдзе і поп і дзьячок.

## Сказаў як звязаў

Бог усё бачыць, не гуляе, усё перамярае.
Будзе руб, будзе і вум.
Воўк на адно месца два разы не ходзіць.
Вочы і цара ругаюць.
Вялікі кавалак рот дзярэ.
Да Духа (Тройцы) не скідай кажуха.
Дорага купіш – міла, а дзешава – гніла.
Жыццё пражыць – пабудзеш і на кані і пад канём.
За спрос не б'юць у нос.
Залез у бойню, морды не жалей.
Золата і з гразі відна.
Ёсць брэдня, ды не кожнага дня.
Круці не круці, а рубля заплаці.
Круці не круці, а трэба памерці.
Лепей галодная воля, чым залатая клетка.
Мыш капы не баіцца.
Мыш у крупах не раз не здохла.
На воўка заўсёды палоўка.
На вяку пабудзеш і ў гляку.
Не мой госць, не любы і гасцінцы.
Не то тавар, што ляжыць, а той, што бяжыць.
Не шукай палонік паміж ложак.
Не яму дала найму.
Папаў сляпы на сцежку.
Сваю клячу здалёку бачу.
Сыты па галоднаму не спагадае.
Чужая скварка рот дзярэ.
Чужым хананём сваю радню памянём.
Увосень і кабан паросен.
У старцах жыць, ды з перцам есці.
У чужым воку парушына відна, а ў сваім і браўно не пабачыш.
Хоць і ззаду, ды ў адным стаду.
Ці савой аб пень, ці пнём аб саву, усё роўна саве больна.
Ці хлоп, ці воўка, абы кішка была поўна.
Як будзеш спаць да дня, насніцца трызня.

***

Вербная нядзеля завербіць, а Белая (перад Вялікднём) забеліць.
Без Бога не дарога, без хлеба не абед.
Хочаш рассмяшыць Бога, раскажы яму пра свае планы.
Каб людзі не мерлі, дак бы неба падперлі (вельмі шмат іх было б).
На царскім дні, хоць шубу мні.
У харошым жываце і далато не прападзе.
За лычку рамяшком плацяць.
Жыві не тужы і памрэш не ў убытак.
Часам з квасам, парой з вадой.
Сраку багачу, а я свой хлеб малачу.
Часам з квасам, парой з вадой.

***

Не хочаш зло – не рабі дабра.
З печкі ўпасць і срачку не ўдарыць.
Язык не лапатка, чуе дзе сладка.
Першая Прачыстая са світкай, другая з махныткай.
Каб знаццё, што ў кума піццё.
Які не Панцялей, а думы весялей.
Дай Бог добрага веку і ў жаласці памерці.
Заўтракі абедню порцяць.
Вашым салам ды па вашай шкуры.
Мамка гаруе і дзеткам даруе.
Меней будзеш знаць, болей будзеш спаць.
Меней будзеш гаварыць, болей пачуеш.
Дзе хто не (а) бедае, той таго не ведае.
Што ні хата, то горам напхата.

# НАВУКОВЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

*В. Д. Старычонак*

## ДРУГАСНЫЯ НАМІНАЦЫІ НА БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКА-ПОЛЬСКІМ ПАГРАНІЧЧЫ

Моўная намінацыя перш за ўсё звязана з прыродай і сутнасцю значэння, яго статусам, з высвятленнем таго, як суадносяцца паміж сабой паняційныя формы мыслення, якім чынам ствараюцца назвы і як яны замацоўваюцца за рознымі фрагментамі аб'ектыўнай рэальнасці. Механізм моўнай намінацыі адносіцца да ліку пастаянна дзеючых працэсаў рэагавання на з'яўленне новых рэалій, іх моўнае абазначэнне, а ў выніку – актыўнае развіццё лексічнай сістэмы, папаўненне слоўнікавага складу мовы, пашырэнне вербальных сродкаў рэпрэзентцыі рэчаіснасці.

Сістэма намінатыўных сродкаў мовы характарызуецца двухузроўневай арганізацыяй, якая складаецца з першасных і другасных намінацый. Сучасны этап лінгвістычнай навукі характарызуецца павышанай цікавасцю да праблем другасных намінацый, якія разглядаюцца з самых розных пазіцый. В. Тэлія прапануе называць другаснымі ўжо вядомыя ў мове намінатыўныя адзінкі, якія выступаюць у новай для іх функцыі называння [12, с. 129]. Для В. Гака другасная намінацыя адлюстроўвае працэс, пры якім адна і тая ж форма прыстасоўваецца для выканання іншых функцый [4, с. 243]. У некаторых даследаваннях размежаванне паміж першаснай і другаснай намінацыямі праводзіцца на ўзроўні слова і яго значэнняў, а таксама словазлучэння і сказа: пад першаснай намінацыяй разумеецца моўная рэпрэзентацыя аб'ектаў рэчаіснасці пры дапамозе слоў і словазлучэнняў, пад другаснай – пры дапамозе сказаў; першасная намінацыя – гэта першапачатковая намінацыя, зыходная назва пэўнага фрагмента рэчаіснасці (найбольш старадаўнія невытворныя словы тыпу *піць*, *белы*, *чорны* і інш.), другасная намінацыя – гэта словы, утвораныя пры дапамозе розных словаўтваральных сродкаў (*ляснік* (*ад лес*), *чытальнік* (*ад чытаць*)), мнагазначныя словы, якія набылі новыя значэнні без змены іх матэрыяльнага вобліку, а таксама фразеалагізмы, перыфразы, эўфемізмы [3, с. 322–330; 5, с. 44–63; 12, с. 129–221].

У дадзеным арыкуле другасныя намінацыі разглядаюцца з семасіялагічнага пункту гледжання. Пад другаснымі разумеюцца лексіка-семантычныя варыянты (у далейшым – ЛСВ), утвораныя ў сваёй большасці на базе зыходнага значэння слова, якое пэўным чынам трансфармуецца. Пры гэтым выкарыстоўваецца гукавое афармленне (фанетычны воблік) ужо існуючай у мове лексічнай адзінкі. Другасныя ЛСВ не проста называюць пэўны фрагмент рэчаіснасці, а фармулююць пра яго ўяўленне, канцэптуалізуюць яго ў чалавечай свядомасці. Гэта новае бачанне прадмета, актуалізацыя яго асобных якасцей і ўласцівасцей, відазмяненне ўражанняў аб прадмеце.

Узнікненне другасных намінацый абумоўлена прыродай і асаблівасцямі чалавечага мыслення, яго абстрагаваным і абагульняльным характарам, здольным адлюстроўваць акаляючую нас рэчаіснасць ва ўзаемасувязі і ўзаемаабумоўленасці ўсіх яе элементаў. Практычна ўсе віды другасных намінацый з'яўляюцца вынікам асацыятыўнасці чалавечага мыслення, пры якім выбар прыметы ў працэсе ўтварэння новага ЛСВ дыктуецца не толькі характарам аб'екта абазначэння, але і адносінамі да яго суб'екта, узроўнем ведання гэтага аб'екта, вопытам узаемадзеяння з ім.

У аснове другаснасці – дыспрапорцыя, асіметрыя (ці аліганамія) моўнага знака, сутнасць якой заключаецца ў адсутнасці ізамарфізму паміж планам выражэння і планам зместу, у выкарыстанні абмежаванай колькасці слоў (ці іншых знакаў) для абазначэння неабмежаванай колькасці прадметаў і з'яў навакольнага свету, невычарпальнага канцэптуальнага зместу. Сістэма другасных намінацый, як справядліва зазначае М. В. Нікіцін, кампенсуе недастатковасць сістэмы першасных абазначэнняў [7, с. 237–238].

Другасныя намінацыі выконваюць не дапаможную, дадатковую, а даволі важную ролю ў працэсе моўнай канцэптуалізацыі і катэгарызацыі рэчаіснасці. Яны лічацца вынікам аднаго з фундаментальных моўных працэсаў, якія рэалізуюцца ў тэндэнцыі да эканоміі моўных сродкаў. У іх выяўляецца галоўны закон развіцця мовы і мыслення, які прадугледжвае філіяцыю – развіццё моўных з'яў у паслядоўнасці і пераемнай сувязі, у непасрэднай залежнасці ад папярэдніх фактаў, накапленне ведаў і атрыманне на іх аснове новай інфармацыі.

Асноўнымі прадстаўнікамі другасных намінацый з'яўляюцца метафара, метанімія і сінекдаха. Пры метафары ўстанаўліваюцца пэўныя асацыяцыі і аналогіі па падабенстве, пры метаніміі – асацыяцыя па сумежнасці ў прасторы і часе, пры сінекдасе – суадносіны паміж часткай і цэлым. Метафара выконвае важную ролю ў пабудове моўнай карціны свету, інтэграцыі вербальна-моўнай і пачуццёва-вобразнай сістэм чалавека, актыўна ўдзельнічае ў фарміраванні асобаснай мадэлі свету. Яна паспяхова выконвае ролю своеасаблівай прызмы (лінзы), праз якую чалавек успрымае, інтэрпрэтуе і катэгарызуе навакольную рэчаіснасць. Метанімія заснавана на пераносе назвы з аднаго класа аб'ектаў на другі, які асацыіруецца з папярэднім па сумежнасці, прыналежнасці. Дзеянне механізма метаніміі прыводзіць да з'яўлення новага ЛСВ ці кантэкстава абумоўленага змянення значэння слова. Часцей за ўсё метанімія назіраецца паміж аднароднымі і неаднароднымі катэгорыямі (напрыклад, прадметамі і іх прыметамі, дзеяннямі і г. д.). Сінекдахічнымі неабходна лічыць толькі тыя пераносы найменняў сумежных рэалій, якія прадугледжваюць суадносіны *pars pro toto* (арганічную і функцыянальную сувязь часткі і цэлага). Суадносныя ЛСВ пры гэтым не зводзяцца адзін да другога, а з'яўляюцца living рознымі як у якасным, так і колькасным планах.

Характар другасных намінацый у многім вызначаецца асаблівасцямі лінгвістычнай прасторы. З усіх рэгіёнаў беларускай дыялектнай мовы найбольш складаным з'яўляецца беларуска-літоўска-польскі. Ён характарызуецца генетычнай блізкасцю моў, шматлікімі і працяглымі іх кантактамі, існаваннем субстратных з'яў [6, с. 167–170], інтэнсіўнымі інтэрферэнцыйнымі працэсамі, аднолькавымі тэндэнцыямі семантычнага развіцця і іншымі асаблівасцямі. Своеасаблівасць гэтага рэгіёна заключаецца ў высокім узроўні яго культурнай гамагенізацыі, у перавазе кантактнай функцыі культурных межаў над бар'ернай функцыяй, у іх неэкспліцытнасці і неізаморфнасці [2, с. 162].

У моўнай сітуацыі рэгіёна пераплятаюцца разнастайныя факты ў іх дынаміцы. Традыцыйная беларуская і літоўская (у астраўным літоўскамоўным арэале) гаворка захоўваецца, як правіла, у маўленні інфарматараў старэйшага пакалення, якія выкарыстоўваюць, акрамя таго, польскі перыферыйны дыялект тыпу «пальшчызны віленскай». Значная колькасць размаўляе на змешаным дыялекце, перавага ў якім беларускіх, літоўскіх ці польскіх рыс абумоўлена культурна-гістарычнымі ўмовамі развіцця гаворкі. Нямала жыхароў гаворыць на рускай мове [1, с. 181–182; 9, с. 17; 10, с, 6–7, 14–15], якая выкарыстоўваецца як білінгвамі (у залежнасці ад умоў зносін), так і гаворачымі ў рэгіёне прадстаўнікамі рускай нацыянальнасці (у якасці асноўнага сродку зносін). Неаднолькавая роля кожнай з моў у розных функцыянальных стылях, школьным навучанні, перыядычным друку, мастацкай літаратуры [8]. Спецыфіка пагранічча выяўляецца і ў яго поліканфесійнасці, якая цесна звязана з поліэтнічнасцю [2, с. 105].

Статус першасных і другасных ЛСВ у розных каардынатах пагранічнага рэгіёна можа не супадаць, што абумоўлена дынамічнымі працэсамі ў семантычнай структуры слова, якая адлюстроўвае ўсе аспекты развіцця і змен у аб'ектыўнай рэчаіснасці, а таксама сацыялагічнымі і экстралінгвістычнымі фактарамі, сітуацыйным праяўленнем асобных ЛСВ, адсутнасцю іх канвенцыянальнай замацаванасці і іншымі прычынамі. Характар другасных ЛСВ залежыць і ад дэскрэптыўнасці (індывідуальнасці ўспрыняцця) значэння слова і звязанай з ёй стратыфікацыйнай варыятыўнасцю, што абумоўлена перш за ўсё сацыяльнымі фактарамі (узростам, полам, адукацыяй, відам дзейнасці, прафесіяй носьбіта гаворкі), а таксама ўмовамі маўленчай дзейнасці ідывідуума, асаблівасцямі «нацыянальнага» бачання свету, культурна-гістарычнымі (краіназнаўчымі), палітычнымі, маральнымі, светапогляднымі фактарамі. Пагранічны рэгіён з шырока

развітай сеткай моўных і дыялектных сістэм (ва ўмовах этналінгвістычных кантактаў і ўплыву літаратурных моў) стварае спрыяльныя ўмовы як для дэскрэптыўнага ўспрыняцця адных і тых жа ЛСВ, так і для ўзнікнення спецыфічных, індывідуальных, вузкалакальных ЛСВ.

У пагранічным рэгіёне фіксуецца значная колькасць семантычных лаканізмаў, утварэнне якіх у большасці выпадкаў абумоўлена асаблівасцямі экстралінгвістычнай рэальнасці (падабенствам рэалій ў канструкцыйным, функцыянальным планах, іх прасторавай і часавай сумежнасцю). У беларускіх гаворках у сэнсавых структурах такіх лаканізмаў узніклі другасныя ЛСВ, звязаныя з першаснымі ЛСВ метафарычнымі, метанімічнымі і сінекдахічнымі адносінамі:

• *гродз.*[1] ***скуйна*** ‘іглiца; галінка хвоі; месца, пакрытае іглiцай’ (*СПЗБ*) ← літ. *skuja* ‘іглiца’ (магістральным з’яўляецца метанімічны перанос лакатыўнага тыпу);

• *ашм., воран., іўеў.* ***бліндa*** ‘від лазы; вярба; галіны кустоў, з якіх абадрана лаза’ (*СПЗБ*)[2] ← літ. *blinda* ‘вярба, ракіта’ (выяўляецца сінекдахічны перанос тыпу ‘дрэва – яго галіны’);

• *дзятл., шчуч., смарг., докш., брасл., віл., барыс., верхнядзв., лях., лун., івац.* ***панцак*** ‘ячныя крупы; страва з такіх круп’(*СПЗБ, СЦБ*) ← польск. *pęcak* ‘ячныя крупы’ (адзначаецца рэгулярны метанімічны перанос ‘крупы – страва з іх’);

• *маст., ваўк., мядз., пух.* ***шкілондзя*** ‘тоўстая каўбаса, зробленая з вантробаў, мяса, крыві і іншых дадаткаў; сляпая кішка ў кабана; тоўсты, непаваротлівы чалавек’ (*СПЗБ, НС*) ← літ. *skilandis* ‘каўбаса з вантробаў; тоўсты свіны страўнік’ (метафарычны перанос заснаваны на падабенстве вонкавых асацыяцый і ўражанняў);

• *воран., віц.* ***бэрла*** ‘сумесь збожжа з рознымі адходамі; нявеянае жыта; непаваротлівы чалавек’(*СПЗБ, Каспяровіч*) ← літ. *beralas* ‘нявеянае зерне; мука ці зерне для корму жывёлы’ (метафарычны перанос носіць тыповы анімістычны характар).

Полісеманты ў пагранічным рэгіёне зведваюць на сабе ўздзеянне кампанентаў розных дыялектных сістэм і моў, экстралінгвістычных асаблівасцей функцыянавання рэалій і многіх іншых асацыяцый, што не можа не адлюстроўвацца на характары іх мадыфікацый. У залежнасці ад характару суаднесенасці запазычанага слова (ці ЛСВ) з першакрыніцай можна вылучыць некалькі тыпаў полісемантычных структур:

1. Эквівалентныя (тоесныя) структуры, другасныя ЛСВ у якіх з’яўляюцца вынікам дэталізацыі, канкрэтызацыі лексічнага значэння: літ. *arta* ‘папярочны брус на мачце для прымацавання паруса’ ↔ *віл., іўеў., паст.* ***гартоль*** ‘прыстасаванне для тармажэння плыта; плытнік, які тармозіць плыт’ (*СПЗБ, ЭСБМ*); літ. *brūzuklis;* параўн.: *воран.* ***брузукель*** ‘драўляны гузік; бірка для падвешвання сала; вертыкальны шпянёк у жорнах’ (*СПЗБ, Лаўчутэ*); літ. *gurgulai*; параўн.: *гродз.* ***гургале*** ‘намёрзлы лёд на аконных шыбах; ледзяшы, якія звісаюць са страхі’ (*СПЗБ*); літ. *grebestas*: *гродз., шчуч., лід., іўеў., навагр.* ***грэбест*** ‘латы; жэрдкі для лат; паплёт’ (*СПЗБ, Шаталава, ЭСБМ, Лаўчутэ*); літ. *keltoja;* параўн.: *шчуч., смарг.* ***калтуя*** ‘біч і цапільна ў цэпе; таўкач; палка, палена’ (*СПЗБ, Лаўчутэ*);

2. Структуры з адносінамі несупадзення (у такіх выпадках ЛСВ першакрыніцы на беларускамоўнай глебе страчваюцца, забываюцца, а ў сэнсавых структурах полісемантаў фіксуюцца новыя, раней невядомыя іншамоўнаму слову ЛСВ): літ. *vakarnis, vakaris* ‘заходні (вецер)’ ↔ *лід., навагр.* ***вакарына*** ‘вялікая хваля; бурнае хваляванне’ (*СПЗБ, ЭСБМ, Лаўчутэ*); літ. *kumstis* ‘кулак’ ↔ *воран.* ***кумшчок*** ‘кавалак; жмут; шматок’ *(СПЗБ, Грынавецкене);* літ. *laigesys* ‘беганіна’ ↔ *паст.* ***лагяза*** ‘шустры, жвавы чалавек; шалахвостка’ (*СПЗБ*).

3. Структуры з адносінамі ўключэння. У гэтых выпадках беларускае слова і яго літоўскі (радзей – польскі) эквівалент разыходзяцца ў колькасці ЛСВ. У залежнасці ад шырыні семантычнай парадыгмы полісеманта адрозніваюць дзве разнавіднасці ўключэння. У першым выпадку запазычанае слова, захоўваючы пэўныя значэнні мовы-крыніцы, на беларускамоўнай глебе развівае

[1] Прынятыя аўтарам скарачэнні адпавядаюць скарачэнням раёна. Іх агульны спіс падаецца ў інфармацыйна-даведачных матэрыялах да выдання.

[2] Прынятыя скарачэнні найбольш вядомых лексікаграфічных крыніц таксама змяшчаюцца ў інфармацыйна-даведачных матэрыялах да выдання, іншыя з выкарыстаных аўтарам – у канцы артыкула.

новыя ЛСВ і тым самым пашырае свой сэнсавы аб'ём і семантычную парадыгму. У другім выпадку запазычанае слова на беларускамоўнай глебе звужае свой сэнсавы аб'ём: больш шырэйшая семантычная парадыгма полісеманта мовы-крыніцы ўключае ў свой склад усе ЛСВ беларускамоўнага слова, а таксама невядомыя беларускаму адпаведніку значэнні.

Пашырэнне сэнсавага аб'ёму полісеманта можа ажыццяўляцца як за кошт уключэння ў структуру новага ЛСВ (ім можа быць семантычнае запазычанне, пэўны лакалізм і інш.), так і шляхам павелічэння сэнсавай ёмістасці асобных ЛСВ. Абодва спосабы ўзаемаабумоўлены, бо павелічэнне сэнсавай ёмістасці ЛСВ у многіх выпадках вядзе да адгалінавання самастойнага ЛСВ ці адцення, а гэта значыць – да павелічэння колькаснага складу семантычнай парадыгмы. Параўн.:

- літ. *siurpa* 'птушка з ускудлачанымі пёрамі' *гродз.*, *дзятл.*, *іўеў.*, *воран.*, *ваўк.*, *люб.* ***шурпа*** 'парода курэй, гусей з ускудлачанымі пёрамі; курыца ў час лінькі; паблытаныя ніткі; капуста, якая не ўтварае качана; неахайны чалавек' (*СПЗБ*, *Лаўчутэ*); пашырэнне сэнсавага аб'ёму ажыццявілася за кошт другасных метафарычных ЛСВ, што развіліся па лініі знешняга падабенства, а таксама анімістычнага пераасэнсавання зыходнага ЛСВ;
- літ. *guzta* 'гняздо, логава' ↔ *воран., брасл.* ***гушта*** 'гняздо, логава; лункі, дзе купаюцца куры; стаптаныя пасевы; уласнае гняздо, сям'я' (*СПЗБ, Грынавецкене*, *Лаўчутэ*); семантычная парадыгма павялічылася за кошт метафарычных ЛСВ 'тое, што падобна да гнязда, логава, асацыіруецца з ім': а) 'стаптаныя пасевы'; б) 'уласнае гняздо, сям'я';
- літ. *raistas, reista* 'балоцісты лес, хмызняк', *дыял.* 'беспрытульны чалавек' ↔ *смарг.*, *астр.*, *маст.*, *лід.*, *дзятл.*, *іўеў.* ***ройста*** 'зарослае хмызняком балота; нізкае вільготнае месца; непрыгодная для апрацоўкі зямля; невялікі вадаём; беспарадак; лайдак' (*ЛАБНГ*, *СПЗБ*, *Грынавецкене*, *Лаўчутэ*); другасныя ЛСВ носяць метафарычны характар.

У некаторых выпадках пашырэнне сэнсавага аб'ёму полісеманта звязана з гукавым і марфемным падабенствам слоў і іх інтуітыўнымі сувязямі, асацыяцыямі. Утварэнне новых ЛСВ у такіх выпадках можа насіць непрадказальны, спантанны характар і не заўсёды тлумачыцца традыцыйнымі ўяўленнямі аб сэнсавым развіцці слова на базе ўнутраных моўных сродкаў, што абумоўлена як гукавой і марфемнай матывацыямі, так і прыблізным, не зусім ясным разуменнем запазычаных слоў, узаемадзеяннем асацыятыўна блізкіх моўных адзінак, семантычнай аналогіяй. Напрыклад, ЛСВ *смарг.*, *іўеў.*, *астр.*, *воран.* ***кніпці*** 'кіпцюры; пазногці; клешні; пальцы' (*СПЗБ*, *Мат. Гродз.*) утварыліся ў выніку кантамінацыі з бел. *кіпці* 'кіпцюры, пазногці' і ўплыву літ. *kniblia* 'тс', *knibciai* 'крук' (*ЭСБМ*, *Лаўчутэ*). З трох ЛСВ полісеманта ***мэма*** 'гультай; маўчун; вош' (*СПЗБ*) першыя два з'яўляюцца запазычаннямі з літ. *тета, тете* 'маўчун, зявака'; узнікненне трэцяга ЛСВ звязана з уплывам літ. *титas* 'вош' (*ЭСБМ*, *Грынавецкене*, *Лаўчутэ*). Хутчэй за ўсё, два літуанізмы *lugmene* 'багна, твань' і *loma* 'даліна, яр, лагчына' паслужылі асновай для ўтварэння *глыб.*, *брасл.*, *віц.*, *пол.* ***луміна*** 'балота без кустоў; нізіна; невялікая пожня, залітая вадой; паглыбленне на дне рэчкі, возера; лужына, упадзіна' (*СПЗБ*, *НЛ*, *Каспяровіч*, *ЭСБМ*). На ўзнікненне ЛСВ полісеманта ***дырда*** (< літ. **dirda*) 'дзяўчына-гарэза; высокі і нязграбны чалавек'(*СПЗБ*, *ЭСБМ*) аказала ўплыў падобнае ў гукавых і семантычных адносінах слова *дылда*. Сэнсавая структура полісеманта ***гардзель*** 'горла; страваводу; кадык; ліна' (*СПЗБ*, *Мат. Гродз.*) сфарміравалася пад уплывам польск. *gardziel* 'глотка, горла' і рус. *гардель* 'ліна для падымання ветразя' (*ЭСБМ*). Два сэнсавыя цэнтры полісеманта ***гугіль*** 'палявы хвошч; вельмі густая страва; страва з дранай бульбы' (*СПЗБ*) суадносяцца з двума літоўскімі словамі (*gegelis* 'хвошч' і *kugelis* 'страва з дранай бульбы'), а таксама бел. дыял. *гігель* 'хвошч'.

Працэс семантычнага звужэння можа ажыццяўляцца як за кошт колькаснага змяншэння ЛСВ, так і шляхам згортвання індывідуальных якасцей ЛСВ, іх інтэграцыі і пераўтварэння шырокага, абагульненага значэння ў спецыялізаванае (тэрміналагічнае, наменклатурнае), параўн.: літ. *lazda* 'лугавая трава' ↔ *шчуч.*, *іўеў.*, *ваўк.*, *маст.*, *лях.* ***ляжджай*** 'від асакі; рагоз' (*СПЗБ*); літ. *zibulys* 'зябер; асцюк; бліскучая змяя' ↔ *гродз.*, *шчуч.*, *пух.* ***жыбўлька*** 'трава-зябер; асцюк' (*СПЗБ*, *Лаўчутэ*); літ. *virtine* 'звязка; нітка; вераніца' ↔ *іўеў.*, *ашм.* вераніца 'нітка, звязка' (*Грынавецкене*).

Варыятыўнасць другасных ЛСВ у розных каардынатах лінгвістычнай прасторы рэгіёна некангруэнтная па ступені свайго праяўлення. Разнастайныя пераўтваральныя працэсы, розныя віды пераносаў, схемы сувязей ЛСВ і іх мадыфікацыі ў розных дыялектных кантынуумах поўнасцю не супадаюць. Звычайна складаным полісемантычным структурам макраструктуры адпавядаюць монасемічныя і выразна акрэсленыя (біварыянтныя) полісемантычныя адзінкі прыватных дыялектных сістэм. Так, у полісеманта *кульша* (< літ. *kulse*) налічваецца 18 ЛСВ, у полісеманта *бонда* (< літ. *banda)* – 21 ЛСВ. Усе яны ўтвараюць складаныя квалітатыўныя і квантытатыўныя структуры, аб'яднаныя ў некалькі сэнсавых цэнтраў з рознымі па характары другаснымі ЛСВ [11, с. 185–189].

Такім чынам, полісемантычныя найменні з другаснымі ЛСВ у пагранічным рэгіёне з'яўляюцца даволі складанымі і мнагапланавымі структурамі, у якіх сэнсавыя адносіны паміж асобнымі кампанентамі не заўсёды вызначаюцца строга акрэсленымі схемамі, мадэлямі і ўніверсальнымі семантычнымі заканамернасцямі. Суіснаванне ў такім рэгіёне некалькіх генетычна роднасных моў і дыялектаў, вусная форма іх бытавання, шматлікія інтэрферэнцыйныя працэсы, разнастайныя віды білінгвізму і іншыя прычыны спрыяюць утварэнню вялікай колькасці інфільтрацый, эксформ, семантычных запазычанняў і лакалізмаў, а таксама складаных у квалітатыўных і квантытатыўных адносінах структур.

Сярод вялікай і разнастайнай колькасці другасных намінацый вылучаюцца метафарычныя, метанімічныя і сінекдахічныя ЛСВ, кожны з якіх адлюстроўвае самыя розныя сувязі і асацыяцыі паміж прадметамі і з'явамі аб'ектыўнай рэчаіснасці пагранічнага рэгіёна. У залежнасці ад характару суаднесенасці запазычанага слова ці яго ЛСВ з першакрыніцай вылучаюцца структуры з адносінамі эквівалентнасці, несупадзення і ўключэння.

Другасныя ЛСВ у пагранічным рэгіёне могуць насіць вузкі, спецыялізаваны ці даволі абагульнены характар. Пры звужэнні семантыкі працэс пераносу найменняў практычна адсутнічае, бо сэнсавыя контуры лексічнай адзінкі кардынальна не мяняюцца, а ўсе ЛСВ характарызуюцца аднолькавай парадыгматычнай і сінтагматычнай абумоўленасцю. Адбываецца своеасаблівае драбленне сэнсавай структуры на асобныя інгрэдыенты, іх дэталізацыя, канкрэтызацыя, на што значны ўплыў аказвае прасторавы фактар і звязаныя з ім шырокія магчымасці рэалемнага, канататыўнага і стратыфікацыйнага вар'іравання полісеманта. Пашырэнне сэнсавага аб'ёму абумоўлена як экстралінгвістычнымі, так і інтралінгвістычнымі прычынамі (частатой ужывання лексічнай адзінкі, кантэкставай і маўленчай сітуацыяй, аналогіяй, гукавым і марфемным падабенствам слоў розных моў, іх інтуітыўнымі сувязямі і асацыяцыямі).

**Спіс скарачэнняў асобных лексікаграфічных крыніц**

*Грынавецкене* – Грынавецкене Э., Мацкевич Ю. Ф., Романович Е. М., Чеберук Е. И. Бытовая лексика литовского происхождения в западной Белоруссии // Lietuviu kalbotyros klausimai. – 1975. – Т. XVI. – С. 163 – 195.

*Лаўчутэ* – Лаучюте, Ю. А. Словарь балтизмов в славянских языках / Ю. А. Лаучюте. – Л.: Наука, 1982. – 212 с.

**Літаратура**

1. Балто-славянские этноязыковые контакты. – М.: Наука, 1980. – 290 с.

2. Беспамятных, Н. Н. Белорусско-польско-литовское пограничье: границы, культуры, идентичности / Н. Н. Беспамятных. – Минск: Республиканский институт высшей школы, 2009. – 243 с.

3. Гак, В. Г. Языковые преобразования / В. Г. Гак. – М.: Языки русской культуры, 1998. – 763 с.

4. Гак, В. Г. К типологии лингвистических номинаций // Языковая номинация (Общие вопросы). – М.: Наука, 1977. – С. 230–293.

5. Кубрякова, Е. С. Части речи в ономасиологическом освещении / Е. С. Кубрякова. – Изд. 2-е. – М.: URSS: ЛКИ, 2008. – 113 с.

6. Лаучюте, Ю. А. Балто-славянские лингвистические контакты в ареальном освещении // Взаимодействие лингвистических ареалов. – Л.: Наука, 1980. – С. 161–187.

7. Никитин, М. В. Курс лингвистической семантики / М. В. Никитин. – СПб.: Науч. центр проблем диалога, 1996. – 756 с.

8. Плыгаўка, Л. Беларуская мова ў Літве: сацыякультурны і лінгвістычны аспекты / Л. Плыгаўка. – Вільнюс: Вільнюскі педагагічны ўніверсітэт, 2009. – 340 с.

9. Польские говоры в СССР. Исследования и материалы. Ч. 1. – Минск: Наука и техника, 1973. – 231 с.

10. Сабаленка, Э. Р. Нацыянальны склад насельніцтва Беларусі // Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. – С. 6–17.

11. Старычонак, В. Д. Полісемія ў беларускай мове (на матэрыяле субстантываў) / В. Д. Старычонак – Мінск: БДПУ, 1997. – 232 с.

12. Телия, В. Н. Вторичная номинация и ее виды // Языковая номинация (Виды наименований). – М.: Наука, 1977. – С. 129–221.

*Н. А. Снігірова*

## ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІХ МІЖМОЎНЫХ СЫХОДЖАННЯЎ (з вопыту аналізу)

Праблема беларуска-польскага моўнага ўзаемадзеяння з'яўляецца, як вядома, адной з найбольш дыскутуемых у славянскім мовазнаўстве. Аднак, нягледзячы на гэта, па-за ўвагай даследчыкаў застаецца істотная колькасць інавацыйных моўных з'яў на паўночным усходзе генетычна польскай тэрыторыі, за межамі кантактнага міжмоўнага рэгіёна Польшчы. Дыялектныя асаблівасці, лакалізаваныя ў паўночна-ўсходніх гаворках польскай мовы К. Нічам, Ч. Кудзіноўскім, К. Дэйнам і іншымі вучонымі, складальнікамі лінгвагеаграфічных атласаў, могуць быць арэальна і тыпалагічна суаднесены з адпаведнікамі, характэрнымі для паўночна-заходніх беларускіх гаворках. Стымул для ўзнікнення або цэнтр ірадыяцыі некаторых тэрытарыяльна адметных, аддаленых ад кантактнай мяжы арэалаў інавацый, магчыма, знаходзіцца на Беларусі. Як вядома, межы дыялектаў і ўвогуле моўных тэрыторый маюць адноснае значэнне і не могуць служыць перашкодай для распаўсюджання інавацый, якое неабавязкова звязана з міграцыямі насельніцтва.

Згодна з меркаваннем Г. А. Цыхуна, пры этымалагізацыі міжмоўных сыходжанняў арэальны крытэрый з'яўляецца адным з вядучых і істотных. Цэнтры ірадыяцыі перыферыйных інавацый знаходзяцца пераважна ў кантактнай зоне, сведчаннем чаго з'яўляецца тыпалагічная сувязь паміж адпаведнымі з'явамі па абодва бакі моўнай мяжы [9, с. 24]. Сярод характэрных наваўтварэнняў, лакалізаваных на паўночным усходзе Польшчы, у кантактнай (у шырокім разуменні) польска-беларускай міжмоўнай зоне, асобнае месца займае лексіка-семантычная арэальная інавацыя *wypustka* 'падгадаваная кабыла, кабыла ад года'.

Паводле матэрыялаў атласа А. Кавальскай «Zróżnicowanie słowotwórcze gwar Mazowsza i Podlasia» [15, с. 78], астраўны несуцэльны арэал лексемы *wypustka* 'падгадаваная кабыла, кабыла ад года' мае гарызантальны характар пашырэння ў паўночна-ўсходніх гаворках Польшчы. У беларускіх гаворках шырока распаўсюджана аднакарэнная польскаму найменню форма м. р. *выпустак*, зафіксаваная з разнастайнай семантыкай.

Як засведчана ў ЛАБНГ, на тэрыторыі Беларусі слова *выпустак* ужываецца са значэннем 'пэўны перыяд жыцця хатніх жывёл на першым годзе ці пазней, іх стан', але ў больш вузкім значэнні, да прыкладу 'веснавое цяля' (к восені), сустракаецца толькі спарадычна [5, т. 1, с. 34]. У значэнні 'цяля-перазімак' [5, т. 1, с. 35] і 'гадун' (аднагадовае жарабя) [5, т. 1, с. 42] назва адзначана ў паўднёва-заходніх гаворках. Два апошнія арэалы прымыкаюць да беларуска-ўкраінскай мяжы і ўтвараюць клін у напрамку да цэнтра краіны. У Баранавіцкім, Нясвіжскім, Уздзенскім і іншых паўднёвых раёнах Беларусі слова *выпустак* выкарыстоўваецца для абазначэння 'мінулагодняга жарабяці' [4, с. 28–29], у Глускім, Нараўлянскім раёнах – увогуле 'жывёліны мінулагодняга прыплоду' [4, с. 98]. Назоўнік ж. р. *выпустоўка* 'карова першага ацёлу' зафіксаваны ў Дзяржынскім раёне [4, с. 22]. Фанетычныя варыянты *выпусток*, *выпустак*, *віпусток* са значэннем 'цяля, жарабя ад года да двух гадоў' маюць ужыванне ў Мазырскім раёне [10, с. 171]. Ізалекса *выпустак* 'цяля-перазімак' акрэслівае Палессе і Случчыну [6, с. 186]. У матэрыялах СПЗБ ужыванне

слова *выпустак* і яго фанетычных разнавіднасцей праілюстравана наступнымі прыкладамі: «*Гадавалае цялё. Леташняе цяля – выпустак. Цяля, як перазімуе, – выпустак*» (Ганц. раён), «*Выпусткам пабегала*» (Свісл. раён), «*Была цёлка – выпастак, два гады*» (Лях. раён), «*Выпусток по другой пашы, подгодуемо шчэ трохі*» (Пруж. раён) [8, т. 1, с. 365]. Варыянт *выпусток* 'аднагадовае цяля' таксама адзначаецца ДСБ [3, с. 38]. Аднак ніводная з працытаваных крыніц не выявіла значэння, якое дакладна адпавядала б семантыцы польскага новаўтварэння *wypustka* 'падгадаваная кабыла, кабыла ад года'. Значэнне гэтай лексемы адлюстроўвае пазнейшы ў жыцці жывёліны час; з такой семантыкай слова *wypustka* адзначана толькі ў паўночна-ўсходніх гаворках Польшчы.

У беларускіх гаворках лексема *выпустак* называе і цяля, і жарабя як гэтага года, так і мінулагодняга. Хутчэй за ўсё, на назву гадавалага жарабяці такое абазначэнне перанесена па аналогіі. Аб'ядноўвае гэтыя два значэнні слова агульная адзнака – тое, што жывёліна выпускаецца з хлява (з-пад дагляду гаспадара), адпраўляецца на вольную пашу [6, с. 45–47]. Такім чынам, беларускія назвы як цялят, так і жарабят у залежнасці ад часу іх жыцця і нараджэння матывуюцца тым, што гэтыя жывёліны выпускаюцца на вольны выпас – з хлява, хутчэй за ўсё, на *выган* (рэгіянальнае *выпуск*) ці іншае, у тым ліку, агароджанае месца для жывёлы [6, с. 43].

Беручы пад увагу тое, што на беларуска-польскім сумежжы назоўнік м. р. *выпустак* ахапіў больш значны арэал, чым назоўнік ж. р. *wypustka*, а таксама большую ў параўнанні з польскімі гаворкамі частотнасць выкарыстання ў беларускіх гаворках граматычнага варыянта *выпустак*, можна дапускаць, што першаснай была форма м. р. і меркаваць пра магчымае ўздзеянне беларускай мовы на ўтварэнне рэгіянальнай інавацыі ў паўночна-ўсходніх гаворках польскай мовы. Акрамя таго, на тэрыторыі Беларусі, як вынікае з вышэйпрыведзенага, назоўнік м. р. *выпустак* пашырыў сферу ўжывання на некалькі лексіка-семантычных груп дыялектных найменняў.

Аднак не выключана, што паходжанне лексіка-семантычнай інавацыі *wypustka* можа быць звязана з назоўнікамі м. р. *wypust*, вядомым у польскіх гаворках у асноўных значэннях 'выган', 'агульная паша', а таксама «прастора ў вёсцы, якая знаходзіцца паміж двума радамі хацін і ахоплівае, акрамя дарогі, пашу» [14, т. 6, с. 221], і *wypusk* 'агароджаны выган недалёка ад дома' [11, т. 2, с. 277]. У беларускіх гаворках лексема *выпуст* ужываецца для абазначэння 'месца пасеву, якое вытравіла, вытаптала жывёла', іншымі словамі выгану, укр. *випуст* тлумачыцца як 'месца каля вёскі, куды выпускаюць жывёлу', чэш. *wýpust* – як 'месца, аддаленае ад чалавечага жылля' [11, т. 2, с. 277]. Роднаснае прыведзеным слова *выпуск* м. р. (абазначае дзеянне паводле дзеяслова *выпускаць*) распаўсюджана на тэрыторыі ўсходняй Магілёўшчыны і ў рускіх дыялектах са значэннем 'выган' (для жывёлы), 'выган, агароджанае месца для жывёлы' [2, с. 122], [1, т. 3, с. 524].

Вышэйназваныя лексемы *выпуст* і *выпуск*, відавочна, уяўляюць з сябе утварэнні ад двух розных дзеясловаў: *выпусціць* (у значэнні 'на выган') і *вы́пустошыць* ад 'пустошыць' з усячэннем у дадзеным выпадку суфіксальнага афікса (параўнайце таксама руск. пск. і смал., *выпустовать* 'спустошыць, патравіць жывёлай') [11, т. 2, с. 277]. Паколькі слова *выпустак* 'аднагадовае цяля, жарабя' ўтворана ад дзеяслова *выпусціць* пры дапамозе суфікса *-ak* (параўнайце азначэнне 'маладняк, які першы год выпускаецца разам са статкам на пашу') [11, т. 2, с. 277–278], найменне падгадаванай кабылы ва ўзросце ад года *wypustka* магло сфарміравацца паводле названай лексіка-семантычнай мадэлі. Гэта значыць, што слова *wypustka* павінна было ўзнікнуць марфалагічным спосабам ад дзеяслова *wypuścić* (*wypuszczać*) / *выпусціць* (*выпускаць*). Згодна з этымалогіяй І. Мальмар, найменне *wypustka* магло ўтварыцца наступным чынам: *puścić → wypuszczać → wypustka* [16, с. 343].

Магчыма, пэўную ролю адыгрывае тут і чаргаванне каранёў *пасв- (паст-) // пуст-*, што можна заўважыць у дзеясловах *пасвіцца // пустошыць*. На думку А. Банькоўскага, польскі дзеяслоў *pustoszyć* 'рабіць пустым, разбураць, нішчыць' запазычаны з усходнеславянскіх моў [12, с. 504]. Параўнайце яшчэ каш. *pustica* 'поле неураджайнае, незасеянае', *puścić* 'дазволіць пайсці, адпусціць', праславянскае *pustiti* 'перастаць каго-небудзь, што-небудзь трымаць' [12, с. 505]. У сваю чаргу А. Брукнэр пацвярджае ўсходнеславянскі ўплыў на ўтварэнне дзеяслова *puskać* 'аналогія да *puścić*' і прыводзіць цікавы выраз *pustopas (albo samopas) chodzić* 'пасвіцца далёка ад статка' [13, с. 448].

Найбольш праўдападобным падаецца, што з'яўленне лексемы *wypustka* было выклікана семантычным спалучэннем значэнняў '*выпускаць (на)*' і '*пустое месца*' (або месца, якое ў выніку гэтага стане такім): кабыла, якая ўжо падрасла, выпускаецца на выган, які, у сваю чаргу, уяўляе з сябе пустое, нічым не занятае месца. Параўнайце: *пу́сташ* – 'пустка, незанятае месца', 'незасеянае поле', 'няўдобіца', 'абложная зямля', 'вытаптанае месца' і інш. [11, т. 10, с. 237], [7, с. 36–37]. Цэнтр ірадыяцыі разгледжанай «несумежнай» інавацыі можа змяшчацца ў польска-беларускай кантактнай зоне, якая здольна фарміраваць інавацыйныя з'явы, што істотным чынам могуць адрознівацца ад з'явы-стымула. Паўночна-ўсходняя арэальная інавацыя *wypustka* ў польскай мове, выкліканая ўздзеяннем працэсаў, якія адбываліся больш інтэнсіўна і ахапілі большую ў параўнанні з Польшчай плошчу на беларускай тэрыторыі, істотна адрозніваецца ад з'явы-стымула, але захоўвае сувязь з ім. Відаць, ізасема *wypustka* пашырылася франтальным спосабам у паўночна-ўсходнія гаворкі Польшчы, а форма м. р. *выпустак* распаўсюдзілася перш за ўсё на паўднёва-заходнюю Беларусь.

Нягледзячы на фармальна астраўны характар, арэал інавацыі *wypustka* ў паўночна-ўсходняй Польшчы суадносіцца з адпаведнымі моўнымі арэаламі Беларусі і з'яўляецца вынікам існавання міжславянскай польска-беларускай кантактнай зоны, спрыяльнай для генерыравання інавацыйных з'яў.

**Літаратура**

1. Большой академический словарь русского языка / Рос. акад. наук, Ин-т лингвист. исслед.; гл. ред. К. С. Горбачевич. – М.; СПб.: Наука, 2004 – издание продолжается.

2. Бялькевіч, І. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны / І. К. Бялькевіч; АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск: Навука і тэхніка, 1970. – 512 с.

3. Дыялектны слоўнік Брэстчыны / склад.: М. М. Аляхновіч [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989. – 294 с.

4. Жывёльны свет: тэмат. слоўн. / склад.: В. Дз. Астрэйка [і інш.]; рэд. Л. П. Кунцэвіч, А. А. Крывіцкі. – Мінск: Беларус. навука, 1999. – 239 с.

5. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. / Акад. навук Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэдкал.: М. В. Бірыла (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Фонд фундам. даслед. Рэсп. Беларусь, Кам. геадэзіі пры Савеце Міністраў Рэсп. Беларусь, 1993–1998. – 5 т.

6. Лексічныя ландшафты Беларусі: жывёльны свет / І. Я. Яшкін [і інш.]; Акад. навук Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск: Навука і тэхніка, 1995. – 255 с.

7. Сельская гаспадарка: тэматычны слоўнік / склад. В. Д. Астрэйка [і інш.]; навук. рэд. Л. П. Кунцэвіч, В. М. Курцова. – Мінск: Беларус. навука, 2010. – 527 с.

8. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; уклад.: Ю. Ф. Мацкевіч [і інш.]; пад рэд. Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979–1986. – 5 т.

9. Цыхун, Г. А. Арэальная тыпалогія славянскіх моў: прынцыпы і напрамкі даследавання / Г. А. Цыхун; Акад. навук БССР, Беларус. кам. славістаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1988. – 40 с.

10. Шур, В. В. Матэрыялы да слоўніка жывёлагадоўчай лексікі Мазыршчыны / В. В. Шур // З народнага слоўніка: зб. арт. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд.: А. А. Крывіцкі, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск, 1975. – С. 167–183.

11. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978 – выданне працягваецца.

12. Bańkowski, A. Słownik etymologiczny języka polskiego: w 2 t. / A. Bańkowski. – Warszawa: Wydaw. nauk. PWN, 2000. – 2 t.

13. Brückner, A. Słownik etymologiczny języka polskiego / A. Brückner. – Warszawa: Wydaw. Wiedza Powszechna, 1974. – 807 s.

14. Karłowicz, J. Słownik gwar polskich: w 6 t. / ułożył J. Karłowicz. – Kraków: Akad. Umiejętności, 1900–1911. – 6 t.

15. Kowalska, A. Zróżnicowanie słowotwórcze gwar Mazowsza i Podlasia: rzeczownik: w 2 t. / A. Kowalska. – Wrocław [etc.]: Zakł. Nar. im. Ossolińskich, 1975–1979. – T. I, cz. 1: Atlas: mapy 1–100. – 1975. – 100 m. – (Prace Instytutu Języka Polskiego / PAN; № 3).

16. Malmor, I. Słownik etymologiczny języka polskiego / I. Malmor // Wydawnictwo Szkolne PWN Sp. z o. o. Park Edukacja. – Warszawa – Bielsko-Biała, 2009. – 544 s.

*А. М. Лапцёнак*

# ДЗЕЯСЛОЎНЫЯ СПАЛУЧЭННІ Ў «НАШАЙ НІВЕ» І Ў БЕЛАРУСКІХ ГАВОРКАХ У СУПАСТАЎЛЕННІ З СУЧАСНАЙ СІНТАКСІЧНАЙ НОРМАЙ

Асаблівасці сінтаксічнай сістэмы беларускай мовы ў працэсе іх станаўлення яшчэ канчаткова не вывучаны. На цяперашні момант у значнай ступені ахарактарызаваны сінтаксічныя асаблівасці старабеларускай пісьмовай мовы, вельмі падрабязна і глыбока даследаваны сінтаксіс сярэдзіны – другой паловы XX ст. Але сінтаксічная сістэма беларускай мовы пачатку XX ст. з'яўляецца белай плямай у лінгвістыцы. Даследаванне сінтаксісу дадзенага перыяду вельмі актуальнае, яно можа быць здзейснена шляхам вывучэння моўных сродкаў газеты «Наша Ніва», якая мела неацэннае значэнне ў фарміраванні беларускай літаратурнай мовы. Па тэкстах газеты можна ўстанавіць стан сінтаксічнай сістэмы таго часу, вызначыць варыянтныя канструкцыі, прасачыць працэс складвання сучаснай сінтаксічнай нормы. Важнае значэнне пры раскрыцці працэсу развіцця сінтаксічнай сістэмы літаратурнай мовы маюць сучасныя гаворкі, у якіх захаваліся тыя ці іншыя моўныя факты, страчаныя на сёння літаратурнай мовай. Супастаўленне сінтаксісу газеты і сінтаксісу гаворак з праекцыяй на сучасную норму дазваляе прасачыць шлях развіцця пэўных словазлучэнняў, патлумачыць ужывальнасць некаторых спалучэнняў, адсутных сёння ў літаратурнай мове, размежаваць уласнабеларускія канструкцыі і запазычаныя, даць інфармацыю аб распаўсюджанні тых ці іншых моўных фактаў у блізкароднасных мовах.

У дадзеным артыкуле намі разглядаюцца дзеяслоўныя прыназоўнікавыя і беспрыназоўнікавыя словазлучэнні ў тэкстах «Нашай Ніва», якія адсутнічаюць у сучаснай літаратурнай мове ў якасці нарматыўных, але адзначаюцца ў гаворках. Праводзячы супастаўленне нашаніўскіх канструкцый з сучаснымі нарматыўнымі словазлучэннямі, мы дадаткова звяртаемся да манаграфіі Я. Карскага «Беларусы», асобны том якой прысвечаны сінтаксісу старабеларускіх пісьмовых помнікаў[1], а таксама да «Сынтаксу беларускае мовы» Я. Лёсіка (1926) і падручніка В. Чудовіча і С. Дружылоўскай «Формальны сынтакс» (1930). Апошні – адзін з нямногіх, у якім дастаткова падрабязна адлюстравана сінтаксічная сістэма беларускай мовы пачатку XX ст. на ўзроўні словазлучэння. Для таго, каб атрымаць уяўленне аб працэсе развіцця тых ці іншых сінтаксічных канструкцый, без гэтых публікацый не абысціся.

1. У тэкстах газеты выкарыстоўваюцца формы дзеясловаў, не ўласцівыя сучаснай беларускай мове, а адметнасць формы ўплывае і на дыстрыбутыўныя магчымасці лексемы. Так, своеасаблівасць выяўляе дзеяслоў карыстаць, які ўжываецца ў значэнні 'карыстацца', што характэрна для сучасных беларускіх гаворак [8, с. 427]. Дзеяслоў *карыстаць* і вытворныя ад яго дзеяслоўныя формы кіруюць назоўнікам у родным склоне з прыназоўнікам *з*: *Салетра лёгка распускаецца ў вадзе, праходзиць скора праз зямлю, карэни раслин лёгка* ***з яе карыстаць могуць*** [НН, 1908, № 23, с. 9]; *A tu dumajem, što jość ješče tysiačy rečej, katoryje možna i ciapier zrabić swabodnie, ale ich nichto nia robić,* ***nie karystaje s tych prawoŭ*** *jakije maje* [НН, 1910, № 2, с. 22]; *Калі Літва і Беларусь выбралі сабе асобнаго князя Александра Ягайловіча, – Іоан,* ***карыстаючы з разладу*** *паміж Літвой і Польшчай, пачаў вайну* [НН, 1910, № 6, с. 91]; *Tolki biełarusy i ŭkraincy nia mohuć* ***karystać z hetaho asnaŭnoha*** *i dla ŭsich* ***roŭnaho zakonu*** [НН, 1911, № 27, с. 341]; ***Карыстаючы з гэтаго шчасьця*** *пілі цёмные людзі праз меру* [НН, 1913, № 11, с. 3]; *Народ ахвотне* ***карыстае з новаго права*** *забараняць у сваіх вёсках прадаваць гарэлку* [НН, 1914, № 25, с. 1]; *Міністэр вайны атрымаў права паклікаць у войска у 1915 г. студэнтоў,* ***карыстаючых з атсрочкі*** *да канца навук*

[1] Звяртаючыся да пытання станаўлення і развіцця сінтаксісу беларускай літаратурнай мовы, нельга не закрануць праблемы пераемнасці старабеларускай мовы і сучаснай беларускай мовы. Яна неаднаразова разглядалася ў мовазнаўстве, лінгвісты выказвалі розныя пункты погляду, часам супрацьлеглыя. Найбольш аб'ектыўнай нам падаецца пазіцыя прафесара В.П. Лемцюговай, якая прызнавала такую ўзаемасувязь і пераемнасць мовы (больш падрабязна гл.: Мова «Нашай Нівы» (1906–1915). Варыянтнасць. Сінанімія / В. П. Лемцюгова [і інш.]. – Мінск: Беларус. навука, 2005. – С. 14–20). Таму апеляцыя да манаграфіі Я. Карскага цалкам мэтазгодная.

*у вышэйшых вучэльнях* [НН, 1915, № 9, с. 4]. У «Слоўніку беларускіх гаворак» у якасці прыкладу прыведзена дадзеная канструкцыя, зафіксаваная ў гаворках Ашмяншчыны: *Цяпер ён карыстая з майго ўсяго* [8, с. 427]. Патрэбна адзначыць, што дадзенай тэрыторыі ўласцівы «пераходны» моўны варыянт, у якім сумяшчаюцца рысы як беларускай, так і польскай моў, так, у сучаснай польскай мове спалучэнне дзеяслова korzystać з прыназоўнікам z і назоўнікам у родным склоне з'яўляецца літаратурнай нормай [6, с. 292].

У якасці раўназначных ужываюцца таксама беспрыназоўнікавыя словазлучэнні з дзеясловам *карыстаць*, дзе залежны назоўнік мае форму вінавальнага склону або роднага склону пры адмоўі, а таксама форму творнага склону без прыназоўніка: *Гляну я на пчолак, на мурашэчэк. Як яны працуюць! И ўсе яны параўне* ***карыстаюць сваю працу*** [НН, 1907, № 21, с. 3]; ***Не карыстае*** *[ніхто]* ***тых правоў****, якія мае* [НН, 1910, № 2, с. 22]; *[У вайне]* ***дымнай заслонай не раз карысталі*** *японцы* [НН, 1914, № 38, с. 2].

У нумарах «Нашай Нівы» за 1920 г. словазлучэнні з дзеясловам *карыстаць* не адзначаюцца, там ужываецца зваротны дзеяслоў *карыстацца*, які кіруе творным склонам без прыназоўніка, што ўласціва і сучаснай беларускай літаратурнай мове [1, с. 114].

2. Асобную групу складаюць беспрыназоўнікавыя і прыназоўнікавыя спалучэнні, у якіх ужываецца склонавая форма залежнага кампанента, не характэрная для сучаснай літаратурнай мовы. Вартыя асаблівай увагі спалучэнні з галоўным кампанентам – дзеясловам са значэннем 'даглядаць' і семантычна блізкімі яму, дзеянне якіх накіравана на аб'ект догляду. Адзначаюцца спалучэнні, дзе залежны кампанент мае форму вінавальнага склону, якая ў назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку і ўсіх назоўнікаў множнага ліку супадае з формай роднага склону, у назоўнікаў адзіночнага ліку ніякага роду супадае з формай назоўнага і роднага склону, а ў назоўнікаў жаночага роду мае адметную форму: *Там пастушок* ***пасе авечак*** [НН, 1910, № 1, с. 16]; *Ciarpliwym budź,* ***zaprahajučy kaniej*** *pałachliwych..* [НН, 1911, № 42, с. 537]; *Таварыш мой усхопіцца у ночы, ды пачне* ***заганяць гусей****: «гыля, гыля!»* [НН, 1912, № 8, с. 4]; *Яны [дзеци],* ***пасучы быдла****, збирали сухие кавалки торфу* [НН, 1908, № 7, с. 4]; *...Их [дзеўчын] вучаць ткаць, шыць, плясьци з саломы,* ***гадаваць скацину****,* ***птацтва*** [НН, 1908, № 8, с. 5]; *...заахвоціць людзей* ***гадаваць лепшую скаціну*** [НН, 1913, № 37, с. 3]; *Днём займаюся гаспадаркай: малачу, сечку рэжу,* ***скацінку даглядаю*** [НН, 1912, № 1, 5 (18) ст., с. 4]; *...kab tady mieć dzie* ***prypaświć karowu*** [НН, 1911, № 24, с. 313]. Такія канструкцыі адпавядаюць сучаснай літаратурнай норме.

Аднак ужываюцца і формы вінавальнага склону *каровы, коні, авечкі* і г. д., якія супадаюць з формай назоўнага склону (т. зв. старая форма вінавальнага склону), якія лічацца ў сучаснай мове дыялектнымі і адзначаюцца ў паўднёва-заходніх і сярэднебеларускіх гаворках [ДАБМ, №№ 209–210]. Параўн.: *Пагнаў* ***паіць каровы*** [НН, 1910, № 7, с. 118]; *...малец 8 год,* ***пасьвіўшы каровы****, гуляў на падмытым беразі рэкі і ўваліўся ў ваду* [НН, 1910, № 30, с. 463]; *ўжо гадоў больш дзесяци,* ***кормим*** *усю жывёлу мочэным лубином – и* ***кони****, и* ***каровы****, и* ***авечки*** [НН, 1908, № 26, с. 4]; *Не, во чуваць збоку ешчэ – павялі начлежнікі* ***коні*** *ў лес* ***пасьвіць*** [НН, 1913, № 31, с. 2]; *Pastuch haworyć:* ***Pasu, pasu awiečečki*** *Ad rańnia da wiečera* [НН, 1911, № 1, с. 5]; *Z wyraju-ž jak tolki* ***spatykaju husi****, Wieści ǔ ich pytaju z rodnaj Biełarusi* [НН, 1910, № 33, с. 503].

З гістарычнага пункту погляду аналізуе такія словазлучэнні С. Важнік: наяўнасць канструкцый тлумачыцца навукоўцам страчанай у сучасны перыяд катэгорыяй «персанальнасці» ў беларускай мове, што выяўлялася ў сінкрэтызме вінавальнага і роднага склону назоўнікаў, якія абазначаюць *асобу*. Астатнія назоўнікі (у тым ліку і адушаўлёныя, але якія абазначаюць *не асобу*) характарызуюцца супадзеннем вінавальнага і назоўнага склонаў [2, с. 112–116; 3, с. 406–407]. Я. Карскі таксама адзначае, што ў беларускай, украінскай і польскай мовах – у адрозненне ад рускай, – ужыванне формы роднага замест вінавальнага «относится только к лицам» [5, с. 397]. Такую ўласцівасць сінтаксічнай сістэмы беларускай мовы зафіксавалі граматыкі пачатку XX стагоддзя – Я. Лёсіка [7, с. 164], Б. Тарашкевіча і А. Багдановіча [цыт. па: 2, с. 112]. Пазней, пад уплывам рускай мовы, катэгорыя «персанальнасці» была выцеснена катэгорыяй «адушаўлёнасці» [2, с. 113] і захавалася толькі ў гаворках. У перыяд функцыянавання газеты, як бачым, гэтыя дзве

канструкцыі суіснавалі. Але ўжо ў 30 гг. XX ст. у «Фармальным сынтаксе» як нарматыўная адзначаецца толькі форма роднага склону, калі словы «абазначаюць жывую рэч», у якасці прыкладаў прыводзяцца наступныя спалучэнні: *гоніць коняй, ... паганяе валоў* [9, с. 54].

У тэкстах газеты формы вінавальнага склону, тоесныя з формамі назоўнага, ужываюцца і ў прыназоўнікавых канструкцыях: *Усё што дзеецца ў нашым Капылі Рад бы я больш апісаць вам, браты, У вас можэ кірмашы гэткіе былі Можэ* ***пра коні былі клапаты****?* [НН, 1912, № 7, с. 3]; *Вясковая наша баба* ***мае ад куры клопат*** [НН, 1914, № 13, с. 2]; *Тры мужыки: Сёмка Доўба, Гилёрык Кажан и Марцин Тапчан сядзели за сталом и* ***гаварыли пра пчолы*** [НН, 1908, № 13, с. 5].

3. Адзначаюцца беспрыназоўнікавыя словазлучэнні з залежным кампанентам – неадушаўлёным назоўнікам у родным склоне пры сучаснай нарматыўнай форме вінавальнага: *З гэтай вёскі (Кошылово) больш за ўсіх бяруць* ***чытаць кніжок*** [НН, 1909, № 2, с. 29]; *...Саўка* ***чытае*** *ужо* ***«букваря»****, пішэ і робіць задачы* [НН, 1914, № 21–22, с. 2]; *Іоан другі раз... паслаў свае войска* ***дабываць Смаленска*** [НН, 1910, № 6, с. 92]; *Калі Іоан* ***дабыў Полацка****, ён зруйнаваў... манастыр* [НН, 1910, № 10, с. 160]; *...ёсць у нас такі купецкі адвакат К. С-кі, каторы* ***ўзяўшы хабара*** *ад купца...* [НН, 1910, № 7, с. 116]; *...пачали яны вясьци дазнанне и* ***шукаць*** *па вёскам* ***памешчыцкаго лесу*** [НН, 1907, № 13, с. 7]; *Ішоў босы ... надта моцна удэрыўся нагою аб камень, ажно* ***злупіў*** *сабе с пальца на назе* ***кіпця*** [НН, 1912, № 51–52, с. 6]; *Adna kabiecina stała* ***baranić synkowaho čuba*** [НН, 1910, № 7, с. 117]; *Не паслаўшы дэпутатоў такіх у Думу каторые б* ***баранілі нашых спраў*** *німа каму падняць гэтаго [пытаньня]..* [НН, 1913, № 7, с. 2]; *...былі і такіе, што* ***баранілі сваей хаты, сваей сямейкі, свайго дабра*** [НН, 1913, № 29, с. 1]; ***...слухаючы палітычных гутарак****, мімаволі ўспамінаюцца справы мінулых год* [НН, 1920, № 9, с. 2]; *...у ім [памяшчэньні] няма вялікшае салі, ў якой можна было-бы рабіць вялікшыя сабраньні беларускага грамадзянства ці то дзеля забавы, ці* ***паслухаць лекцыі, рэфэрату*** *і т. п.* [НН, 1920, № 6, с. 3]. Дадзеная канструкцыя ўжываецца з залежнымі назоўнікамі ўсіх трох родаў, аднак колькасна пераважаюць спалучэнні з залежным кампанентам мужчынскага роду. Я. Карскі адзначае, што ў беларускай мове ў адносінах да назваў прадметаў неадушаўлёных адзіночнага ліку і «отчасти множественного» магчыма замена вінавальнага склону родным, гістарычна такія назоўнікі ўзыходзяць да назоўнікаў з асновамі на **ŏ* і **ŭ* [5, с. 397–398]. У «Фармальным сынтаксе» ўдакладняецца, што канструкцыя з родным склонам ужывальная пераважна «ў народнай мове» [9, с. 54]. Сёння такія спалучэнні ўласцівы толькі паўднёва-заходняму дыялекту, а таксама адзначаюцца ў невялікім рэгіёне на поўначы Беларусі (Браслаўскі і Пастаўскі раёны) [ДАБМ, № 211].

Аднак у «Нашай Ніве» колькасна пераважаюць спалучэнні з залежнымі формамі ў вінавальным склоне, што адпавядае сучаснай норме: *Уласнай працай змагу Сабе* ***хлеб дабываць****...* [НН, 1912, № 6, с. 3]; ***kupiŭ*** *sabie stary aficerski* ***surdut*** [НН, 1911, № 27, с. 344]; *Сэкрэтар Гас. Думы* ***чытае ўрадовы (правіцельственны) праект*** *закона для Фінляндіі* [НН, 1910, № 13, с. 202]; *pašancawało* ***wyjhrać lusterka i žbanok*** [НН, 1910, № 11, с. 178]; *нясьмела* ***аддаў*** *Юрка той* ***гаршчочак*** *жонцы* [НН, 1912, № 7, с. 2]; ***... apiewajučy smutak*** *palej* [НН, 1910, № 40, с. 619]; *Лепей* ***мецi свой уласны кут****, як быць прымаком у чужой хаце* [НН, 1910, № 6, с. 101]; *Hraf Potockij* ***achwiarawaŭ*** *waršaŭskami nawukowami tawarystwu* ***dom*** [НН, 1911, № 12, с. 174].

4. У тэкстах газеты выкарыстоўваюцца таксама словазлучэнні з галоўным дзеясловам са значэннем думкі, маўлення і пад. і залежным кампанентам – назоўнікам у месным склоне з прыназоўнікам *аб*, нарматыўныя і ў сучаснай літаратурнай мове: *Найлепей* ***расказаў*** *Думе* ***аб пьянстве и вайне*** *з им, дэпутат з «партии народнай свабоды» Милюков* [НН, 1908, № 5, с. 2]; *Доктары* ***расказваюць*** *страшэнные рэчы* ***аб хваробах и недаеданьню*** [НН, 1908, № 3, с. 7] і г. д. Шырока прадстаўлены і тоесныя па значэнні словазлучэнні з прыназоўнікам ***а***. Паводле П. П. Шубы, такія канструкцыі з'яўляюцца архаізмамі ці дыялектызмамі [10, с. 5]. Параўн.: *...Мужчыны з усяго села збіраюцца да Рамана галіцца, стрыгчыся, а то і так* ***пабалагурыць, а тым ды а сім*** [НН, 1912, № 15–16, с. 3]; *«Ja aszczaślilu, moj bratca, ciabe, Ŭbaczyszsia bytcam u niebi; Hore, bieda nie padojdzie k tabie,* ***dumać*** *nia treba* ***a chlebi*** [НН, 1908, № 26, с. 4]; ***А праектах*** *министэрских законоў ешчэ* ***пагаворым*** *пазьней* [НН, 1907, № 10, с. 2]; *Часта* ***пішуць*** *у газэтах*

***а цяжкой долі** вясковых вучыцелёў, што ім даюць мала пэнсіі (жалаваньня)* [НН, 1914, № 9, с. 2]; *Можэ затым яна [Хмарка] і была такая шчасьлівая, што нічога **ня ведала а Божым свеці*** [НН, 1914, № 25, с. 2]. У сучаснай літаратурнай мове прыназоўнік ***а*** ў спалучэннях з аб'ектнымі адносінамі не адзначаецца.

Ужывальныя і канструкцыі з дадзенымі дзеясловамі / аддзеяслоўнымі назоўнікамі з залежным кампанентам у форме вінавальнага склону і прыназоўнікам *аб*: *Сталые мужыкі збяруцца, бывала, гдзе-небудзь на вулицы, сядуць у радок на прызьбе, ды ўсё **гутараць и гутараць**: то **аб Думу**, то **аб зямлю, аб волю*** [НН, 1908, № 25, с. 6]; ***Распытаўся** наш Пахом **аб дарогу**, узяў з сабою парабка и паехаў у тую старану, пакинуўшы жонку и хату* [НН, 1908, № 20, 25 (8), с. 3]; ***Падумаць аб доктара**, каб ён лечыў хворых, нихто ня хочэ* [НН, 1908, № 6, с. 6]; *Нехай жэ людзи не спяць, а **пастараюцца аб тое**, каб супольными силами бараницца ад гэткаго нешчасьця [пажароў]* [НН, 1908, № 13, с. 6]; *Большая часць стацьцей гэтаго закона [пра мыта] прыймаецца Гас. Думай, толькі трохі **была спрэчка аб тое**, колькі браць мыта за пуд тавару* [НН, 1910, № 8, с. 122]; ***Pačalisia swarki ab toje**, chto maje być karalom [Portugalii]* [НН, 1910, № 40, с. 611]; *Majem nadzeju, što da druhich Kalad **razstaraemsia i ab biełaruskije słowy** da Betlejki* [НН, 1911, № 1, с. 14]; *Я адразу пайшла да пані і ўсё **расказала – і аб незразумелые словы і аб усё*** [НН, 1912, № 22, 31 (13) мая, с. 2]; ***Спорка** тут **ідзе аб тое**, хто будзе назначаць кандыдатоў у дэпутаты: ці архірэй, ці націоналісты* [НН, 1912, № 25, 21 чэрв., с. 1]; *А **думаў** ён [Халімон] **аб тое**...* [НН, 1914, № 45, с. 3]. Я. Карскі адзначаў наяўнасць спалучэнняў з вінавальным склонам пасля прыназоўніка ***аб*** «пасля дзеясловаў маліцца, прасіць і пад.» у старабеларускай мове [5, с. 428].

Такая канструкцыя дастаткова часта сустракаецца ў нумарах газеты за 1920 год: *Між Літвой і Польшчай барацьба ўжо йдзе – і **йдзе яна** як раз **аб тую частку** Заходняе Беларусі, якую Савецкая Расея аддала Літве* [НН, 1920, № 1, с. 1]; *Беларускія установы, якія нясуць помач беларускай беднаце места Вільні, дагэтуль ніколі **не зварочаваліся** да шырокіх кругоў віленскага насяленьня **аб падмогу*** [НН, 1920, № 2, с. 3]; ***Прасілі аб беларускія школы** ў часе панаваньня ковенскага ўраду вёскі Бараны, Клюбічаны Адамчукі, а такжа Лаварышкі..* [НН, 1920, № 3, с. 3]; *Вучыцель **просіць аб магчымую дапамогу*** [НН, 1920, № 8, с. 3]; *...Цяпер у старон, якія вядуць **спорку аб гэты край**, першае месца занялі інтарэсы вузка нацыянальныя* [НН, 1920, № 9, с. 2]; *У Вільню не павінны прысылаць чужаземных войск, бо **аб яе няма споркі*** [НН, 1920, № 9, с. 2].

У «Формальным сынтаксе» нарматыўным прызнаецца ўжыванне прыназоўнікаў ***а, аб, воб*** пры месным і вінавальным склонах [9, с. 36]. Сёння ж словазлучэнні з залежным кампанентам у форме вінавальнага склону не адпавядаюць сінтаксічнай норме і ўжываюцца пераважна ў гаворках на поўначы Беларусі [ДАБМ, № 218; 4, с. 762].

Такім чынам, мове газеты «Наша Ніва» ўласціва варыянтнасць на сінтаксічным узроўні, якая выяўляецца ў суіснаванні розных па будове канструкцый пры выражэнні тоесных адносін. Праведзены аналіз дазволіў таксама адзначыць пераемнасць паміж сінтаксічнымі сістэмамі старабеларускай і сучаснай літаратурнай моў: «старыя» сінтаксічныя канструкцыі, уласцівыя старабеларускай пісьмовай мове, адзначаліся ў мове на пачатку XX стагоддзя як раўнапраўныя з канструкцыямі, што з'яўляюцца нарматыўнымі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове. Сёння яны таксама ўжывальныя ў мове, але пашыраны толькі ў гаворках і ўжываюцца тут па традыцыі. Перыяд функцыянавання «Нашай Нівы» з'яўляецца якраз тым часам, калі адбываўся выбар агульнанацыянальных сінтаксічных сродкаў, варыянтнасць канструкцый пры выражэнні розных адносін якраз і з'явілася фактарам магчымасці выбару тых ці іншых спалучэнняў у якасці нарматыўных.

**Спіс асобных скарачэнняў**

**НН** – «Наша Ніва». (1906–1908): штотыднёвая газета. – Мінск. – Факсімільнае выданне; «Наша Ніва». 1909: штотыднёвая газета. – Мінск. – Факсімільнае выданне; «Наша Ніва». 1910: штотыднёвая газета. – Мінск. – Факсімільнае выданне; «Наша Ніва». 1911: штотыднёвая газета. – Мінск. – Факсімільнае выданне; «Наша Ніва». 1912–1915, 1920: штотыднёвая газета. – Мінск. – Факсімільнае выданне.

**Літаратура**

1. Арашонкава, Г. У. Кіраванне ў беларускай і рускай мовах. Слоўнік-даведнік / Г. У. Арашонкава, В. П. Лемцюгова. – Мінск: Выш. шк., 1991. – 303 с.

2. Важнік, С. Котка ліжа малако, або багатае поле дзейнасці для супастаўляльнага даследавання // Паланістыка–2008 / рэд. А. Кіклевіч, С. Важнік. – Мінск, 2009. – С. 112–116.

3. Важнік, С. А. Станаўленне сінтаксічнай нормы беларускай мовы: «Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча і «Сынтакс беларускае мовы» Я. Лёсіка // Мова – літаратура – культура: Матэрыялы 5 Міжнар. навук. канф. – Мінск, 2007. – С. 406–407.

4. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Уступныя артыкулы. Даведачныя матэрыялы і каментарыі да карт / Акадэмія навук Беларускай ССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; пад рэд. Р. І. Аванесава, К. К. Крапівы, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск, 1963. – 970 с.

5. Карский, Е. Ф. Белорусы: в 3 т. / Е. Ф. Карский; коммент. В. Н. Курцовой. – Минск: БелЭн, 2006. – Т. 2, кн. 2. Язык белорусского народа. – 512 с.

6. Киклевич, А. К. Польский язык. Практический курс / А. К. Киклевич, А. А. Кожинова. – Минск: ТетраСистемс, 2000. – 320 с.

7. Лёсік, Я. Сынтакс беларускае мовы / Я. Лёсік. – Выд. другое, пераробл. – Менск, 1926.

8. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / [Уклад. Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, Я. М. Рамановіч і інш.; рэд. Ю. Ф. Мацкевіч]. – Мінск, 1980. – Т. 2: Д–Л. – 728 с.

9. Чудовіч, В. Фармальны сынтакс / В. Чудовіч, С. Дружылоўская. – Менск: Бел. дзярж. выд-ва, 1930. – 152 с.

10. Шуба, П. П. Тлумачальны слоўнік беларускіх прыназоўнікаў / П. П. Шуба. – Мінск: Нар. асвета, 1993. – 168 с.

*Ю. В. Маліцкі*

## АБ’ЕКТНАЯ МАТЫВАЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ ДЫЯЛЕКТНЫХ НАЗВАЎ РЫБ

Іхтыялагічная наменклатура (назвы рыб) – самая складаная ў плане сістэматызацыі і ўпарадкавання з усіх груп, што адносяцца да фаўністычнай лексікі. Абумоўлена гэта ў першую чаргу экстралінгвістычнымі фактарамі. Справа ў тым, што назвы рыб належаць да ліку слоў, якія «найбольш нераўнамерна размяркоўваюцца па моўнай тэрыторыі і канкрэтныя значэнні якіх найменш дакладна засвойваюцца большасцю носьбітаў мовы» [1, с. 3]. Прычына гэтага заключаецца ў строгай лакалізацыі іхтыялагічных найменняў у адпаведнасці з размяшчэннем прыродных водных аб’ектаў – натуральнага асяродку існавання рыб. «Асобныя найменні рыб актыўна функцыянуюць звычайна толькі там, дзе водзяцца адпаведныя віды ці разнавіднасці рыб, у той час як у мясцовасцях, аддаленых ад вадаёмаў, яны застаюцца цалкам невядомымі ці для асноўнай масы насельніцтва семантычна нявызначанымі» [1, с. 3].

Да гэтага часу ў работах айчынных лінгвістаў, і дыялектолагаў у тым ліку, іхтыялагічная лексіка разглядалася пераважна з этымалагічнага пункту погляду. Радзей закранаўся словаўтваральны аспект. Анамасіялагічны падыход да разгляду тэматычных груп дыялектнай лексікі пачаў актыўна прымяняцца нядаўна.

Выкарыстанне метаду анамасіялагічнага аналізу ў дачыненні да беларускай дыялектнай іхтыялагічнай лексікі дазволіла вызначыць і класіфікаваць асноўныя матывацыйныя характарыстыкі акрэсленага кола назваў [2]. Як сведчыць матэрыял, матывацыйную аснову беларускіх дыялектных назваў рыб складаюць наступныя паказчыкі:

1) характэрная знешняя асаблівасць;
2) характэрная асаблівасць паводзін;
3) характэрная фізічная асаблівасць;
4) час нерасту;
5) біятоп (пераважнае месца існавання);
6) спосаб здабывання;
7) спосаб спажывання.

Першыя пяць паказчыкаў непасрэдна тычацца рэальных уласцівасцей аб'екта намінацыі. Два апошнія – прыкметы апасродкаваныя, сацыялагізаваныя. На гэтай падставе яны могуць разглядацца як другасныя.

Паводле асаблівасцей выражэння названых матывацыйных паказчыкаў масіў беларускіх дыялектных іхтыёнімаў даволі раўнамерна размяркоўваецца па чатырох тыпах матывацыйных адносін: аб'ектны, атрыбутыўны, дзейнасны і метафарычны. Як сведчыць матэрыял, аб'ектны тып з'яўляецца найбольш распаўсюджаным – 27 % ад агульнай колькасці намінацый. Матывацыйную аснову рэгіянальных назваў гэтага тыпу складаюць тры паказчыкі:

1) характэрная знешняя асаблівасць;

2) характэрная фізічная асаблівасць;

3) біятоп.

Назвы, што належаць да аб'ектнага тыпу матывацыйных адносін, рэпрэзентуюць 19 відаў рыб[1]: **акунь, бычок, верхаводка, выразуб, галавень, гаркуша, ёрш, краснапёрка, лешч, лінь, мень, мінога, падуст, плотка, пячкур, рыбец, уюн, харыус, шчупак**. Восем з іх (**акунь, ёрш, карась, краснапёрка, лешч, плотка, пячкур, шчупак**) з'яўляюцца агульнымі для ўсіх вадаёмаў (рэк і азёр) Беларусі.

Матывацыйны паказчык «<u>характэрная знешняя асаблівасць</u>» у канкрэтных іхтыялагічных назвах спасылаецца на саматычныя аб'екты: назвы частак цела і органаў рыбы. У якасці назваўтваральнай базы дадзеныя аб'екты вылучаюцца дзякуючы пэўнай відавочнай адметнасці. Як правіла, яна засноўваецца на асаблівых – адрозных ад рэальнай ці ўяўнай нормы – фізічных характарыстыках пэўнага віду рыбы ў параўнанні з іншымі. Гэта можа быць памер галавы ці вачэй (як правіла, вялікі), форма рыла (празмерна выцягнутая або тупая), наяўнасць вострых наростаў на целе і інш. Пры гэтым параўнальнасць, або вылучальная адноснасць, на нашу думку, выступае вызначальным фактарам. Такім чынам, матывацыйны паказчык «характэрная знешняя асаблівасць» спасылаецца на такія саматычныя аб'екты, як вялікі памер галавы (***головень*** 'галавень', ***галавач*** 'бычок' і інш.), вялікі памер вачэй (***глазач*** 'лешч'), своеасаблівая лінія пазваночніка (***гарбыль*** 'акунь'). У прыведзеных і падобных да іх выпадках спасылка на саматычны аб'ект рэалізуецца ў назве непасрэдна. Аднак у некаторых найменнях яна можа рэалізоўвацца ў пераасэнсаваным выглядзе. Найчасцей гэта адбываецца праз суаднясенне асобных частак цела рыбы з адпаведнымі (ва ўяўленні суб'екта намінацыі) часткамі цела чалавека. Такім шляхам, напрыклад, узнікла назва ***губар*** 'лешч' (назва дадзена паводле наяўнасці ў ляшча «высоўнай ротавай трубкі» [4, с. 113], якая суадносіцца з губамі). У іхтыялагічных найменнях, утвораных на базе паказчыка «<u>характэрная знешняя асаблівасць</u>», матывацыя носіць партытыўны характар: назва ўсёй рыбы абумоўлена падкрэсліваннем адной, адметнай па меркаванні суб'екта намінацыі, часткі цела.

Адзначым, што часам характэрныя саматычныя асаблівасці прадстаўнікоў пэўнага іхтыявіду істотна ўплываюць на выбар моўных сродкаў, якія складаюць фармальнае аблічча наймення. У першую чаргу, гэта тычыцца афіксаў. Так, напрыклад, у аснове назваў ***головень*** 'галавень' і ***галавач*** 'бычок' ляжыць адзін аб'ект – галава, але падставы яго вылучэння ў якасці назваўтваральнай базы розныя. Назва ***головень*** «тлумачыцца не столькі памерам галавы гэтай рыбы, колькі яе асаблівай формай» [1, с. 19] – «шырокай, крыху патоўшчанай» [4, с. 72]. У той жа час назва ***галавач*** абумоўлена менавіта памеравымі характарыстыкамі. Галава гэтай рыбы складае «каля 30 % даўжыні цела» [4, с. 65]. Напэўна, у гэтым і заключаецца розніца ў выбары афіксальных словаўтваральных сродкаў. Суфікс *-ач* адпавядае мадэлі, што рэалізуецца ў словах тыпу *пузач* 'чалавек з пузам, вялікім жыватом', *насач* 'чалавек з вялікім носам'. Суфікс *-ень* гэтай мадэлі не адпавядае.

У аспекце аб'ектнага тыпу матывацыйных адносін паказчык «<u>характэрная фізічная асаблівасць</u>» рэалізуецца ў назвах накшталт ***саплівец***, ***слізун***, ***слінявец***, ***слюнцяй***, ***смаркач*** і інш. Увесь

[1] Аб'ём корпуса беларускіх народных іхтыёнімаў вызначаўся паводле тэматычнага слоўніка «Жывёльны свет» (раздзел «Рыбы») [3]. На дадзены момант гэта найбольш поўны збор дыялектных іхтыялагічных назваў беларускай мовы.

параўнальна аб'ёмны корпус такіх найменняў спасылаецца толькі на адзін аб'ект: слізь, якая пакрывае луску рыбы. Характэрна, што большасць такіх іхтыёнімаў з'яўляюцца рэгіянальнымі найменнямі **ярша звычайнага**.

Матывацыйны паказчык «біятоп» рэалізуецца праз адсылку да аб'ектаў, звязаных з асяродкам існавання прадстаўнікоў тых ці іншых іхтыявідаў. У абсалютнай большасці выпадкаў названы паказчык рэалізуецца ў назвах рыб, што вядуць прыдонны вобраз жыцця. Адпаведна, у якасці такога аб'екта выступае дно. Пры гэтым ролю назваўтваральнай базы можа адыгрываць як агульнае паняцце дна (***днянка*** 'плотка', ***падонак*** 'шчупак' і інш.), так і яго характэрныя асаблівасці (напрыклад, пясчаны характар пакрыцця: ***пясочнік*** 'бычок', ***пясчанка*** 'падуст' і пад.). Відавочна, што такі самы спосаб матывацыі абумовіў і ўзнікненне назвы ***багнік*** 'уюн'. Адзначым, аднак, што гэтае найменне звязана не толькі з глеістым характарам пакрыцця дна вадаёмаў, дзе пераважна жыве **ўюн** («непраточныя поймавыя вадаёмы, зарослыя азёры, старыя рэчышчы, затокі, поймавыя балоты» [4, с. 69]). Глей выступае ў якасці аб'екта, з якім цесна звязана важная асаблівасць паводзін гэтай рыбы. **Уюн** мае звычай зарывацца ў яго, а часам і вельмі доўга знаходзіцца там, напрыклад, у час летняга перасыхання вадаёма [4]. Аб'ектная прывязка некаторых паводзінавых характарыстык уласціва і матывацыі і іншых рэгіянальных іхтыёнімаў. Так, **бычок** атрымаў мясцовую назву ***падкаменшчык***, відавочна, у сувязі са здольнасцю прымацоўвацца пры дапамозе «дыска-прысоскі» [4, с. 65] да ніжняй бакавой паверхні донных камянёў і знаходзіцца ў такім становішчы працяглы час.

У сувязі з аб'ектным тыпам матывацыйных адносін мы, з пэўнай доляй дапушчальнасці, лічым магчымым разглядаць таксама і іхтыялагічныя найменні, матываваныя часам нераставання тых ці іншых відаў рыб. Яны, згодна з прынятай класіфікацыяй, утвораны на базе матывацыйнага паказчыка «час нерасту». Такія назвы звязаны з адноснымі абстрактнымі і канкрэтнымі часавымі катэгорыямі трох відаў. Першы з іх – канкрэтныя месяцы, на якія, згодна з народнымі назіраннямі, прыпадае нераст прадстаўнікоў таго ці іншага іхтыявіду. Сярод найменняў, што ўзніклі такім шляхам, – ***красавік*** 'лешч' (нераст у красавіку), ***марцоўка*** 'шчупак' (нераст *у марце*) і інш. Другі від часавай катэгорыі – абрадава-рэлігійныя святы, з якімі, паводле ўяўленняў, прыкладна супадае час нераставання пэўных відаў рыб. На базе такой сувязі ўзніклі назвы тыпу ***мікольнік*** 'лешч' (нераст прыпадае прыблізна на час свята Міколы), ***юравіца*** 'мінога' (нераст прыпадае прыблізна на час свята Юр'я) і інш. Апошнюю, самую шматлікую, групу складаюць найменні, звязаныя з адрэзкамі адноснага прыроднага часу, перыядызацыя якога адпавядае народнай традыцыі класіфікацыі часу. Гэтыя адрэзкі суадносяцца з перыядамі цвіцення пэўных раслін. Назва ў гэтым выпадку абумоўлена аб'ектыўным супадзеннем часу нераставання асобных відаў рыб з часам цвіцення, у першую чаргу, дрэў: ***альхоўка*** 'плотка' (нераст супадае з часам цвіцення альхі), ***бярозавік*** 'лешч' (нераст супадае з часам цвіцення бярозы), ***рабінавік*** 'карась' (нераст супадае з часам цвіцення рабіны) і інш. На базе супадзення часу нерасту з часам цвіцення кустарнікаў узніклі іхтыёнімы ***малінаўка*** 'рыбец', ***чаромушнік*** 'лешч'. Суаднясенне часу нерасту з часам цвіцення іншых раслін вызначыла з'яўленне найменняў кшталту ***лапушнік*** 'лешч' (час цвіцення лопуха), ***каласавік*** 'лешч' (час, «калі каласіцца жыта» [1, с. 49]) і інш. Можна меркаваць, што дадзеныя іхтыёнімы ўтвораны па аналогіі і з'яўляюцца прыватнымі выпадкамі рэалізацыі пэўнай матывацыйнай мадэлі, характэрнай для самага шырокага кола найменняў. Заўважым, што пры дадзеным выбары матывацыйнага паказчыка час нераставання прадстаўнікоў канкрэтнага іхтыявіду можа суадносіцца з часам цвіцення абсалютна розных відаў раслін. Так, у беларускіх гаворках зафіксаваны назвы **ляшча**, суадносныя з часам цвіцення бярозы (***бярозавік*** – паўночны рэгіён Беларусі), вярбы (***вярбовік*** – паўночны і заходні рэгіёны), лазы (***лазовік*** – паўночны і заходні рэгіёны Беларусі), чаромхі (***чаромушнік/чаромхавік*** – паўночны рэгіён, а таксама Смаленшчына), лопуха (***лапушнік*** – Браслаўскі раён).

Лінгвагеаграфічны аналіз рэгіянальных назваў відаў рыб, пашыраных на ўсёй тэрыторыі Беларусі, дае падставы сцвярджаць, што іхтыёнімы аб'ектнага тыпу матывацыйных адносін атрымалі найбольшае распаўсюджанне ва ўскраінных гаворках віцебскай групы. У першую чаргу гэ-

та тлумачыцца пашырэннем у названым рэгіёне найменняў, семантыка якіх аб'ектывавана часам нерасту рыбы. Якраз у гаворках гэтага рэгіёна і зафіксаваны найменні з такой матывацыяй. Так, толькі ў паўночным арэале паўночна-ўсходняга дыялекту адзначаны назвы **шчупака** паводле нерасту – ***апрэлеўка*** і ***марцоўка***. У корпусе абазначальных сродкаў іхтыёнімаў іншых рэгіёнаў, паводле тэматычнага слоўніка «Жывёльны свет», а таксама даступных нам тэматычных лексікаграфічных падборак, найменняў шчупака, матываваных часам яго нерасту, не выяўлена. Пераважная аб'ектная матывацыя «час нерасту» замацавалася і ў вузкарэгіянальных назвах **ляшча** (***бярозавік***, ***вярбовік***, ***лазовік***, ***лапушнік***, ***мікольнік***, ***чаромушнік***, ***ябланевік***), **плоткі** (***альхоўка***, ***бярозаўка***), **карася** (***рабінавік***), **міногі** (***юравіца***), **рыбца** (***малінаўка***).

У межах распаўсюджання іхтыялагічных найменняў аб'ектнага тыпу матывацыі, што называюць прадстаўнікоў аднаго іхтыявіду, часам выяўляюцца супрацьпастаўленні, звязаныя з вылучэннем пэўнага аб'екта ў якасці назваўтваральнай базы. Як прыклад можна прывесці мясцовыя назвы **ярша звычайнага**. Так, у паўночных віцебскіх (і часткова паўночна-заходніх) гаворках вядомы вузкарэгіянальныя назвы тыпу ***калючык***, ***калючка*** і пад. Відавочна, узнікненне такіх найменняў звязана з наяўнасцю ў прадстаўнікоў дадзенага іхтыявіду вострых плаўніковых промняў, якія з'яўляюцца сродкам абароны і становяцца асабліва небяспечнымі для чалавека, калі рыба трапляе з вады на паветра. Гэтая характэрная асаблівасць рэалізуецца і ў агульнапашыранай на тэрыторыі Беларусі назве ***ёрш*** [ад літ. erškētis 'цярноўнік', лат. ĕrškis 'калючка'; 5, с. 27]. Аднак у палескіх гаворках вузкарэгіянальных найменняў, якія б указвалі на наяўнасць на целе рыбы завостраных наростаў, не зафіксавана. Тут распаўсюджаны назвы, што ўзніклі на базе матывацыйнага паказчыка «характэрная фізічная асаблівасць» (***саплівец***, ***слюнцяй***, ***слюнька***, ***смаркач*** і інш.). У гаворках поўначы адпаведныя ў матывацыйным плане іхтыёнімы не адзначаны. Як бачым, на матэрыяле вузкарэгіянальных найменняў **ярша звычайнага** выяўляецца прынцыповае адрозненне ў назваўтваральнай базе іхтыялагічных найменняў, зафіксаваных у гаворках, геаграфічна адпаведных водным басейнам двух рэгіёнаў – поўначы і поўдня Беларусі. У гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту ў якасці базавага аб'екта намінацыі выступаюць вострыя промні зрошчанага спіннога плаўніка, а таксама шчэлепных накрывак. У гаворках поўдня ўсходняй зоны – слізь, якая пакрывае луску рыбы.

Такім чынам, найменні, што адносяцца да аб'ектнага тыпу матывацыйных адносін, характэрны для гаворак усіх рэгіёнаў Беларусі. Аднак найбольш паслядоўна аб'ектная назватворчая база прасочваецца ў вузкарэгіянальных іхтыялагічных намінацыях паўночнай тэрытарыяльнай лакалізацыі. Менавіта тут назвы аб'ектнага тыпу адзначаюцца ў дачыненні да ўсіх агульнапашыраных іхтыявідаў. Найбольшае пашырэнне атрымалі найменні рыб, матываваныя часам нераставання, пэўнымі саматычнымі аб'ектамі, а таксама аб'ектамі, звязанымі з асаблівасцямі пераважнага існавання.

### Літаратура


1. Коломиец, В. Т. Происхождение общеславянских названий рыб / В. Т. Коломиец. – Киев: Наукова думка, 1983. – 159 с.
2. Маліцкі, Ю. В. Беларуская дыялектная іхтыялагічная лексіка: Анамасіялагічная характарыстыка тэрмігрупы // Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванні. Вып. I / пад рэд. Л. П. Кунцэвіч, В. М. Курцовай. – Мінск: Беларус. навука, 2010. – С. 119–122.
3. Жывёльны свет: Тэматычны слоўнік / рэд. Л. П. Кунцэвіч, А. А. Крывіцкі. – Мінск: Беларус. навука, 1999. – 239 с.
4. Рыбы: Популярный энциклопедический справочник / под ред. П. И. Жукова. – Минск: БелСЭ, 1989. – 311 с.
5. Этимологический словарь русского языка: В 4 т. Т. 2 (Е – Муж) / Пер. с нем. и доп. О. Н. Трубачёва. – СПб.: Азбука, 1996. – 672 с.

*В. А. Шклярык*

# ХАРАКТАР УСХОДНЕПАЛЕСКАГА ЛЕКСІЧНАГА ЛАНДШАФТУ ПРАЗ ПРЫЗМУ МІКРАТАПОНІМАЎ, СУАДНОСНЫХ З НАЗВАМІ МЕЖАВЫХ АБ'ЕКТАЎ

Назвы межавых аб'ектаў ва Усходнім Палессі, што ляглі ў аснову шэрагу мікратапонімаў краю, адрозніваюцца як ступенню вядомасці, так і тэрыторыяй распаўсюджання. Атрымаць больш поўныя звесткі пра гэты сегмент лексічнага ландшафту рэгіёна дазваляюць вынікі этымалагізацыі мясцовых назваў дробных геаграфічных аб'ектаў, утваральнай базай для якіх выступілі словы *мяжа*, *рубеж*, *сценка*, *скапец*.

З вядомым на ўсёй усходнепалескай тэрыторыі апелятывам ***мяжа́*** *(межа́)*, які ўжываецца ў значэннях 'вузкая паласа неўзаранай зямлі паміж загонамі' [24, т. 3, с. 100], 'вузкая палоска неўзаранай зямлі паміж двума палеткамі' [4, с. 204], 'паласа зямлі, якая падзяляе два суседнія надзелы' [25, с. 176], а таксама 'канец нівы, дзе разварочваюцца з плугам і бараною' [21, с. 35], суадносяцца мікратапонімы *Ме́жы* (Крываносы Старадарож.)[1], *Крывы́я Ме́жы* (Смыковічы Акц.) [18, с. 128], *Узме́шкі* (раней была граніца паміж палямі (інфарм.), Вялікая Сліва Слуцк.) [18, с. 241]. Прычым для апошняй назвы зафіксаваны і больш дакладны апелятыўны адпаведнік: *узме́жак* 'невялікі ўчастак няворнай травяністай зямлі, што ляжыць паўз край поля звычайна на сваім участку' [11, с. 282].

У некаторых мясцовасцях Усходняга Палесся апелятыў *мяжа* мае яшчэ адно значэнне: у Любанскім раёне – 'разора паміж градкамі ў агародзе' [4, с. 204]; тое ж, мяркуючы па ілюстрацыях у «Тураўскім слоўніку», і на Століншчыне [26, т. 3, с. 71], дзе адзначана таксама значэнне 'папярэчная разора ў канцы нівы' [21, с. 168]. Аднак у цэлым для рэгіёна такая семантыка ўказанага слова не характэрна [12, т. 2, № 180].

Разам з тым, як паказаў аналіз наяўных звестак пра склад усходнепалескага мікратапанімікону, суадносныя з апелятывам *мяжа* назвы дробных геаграфічных аб'ектаў выяўлены ў межах даследуемай тэрыторыі пераважна на Случчыне. У іншых мясцовасцях рэгіёна, як правіла, адзначаны мікратапонімы, паходжанне якіх звязана з сінанімічным[2] слову *мяжа* апелятывам ***рубе́ж***, – на Мазыршчыне [18, с. 212; 9, с. 170; 27, с. 470], у Жыткавіцкім [15, с. 170; 6, с. 379], Лоеўскім [18, с. 178; 17, с. 151, 154], Петрыкаўскім [16, с. 121, 138], Столінскім [6, с. 133] раёнах. Некалькі падобных назваў зафіксавана і на поўдні Мінскай вобласці: *Рубе́ж* (Ямінск Люб.), *Рубежа́* (Даманавічы Саліг.) [18, с. 212], *Зарубеж* (Мялешкі Слуцк.) [1, с. 25]. Розніца паміж утваральнымі словамі *мяжа* і *рубеж* заключаецца ў тым, што апошняе з іх сёння не вядома слуцкім і мазырскім гаворкам. Першапачаткова яно ўжывалася са значэннем 'зарубка, зацёс на дрэвах ці пнях', прычым «такімі *рубяжамі* ў старадаўні час акрэсліваліся межы зямель, угоддзяў, уладанняў, абласцей. Пазней *рубяжом* маглі называць неўзараную прастору, якая раздзяляла тэрыторыю населеных пунктаў ці ўладанні гаспадароў, гэта значыць, усякую мяжу, граніцу» [10, с. 245]. Акрамя таго, па сведчанні Г. А. Івановай, «для некаторых мікратапонімаў Рубеж, Рубежнае верагодна і іншая матывацыя – 'паласа мясцовасці, абсталяваная для вядзення баявых аперацый'» [8, с. 76].

Адзначанае вышэй дазваляе сцвярджаць, што па тэрыторыі сумежжа слуцкіх і мазырскіх гаворак праходзіць своеасаблівая мяжа паміж арэаламі мікратапонімаў, суадносных з апелятывамі *мяжа* і *рубеж*. А паколькі апошні з іх ва Усходнім Палессі ўжо не ўжываецца, пра колішні ягоны арэал можна меркаваць, у прыватнасці, па тэрыторыі распаўсюджання адпаведных назваў дроб-

[1] Некаторыя з пададзеных у артыкуле мікратапонімаў запісаны аўтарам падчас палявых экспедыцый у шэраг раёнаў Гомельскай і Мінскай абласцей летам 2007 года (такія найменні прыводзяцца без спасылак). Усе айконімы падаюцца ў адпаведнасці з нарматыўнымі даведнікамі з серыі «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь» [19; 20], згодна з адлюстраваным у іх адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзелам краіны.

[2] Сінанімічнасць слоў *мяжа* і *рубеж* засведчана, у прыватнасці, у «Гістарычным слоўніку беларускай мовы», параўн.: **межа** 'мяжа', 'граніца' [7, т. 17, с. 310] і **рубежъ, рубежь** 'граніца', 'мяжа чаго-н.', 'межавы знак' [7, т. 30, с. 459–460].

ных геаграфічных аб'ектаў. На Стаўбцоўшчыне, напрыклад, вядомы не толькі мікратапонімы, у аснове якіх ляжыць лексема *рубеж*, але ўжываецца і сам апелятыў [23, с. 173], у той час як слова *мяжа* ў якасці ўтваральнай базы геаграфічных найменняў не мае пашырэння.

Ва Усходнім Палессі функцыю адмежавання аднаго ўчастка зямлі ад другога можа выконваць таксама дарожка, так званая ***сце́нка***, прычым семантыка гэтага апелятыва мае шэраг адценняў. У разуменні мясцовых жыхароў размежавальная прыкмета адпаведнага аб'екта не заўсёды з'яўляецца вызначальнай: 'дарожка каля гародаў, гумнаў', 'дарога паміж палеткаў' [24, т. 5, с. 37], 'вузкая дарожка паміж палеткамі, агародамі' [26, т. 5, с. 124], 'дарога за агародамі' [12, т. 2, с. 52], 'дарога паміж палямі' [9, с. 188], 'сцежка на мяжы' [11, с. 281], хоць зафіксаваны і выпадкі атаясамлівання такой дарожкі і мяжы: 'дарожка ў выглядзе мяжы' (Балажэвічы Маз., Галоўчыцы Нараўл.) [5, с. 125], 'палявая мяжа, мяжа між нівамі, якія належаць розным уласнікам' (украінскае Палессе) [3, с. 66].

Нягледзячы на тое, што ў Петрыкаўскім раёне апелятыў *сценка* не адзначаны [12, т. 2, № 83], суадносны з ім мікратапонім *Сце́нка* (Багрымавічы Петр.) сведчыць пра ўжыванне (прынамсі, колішняе) указанага слова і ў гэтым рэгіёне. Ёсць такія назвы дробных геаграфічных аб'ектаў таксама на Мазыршчыне [9, с. 188], аднак у паўднёвай частцы Мінскай вобласці (у межах Усходняга Палесся) падобныя найменні не зафіксаваны. Прычым апелятыў *сценка*, адзначаны ў вёсцы Амговічы Слуцкага раёна, падаецца з каментарыямі «*за́раз сцёнак няма́*» [12, т. 2, с. 52], «называлі раней» [12, т. 2, с. 53]. Гэта дае падставы сцвярджаць, што разам з адсутнасцю на поўдні Міншчыны мікратапонімаў, суадносных са словам *сценка*, выходзіць з ужытку на дадзенай тэрыторыі і адпаведны апелятыў. У той жа час у межах арэала мазырскіх гаворак гэтае слова не толькі дастаткова вядомае, але і паслужыла асновай для ўтварэння шэрагу назваў дробных геаграфічных аб'ектаў. А ўлічваючы тое, што ў значэнні 'мяжа' апелятыў *сцяна* ўжываўся яшчэ ў старабеларускай мове [22, с. 152], падобны семантычны аб'ём аднакарэннага слова, зафіксаванага ў другой палове XX ст. на Мазыршчыне (гл. вышэй), сведчыць у тым ліку пра больш старажытны характар такой семантыкі.

Апелятыў ***скапе́ц*** ***(скопе́ц)*** у значэннях 'земляны каморніцкі насып', 'круглы капец бульбы', 'старажытны магільны курган' пашыраны пераважна на тэрыторыі Заходняга Палесся. Вядомы ён і ў некаторых іншых рэгіёнах Беларусі, дзе, аднак, не заўсёды характарызуецца такім аб'ёмам полісеміі [12, т. 2, № 341]. У межах Усходняга Палесся ўказанае слова ўжываецца, як правіла, у другім з прыведзеных значэнняў, якое ў канкрэтнай мясцовасці надзяляецца дадатковымі адценнямі: 'куча бульбы, накрытая саломаю і прысыпаная зверху зямлёю' [29, с. 167], 'капец, месца для захавання гародніны' [28, с. 160], 'мелкі прадаўгаваты або круглы капец для гародніны' [13, с. 232], 'складзеная ў кучу гародніна' [12, т. 2, с. 88], 'сховішча для бульбы на паверхні зямлі' [12, т. 2, с. 95]. Спарадычна ў асобных усходнепалескіх рэгіёнах апелятыў *скапец* мае, акрамя пералічаных, яшчэ адно значэнне: на Глушчыне – 'невялікі насып зямлі' [29, с. 167], на Тураўшчыне – 'памежны паказальнік, які аддзяляў панскую зямлю ад сялянскай' [5, с. 123] і 'межавы капец, са слупком або без яго' [11, с. 280], на Петрыкаўшчыне – 'насып вакол слупа, які стаіць на мяжы лясніцтваў' [11, с. 234]. Семантычнага напаўнення 'старажытны магільны курган' гэтае слова ў межах Усходняга Палесся не мае.

На Мазыршчыне паводле дыялекталагічных атласаў [12, т. 2, № 205, 224; 11, № 23] і «Слоўніка народнагаспадарчых назваў Мазырска-Прыпяцкага Палесся» [25, с. 191] апелятыў *скапец* з'яўляецца адназначным, чым і тлумачыцца адпаведная этымалагізацыя мясцовага мікратапоніма *Скопе́ц* – «поле служыць месцам, дзе жыхары вёскі захоўваюць на зіму бульбу ў кучах (скапцах), накрытых саломай і зямлёй» [9, с. 179]. Аднак звяртае на сябе ўвагу тое, што пры пашыранасці ва Усходнім Палессі ўказанага слова з агульным значэннем 'бурт' суадносныя з гэтым апелятывам назвы дробных геаграфічных аб'ектаў адзінкавыя: акрамя прыведзенага вышэй наймення поля вядома яшчэ назва ўрочышча *Скапцэ́*, зафіксаваная ў вёсцы Вятчынская Рудня Жыткавіцкага раёна [18, с. 222]. Гэты факт дазваляе меркаваць, што прынамсі ў выпадку з апошнім мікратапонімам утваральны апелятыў мог мець іншую семантыку. Ускосна пра гэта сведчаць камен-

тарыі інфарматараў – жыхароў рэгіёна, атрыманыя падчас фіксацыі слова *скапец* у значэнні 'сховішча для бульбы на паверхні зямлі': «малыя круглыя дома» (Ісерна Слуцк.), «дома» (Кузьмічы Люб.), «ско́пе́ц – дома, бурт – у калхо́зе» (Маркоўскае Лельч.) [12, т. 2, с. 95]. Іншымі словамі, маецца на ўвазе аб'ект, размешчаны ў межах сялянскай сядзібы, уласнае імя для якога збыткоўнае, непатрэбнае. Да таго ж такія сховішчы з'яўляюцца сезоннай з'явай, што яшчэ больш зніжае анімічны патэнцыял апелятыва *скапец* з адпаведнай семантыкай.

Больш верагодным падаецца тое, што ў аснове назвы ўрочышча *Скапцэ́* ляжыць слова, якое абазначае межавы паказальнік у выглядзе насыпу са слупам або без слупа: «На мяжы́ ўкапа́лі стоўб і скапе́ц насы́палі» [29, с. 167], «Па казьне[1] стаяць слупкі і скапцэ, слупок сагніў, а скапец есь» [2, с. 21], «Дзе камо́рнік зве́рне зямлю́ на грані каля слупа́» [11, с. 234]. Такія знакі разлічаны на доўгатэрміновае выкарыстанне, а таму выступаюць добрымі арыенцірамі, што, адпаведна, магло з'явіцца падставай для анімізацыі апелятыва *скапец*. У Петрыкаўскім раёне адзначана яшчэ адно значэнне гэтага слова – 'хатка *(бабра)*' [14, с. 148], аднак верагоднасць таго, што семантычнае напаўненне ўтваральнай базы мікратапоніма *Скапцэ́* было менавіта такім, невялікая. Тлумачыцца гэта тым, што апелятыў *скапец* з указанай семантыкай больш нідзе ва Усходнім Палессі не зафіксаваны, а таму дадзенае значэнне, хутчэй за ўсё, мае аказіянальны характар.

Такім чынам, пры невялікай колькасці мікратапонімаў, суадносных з апелятывам *скапец*, семантычны аб'ём гэтага сло́ва на ўказанай тэрыторыі неаднолькавы: на Мазыршчыне ён характарызуецца адназначнасцю, у іншых усходнепалескіх мясцовасцях – наяўнасцю як мінімум двух значэнняў. У адпаведнасці з гэтым дыферэнцыруюцца і разгледжаныя назвы дробных геаграфічных аб'ектаў – паводле магчымых варыянтаў этымалагізацыі мікратапонімаў, што ўказвае на неаднароднасць тапанімічнага ландшафту краю.

**Літаратура**

1. Адамовіч, Я. М. Мікратапанімічныя назвы / Я. М. Адамовіч; пад рэд. Ф. Янкоўскага. – Мінск: Выш. школа, 1971. – 112 с.

2. Арашонкава, Г. У. У слоўнік народнай мовы / Г. У. Арашонкава // Народнае слова / пад рэд. А. Я. Баханькова. – Мінск: Навука і тэхніка, 1976. – С. 16–22.

3. Беларуска-ўкраінскія ізалексы: матэрыялы для абмеркавання: зб. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск, 1971. – 125 с.

4. Блінава, Э. Д. Полісемія ў дыялектнай мове (з гаворак Случчыны) / Э. Д. Блінава, Н. В. Гаўрош // Скарбы народнай мовы: дыялекталагічны зб.: НАН Беларусі. Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа / Рэд. Л. П. Кунцэвіч. – Мінск: Права і эканоміка, 2005. – С. 197–205.

5. Выгонная, Л. Т. Полесская земледельческая терминология / Л. Т. Выгонная // Лексика Полесья. Материалы для полесского диалектного словаря / отв. ред. Н. И. Толстой. – Москва: Наука, 1968. – С. 93–130.

6. Вярэніч, В. Л. Палескі архіў / В. Л. Вярэніч; пад навук. рэд. Ф. Клімчука, Э. Смулковай і А. Энгелькінг. – Мінск: Выдавец ІП Вараксін, 2009. – 692 с.

7. Гістарычны слоўнік беларускай мовы / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэдкал.: А. І. Жураўскі [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982–2011. – 31 вып.

8. Иванова, А. А. Микротопонимия Мозырского Полесья: дис... канд. филол. наук: 10.02.02 / А. А. Иванова. – Минск, 1986. – 201 л.

9. Иванова, А. А. Микротопонимия Мозырского Полесья: монография / А. А. Иванова. – 2-е изд. – Мозырь: УО МГПУ им. И. П. Шамякина, 2007. – 220 с.

10. Казлова, Р. М. Айканімія Беларускага Палесся. Генэзіс назваў: манаграфія. Вып. 1 / Р. М. Казлова; М-ва адукацыі РБ, Гомел. дзярж. ун-т імя Ф. Скарыны. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2009. – 320 с.

11. Лексіка гаворак Беларускага Прыпяцкага Палесся. Атлас. Слоўнік / Г. Ф. Вештарт, Ф. Д. Клімчук, У. А. Кошчанка, І. І. Лапуцкая, І. І. Лучыц-Федарэц // Ін-т мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі. – Мінск: Права і эканоміка, 2008. – 353 с.

12. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. / Акад. навук Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэдкал.: М. В. Бірыла (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Фонд фундам. дaслед. Рэсп. Беларусь, Кам. геадэзіі пры Савеце Міністраў Рэсп. Беларусь, 1993–1998. – 5 т.

[1] *Казна́* – дзяржаўныя зямельныя ўгоддзі [30, с. 326].

13. Лучыц-Федарэц, І. І. Будаўнічая тэрміналогія беларускага Прыпяцкага Палесся / І. І. Лучыц-Федарэц // Народнае слова / пад рэд. А. Я. Баханькова. – Мінск: Навука і тэхніка, 1976. – С. 218–235.

14. Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны // Беларуская мова: міжвед. зб. / рэдкал.: У. В. Анічэнка (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1980. – Вып. 8. – С. 120–188.

15. Матэрыялы для слоўніка гідронімаў Гомельшчыны. Жыткавіцкі раён (працяг) // Беларуская мова: Міжвед. зб. / рэдкал.: У. В. Анічэнка (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1989. – Вып. 17. – С. 157–176.

16. Матэрыялы для слоўніка гідронімаў Гомельшчыны. Калінкавіцкі, Петрыкаўскі раёны // Беларуская мова: міжвед. зб. / рэдкал.: У. В. Анічэнка (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1993. – Вып. 20. – С. 87–147.

17. Матэрыялы для слоўніка гідронімаў Гомельшчыны. Лоеўскі раён // Беларуская мова: міжвед. зб. / рэдкал.: У. В. Анічэнка (гал. рэд.) [і інш.]. – Гомель, 1997. – Вып. 23. – С. 126–162.

18. Мікратапанімія Беларусі. Матэрыялы / Рэд. М. В. Бірыла, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1974. – 328 с.

19. Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гомел. вобл.: нармат. давед. / Н. А. Багамольнікава [і інш.]; пад агул. рэд. В. П. Лемцюговай. – Мінск: Тэхналогія, 2006. – 382 с.

20. Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Мін. вобл.: нармат. давед. / І. А. Гапоненка, І. Л. Капылоў, В. П. Лемцюгова і інш.; пад рэд. В. П. Лемцюговай. – Мінск: Тэхналогія, 2003. – 605 с.

21. Никончук, М. В. Сільськогосподарська лексика правобережного Полісся / М. В. Никончук // АН УССР. Ін-т мовознавства. Житомир. держ. пед. ін-т. – Київ: Наук. думка, 1985. – 312 с.

22. Прыгодзіч, М. Р. Старабеларускі лексікон. Падручны перакладны слоўнік / М. Р. Прыгодзіч, Г. К. Ціванова. – Мінск: Бел. выд. т-ва «Хата», 1997. – 175 с.

23. Прышчэпчык, А. М. Мікратапанімія Стаўбцоўшчыны: дыс.... канд. філал. навук: 10661 / А. М. Прышчэпчык. – Мінск, 1970. – 294 л.

24. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; уклад.: Ю. Ф. Мацкевіч [і інш.]; пад рэд. Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979–1986. – 5 т.

25. Станкевіч, А. А. Лексіка народнай гаспадаркі ў гаворках Мазырска-Прыпяцкага Палесся: манаграфія / А. А. Станкевіч, А. М. Воінава, Л. М. Мінакова; М-ва адукацыі РБ, Гомел. дзярж. ун-т імя Ф. Скарыны. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2008. – 312 с.

26. Тураўскі слоўнік: у 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; склад.: А. А. Крывіцкі [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982–1987. – 5 т.

27. Хроніка Убарцкага Палесся / Аўтар-уклад. А. І. Атнагулаў; навук. рэд. В. Л. Насевіч. – Мінск: Тэхналогія, 2001. – 496 с.

28. Шаталава, Л. Ф. Беларускае дыялектнае слова / Л. Ф. Шаталава; рэд. Г. У. Арашонкава. – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – 208 с.

29. Янкоўскі, Ф. Дыялектны слоўнік / Ф. Янкоўскі; рэд. М. Р. Суднік. – Мінск: Выд. АН БССР, 1959. – 232 с.

30. Яшкін, І. Я. Слоўнік беларускіх мясцовых геаграфічных тэрмінаў: тапаграфія. Гідралогія / І. Я. Яшкін. – Мінск: Бел. навука, 2005. – 808 с.

*В. М. Курцова*

## АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ: СТАТУС БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ, ЗНАЧЭННЕ ГАВОРАК ДЛЯ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ І ІХ МЕСЦА Ў СІСТЭМЕ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МОЎНЫХ СРОДКАЎ[1]

Дзейнасць Аляксандр Ельскага як лінгвіста мала вывучана, калі не сказаць больш: яна нагогул не даследавана ў беларускім нацыянальным мовазнаўстве. Разам з тым, вывучэнню розных аспектаў функцыянавання беларускай мовы, яе гаворак прысвечаны, як паведамляе Г. А. Каханоўскі, наступныя працы А. Ельскага: «Пра беларускую гаворку» (1885), «Слоўнік жабрачай гаворкі на Белай Русі» (1886), «Слоўца пра матэрыялы для вывучэння беларускай гаворкі,

[1] Асноўныя палажэнні гэтага артыкула былі агучаны ў дакладзе «Аляксандр Ельскі: з разваг пра беларускія гаворкі і іх значэнне для літаратурнай мовы», з якім аўтар выступіла на VI Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Знакамітыя мінчане XIX–XX стст. Мінск і Міншчына ў літаратурных творах на рубяжы XIX – пачатку XX ст.» (Мінск, 27 красавіка 2010 г.).

этнаграфіі і літаратуры» (1886), зборнік «100 прыказак, загадак, прыдумак і гавэндаў для пажытку беларускага (крывіцкага) народа». Акрамя таго, захоўваў ён у сваім літаратурна-краязнаўчым музеі «тысячы запісаў беларускага фальклору, дыялектнай лексікі» [1, с. 271]. Нямала каштоўных матэрыялаў мовазнаўчага характару змяшчаецца таксама ў артыкулах, напісаных даследчыкам для «Геаграфічнага слоўніка караўлеўства Польскага і іншых краёў славенскіх». Аднак лінгвістычная спадчына А. К. Ельскага дагэтуль не стала нацыянальным навуковым набыткам, гэта прозвішча нават не ўзгадваецца ў энцыклапедыі «Беларуская мова» [1]. Праўда сёння, у пачатку новага стагоддзя, мы маем, нарэшце, некаторыя надрукаваныя яго працы, прысвечаныя беларускай мове. Гэтыя адзінкавыя публікацыі змяшчаюцца ў аднатомным выданні «Аляксандр Ельскі. Выбранае (Мінск, 2004)». У прадмове да кнігі яе ўкладальнікі Уладзімір Казбярук і Кастусь Цвірка прапанавалі лічыць А. К. Ельскага першым беларускім энцыклапедыстам» [4, с. 16]. Адметна, што ў якасці галоўнага доказу з мноства аргументаў, якія дазволілі надаць А. К. Ельскаму ганаровае званне энцыклапедыста, стваральнікі выдання назвалі яго цікавасць менавіта да праблем беларускай мовы. Выяўлялася яна, як паведамляецца, у асэнсаванні на адпаведным таму часу высокім навуковым узроўні асаблівасцей беларускай мовы, а таксама ў вызначэнні яе статусу і месца сярод іншых славянскіх моў.

Высокая ацэнка мовазнаўчых набыткаў А. К. Ельскага стваральнікамі аднатомнай кнігі прац даследчыка і – самае галоўнае – іх даступнасць шырокай чытацкай аўдыторыі падштурхоўваюць да знаёмства з яго лінгвістычнымі даследаваннямі па беларускай мове.

### *Беларускае моўнае пытанне і стаўленне да яго А. Ельскага*

Другая палова 19-га стагоддзя – час, калі беларускае нацыянальнае пытанне набыло незвычайную актуальнасць у тагачасным грамадскім жыцці ў расійскім і польскім навукова-культурным асяроддзі. Вызначальным у агульным коле нацыянальных беларускіх праблем з'яўлялася моўнае пытанне. Небывалая цікавасць да беларускай мовы ў гэты час мела сацыяльна-палітычны грунт і дыктавалася пераважна характарам падзей, якія адбываліся ў Беларусі пасля задушэння расійскім самадзяржаўем паўстання пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага. Якраз тады, «у канцы 50-х – пачатку 60-х гадоў XIX ст. у сувязі з абвастрэннем палітычнага становішча ў гэтым краі (Паўночна-Заходнім, ці Беларусі) і польска-беларускім нацыянальна-вызваленчым паўстаннем 1863–1864 гг.», расійскаму самадзяржаўю пільна «патрэбны былі доказы таго, што гэта па мясцовай народнай культуры ніякі не польскі, не асобны «славяна-крыўскі», «крывіцкі», «крывічанскі» ці які яшчэ іншы, а «Заходнерускі край» [8, с. 57–58]. Дзеля атрымання доказаў аб прыналежнасці мовы мясцовага насельніцтва да велікарускіх гаворак разгортваецца шырокае этнаграфічнае, фальклорнае і моўнае вывучэнне тэрыторыі Беларусі. Таму і пачынаецца ў нашым краі актыўная праца шматлікіх расійскіх навукова-даследчых і аматарскіх таварыстваў і аб'яднанняў, хоць у сапраўднасці цікавасць да мясцовай культуры, гісторыі гэтага краю ўжо назіралася і раней, пра што сведчаць матэрыялы дзейнасці Аддзялення рускай мовы і славеснасці Расійскай акадэміі навук, Таварыства аматараў расійскай славеснасці пры Маскоўскім універсітэце і іншых устаноў і грамадскіх суполак.

Для вывучэння духоўных і матэрыяльных набыткаў Беларусі на той час былі і іншыя падставы. У пачатку XIX ст. у расійскім мовазнаўстве шырокую папулярнасць набыла новая тэорыя моўнага развіцця грамадства, вядомая, як тэорыя распаду моў [8, с. 39]. Існаванне дадзенай мовазнаўчай тэорыі вымагала ад даследчыкаў доказнай факталагічнай базы, што таксама падштурхоўвала да актывізацыі навуковай дзейнасці на ніве беларушчыны, у тым ліку і ў галіне мовы. Навуковы інтарэс да беларускай праблематыкі ўвасабляўся праз арганізацыю збіральніцкай працы: адбывалася назапашванне этнаграфічных, фальклорных, моўных беларускіх матэрыялаў і іх вывучэнне – апісанне, сістэматызацыя і інтэрпрэтацыя.

Вынікі тагачаснай публічнай палемікі, якая разгарнулася ў рускамоўным і польскамоўным друку наконт моўнага статусу беларускага народа, месца яго мовы ва ўсходнеславянскай (і, нао-

гул, агульнаславянскай) моўнай супольнасці, абагульнена рэпрэзентуюцца трыма адрознымі альтэрнатыўнымі меркаваннямі. Папулярнымі яны былі ў розных палітычных і культурна-асветніцкіх колах, у тым ліку сярод рускіх і іншых славянскіх моваведаў. Згодна з першым поглядам, якога трымаліся галоўным чынам І. І. Сразнеўскі і А. А. Патэбня, беларуская мова з'яўлялася часткай паўднёвага дыялекту рускай мовы. Паводле думкі, якую абаранялі Ф. Міклашыц і А. Аганоўскі, беларуская мова адносілася да дыялекту ўкраінскай мовы. Асобную пазіцыю наконт статусу беларускай мовы займалі М. Надзеждзін і М. Максімовіч. Для іх беларуская мова была не чым іншым, як самастойным моўным утварэннем, такім жа, як мовы руская (велікаруская) і маларуская (украінская). Уласнае меркаванне прапаноўваў П. Жыцецкі. Яму беларуская мова ўяўлялася дыялектам рускай мовы, але гэты дыялект не ўваходзіў у склад паўднёвавелікарускіх гаворак, ён быў самастойным, раўнапраўным сярод іх. Нарэшце, акрамя названых думак, існаваў і яшчэ адзін своеасаблівы, кампрамісны погляд. Ён належаў даследчыку-лінгвісту Я. Ф. Карскаму. На думку Я. Ф. Карскага[1], лічыць беларускія гаворкі «поднаречием» паўднёварускіх немэтазгодна: гістарычна беларускія гаворкі старэйшыя за паўднёварускія; не могуць быць яны і «поднаречием» украінскай мовы, бо генетычна «вывесці» іх з украінскіх гаворак немагчыма. Славуты мовавед пісаў: «Мы суадносіны галоўных частак рускай мовы пададзім у наступным выглядзе: руская мова распалася на два «наречия» – велікарускае і маларускае. Затым велікарускае «наречие» падзялілася на гаворкі: паўночнавелікарускія, беларускія і паўднёвавелікарускія; беларуская гаворка потым падпала пад моцны перакрыжаваны ўплыў маларускага «наречия» і польскай мовы» [6, с. 159]. Вось такой канцэпцыі развіцця і складвання беларускай мовы прытрымліваўся акадэмік Я. Карскі. Відавочна, што яна з'яўляецца паўтарэннем меркавання П. Жыцецкага, аднак часткова ўдакладнена, пераасэнсавана і індывідуальна вытлумачана. Сутнасна змест яе той жа: беларускія гаворкі – асобнае «наречие» (дыялект) у складзе велікарускага «наречия». Гэты тэзіс быў паўтораны Я. Карскім таксама пры чытанні ўступнай лекцыі па рускай мове ў Варшаўскім універсітэце [7, с. 439]. Погляд маладога даследчыка на беларускую мову як самастойны дыялект рускай мовы, але ў якім «спалучэнне яго характэрных асаблівасцей не паўтараецца ні ў адной славянскай мове» быў супярэчлівы. Фармальна Я. Ф. Карскі адносіў беларускую мову ўсё ж да дыялектаў рускай мовы, але лінгвістычная характарыстыка дадзенага дыялекту, ці, кажучы словамі аўтара, «белорусского наречия», сведчыла пра існаванне асобнай самастойнай славянскай мовы – беларускай. Ускосным доказам самастойнасці і раўнапраўнасці беларускай мовы сярод іншых славянскіх была, дарэчы, і назва падрыхтаванай да першага тома фундаментальнага даследавання «Беларусы» карты «Этнаграфічная карта беларускага племені. Беларускія гаворкі». У якасці яе ключавога складніка выступала вылучальнае найменне «Беларускія гаворкі», і ўся інфармацыя, змешчаная на карце, мела выключна моўны змест. Што зразумела і матывавана: зыходным крытэрыем характарыстыкі этнасу як асобнай адрознай супольнасці з'яўляецца мова. Праўда, да месца нагадаць, самастойнай мовай з выкарыстаннем тэрміналагічнай адзінкі мова беларуская стала рэгулярна называцца Я. Ф. Карскім фактычна пасля 1928 г. Працяглы час навуковай дзейнасці, прысвечаны даследаванню роднай мовы, аўтар выкарыстоўваў для яе апісання тэрмін «наречие».

Акрамя пералічаных тут мовазнаўчых канцэпцый адносна статусу беларускай мовы, пашыраных у філалагічным асяроддзі, свае погляды на мову суседняга народа – беларусаў – мелі таксама некаторыя прадстаўнікі польскіх культуратворчых колаў. Іх меркаванні амаль нічым не адрозніваліся ад папярэдніх, за выключэннем прадмета палемікі – базавай слоўнай дамінанты «мова». Беларуская мова разглядалася імі пераважна як дыялект мовы польскай.

Вось у такіх складаных умовах, у час адкрытых спрэчак, вострай палемікі на старонках розных перыядычных выданняў, калі беларускай мове галоўным чынам адмаўлялі ў самастойным існаванні і тым самым не прызнавалі беларусаў за асобны славянскі этнас (гл. прыведзены вышэй пералік канцэпцый пра статус беларускай гаворкі), выступіў са сваімі публікацыямі Аляксандр

---

[1] Меркаванні мовазнаўца наконт статусу беларускай мовы адлюстраваны ў заключнай частцы ягонай працы «Обзор звуков и форм белорусской речи».

Ельскі. Сярод шэрагу living рознатэматычных матэрыялаў (рэцэнзій, нататак, нарысаў і інш.), у якіх даследчык мімаходзь закранае і асвятляе беларускае пытанне, ён піша артыкулы мовазнаўчага характару – «Пра беларускую гаворку», «Беларуская мова»[1]. З'яўленне дадзеных тэматычна акрэсленых прац – сведчанне не толькі далучанасці А. Ельскага да тагачаснага грамадскага і навукова-асветніцкага жыцця, найперш гэта адлюстраванне яго асабістых поглядаў на гісторыю ўзнікнення і развіцця мовы наогул, яе формы, на выяўленне адносін паміж гаворкамі і літаратурнай мовай, спроба асэнсавання праблемы адзінай сусветнай мовы і шмат што інш. Але галоўным аб'ектам яго мовазнаўчага інтарэсу з'яўляецца вызначэнне статусу беларускай мовы.

### *Погляды А. Ельскага на статус беларускай мовы: самастойная мова ці дыялект?*

Вызначаючы статус беларускай мовы, даследчык А. Ельскі дае адназначны адказ на дадзенае звышактуальнае для таго гістарычнага перыяду пытанне. Беларуская мова, паводле яго меркавання, з'яўляецца ***самастойнай мовай*** у групе ўсходнеславянскіх моў. Апошнюю ён, карыстаючыся прынятай на той час тэрміналогіяй, называе «ўсходняй, або рускай сям'ёй» [4, с. 357]. Месца беларускай мовы ва «ўсходняй сям'і», да якой належаць таксама мовы «велікаруская» і «маларуская, ці ўкраінская» абумоўліваецца наяўнасцю агульных моўных рыс, якія сведчаць пра іх генетычную і тыпалагічную роднаснасць. Разам з тым, кожная з гэтых моў – асобнае самабытнае гістарычнае фарміраванне, якое з'яўляецца вынікам іх незалежнага гістарычнага развіцця: «... беларускі і маларасійскі дыялекты (у тагачаснай лінгвістычнай тэрміналогіі, мовы – у сучаснай) маюць адметна выпрацаваныя гукі; іх асноўныя формы, аддаленыя ад велікарускай народнай гаворкі, заслугоўваюць асаблівай павагі» [4, с. 316]. Для абгрунтавання статусу самастойнасці беларускай мовы, або «дыялекту», ва «ўсходняй сям'і» А. Ельскі вылучае крытэрыі, якія сведчаць пра яе асобнасць, непадабенства з іншымі мовамі гэтай сям'і. Спецыяльна трэба заўважыць, што ў адрозненне ад наяўных у тагачаснай навуцы прац – гэта вядомыя публікацыі М. А. Коласава, К. Апеля, І. Нядзёшава, А. І. Сабалеўскага, Я. Ф. Карскага і інш., – А. Ельскі не займаецца лінгвістычным апісаннем беларускіх гаворак, ён, абагульняе вядомыя ў навуцы звесткі пра іх і на іх аснове вылучае дыферэнцыяльныя асаблівасці беларускай мовы. Ягонае вылучэнне грунтуецца не толькі на лінгвальных асаблівасцях. Аўтар публікацыі, калі карыстацца метадычным апаратам сучаснай навукі, прапанаваў комплекс разнатыпных крытэрыяў. У іх уваходзяць таксама тэрытарыяльна-этнічныя і дэмаграфічныя, але дыягнастычнымі выступаюць уласнамоўныя. Як адметныя лінгвальныя асаблівасці яны падаюцца сістэмна, ці ў адпаведнасці з рознымі ўзроўнямі моўнай будовы. Гэта фанетычныя, марфалагічныя, сінтаксічныя і лексічныя рысы. Інакш кажучы, у агульным комплексе вылучальных адметнасцей у якасці доказных аргументаў асобасці беларускага этнасу, моўныя рэпрэзентуюцца як галоўныя, утвараючы самастойны комплекс. Найбольш поўна і паслядоўна рознаўзроўневы лінгвістычны комплекс асаблівасцей беларускай мовы адлюстраваны А. Ельскім у артыкуле «Беларуская мова».

Пералік адрознівальных і адначасова дыягнастычных у беларускай мове рыс робіцца даследчыкам праз іх параўнанне з адпаведнымі асаблівасцямі велікарускай, польскай і, спарадычна, украінскай мовамі. Падобны метадычны падыход да аналізу лінгвістычнага матэрыялу з навуковага пункту погляду надзвычай прадуктыўны і мэтазгодны. На думку А. Ельскага, беларускай мове ўласцівы наступны комплекс дыферэнцыяльных асаблівасцей. У галіне гукавога ладу: аканне, дзеканне і цеканне, *г* фрыкатыўнае, якое гучыць як «як громкае (*h*) *г*»[2], падоўжаныя зычныя ў інтэрвакальных умовах, цвёрды *р* (r), наяўнасць зычнага ***ў*** кароткага ў пазіцыйна абумоўленых умовах, звязанага паходжаннем з *w* (в) і *ł* (л), толькі цвёрдыя шыпячыя *ž*, *š*, *č*

[1] Гэтыя артыкулы змешчаны, як паведамлялася спачатку, у аднатомным выданні «Аляксандр Ельскі» [4]. Намі яны будуць выкарыстоўвацца як друкаваная крыніца прац А. Ельскага. Улічваючы, што гэта пакуль што адзінае аднасна поўнае беларускамоўнае выданне, хочацца выказаць асаблівую падзяку стваральнікам кнігі.

[2] Пры выкарыстанні цытат намі захоўваліся літарныя сродкі абазначэння адпаведных гукаў згодна з іх напісаннем у выданні.

(адпаведна ж, ш, ч) пры спалучэнні з наступным галосным *i* ў параўнанні з велікарускай і іншымі славянскімі мовамі [4, с. 357, 358].

Абраныя фанетычныя рысы, якім даследчык надаў статус адрознівальных у беларускай мове, не толькі цалкам адлюстроўваюць яе асобасць у адносінах да суседніх кантактных славянскіх моў, яны выступаюць у якасці адметных дыферэнцыяльных асаблівасцей гукавога ладу сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Гэтаксама як выразная асаблівасць беларускай мовы вылучана ім функцыянаванне прыстаўных галосных ***a*** і ***i***, адзначана гістарычнае чаргаванне заднеязычных зычных са свісцячымі. У адпаведнасці з тагачаснай лінгвістычнай тэрміналогіяй А. Ельскі апісвае гэта гукавое пераўтварэнне наступным чынам: «Зычныя гарлавыя *h*, *k*, *ch* (ці, паводле тэрміналогіі сучаснай фанетыкі, заднеязычныя г, к, х) у канцы слоў перад мяккімі склонавымі канчаткамі змяняюцца язычна-губнымі *z*, *c*, *s* (адпаведна з, ц, с)» [4, с. 358]. Акрамя вышэйназваных, да ліку адметнасцей беларускай мовы ён адносіць таксама пазіцыйнае чаргаванне звонкіх і глухіх, аднак ім вылучаецца толькі адзін выпадак такога чаргавання. Гэта рэалізацыя прыназоўнікаў *s* (с) і *z* (з) як звонкіх ці глухіх гукаў пераважна ў залежнасці ад якасці наступнага зычнага – звонкі/глухі.

У склад вылучальных рыс беларускай гаворкі, характэрных для ўсёй беларускамоўнай этнічнай тэрыторыі, А. Ельскі аднёс і пазіцыйную мяккасць свісцячых *dz'* (дз), *ć* (ц) перад наступным мяккім санорным *w* (в), адсутнасць гука *f* (ф), адпаведнікам якога ў традыцыйным маўленні беларусаў выступаюць гукі *ch* (х), *p* (п), а таксама спалучэнне гукаў *chw* (хв). Не засталася па-за яго ўвагай і такая выключна маўленчая з'ява, як пазіцыйнае пераўтварэнне гука [і] ў [ы], ці, згодна з аўтарскім адлюстраваннем дадзенай асаблівасці, наяўнасць «*y* (ы) на месцы *i* (*ji*), як *з ынишых, в ынишых*» [4, с. 358].

Такім чынам, калі прыняць абраныя А. Ельскім асаблівасці беларускай мовы як дыферэнцыяльныя рысы яе гукавога ладу, то варта заўважыць: многія ўстаноўленыя асаблівасці як у галіне вакалізму, так і ў сістэме зычных, згодна з навуковай інфармацыяй сучасных мовазнаўчых крыніц, сапраўды належаць да ліку найбольш істотных і выразных. Разам з тым, з улікам ведаў пра фанетыку беларускай літаратурнай і дыялектнай мовы, неабходна адзначыць: не ўвесь комплекс прапанаваных гукавых адметнасцей ахарактарызаваны даследчыкам паслядоўна і цалкам. Напрыклад, А. Ельскім не адцемнена, што ў становішчы перад наступным мяккім зычным мякка вымаўляюцца не толькі свісцячыя ***дз***, ***ц***, але і ***з***, ***с***; зычны ***р*** у віцебска-магілёўскіх гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы гучыць як мяккі, ці палатальны, гук; дарэчным было б гаварыць не толькі пра марфаналагічнае чаргаванне заднеязычных ***г***, ***к***, ***х*** са свісцячымі, але і шыпячымі. Аднак падобныя заўвагі не могуць засланіць галоўнае: дыферэнцыяльны комплекс гукавых адметнасцей беларускай мовы ў сваіх асноўных рысах вылучаны А. Ельскім дакладна. Для падмацавання думкі спашлёмся хоць бы на такі факт: прыкладна тоесныя прапанаванаму складу гукавыя вылучальныя рысы маюць месца і ў «Граматыцы» Б. Тарашкевіча [10, с. 51–58 і інш.].

Комплекс марфалагічных і сінтаксічных асаблівасцей у адрозненне ад фанетычных з сучасных лінгвістычных ацэнак пададзены А. Ельскім абмежавана. У якасці адметных рыс скланяльных і спрагальных часцін мовы пералічаны толькі адзінкавыя асаблівасці. Наколькі апраўданы такі падыход наогул і аўтара ў прыватнасці, разважаць складана. Адзначым адно: досыць часта колькасць марфалагічных асаблівасцей залежыць ад фанетыкі моўнага ідыёма і вызначаецца ёй. Але ў сапраўднасці функцыянаванне марфалагічных варыянтаў пэўнай словаформы далёка не заўсёды абумоўліваецца выключна гукавымі адметнасцямі ідыёма канкрэтнага часавага перыяду. Рэальная колькасць флексійных варыянтаў пэўнай граматычнай словаформы звычайна павялічваецца за кошт архаічных канчаткаў. Магчыма, па гэтай прычыне пералік прыведзеных аўтарам марфалагічных асаблівасцей з'яўляецца нібыта не дастатковым. Можна, зразумела, патлумачыць гэта і адсутнасцю на той час граматыкі беларускай мовы і, адпаведна, нераспрацаванасцю прынцыпаў яе ўкладання, заслугоўваюць увагі і іншыя прычыны. Але задачу сваю А. Ельскі бачыў, як думаецца, у іншым. Яму неабходна было назваць толькі тую (тыя) асаблівасць (асаблівасці)

з агульнай колькасці словаформаў зменных (скланяльных і спрагальных) часцін беларускай мовы, якія б не былі характэрны суседнім мовам, не супадалі б з іх аналагічнымі формамі. Пры адзначэнні марфалагічных асаблівасцей А. Ельскім названы асобныя адметнасці розных зменных часцін мовы. Некаторыя з іх сапраўды тыповыя і характэрныя беларускай мове. Так, як адрозная дзеяслоўная форма вылучана форма 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку. І хоць даследчыкам дадзеная форма не размяжоўваецца па асобных тыпах спражэння, аднак ужытыя ім прыклады сведчаць, што ў сістэме асабовых канчаткаў дзеясловаў у 3-й асобе адзіночнага і множнага ліку адлюстраваны два флексійныя рады – канчаткі 1-га і 2-га спражэння. У сістэме скланяльных часцін мовы як дыферэнцыяльная рыса беларускай мовы адзначаны канчатак *y* (-ы). Ён выступае ў назоўным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў і суадносных з ім іншых атрыбутыўных часцін мовы, напрыклад, «сляпы, зялёны, старшы, другі, трэцьці, чацвёрты, дванасты і г. д.» [4, с. 359]. А. Ельскі як варыянт вылучае ў дадзенай лексіка-граматычнай групе слоў таксама канчатак *yj* (-ый), аднак пры гэтым указвае на неаднастайнае ўжыванне *y* (-ы) або *yj* (-ый) у розных частках Беларусі. Што ж датычыць адметных граматычных формаў назоўніка, то яны прадэманстраваны наступным чынам. Прыкметай дыферэнцыяльная марфалагічная форма пазначаны месны склон назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку. Форма меснага склону гэтага роду назоўнікаў сапраўды спецыфічная ў беларускай мове. Але тут аўтар найперш паказвае, якія націскныя і ненаціскныя флексіі ўжываюцца ў ёй і ад чаго залежыць тып канчатка – цвёрды (як *у лесі)*, заднеязычны (як *у борку*, *у лузя*), мяккі (як *на каню*), няпарны цвёрды (як *па двары*) зычны асновы. У рэальнасці не ўсе з канчаткаў дадзенай словаформы – *i* (*-i*), *ja* (*-я*), *u* (*-у*) – з'яўляюцца сапраўды тыповымі і адрознівальнымі для яе. Флексія ***-я*** да ліку тыповых у беларускім маўленні не належыць. Акрамя формы меснага склону назоўнікаў мужчынскага роду, як вылучальную асаблівасць беларускай мовы, А. Ельскі разглядае клічную форму назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду адзіночнага ліку. Ускосным доказам правільнасці выбару дадзенай граматычнай формы ў якасці дыферэнцыяльнай асаблівасці беларускай мовы з'яўляецца ўключэнне Б. Тарашкевічам клічнага склону як асобнага ў склонавую парадыгму назоўніка [10, с. 74–76]. Аднак пасля рэформы правапісу 1933 года клічны склон назоўнікаў быў пазбаўлены статусу адметнай марфалагічнай формы. Сёння, паводле акадэмічнай граматыкі, «гэта форма магла б увайсці ў парадыгматычную сістэму, але яна не атрымала статусу склону ў сістэме сінтаксічных сувязей з-за асобага, адметнага месца, якое яна займае ў сказе» [5, с. 126]. Па ўказанай прычыне дадзеная форма адсутнічае ў сістэме склонаў назоўніка, яе выкарыстанне ў сучаснай моўнай практыцы стандартнымі літаратурнымі нормамі не рэгламентуецца, але і з актыўнага маўленчага ўжытку яна не выключана. Тым самым за клічнай формай назоўніка захавалася фармальнае значэнне сваямоўнай граматычнай формы. Форма назоўнікаў давальнага склону множнага ліку таксама рэпрэзентуецца як дыферэнцыяльная ў беларускай мове. Гэта словы з акцэнтаваным канчаткам om (***-ом***(***-ём***) тыпу «людзём, паном, гаспадаром, дзецём, дзецюком, гасцём, касьцём і г. д.» [4, с. 359]. Наконт яе заўважым наступнае. Прапанаваная склонавая форма, з улікам яе старажытнага паходжання, цалкам адметная ў беларускай мове, перш за ўсё ў гаворках. Аднак яна мае абмежаваную тэрыторыю распаўсюджання і адметнасці ў функцыянаванні. Так, згодна са звесткамі «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (ДАБМ), канчатак ***-ом***[1] адзначаецца на тэрыторыі гаворак паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы. Ён характэрны найперш для слуцка-мазырскага структурнага тыпу гаворак гэтага дыялекту. Функцыянуюць такія назоўнікавыя формы таксама ў сярэднебеларускіх гаворках, аднак прасторава абмежавана [2, карты; карта № 103]. Згодна з картаграфічнай інфармацыяй ДАБМ флексія ***-ом*** ужываецца фактычна паралельна з варыянтам ***-ам***. Да таго ж, у каментарыях да карты «Націскны канчатак давальнага склону множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду з цвёрдай і зацвярдзелай асновай» ледзь не рэгулярна робяцца заўвагі тыпу «старэйшае пакаленне ўжывае форму на **-ом**» ці «форма на **-ом** ужываецца рэдка», «пераважае канчатак **-ам**, але часам у прадстаўнікоў старэйшага пакалення сустракаецца *байцôм*, *дварôм*» [3, с. 541] і да т. п. Інакш кажучы, ужо на час збірання матэрыялаў

[1] Яго фанетычны варыянт ***-ём*** на картах атласа не падаецца.

для ДАБМ (40–50-я гады мінулага стагоддзя), выкарыстанне канчатка ***-ом*** (***-ём***) нават у слуцка-мазырскіх, а тым больш, відавочна, у сярэднебеларускіх гаворках не было пануючым. Пры суісnаванні іх як варыянтных нарматыўнымі і маўленча пераважнымі сталі ў беларускай мове флексіі ***-ам***, ***-ям***. Таму невыпадкова, што і сёння (гэта вынікае з матэрыялаў сучасных дыялекталагічных тэкставых крыніц) формы назоўнікаў давальнага склону множнага ліку з націскнымі канчаткамі ***-ом***, ***-ём*** адносяцца за ліку малаўжывальных [11]. Мабыць, і ў канцы XIX стагоддзя функцыянаванне формы давальнага склону множнага ліку назоўнікаў з акцэнтаваным флексійным гукам [о], таксама не было тыповым, у тагачасным маўленні пераважалі формы тыпу *людзям*, *гаспадарам* і г. д. Разам з тым, выбар А. Ельскім словаформы давальнага склону множнага ліку назоўніка з канчаткамі ***-ом***, ***-ём*** як дыферэнцыяльнай для беларускай мовы пярэчання не выклікае: такой яна і была ў беларускім маўленні ў адносінах да іншамоўных сістэм марфалагічных сродкаў. Правільнасць яе вылучэння спраўджваецца і «Граматыкай» Б. Тарашкевіча [10, с. 71, 72, 83 (склонавая парадыгма)], і рэформай 1930 г.

Іншыя марфалагічныя асаблівасці, якія А. Ельскі кваліфікуе як дыферэнцыяльныя і разглядае як скланяльныя формы, – гэта словаформы «роднага склону, як поўтора, поўтрэця, здаляка, змолоду і г. д.», а таксама «формы давальнага склону, як быць здарову, памалу, па польску, па рускy, паціху і г. д.» [4, с. 359] – паводле граматыкі сучаснай беларускай мовы пераважна не належаць да атрыбутыўных скланяльных словаформаў. Словы тыпу *памалу*, *па-польску* і да т. п. адносяцца да лексіка-граматычнага разраду прыслоўяў, яны з'яўляюцца адметнымі па форме і словаўтварэнні адзінкамі беларускай літаратурнай мовы. Такія прыклады, як «поўтора, поўтрэця» – гэта абазначальныя сродкі, якія лічацца лічэбнікамі, але па сваіх граматычных характарыстыках (скланенне, спалучэнне з назоўнікамі) займаюць у дадзенай часціне мовы асаблівае месца. З боку нарматыўнасці іх статус розны, словаформа «поўтрэця» (паўтраця) не лічыцца літаратурнай.

Група сінтаксічных рыс, як і марфалагічных асаблівасцей, у А. Ельскага колькасна невялікая. Па сутнасці аўтарам прапаноўваюцца два тыпы сінтаксічных адрозненняў. Першы адлюстроўвае адметнасці ў спалучальнасці лічэбнікаў два, тры і чатыры з назоўнікамі ў форме назоўнага склону, другі раскрывае характар і сродкі сувязі, якія выкарыстоўваюцца для сувязі частак складанага сказа. Робіцца гэта галоўным чынам праз параўнанне ўжывальных у кожнай мове лексічных сродкаў сінтаксічнай сувязі. Зразумела, пры такім выбары інфармацыі па раскрыцці асаблівасцей беларускай мовы ў галіне сінтаксісу, скласці аб'ектыўнае ўяўленне пра яе дыферэнцыяльныя рысы складана. Аднак, як думаецца, маюць месца праблемы ў самім прадмеце даследавання. Навуковае вывучэнне сінтаксічнага ладу любой мовы, устанаўленне яго асаблівасцей – не простая даследчая задача.

Раскрыццё лексічных асаблівасцей, ці, кажучы словамі А. Ельскага «сэнсавай прыроды» [4, с. 315], беларускай мовы, у артыкуле «Беларуская мова» фактычна адсутнічае. Даследчык адно робіць спасылку на слоўнік І. І. Насовіча «Словарь белорусского наречия», заўважаючы следам за Я. Карскім, што апошні «найважны сваёй лексікай у некаторай толькі ступені» [4, с. 362]. Але ў публікацыі «Пра беларускую гаворку», якая з'явілася ў друку крыху раней, прыведзены ўласныя ацэнкі аўтара. Паводле А. Ельскага, слоўнік І. І. Насовіча з'яўляецца манументальным творам, які «скрышталізаваў беларускую мову», гэта багатая крыніца мовы беларускага народа, паколькі «змяшчае звыш 30 тысяч слоў». Наяўнасць такога лексікаграфічнага твора, як бачылася даследчыку, дае грунтоўныя падставы для самастойнага незалежнага развіцця беларускай мовы «на ўласнай глебе» [4, с. 317]. Нягледзячы на абагульненую характарыстыку лексічных набыткаў беларускай мовы, А. Ельскі не абмінуў, аднак, адзначыць яе дыферэнцыяльныя рысы. Адметнасць лексічнага складу беларускай мовы выяўлялася, як слушна ім заўважана, у існаванні «некалькіх сот слоў, простых і вытворных, якія маюць у беларускай мове зусім іншае значэнне, чым у велікарускіх гаворках, напрыклад: *кашка*, *брак*, *колдун*, *ліст*, *латы*, *недзеля*, *сліўкі*, *очкі* і г. д.» Адначасова ўказваў: «Апрача названых, у беларускай мове ёсць яшчэ шмат іншых больш-менш тонкіх адрозненняў» [4, с. 316]. Прыкладна гэтак жа, не пералічваючы канкрэтна адрознівальныя абазначальныя сродкі беларускай мовы, у лісце да Яна Карловіча, датаваным лютым 1890 г.,

А. Ельскі зазначаў: «Гэта мова мае мноства слоў самабытных, уласцівых толькі ёй, якія выдатна акрэсліваюць прадмет і больш абстрактныя паняцці» [4, с. 439]. Такім чынам, кіруючыся дадзенымі меркаваннямі, можна пераканаўча сцвярджаць: адрознівальная прырода лексічнага ладу беларускай мовы А. Ельскім ўсведамлялася глыбока. Найперш яна бачылася даследчыку ў існаванні ў мове пласта самабытных лексічных абазначальных сродкаў, ці, як гэта звычайна называюць, уласнабеларускай лексікі, якая дакладна і трапна перадае семантычныя адценні слова. Да ліку адметных слоўных асаблівасцей адносіў ён і корпус разнастайных найменняў, літарнае аблічча якіх было тоесным лексічным адзінкам рускай мовы, але такія словы мелі ў беларускай мове іншае значэнне, інакш кажучы, групу міжмоўных амонімаў. Нарэшце, галоўная лексічная прыкмета ўяўлялася А. Ельскаму ў тым, што ў беларускай мове існавалі магчымасці свабоднага, самастойнага развіцця «на ўласнай глебе». Падобнае сцвярджэнне пра развіццё мовы на «ўласнай глебе» варта, мабыць, разумець не столькі як словы, звязаныя з характарыстыкай слоўніка І. І. Насовіча, а як перакананне ў існаванні ў самой мове моватваральнага патэнцыялу – істотнай колькасці словатваральных сродкаў, якія функцыянуюць у ёй і дазваляюць свабодна ствараць новыя абазначальныя адзінкі – словы.

Вось такі комплекс адрознівальных моўных асаблівасцей быў устаноўлены А. Ельскім, каб даказаць, што беларуская мова – гэта самастойная мова асобнага славянскага народа. У сваёй пераважнай большасці пералічаныя рознаструктурныя асаблівасці з пазнакай «дыферэнцыяльная рыса» з'яўляюцца такімі ў беларускай мове і сёння. Гэта значыць, што дыягнастычны лінгвістычны партрэт беларускай мовы, якім ён бачыўся ў другой палове XIX ст. А. Ельскаму, быў навукова абгрунтаваны і аб'ектыўны. Апошняе, адпаведна, ёсць паказчык высокага ўзроўню моўнай кампетэнтнасці і дасведчанасці аўтара. Аднак, хоць А. Ельскі праз «індывідуальныя», «уласцівыя ёй характарыстыкі» поўнасцю абгрунтаваў раўнапраўны статус беларускай мовы ў «рускай сям'і» і яе адрозненне ад мовы польскай, ён як мовавед заставаўся ў палоне тагачаснага тэзісу, што яна (беларуская мова – В. К.) «з'яўляецца мовай сярэдняй паміж польскай і рускай мовамі»[1]. Разам з тым засцерагаў: «Барацьба супраць яе з любога боку была б бясплённай». Ён жыў надзеяй, што «беларуская гаворка не зменіцца цалкам і добраахвотна на польскую або рускую» [4, с. 314].

Відавочна, А. Ельскі як вядомы дзеяч тагачаснай навукі і культуры, прадстаўнік мясцовай беларуска-польскай інтэлігенцыі, не толькі даказваў самастойнасць беларускай мовы сярод уплывовых суседніх моў, непахіснай была і яго вера ў яе незалежнае існаванне і ў перспектыве – нацыянальна адметнае развіццё.

### *Дыялектнае падложжа беларускай літаратурнай мовы*

Поўная перакананасць А. Ельскага ў функцыянаванні беларускай мовы як самастойнага моўнага ўтварэння, упэўненасць, «што яшчэ і Беларусь будзе жыць сваім духоўным жыццём і выпрацуе сваю «гаворку» да ступені «мовы»» [4, с. 437] дазваляе паставіць чыста навуковае пытанне: якая група гаворак беларускай мовы ўсведамлялася даследчыкам як аснова, база забяспечвальных сродкаў літаратурнай мовы ці, хоць бы, як падложжа для ўгрунтавання граматыкі беларускай літаратурнай мовы? Самы просты і, на першы погляд, задавальняльны адказ – А. Ельскі арыентаваўся на свае мясцовыя гаворкі – з'яўляецца нібыта аб'ектыўным, але наўрад ці цалкам доказным. Сапраўды, калі прыгледзецца да вылучанага А. Ельскім комплексу моўных асаблівасцей як найбольш тыповых і істотных у беларускай мове, можна заўважыць, што ў ягоным пераліку моўных рыс адзначаюцца і тыя, што ўласцівы мясцовым гаворкам аўтара. Сярод іх у сістэме гукавога ладу: аканне (яканне), толькі цвёрдае ***р***, ***ў*** нескладовае, заднеязычны фрыкатыўны *г*, цвёрдыя шыпячыя, падоўжаныя зычныя ў становішчы паміж дзвюма галоснымі і некаторыя іншыя асаблівасці мясцовых гаворак, характэрныя сучасным пухавіцкім гаворкам, у асяроддзі

[1] Думка пра прамежкавае становішча беларускай мовы паміж польскай і рускай была даўняй і шырока распаўсюджанай у тагачасных навуковых-культурных колах грамадства. Прыкладна такога ж меркавання прытрымліваўся Ян Чачот [12, с. 87].

якіх жыў А. Ельскі. Аднак у адрозненне ад комплексу фанетычных асаблівасцей, марфалагічныя рысы, вылучаныя даследчыкам як дыферэнцыяльныя, пухавіцкім гаворкам уласцівы не ўсе. Прынамсі, як сведчаць карты ДАБМ, ні формы клічнага склону назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду [2, карты № 93, 94 адпаведна] з канцавым флексійным *-о*, ні формы назоўнікаў давальнага склону множнага ліку з канчаткам ***-ом*** (***-ём***), хоць яны спарадычна ў якасці варыянтных да формаў з канчаткам ***-ам*** (***-ям***) адзначаюцца на тэрыторыі пухавіцкіх гаворак[1], дадзенай частцы сярэднебеларускіх не характэрныя. Пералічаныя рысы, найперш клічная словаформа назоўнікаў, – гэта асаблівасці, якія маюць статус тыповых у гаворках паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы. Агульнай асаблівасцю, уласцівай паўднёваму краю сярэднебеларускіх гаворак і гаворкам паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы, выступае канчатак дзеясловаў 3-й асобы адзіночнага [2, карты № 148, 149, 153] і множнага ліку [2, карты № 156, 157]. Можна, бясспрэчна, як істотную рысу тутэйшай гаворкі прыгадаць адзначаныя А. Ельскім формы інфінітыва дзеясловаў тыпу *рабіць* і *рабіці*, *умывацісяі*: *начаваць*, *прасіць*. Апошняе сапраўды адпавядае рэчаіснасці. Але тэрытарыяльнае размеркаванне формаў з фармантамі ***ць*** або ***ці*** ў гаворках дадзенага рэгіёна складанае, ужыванне ці перавага аднаго з магчымых варыянтаў прасочваецца невыразна [2, карты № 173–177]. Адносна напісанняў з літарай *о*, якія спарадычна сустракаюцца ў аўтарскіх ілюстрацыях (*подпечча*, *поўтора*, *змолоду*), заўважым наступнае. Падобныя напісанні не могуць быць доказнымі і пераканальнымі па шматлікіх прычынах, у тым ліку і нелінгвістычнага характару.

Такім чынам, нават спыніўшыся на асобных групах граматычных асаблівасцей у якасці адрознівальных у беларускай мове, можна меркаваць: А. Ельскі як мовавед стаяў далёка ад палкага «кутняга» моўнага патрыятызму. Уласцівы беларускай мове комплекс фанетыка-марфалагічных асаблівасцей, прапанаваны даследчыкам, пазбаўлены непасрэднай тэрытарыяльнай аднесенасці, ён угрунтаваны на сінкрэтычным падыходзе. Сутнасць яго ў тым, што ў якасці дыягнастычных рыс у гукавым ладзе беларускай мовы вылучаны тыповыя асаблівасці сярэднебеларускіх гаворак, у галіне марфалогіі – пераважна гаворак паўднёва-заходняга дыялекту. Падобны падыход, ахарактарызаваны як дыферэнцыяльны прынцып, быў, дарэчы, увасоблены і ў «Граматыцы» Браніслава Тарашкевіча [9, с. 296]. А. Ельскі аказаўся тым глыбока кампетэнтным лінгвістам, які па сутнасці прапанаваў яго як зыходны для ўкладання граматыкі беларускай літаратурнай мовы. І гэта яшчэ адзін дадатковы аргумент на карысць шырыні поглядаў А. Ельскага на мову, і, адпаведна, сведчанне глыбокага разумення тых узаемадносін, што існуюць паміж гаворкамі і літаратурнай формай мовы. Аднак падобныя адносіны даследчык дэталёва не разглядаў. Тое, што створана ім, ёмкае паводле зместу, абагульненае, канцэнтраванае, але не апісанае ў дэталях адпаведна прадмету гаворкі.

### *Адносіны паміж літаратурнай мовай і гаворкамі*

У развагах А. Ельскага наконт адносін паміж жывымі гаворкамі і літаратурнай мовай, а менавіта з гэтага пачынае ён свой артыкул-адказ Ю. Кучынскаму (Юзаф Корвін-Кучынскі – *В. К.*) «Пра беларускую гаворку», як зыходная аксіёма пафасна і на сёння надзённа гучаць два базавыя тэзісы. Першы з іх – гэта адказ на пытанне, чым з'яўляюцца жывыя народныя гаворкі для літаратурнай мовы. Ён адлюстраваны ў словах: «Гаворкі, ці прастанародныя паддыялекты, з'яўляюцца для літаратурных развітых моў тым, што карэнне для магутнага дрэва дуба; бо гэтым шляхам культурная мова, як камель дрэва праз карэнне, цудоўна ўцягвае ў сябе сокі жыцця» [4, с. 311]. Другі тэзіс – вытлумачэнне неабходнасці захавання гаворак, дыялектаў, бо менавіта яны з'яўляюцца донарамі, невычэрпнай крыніцай натуральнага развіцця літаратурнай мовы: «Кожная развітая літаратура ні ў якім выпадку не павінна пазбыцца яе (народнай мовы, ці гаворак – *В. К.*), легкадумна мяркуючы, што лепей здабываць жыццё з іншых крыніц, чым з глебы. Як засыхае

[1] На тэрыторыі сучаснага Пухавіцкага раёна пры збіранні матэрыялаў для ДАБМ абследаваліся н.п., якія падаюцца на картах пад нумарамі № 472, 475, 478, 479, 481, 483, 484, 488, 492, 513, 517, 519, 522, 524, 526.

дрэва з абсечанымі каранямі, так і моцны, пануючы дыялект, які знішчыў бы ніжэйшыя гаворкі, сам пазбаўляецца жыццёвых сіл...» [4, с. 311]. Гэтыя тэзісы, дзякуючы іх публіцыстычна-навуковай форме тэкставага адлюстравання, што вымагалася спецыфікай перыядычнага выдання, успрымаюцца найперш як ёмкія афарыстычныя выказванні. Галоўнае, на чым акцэнтуе ўвагу даследчык, вырашаючы праблему адносін паміж мовай літаратурнай і гаворкамі, – іх гарманічнае суіснаванне. Яно выяўляецца ў тым, што «культурная (*літаратурная – В. К.*) мова ***не мае патрэбы зайздросціць гаворкам*** (выдзяленне – *В. К.*), тым больш выціскаць і знішчаць іх». Інакш кажучы, паміж мовай і гаворкамі павінны існаваць узаемадапаўняльныя дачыненні, але кожны з моўных ідыёмаў мае права на самастойнае, незалежнае функцыянаванне. Гэта такое функцыянаванне, пры якім не павінна адбыцца нівеліраванне рознадыялектных сродкаў, «растварэнне» іх у будучыні ў літаратурнай мове як адзінай вышэйшай форме нацыянальнай мовы. Існаванне дыялектаў як адной з формаў мовы, іх натуральнае жыццё дыктуецца «дзеля не прыдуманай, а рэальнай карысці ўсяго грамадства». Гэта карысць, паводле думкі А. Ельскага, выяўляецца ў тым, што літаратурная мова «павінна лагодна асвятляць зверху нізіны народных гаворак». Пераствараючы цытаваныя радкі, можна сказаць, што літаратурная мова павінна аказваць свой уплыў на гаворкі, найперш пашыраючы ці замяняючы склад моўных сродкаў апошніх, але пры гэтым не знішчаючы іх. Працэс падобнага ўзаемнага абмену паміж статусна адрознымі моўнымі сістэмамі павінен адбывацца «без прыніжэння і пагарды» гаворак, бо яны, гаворкі, для мовы апрацаванай служаць базай іх развіцця, грунтам «чыстай, крынічнай дапамогі». Іх наяўнасць увогуле – гэта трывалае падложжа для паўнавартаснага развіцця любой літаратурнай мовы, ці, услед за А. Ельскім, «гэта крыніца жывой вады для рэчышчаў больш шырокіх рэк». Фактычна лёс мовы вызначаецца, як заўважае аўтар, лёсам саміх гаворак, залежыць ад умоў іх функцыянавання. Пры поўнай страце дыялектнага падложжа, можа пачацца і само выміранне літаратурнай мовы: «Бяда мове, калі яна раз і назаўсёды страціць ключы ад гэтых крыніц. Нішто ўжо не засцеражэ яе ад заўчаснага малакроўя». Сам працэс, калі ступень насычанасці мовы чужамоўнымі сродкамі стане вельмі істотнай, пагражае тым, што «ў выніку чужых напластаванняў» нацыя будзе пазбаўлена магчымасці пошуку «ў сваёй мове свежых і здаровых элементаў» для адраджэння, ці «для аднаўлення і супраціўлення духу» [4, с. 311]. Прадуктыўнасць развіцця гаворак і літаратурнай мовы выяўляецца «праз непазбежны абмен паміж развітай мовай і натуральным яе падмуркам – простанароднымі гаворкамі». Падобны ўзаемаабмен разнастайнымі моўнымі сродкамі павінен быць, як думаецца А. Ельскаму, бесперапынным, паколькі пры наяўнасці «перапынку ў натуральных зносінах адзінак і нацый з уласнай глебай» з'яўляюцца прадумовы для разбурэння і знікнення мовы. Калі грамадства дойдзе да падобнай мяжы – страты стасункаў з гаворкамі, – то іх адраджэнне ў наступным праз прыток запазычанняў, у тым ліку і з роднасных моў, ці шляхам «штучнай рэстаўрацыі духоўнасці», паратунку не прынясе [4, с. 311].

На функцыянаванне народных гаворак А. Ельскі глядзіць, як на прадукт заканамернага культурнага, геаграфічнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця, верачы, што гаворкі могуць стаць «наймагутнейшым сродкам узмацнення духоўнасці народаў», інакш кажучы, – падложжам для стварэння мовы «разумовага жыцця», або літаратурнай. Прыводзячы мноства гістарычных прыкладаў, калі гаворкі выканалі паяднаўчую ролю ў грамадстве, падняліся да вышыні літаратурнай мовы нацыі, А. Ельскі з горыччу канстатуе пра адносіны да беларускіх мясцовых гаворак: «Можа, больш, чым дзе-небудзь, адчуваецца ў нас ***патрэба поўнай павагі да народных гаворак*** (выдзяленне наша – *В. К.*), якія вымагаюць арганічнага развіцця, без гвалтоўнага павароту на іншыя, няхай і блізкія шляхі» [4, с. 314]. Такімі шляхамі павароту ў розныя храналагічныя перыяды ў гісторыі беларускай мовы з'яўляліся польскі або рускі. Падобную прымусовую спробу разбурэння «прынцыповай іх (гаворак – *В. К.*) будовы» пры мэтавым уздзеянні на гаворкі іншых моў даследчык ацэньвае, паўтараючы цытаваныя вышэй словы, як бязмэтную і шкодную [4, с. 314]. Пры гэтым ён хвалюецца, каб не змешвалі, не блыталі натуральнае развіццё гаворак пад уздзеяннем кантактных моў з прымусовым. А. Ельскі быў перапоўнены бязмежнай верай, што беларуская гаворка «цалкам і добраахвотна» не зменіцца на ўплывовыя суседнія рускую

або польскую. Змяніць яе развіццё, падпарадкаваць уздзеянню іншай мовы, як думаў даследчык, немагчыма ў прынцыпе. Гэта папросту не можа адбыцца па прычыне глыбіні «самастойнасці духу» беларускай мовы, інакш кажучы, выразнай лінгвальнай адрознасці беларускай мовы ў сям'і роднасных моў, яе самабытнасці сярод іх. Галоўным на той гістарычны момант уяўлялася і з'яўлялася адно: «выказаць гэтай мовай усё высакароднае, прагрэсіўнае і карыснае» [4, с. 317], ці, па-мастацку апрацаваць народныя гаворкі, узвёўшы іх да літаратурнага ўзроўню. Спосаб апрацоўкі гаворак да ўзроўню літаратурнай мовы павінен быць зроблены так, каб «захоўваць чысціню ўстаноўленых слоў і зваротаў» беларускай мовы [4, с. 319]. Практычна заклік быў накіраваны на ўвасабленне ўсяго адметнага, спецыфічнага, адлюстраванага ў дыялектнай мове, што назапасілася за стагоддзі яе развіцця. З палымянай верай у трываласць духу беларускага народа, А. Ельскі заклікае не толькі любіць беларускія гаворкі, ён заклікае «захаваць для ўласнай славы і шчасця айчынную мову, якая з'яўляецца яго (беларускага народа – *В. К.*) сапраўдным скарбам» [4, с. 319].

Мара моваведа, эрудыта і энцыклапедыста А. Ельскага даць новае дыханне беларускім гаворкам у форме літаратурнай мовы спраўдзілася, але клопат пра «***патрэбу поўнай павагі да народных гаворак***» так і застанецца, відавочна, незрэалізаваным, калі прыгадаць характар развіцця народных гаворак у мінулым стагоддзі. Лёс гаворак любой нацыянальнай мовы згодна з канцэпцыямі, якія працяглы час панавалі ў савецкім мовазнаўстве, меўся быць адналінейным – праз нівеліраванне дыялектных асаблівасцей да вымірання дыялектаў.

**Літаратура**

1. Беларуская мова: энцыклапедыя / пад рэд. А. Я. Міхневіча; рэд. Б. І. Сачанка (гал. рэд.) і інш. – Мінск: БелЭн, 1994. – 655 с.
2. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Карты / пад рэд. Р. І. Аванесава, К. К. Крапівы і Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Выд-ва АН БССР, 1963.
3. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Уступныя артыкулы, даведачныя матэрыялы і каментарыі да карт / пад рэд. Р. І. Аванесава, К. К. Крапівы і Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: выд-ва АН БССР, 1963. – 972 с.
4. Ельскі, Аляксандр. Выбранае / Аляксандр Ельскі; уклад. Н. Мазоўка, У. Казбярука; прадм. У. Казберука, К. Цвіркі; пер. з пол. Н. Мазоўка, У. Казберука, Г. Кісялёва. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2004. – 496 с.
5. Кароткая граматыка беларускай мовы. У 2 ч. Ч. 1. Фаналогія. Марфаналогія. Марфалогія / навук. рэд. А. А. Лукашанец. – Мінск: Беларус. навука, 2007. – 351 с.
6. Карский, Е. Ф. Обзор звуков и форм белорусской речи / Е. Ф. Карский // Известия историко-филологического ин-та; кн. Безбородко в Нежине. – 1886. – Т. 10. – № 5. – С. 1–170.
7. Карский, Е. Ф. Белорусы: в 3 т. / Е. Ф. Карский; коммент. В. Н. Курцовой. – Минск: БелЭн, 2006. – Т. 1. Введение в изучение языка и народной словесности. – 656 с.
8. Крывіцкі, А. А. Дыялекталогія беларускай мовы: дапам. / А. А. Крывіцкі. – Мінск: Выш. шк., 2003. – 294 с.
9. Курцова, В. М. Шляхі развіцця сучаснай беларускай літаратурнай мовы: нацыяналізацыя як архаізацыя і рэгіяналізацыя / В. М. Курцова // Sdudia bełorutenistyczne. 2. / redakcja Ryszard Radzik, Michał Sajewicz. – Lublin: Wyd-wo uniwersytetu Marii Curie-Skłodowskiej, 2008. – S. 261–302.
10. Тарашкевіч, Браніслаў. Беларуская граматыка для школ: выд. пятае, перароб. і пашыранае / Браніслаў Тарашкевіч. – Вільня, 1929. – 136 с.
11. Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі. Цэнтральная зона / НАН Беларусі, Ін-т мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы; уклад. В. Д. Астрэйка [і інш.]; навук. рэд. Л. П. Кунцэвіч, В. М. Курцова. – Мінск: Беларус. навука, 2009. – 529 с.
12. Чачот, Ян. Прадмова да зборніка народных песень 1846 г. / Ян Чачот // Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. / уклад. Г. В. Кісялёў, рэд. В. В. Барысенка, А. І. Мальдзіс. – Мінск: Беларус. навука, 2003. – 2-е выд. – С. 86–101.

*В. А. Грамовіч*

# ВЫВУЧЭННЕ НАВУКОВАЙ СПАДЧЫНЫ МАР'ЯНА ПЕЦЮКЕВІЧА[1]

Важнае значэнне для беларускага мовазнаўства, у першую чаргу для нацыянальнай дыялекталогіі, мае даследаванне архіўнай навуковай спадчыны. Гэта дазваляе вярнуць у навуку не толькі забытыя імёны, але і ўвесці ў навуковы ўжытак новую інфармацыю. Мэта нашага артыкула – акрэсліць аб'ём лінгвістычнага матэрыялу ў філалагічнай спадчыне М. Я. Пецюкевіча і паспрабаваць вызначыць магчымыя шляхі яго даследавання.

Мар'ян Язэпавіч Пецюкевіч вядомы як вучоны-этнограф, прыкметны беларускі дзеяч грамадскага і культурнага жыцця Заходняй Беларусі. Нарадзіўся ён у в. Цяцеркі Браслаўскага раёна. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, якую скончыў у 1926 г., пасля – у Віленскім універсітэце на аддзяленні этнаграфіі і этналогіі. Да паступлення ва ўніверсітэт працяглы час з'яўляўся фактычным рэдактарам часопіса «Шлях моладзі». Пасля заканчэння ўніверсітэта з 1939 да 1941 гг. быў дырэктарам Беларускага музея ў Вільні, працу ў якім перапыніла Другая сусветная вайна. У 1949 г. быў беспадстаўна арыштаваны і высланы ў Варкуту, потым на Урал [3, с. 3].

Пасля вызвалення і рэабілітацыі ў 1956 г. Мар'ян Язэпавіч пераехаў на сталае жыхарства ў Польшчу. Як чалавек з універсітэцкай адукацыяй, ён атрымаў пасаду па спецыяльнасці і стаў супрацоўнікам Этнаграфічнага музея ў г. Торуні, дзе і працаваў з 1956 да 1970 г. Навуковая спадчына М. Я. Пецюкевіча ў галіне беларускага народазнаўства адносна вялікая, яна сведчыць пра значны патэнцыял даследчыка, які пад уплывам пэўных абставін не быў рэалізаваны.

Мар'ян Пецюкевіч працаваў не толькі ў галіне этнаграфіі. Будучы студэнтам Віленскага ўніверсітэта, ён вывучаў у якасці дадатковых прадметаў археалогію і славянскую філалогію.

Значную працу па сістэматызацыі і каталагізацыі спадчыны М. Пецюкевіча правёў вядомы беларускі гісторык Ю. Туронак. На сённяшні дзень у архіве аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі захоўваецца фонд № 60 «Мар'ян Пецюкевіч», які складаецца з шасці раздзелаў і налічвае 102 адзінкі захоўвання [1]. Структура архіва наступная:

I. Творчыя матэрыялы Мар'яна Пецюкевіча (15 адзінак). У тым ліку: а) успаміны («У пошуках зачараваных скарбаў», 3 часткі ў рукапісах, чарнавы варыянт; «Пачатак II сусветнай вайны»; «Кара за служэнне народу» і інш.); б) артыкулы («Мае сустрэчы з народнымі песнярамі Янкам Купалам і Якубам Коласам», артыкул, чарнавік; «Прафесар Яніна Гурыновіч», «Мала ведамы і забыты», артыкул прысвечаны Б. Эпімах-Шыпілу); в) іншыя матэрыялы (запісы, прысвечаныя Эміліі Плятар; «Слоўнік цяцерскіх гаворак <...>»).

II. Перапіска (55 адзінак): а) лісты М. Пецюкевіча (30 адзінак) да Анджэя Ангуткі, Дануты Бічэль-Загнетавай, Людвікі Войцік, Адама Мальдзіса, Міраславы Пецюкевіч і інш.; б) лісты да М. Пецюкевіча (25 адзінак): Яніны Гурыновіч, Анатоля Маўчуна, Язэпа Малецкага і інш.

III. Біяграфічныя матэрыялы (3 адзінкі): біяграфіі, адна з якіх складзена фондаўтваральнікам, а таксама аўтабіяграфія.

IV. Матэрыялы, прысвечаныя М. Пецюкевічу (3 адзінкі).

V. Выяўленчыя матэрыялы, датаваныя 1924–1979 (16 адзінак): а) фотаздымкі М. Пецюкевіча (6 адзінак): з сябрамі і знаёмымі, сярод вучняў; б) фотаздымкі іншых асоб (8 адзінак): сябровак, калег па вучобе, вучняў і настаўнікаў; в) іншыя матэрыялы (2 адзінкі).

VI. Калекцыя матэрыялаў, сабраных М. Пецюкевічам (10 адзінак): вершы, малюнкі, публікацыі.

[1] Гэтым артыкулам распачынаецца друкаванне матэрыялаў, якія ў наступным будуць уключаны ў зводны слоўнік беларускіх народных гаворак. Праца па яго ўкладанні праводзіцца аддзелам дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Інстытута мовы і літаратуры.

Асаблівую навуковую цікавасць фонда № 60 уяўляе картатэка (адз. зах. № 14) «Słownik gwary Ciecierskiej. Leksemy rzadko uzywano. Z mowy moich rodzicowi prodków» («Слоўнік цяцерскіх гаворак. Рэдкаўжывальныя лексемы. З мовы маіх родзічаў і продкаў»).

Як вядома, у сучаснай беларускай лінгвістыцы дастаткова поўна апісаны існуючыя лексікаграфічныя выданні. Так, заслужаным аўтарытэтам карыстаюцца бібліяграфічныя паказальнікі «Беларускае мовазнаўства» (1967, 1980, 1993, 2004), а таксама галіновы даведнік В. Кіпеля і З. Саўкі «Беларускія слоўнікі й энцыклапедыі» (2002). У гэтай адметнай публікацыі прыводзяцца звесткі пра звыш 2000 апублікаваных слоўнікаў і каля 130 не выдадзеных лексікаграфічных прац, якія захоўваюцца ў выглядзе рукапісаў і картатэк [2]. Аднак ва ўсіх названых працах адсутнічаюць звесткі пра «Слоўнік цяцерскіх гаворак» М. Пецюкевіча, што сведчыць пра невядомасць гэтай работы не толькі шырокім колам беларускай інтэлігенцыі, але і нават вузкім спецыялістам.

Папярэдні аналіз лексічных матэрыялаў паказвае, што картатэка, якая захоўваецца ў архіве, з'яўляецца не бессістэмным зборам лексікі, а цэльным творам з адзіным метадалагічным падыходам да каталагізацыі моўнага матэрыялу і цалкам адпавядае азначэнню паняцця «слоўнік», прапанаванаму С. С. Бергам: «Слоўнік з'яўляецца сістэматычна арганізаваным спісам сацыялізаваных лінгвістычных формаў, адабраных з маўленчай практыкі пэўнай моўнай супольнасці і растлумачаных складальнікам такім чынам, што кваліфікаваны чытач разумее значэнне кожнай асобнай формы <...>» [цыт. па: 4, с. 28].

Картатэка М. Пецюкевіча складаецца з 1551 карткі, у тым ліку: а) уласна «Слоўнік цяцерскіх гаворак» – 914 картак; б) «Фразеалагічны матэрыял да слоўніка» – 328 картак; в) «Выслоўі» – 103 карткі; г) «Параўнанні» – 100 картак; д) «Прымаўкі і прыказкі» – 44 картак; е) «Пералік назваў, што тычацца адпрацоўкі валакна» – 17 картак; ж) «Лаянкі, праклёны» – 13 картак; з) «Рознае» (жарты) – 8 картак; і) «Загадкі» – 4 карткі; к) «Падслуханае» (размовы) – 1 картка.

У слоўнікавым артыкуле «Слоўніка цяцерскіх гаворак» вылучаецца шэраг інфармацыйных зон: зоны намінацыі, зоны семантызацыі і зоны ілюстрацый. Напрыклад:

**Апасты́лы**. Той, хто вельмі дакучлівы, надаедлівы. *Ён такі апастылы, што на яго ўжо глядзець ня можам, а ўсё роўна прыходзіць і сядзіць да поўначы.*

**Бабо́ўнік**. Лякарская расьліна. *Аграф Сіліфонаў як пачаў піць бабоўнік з палыном, то і вылечыў свой катар жалудка.*

**Вы́хадзіць.** Набіць, пакараць фізычна. *Яны разышліся так, што слова ім нічога ні памагала, а як узіла лазіну і добра выхадзіла, то січас успакоілася.*

Відавочна, што «Слоўнік цяцерскіх гаворак» М. Я. Пецюкевіча з'яўляецца арыгінальнай лексікаграфічнай працай, якая заслугоўвае самастойнага тэарэтычнага даследавання як з боку структурных асаблівасцей, так і з пункту гледжання яго зместавых характарыстык, паколькі сабраны ў ім матэрыял з'яўляецца не толькі важнай крыніцай інфармацыі пра духоўнае і матэрыяльнае жыццё жыхароў ускраіннага паўночна-заходняга рэгіёну Беларусі, але і адлюстраваннем тых моўных працэсаў, што замацаваліся ў мясцовай беларускай гаворцы як вынік міжмоўнага ўзаемадзеяння ў зоне інтэнсіўных славяна-балцкіх кантактаў.

**Літаратура**

1. Słownik gwary Ciecierskiej. Leksemy rzadko uzywano. Z mowy moich rodziców i prodków (Слоўнік цяцерскіх гаворак. Рэдкаўжывальныя лексемы. З мовы маіх родзічаў і продкаў) // Архіў аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтр. навук. біб-кі імя Якуба Коласа НАН Беларусі. – Фонд 60. – Воп. 1. – адз. зах. 14.

2. Кіпель, В. Беларускія слоўнікі й энцыклапедыі / В. Кіпель, З. Саўка. – Нью-Ёрк – Менск: Беларус. ін-т навукі й мастацтва, 2002. – 569 с.

3. Салавей, Л. Адданы Беларусі / Л. Салавей // Сляды незабыўных продкаў: этнаграфічныя нарысы / М. Пецюкевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2007. – С. 3–6.

4. Шчэрбін, В. К. Аб межах паняційнага зместу канцэпту *слоўнік* / В. К. Шчэрбін // Слово и словарь = Vocabulumetvocabularium: сб. науч. тр. по лексикографии / отв. ред. Л. В. Рычкова, И. А. Усаченко. – Гродно, 2009. – С. 28–32.

# ТЭКСТЫ З БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК

## ТЭКСТЫ З ГАВОРАК ПІНСКАГА РАЁНА БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ:
**матэрыялы дыялекталагічнай экспедыцыі 2010 г. і іншыя запісы**

Значная частка матэрыялаў гэтага раздзела – запісы ўзораў сучаснага маўлення насельнікаў Пінскага раёна. Тэрыторыя дадзенага рэгіёна Беларусі спецыяльна вывучалася ў другой палове ХХ стагоддзя ў межах рэалізацыі нацыянальных (ДАБМ, ЛАБНГ) і міжнародных (АЛА) лінгвагеаграфічных, а таксама аўтарскіх (Ф. Д. Клімчук і інш.) праектаў. З лінгвістычнага боку паўднёвая ўскраіна гаворак беларускай мовы характарызуецца выразнай адметнасцю. Асабліва яскрава дыялектная спецыфіка выяўляецца ў сродках моўнага забеспячэння фанетычнага і граматычнага ладу гаворак. Па гэтай прычыне, відаць, невыпадкова, нягледзячы на выкарыстанне адзінай транскрыпцыі, прынятай для фіксацыі матэрыялаў для ДАБМ і ЛАБНГ, пры збіранні матэрыялаў для «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак» для адлюстравання гукавых асаблівасцей гаворак брэсцка-пінскага Палесся былі прыняты дадатковыя графічныя сродкі. Адзін з іх – літара ***и***, якая абазначае гук *і* пасля цвёрдых зычных, другі – ***ӥ***, сімвал, што передае сярэдні паміж *і* і *ю* гук. Але на самай справе, як сведчыць пералік транскрыпцыйных знакаў, прынятых для ДАБМ, і разгляд ілюстрацый, дзе яны практычна выкарыстоўваліся, ужо ў гэтым выданні для дакладнай перадачы якасці рэалізацыі пэўных гукаў у розных фанетычных умовах (гл., напрыклад, каментарыі да карты № 6 «Галосны на месцы ѣ[1] ў першым складзе перад націскам у гаворках з поўным ці частковым адрозненнем галосных няверхняга пад'ёму») ужываўся сімвал ***и***. Ён якраз і з'яўляўся адным са сродкаў адлюстравання фанетыкі мясцовага ідыёма, яе спецыфічнасці, бо ў транскрыпцыйным наборы знакаў ДАБМ, акрамя літарнага сімвала **и**, якім перадавалася цвёрдае вымаўленне папярэдняга зычнага, былі **ы** і **‘и** (‘ паказчык мяккасці кансананта). Таму можна меркаваць, што знакамі **и** і **ы** ўвасаблялася адрознасць у рэалізацыі адпаведных зычных гукаў. У любым выпадку, дзякуючы абранаму рэпертуару транскрыпцыйных сродкаў, як першапачаткова зацверджаных, так і пашыраных, аўтарам нацыянальных лінгвагеаграфічных і іншых навукова-даследчых прац удалося перадаць адметнасці фанетыкі мясцовых гаворак.

Пры расшыфроўцы тэкстаў, якія былі запісаны ў час дыялекталагічнай экспедыцыі 2010 г. у Пінскі раён Брэсцкай вобласці супрацоўнікамі аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Інстытута мовы і літаратуры, спецыяльная транскрыпцыя, у тым ліку і ў яе варыянце, прынятым для ДАБМ і ЛАБНГ, не ўжывалася. Таму запісы, асабліва тыя з іх, што адлюстроўваюць рэалізацыю націскных і ненаціскных галосных няверхняга пад'ёму літарамі **‘и**, **и**, **ы**, паказчыкамі цвёрдасці/мяккасці папярэдняга зычнага, пэўным чынам адрозніваюцца ад прыкладаў, зафіксаваных у кнізе каментарыяў да картаў ДАБМ. Пры апрацоўцы экспедыцыйных матэрыялаў даследчыкі абапіраліся на літарныя сродкі беларускай літаратурнай мовы, але асаблівасці дыялектнага вымаўлення пры гэтым захоўваліся. Такая спрошчаная форма запісу абрана з мэтай даступнасці занатаваных тэкстаў шырокай чытацкай аўдыторыі, а не толькі спецыялістам-філолагам. У сувязі з чым мяккасць папярэдняга зычнага передаецца літарамі **е**, **ё**, **і**, **я**, **ю**, цвёрдасць – **а**, **о**, **у**, **э**, **ы**.

Дыялектныя тэксты, уключаныя ў выданне, адлюстроўваюць індывідуальнае слыхавое ўспрыняцце мясцовай гаворкі.

---

[1] Сімвалам ѣ абазначаецца літара «яць».

*Н. М. Бунько, В. І. Крупко*

# ТЭКСТЫ З ВЁСКІ ВОСТРАЎ

***Расказвае Вера Іванаўна Лабуковіч, 1923 г. н.***; *запісалі Н. М. Бунько, В. І. Крупко, расшыфравала Н. М. Бунько.*

– Вера Іванаўна, на сваім вяку Вам шмат чаго пабачыць давялося...

– Мэнэ́ война́ чуть ны забіла. Я ны забу́лася во́йну. Ха́ту побы́лы, і выво́зілі, і бэдова́ла. А по́слі трэ было́ ў калхо́з ходы́ты, да дзіло робы́ты, я спува́ты ны ходы́ла. Уміла спува́ты, а ны было́ ко́лы. Сем'я́ – было́ дэ́в'ять душ...

– А замуж як выходзілі ці памятаеце?

– Жынехів было́ мо́ра до войны́, адно́ выбіра́й. А пры німцах іздзіла в Пінск роспісьвацца. Ло́дкою большэ́ю іхала. Там роспіса́ласа, а тры бума́гі далі́ – одна́ по-неме́цку, друга́я по-ру́ску, а тре́цяя по-по́льску, таке́й доку́мент быў ў ро́спісі. І сва́дзьбу робы́лі, у цэ́ркві вынча́ліся. У нас тоды́ ны пыклы́ коровáі. Дзіце́й хрысцілі ў цэ́ркві. Хто ў комуністы ны пошо́в, то хрысцілі. Хозя́ін – ішчэ анно́ калхо́з робы́лы – быў пять годо́в брыгодзіром ды застаўля́лі ў па́рцию, а я ні пустіла, каб ішоў у па́рцию, ды зня́лі з брыгодзіра. Да і ста́ло лу́ччай жы́ты, а нашто́ э́та па́рція была́ тоды́? На тый дынь і дзіці похры́шчаны у́сі.

До войны́ хоте́лі йшчэ до бы́лых мэдве́діў отпра́віті ў Сібір – така́ на́ша була́ господа́рка до войны́. Як пры По́льшчы ходы́ла в шко́лу ды ка́жэ: «Чты́ры ко́ты до робо́ты і две мы́шы до́йны / Ой і ў нас было́ господа́рчо го́йнэ / Чты́ры ко́ты до робо́ты і две мы́шы до́йны» – вот така́ было́ господа́рчо. Было́ чты́ры коро́вы до́йны, чты́ры тёлкы і тілёнкы малы́е, во́сім штук у па́шу ходы́ло това́ру і дво́е ко́нэй. І машы́ны булы́ рож молоты́ты і соло́му різаты ското́, а по́слы ў кулокы́ запіса́лы нас – э́тако хозя́йство було́ да хотілы на Сібір отпра́віты да ўжо война́ сту́кнула да оста́лыся. Пя́ціро діте́й було́. Одін – тут мійсца ны хваты́ло – да поіхав служы́ць за Москво́й да нашо́ў дівку да поіхав на Урал да там і ўмэ́р молоды́й, шчэ пійся́т годо́в ны було́, дітэ́й оста́ла цэ́ла ку́ча...

***

– Можа ўзгадаеце, чаму ваша вёска называецца Востраў?

– Дзірэ́ўня Остроў – э́то што кала́ рэ́чкі, а рэ́чка ўсяк называ́ецца: Стыр да Шкаба́ра. До войны́ буў зра́зу поро́м пірііжджа́лі, по́сля мо́ста зробы́лы; два кіло́метры ло́дкою трэ́ба пірііжджа́ты. Лес тут пожа́луста. Я́годы в нас ны рослы́, а грыбы́ за́ра ўжэ е. Да ўжэ свы́ны ды́кыі хо́дять. Са́мы ны ходы́ты вэ́льмы по доро́зі, бога́то свінэ́й ходіть. По́лё поры́лы, карто́шку ўсю перэгрыбы́лы. За́ра ры́бу ло́влять. Во такы́я шчу́кы во! А прыхо́діть ліса́ да ку́ры кра́дэ. Тхоры́ ў кура́тніку мо два́ццаць раз поелы ку́ры.

***

– Раскажыце пра стравы, якія гатавалі. Што з малака рабілі?

Што хош робы́лы з молока́. У аднэ́х людэ́й була́ машы́на, што пірыкру́чвала молоко́, да мы перыкру́чвалы – була́ і сміта́на і творо́х, ма́сло са́мы робы́лы – така́я дзірівя́ная була́, кружачо́к накры́ім да коло́чком пога́паем да наб'ем ма́сло. А я, як шчэ була́ коро́ва, – сы́ра да яе́ц наб'ю да замысю до́брэ, да поўка́чваю такы́і бы бу́блікы да по́снага ма́сла буты́лку ўліла́ ў кастру́лю, кыпіть на газу́ накы́даю э́тых бы бу́блікуў... А за́ра без молока́ жывэ́м – одна́ коро́ва на ўсю дзірэ́ўню. Усяго́ мо́жна було́ зробіть, як свінку заб'ёш. Мя́са пообрізваеш да запра́выш, да натрамбу́еш, а по́сля одрізваеш, як салцісо́н які́ зро́біш.

Ра́ньша, як мої бацькі́ паўміра́лі, не́йку консэ́рвачку купы́лі да порізалі са́ла да молока́ не́кого расце́рла бы творогу́ да поста́вляла на печ да ка́шы не́кай зваріл і – такі́ былы́ по́хороны. А ціпе́р по́хороны ро́білы як на сва́дзьбу, так на по́хороны. Ціпе́р і голубцы́, і котле́ты, і сала́ты... А тады́

да́жа і гурка́ ні ўме́лі собі як поста́віть, як поха́лі ды так у бо́чку засолы́лі, да і з бо́чкы вы́сунулі да нае́ліся. Всім мы́ску вылі́кую нал'юць, карто́шкі насы́плюць на дві стороні́ ў лупы́нах, а мы́ску поста́влять да лё́жкою, і молоко́ гэ́дак робы́лі, мы́ску нал'юць да хлёба́ють лё́жочкою.

– Раскажыце, як вы раней хлеб пяклі?

– Трэ было́ нажа́ты жы́то сэ́рпыком, да й намолоты́ты. Жо́рнамы моло́тым. Намоло́тым да ў дзіжу́ таку́ю дзіравя́ну насы́паць, расшчы́ніш, а по́сля выворо́чваіш. Лопа́та така́ кру́гла, лі́сцяў – на лопа́ту да в піч. Напэ́чэш дзе́в'яць буха́нок і на ніды́лю ны хвата́ло того́ хлі́ба.

– Як хлеб захоўвалі?

– На поль́ıцу кла́лы, а сухы́нькы шчэ под'імо́.

***

– Вы ткалі раней самі, можа вязалі, вышывалі?

– А вышыва́лы, і вяза́лы, всэ робы́лы і тка́лы.

– А чым вязалі?

– Кручка́ з дро́та вы́рэжуць, зро́блять і мале́нкого і тоўшчэ́йшого, як екэ́ ні́ткэ, да вя́жыш.

– А ніткі дзе бралі?

– Аве́чкы дзіржа́лы, а во́ўну – аве́чкы разво́дылы, стры́глы да во́ўну ску́блы, хорошэ́ рашчэ́шуць да як напрадэ́ш да ўжэ вя́жаш што-ныбу́ть. Уся́кы дзіця́м то́пыкы, свэ́дрыкы... Як тка́лы покрыва́лы, то ны́ткы красы́лы. А тыпе́р на тра́пкы подэ́рлы тэ тка́ноё, валя́іцца абы-я́к.

– Каб наткаць, то лён трэба ж было апрацаваць?

– Поло́лы, да ты́і голо́вкы обыва́лы, мочы́лы, постэ́леш, то вы́лежыцца, а по́там ужэ́ трэш, а по́сля трэ́плеш, а по́сля прадэ́ш-скубэ́ш кудзі́льку. Кро́сна малэ́нкы зра́зу булы́ да тчэ́мо. А по́сля дава́й пэрэбіра́ть ужэ́ на до́шчачкы. Ужэ́ та́я сподны́ца – на ей цвыто́чкы робы́лы. Мо́ды вса́кыі поновў́чвалыся да ткалы.

– А ніткі як фарбавалі?

– Кору́ струга́лы во́льхы, крушы́ны.

– А адбельвалі тканіну як?

– Мы́лі в хлёрцы. Золо́ю біллё з полотна́ мы́лі. Ба́ло, білля́ назбіра́іш да в бо́чку дзірв'я́ную поло́жать, а золы́ наве́рсе насы́плють. І ўжэ ў пе́чкы кіпято́к гре́ють і туда́ ллють, а ішчо́ напа́лють жылізя́ку і туда́ ўкі́нуть, коб кыпі́ло, каб то біллё отпа́рылосё.

– І ўсё чыста адбельвалася?

– І ве́рхне і спі́дне. Стары́е ходы́лы, ле́нточкой зав'я́жуть ту соро́чку. А пу́говыц ны було́, да шчэ в штаны́ па́лочку – ды́рку проры́жуть да заткну́ть ту па́лочку. Так штаны́ зашчы́плять стары́е мужыкы́. Гэ́дак ходы́лы.

– А абутак які насілі?

– Посталы́ плелы́ із лозы́: сную́ть-сную́ть, а по́слі попыро́к пірыплі́тують у клётачку, а по́слі подплі́тують таўшчэ́й-таўшчэ́й, ву́шачко поро́блять да шнурка́ засу́нуть. Да портя́нкой [нагу] окру́тять да шчэ й на та́нцы ходы́лы так. А по́слі войны́ што ста́лы робы́ты. З машы́н колёса продова́лы. Э́ту рызі́ну бра́лы да робы́лы бірку́ да зашнуро́вали да так ходы́лы. Ногá ны намока́ла.

– Хату вы самі будавалі?

– Усе́ са́мы робы́лы калі́сці, а як жа. Тыпе́р ныма́ кому́ жы́ты. Тут подві́р'е. Сара́й ілі́ хлів по-дзірыве́нскі – аддзе́льна. А тады́ дзіржы́ш свінэ́й. Свіня́ прыві́дэ́ поросё́нкуў, мо, дэ́сіт. Ніхто́ іх ны купля́е, у ка́ждо́м подві́р'е есць, ка́жны собе́ хозя́ін дзіржы́ть. Вот ужэ́ забы́лы одно́го, поі́лы, по́сля чы́різ ніді́лю друго́го забы́лы. Свое́ кормы́: кормы́лы са́мы собі́. А по́лэ сі́ялы і жы́то жа́лы, снопкы́ віза́лы. Я шчэ й у калхо́зе попожа́ла ўручну́ю. Машы́н ны було́. Тры гыкта́ры ўручну́ю жы́та. Да кілогра́м за со́тку дава́лы зірна́. А това́р хло́пцы па́свілы ады́н год, далы́ на той вы́ход дві́сті грам жы́та. Кі́лько? Жме́ньку. А пасе́ш мі́сяц ты́е коро́вы. Ба́чылы всего́...

– У вас буслы жывуць на страсе хаты?

– У сізо́н прылі́та́ють, а по́слы далі́ко́ одлыта́ють. Оны́ ны зі́му́ють у нас. Зна́ють, дзе за́ра посыдзя́ть і прылыця́ть на той год, шука́ють свое́ ме́йсцы, сваё жытло́.

***

– Як маладыя былі, відаць, недзе збіраліся, гулялі?

– Гуля́лы, покы́ за́муж ны повхо́ділы, то гуля́лы. А за́муж повхо́ділы, дітьмі́ абчапі́лыся. А ў нас клу́ба ны было́ да ў хата́х гуля́лы. Ля́мпу засвы́цять. Хло́пцы гра́лы. На ду́чцы оды́н та́нцы выграва́в. По́льку, краковя́чак і ва́льсы гуля́лы. І одыва́лыся красы́во. І пры По́льшчы до войны́ одыва́лыся красы́во. А по́слы, як во́йна, ды забыдова́лы. На́ша дірэ́вня шчыта́лась бага́таю, у нас шля́хта була́.

– Як у вас даўней Каляды святкавалі? А можа вы і самі хадзілі калядаваць?

– На Коля́ды ходы́лі. Пеклы́ пірогы́ – раскача́ють, раскача́ють дрожжэво́е – цэ́лу печ накладу́ть, да ўжэ іду́ть спува́ты. Рады́лыся: хло́пцу зро́блять ке́пку з ле́нты – ву́занька па два па́льцы ле́нта, то зро́блять бы ша́пку, еі ху́стку харо́шую, плато́к такі вэлікы зав'я́жуть. Сподны́цу нало́жуть таку́ до́ўгу да йшлі ў Коля́ду.

– Як хадзілі ў Каляду, то пэўна і калядныя песні спявалі?

– Спува́лы хорошэ́, тыпе́р ні ўміють так спува́ты. Спува́лы:

Хло́пчык...у ду́дочку гра́е,
Хры́стом вылiча́е,
А вы, лю́ды, зна́йтэ,
Мні каўбасы́ да́йтэ,
Я ту каўбасу́ ды да Бо́га занысу́,
Як Бог на дворы́,
Ды наза́д прынісу́...

Лю́ды даю́ць і конхве́ты, і бу́лочку, і буты́лку нат даду́ць. Тыпе́р хо́дзють і за гро́шы спува́ють цырко́вны коля́ды.

– Ці варажылі на Каляды?

– Тада́ на Коля́ды па́лкі чы дро́ва носы́лы і набіру́ць да шчыта́ють: у каго́ па́ра, вы́йдзеть за́муж. Пыклы́ блынца́, ма́ты дае́ пэ́ршого, ідэ́мо, кыда́эм, дэ соба́ка брэ́ша з еко́го бо́ку, туда́ за́муж вы́йдам. І збува́лосё...

– Можа ўзгадаеце якія яшчэ святы адзначалі?

– Быў пра́зник Мыко́ла. Ідэ́м до цэ́ркви, збіра́емся ўсі друззя́. Два́ццать втаро́го ма́я – Мыко́ла. Збыра́ліся, по́слы ідэ́м по хата́х усі гурто́м. Як у мынэ́ ко́нчылы тэпэ́рэшнэго дня, ужэ́ ідэ́мо поночу́емо. На другы́ дэнь жэ ідэ́м на робо́ту. Дзе ко́нчылы, у тых людэ́й у ачэрэ́д хо́дымо – дэ́сят хат – дэ́сят, двіна́ццать хат – двіна́ццать – усе́ обы́дэмо. Да спува́лы, спува́лы. Як я хорошо́ спува́ла з моі́м чоловіком! Мо́лодзёжы было́! У нас там клуб быў, за́ра ўжэ нэ... Ны́колы і на Па́ску было́ красіво. На Па́ску – мя́со було́, іе́ц нава́рам, пірогы́ напічо́м. Та трэ́ба дві корзі́ны нысты́ світы́ты, така́ мо́да була́. Спува́лы:

Да моя́ жо́на, да жона́ моя́, моя́ жо́нухна,
Пое́дымо, жо́на, до но́ваго мі́ста,
Ку́пімо, жо́на, пла́цці шоўко́вы,
Да жона́ моя́, жо́нухна...

***

***Расказвае Валянціна Фёдараўна Дубінецкая*, *1923 г. н.***; *запісалі Н. М. Бунько, В.І. Крупко, расшыфравала Н. М. Бунько.*

Усёго́ побачыла. Тут народы́лася, тут за́муж вы́шла. Сама́ жыву́. Муж умэ́р у шэ́сцьдэсят сэ́мым году́. Со́рак гадо́ў жыву́ сама́. У на́шой дірэ́ўні німа́ коро́ў. А дірэ́ўня была́ ны така́ вэлы́ка, но ны така́, як сыча́с. До войны́ шчэ збыра́лiся люді, гуля́лы, а по́слы – нэ. На Па́ску когда́-та ны чо́го ны робы́лы. Пра́зновалы тры дня. На пе́рвы день готова́лы ўсё хто, што мів, у кого́ якіе былі

достáткы. Готовáлы, носы́лы я́йца, бу́лкы, мя́со да шчэ мáсло, сы́ры в цэ́рков, святы́лы. Я́йцы цыбу́ляй крáсылы, каб крáсныі булы́.

– А калі ў сям'і памёр нехта ў гэтым годзе, было такое, што яйкі фарбавалі не ў чырвоны колер?

– Было́ такé. А на второ́й день у когó е наготóвлэно, сыдíлы íлы. Гуля́лы такí танóк. Спувáлы пéсні. Зáра тóе ўсё адышлó, усэ́ прыуны́ло.

– Самі вялікую гаспадарку трымалі?

– Я́ку здýжалы. Быў конь, тры карóвы. У нас половы́на дірэ́ўні булá шля́хты, половы́на – мужыкí. До цэ́рквы з э́таго крáю былí мужыкí, на ту стóрану цэ́рквы – шля́хта. Мой мужы́к быв са шля́хты, я – з мужыкíв.

– Не былі супраць бацькі?

– Бывáло такэ́. Прышóў у сваты́, бáтько ні аддавáў мінé за ёгó. Кáжа: Тобí ў том концы́ ні мéсто. А я як успэ́рылася, то ж пошлá. А батькí кáжные – той ні нарáвіцца, той шу́стры. Ні нарáвіцца, а як полю́біш: пойду́ і ўсё. І ідэ́ш. А пóсля й ні булó вэлы́кого шчáсця. Мы роспы́свалыся пры нíмцах, íздилы ў Пінск. Вянчáлыся ў цэ́рквы.

– А як у свякрухі было жыць?

– Ны так і дóбра, ны так і нычóга. Судьбá такá. Іх побы́лы. Мужы́к быў у партізáнах, прышлá бáнда, іх побы́лы. Бы́ло дві дíвчіны, другíй брат... Такáя булá жызь. Гу́ляй у нáшому крáю нія́кіх ні булó.

– У вас шмат рэчак побач, відаць, рыбу лавілі?

– Кагдá-то казáлі ловы́лы – шчупакы́, карáсікы, сомкы́. Вары́лі, ку́шалы, носíлы продавáлы ў гóраде.

– Ці хадзілі ў лес?

– У нас э́то зáра лес нарíс. Самá ходы́ла ёлкі, сóсны сады́т, э́то ўжэ, як умэ́р мой муж, а до гэ́тога ні булó ў нас лíса. Дэ булó пóлэ, ṭіпéр посады́лы лес. У нáшому крáю ны булó лíса...

*Н. М. Бунько, Ю. В. Маліцкі*

## ТЭКСТЫ З ВЁСКІ ПЛОШЧАВА

***Расказвае Вольга Андрэеўна Гапановіч, 1936 г. н., адукацыя 7 класаў***; *запісалі і расшыфравалі Н. М. Бунько, Ю. В. Маліцкі.*

### *«Да відітэ дівоньку до вэнця...»:* пра вясельны абрад

Свáдьбы гуля́лы óчінь інтірéсно ў нáшум крáю. Як свáдьба начінáлася. Ужэ́ жэнíх сабірáе свой рід: блíзкіх, рóдычаў. Пасідя́ть там крóшкі, потóм він сабірáе свáццяў. Всіх в свáты ні берэ́. Жóнок ні берэ́. Берэ́ бáтька, хрышчóного берэ́, дя́дька, брáта і іду́ть до молодэ́і. Э́то гавóрать, до вэнця́ збірáіцца. Посядзя́ць всі крóшкі, повы́п'юць, заку́сяць – йіду́ць до вэнця́ і спю́ваюць пíсні. Як йіду́ць у ді$^{a}$рэ́вню чірáз рэ́чку, то лíтом лóдкамі пераправля́лісь, як зымóю – то на саня́х. Лóшаді украшáлы лéнтамы, звонóчкамы. На сáні посáдяцца, йіду́ць і співáюць таку пíсню:

– Бірíце, дэвочкэ́, розэчкэ́
Да метíтэ улічэ́ньку з концá,
Да віді́тэ дíвоньку до вэнця́.
Як з вэнця́ йіду́ць, то пытáюць:
– Пытáлыся да мáты дóчка,
Ці горíлы ў царкві свечкі.

Погорілы-полáлі пóкі мэ́нэ звэнчáлы.
Сем кніг перычы́тылі,
А вóсьмую малéнькую,
Пóкі мэ́нэ молодéнькую.

На дру́гый дэн жэны́х збірáе всей свой рід і йиду́ць усí молоду́ю забырáты. Як дзе далёка у дірэ́вню, то повóзкамі йидуць. А як мэнэ́ дід [муж] браў – то цéрез адну́ хáту. Прíйидуць до молодэ́і своíм рóдам і станаўля́цца пуд порóгам і спувáюць. Молодэ́й рід стóіць по ту стóрону порóга, а молодóга рід – по гэ́ту стóрону. Молодэ́е рід спувáе:

– Скуль вы, свáцця, чы з Горíхова?
По што, свáцця, да прійíхалы?
Чы по гóрох, ці по сучавы́цу,
Чы по крáсну дзявíцу?
У нас гóрох нэ молочя́ны,
Сучавы́ця нэ колотёна.
Сучавы́ця нэ колотёна.
А дзівóчка у кóпе стóіць,
А дзівóчка у кóсі сэ́дэць.

А молодóго рід спувáе:

– Мы гóрох поколóтымо,
Сучáвцу помолóтымо.
А дзівóчку сóбе схóпымо.
Схóпымо да ручэ́нькамі,
Повэ́ззэмо конычэ́нькамі.
Схóпымо да белíсымі,
Повэ́ззэмо воронíшымі.

А як жэнíх одыхóдзіць до дзíўкі, то спувáюты:

– Мáці сы́на довырáжала, мíсяцэм упірáзала.
Дзíркою зацягну́ла, дóляю засцягну́ла.
Да едзь, сы́нку, в дорóгу, да по шчáсце, по дóлю.
У дорíжаньку шчáсну, да по дзíвочку крáсну.

А вжэ як забірáе молоды́й молоду́ю, то йдуць, збірáють-забірáють «гэ, што такэ́е». Ку́ры лóўлять для шу́ткы, бíгають для забáвы. І спувáють:

– Астоéцца да тобí, мáты,
Чоты́рі да вуглы́ хáты.
А пья́тая стóля.
Астовáйся здорóва.

Гэ́та ужэ́ завóзяць молоду́ю до жэніхá ізнóў пуд парóгам ставля́цца, а мáці молодóга наклáдуе кóжуха, выворáчвае вóвнаю навэрхы́. І у тóму кожу́ху ўту́лісся і выхóдыть. Стрэчáе с паднóсам. На паднóсу – бу́лачка, мэд, лóжачка, дві ру́мочкы. На ручнічку́ гэ́та всё. А ты́я спувáють:

– Ох, і знáты-знáты, што чужáя мáты.
Выверлá кажу́хо, ды хóча злякáты.

А пóтым мáты спувáе:

– Да прыбу́вай, нывістóчка, до хáты.
Дáю тóбі су́коньку до пья́ты,
Каб ты здоровэ́нька ходы́ла,
Коб ты, мóя, под венэ́чко кросы́ла.

Як за мо́їм сы́ном йі́здылі долёко, в Іва́новскій раён. То біру́ть і корты́ны, і её портре́т забра́лы, ку́ры ста́лы ловіты. А та ба́ба: «Бо́жэнько, міленькій! То́лькі ж коро́вку мою́ нэ беры́це!». Для шу́ткі так гаво́рать.

Пры́данае даю́ть і пры́данае выкупля́ють. Нэ́колі як зобіра́лі молоду́ю, сунду́к такэ́й быў. По-на́шаму – скры́ня. А так – сунду́к. І туды́ кладу́ць молодэ́е посте́ль: поду́шкы, одея́ло, прості́нку. Всэ кладу́ць. Вжэ молоду́ю сажа́юць на той кухо́р, і молоды́ дружо́к і друзья́ іду́ць і выкупля́ють. Хто тры рублі́, хто два, хто пьяць. А хто шчо́дры, то і до́брэ дасть. А по́тым забыра́ють молоду́ю. Его́ рід расхо́дітца. Е́слі дэнь малы́, – то о́сэнню – на дру́гый дэнь молодэ́е рід пріхо́дыт. Гэ́та зва́лоса пріда́ным. Вíзваты молоду́ю, садя́цца за стіл, вы́п’ють по ру́мцы і спува́ють таку́ пі́сню:

– Ох, сма́чная вэчаро́нька, смачна́я,
Што на́шая Ніночка вары́ла,
Хоть она́ дымо́чку напіла́са,
Абы́ её вэчаро́нька вдала́са.

А по́тым спува́ють:

– А дэ ж наш сват поды́вса?
Ті в соло́му вкруты́вса?
– Пошо́в наш сват на полёванне,
Зобы́ты тэтэ́раньку,
Ды сва́цям сваі́м на вэчэ́раньку.

А пото́м, як прі́дэ молодэ́е рід, кро́шкі пасядя́ть і спува́ють таку́ пі́сню:

– Покажы́тэ нам на́шэ,
Неха́й з на́мы попля́шэ,
Неха́й з на́мы повіта́етца,
На здоро́вье попыта́етца.

Убіра́ють кого́-нэ́будь заме́сто молодэ́і і вэду́ть. Я разо́м раскажу́ таку́ю быль. Булі́ мы у сва́дьбы. Ужэ́ молоду́ю завэзлы́, ужэ́ столы́ ладу́ють, а мы з де́дам (ішчэ́ нэ дед, ішчэ́ мы молоды́е булы́ – мне гадо́ў два́ццать два было́) хо́дымо. А пчо́лы булы́. Да мого́ дэ́да пчола́ за гу́бу вкусы́ла. І зра́зу губу́ разнісло́: ну чу́до, а ні чоловік! Мы захо́дымо на сва́дьбу, о́ны убіра́юць не́ку жоно́ччыну заме́ст молодэ́і. А то́го молодо́го ма́ты ка́жа: «Ох, Лёнечка, ох мілэ́нькі, дава́й мы тэбэ́ уберэ́м!». То я ужо́ вам кажу́, там чу́да було́! Всі нэ позна́лі. Ён ка́жа: «Ма́мочко-та́точко, поба́чце, як мэнэ́ тут зробы́лы! Прывэзлы́ мэнэ́ і побы́лы!» Ужэ́ сва́дьба конча́ецца. Чэ́рэз нэді́лю молодо́го рід ужэ́ знов іду́ць до ее бацькі́в. Молода́я падзыва́е свікра, свікро́вь, его бра́та на вы́піўку. Называ́лася гэ́та «посішчэ́ннё з піро́га́мы». Прыхо́дять і гуля́ють.

Хто што мав, як хто жыв. Ніколы ма́ма моя́ роска́звала, як пры По́льшчы було́. Прыме́рно мої бацькі́ до́бро жылы́. Тоды́ всяк лю́ды жылы́. У нас бу́ло по́ля мнэ́го. У нас дві до́чкы було́, мы шчыта́ліс тоды́ бога́тымі. А як у другі́х людэ́й було́: п’яць сынів, то жылы́ яны́ ні гэ́дак. А вжэ як я шла за́муж. То по́мню, яго́ хрышчо́на каза́ла: «От, Бу́ня – ма́му дражні́лі маю́ – сва́дьбу харо́шую зробы́ла!». А што там: і блыны́ пе́клы, і смыта́ну ста́вылы, і бу́лку, і колба́сы, і ры́ба...

### *«Нэ йдуць дэўкы замуж, а йдуць к дэсатынкэ...»:* **пра радзіны і жаніцьбу**

Прыхо́дылі у адві́дкі, родня́. Прыно́сять сні́данне порозі́ллі. Поро́дыть дітя́ – э́то ужэ́ порозі́лля называ́ласа э́та жэ́ншчына. По́слі во́йны было́ кро́хы бэднова́то, то пры́дуть да прынэсу́ть што-нэ́будь: то бу́лочку яку́ вку́сну спяку́ть, то блі́нчыкув, то ма́сла. Што ма́лы, то нэ́слы. А ціпе́р маладёж і у го́раде хо́дять, нясу́ть смаку́цце.

Я дво́е в ха́ты [нарадзіла]. І хло́пца пе́ршаго, і дзе́вачку роді́ла до́ма. А ужо́ трэ́цяга – у роддо́ме. А ране́й ба́бкі булы́. В ха́ту она́ прыхо́дыла, зна́ла, што робы́ты, пупо́вынку вьяза́ла. Позыва́лы ту́ю ба́бку на хрэ́сьбіны, як то вэсы́ллё, ці ужэ́ які́я сва́дьбы.

Ны́колы ні дава́лы родітілі жані́тіса. Хóдыть хлóпэц з дівчі́ною... Éслі родітелям нэ нрáвітца, оны́ нэ даду́ть. Éслі упóрам бэрэ́, то бáтько зэмлí нэ дасть. А на чóму жы́ты? Богáты – до богáтых, а бідны – до бідных. Тóды бідныя спувáлы такі пéсні:

– Ой, Божэ́, мой Бóжа!
Што тэпэ́р за дóля.
Што нэ варт фунт клóтчя,
А выхóдіть пóле.
Ой, Бóжэ, мой Бóжа!
Што тэпэ́р за кпы́нкэ,
Нэ йдуць дэ́ўкы зáмуж,
А йдуць к дэсаты́нкэ (у когó дэсаты́нэ пóля було́).

### *«Яка нэдуга е, стану на колена і Бога малю»:* **пра хваробу, замовы і бабку-вядзьмарку**

Натэпэ́р успамінáючы – пóслі пожару́ [у вайну немцы спалілі хату] бáтька хáту пострóіў – булá у мэнэ́ сшíхля, по-белору́скому – малярыя. Хóлодом трыбу́шыть, жóвты чоловíк рóбытца. Я бу́ла такá крóхы жовтовáта, такá крóхы зыленковáта... Такы́ таблéткі былы́, называ́ліса хы́на. І зáра говóрят: «Ох, якá гíркая, што хы́на!». Такы́ таблéточкі мáлынькії... Де-то доставáла мáма, воéнно врéмя бу́ло. У нас лісів нэ мáе, трáвамы ніхтó – нэ [не лячыўся], мáла-мáла хто іх браў. Я знáю, што замóвы есть: од вітру, од звы́ху, од ля́ку, ад усёгó. Я ў гэ́то ні віру. Мáты крóхы от іспу́гу глядíла, от урóков:

– Іды́тэ, врóкэ,
На чэротá, на болотá і на морá.
І там гуля́йтэ, укрутíтэ,
Од моéй дóчэнькы Вóлькы одыдíтэ.

Я ні перынілá йіх, ні хотэ́ла вучы́тца. Я в Бóга вірую. А цэ́рква гэ́тымо ся́кымо шту́кам... запрішчáе. Бáбка в нас булá... Діты часóм то злякáютца, мо плáча вéльмы, то я перш і носы́ла... А потóм я пóбачыла э́ту бáбку, што онá ерундóю занымáетца. Наш сын Сáша ішóў у вáрмію якрáз у Крáсну субóту, і на всю ноч на гэ́ту ні зомыкáютца. У нас стóлько былó мнэ́го людэ́й: і учітэля́, і учэныкы́, і рóду мнэ́го. І на хáты, і на ку́хны сэділы. І нэмá шчэ однóму чолóвіку міспя. Я пошлá до тóе бáбкы, ду́маю, возьму́ шчэ одну́ яку́ тубурэ́точку. У ее́ пéрад образáмі стоя́ў услін, нéяка кухáйка, і як я двéры открыла, онá з нéчым побéгла за гру́бу: ніштa чарувáла. У такýю нóчку! І я от тóго нэ повірыла, ду́маю: у тэ́бэ злый дух. Самá сóбі кажу́: «Гóсподі! Што ты робы́ла, каб тобі тóе остáлосо!». І я од тэ́га што якá нэду́га е, стáну на колéна і Бóга малю́: «Гóсподі, памажы́!».

### *«Руджэство пануе, ангел прылытел...»:* **пра царкву, Вялікдзень, Тройцу і Каляды**

У нас цэ́ркав булá у сусéднюй дірéвні – як шлюз перэ́йдэш – Качанóвічы. В тэ́е врэ́мня, як ні вірылы в Бóга, комуны́сты взя́лы да роскідылы ту́ю цэ́ркву. У якýю стóрону нэ вэрні, то трэ́ба дэ́в’ят-дэ́сать кілóмітраў. У э́ту стóрану рэкá, і туды́ – рэкá. На Пáску, у Крáсну субóту, прыежжáе з сусéднёй дірэ́вні – вóсім кілóмітраў – бáцюшко да і посвя́тыт нам. А в хáты в сэбэ́ мóлімса. Як ніколы на всюнóчну ідэ́м. Як стáнуть Ісу́са Хрыстá будыты, як скáжэ бáцюшко «Хрыстóс воскрэ́с!», аж цíло пэ́рно, бы мурóшкы йдуць по цíлу. Прыхóд буў бальшэ́й-бальшэ́й: дірівéнь пьяць було́. А вóды вэлы́кэ, да тэй цэ́рквы папрыстаю́ць. Як стáнуць ад’ешчáці, кáжны старáецца до дóму, каб скорэ́й на снíданне, так аж вóду за собóю ця́гнуць, аж сóхнэ-сóхнэ-сóхнэ водá. Зáраз вжэ тóго нэмá. Готóвімсэ: пічэ́м бу́лкы, варымо́... [Яйкі] крáсымо в мы́ску с цыбу́лькы. Спувáлы:

[Вялікодная песня]
– Ко́ло пэрэво́за стоя́ла бэро́за,
А на той бэро́зі колыбі́лька вісіть,
Ой-люлі-люлі колыбі́лька вісіть.
А у той колыбі́лькі дэ́тына мала́я,
Ой-люлі-люлі дэ́тына мала́я.

***

Дэ́тына мала́я, хто тэбэ́ колы́шэ?
Як вітрык повінэ, то мінэ колы́шэ.
Дэ́тына мала́я, хто тэбэ́ поко́рміть?
Як тівка пролэ́тыт, то мінэ поко́рміть.

На Па́ску бра́ліса жэ́ншчыны за ру́кы всі, одэва́ліса всі в суке́нкі. А мно́го-мно́го жэ́ншчын було́, мо пьетдэся́т. Побра́лыса за ру́кі і спува́ют таку́ пі́сню (з одного́ кра́ю):

– Волода́р, волода́р, открыва́й воро́та!

А з друго́го отвіча́ют:

– Хто там клічэ́,
Ох, а хто там клічэ́?
– Мы царо́вэ слугэ́.
Мы царо́вэ слугэ́.
– А чаго́ вам сю́да?
А чаго́ вам сю́да?
– У горо́д по кра́скэ,
У горо́д по кра́скэ.
– А наві́шта вам кра́скэ?
А наві́шта вам кра́скэ?
– Да дэвка́м на вэнкы́.
Да дэвка́м на вэнкы́.
– А наві́шта вэнкы́?
А наві́шта вам вэнкы́?
– Да ходы́тэ в танкы́.
Да ходы́тэ в танкы́.

Одны́ё в го́ру ру́ку подыйма́ють, а гэ́тые, што йду́ть, за́днiё, сюда́ прохо́дять, прохо́дять. І як начну́ть із одного́ коньтя́ аж у другы́ конэ́ть... А наза́д завэрну́тца, под ру́чкі бяру́тца і пі́сні спува́ють.

На Па́ску як інціре́сна: выхо́дят яе́чкі кра́сныя бы́тыса. Б'ю́цца – там тры чоловікі, там пьять. Туды́ і дед мой – ма́мын ба́цько – зобра́вся і бы́вса у е́ты я́йці і навыбіва́в сту́лько, што нэма́ дэ кла́сці. Вы́бів – і собе́ у кішэ́ню. Прыні́с трэ дэся́ткі! Собі шчэ у ке́пку накла́в, у кішэ́ні́ накла́в і набярэ́мня прыні́с. І ка́жа: «На, вжэ, уну́чка, бо дадо́му нэ дайду́!».

***

Ле́том – Тры́йца. І трые́цкіе пі́сні ёсть:

– Ой, ты Тро́йца, Тро́йца,
Прысвята́ Богоро́дніца!
Посі́ю лёну,
Ды ніха́й заро́дытца.
Ось, як заро́дытца,

То для мэнэ́ молодэ́е.
А нэ заро́дытца.
То для ма́ты старэ́е.

[Іншая траецкая песня]

– Ой, садытэ́те, молоды́цы, в пловы́цы (така́ ло́дка, нэ рублёна з досо́к, а про́сто з де́рава вы́дзеўблена; по нашо́му і ло́дка, і чо́вен, а то – плавы́цы, де́рава то́встэе),
Да пое́дэм нажнэ́мо шовко́вэе травы́цы.
Пое́дэм нажнэ́мо шовко́вэе травы́цы.
Да й позастыла́ем усэ́ по вулы́цы.
Нэха́й по вулы́цэ да травы́ца зэлэні́е,
Нэха́й у коза́ка по ді́вчінэ сэ́рцэ млі́е.
Нэха́й по вулы́цы да тровы́ца повыва́е,
Нэха́й у коза́ка по ді́вчінэ сэ́рцэ гра́е.

***

Коля́ды до́бро одзнача́лы, вэсэло́. Йшчэ я сусі́м ма́ла була́, то пріхо́дылі коля́дныкы. За сэм кіло́метрув у коляду́ пріхо́дылы. Робы́лы вэртэ́па – с хване́ры круг. Э́то тэпэ́р уся́кых ігру́шак... А то робы́лы такэ́я колэсо́ большэ́е. І на гэ́ты круг налі́пвалі із кны́жкы зверкы́, то ко́тыка, то соба́чку, то тэ, то тэ – вырэза́лі малю́нкы с кны́жкы. І ру́чку ўстра́івалі, што круты́цца. І та́я хване́ра кру́тытца. Пудыхо́дili пуд окно́, выстаўля́ют і кру́тять – то і звало́са вэртэ́п, што ві́ртіцца. І мы ужо́ діві́мса. Я по́мню, вэлы́кэй-вэлы́кыэй такэ́й маро́з буў бальшу́шчэй, што пазамы́рзалы о́кна і ні мо́жна дывы́тца, мы языка́мы полі́звалы ты́і о́кна, коб подывы́тыса того́ вэртэ́па. Сама́ я вжэ ходы́ла в пьы́тэй клас, то вжэ нас було́ дэ́сять ды́вчын, і на́шы хло́пцы, йікі́х було́ сэмна́ццать, мы у коляду́ са́мы ходы́лы. Ходы́лы пуд о́кна і спува́лы коляду́: «Дя́дьку, дя́дьку, проспува́ім коляду́».

– Ру́джэство пану́е, а́нгел прылыте́л.
Он лете́л по не́бе, лю́дям пе́сню пел.
Все лю́ді лі́ку́йте, в той день торжэству́йте,
Ек Хрэсто́ва Роджэство́.

***

Я лечу́ од Бо́га, ра́дость вам прынёс,
Што в пешчэ́рэ цёмной родівся́ Хрысто́с.
Ско́рей поспеша́йте, младе́нца віта́йте
Новонароджённого.
Пастушкі в пешчэ́ру пре́дже всех прішлі́.
Ў я́слях на соло́ме Го́спода нашлі́.
На коле́ні па́лі, Хрысту́ да́ры да́лі
Новонароджённому.

– Дя́дьку, дя́дьку, вам коляда́, а нам кусо́к пырога́!

***

Шчэ було́ е́то в послевое́нное врэ́мня, у со́рок во́сьмым, со́рок дэвья́тым году́. І выно́сять коля́дначкы мале́нькыя, бы́та пірша́ічкі, бу́лочкы такы́і. Пэклы́, коб вы́нэсті – бу́лочкы ржаны́е. Булы́ такы́е лю́ді, што пэклы́ пшэні́чные, а булі́ такы́е лю́ді, бе́дные, што – ржаны́е. Ты́е кола́дныкы нэсэ́мо до того́ чолові́ка, продае́м, і ужэ́ цуке́ркі купля́їм за ты́я гро́шы. Раз коляду́

выспувáлі, назывáетца той пірожóк ці кусóк хлíба – колядный. А як пудыдэм пуд окнóм – морóз-морóз вэлыкый буў, – з нáмы і гормоніст ходыў, попрóсымо до когó у хáту. Впýсцять – там погуляім. І танцовáлы, і в фáнты грáлі... Зовьяжуть вóчы одномý і загáдвоють ямý, каб він угадáв слóво якóе. Як угодáе, то дóбрэ. А нэ угадáе, то у залóг што-нэбýдь даé абó застаўляють спувáты чы гуля́ты.

На пéршу куццю насцілáлі насціл сіно, а по сіну настілáлі насцільніка. Ныколы вытягáлі сэнынку. Як пупадé дóўга сэныня, то бýдэ лён хорóшы. Як крóтэнька сэнынка, то бýдэ лён нэвáжны.

### *«Во, йікіе буські рэвнівы!»:* пра наваколле і буслоў

У нас тут мéснасть хорóшая. Говоря́т, што бýдут робіты турбáзу, на шлюзý санатóрый бýдуть открывáть. Рыкý Прыпьять, трэ́ба пьять літ, каб онá одновілоса, стáла сусім іншая. Вéльмы хорóшая, вóздух хорóшы... Німá у нас ліся, у нас одны хмызнакы. Жэвёлы вжэ всякы ість – лóзу і хмызнакы запрішчáюць сікчі, бо э́та ужэ́ запавéднік. Ужы баяцца чоловіка, гэ́та гадзюкы [кусаюцца]. Гадзюкай, слáва Бóгу, німá. Ужá дід в лёхý бáчыў, ціпéр баюса в лёх іті кортóшкі набрáты.

У нас дві рэ́чкы. З Пінска двáццать пьять кілóметраў по ракі, э́та ідэ́ Прыпьят – рэкá. А од Городышч до Почэ́пава – Я́сельда прохóдыть. Мы, бы на клінкý, жывэ́м.

Раній булó більшэй буслóў, тіпéр мáло: пьять гнёздай есть по усюй дірéвні. Оны парýютца. На сусіднім кублý у прóшлом годý прылітыла бушчыха і буськó – ны йиі пáра. Онá ні прынілá йигó, онá діўблá йигó. Прылітыла йиі пáра, і оны сілы, завылы сэ́м'ю собі, бусліня́тка булó тры. А той глідів і мстыв за тэ, што вонá з йим ні спарыковáласа. Колы оны óба з гнізда політылі, [ён] поскідáв усі бушчаня́та. Во, йікіе буські рэвнівы! Оны, у нас кáжуть, у вырай літя́ть нэ́дэй. Свя́та éстя вэснóю, Олэ́ксый назывáітца, трэццáтого мáрта, то стáрые люди говорілі, што буськó кáжа так: «Хоть задаўлюся, но на Олэ́ксыя явлюса».

### *«І орэхі, і абыркосы, і сібірска смуродіна...»:* пра садавіну і гародніну

Баклажáны шчэ аднó пéршы год я посадíла. Я іх нэ знáю. Нывістка кáжа: «Я знáю, шчо робіты, каб однó вы нагодовáлы». Я побáчыла в сусідкы, што нáдто оны красывы – нэ то голубы, нэ то сірэ́нэвы. А я дýмаю: «Я ж тóжэ собé посадю!». А кобачків нарослó – вжэ жáрым. У прóшлом годý одын яблык так зародыв! Оны з Молдáвы. Тэпэ́р сады цвылы, так ужэ́ цвілы, то вы бáчыті, у нас вся дэрэ́вня зілёна, а то вся біла булá, бы молокóм облытая. А я́блыкы внізý крóхы есть, а увéрху – ніяк: пупáлы цвіт пуд морóз і пуд віцёр. Абыркóсы за хáтою растýть. У нас абыркóс так зацвёў, так зацвёў, а малэ́нькымы посадылы. Бач, і орэ́х ужэ́ які. Кáжуць, і орэ́хів грэ́цкіх мнэ́го, а я ні бáчу. У нас тут і орэ́хі, і абыркóсы, і сібірска смурóдіна, і своя́, парэ́чка. Сібірска смурóдіна, чóрна, онá такá родючая, но вся умéсті нэ поспівáе. У нас былі тры кусты, мы іх выдручковáлы. Нэ мóжно! Трэ́ба штодня́ по туй кáплі збырáты. Онá што радюча, то радюча. І вішні сібірскыі, і крыжóвнік. Онэ́ повымэрзáло тэпэ́р усэ́...

*Л. П. Кунцэвіч, Т. М. Трухан*

# ПАЛЕСКІЯ ГІСТОРЫІ

## Запісы з вёскі Дубой

***Расказвае В. С. Кобрынец, 1935 г. н., мясцовая жыхарка****; запісалі і расшыфравалі Л. П. Кунцэвіч і Т. М. Трухан.*

***

Картóшкы нэ бýдэ, потомý што вонá збуя́ла, дошчí шлі, в былы́ну іі погнáло. А на сóтках трóхі шче посады́ла, даю́ть дéсеть сóток прістарéлым, хто робы́в в колхóзы, хто ны робы́в. Я ны робы́ла в колхóзы. Я робы́ла в другóм місті. А хазя́ін робы́в шóфером в колхóзы, да вже на егó даю́ть сóткі, то мэнш плоты́ты. А той, хто ны робы́в, от сільсовэ́та даю́ть, то больш плоты́ты. Мы посоды́лы тýта за клáдбішчамі картóшку, ну картóшка замечáтельна. Нійдé зрóду ны булó такіе в колхóзы картóшкі. Такáя обрабóтана, пóлэ обрабóтано. Там однá картóшка, потомý што тут в нас вонá в э́том годý зацвылá, а ні вóдного гóду вонá ны зацвылá. А в прóшлом годý вобшчé ны в кóго ны булó, ныкокóй, аннó шчо позав'я́звалыса. І сімінóв лю́ды збырáлы, кап посады́ты. Я купы́ла в колхóзы, в колхóзы булá красíва. Своя́ тóко на сімінá, а котóра остáласа, то вже свы́нём давáла.

***

Э́то наш сад. Э́то бáтько мой сады́в, а в ботькýв я булá тóко одна. Алэ́ вже сат старíй. Бáтько сады́в, і я помогáла, то вже воны́ старíе éты я́блоны. Ну я вже ныкудá, взэлá прімакá. Мы отдéльно жілы́, роздéлэны булы́, а éлы, то рáзом. Мáма глядéла дітэ́й, бо в мэнé трі хлóпцы булó, а на рабóте... (тепéрь же ж даю́ть декрéт трі гóды, да оплáчвають, а кóгда-то ж ны довáлы). Скóлькі там срок прóйдэ, дай пойшóв на робóту.

***

Вчóра сéнца булó, трóшкі там вы́косылы. Сáша, сын мой с Пінска, і нівéстка прыіжáлы сюдá, помоглы́, дай поíхалы. Шче оды́н мужíк помóх, да вкы́нулы на чердáк. А косы́ть наймáлы. Сáша косы́в, трóхі нэ докосы́в, да наймáла э́тых п'янтóсов. В кáждуй дірéвні бумжóв хватáе. Алэ́ воны́ тоды́ понапівáюцца і тóлку ныя́кого нэмá.

***

У мэнэ́ двэ ёлкы ростэ́, больш ны в кóго нэмá, нідалёка цэ́рква. Э́то діты моі посады́лы э́ті ёлкы, мнóго когдá-то посады́лы. Всі позрíзвалы. А чогó позрíзвалы? Потомý што э́то плохá прімéта, што в горóды éлка ростэ́. А я кожý: «Я своі зрéзваты нэ бýду, хай растýть». То однá большáя сторíйша, а дрýга малá. То тáя вже тóже перігнáла тýю, такá большáя. Я вы́йду, да поговорю зь імі, с ты́мі ёлкамы.

***

Хлóпец у мэнэ́ оды́н погíп срéдній. Такíй був хлóпец Сірóжа. А оды́н хлóпец жывэ́ в Грóденской óбласті. Кóнчів акадéмію і ёго напрáвылы по мілірáцыі. Да вон там і женíвса і жывэ́ – мáйсьтером десь рóбыть. Сáша тут в Пінску, то чáсто пріежáе, то ямý найбóльш поподáе помогáты. А Сірошка був в мэ́не такíй хорóшій хлóпец сярéдній: і машíны рэмантíровов, і пройшóв Авганістáн, в Авганістáне служів і мáе наградáы, і благодáрность прісылáлы для мéнэ, благодáрственное пісьмó прісылáлы стýля камáндувонне, бо ён був на передовýй в артелерíйскіх войскáх. І остáвса жів, пріéхав сюды́ і нáдо булó погíбнуты в шестóм годý. Éхов на робóту, он жів в Івá-

## КАЛЯДНЫЯ ПЕСНІ

1.
**Шчэдрый вэчор, добрый вэчор**.
Святый Васыль (ко) по полю ходыть,
По полю ходыть, жыто пшыныцу родыть,
Жыто-пшыныцу, всяку пашныцу.
Зароды, божэ, жыто на новэе літо,
Звэрху колосыстэ, зысподу корыныстэ.
Роды, Божэ, жыто на новэе літо.
Вам шчыдрэц, мні млынэц,
Пару яец, ковбасы конэц.
Забыйтэ свынку, дайтэ солонынку,
Научітэ жэрэбця, дайтэ ковбасы конця.
Ковбасы конэц, шоб вас нэ кыдав жэрэбэц.
Вытшую, вытшую, на полыцы ковбасу
чую.

2.
**Ныні радость стала**,
Яка нэ бувала –
Над Вэртэпом зоря ясна
В світы засіяла.
Там Хрыстос родывся,
З девы воплотывся,
Як людына пэлэнкамы
Убогымы отулывся.
Ангелы спывають,
Пастушкы іграють,
Од людыны рожденому
Хвалу-честь оддають.

3.
Діва Марыя сына родыла,
Сінцэм прытрусыла,
В яслях положыла
Господнёго сына.
Дева Марыя Бога дару просыла,
Шчо вжэ я твого сына сповыла.
Ты нэбэсный цару,
Зышлы мэні [дару]
Сёму (тому) господару.
Зышлы анголы з нэба до зэмлі,
Прынэслы дары девы Маріі –
Тры свічкы восковы
Шчэ й рызы шовковы
Ісусовы Хрэстовы.
Поють божыы пісні –
Господнюй нэвыстцы
радосты прыносять.

## КАЛЯНДАРНЫЯ ПЕСНІ

1.
**Тэпэр у нас дожыночкы,**
Да нап'емоса горілочкы.
Мы ж жытэйко вжэ ж дожалы
Да й у снопыкы пов'язалы.
Добрэ було жыто жаты
Да й шчоб на літо дождаты.

## ПРЫПЕЎКІ

1.
А мні мылый пісьма пышэ:
– Гуляй, мілочка, потішэ;
А я йому одпышу –
– Я гуляю, нэ спішу.

2.
**В ёго скрыпочка з барвінку**,
А смычок з руты.
Ох, як заграе, заспывае,
То по всім світу чуты.

3.
Все татары да татары,
А я рускій чоловек,
Шчо хотітэ, то робітэ,
А мне пароньку найдітэ.

4.
**Горілочка, люблю тыбэ**
Да боюса пыты тыбэ,
Бо ты такый норов маеш –
Дэ калюжа, туды пхаеш.

5.
Мэнэ мылый ізмыныв,
Я упала пэрэд йім,
Я упала і сказала:
– Слава богу – ізмыныв.

6.
Не ідіте девкы замуж –
Замужэм проклята жызнь –
Муж на вулыцу нэ пустыть –
Роздывайса, спать ложысь.

7.
Кыну розу пуд бырозу,
Буду розу полывать,
Покуль роза ны зов'янэ,
Буду з мылынькым гулять.
(Буду з мылым я гулять.)

8.
Мылый муй, дорога узка,
Ты пройшов, і я пройду.
Мылый муй, народу мныго,
Ты найшов, і я найду.

9.
Ны садыса коло мынэ,
Ны шчытай мойі года:
Ны калына, ны малына –
Ны зов'яну нікогда.

10.
– **Ой, дівчыно гожая**,
Быру тыбэ замуж я,
Хоч я хаты ны маю,
А жыныттыс думаю.
– Зробы хату з лыбэды,
А в чужую ны выды,
Чужа хата – нэ своя,
Покарае гультяя.

11.
Ой, ты в сінях – я на дворы,
Полі́чымо усі зоры.
Ой, ты лычыв – я нэ буду,
Кого люблю – ны забуду.

12.
Пойте, девочкы, прыпевкы,
А мні нэ до пенія –
Ныма мылого мого –
Ныма настроенія.

13.
Я на бочцы сыдю –
Бочка котіцца.
Ой, мамонько,
Замуж хочыцца.

ПРЫПЕЎКІ НА ХРЫСЦІНАХ

1.
Ішов кум до кумы
Тёмнойі ночы,
Сіла сова проты его,
Вырачыла очы.
Він на йийі: гыля, гыля!
Вона і прысіла.
Шчоб ны кумка, ны кума,
Вона б его з'йіла.

2.
– Катырына, кума моя,
В огороді свыння твоя.
– Ныхай рые, хоч ночуе,
Бо солодкый корэнь чуе.

3.
Котыла, валыласа
Колодонька з пэчы,
Ой, побыла колодонька
Кумоньцы плэчы.

4.
Луговая вода – п'янка;
– Шануй, мужэ, – я шляхтянка.
Жінка мужа шанувала –
На попару прыв'язала.
– Йіж травыцу поляную,
Пый водыцу луговую,
Любы мынэ, молодую.

5.
Погляды, дядько,
А шчо дядына робыть:
Всі куркы попродавала,
Одын півнык ходыть.

6.
Пошла Гандзя жыто жаты
Да й забула сырпа взяты,
Сырпа взяла, хліб забула,
Така ж то Гандзя була,
Та всэ Гандзя дома була.

*Т. А. Грачыха*

## ТЭКСТЫ З ГАВОРАК ВІЦЕБСКАГА І ЛЁЗНЕНСКАГА РАЁНАЎ

У тэксты ўведзены характэрны для ўсходу Віцебшчыны рэдукаваны галосны няпоўнага ўтварэння, сярэдні паміж [а] і [ы], які ўмоўна абазначаецца сімвалам ъ.

***Расказвае І. Г. Сіроткіна, 1925 г. н., адукацыя пачатковая****; запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Ваяводкі Віцебскага раёна ў 2007 г.*

### З ТРАДЫЦЫЙНАЙ МЯСЦОВАЙ КУХНІ

#### Макавікі

Для такíх бýлачак з мáкам нáда сто грам дражэ́й, вадíчкі, я же дéлаю пóсным, стакáн сáхарю, мукí тáмка, кілагрáм, мóжа, і ня ідзéць яшчэ́, стакáн мáку. Анó цéста падьі́дзець, цéста выклáдываю на стол і раскáтываю ў саньцімéтр, паўтарá таўшчíні і сáхарю павéрху. Заварáчіваю ў рулéт, дéлаю как рулéт, а пóтым разрезáю на кусóчкі і на скаварóду ў пéчку.

#### Суп поліўка

Кіпяцíш кіпятóк. Пакá кіпíць кіпятóк, дéлаеш так: чíсьціш лук, крьі́шыш явó мéлка ў міску, бірёш кмíну, сóлі. Ну, і з расчёта, чтоб не пересалíць, тáмка ты ж бýдеш вíдець, какáя ў цебé пасýда бýдіць. Патрéм таўкачóм соль, лук і кмін. Кмíну мóжна сьі́паць так, настоя́шче, ну, с чáйную лóшку і ждаць дóтуль, пакá сок пýсьціць, ну, а патóм леш íлі малакá кíслава, íлі ýксуса і мукí, разбáлтываеш і налівáеш. Тадьі́ глядíш, кап не ўцяклá. Так мóгіць на днé заварíцца.

***Расказвае З. Е. Зайцава, 1933 г. н., адукацыя пачатковая****; запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Лугавыя Віцебскага раёна ў 2008 г.*

#### Бульбашнікі

Картóшку для блінóў выбірáю срéднюю, штóбы скарéй сварíлася. Патóм яé чьі́шчу, скарлупý сьнімáю, вынашý студзíць на двор. Дýжа не застýжываю, тамý што бýдзе крóхкая. Затьі́м сьі́плю ў стýпу, мóжна ў мясарýпку, перацірáю. Сьі́плю на стол мукí, раскáтываю, дзéлаю рулéт, разразáю на кусóчкі і раскáтываю качáлкай. Тварóг я дзéлаю зáраньня. Штоп ён быў сухóй, кладý пат гнёт. Блíнчыкі éтыя, катóрыя раскáтываю, чіню́ тварагóм, заварáчіваю, сажý ў пéчку. Мóжна і на пот. Патóм выцягíваеш. Яньі́ зарумя́няцца зьвéрху і зьнíзу, патóм маш, чым хош. Я абьі́чна слíвачным мáслам мáжу. Складýю ў мíску і стáўлю ў пéчку за заслóнку. Пастая́ць яньі́ немнóга там, с паўчасá. Яньі́ разапрéюць дужэ́й. Мóжна éсьці. Ну, калá іх і рабóты мнóга. Калí і два чалавéкі, калá іх хадзíць нáда. Адзíн чьі́сьціць, другí рóбіць. А блíнчыкі ýкусныя атрьі́мліваюцца.

***Расказвае Г. С. Харашоненка, 1935 г. н., адукацыя пачатковая****; запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Кузняцова Віцебскага раёна ў 2008 г.*

#### Тварог для пасхі

Мълакó кіпіцíш і вытрімáіш дзéсіць-пітнáццаць мінýт. Пъсьля́ чагó хýтка ахалóдзіць да сярэ́дняй тэмператýры і нáда ўліць тóнкай струйкай заквáску. Заквáскі нáда двé ці трí лóшкі кяфíру ці сьмітáны на лíтър мълакá. Зъквáшънае мълакó нáда пакíнуць у пакóі да зъквáшываньня, да паяўлéньня камкá. Гатóвы камóк павíнен быць плóтным, мець на зрэ́зе рóўны край, блішчáшчую павéрхню, а сьі́варатка, што аддзяля́ецца павíнна бьі́ць празрáчнай, зеленавáтага кóлеру. З атры-

ма́нага камка́ на́да тро́хі зьлі́ць сы́варатκі. Для э́тага на́да разрэ́заць камо́к на не́калькі часьцей, пакінуць на час, по́сьле вы́лажыць вялі́кай лы́шкай на ма́рлю, яку́ю на́да не́калькі рас злажы́ць. Атрыма́нае на́да падагрэ́ць, але́ нідýжа, ато́ тваро́г бу́дзець крашлі́вым, сухі́м. Када́ сы́варатка сьцячэ́, тваро́г на́да пакла́сьці пат гнёт, кап лі́шкі вільгаці сьцяклі́. Зaты́м на́да два, а то трі ра́за пераце́рці праз сі́та, а ўжо пато́м із лёхкага твapaга́ дзе́лаем па́сху сыру́ю ці ва́ранаю.

***Расказвае В. М. Конышава, 1935 г. н., адукацыя пачатковая****; запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Доўжа Віцебскага раёна ў 2009 г.*

## Мая работа

Я къгда́ ішчо́ на пе́ньсіі не была́, то рабо́тала нъ на́шъй біыфа́бріке. Как шчас по́мню – у пе́рвам цаху́. Нъча́льнік у нас быў сільна харо́шы – маладо́й тако́й. І калекціў у нас быў нърма́льны. Рабо́талі мно́га, но і аддыха́лі. Вясно́й, къгда́ я́блыкі зілёныя паяўля́лісь, вы́йдзеш на ýліцу, а там я́блынь пално́. Мы сядзі́м, я́блык наскуба́ем і с со́лью як наядзі́мся! А со́лі ў нас было́ мно́га – фабры́чная. А рабо́та ў мяне́ была́ ніця́шкая – сіфо́ны дзе́лалі, нъпълня́лі іх вакцы́намі. На абе́т ча́стъ дамо́й не́ хадзі́ла – бра́лъ с сабо́й. Ся́дзім зь дзе́ўкамі і паядзём. Інъгда́ ўнýчку с сабо́й бра́лъ. У нас цэх безъпа́сны, няўрэ́дны. Тады́ ні так стро́га было́, дык пуска́лі. Схо́дзім з ёй по́сьлі рабо́ты ў душ, памы́емся – і дамо́й. Во, так я і рабо́тала. А цяпе́рь што? Хъзя́йствъ ў мяне́ нет. То́лькі гря́ды. А ра́ньшы каро́ва была́, кýры, аве́чкі. Ну, вот так, што́ мъгла́, то і ръскъза́лъ.

***Расказвае І. В. Конышаў, 1936 г. н., адукацыя пачатковая****; запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Доўжа Віцебскага раёна ў 2009 г.*

## Легенда пра камень кахання

У нас каля́ ма́лъгъ о́зера ёсьць ка́мень. Не ка́мень, валýн цэ́лы, бо там мяне́ чаты́ры на́дъ палажы́ць, кап яго́ разьме́ры пъкъза́ць. І калі́ паглядзе́ць яго́ з во́зера, ну з ло́ткі, ці так, дык увідзіш то́чна се́рца. Ён фо́рмай тако́й – се́рца. З кусто́ў дык ён пло́ха відны. Ён і ў зямлю ўжо ўрос. Дык пра ка́мень е́ты то́жа леге́нда ёсьць. Ка́жуць, жы́ў тут пан, і была́ ў яго́ дъчка́ красі́вая-красі́вая. Ды злюбі́лася яна́ з кузьняцо́м Саснo'ўскім: во ў чэсь яго́ і о́зера на́шъ называ́ецца. Дык пан ім зъбъръня́ў устръча́ццъ. Нъка́зываў ім ня відзіцца ні ра́зу. А яны́ та́йнъ сустръка́лісь на гэ́тым ка́мні. І ён рас е́ты ка́мень і вы́біў у фо́рме се́рца, кап яна́ ўві́дзела і ра́дъвълъся. А яго́ схвaці́лі лю́дзі па́нъ ды і пыта́лі ў о́зеры, якое цяпе́р Со́сна называ́ецца, ды і ўбі́лі. Ці наро́шна ці не, але́ забі́лі. І це́ла там кі́нулі. А і дъчка́ не прасьці́ла ба́цькі, кі́нулася ў е́та ш во́зера і ўтапі́лася. Так што пан то́лькі сябе́ пло́ха зьдзе́лаў.

***Расказвае Н. П. Данілава, 1930 г. н., адукацыя пачатковая****; запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Стайкі Віцебскага раёна ў 2007 г.*

***

Ране́й, як малады́я былі́, дык і гаспада́рку вялі́кую з свайі́м чалаве́кам ме́лі. А цяпе́рь зусі́м сіл няма́, саста́рыліся і гаспада́рку сваю памале́ньку перівялі́. Дзяржа́лі каро́ўку-кармі́ліцу. З яе́ асно́ўным і жы́лі. А малако́ ў яе́ сма́чнае было́ і мно́га, сына́м дава́лі і самі́м хапа́ла. Але́ як стара́я ста́ла каро́ўка, дык і вы́рашылі яе́ здаць. Сыны́ ў мяне́ до́брыя, дык і прыно́сюць малако́, безь яго́ не сядзі́м. Быва́ла, уста́нем ра́на, яшчэ́ ўся́ дзярэ́ўня сьпіць, тут трэ́ба і е́сьці навары́ць, і ў ха́ці прыбра́ць, і гаспада́рку накармі́ць. А по́тым каро́ву ў по́ле прaго́ніш і ідзе́ш на рабо́ту. Дзяржа́лі яшчэ́ і свіньне́й, і цялёначка. На ўвесь гот са́ла хапа́ла, ды і без мя́са не сядзе́лі. А што курэ́й мно́га было́, дык гэ́та пра́ўда. У дзярэ́ўні харашо́, усё сваё. Як паглядзі́ш, як у го́радзі лю́дзі жыву́ць, дык ніко́лі б туды́ не паеха́ла. То́лькі і ціка́ва, што пад ду́шам ці ў ва́нні памы́есься. Цяпе́рь стары́я мы́ ста́лі, дык нам мно́га і не на́да. Свой век і так ужо́ дажывём.

***

Цяпе́рь харашо́ жыць, калі́ дзе́ньгі ёсьць. Усё, што хо́чаш купі́ць мо́жна. Пайду́ ў магазі́н, а та́м і адзе́жа ро́зная, і яды́ хапа́е. Ды то́лькі ні нра́віцца мне, што ўсё цяпе́рь з-за грані́цы вязу́ць. Было́ б яно́ яшчэ́ здаро́вае, а то і атраві́цца мо́жна. Цяпе́рь маладзёш уся́ така́я адзе́тая, ім цяпе́рь до́бра жыць. А мы як малады́я былі́, дык нам не было́ чаго́ пае́сьць, а пра адзе́жыну і гавары́ць не пры́ходзілася. Ку́піць ма́тка пла́цьце, дык ты яго́ бірагёш, то́лькі на та́нцы і адзе́ніш. Ця́шка было́, стро́іліся пасьля́ вайны́, жылі́ дзе пры́йдзецца. А шчас ужо́ паглядзіш: малады́я пажэ́няцца, дык ім бацькі́ бяго́м дом стро́юць ці кватэ́ру купля́юць. Усё шчас жыць лепш, чым ране́й. Цяпе́рь бы і пажы́ў, ды ўжо на пако́й пара́. І так сла́ва бо́гу.

***Расказвае В. Я. Шаўцова, 1926 г. н., адукацыя пачатковая****; запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Грабяніца Віцебскага раёна ў 2007 г.*

**Як выпякалі хлеб**

Мука́ на́да аржъна́я. На ноч звары́ць бу́льбы, аблупі́ць, патало́ч ме́ленька. Дзе́шка така́я ёсь, хле́бніца называ́ецца. Туды́ е́ты бу́льбучку, мукі́, мо́жаш жме́ньку са́хару ўсы́паць. Замеша́ць усё і пъста́віць, кап яна́ закі́сла. Нъза́ўтрега туды́ дъба́віць со́лі тро́шку. Яна́ закі́сьне. Сы́пеш туды́ мукі́ і ме́сіш. Ме́сіш поту́да, поку́да рашчы́на ад рукі́ атстае́ць. Рашчы́на атстае́ць ат рукі́ – зна́чыць, ужо́ хва́ціць мясі́ць. Ста́веш апя́ць у цёплае ме́ста і́лі там куды́-ніб́уць і ўкру́чваеш у адзе́жу і́лі на пе́чку, кап яно́ падышло́. Тако́е яно́ пады́дзець – пе́чка стапі́лася. Залу́ сь пе́чкі выгрі́ба́еш. Бывала, аі́р таке́й расьце́ць. На аі́ру со́дзеш у пе́чку. На лапа́ту дзірівя́ную се́еш аі́р. А аі́р таке́й душы́стый-душы́стый. А е́слі нет аі́ру, кляно́вае лі́сьце, а не – на капу́сьніку. Ад капу́сты ліст бальшо́й лъма́еш і со́дзеш у пе́чку. Залу́, жар выгрі́ба́еш. І мятла́ така́я с сасо́нкі. Мятло́й вымята́еш, кап пе́чка была́ чы́стая-чы́стая, штоп залы́ не было́. Засека́еш уре́мя і со́дзеш у пе́чку. На ско́лька ты пасадзі́ў, і ён пяке́цца. Пяке́цца міну́т со́рак, і перадзьвіга́еш з адного́ ме́ста на друго́е. Выця́гваеш сь пе́чкі і про́баваеш, ці сьпёкся. Насту́каеш, ко́рачка дрыжы́ць – хлеп гато́ў.

***

Пъшла́ ў грібы́. Прішла́ ў кусты́. Паляжу́: ёлка зъва́лена. Ну, ду́маю, тут, у е́тых куста́х ёсь апе́нкі. Я падышла́ блі́жэ: а там ёлка зъва́лена. А атту́да сьві́ньні дзі́кія! Я сама́ йспуга́лася, а сьві́ньні мяне́ йспуга́ліся. Я як закрі́ча́ла дурны́м ма́там, сама́ завалі́лася і вядро́ ўпусьці́ла. Сьві́ньні йе́ты, як закыпыці́лі! Я пъшла́, а там і́хнае ло́гава. Ёлка зъва́лена, вы́карчвавана з карня́мі, і яны́ там спа́лі. Я прьшла́ е́ту ёлку, паглі́дзе́ла. Пайду́ ш я ў бор, там землянікі набяру́. Прышла́ туды́, а там па́параць-па́параць, і атту́да ста́да сьвіньне́й. Е́ты ш са́мыя сьві́ньні забе́глі туды́ ў па́параць. Ну, я пахадзі́ла, спуга́лася і пъшла́. Пъшла́, зъшла́ ў кусты́, на е́ту, на Со́нькіна. Там назьбіра́ла грібо́ў і пъшла́ дамо́й. Прішла́ дамо́й, грібы́ перібра́ла, нъжа́ріла, навар́іла – і пад'е́лі.

***Расказвае М. С. Байко, 1930 г. н., адукацыя пачатковая****; запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Баршчоўка Віцебскага раёна ў 2009 г.*

***

Калі́ мыладо́ю была́– ні то́е было́. Уста́ну ра́нінька, печ зытаплю́, хызя́йства дыгляжу́. А ціпе́рь у гаро́т пыйшла́ за буракамі, зычапі́лася ды ўпа́ла. А рабо́ты ж мно́га. Ся́ньні бу́льбу пало́лі. Дык анну́ вы́палала, больш ні змыгла́. Бу́ду ждаць, паку́ля дзе́ці ні прые́дуць. Іх у міне́ пя́ціра. У самі́х се́м'і, рабо́ты хвыта́іць. А дзяце́й ране́й ва ўсі́х памно́гу было́. Пя́ціра, шэ́сьціра, а то ў анны́х дзьвіна́ццыць было́. А ў дзіре́ўні не́дзе дзьве́сьце дваро́ў. Вулі́цы гудзе́лі ад людзе́й. А ціпе́рь дзе́ці павы́рысьлі, пырызбрялі́сь. Паку́ль на ху́тары жы́лі, то ні стрыда́лі. Сьві́ньні бы́лі,

кърóва, хлеб быў. Даўнéй мукá былá свая́. У жóрна зьмéлеш, прасеéш. Намáжым жы́рам, вы́лажым цéста і ў пéчку. Час пасядзíць у пéчы. Бывáла, напячэ́ць мáці хлéба. Смáчна бы́ла, як канфéты ціпéрь. Налу́пім бу́льбы, навáрім, патаўчóм. А бывáла ця́шка: жалуды́ малóлі. Сьпячэ́м праснáк, а ён чóрный-чóрный. Алé ш нічóга, шчáвеля звáрыш ды і ясí. Нéяк жа ш жы́лі. Во, якрáз і бу́льба гатóва. Чагó-чагó, а бу́льбы ў нас хвътáйіць. Січáс цъбу́лькі ўшчыпну́, злáдзім са сьмітáнкай.

***Расказвае А. Ц. Будкевіч, 1939 г. н., адукацыя пачатковая***; *запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Баршчоўка Віцебскага раёна ў 2009 г.*

***

У Чы́сьцяку (éта лес ад нас нідалёка) ёсьць тыкáя пыля́нка. На тэй пыля́нкі бальшáя лашчы́на, і янá з дáўніх вякóў называ́йіцца сьвяты́м калóдзіжым. А пычаму́ ён называ́йіцца сьвяты́ калóдзіж? Стары́я лю́дзі гавóраць, што тáма стыя́ла цэ́рква і яна прівалíлася. І цяпéрь, кыгдá пріклaдзéш туды́ ву́ха к зямлí кыля́ éтыга калóдзіжа, то чу́тны звóн званóў, званы́ зьвіня́ць. Éты калóдзіж хацéлі зьмéріць. Дзіяметр зьмéрілі, тóлькі я ня пóмню, кóлькі янó, а глубіну́ ніяк. На вярóўку ці ны канáт прівізáлі цяжóлый кáмінь і апусьцíлі ягó туды́. І кóлькі ні апускáлі – ня сту́кала аб дно. І вот ім атту́ль аткызáлі. А выдá там усё ўрéмя чы́стая-чы́стая, і янá нікóлі ціныю ні зацягіваіцца. Там устрáіваюць гу́льні, мыладзёш танцу́іць. Éтай вадóй жанчы́ны стырáюцца пáмы́ць ліцó сваíх дзіцéй і нóшкі, тáму што янá лічэ́бныя, сьвітáя выдá. Там былó балóцьця, сасóннічык рос. Гъктáраў двáццаць балóцьця былó. Сярóт ягó– вялікі-вялікі кáмінь. Цяпéръка німá тагó кáміня. Балóцьця асушы́лі і нівядóма, куды́ ён дзéўся. А ўрóчышча там засталóся.

***Расказвае В. І. Папкова, 1929 г. н., адукацыя пачатковая***; *запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Міхалінава Лёзненскага раёна ў 2010 г.*

***

Радзілáся я на пóле, мáмка мянé радзíла і прынéсла ў пáзухе дамóў. Так мянé расьцíлі, гудувáлі. Калí вы́расла, стáла рабóтаць, хадзíла на рабóту вазíць сéна, накíдваць ягó, а пóтым усю́дых-усю́дых рабóтала, вось так маё дзéцтва прайшлó ў прáцы. Бывáла, бáбы дамóў, а мы зь сябрóўкай у лéс пайдзём, там ду́жа я́гад мнóга, землянíкі. Мы скарэ́й у кузувá абдзярóм, а кузувá вялíкія, тады́ бягём дамóў і кузувá я́гад нясём. У сям'í нас былó чэ́цьвера: дзьве дзéўкі і два мáльцы. Стáршая сястрá – Тацьця́на, тады́ я, Валяньцíна Івáнаўна, тады́ Віця і малóдшы брат Шу́рык.

Вучы́лася я там, на мéйсцы, у Матушóве, у нас тут шкóла былá, дáйжа пóбач, паўтары́ кіламéтра ад нáшага дóма да шкóлы, блíзенька. А зімóй былó ця́шка, гэ́та цяпéр два выхадны́х, а тады́ тóлькі васкрасéньне, а хóчацца ж і нá тáнцы зьбéгаць. Там заўсёды людзéй бывáла мнóга. Абó! Бывáла, бáбы прыхóдзілі, і ўсе жанчы́ны тáм сядзéлі. А мáмка мая́ так лёхка былá, Шу́рыкам бярэ́менна былá і тунцувáла ўпры́сятку, увéсь круг абы́йдзе, а я ўжо не, і сястрá Тáня з мáльцамі так не змóгуць. Так жа мы ў маладóсьці пéсьні пéлі ўсяля́кія, якíя тóлькі ў галаву́ пры́йдуць. Вéсела ў той час жылóсь, óчэнь дáйжэ вéсела, хоць бéдна. Алé ў нас усё былó: пчóлы сваé, мёд, сьвіньнéй сваíх гудувáлі, пітáлісь дóбра і каўбасу́, бывáла, мáмка начы́ніць, і мы яé мáлыя ядзём. Вось такóс ў мянé былó жыцьцё.

***Расказвае В. У. Лапунова, 1934 г. н., адукацыя пачатковая***; *запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Міхалінава Лёзненскага раёна ў 2010 г.*

***

Жы́та ж не камбáйнамі тады́ малацíлі, а рукáмі гнáлі, пóтым ягó аббівáлі аб калóду, пóтым брáлі цапы́ – дзеравя́нны́я пáлкі і тудá навя́звалі жы́та. Там круцíлі і бíлі па каласáх, па éтых, абвалáчвалі, каб зярнó вы́біць із каласóў. А патóм, для тагó, каб завéшаць вóкны, зімóй жа такíх жа не былó падвóен, завéшвалі вóкны так: бáба зьнíміць ю́бку, ну не называ́лась тады́ ю́бка, а называ́лась спаднíца, і спаднíцай сваёй шырóкай нацяніць вакнó, а з другóй стóраны, каб вéцер

ня дуў, плялі пучкі салóмы. Гэ́тыя пучкі склáдвалі, пераплятáлі іх абóренай і на вакнó сплятáлі яé, прімéрна метр двáццаць абó паўтарá мéтра. Патóм з тэй стóраны завéшвалі акнó на нóч, а на дзень акнó адвéшвалі. Увéчары дóма гарэ́ла лучы́на.

У шкóлу я хадзіла ў Веляшкóвічы. Вучэ́целя, які мянé вучы́ў, клáснага рукавадзіцеля, звáлі Кузьмá Улья́навіч. Препадавáў у мянé гістóрыю Людвіг Іóсіфавіч Путрó. Вучэцеля́ бы́лі óчэнь харóшые, я бы сказáла, што жáласьлевыя бы́лі вучэцеля́. Дзéці ж бы́лі бéдныя і багáтыя, дык дзяцéй бéдных яны́ паашчря́лі бóлее, чэ́м дзяцéй багáтых. Шкóла былá на тэм сáмэм мéйсцэ, што і сейчáс, тóлькі былá старáя, дзеравя́нная. У пéршы клáс я хадзіла ў Палёнаўку. Шкóла былá там дліннная-длінная. У гэ́тай шкóле таксáма вучэ́лася мая́ сястрá, янá плóха вучэ́лася і яé вучэцеля́ назавáлі халтамá. А мянé вучэ́ла Глафіра Фёдараўна, но фамілію я забы́ла, дак янá былá дóбрая.

***Расказвае У. І. Бадзяноўская, 1925 г. н., адукацыя пачатковая****; запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Міхалінава Лёзненскага раёна ў 2010 г.*

***

Хачý расказáць пра вайнý. Нéмцы прыйшлі к нам срядзі бéлага дня. Ýтрам мы ўстáлі, часóў у дзéсяць, і яны́ ўжо былі ў нáшай вёсцы. Нéмцы срáзу пайшлі па хáтам, я́йкі, кýр трéбавалі. А ў маёй бабýлі былó чаты́ры сыны́, і ўсе яны́ бы́лі на вайнé, адзін быў падпалкóўнік. І вось усé фатагрáфіі дзяцéй у яé вісéлі на сьцянé. Гэ́та цяпéр нямá, а ранéй рáмы вялікія былі, і нéмцы к нáм калі зайшлі, тó срáзу пáльцам нá фатагрáфію: хтó гэ́та такі? І янá ім гавóріць, што э́та маі сыны́, і яны́ ўсе на фрóньце. Тады́ ты́я партрэ́ты нéмцы сьня́лі. На вайнé ні адзін сын не памёр, тóлькі прыйшлі бальны́я. Патóм два́ сы́на памéрлі срáзу, а два астáліся, а той, што быў падпалкóўнікам, уéхаў на Украіну. Два разы́ мянé нéмец біў, харашó біў, пáлкай. Во, той мост, які на Веляшкóвічах, ён ахраня́ўся нéмцамі. Вот, бывáла, як тóлькі мост зьдзéлаюць нéмцы, парцізáны пры́йдуць, мост узарвýць і пóйдуць. А нас патóм пасаля́юць, штоб мы вы́сіклі ўвесь алéшнік, усé дзярэ́ўі. Мы адзін раз сéклі-сéклі, пазамары́ліся і сéлі, а я дзяўчóнкай былá, былó пятнáццаць гадóў мнé. Нéмец мне гавóрыць «арбайтэн», а я не панялá, і ён як стаў мянé пáлкай па сьпіне хлыстáць. А назáўтра нас апя́ць так сабірáлі, каб высякáць усё. Ну, тады́, як асвабадзілі нас, то тóжа паслáлі на рабóту. Рáненых насілі, бінты́ шы́лі. Бувáла, нам круп дадýць паéсьць.

Старынý я пóмню харашó, бувáла, дзéўка, якáя дрэ́нна адзéлася, на яé гавары́лі халтамá. А спадніцы бы́лі якія красівыя, шырóкія, з рамнём яны́, называ́ліся сая́м. Дзед мой заўсёды казáў: «Во, мая́ Улья́на, які сая́м надзéла!»

***Расказвае Г. П. Аляксеева, 1925 г. н., адукацыя пачатковая****; запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Стасева Лёзненскага раёна ў 2010 г.*

***

Мой пáпка быў на ўсі рýкі мáсьцір. Ён і кузняцóм быў, і музыкáнтам, і ўсё ўмеў дзéлаць. Кýзьня былá свая́. Ён усім памагáў, хто што прасіў. На вайнé ён тóжа ваівáў. Быў ён аружэ́йным мáсьцірам. А вот з вайны́ ні вярнýўся. Палучы́лі мы з мáмай пісьмó, дзе напісана былó, што ён пагіп, сéлі і плáкалі дóўга ўдваём. Дýжа жáлка былó нам ягó. Я ягó óчэнь любіла, і мáмка тóжа óчэнь любіла. Да вайны́ пáпка дýжа дружы́ў з латышáмі. У нас, у Стáсіві, мнóга латышэ́й жылó. Яны́ пáпку майгó дýжа ўважáлі. Звáлі чáста к сабé на прáзьнікі іграць. І я зь ім хадзіла. Усё чы́ста кругóм апхадзіла. Ён іграіць, а я зь іхнымі дзяцьмі гуля́ла. Латышы́ мне нрáвілісь. Яны́ ш настóлька культýрныі, настóлька вéжлівыі людзі былі! Яны́ мáму маю дýжа ўкýсна наўчы́лі гатóвіць. У латышэ́й усё ўкýсна былó. Йіхныйі бýлкі аш ва рту тáйілі. У латышэ́й былó іньцірэ́сна завідзянó. Кадá мáліц радзіўся, то ўсі рáдавались і пéсьні пéлі. А кадá дзéвачка – плáкалі. Знáчыць, што на гóра радзілась. А патóм мнóга латышэ́й вы́слалі ў Сібір. А зачэ́м спрáшывайіцца? Лýччы п п'я́ніц усіх вы́слалі. А так хазійівóў вы́слалі, а п'я́ніцы астáлісь. Мнóгійі латышы́ пісáлі маймý пáпку пісьмы. Яны́ і там харашó ўстрóйілісь. Рабóчый чылавéк візьдзé жыць бýдзіць. Дáжа піаніна хацéлі нам прісла́ць, дык вайнá памішáла. Аднó бы́ла йім плóха ў Сібіры, што там яны́ ні

на ро́дзіні. Быў у міне́ брат. Памёр ён у пяць гадо́ў ат дзізіньцірі́йі. Ні зна́ю, чаго́ тады́ ні лячылі. Мы ўсей сям'ёй бале́лі. Па́пка ду́жа гарува́ў па ім. Як пахара́нілі бра́ціка, па́пка жыць ні хаце́ў. І вот што пріду́маў. Зале́с ён на пу́ню і напі́ўся агуре́чнага расо́ла. Ду́маў, што ат расо́ла йішчэ́ ху́жы бу́дзіць і ён то́жа памрэ́ць. А вы́шла ўсё наабаро́т. Расо́л памо́х яму́ вы́лічыцца ат дзізіньцірі́йі. Тады́, як йе́та вы́йісьнілі, па́пка даў мне папі́ць, ма́мкі, і нам то́жа паліхча́ла. Ён ду́жа піріжыва́ў, што ра́ншы йе́та мы ні зна́лі і бра́та ні зна́лі як спасьці́.

### З успамінаў пра вайну

Як начала́сь вайна́, мне было́ шысна́ццаць гадо́ў. У нас у дзіре́ўні былі́ не́мцы. І вот сабра́лі яны́ людзе́й і ста́рых, і малады́х і павялі́ на Кана́шкава. Там стая́лі дзьве́ машы́ны. Малады́х у адну́ машы́ну грузі́лі, а ста́рых у другу́ю. Нас з мае́й двао́раднай сястро́й Мару́сій загна́лі ў адну́ машы́ну. А на́шыі ма́мкі за на́мі сьле́дам. Яны́ былі́ малады́і тады́, ні ста́рыі, вот яны́ і прабра́лісь к нам у машы́ну. Мы папа́лі ў ла́гір у Ві́ціпску. Там і ваенапле́нныі былі́. На сьце́нах і на палу́– візьдзе́ кроў была́. На сьце́нах то́жа кро́ўю было́ напі́сана, хто тут быў. Мно́га на́тпісей было́. Нас ганя́лі капа́ць траншэ́і. Капа́лі, дзе ціпе́рь сва́лка пе́ріт Ві́ціпскам. Капа́лі і ўле́ва, і ўпра́ва: метр два́ццаць на во́сімсят. А пато́м на́да было́ расплані́раваць, зямлёй замаскірава́ць, і́лі сьне́гам, кап на́шы самалёты траншэ́і е́ты ні ўві́дзілі. Адна́жды на́шы самалёты наліце́лі. А не́мцаў было́ сагна́та якра́с о́чэнь мно́га. Ста́лі бамбі́ць не́мцаў. І мы папа́лі. Мы пабе́глі хто куды́. Мы з Мару́сій спрэ́таліcь у пала́тку. Пле́нных у тэй пала́ткі было́ мно́га, чылаве́к пітна́ццаць. Бо́мба папала ў на́шу пала́тку. Усі́ пагі́блі, то́ка мы сь сястро́й аста́лісь у жывы́х. Сь німе́цкай ку́хні прівазі́лі нам шылуху́ есь. Яна́ была́ ду́жа го́рькая. А мы е́лі – куды́ дзіва́цца? А хлеп на апі́лкі быў пахо́жый. Зато́ ко́фія бя́рі́, ско́ка хо́чыш. А дзе ш там піць, калі́ есь хо́чыцца. С абува́ньня ў нас былі́ адны́ сапагі́. Намо́кнуць на сьнягу́ і к нага́м прімёрзнуць. Мы адзі́н аднаму́ на ногі садзі́лісь і так атагріва́лі. А яшчо́ пат сібе́ на ноч лажы́лі, кап тро́ху прасо́хлі. Я ўме́ла ігра́ць на гіта́рі. У на́шым бара́кі былі́ ма́льцы, і была́ ў іх гіта́ра. Вот я ігра́ю на гіта́рі, і патхо́дзіць ка мне не́міц. Я періста́ла ігра́ць. Ён ківа́іць, кап ігра́ла. А ма́льцы ківа́юць – ні ігра́й. Я і ні ігра́ю. Не́міц як разазьлі́ўся, і дава́й міне́ ко́жынымі пірча́ткамі па ліцу́ біць. Ма́ма кі́нулась к яму́ і ста́ла за міне́ заступа́цца. Яе́ не́мцы вы́валаклі з бара́ка і закры́лі ў сара́і. Я ду́мала, што ўсё – растріля́юць. Дык мы хадзі́лі, прасі́лі ду́жа, і ма́му маю́ атпусьці́лі. Дзе́віць ме́сіцаў былі́ мы ў ла́гірі. А пато́м нас асвабадзі́лі. Я, ма́мка мая́, Мару́ся і е́йная ма́мка вярну́лісь дамо́й. А до́ма німа́ нічо́га. Паку́ль пато́м нажылі́ ўсё! За́муш я ско́ра пасьля́ вайны́ вы́шла. Так жы́зьні я і ні ўві́дзіла. Ціпе́рь мо́жна жыць, дык бальна́я ўся, усё балі́ць. Яка́я е́та жы́зінь! Пажы́ць яшчо́ было́ п няпло́ха. Пра́ўнукаў хачу́ жані́ць. На і́хнай сва́дзьбі пагуля́ць.

***

У ла́гірі по́мню адну́ жэ́ншчыну. Ні зна́ю, як яе́ зва́лі, зна́ю то́ка, што была́ іна́ вае́нным урачо́м. Валасы́ ў іе́ былі́ длі́нныі такі́і, све́тлыі. Іна́ ста́ла перідава́ць нам запі́скі. Мы то з Мару́сій хадзі́лі траншэ́і капа́ць. Вот іна́ і ста́ла нам іх перідава́ць. У запі́сках е́тых было́, наве́рна, што-та для парціза́н. Сьве́дзініі які́і-та пра не́мцаў. Гавары́ла е́та жэ́ншчына, кап мы е́ты запі́скі ў ды́рку ў бяро́зі сува́лі. Там, дзе мы траншэ́і капа́лі ў ляс́очку, была́ бальша́я бяро́за с дупло́м. Мы іх туды́ і сува́лі. Атпро́сімся ў не́мца ў тувале́т, а са́мі бяго́м к бяро́зі. Пало́жым, падаждзём міну́ты трі і бяго́м наза́т. Парціза́н мы ня ві́дзілі. А Мару́сін брат Нікала́й быў то́жа парціза́нам. То́ка ваіва́ў ён у другі́м ме́сьці. Як-та ве́чырам прішлі́ не́мцы і забра́лі е́ту жэ́ншчыну. Пато́м мы іе́ ня ві́дзілі. Када́ мы з рабо́ты прішлі́, іна́ ліжа́ла ў тым сара́і, дзе мы лапа́ты астаўля́лі. Галава́ ў іе́ была́ пабі́та і кроў на валаса́х круго́м. Мы падашлі́ к ей, а іна́ гаво́ріць, кап мы аташлі́, а то не́мцы ўві́дзюць, і нам бу́дзіць пло́ха. Віда́ць, не́мцы ўзна́лі пра е́тыі запі́скі і му́чылі іе́, кап іна́ ўсё расказа́ла. У́трам, када́ мы бра́лі лапа́ты, іе́ ўжо ні было́. Мо́жа, растріля́лі, а, мо́жа, сама́ памёрла ад мучэ́ній. Нам было́ ду́жа жа́лка е́ту жэ́ншчыну. Харо́шая іна́ была́.

***Расказвае А. А. Красаўцава, 1926 г. н., адукацыя пачатковая***; *запіс зроблены Т. А. Грачыхай у в. Стасева Лёзненскага раёна ў 2010 г.*

***

У сімна́ццаць гадо́ў папа́ла я ў Гірма́нію. Быў е́та со́рак тре́цьці гот. Са усяво́ раёна сабра́лі нас малады́х, пагрузілі ў по́іст і павязьлі́. Там распрідзялі́лі па хазяіва́х. Са́мі хазя́іны ваіва́лі, а там былі́ іх се́м'і, хазя́йства. Я папа́ла к учы́цілю. Хазя́йка была́ о́чэнь плаха́я, зла́я. Я ду́жа мно́га рабо́тала. Усё дзе́лала: сьне́х чы́сьціла, каро́ву глідзе́ла, па до́му ўсё. Жыла́ я ў ма́лінькай ко́мнатке. Там ду́жа было́ хало́дна. За зіму́ то́ка два ра́за разрішы́лі пратапі́ць. Хазя́йка ўсё ўре́мя выганя́ла на ву́ліцу. Вот хоць німа́ рабо́ты, усё раўно́ сядзі́ на дваре́. Маё спасе́ніе была́ каро́ва, патаму́ што ў каро́ўскім хле́ві бы́ла цёпла. Усо́ ўре́мя есь хаце́лась. Карміла хазя́йка міне́ пло́ха. На у́жын дава́ла чай і два кусо́чка хле́ба. Адзі́н сахарко́м чуць-чуць пасы́паны, а другей са́лам таплёным пама́заны. І ўсё. У міне́ былі́ с сабо́й сухарі́, дык яны́ бы́стра зако́нчылісь. У хазя́йкі была́ до́чка. Жыла́ іна́ адна́, патаму́ што е́йный мужы́к пагіп дзе-та кала Віціпска. Вот патаму́ хазя́йка міне́ і ні любіла. До́чка хоць карміла лаўчэ́й. Быва́ла, па чыты́рі куска́ хле́ба дава́ла. Што на вайне́ дзе́лаіцца, я ні зна́ла. Было́ ў хазя́йкі ра́дзіва, дык там усё па-німе́цку гаварі́лі. Адна́жды, када́ хазя́йкі до́ма ні было́, я ўключы́ла ра́дзіва. Круці́ла, круці́ла і на Маскву́ папа́ла. То́лкам нічаво́ ні пачу́ла, ду́жа бая́лась, што яна́ вірне́цца. Сра́зу і вы́ключыла. Сядзьмо́га ма́рта ў со́рак пя́тым гаду́ нас асвабадзі́лі. Но дамо́й мы сра́зу ні папа́лі. Сабіра́лі каро́ў. Не́мцы ўціка́лі і хазя́йства параспусьці́лі. Сабра́лі мы пяць гурто́ў па дзьве́сьці каро́ў. Гна́лі пяшко́м цэ́лае ле́та. Прігна́лі ў Бабру́йск. А з Бабру́йска сказа́лі нам іці́ дамо́й. Мы ду́малі, што хоць па каро́ві даду́ць. А нам нічаво́ ні да́лі. Харашо́, што тада́ таварнікі́ хадзі́лі, дык я так і пріе́хала ў Лёзна. А на вакза́лі ўстрэ́ціла свайво́ па́пу. Ён е́хаў са Смале́нска. Е́зьдзіў туда́ за сьцякло́м, на́да ш бы́ла во́кны сьцякліць. Дамо́й мы ўме́сьці пріе́халі. Два го́да нажыва́лі, пака́ зажылі́ харашо́.

*Ф. Д. Клімчук*

## З ГАВОРКІ ВЁСКІ СІМАНАВІЧЫ[1] ДРАГІЧЫНСКАГА РАЁНА БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

***Расказвае Даніл Фёдаравіч Клімчук, 1907 г. н.***; *запіс зроблены ў 1970-я гады.*

### Пра жывёл

Учо́ны дока́зують, шо в жыво́тных ныма́ ро́зуму, оно́ інсті́нкт. Мо́жэ й е в йіх дэ́якый інсті́нкт. Алэ́ шо ро́зуму ны ма́ють...

Взя́ты вжэ шо – **ку́ры**. Оно́ вы́йдэ господы́ня, вжэ й быже́ть до йійі. А хай друга́я ба́ба йдэ. То йдэ да й пошла́, а йім хоч бы й шо. Ку́рыця зна́е, дэ ныздо́ йійі, дэ нысты́сь, дэ яка́я ды́рка, шоб проли́зты. Ну, вжэ ку́рыця лю́быть пысо́к, юй коб грыбсты́сь в пыско́вы, а гусь вжэ во́ду лю́быть. То така́я йіх поро́да. Гусь мы́йіцьця в воді́, а ку́рыця – в пыску́.

На́шо шо, **ко́ны** – розу́мны жыво́тны. Кынь ужэ́ як раз по доро́зы, то вжэ й віда́тымэ гэ́ту доро́гу. Ко́лысь мый шва́ґэр, Лука́ш, йі́хав у Спо́ров по сі́но, зымо́ю йі́хав. Ну а трэ́ба було́ встава́ты опы́вночы. Йі́хав да й заснýв. Прочну́вся, а вжэ́ ёго́ кобы́ла, з саньмы́ і з йим, око́ла ёго́ сто́га хо́дыть, ёго́ стожка́. В лі́то ж вона́ була́, як сто́га кла́лы, і ба́чыла. І запомыта́ла.

В нас, гэ́то се́верна чясть Дорогы́цького і Яно́вського раёнув, було́ малова́то сынoко́сув. То мно́го хто лі́том заготовля́лы сі́но в Споровськы́х болота́х. За́рэ гэ́то Бырэ́зовськый раён. Там було́ со́тні стожкы́в. Заготовля́лы сі́но лі́том, а забыра́лы зымо́ю, як боло́то замэ́рзнэ. То от, Лу-

[1] У мясцовым вымаўленні назва мае форму Сы́моновычы.

кашóва кобы́ла чы́рыз кы́лько місяцюв, сы́рыд гэ́тых сóтней стожкы́в, лёгэ́сынько нашлá свогó стожкá.

Кóлысь і мынэ́ так кобы́ла додóму прывызлá. Позамітало всі стыжкы́. Вы́йіхав я с сылá – замэ́тяно, гуры́ понамітано, пусты́в – хай ідэ́. То якрáз, дэ булá дорóга замэ́тяга, пошлá, і повырнýла, дэ трэ́ба, і до хорóмэй прышлá. А шэ пы́рыд войнóю булá в мынэ́ та чырвóна кобы́лка. То онó я і Настáся [жы́на] запря́жэ, а быльш ныкóму ны дáсьця. Кóлысь швáґэр, Пáвэл, віз éю сíно, да пырывырнýвся. Пудня́в хýру, хотів запражты́, то ныя́к ны далáсь. Вы́рвалась, быжы́ть до мынэ́ ржэ. А пойíдыш на місто, на ярмáрок. Ну, там жэ остáвыш кóло вóза, прыв'я́жэш, дасы́ сіна чы тóрбу. То як ворóчайісься назáд, шэ далёко пубáчыть тыбэ́, то ржэ, ржэ.

А булá **корóва**, «Лáстовка» звáлы. Як ідэ́ додóму на рáнкы, ныкóго нымá, ворóта зачы́няны. То зáшчыпку [у ворóтах] рóгом, одшчэ́пнэ, ворóта рогáмы очы́ныть да й пошлá в двыр. А пасэ́ш коровы́. Стойíш над йíмы, здаéцьця, ныц. А онó прысів чы дэ одвырнýвсь, то зрáзу коб дэ в шкóду.

Нáшо шо. Кáжуть, е одстáлы, **ды́кы нарóды**. А возьмы́ хай бýдэ гучóный чоловíк, профэ́сор, то вын жэ в туй тайзі ны розбырэ́цьця так, як той «дыкáр».

А то кáжуть, шо скоты́на рóзуму ны мáе.

### Свыння́ча квáшылына

Кóлысь на дыды́ мусóво трэ́ба свыння́чэ мня́со і свыння́ча квáшылына. Квáшылына найлíпш з лáпэй, ну й з головы́. Одумы́сно свы́ны колóлы к госíнным дыдáм, шоб булó с чогó квáшылыны звары́ты. Ну й трэ́ба, шоб на всі дыды́ булá квáшылына свыння́ча, ну й мня́со тóжэ. Вжэ шчадíлы ты́йі лáпы. Ча́сом лáпы прышчэ́дыть на послá, на дальнíшы дыды́, а вжэ на блы́шчы дыды́ звáрыть квáшылыны з головы́ свыння́чыйі.

Роскáзувалы, оды́н наш сусíд да ны навары́в на дыды́ свыння́чыйі квáшылыны, то обрýшылысь в хлыві дрóва, да на выпрукá, то забы́лы выпрукá. То, казáлы, зогышы́в – ны схотів заколóты выпрукá к дыдáм, то так наробы́лося свыння́чого мня́са.

А шэ от як булó. В однэ́йі бáбы ны булó свыння́чых лáпэй. Вонá кáжэ: наварý квáшылыны з говэ́ччых лáпэй, сёромнó квáшылына бýдэ. Положы́ла вонá ты́йі лáпы говэ́ччы в чыгýн, прышыховáла, постáвыла вары́тысь. А в томý чыгуні булó дырывя́ннэ дно. Тóе дно, залíзнэ протэ́рлось, стáла ды́рка, встáвылы шэ дырывя́ннэ всырэ́дыны. То як вары́лы картóплі, то воны́ тóе дырывя́ннэ дно прычя́влеть, да й ныц, вáрецьця картóплі. А стáлы вары́ты квáшылыну, тóе дно пудня́лóсь, да й юшка вы́тыкла. Да й от тобí квáшылына. То казáлы – зогрышы́ла, шо ны с свыння́чых лáпэй квáшылыну вары́ла.

*П. І. Кулік*

## НЯВЫДУМАНАЯ ГІСТОРЫЯ З ВЁСКІ ГАЛОЎЧЫЦЫ ДРАГІЧЫНСКАГА РАЁНА

***Расказвае Ірына Кандратаўна Кулік, 1901 г. н.****; запіс зроблены П. І. Куліком у в. Галоўчыцы Драгічынскага раёна ў 1978 г.*

### Хвароба
(быль)

Якраз на піст я міцно захворіла: взяло мынэ за жывота. Шо ны возьму, а воно назад вэрнэ. Дохтора в сылі ныма, думала, шо так пройдэ. Трохы сама лічылась: лыжела на вараных картоплях, кіньськэ гумно прыкладала, алы ж сцэ пуд грудьмы.

Думка була, шо ввырыдылась, ходыла до Картошкы одводыты жывота. Одводыв, одводыв, шось шыптав... Тры їції ёму заныла, а жывіт ек болів, так і болыть.

Ох, Божэ мій! Ек трывога, то й до Бога! Лыжела я на пычі, жывота гріла і думала, ек лічытысь. Всё робота, робота, навіть на сонычко ны було колы подывытысь. Дытвора́цыя крычыть, поросе квычыть, Трохым пудганее:

– Дэ тыбэ тлуми́ть? Розлеглась, ек нывістка!

– Ты шо, з дуба впав? – кажу ёму, да й заплакала. Ёму покрычеты хочыця, ек п'еному спываты.

А пуд вэчур прыйшла Волька Мадрызоныха позычыты ґазы. Ой, а я лыжу на пычі, моя долынька, моя тэмнынька.

– А мо поставыты на жывіт гладышку? Вона добрэ высцэ дурную кров. Во, кажэ, Ліда Тарасюкова ставляла, то казала, шо полёкшало.

Знайшла я вылызну гладышку з тонкым горлом, прымырґовала до жывота, алы ж сама собі її ны поставыш.

Назавтрій ны пустыла дытэй до школы, залізла на піч, помырґовала, ек ліпш поставыты гладышку на жывіт. Сын Іванко розрізав надвое картопля, вткнув в ёго кваче, намочаного в ґазы, і прымостыв ёго мыні на жывіт.

Іванко запалыв кнота да й накрыв ёго гладышкію, а я хучій прыдавыла, кыб дух ны выходыв.

Ох, колы бачу, шо мій жывіт поліз у гладышку і дух у мынэ зайняло.

– Діткы, ратуйтэ хучій, – закрычела я дыкым голосом. І я, і Іван пальцямы полізлы помыж жывотом і гладышкію, сталы гладышку хытаты, одрываты, а вона смокчэ шэ ліпш.

– Ой, хучій быйтэ молотком гладышку, крычу я дітюм.

Стрымыґа Петя знев с шапы молотка і вжэ замахнувся быты.

– Куды ты в дно цэлыся, прыдурко? Гладышку розоб'еш, бый понышшій, і кыб выбыв малэньку дырочку. Міні й гладышку шкода.

Бухнув Іванко молотком по боку, выбыв дырзно́, і покотылась гладышка на чырінь. Покы Іванко выбыв дырку, добрэ мого жывота натягло, аж чырвоный став. І гріх смыетысь, і ны здыржетысь. Алы́ ж тогді було ны до сміху. То во якыї лікы быз дохторів.

*В. М. Курцова*

## ТЭКСТЫ З ГАВОРКІ ВЁСКІ ЗАЛЕССЕ ЧАЧЭРСКАГА РАЁНА ГОМЕЛЬСКАЙ ВОБЛАСЦІ

***Расказвае М. Р. Крупенькіна, 1936 г. н., адукацыя базавая, ураджэнка і жыхарка в. Залессе***; *запіс зроблены ў 2010 г.*

### ПРА ПРЫРОДУ І НАЗІРАННІ НАД ЁЙ

***

Маладзік наста́ў, а было́ цёпла, то бу́дзя усю́ нядзе́лю цёпла. Па маладзіку́ глядзе́лі, яка́я бу́дзя паго́да. Як на сход по́йдзя, то ці яно́ пацяпле́я, ці пахаладне́я. Не́гадзь начала́ся.

***

У нас на дварэ́ за́ціш, дык сьне́гу накруці́ла вы́шы кале́н. Яго́ ве́трам жа круці́ла. А ціпе́р ве́цір пацíх, маро́з пабо́льшаў. Днём со́нца было́, ве́цір быў, но даро́гу ні пірадыма́ла.

***

Пана́ська – трыцца́тага январа́. На яго́ цы́ган шу́бу прадае́ – ско́ра ві́сна бу́дзя. Прышло́ Стрэ́чаньня – зіма́ зь вясно́й страча́юцца. Хвіўра́ль – вітраду́й, павыдыма́я усё. Прышо́ў лю́ты – праві́ра́я, як ты абу́ты. Прышо́ў ма́рыц – атку́ся па́ліц. По́йдзіш біз рукаві́ц – па́ліц атку́ся. Біз рукаві́ц ура́ньні по́йдзіш, як то́лькі ца́пнуўся за кля́мку за яку́ю, – ру́кі прыме́рзьлі. Прышлі́ Ляксе́і (яны́ трыцца́тага ма́рта) – каро́ва на ве́рас, а шчу́ка на не́раст. Пе́рвы апрэ́ль – ніко́му ні вер. На Благаве́шчаньня пту́шка гнізда́ ні ўе, а дзе́ўка касы́ ні пляце́.

**Калі сеяць на Благавешчанне, то...**

На благаве́шчанскі дзень зірна́ ні на́да се́іць – вы́бяруць усё пту́шкі. Ячме́нь былі́ пасе́ілі раз на Благаве́шчаньня – вы́рас адзі́н мятлю́г, трава́, а ячме́ню ні было́, адна́ трава́ вы́расла. У нас тако́я было́. Адзі́н рас се́ілі уво́сінь. Была́ на́ша пало́ска у шлях, ра́дам са шля́хам. Дык пту́шкі, як стаў ячме́нь налі́ва́ць, пту́шкі кліва́лі так ячме́нь, што ўсё зье́лі.

**Калі да Благавешчання вылецела пчала, то...**

Калі́сь так гавары́лі: калі́ да Благаве́шчаньня усё ўрэ́мя хало́дна, ад Благаве́шчаньня так бу́дзя цёпла. Е́сьлі да Благаве́шчаньня вы́ля[і]ціла пчала́ із вулья́, то по́сьлі Благаве́шчаньня іна́ схава́іцца і бу́дзя сядзе́ць – бу́дзя хало́дна.

Вот, напрыме́р, да Благаве́шчаньня было́ дзьве нядзе́лі і йна вы́ля[і]ціла, то по́сьлі Благаве́шчаньня дзьве нядзе́лі бу́дзя хо́лад.

**Калі на куццю снег, то...**

У старыну́ усё прымі́ча́лі па паго́дзі і саўпада́ла. Вот ні было́ на куцьцю́ сьне́га і уража́ю ні было́. Людзі усё-ўсё прымі́ча́лі па такі́х днях. Вот у тым гаду́ сьне́гу на Куцьцю́ ні было́, і ле́там ураж́ай быў плахі́, засушы́ла, яно́ і ні вы́расла ні́чо́га. На Васі́льляўскую куцьцю́ чуць-чуць цярушы́ў сьнег – і у ле́сі я́гад жа было́ бага́та, і грыбо́ў бага́та, і малі́ны было́ бага́та, то́лькі што на́шы но́гі ніспасо́бные. Садаві́на ж была́. Сьнег жа лёг у фіўрале́ ме́сіцы, надуло́ яго́, накруці́ла бага́та. А сёліта у лістапа́дзі ужо́ было́ бага́та.

***

Пе́рвая куцьця́ на Раздва́. Е́сьлі на Раздва́, шо́стага, бу́дзя сьнег іці́ць, бага́ты год бу́дзя, ураж́айны год. Е́сьлі на васі́льляўскую куцьцю́ сьне́гу бага́та, то бу́дзя садаві́ны́ бага́та, у ле́сі [багата] я́гад, грыбо́ў, арахо́ў – да́ры бо́жай.

На храшчэ́нскую куцьцю́ сьнег – тож для уража́я. У шчо́дры хадзі́лі то́лькі на васі́льляўскаю куцьцю́.

**Калі на небе хмаркі, то...**

Як на не́бі во́блачкі і ты се́іш гуркі́, то бу́дзя ураж́ай на гуркі́. Хма́ркі на не́бі хо́дзюць, а мы гуркі́ се́ім, то далжны́ быць харо́шые гу́ркі, харо́шы ураж́ай на гаро́дзі.

**Калі першы гром, то...**

Загрыме́ў гром, а лес ні адзе́ўся – го́лад бу́дзя. Ні адзе́ўся лес – лісьці́йка ні паказа́лась, зна́чыць ні адзе́ўся. Загрыме́ў пе́рвы гром – на́да кача́цца па зямле́, штоб ні бале́ў жыво́т. Куды́сьця ішлі́, загрыме́ў гром, і з на́мы като́рые ба́бы былі́, яны́ крыча́ць: ла́жыцісь, па́дайця на зямлю́, штоб жыво́т ні бале́ў.

### Калі зямля патрэсканая, то...

Па дарóзі як ідзéш і патрэ́сканая зімля́, гавóруць: вот зімля́ патрэ́сканая – то харóшы уражáй бу́дзя на бу́льбу. Ідзé хóдзюць лю́дзі, дарóга ё, ідзéш па дарóзі і зімля́ патрэ́сканая – вот к éтаму і гавары́лі: сёліта бу́дзя бу́льба харóшая.

### Калі жар разгарэўся, то...

У пéчы пасьлі бéда жар разгарэ́ўся, мóжа пакулíнка якáя, як зімóй, то марóз бу́дзя. Як улéтку разгары́цца, жар у пéчы гары́ць – бу́дзя пагóда.

### Калі на куццю карміць курэй з абруча, то...

На разьдзьвéнскаю куцьцю́ прыбігáя раз Аксíньня, што Сéдка. Запы́халась, дух шчэ ні піравілá, пытáіцца ў майгó хазя́іна:

– Ты карóву паíў?

– Не.

– І ні пайí.

– А чагó ні нáда паíць?

– Ну чагó? Штоб карóва ні ставáлісь ат стáда у лéсі.

А тады́ ка мне:

– Маньк, ты курáм сёдні ні сы́пала?

– Не.

– Дык глядзí, абы́-йдзе ні сып. Мань, ты пакармí курэ́й прáма з абручá.

Абру́ч – э́та ш шáйкі. Абручы́ даўнéй дзéлалі са рэ́шніка, дык яны́ нікруглы́е былí. Шáйка мóкрая-мóкрая, дык ён сапрэ́я і бы́стра прападáя. А стáлі рабíць жалéзные. Шáйка прападзé, а абру́ч цэл. Яны́ шчэ і ціпéр па дварý качáюцца, асóбінна вон на пóграбі ліжáць.

– А йдзе я ціпéр тагó абручá вазьмý? Йдзе мне найцíць тэй абру́ч? Чагó, Ксінь, нáда сы́паць курáм у разьдзьвéнскаю куцьцю́ у абру́ч?

– Штоб нясьлí я́йцы у аднóм мéсьці, штоб яны́ ні цірáлі яéц.

І крычы́ць, інá ж цíха ні гавары́ла ні рáзу:

– У мінé ё, пабя́гу я прынясý з дварá. Я ужó сваíх пакармíла і табé прынясý.

Вот інá і далá ця́гу. Прынóся мне той абру́ч. Паклáлі на дварэ́, насы́палі курáм. Пакá паéлі ку́ры, стая́лі лі йіх.

### Прырода пайшла к «яйцу»

Ішчэ́ зімá. Вот рáньня, палóва вóсьмага, но цёмна, но ужó ж начынáя йціць к яйцý. Узíмку ж б'юць сьвіньнéй, дзéлаюць калбáсы, а віснá прыхóдзя – дзéла йдзсць к яйцý: ку́ры начынáюцца нéсца.

### Лёд трашчыць

Як трашчы́ць лёд, ягó ніхтó ні пачу́я. Вадá пáшла, інá ж зьвéрху ідзéць, вадá падымáя, вáда ўверх падымáя лёд. Вáда ідзéць вáлам, лёд разьбівáя, і ты ні пачу́іш, як лёд трашчы́ць. Тóлькі калí ты на бéразі, кры́га аднá на дну нахóджая, тóлькі тады́ пачу́іш, як трэ́цца éты лёд. Ён дзéлаіцца як кáша. Лёд рассóўваіцца. Вот ціпéр, ходзь во сьнег ідзéць унóччы, но удзéнь сóўнейка вы́бліснула, і éты сьнег зьдзéлаўся як кáша. Такóя, ну, надвóр'я. Ай, вéтрык ды́ша халóдны такí, сы́ры. Лёд стаíць, шчэ бу́дзя вéцір такí, што бу́дзя лёд ламáць.

### Лясныя гукі

Дзе́рава адно́ аб адно́ шархáіцца тады́, яно́ так здае́цца, як пішчы́ць. Но само́ дзе́рава ні пішчы́ць.

У ле́сі грамкатá такáя, то дзе́рава як шархане́цца, то і пішчы́ць. Вяршы́нка шархане́цца ці заплятýцца сукі́, закрýцюцца, яны́ шархáюцца друг аб дрýга, тады́ звук палучáіцца.

### Усяму канец будзе

Усямý мі́ру бýдзя кане́ц, калі́ такі́ патóп пачне́цца, такі́, як у Япóніі. Валнóй такóй страшэ́ннай кóця, хáты плывýць, машы́ны. Узарвáлась там усё пад зямлёй, узарвáлась зімля́ – і ўсё. Правалі́лася зімля́, усё правалі́лася: лю́дзі, пастрóйкі, усё на сьве́ці.

## РАСЛІНЫ: СПАЖЫЎНЫЯ І ПУСТАЗЕЛЛЕ

### Агуркі

Зрáзу гуркóў пе́рвых кідáіш на насе́ньня, і яны́ ліжáць, вон пакýль ссóхня нацíна. Тады́ іх вы́пусьціш, зярно́ тóя памы́іш, пасýшыш. Тóлькі ні нáда у пе́чы сушы́ць. Во на ваке́нца пасы́піш, яно́ вы́сахня, тады́ се́іш іх.

Ле́тась накідáла багáта гуркóў, дык у мі́не́ іх і сёліта ё. Кáждая бýбачка прарастáя у гуркóў, се́мя е́та.

### Лугавы часнок

Цы́булька лугавáя былá на лýзі. Інá такáя кі́сла-слáдкая. Ён такі́ кі́сла-слáдкі, сок е́ты. Шчаўлі́ну і цыбулі́ну е́ту і е́лі.

### Каноплі

Пасе́юць канóплі. Кóрань у канаплі́ такі́, па ве́рху, сі́льна ўглыб ні йдзець. Ні так, як бы́льнік, бы́льнік сі́льна ўглыб ідзе́ць, а е́та павырывáў, павырывáў, лёгінька так рве́цца. Лістóчкі дóўгінькіе, красі́венькіе, прыме́рна, як на ве́рбіне, тóлькі трóшкі ме́ншынькіе. Дóўгінькіе таке́я лісткі́.

Канаплі́ зацьвітýць і плóсканьні. Плóсканьні цьвітýць пустацьве́там. Іх, канóплі, што цьвітýць і ні цьвітýць, бярýць, тады́ дзе́лаюць таке́я плыткі́, мóчуць. Жэ́рдачкі пакладýць, сьці́снуць, наве́рх канóплі шчэ жэ́рдачку. У Асі́нкі [крыніца] атвязýць. У Асі́нкі вязýць і канóплі і плóсканьні. Яно́ памя́кне, выця́гаюць, сьце́люць. Усё, уле́жыцца, тады́ мнуць і прадýць. А канóплі бýдуць стая́ць, сьпець. Як пасьпе́юць, уся́ пе́рхаць на йіх пачарне́я. Канóплі стáнуць цвёрдзінькіе таке́я, зярно́ цвёрдая стáне. Тады́ іх пабярýць, жме́нячкамі павя́жуць, пасýшуць і абаб'юць, пачы́сьцюць. А салóму, інá бýдзя тóўстая, па пáльцу, папáлюць: íна нікудá ні гадзі́лася – такáя тóўстая. Канóплі, зе́рнейкі, пасýшуць, патаўкýць. Патаўкýць, пасе́юць [прасеюць рэшатам]. Е́та се́мя тады́ і сы́пюць па капýсьці. Аблівáлі ім капýсту. І лён, насе́ньня, сýшуць, каб пáхла такі́м жáраным трóшкі, і тóжа па капýсьці сы́пюць. Ой, інá ж укýсная капýста. Канóплі труць у макатрэ́. Малачкó там, у канапе́ль, такóя бе́лінькая. Тады́ бýдуць каржы́ макáць у малакó е́та.

Насе́ньня лёна патаўчэ́цца, як мукá. Патаўкýць, тады́ на сі́цца прасе́юць, зноў таўкýць. Яно́ піратаўчэ́цца, як мукá.

Як плóсканьні – дрóбнінькіе гáлю́чкі. Яны́, сáмы канóплі, какаткáмі такі́мі растýць. Какаткі́ усі́ с канóплямі, і ў тых какаткáх се́мя – канóплі. А е́та расьце́ на стóлькі какатóў, як е́лкі. Яно́ тады́ ссóхня усё, а е́тые пáлкі, як йдзе стаі́ць, што бальшáя лібідá, як е́лка. Е́тые канóплі тóжа таке́я: нікудá яно́ ні гадзі́цца, спалі́ць тóлькі і ўсё.

Канóплі садзі́лі длі плóсканьняў. Плóсканьні – зь іх прáжа, як лён, трóшкі буйне́й за лёну. Е́сьлі канóплі – сі́льна буйнáя прáжа. Канóплі тóжа для вярóвак, вóжак. Зь іх вілі вóжкі, вярóўкі.

Яны́ былі́ крэ́пкіе-крэ́пкіе. І з плóсканьня́ў вярóўкі вілі́. Конь ё – нáда вярóўка, вóжкі, нáда пацьця́жка. Мушчы́ны вілі́ кручкáмі. Кручкі́ – пáлачка і навярху́ кручóчык. Вот сучóк такі́, і на сучóк жмéньку пянькі́ прывя́жуць і скру́цюць. Кручкóм і ўюць, цірaз абóрку піракідáіш, янó в’éцца, в’éцца. Лáпці ж плялі́ с пянькі́. Пі$^{е}$нькá – éта памя́тые плóсканьні. Плялі́ лáпці з лу́цьця, зь лі́павага лу́цьця, а тады́ стáлі с абóрак плесьць. Былі́ калóдачкі. Абóркі саўю́ць кручкáмы, тады́ на калóдачкі плятýць лáпці.

### Тытунь

Табáкі садзі́лі, як усё папасóдзім. Ускапані́чу кала прáсільца і пасéю тут табáкі. Табáка расьцé кацéлкай, і лі́сьця у йе такéя пы́шные. У табáкі лі́сьця палукру́глая, як у памідóрах, тóлькі ж янó бальшóя расьцé. А аттýль растýць пáрасткі. Пáрасткі – э́та пáсынкі. Ідзé астáніцца цьвятóчык, там нарасьцé такáя цвёрдая кажуру́шка. Назывáліся яны́ пампу́шачкі. Там у пампу́шачках чóрнінькая такóя сéмячка, як у расáдзі, што капу́сту сéюць, бу́бачкі такéя дрóбнінькіе. Пампу́шачка – éта цьвяткі́ табáкі, а бакавэ́я пабéгі – пáсынкі, йіх сы́рвалі, éта ўсё паідáлі. Лі́сьця пасы́рваюць, пасу́шаць, а карэ́ньня паразразáюць і павéшаюць на ні́тку, штоб карэ́ньня сóхла, вы́ветрала. А труць лі́сьця вайстрачóм. Так во ці́снуць. Лі́сьця пацéрлі. На лі́сьці ё сьцебялькі́, дык éта тапарóм сякýць. Карэ́ньня с табáкі трóхі паламáюць і у сту́пі патаўкýць. У сту́пі на мукý янó ні таўчэ́цца, а на дрэ́бізь. Патаўкýць, а тады́ сьпецыя́льные дрáчкі былі́, тады́ éтые куры́лы дрáчкай таўкýць, пакýль перасу́шуць. А сушы́лі ягó у сухóм, у чы́стым. Патаўкýць у сту́пі, тады́ на дрáчку прасéюць. Дрóбная сабірáюць, а буйнóя зноў таўкýць. Усё пірataўкýць. Тады́ пірамішáюць с тым лі́сьцям, катóрая тапарóм цю́калі. А таўкýць табáку на дварэ́: у хáці ж задыхну́цца нáда. Пыл жа такі́: сі́льна дзярэ́ у гóрлі ва ўсём. Шшывáлі сабé мяшóчык такі́ нібальшэ́нькі – кісéт. Усярэ́дзіну зацягáлі абóрачку, абóрачку сьціскáлі, тады́ табáка ні рассы́піцца. Éта называ́лі кісéт. У нас у Платóна кісéт быў. А то бáначкі стáлі, у бáначку сы́палі éту табáку, бáначкі закрывáліся.

### Тытунь – ад молі

Я замáтаю вáлінкі у льляну́ю трáпку так, штоб шчэ́лачак ніякіх ні былó. Тады́ пакладу́ у салафáнавы пакéт і завя́жу зноў, каб біз шчэ́лачак. І тады́ павéшаю у кладóўцы. Янó вісі́ць там. Гавóруць: нáда табáку, што сам сéіш, нáда пасы́пaць ат мóлі. Табáку мóжна і ў шкапу́ паклáсьць. Моль баі́цца зáпаху табáчнага. Табáкай травíлі моль. Табáка ат мóлі.

### Фасоля

Былá квасóля дзяру́нка. Йе на ты́чкі тóркалі. Інá вілáся па ты́чках і называ́лася дзяру́нка, а другáя квасóль – éта сéдка. Інá як вы́расла кýсьцічак, так і сядзі́ць, а дзяру́нка за лéта даб’éцца на сáмы верх. Дзяру́нка як цьвіцé, такі́м разавáцінькім, ой, красі́ва.

### Цыбуля застыла

Цыбу́ля пашлá у стрэ́лкі – знáчыць засты́ла. На стрэ́лцы навéрна сéмя, тóлькі дрóбнінькіе зéрне$^{а}$йкі такéя, як мак. Éсьлі стрэ́лкі збóку, паўцыбу́лінкі тóлькі астаéцца. Éсьлі цыбу́ля зімóй засты́ла, інá йдзе у стрэ́лкі. Ёсьць такéя лю́дзі скарасьпéшные, яны́ пасéюць рáна, то йна тады́ тож ідзéць у стрэ́лкі.

### Аміла (Мятлюг?)

Амілá – такáя травá вісóкая. Лі́сьця ў йе такóя длі́нная, а сірцаві́на тóўстая, як пáліц. Карóва кусáя, а конь нізаштó.

**Бадзюлькі**

Расту́ць бадзю́лькі. Іна́ така́я калю́чая трава́. Іе́ ніхто́ ні есьць, і сьві́ньням нарві́, пака́ бадзю́ляк німа́, но сьві́ньні ні ідзя́ць.

***

Уво́сінь на траве́ таке́я калю́чые бадзю́лькі, но ні зна́ю, як называ́іцца трава́, забы́лася. Асо́т расьце́ сьце́білям такі́м.

**Асот**

Асо́т калю́чы расьце́, у яго́ то́жа кар́эньня сі́льна глыбо́кая. Ёсьць асо́т нікалю́чы, про́ста асо́т і калю́чы. У яго́ [некалючага асоту] лі́сьця атарве́ш, і атту́ль бе́лая така́я жы́жка. У нас на по́лі, туды́ к Амшаро́ваму, сплашны́ асо́т. Ён цьвіце́ і сь се́мя расьсіва́іцца.

**Быльнік (Чарнобыль)**

Бы́льнік карані́сты такі́, расьце́ віса́чэнны. То́лькі узыхо́джая, а ко́рань санці́мітраў два́ццаць углы́б пайшо́ў. Яго́ ні вы́рваць, яго́ выка́паць на́да. Бы́льнік такі́ сам сабо́й, ні на што ні ўсхо́джая. Лі́сьця як на амерыка́нскім клянку́, то́лькі ме́ншая, ла́пкамі такі́мы. Цьвіце́ сір́энявічкім, дро́бнінячкіе цьвято́чкі, саўсі́м малю́пянічкіе. Ён расьце́ абы йдзе́, па ўсёй зямле́. Яго́ каровы і ко́ні ідзя́ць. Ён такі́ таўшч́энны, но ла́пкі у бы́льніка таке́я мя́ккіе. Ла́пкі есьць скот – конь, каро́ва і сьві́ньні. Ла́пачак бы́льніка наскубе́ш, як ла́пак нарве́ш, і сьві́ньні ідзя́ць. Яго́ і вярху́шкі збіда́юць, паку́ль сьце́біль е́ты ні таўсты́. Сьце́біль к зямлі́ у бы́льніка таўшч́энны, ко́стка про́ста. Е́та ніхто́ ні е́сьць.

**Вадзяны хвошч**

Па бірага́х Піравало́кі рос – называ́ўся хвошч, – а у яго́ на ко́рнях ар́эшыкі. Ар́эшыкі т́эя луска́лі, сма́шные-сма́шные былі́. Хвашча́ таго́ ма́ла было́. У яго́ караньќі чо́рнінькіе, до́ўгінькіе. З то́га каранька́ абіза́цільна пупы́шачка. Ту́ю пупы́шачку разлузьне́ш, і там ар́эшычкі. Яны́ і ні сало́дкія, і ні го́ркіе. Та́я сарцаві́нка, як разлузьне́ш, сма́шная. Па ні́зкіх берага́х е́тага хвашча́ ні было́, а Піравало́ка – бе́раг круты́, дык яны́, ар́эхі, там, лі вады́ расьлі́. Я ні магла́ даста́ць так (баялася вады́), тады́ на бе́раг ля́гу і рука́мі шука́ю.

Хво́шчу то́га ні ві́дна было́, то́лькі было́ кар́эньня, то́лькі кой-дзе. Ён такі́ мя́ккі, пушы́сты, ні такі́ жасткава́ты, што на гаро́дзі расьце́. Яго́ называ́лі хвошч. Абы-йдзе́ яго́ ні было́. Р́эдка калі́ паднімая вада́ е́ты бурго́нак. Йдзе вы́шай было́, туды́ к Сажу́, яго́ ні ві́дна. Ар́эшыкаў як нашука́іш, штук пяць-шэсьць зьясі́, у галаве́ тако́я ашчушч́энія – харашо́ так дзе́лаіцца. По́йдзім у шча́віль на Сі́навіцу (Асінавіца – лугавая мясціна), а тады́ гаво́рым: по́йдзім ціраз Піравало́ку, каб пашука́ць араxо́ў. Пашука́ім, зьясі́ і ідзе́ш у такі́м настрае́ніі, як пад’е́ўшы. Як стары́ ко́рань, так і ар́эх бо́льшы, як малады́ – ме́ншы. Но хадзі́лі, шука́лі таке́я арахі́ і е́лі.

**Верас**

Ве́рас уво́сінь цьвіце́. Ё ж такі́ ме́сіц – ве́расінь. Ён цьвіце́ сір́энявым. Цьвято́чкі у яго́ дро́бнінькіе, но сір́энявыя. Ён ат зямлі́ сьцібялёчык расьце́ то́нінькі, малі́нькі. Ве́рас расьце́ ні то, што адзі́н такі́ цьвято́чык, ён падра́д так. Йдзе ве́рас, то усё там расьце́ падра́д. Расьце́ ве́рас на харо́шай зямле́, штоб і ні ні́зка было́, і ні віс́ока. Па ве́расу баравікі́ расту́ць, грыбы́ – падаба́бкі, сураве́жкі, лісі́чкі, падасі́навікі. Ве́рас – трава́ ядо́мая. Ве́рас скот есьць – каро́вы. Як каро́вы узо́йдуць на яго́, сма́шна ідзя́ць.

### Дзяды

Дзяды́, што шы́шкі на іх расту́ць, што за це́ла бяру́цца, ко́рань у іх та́ўшчэнны-таўшчэ́нны. Ко́рань ні вы́капаць.

### Дзераза

Дзіразу́ бра́лі, пасу́шуць, вы́сыпіцца пушо́чык. Прэ́лікі у дзіце́й быва́юць, тады́ дзіразо́й прысыпа́лі прэ́лікі, пушо́чкам. Дзіраза́ як вада́. Іе́ вазьмі́, пахло́пай рука́мі, іна́ уся́-ўся высыпа́іцца. Дзіразу́ зьбіра́лі, сушы́лі. Вот вясно́й выганя́я шы́шачкі на ёй, йіх сабіра́ім, су́шым. Су́шым, паку́ль усё вы́сыпалася. Як пасо́хня іна́, тады́ высыпа́іцца, а так жа дзіраза́ ні высыпа́іцца. Насу́шым, здава́лі, плато́к які́, гарусо́ўку ку́піш.

### Крапіва

Ё про́ста крапі́ва, ё крапі́ва жыгу́чка і глуха́я крапі́ва. Глуха́я крапі́ва ні стрыка́іцца, но таке́я шпы́лькі на ёй во́йстрые, што й то́жа нільзя́ ўзяць у ру́кі. Про́ста крапі́ва – е́та абыкнаве́нная крапі́ва.

### Маць-і-мачаха

Ё трава́ маць-і-ма́чыха. Іна́ навярху́ адзі́н цьвет, а пад ні́зам другі́. Но ў корм ніхто́ ні есьць – ні́якая скаці́на. У маць-і-ма́чыхі лі́сьця тако́я шыро́кая. Іна́ вясно́й, то́лячкі сьнег растя́ня, а йна ужо́ цьвіце́ жо́ўцінькім.

### Мацярынка

Ё трава́ мацяры́нка, то́лькі ў ле́сі расьце́. Іна́ сма́шным-сма́шным па́хня. Калі́сь-та нарву́ць, насу́шуць. Бывя́я ніро́слая дзіця́, хі́лы дзіцёнак, дык усё выку́пвалі яго́ у мацяры́нцы. Дзіце́й бага́та даўно́ памі́рала. Тады́ то́жа пілі́ като́рые ба́бы. Мо́жа, у яко́й у п'я́ніцы такі́ дзіцёнак нараждя́ўся, такі́ замо́рыш. Яго́ лячы́лі так, мы́лі ў мацяры́нцы.

### Мох

На ха́ту бяру́ць мох у бало́ці: ён бо́лі мя́ккі, даўгі́ і пло́тна лажы́цца друг к дру́гу, а баравы́ ні такі́, у ім бага́та шы́гальля.

### Мята

Мя́та паху́чая, іе́ ў ваду́ накіда́іш, іна́ па́хня. Мя́ты на Баранцо́вым гаро́дзі сто́лькі ўжо рассе́іна, цьма-цьму́чая, бага́та. Мя́тай галаву́ мы́лі ці так у бо́чку ў ба́ні укі́ніш, но ў чай ні кла́лі. Тады́ былі́ каро́вы, то нікрэ́пка чаява́лі. Калі́ то́лькі захо́чыш, то ўзва́ру нава́рыш.

### Рамонак

Рама́шка у нас на дварэ́. Іе́ тапі́лі, го́лавы мылі. Вот цётка мая́, у йе ко́сы харо́шые, длінне́нные, е́тай траво́й (рама́шкі ці мя́ты нато́пя) мы́я ко́сы. Ба́ня у йіх была́ ні́жай к рэ́ццы, на бугарку́. Кала йе расла́ така́я рама́шка, што ніcма́шным па́хня.

### Палын

Палы́н іспо́льзаваюць то́лькі на лячэ́нія, на корм не: яго́ ніхто́ ні есьць. Палы́н сі́льна го́ркі. Яго́ су́шуць, ат пано́са п'юць. Яго́ і ціля́там дава́лі ат пано́са. І лю́дзі яго́ п'юць ат пано́са. Бяру́ць

палы́н су́шуць, а тады́ у кіпято́к укі́нуць, яно́ настаі́цца, тады́ даю́ць піць. А като́рые так ат чаго́. Ксі́ньня каза́ла, што палына́ вы́п'ю, тады́ мне тро́хі ле́гчы.

### Парыла (Дзедзьвель?)

Пары́ла трава́ така́я. Йе вясно́й сьві́ньні, каро́вы і ко́ні ідзя́ць, а падрасьце́, тады́ не. А цьвіце́ – такі́ сьце́біль ві́со́кі, сьцібялёк цьвіце́ жо́ўцінькім. У нас на по́плаві адно́ пары́ла.

### Плюшчай (Плюшнік?)

Плю́шнік – е́та тэй са́мы смыча́ль. Плю́шнік лу́ччы за смычалю́: яго́ ідзя́ць усі́ усё ле́та. Е́та харо́шая трава́.

### Раска

Ра́ску насі́лі сві́ньням, ву́ткам. Ра́ску ло́вюць падса́кай. Патса́ка – такі́ мяшо́к прывя́заюць на па́лку, е́та с тапту́хі така́я се́тка. Па крыні́цы грабу́ць ра́ску, а йна ж па́хня ры́бай, і сьві́ньні йе ідзя́ць. Но сьві́ньні адно́й ра́скі е́сьць ні бу́дуць. Іе́ пасы́паць на́да чым. Ву́ткі тож ідзя́ць ра́ску. Яны́ чаты́ры разы́ ухапі́лі, то́я вы́кінулі, зноў ідзя́ць. Атсю́ль ка́жуць: у цібе́ іда́ пірагара́я, як у ву́ткі.

### Снітка

Пасаве́талі сны́тку кабанку́. Сны́тка така́я трава́, што на гаро́дзі у нас. Сны́тку сьві́ньні ідзя́ць, а каро́вы і ко́ні ні ідзя́ць. Іна́ бы́стра вясно́й расьце́. Іе́ нарву́ць, накіда́юць сьві́ньням. Хо́чыш насячы́ йе, як хо́чыш дава́й. Іе́ усё ле́та кіда́юць сьві́ньням. Іна́ ла́пачкамы такі́мы расьце́, лі́сьця як на амірыка́нскім клянку́, шыро́кінькіе таке́я лісткі́, а цьвяты́ – такі́ ствол вы́ступя бе́лы. Цьвіце́ бе́лінькім такі́м. Сны́тка цьвіце́, як усі́ тра́вы начына́юць цьві́сьць, так і йна.

Ста́ніш траву́ выво́дзіць, дык усё вы́вядзіш. Выбіра́й каранька́ пастая́нна, яно́ ўсё вы́вядзіцца, і та́я ж сны́тка.

### Свірэпка

Сьвірэ́пку, калі́ малада́я, каро́ва і ску́ся, зьесьць, но длі ко́рма іна́ нікуда́ ні гадзі́цца. Сьвірэ́пка нікарані́стая, расьсе́іваіцца сь се́мя. Цьвіце́ тро́шкі, у цьвятку́ адрасто́чык такі́, като́ры распука́іцца. Ік во́сіні ён шчэ раз рассе́іцца. Но ціпе́р сьвірэ́пкі ма́ла, скараня́юць: я́дам по́люць, дык ні расьце́ць. У іе́ такі́ дро́бнінькі цьвято́чык, ма́лінькі, жо́ўцінькі.

### Смычаль (Плюшчай?)

Смыча́ль вясно́й начына́я рэсьць. Яго́ рвеш малады́, і ко́ні і сьві́ньні, і каро́вы так ідзя́ць, што ой-ё-ёй. Яго́ ко́сім на по́плаве. Ён ні цьвіце́. Ко́рань – ні давядзі́ гаспо́дзь, за тры ме́тры бу́дзя у глыбіну́ сядзе́ць. У па́хату ле́зя, яго́ ні пірабра́ць, ні вы́драць.

### Хвошч

У ле́сі ё такі́ хвошч, пе́р'я на ём німа́, а таке́я пру́цікі вісакава́цінькіе, бу́дуць с паўме́тры. Той хвошч рвуць і на хвашча́нку. Калі́сь пасу́ду мы́лі і́мы. Хвошч, што ў ле́сі, лі$^{е}$савы́, расьце́ асо́бінна ў бало́тах, па ні́зкіх ме́стах, па балаця́нках. Ён атлі́ча́іцца, што ў по́лі. Е́ты хвошч такі́ кучара́вінькі, на ём таке́я лі́сьцікі. У яго́ чо́рные каранькі́, то́нінькіе. Яны́ глыбо́ка сідзя́ць, у зямлю́ глыбо́ка іду́ць, яго́ тру́дна вы́вісьць. Патсіка́іш, патсіка́іш е́тые карэ́ньні, а ён ніяк.

### Явар (Аер)

Карэ́ньня я́вара ні го́ркая, а сало́дкая. Нюняк нарву́ць, пе́р'я абчы́сьцюць, а той лісьці́начак сь сярэ́дзіны, што то́лькі начыня́ рэсьць, ён жа мя́кіньні, сла́дзіньні-сла́дзіньні, яго́ ідзя́ць. Я́вар па нізкіх ме́стах расьце́ – у Прудку́, у Дзяні́саў на бало́ці.

## ДРЭВЫ, КУСТЫ

### Алешына

Альха́ расьце́ па нізкіх ме́стах. Іна́ цьвіце́ – таке́я шы́шачкі ро́завые. Як пасьпіва́юць – расьсе́іваюцца. Альха́ расьце́ ні з ко́рня, а з шы́шачак. Але́шнік засе́ў ча́ста, адзі́н кала аднаго́ але́шыны. Е́та ж се́мя так па́дала, і яно́ расьсе́ілася.

### Арэшына і лясныя арэхі

Арахі́ растýць на арэ́шніку. Арахі́ кі́сьцямы вíся́ць, яны́ кýчкай вíся́ць, штук пяць-шэсьць бýдзя вісе́ць. Яны́ па дном ма́ла быва́юць. Са́мая ма́лая – е́та два-тры. Сёліта арахо́ў бага́та было́, так кі́сьцямы вісяць бальшы́мы. Сама́ арэ́шына цьвіце́ бе́лым цьве́там. Лі́сьця ні дýжа бальшо́я, як на лі́пі, да́жа шчэ й ме́ншая, то́лькі лі́сьця ні па дном, а йны два-тры, ве́тачкамы такі́мы. На крайкý у лі́сьціках таке́я прарэ́зачкі, прарэ́зачкі, во́йстрынькіе таке́я.

Арэ́хі, што ўсярэ́дзіні чо́рна, называ́юць «мала́нка спалі́ла». Ка́жуць: «Ой, ма́ла харо́шых арахо́ў, адны́ з мала́нкай». Хо́дзюць у варахі́ у пра́зьнік, як нічо́га нільзя́ дзе́лаць, тады́. Аво́, як пры́дзя Мака́ўя, Спас, тады́ йдуць у варахі́.

Мы ў лісхо́з як хадзі́лі, тады́ ско́рынька абе́д праглыне́ш і нашука́іш арахо́ў. Яны́ уво́сінь абсы́пюцца, і лі́сьцям іх засы́пя. Як яго́ разлузне́ш, зярно́ тако́я я́драная, со́чная. Яны́ ж укýсные таке́я арахі́. А вясно́й пад арэ́шчынай нашука́іш е́тых арахо́ў. Зя́рно со́чная. Як разажве́ш, яны́ – як малако́ там у іх. Ядро́ тако́я сма́шная йі́хная.

Но йіх жа я́ксьця ма́ла у нас. Мо́жа, йдзе ў лясьсі́, йдзе бо́лі так глыбо́ка, мо́жна і назьбіра́ць мяшо́к арахо́ў, у нас не.

### Багун

Бугýн расьце́ у ле́сі, ён ра́сьце то́лькі па бало́тах. Ён пахýчы такі́. Як ідзе́ паўз бало́та зачэ́піш яго́, дык ён далёка пахня́. Лісты́ вýзінькіе і до́ўгіе у яго́, прыме́рна, як на ве́рбіне лісто́чкі, но у бугуна́ вузе́йшые, до́ўгіе таке́я. Цьвіце́ бугýн уле́тку, цьвіце́ бе́лінькім, цьвято́чкі дро́бнінькіе. Бугýн то́пюць і сýшуць, тады́ п'юць. Скот яго́ ні есьць.

### Бархат (Коркавае дрэва?)

На рагý на́шай вýлачкі стая́ла дзе́рава, яго́ ве́цір з год ці два павалі́ў, зва́лі ба́рхатны клён. Е́ты ба́рхат садзі́лі у ле́сі. Я галю́чку зь лісхо́за, па́растак, прынісла́. Прынісла́ і ўто́ркнула. Пасадзі́ла, яно́ прыняло́ся і расло́. Яго́ зра́зу бы́стра пагна́ла у ро́ст. Як расло́ е́та дзе́раўца, было́ красі́вая, лі́сьця разразно́я тако́я. Яно́ бальшо́я ні расло́, а ні́зкая тако́я. Ба́рхат е́ты ні цьвіў, уво́сінь лі́сьця апсы́піцца, а цьвісьць ні цьвіло́. Кара́ на ём таўшчэ́нная, санці́метраў два́ццаць. Зь яго́ дзе́лаюць гýмавые про́бкі, што віно́ закрыва́юць. Дзе́лаюць про́бкі с кары́.

### Бэз

Бэз завýць і сірэ́нь завýць. Бэз з ко́рня расьце́, як асі́ньнік, так расьсіва́іцца. Зь яго́ ні́якага дзе́рава німа́, прýцікамы такі́мы расьце́ і ўсё. І калі́ бэз цьвіце́, прыме́цілі лю́дзі, тож бýдзя хало́дна. Па́хня ён так укýсна, чы́ста так. Цьвято́чкі у яго́ сірэ́нявые, но ё і другі́ цьвет. У вайнý усё піравяло́ся. Садзі́лі бэз ужо́ по́сьлі вайны́.

### Воўчыя ягады (Крушына)

Вóўчые я́гады – éта тáя сáмая крушы́на. Есьць іх ніхтó ні бярэ́, ні ідзя́ць. Яны́ ідавíтые. Ніхтó іх саўсíм нійдзé ні бярэ́.

### Каштан

Каштáнаў у нас даўнéй ні былó. Каштáны стáлі прывóжаць, стáлі садзíць, яны́ й стáлі рэсьць. Пéршые прывязьлí Калíстравы. У Вáські, Вася́ Калíстравага жóнка былá с Украíны. Яны́ і прывóжалі, пасадзíлі, а тады́ ўжо, хто хацéў.

### Сасна

У лесхóзі у такóя ўрэ́мя, па вóсіні, ачышчáлі лес. Як ён расьцé, уся́кая тахмá тóжа расьцé – рабíньнік, бярэ́зьнік, асíньнік – тóнкіе, вісóкіе пруты́, іх высікáлі. Усё éта называлася упéрад тахмá, а тады́ стáлі гавары́ць ніліквíд. Ягó, ніліквíд, складáлі ў кучы́, кýчы ні палíлі, янó усё гнілó на мéсьці. За éта, што чы́сьцілі, плацíлі капéйкі. Хóдзіш мéсіц, хóдзіш, і выхадны́х німáшака нія́кіх і чуць зарóбіш тры́ццаць рублéй. Вяснóй сéілі расáднікі: сасну́, éлку. Расáднік закладóм, тады́ садзíлі лясы́. За дзін год снасá ні вырастáя. На сьлéдуюшчы год тады́ пóліш іé, рэ́дзіш. Інá такóя сéмя, як мóрква. Узыхóджая сíльна тýга. Вы́расьця інá, вяснóй дзéлаюць кар'éрчыкі, закладáюць туды́, прысыпáюць зямлёй. А расáдка далжнá вы́расьціць прымéрна ш чэ́цьвірць. Як садзíць з расáдніка, іé ні рвуць, янá далжнá быць гатóвай. Каб дзіржáлася зімля́, іé залівáюць вадóй, а тады́ садзíлі. Папéрад падзéлаюць рады́ на паля́нах, тады́ пасóдзюць. Ціпéр трактарáмы усё дзéлаюць, а тады́ радóк то кóням якíм, то чым дзéлалі. А у лéсі éта ж ні на пóлі, што зімля́ абрабóтана, усё цвёрда, у лéсе карэ́ньня. Дзіля́нку вы́ражуць, а карэ́ньня, гóспадзі (!), там стóлькі, гальлё прыбірáлі. Пасадзíлі, каб быў прастóр. Пітóўнік, што як на кóмплекс іціць, садзíлі у пійся́т сёмым гаду́, но ўсірóўна лес тýга расьцé, асóбінна саснá. Страявóга дзéрава тут жа шчэ німá. Страявóя каб былó дзéрава, сáсна напрымéр, нáда гадóў сто. Страявóе дзéрава каб у строй пашлó: ці на даску́ распілíць, ці ў хáту, стрóіць хáту, янó ні гадзíцца – маладня́к шчэ.

### Хвойныя адросткі

Хвóйнік, катóры начынáя цьвісьць, ён пускáя такéя пабéгі. Éтые пабéгі настóюць: сáхару і трóшачкі вады́. Усё піравары́ць. Шы́шачкі тэ́я разóйдуцца. Пабéгі маладзéнькіе, яны́ саснóй пáхнуць. Лóжачку чалавéк праглынé – éта ж сасьня́к – éта ж лікáрства.

### Чаромха

Чарóмуха у нас у Баранцóў, íна у нас і ў Прудку́ расьцé, но інá пазнавáта зацьвітáя, прымéрна к канцу́ мая́, но калí як, як клíмат які. Калí ранéй бýдзя цёпла, калí пазьнéй. Інá цьвіцé вяснóй бéлінькім цьвéтам. Гавары́лі: чарóмуха зацьвілá – халóдна бýдзя. Прымічáлі так лю́дзі. Зáпах у йе прыя́тны. Зáпах бальшы́, далёка ад чарóмухі зáпах чýцін, далёка. Чарóмуха цьвіцé – камарóў багáта.

### Шыпшына

Шупшы́на – лікáрства, ат даўлéнія прынімáюць. Во у Вíцькі былó пóчачная даўлéнія, і ўрачы́ сказáлі тапíць і піць шупшы́ну. Інá, шупшы́на, калю́чынькая такáя, а цьвіцé красíвінька, такíм рóзавым. Кусты́ шупшы́ны у нас растýць па Шырóкай дарóзі.

## ЯГАДНЫЯ КУСТЫ І КУСЦІКІ

### Ажыны

Жаві́ньнік сільна калю́чы. Жаві́на была́ у Амшаро́ві. Пры́дзім на по́ля, по́йдзім у жаві́ньнік, ру́кі пабдзіра́юць, но́гі. Жаві́ніны бальшыно́й як малі́на, то́лькі іна́ така́я бардо́вая. Мы зь іх варэ́ньня ні ра́зу ні варылі́. Калі́ йдзе палу́чыцца тро́шкі атарва́ць, то е́лі.

### Брусніцы

Брушні́цы мачы́лі у бо́чкі. Пае́халі мы раз у лес. Іх у тэй год было́ бага́та, мы набра́лі. У нас была́ така́я ра́жачка вядры́ на два, мы я́гады намачы́лі, паставі́лі у по́граб. Брушні́цы ні так, не, ні са́мы я́гады, а жы́жка іх сільна ўку́сная была́. А сёліта іх было́ бага́та, но сьпякл́іся ат со́нца. Лю́дзі ні пакуша́лі. Брушні́цы і сушы́лі, як і чарні́цы. Я́гады – усё лячэ́ньня. І малі́на – лячэ́ньня, і дурні́цы – лячэ́ньня.

### Дурніцы

Дурні́ц ма́ла бра́лі, варэ́ньня зь іх ні вары́лі, а сушы́ць – яны́ ні со́хнуць. Іх пасы́піш на сушэ́ньня, а яны́ усе́ выціка́юць. Во ж сьліў нільзя́ сушы́ць, цэ́лые ні со́хнуць, а разрэ́ж, пакладзі́ – сок выплыва́я.

Ба́ба на́ша усігда́ гавары́лі, што дурні́ц нільзя́ бага́та есьць: забалі́ць галава́. Дурні́цы з бугуно́м расту́ць. Бугу́н у ле́сі па́хня-па́хня. Лю́дзі като́рые бра́лі бугу́н, тапі́лі у чугуна́х і пі́лі е́ту валу́. Ат чаго́ яно́ – ні зна́ю. Во Мару́ся дзе́да Сро́ліка, Мары́на Пы́ркава – е́тые тапі́лі і усігда́ пі́лі бугу́н. Я люблю́, як ён па́хня, е́ты бугу́н. Ён цьвіце такі́м бе́лінькім, красі́вінькім цьве́там. У я́гады по́йдзіш і ба́чыш, як ён цьвіце́. Дурні́цы буйнэ́я, яны́ такéя галубава́тые. Іх бага́та расло́ у Бяро́завым бало́це. Дурні́чнік у бало́ці, яго́ рвуць для яко́га-та ліка́рства.

### Журавіны

Журавіны і у нас расьлі́, расьлі́, як даро́гу пяро́йдзіш. У нас у Сасно́вым бало́ці былі́ журавіны. А як кана́вы павыка́палі у бало́тах, бало́ты павысу́шалі, міра́цыю падзе́лалі, журавіны ні ста́лі рэсьць. Журавіны ціснулі. Сок зь іх тады́ у кісе́ль дабаўля́лі. Журавіны на маро́зі пірамёрзнуць, тады́ яны́ ні такéя кі́слые, е́тые журавіны.

### Касцяніцы

Касьцяні́цы расту́ць па бара́х, яны́ кра́сьнінькіе. Мы іх ні ра́зу ні бра́лі, но ні магу́ сказа́ць чаму́.

### Суніцы

Суні́ца расьце́ па паля́нах, па траве́ суні́чнік расьце́. Іна́, суні́ца, папе́рад усяго́ пасьпіва́я. То́лькі Тро́іца про́йдзя, нядзе́ля яка́я – суні́цы пасьпе́лі. У суні́цы о́чынь за́пах пры́ятны.

### Чарніцы

За суні́цай пасьпе́юць чарні́цы. Са́мые сма́шные чарні́цы па бару́: бо́лій усяго́ ёй со́нца захо́джая, а ў цяньку́ ні такéя чарні́цы, на со́нцы смашне́й. Чарні́цы сушы́лі, тады́ кампо́ты вары́лі. Крышнёў, ігру́ш, чарні́ц – усяго́ туды́, у варэ́йцы кампо́т вары́лі. Варэ́йку бальшу́ю, лі́траў на пяць, наваруць і п'юць. Хто с хле́бам, хто так вы́п'я. Асо́бінна по́льзаваліся узва́рам, як каро́ву кі́нуць. Кі́нуць каро́ву – по́льзаліся кампо́там.

## ГРЫБЫ

***

Стáня цёпла. Ужó к канцý мáя, начáла іюня начнýць масляты і сьвíньні, і лісíчкі. Éта рáньніе такéя грыбы́. Éсьлі дажджы́ прахóджаюць, як жы́та высыпáя, мóгуць пракíнуцца баравíчкі. Каласавíчкі яны́ назывáюцца. Начнýцца ягады, ужó па ягадніку ёсьціка калí і сураéжкі, падасíнавікі, падабáбкі. Éтые грыбы́ сýтачные, яны́ дзень пастаялі і чарнéюць. Я пра такéя грыбы́ гаварý, якéя мы бярóм. У вáўгусьці мéсіцы начынáюцца харóшые грыбы́. Грыбы́ харóшые – баравíкі, масьляты, падабáбкі, сураве́жкі, рыжкí. Нóчы пабóльшаюць – і грыбы́ лýччые. Пахаладнéя бóляй, у сеньцябрэ́ мéсяцы апéнькі пóйдуць.

***

Бáба пагóня карóў, карóў пáсьця і набярэ́ грыбóў. Там яны́ пáсьцілі на Вужы́ных, пад Мóліну туды́. Яны́ прывы́чные, карóвы, і усігдá там хадзíлі. На рáнкі карóў ганялі. Бáба набярэ́ грыбóў, пры́дзя дамóў, затóпя печ. Грыбы́ памы́я, пакры́ша у чугýн, і яны́ там смáжуцца, жáруцца. А йна ні то, што на дым пастáвя, а як дым зьляжыцца. Грыбы́ там скóра жжáруцца. Інá лíсту дабáвя, пасóля, цыбýлінку скры́ша. Пакладзé ходзь алéю, ходзь сьвіннóга жы́ру. А зубóў у бáбы ні былó, то інá старáлася вары́ць усігдá ж жы́жачкай. Жы́жачку самá бýдзя есьць, а грыбы́ унýкі.

А шчэ бáба у грыбы́ сьмітáну клáла. Тады́ сьмітáна нікýпліна, а былá своя. Інá ш чым-нéбудзь зажáра, а тады́ пакладзé сьмітáны.

### Баравікі

Як па такóм лясý – то па вéрасу, то па бярэ́зьніку, – то у баравікóў такáя бýрынькая кóжка. А йдзе пад Дубáмі (э́та назывáлася Вузкакалéйка, Пад дубáмі), там у іх білавáтая кóжка, а каранькí такéя тóўстые-тóўстые, і растýць яны́ нíзінькіе. А такéя баравíкі – éтые кóрань тóнкі, і яны́ вісóкіе.

Печ вы́тапіцца, салóмы пасьцéлюць на под і пасаджáюць іх. А ціпéр на под ужó ні сы́пюць. Сь пéчы вы́нюць, на нíзку панíжуць і вéшаюць на дух. Яны́ на духý пасóхнуць, а пáхнуць як. Но сматрá, як хто ізьдзéлая. Хто ні кладзé прáвільна, баравíкі чóрные. На салóмі іх нáда каранькáмі увéрх плóтна класьць, дык яны́ тады́ бéлінькіе, харóшые.

### Грузды

Грýзды бальшэ́я-бальшэ́я такéя. Яны́ бéлые, зьядóмые грыбы́, тóлькі іх мóчуць. Мы ні мачы́лі іх нікалí.

### Лісічкі

Лісянкі кóлькі ні тýшы, кóлькі ні вары́, яны́ крэ́пкіе. Раз на Пітрá пракíнулісь лісянкі. Мы пашлí з бáбай на Бýдзькаў і набрáлі дзьве карзíны. Яны́ тóлькі началí рэсьць, дрóбнінькіе такéя. Мы іх у бальшэ́нны чугýн і дóўга-дóўга вары́лі. Тады́ я іх працадзíла і паклáлі у халадзíльнік. А тады́ жáрылі дóўга на скаўрадзé і паставíлі на стол. А за тэй стол сéлі адны́ нáшы кантóрскіе рабóтнікі. Яны́ пад’éлі éтых грыбóў, і іх праняло мы́там. Я назáўтрага пры́шла звáць прэ́дзіху. Я пабéгла, а інá гавóра: «Ой, Грыгóраўна, я начавáла сёдні у туалéці». Я ёй: «Знáіця, мóжа са хóты, да тóшчы жалýдак быў, дык янó і пранясло. У нáшых дзéвак жа нічóга, а у вас, Пятрóўна, случы́лась». А самá падýмала: людзячкі, чагó так ёй ні пашлó.

Усé пашчытáлі, што мы грыбы́ нідавары́лі.

### Рыжыкі

Рыжкі́ такéя жаўтавáтые, разавáтые. Éтые растýць па паля́нках, па травé, паўз дарóжку йдзе-нéбудзь, па тра́ўцы асóбінна. Сёліта іх былó багáта. Паéхалі А́ня ж Жэ́нькам у кýркі. Шукáлі-шукáлі, нéшта ні найці́ць ні кýрак, нічóга. Тады́ падышлі́ – паля́на, адны́ ры́жыкі. Нарэ́залі адны́х рыжкóў мех. Éта ні ў нáшым лéсе. У нас яны́ растýць па Гарэ́льлі. Ры́жыкі ні лю́бюць рэсьць па бальшóй травé, а йдзе мя́ккая такáя трава. Па нíзкіх мéстах яны́ ні растýць. Во як кýкліцкая дарóга, йдзе багáта баравічкóў калíсь зьбірáлі, ідзі́ паўз дарóгу – яны́ скрозь ёсьць і ёсьць. А то па тэй бок кýкліцкай дарóгі, туды́ к баркý ідзёш і там ё. Яны́ ідзé паўз дарóжку, і то йдзе ні мох, а шык. Яны́ па шыкý. Яны́ такéя сла́дзенькіе. Кýркі, апéнькі, рыжкі́ – э́та сла́дкіе грыбы́. Нівáраные грыбы́ нільзя́ есьць. Э́та мóжна на цяплé сьпеч рыжóк. Рыжóк пасóлюць, на па́лачку уссóдзюць, сьпякýць і ідзя́ць. Ры́жкі і у бóчку мачы́лі, і грузды́.

### Таўстушкі

Таўстýшкі харóшые-харóшые грыбы́. Яны́, як кýркі. Таўстýшкі к канцý сіньцябрá растýць, як пахаладнéя. Тады́ і ваўнéнкі растýць.

Таўстýш былó багáта ранéй, а яны́ як-та вы́радзіліся. Ідзé сасьнячóк маладзéнькі, там і таў-стýшкі растýць, а ціпéр шукáіш, шукáіш, а іх нівíдна, ні найці́ць.

## НЕЯДОМЫЯ ГРЫБЫ

### Грыбы вясёлкі

Мы éхалі у я́гады. Éдам, і унýк гавóра: «Баб, во тут ё ідзé-та вясёлка». Яны́ ваню́чые такéя грыбы́. Яны́ растýць так: пачыная́ рэсьць такáя балбýка, як яйцó. Зь éстага ійцá грыб тады́ расьцé.

Хлóпіц зьлез, і я зьлéзла. Тады́ мы штук шэсьць такíх грыбóў узялі. Яны́ па éльніку растýць. Гавóруць, што йіх нáда на тры нядзéлі гарэ́лкай залі́ць і пастáвіць у зямлю́. Адзі́н раз нам Лёня прынёс такíх грыбóў, і мы пастáвілі іх у зямлю́. Унýк у тóя ўрэ́мя у мінé быў. Вы́капаў кала пóграба я́мку і пастáвілі. Як бýльбу пачалí капáць, іх дастáлі і павя́зьлі.

### Мухаморы

Мухамóры і шчэ такéя ры́жые ё баравікí, іх бя́руць і крычáць мачóнкі. Іх цётка Вóльга брáла і мачы́ла. Мухамóр – éты кáжан зная́, што ні бярýць éтага гры́ба. Ё ішчэ́ такí грыб, як баравíк, называ́юць падарэ́шнікі. Ягó як атрэ́жыш, ён зрáзу сьсінéя. Ён гóркі-прагóркі.

Мне раскáзалі: мухамóр éты бярýць. Вот Аню́ты Кашчаёвай сíстра маладáя балéла. Рак быў. Дык éтые браты́ йíхные, яны́ далёка йдзé-та жывýць, сказáлі: нáда мухамóр нацíснуць і пастáвіць у зямлю, каб пастая́ла. Ні зна́ю, якóя ўрэ́мя нáда стая́ць. І тады́ піць. Зрáзу па дной кáплі, тады́ па дзьве, пакá трóшкі арганíзм прымéніцца. Íна́ у мóладасьці гадóў ёй пітнáццаць, мóжа шаснáццаць, былó, інá пабалéла і глянь кóлькі пражы́ла, да стáрасьці. Мóжа, і памаглó.

*Н. В. Сівіцкая*

# З ГАВОРАК ГЛЫБОЦКАГА РАЁНА

***Расказвае Станіслава Антонаўна Долгая, 1921 г. н., адукацыя пачатковая, каталічка, мясцовая жыхарка****; запіс зроблены ў 2009 г. у в. Кашталянаўшчына.*

## Пра аднаўленне касцёла ў вёсцы Ву́дзела

Касьцёл быў. Закры́лі ягó, як прышлí бальшавікí, тады́ ягó і закры́лі, э́тат касьцёл. Зрабілі там атрáзу свіран, павыкíдывалі ўсё чы́ста. І званы́ лю́дзі зня́лі і ўтапілі ў вóзеры. Званы́, пóсля вайны́, як устанавíлі касцёл, лю́дзі, катóрые яшчэ́ жылí, дык лю́дзі знáлі дзе яны́, – ўтапíлі у Пятрóўшчынскае вóзера, – хто там іх калí завёс? Усё ж знішчáлі, крыш стая́ў, крыш зрэ́залі, і вы́кіналі, усё чы́ста. І тады́ там так знíшчылі э́тат касцёл, зрабíлі – на трáктарах уіжджáлі, паламáлі ўсё. Сьцéны там стрáшные былí, ўсё. Гэ́та яны́ касьцёл знíшчылі мóжа ішчэ́ да якóга-нібуць сóрак фтарóга гóду – сóрак трэ́цега гóду. У сóрак фтары́м у нас былí нéмцы. У сóрак трэ́цім ужó нáшы пашлí на вайнý, у сóрак чацьвёртым ужó касьцёл быў знíшчаны саўсём. Нічóга не былó ў касьцéле, хадзíлі, сьмія́ліся с касьцёла. А тады́ у дзівянóста пéрвым – дзівянóста другíм гадý устанáўлівалі касцёл, тады́ людзí хадзíлі у вабéт і рáніцай – на рабóту ш хадзíлі ў калхóс – алé хадзíлі, на абéт ні хадзíлі, алé цэ́лы абéт рабíлі – два часы́ калі касцэ́лу – чы́сьцілі ягó, ўсе сцéны абдзірáлі, вымывáлі сцéны, і хто дрэ́вы рэ́заў. І як ужó ачы́сьцілі яны́ ягó, ішчэ́ нічóга ні былó – ні пóлу ні былó, нічóга. Алé ўжó Бýлька як прыéхаў, ён ягó высвéнчываў, э́тат касцёл. Ішчэ́ я хадзíла, як высвéнчывалі касцёл, складáлі мы грóшы, кап накры́ць, ён знíшчаны быў, ужó цёк. Дык за адзíн дзень злажы́лі грóшы, ён паéхаў і купíў э́тай бéлай жэ́сьці, Бýлька, і накры́ў – за адзíн дзень што злажы́лі грóшы – накры́ў касцёл. Усé хадзíлі лю́дзі, хто аткýль, хадзíлі, памагáлі, рабíлі. Дык адна́ бáба бéдная, с Сапéліна, э́та ш валíлі дрэ́вы, і гэ́дак йінá там падбірáла, і забíла яé. Ну і вот тады́ ўжо, у дзівянóста трэ́цім, ужó й стáлі малíцца, стáлі ужó патрóху пóл клáсьці, тады́ стáлі столь клáсьці, бо там жа ш нічóга ні былó. А цяпéр гэ́такі красíвы касцёл! І гэ́та ўсё Бýлька зрабíў. І дрэ́вы пасадзíў, агрáды парабíў, усё-усё. І былó ш нічóга, анí, анí нічóга! Тóка адзíн быў касцёл у Глыбóкім, і то гэ́та мóжа у мéсіц раз-два. Ксяндзóў пазганя́лі, ні былó нідзé. Калí прыéдзіць ксёнс які, дык аткры́ець касцёл. Так жа ш ні пускáлі, нікóга ні пускáлі! Ні ў касцёл, ні ў цэ́ркву. А тады́, як ужó апрáвілі касцёл, тады́ дастáлі сваé й званы́ з вóзера. Людзі знáлі, дзе, хто ўтапíў, ты́я і даставáлі. Дастáлі з вóзера званы́, і былí сваé званы́.

## Пра даўнейшае жыццё

Бáбушка мне раскáзывала. Што гэ́та даўнéй, як яны́ жылí. Э́та бáбушцы маéй, як йінá памёрла, дзівянóста два гады́ ў сóрак шóстым гóдзе. І йінá яшчэ́ гэ́дык жылá, што нідзé нічóга. Што ні былó ў йіх ні сьвéту, ні лáмпаў, нічóга, пры лучы́нах жылí. Кáжыць, усю зімý шчэ́пюць – як йінá яшчэ́ дзéўкай былá – шчэ́пюць і шчэ́пюць гэ́ну лучы́ну, а зімóй тады́ ў хáце такí зрóблены, жэ́сьцяй абабíта ў куткý і гэ́ту лучы́ну пáлюць і пáлюць. Найбóлі ш малацíлі, казáла, пры лучы́не. А сядзéлі у лісáх. Хáты ў іх былí бяс кóмінаў. І кáжыць, у лéсе нічóга там у іх не былó – ні падáтку, жылí па лісáх – прыéдуць у лес, раскарчóўваюць гэ́тат лес і жывýць гэ́дак. Пóчты ні былó, пóчта былá там во дзе Кыркáлы былí. А у касьцёл хадзíлі – куды́ камý бліжэ́й былó, як яны́ былí дзіўчáтамі. А гэ́та былá ýнія. Стая́ла цэ́рква – у цэ́ркву хадзíлі, алé нідзé нічóга блíска не былó. Казáла: «Я хадзíла у цэ́ркву, ці тýю ýнію, двóе лапцéй – у лапця́х ішлá туды́, гэ́та свянцóнку пасвéнціць, і аттýль, казáла, йшла – другíя лáпці на плічáх».

Казáла, ужо зáмуш зайшлá, ішчэ́ зáмуш ішла йінá у курнýю хáту, бяс кóміна. Алé ўжо як йінá éхала, стáлі бальшы́е дзéці, дык йінá прыéхала у Глубóкае, аттýль з гэ́тых Крыкáл. І ў Глубóкім пóіст ішóў. Яны́ вíдзюць, што дарóгу э́ту жалéзную правялí. Яны́ вíдзюць і кáжуць:

«Нашто́ яны́ тут гэ́та ро́бяць?» Тады́ ка́жуць: «По́йдзіць по́іст». А мы жы́та, ка́жыць, ікра́с жа́лі, каля гэ́тай даро́гі жа́лі. Ка́жыць, як ідзе́ць по́іст, а ён – чух-чух, гэ́та па́ра, дык мы, ка́жыць, сярпы́ пакіда́лі, а спадніцы на гало́вы, і гэ́дак уціка́лі, што ён абва́рыць, по́іст.

### Як скідалі прыгон

На́ша ба́бушка памёрла у ты́сяча дзевяцьсо́т со́рак шо́стым гаду́, ей было́ дзевяно́ста два гады́, йшчэ йіна́ раска́завала, як прыго́н скі́давалі, пано́ў як прагання́лі. Каза́ла, я на па́сьце была́ і пашла́ дамо́ў і кажу́: «Ма́ма, чаму наш пан ляжы́ць у ле́се вун там пад дубо́м?» Дык йіна́ ка́жыць: «Ай, дачу́шка, (а яны́ былі́ шля́хты, яны́ на прыго́н ні рабі́лі), пае́халі жанда́рмы – тады́ зва́ліся ні міліцыя, а жанда́рмы – ка́жыць, пае́халі на по́ле, бап с по́ля го́нюць, а ба́бы бая́цца», – што пан жа ш іх бу́дзіць біць, то́жа, дауне́й білі ш. Ні ўціка́юць. А жанда́рма нага́йкамі разганя́юць с по́ля. Мне, ка́жыць, тады́ сказа́ла ма́ма: «Вот по́мні, дачу́шка, табе́ сем гадо́ў, як прыго́н скі́дываюць». Каза́ла, ўві́дзіла яшчэ́ гэ́ткую ба́бу, што гэ́дак білі яе́, не́шта ш там правіні́лася, дык уве́сь кульша́к абгні́ў. Яны́ ме́лі пра́ва паны́ усё чы́ста, такі́ прыго́н. Ба́ба яшчэ́ гэ́та ўсё раска́завала.

### Казка пра Сынка-ліпнічка

Не было́ у бацько́ў дзяце́й. Дык ён сядзе́ў і вы́разаў з дрэ́ва ма́льчыка і назва́ў Сыно́к-лі́пнічак. І гэ́тат Сыно́к-лі́пнічак хадзі́ў і папрасі́ўся на во́зера. І паплы́ў па во́зеру. Ён пры́дзіць да яго́: «Сыно́к-лі́пнічак, прыплыві́ да бе́рашку, ка́шка з ма́слам, лы́шка с са́лцам» – кармі́ў ён яго́, гэ́тага Сынка-ліпнічка. Прынёс ён яго́ дамо́ў, і закруці́ў – такі́я дауне́й за́круткі былі́ у ха́це. Прынёс ён яго́ дамо́ў, закруці́ў гэ́ту за́крутку, а чэ́рці сабра́ліся і Сынка́-лі́пнічка і ўкра́лі. Сядзі́ць дзет калі ха́ты і гэ́дак гало́сіць: «Чэ́рці зьнясьлі Лі́пнічка майго́!» Сядзі́ць дзет без ніко́га, адзі́н аста́ўся, без Сынка́-лі́пнічка.

### Пра разбойнікаў

Былі́ разбо́йнікі. Былі́, ба́ба раска́зваіць, што така́я была́ зьвязь іх – пяць чалаве́к. Дык і да́жа й напі́шуць, што «Максі́м быў тут, ні наракайце ні на ко́га», што яны́ аграбі́лі. Што вы́рылі былі́ ў ле́се такі́я я́мы, такі́я скляпы́ паро́білі, і насі́лі што папа́ла – жо́нкі ш былі́ па дама́х. Ду́жа аграба́лі. Аграба́лі дауне́й то́жа, патко́паваліся хоць і у хлявы́, і сьвіне́й кра́лі, і каро́ў кра́лі. І каро́ў кра́лі і ў ла́пці абува́лі. По́сьле вайны́ йшчэ у со́рак пя́тым гаду́, ба́цька як прыйшо́ў з вайны́ – уво́сень ён прыйшо́ў – ізь йім быў у Мярэ́цак такі́ друх. Каза́ў, які́ ён на вайне́ быў харо́шы ма́ліц! А як прышо́ў дамо́ў, у яго́ была́ ма́тка, ён у ма́ткі радзі́ўся без ба́цькі, бахуро́м быў. Ну і, му́сіць, крэ́пка бе́дна было́. Зьвіза́ўся – і пашо́ў, і пашо́ў, зьвіза́лася ба́нда й пашлі́ аграба́ць людзе́й. Яны́ аграба́лі, а тады́ ста́лі ужо́ лю́дзі дазнава́ць – дзе, што, усё ш адзі́н аднаму́ дака́завалі. І ён, як ішлі́ с Пятро́ўшчыны, а міліцыя перайма́ла, застрэ́ліўся, пад паро́й і застрэ́ліўся сам. Ка́жыць ба́цька, што на вайне́ быў на́тта сла́ўны. Цяпе́р глідзя́ць, кап дзе то́ка бага́тага агра́біць, а дауне́й жа ш адзе́жу гэ́ту забіра́лі.

### Пра Франю

Яе́ ба́цька – майго́ ба́цькі дваю́рны брат. Ён быў сірата́, саусём. Ма́тка памёрла, ба́цька ажані́ўся, і жыў, пашо́ў да па́на, малы́ быў у па́на. А тады́ пан яго́ навучы́ў, дауне́й ні было́ по́вараў бап, а мушчы́ны то́ка былі́ павара́мі. І быў яму́ ваду́ насі́ць мядзве́ць. Гэ́та яму́ ўвесь час памага́ў. Ско́ка ён быў – мядзве́ць ваду́ прынясе́ць бо́чкай, мядзве́ць ваду́ вы́нісіць, мядзве́ць налі́ець ва́ды. Да, памале́ньку, прынясе́ць. Ён навучы́ўся за по́вара, ажані́ўся, яго́ жо́нка памёрла. Памёрла жо́нка і асталя́ся ма́лінькая дзе́вачка. Ён яе́ падгадава́ў тут, а тады́ наду́маў – ну, ён гэ́ткі бра́вы чалаве́к быў – калі́ я ўжо по́варам, пае́ду я дале́й. І пае́хаў у – дауне́й жа ш Пітраґра́т – у Пітраґра́т

у гэ́тат паéхаў. Паéхаў, і там нанявся у багáтага пáна пóварам, ён ямý даў кварціру на другíм этажы́ із дзяўчы́нкай. Ён ужó мéні брáў, што кап і дзяўчы́нка гадавáлася пры ім гэ́та, ён сам яé глядзéў, кармíў. Йiнá як вы́расла, э́та дзяўчы́нка, вы́расла такóй красáвіцай, йiнá прыізджáла, нáшы тады́ у Азірцáх жылí, йiнá ў Азярцы́ два рáзы прыізджáла. Як прыéхала ў Азярцы́, як увідзіў паніч – ат яé ні атхадзíўся. І на другí гот сказáла пáні, кап йiнá, барaні Бох, тут ні былá, а не – дык выізджáйце, што ён с умá схадзíў, такáя былá красíвая.

Ну, і стаў да яé худóжнік хадзíць. Йiнá раскáзавала ўсё, ён яé там намалівáў – пóўную хáту! Там усякіх партрэ́таў. Йiнá казáла, што ні дай Бох быць красíвай. А тады́ стаў да яé хадзíць другí. Ну, і з гэ́ным йiнá, і з гэ́тым. І гэ́тат тады́ худóжнік стаў ужó замічáць, што да яé гэ́нан прыхóдзіць. Ён стаў ей казáць, йiнá кáжыць: «Ні прáўда». Тады́ ён прышóў да яé, і гэ́тат прыляцéў худóжнік зрáзу. А йiнá ягó тады́ – у шáфу схавáла, гэ́нага мáльца. А шляпу ён забы́ўся на дзівáне! Ён як прышóў: «А хто ў цябе ёсьць, чамý шляпа ляжы́ць?» – «А нікóга». – «А чыя шляпа?» – «Пáпава». – «Э́та маладóга шляпа!» Стаў глядзéць ён у шáфу, дык ён ягó гэ́дак біў, і аш з другóга этажá ён ягó скацíў. І прывёў яé да касьцёлу, і сказáў: «Прысягні, калí ты ня бýдзіш із йім занімáцца, знáчыцца, я табе прашчý, а бýдзіш – уб'ю». Ну, йiнá гэ́дак ужó прасíлася, стаў ён ізнóў да яé хадзíць. І гэ́нан залітáў – рáды ні былó. І злавíў ён із ей другí рас. І прывёў ён яé да касьцёлу, і страляў ён яé. А, йiнá казáла, надзéтая ў яé былá як плю́шавыя былí такія пáльты даўнéй, крэ́пка на вáце былí. І ён як даў па ей – йiнá стоць галавóй і завалíлася. А ён як даў у гэ́та пальтó, йiнá спужáлася, завалíлася, а ў гэ́тай вáце пýля і сéла. Атвярнýўся і сам сябé і ўбíў. Ну і тады́ ш схвацілі яé, йiнá цэ́лая. І пасадзілі яé за гэ́тага мáльца. І, казáла, сядзéла на трэ́цім этажý. І дýмала: «Кап хоць што-нібýць – прас фóртачку дадýць блішáную міску і лы́шку, і бóлій нічóга німá – кап што-нібýць зрабíла, ці кап як праз акнó забíлася – дык нічóга німá». Дык за гэ́тага мáльца йiнá атсéдзела тры гады́. І ўжо йiнá пажылáя вы́шла, прыйіжджáла сюдá, прывізлá агрáду – дзяцька памёр. І ўжо й зáмуш пóсьля ні пашлá. І казáла, што ні дай Бох быць красíвай, э́та сáмае гóршае, разьлітáюцца вóчы на мáльцаў!

### Пра ўцёкі ў савецкую Расію

Казáла мáма, што пашлí у касьцёл, у касьцéле спаткáліся ўсе чы́ста – э́та ш каля Пóлацка – а с касцёлу як разыйшлíся, зрабíлі граніцу – і мы ўжо бóлей ня ўвідзіліся. Пастáвілі сьцянý – і ўсё – ты́я ў Расíі, а ты́я ў Пóльшчы, і ўсё. А тады́ ш былí узнóва пáніку пусьцíўшы, гэ́та ўжо я ня пóмню у якíм гадý, но я яшчэ́ былá невялíкая. Мóжа, у якíм трыццáтым гадý? Пусьцілі гэ́тыя кнíшкі, гэ́тыя плакáты – што ў Расíі гэ́дак дóбра жывýць. Ішлí з вічары́ны – і бáндамі йшлí! І пашóў мóй дваю́рны брат, партны́ харóшы быў, бáцька дóбра жыў, у хáце ўсё чы́ста былó. І пашлí на тáнцы у Абрýбе. І с тáнцаў усé з гармóнікам пашлí за граніцу. І ніхтó аттýль ні вярнýўся. Іх там растрэ́лівалі. І ніхтó не знáець, дзе. Дык і я яшчэ́ ты́я брашýркі чытáла, што тóка ў Расéі гэ́дак дóбра жывýць, гэ́дак там усягó чы́ста мнóга, там лю́дзі гэ́дак ня рóбюць.

***

***Расказвае Марыя Антонаўна Фенько, 1929 г. н., адукацыя пачатковая, праваслаўная, мясцовая ўраджэнка і жыхарка****; запіс зроблены ў в. Мярэцкія ў 2009 г.*

### З жыццёвых успамінаў

І тут радзíлася я, і тут жылá. І мужы́к тóжа з Мярэ́цак, і фамíлія аднá. Ён прышóў з Гірмáніі, ён са мной, са мной – тры гады́. Ні былó дзе жыць. Там тóжа у мянé сім'я былá, дзе я жылá, у ягó тóжа хáта абы-йікáя, тады́ у калхóс як пашлí, сьвíран мне дáлі. Я зрабíла хáтку, а тады́ пóсьля гэ́най хáткі гэ́тат дом зрабíлі.

Я вéру, што Ісýса Хрыстá, я вíдзіла, як мýчылі ягó, і гэ́дак стрáшна мýчылі – па цілівíзару пакáзывалі – я вéру Ісýсу Хрыстý, што ён ішóў за бéдных, за бéдных людзéй ішóў, ягó й кáзьнілі. А у цэ́ркву ні хаджý, а сьвяткí сьвяткýю.

– А да вас бацюшка прыходзіць?

– Прыхо́дзіць, сьвянціў гэ́тыя во іко́ны. А ў мяне́ адна́ іко́на ёсь, ана́ то́ка што пабілася, во дзісьцьвіцільна ана́, як ка́зьнілі Ісу́са Хрыста́ – уве́сь на крыжы́, то́чна на крыжы́ быў гэ́ткі, як яго́ му́чылі. Гэ́ткія во, палядзіце, во́чы якіе яго́ныя, пазаплыва́ныя. Дык я дзяржу́ во. Адзін з Гірма́ніі прые́хаў, як прычапіўся – прада́й мне гэ́ныя іко́ны. Кажу́: «Я іко́ны ні прадаю». Каза́ў, з Ву́дзіла сам, а ў Гірма́ніі жыву́, нарысу́й, каза́ў, мне гэ́ткую, як прые́ду, я вазьму́. Дык пае́хаў аш у музе́й карціны глядзе́ць! У Зале́сьсі шко́ла. У гэ́най шко́ле – музе́й. Там цэ́рква ёсьць. І про́ціў цэ́рквы пракуро́рава да́ча – то́жа рабіла. Зрабіла медзьвядзёнка, бацяно́ў, філіна зрабіла, ай, усё, каб усё калі ха́ты у іх было́.

***

– У Вудзеле заўсёды быў касцёл?

– Збо́жжа сы́палі, сьвіран зрабілі. Тады́ ужо́ як прые́хаў гэ́тат Бу́лька сюды́, усё папірана́чываў, усё зрабіў, стаў ён стара́цца ўсё. Яго́ хаце́лі арыштава́ць, што со́рак пяць чалаве́к ці со́рак сем забіў, але́ Мо́сара заступіліся за яго́. Заступіліся. Калі э́та, ка́жуць, што было́, э́та да́ўна было́. Но яго́ й зьня́лі. Ён там яшчэ́ тро́шачку. Але́ по́йдзець у прыстарэ́лы дом, у Віцебску. Ён стары́, с цюрмы́ во прышо́ў сюды́, разабнару́жылі, і літо́ўцы трэ́баваюць і ўсё яго́. У Мо́сары я то́ка раз была́, мае́ бацяны́ стая́ць там, во́ўк і Кра́сная Ша́пачка, Ісу́са Хрыста́ зрабіла, во як у мяне́, у крыві, дык паста́віў, му́сі, на кла́тбішчы. Я яму́ пачці што дарма́ фсё зрабіла.

***

Дзярэ́ўня на́ша, лес быў, тут лясьнік быў, Мярэ́цкі, фамілія Мярэ́цкі. Ну, не́скулька хат ужо́ было, вот і назва́лі гэ́ту дзярэ́ўню у нас Мярэ́цкія.

### З успамінаў пра вайну

А пры не́мцах бра́лі каго́ у Гірма́нію, а каго́-нібудзь бра́лі сюда́, Глыбо́кае старажы́ць, ну, майго́ бра́та у Мінск узя́лі, на ку́рсы. Мне пітна́ццаць гадо́ў было́, бра́та парціза́ны забілі, а што ён быў віна́ваты? Не́мцаў тут не было, а былі ўсё ў Глыбо́кім начава́лі, а як наступілі на э́тых, грана́ту во кінулі, яму́ атарва́ла но́гі. Я прыляце́ла туды́ із ма́май, і ма́ма шы́пчэ пе́рш пашла, а я ззаду за ей, аж у Зале́сьсе. Настая́шча – кіло́мэтраў дзесіць пяшко́м. Дык я ма́мы ні пазна́ла паку́ль прышла́. Уся у крыві, кажды кусо́чак бра́ла і цылава́ла, вот! Йішчэ тры́ часы́ жыў, як яго́ атарва́ла но́гі. І пыта́ўся йішчэ́, ба́бы там прыхадзілі: «Ці бу́дзіць мне ра́да?» Ну, с крыві сыйшо́ў, і ўсё.

### Гульні і забавы

Цярэ́шку пуска́лі мы ў ха́ту, даўне́й жа ш клу́баў ні было́. Сьме́хам гэ́та ўжо жэ́нюцца, сто́л ро́бюць. Выбіра́юць ма́льца і дзе́ўку, хто як хо́чыць, тады́ танцава́лі там, жанілі, а тады́ наза́ўтрае за сто́л садзіліся. Мая́ сістра́, старэ́йшая, пія́ла: «Да́лі дзе́да ні па мне́, хоць ро́сту вышэ́йшага, но го́нару ніжэ́йшага», дык: «Нашто́ таку́ю пе́сьню сьпе́ла?» – і с цярэ́шкі вы́гналі.

І Каля́ды сьвіткава́лі. І песьні пія́лі. Даўне́й э́тага ні было́, што музыка́нтаў...

***

***Расказвае Надзежда Фёдараўна Шпіля́к, 1931 г. н., адукацыя пачатковая, праваслаўная, ураджэнка в. Слотава Смаленскай вобл., Сафонаўскага р-на Пляшчэеўскага сельсавета***; *запіс зроблены ў в. Кашталянаўшчына Глыбоцкага раёна ў 2009 г.*

### Успаміны пра вайну

Два кла́са я то́лькі ко́нчыла, і въйна начала́ся. А вайно́й я дзе́цтва ня відзела – усё па бе́жынцэх, концла́гер, у Я́рцэве. Са́мый стра́шный концла́гер. Гаварілі, што у Слу́цку ці дзе быў конц-

ла́гер, но у Ярцэві! І мы асталіся тым жыву́я, што ма́мін хрéсьнік – па́рінь, кончыўшы дзéсіць кла́саў – быў піраво́тчыкам. І када́ вайна́ ужо́ ко́нчылася, і яго́ забра́лі на два́ццаць пяць гадоў – ён дамо́й жэ ш вярну́ўся – і забра́лі яго́ на два́ццаць пяць гадоў у Смаленск у цюрму́. Тада́ лю́дзі – акру́га – сабра́ліся і паéхалі да Мо́латава ці да Калі́ніна у Маскву́. Паéхалі, і пашлі́, туда́ папрасіліся, кап пусьці́лі – пусьці́ць іх жа ш ні пусьці́лі, но спрасі́лі па како́му слу́чаю, ну, аднаго́ мо́жа там чалавéка пусьці́лі, пагавары́лі. І пака́ йім з Маскву́ дамо́й пры́ехаць, а э́та ат нас мо́жа тры́ста кіло́метраў Масква́, пака́ прыéхаць йім дамо́й, гэтым людзя́м раз'éхацца па дама́м – дзя́дзя Ва́ня ужо́ до́ма. Даў прыка́с – вы́пусьціць німéдліна. Дык ён жа зна́еце ско́лька ты́січ чалавéк спас! Вот как мянé – вот как мы былі́ у канцла́гірі – чіты́рі разы́ выганя́лі (там пала́ткі былі́) – выганя́лі да ям. Такíе равы́, как проціўта́нкавые пакапа́ные, ну і как дзéці – па шэсьць чалавéк ста́вілі нас, а как взро́слых – па чіты́рі. С аўтама́та – і тада́ усе ва́люцца у э́ту я́му. Дык вот сяго́дне во́сім ты́січ расстрэля́лі і нас у гэ́ты ла́гер прывязьлі́ наза́ўтрага. І мы пабылі́ там нядзéлю, ці мо́жа дзве – там ско́лькі пабылі́, і нас ужэ́ ўсíх на растрэ́л. А как быў наш гэ́ты пераво́тчык, дзя́дзя Ва́ня, і ён усю́ды да́йдзіць, с усíмі пагаво́рыць. І вы зна́еце, чіты́рі ра́зы станаві́лі пат сьмéрць, і сла́ва цібé, Го́спадзі, жыва́я! – Усе вашы жывыя асталіся? – Усе, усé! І тада́ нас пат канво́ем вы́гналі з э́тага канцла́гера, і у таварня́к. І павазьлі нас у Паста́вы. А ў Паста́вах было́ две бальні́цы трохэта́жных, э́та ваéнныя го́сьпіталі. А в то врéмя ужо́ яны́ былі́ пусту́я – на́шых жы ш ні было́, эта нéмцы ш ужо́ былі́. Дык нас там пасілі́лі. Хто гдзе. А там атбылі́ мы, у Паста́вах, тры нідзéлі, а тада́ нас... нас как візьлі́ – сказа́лі у Гірма́нію, а пато́м ужо́, как пабылі́ там трі нідéлі, нас ужо́ нъза́т, пат фро́нт. Ка́жуць, э́та ўжо нас пу́сьцюць пéрвых, а нéмцы бу́дуць пъзадзі, і гэ́дак у Смалéнск. У Смалéнску цэ́лы гот фронт стая́ў, ні маглі́ ніка́к вы́біць нéмца, ці на́шых вы́біць. Дык вот нас туды́ п ужо́. А нас прывязьлі́ ў Глыбо́кае і рассілі́лі па ўсяму́ Глыбо́кскаму ръёну пъ дзірыўня́х. А нас сюда, у Лíпнікі. І як прыгна́лі у Лíпнікі, у Ліпніках быў, дзе пан жыў, камо́рнік, у сваíм до́ме, і ў іх йішчэ́ адзíн быў до́мік, дык яны́ пъсялі́лі нас у э́тый до́мік, і мы пъжылí. А пато́м ужо́ у со́рак пя́тым гаду́ как въйна́ ко́нчылася, паéхалі на ро́дзіну, а там апры́ч мышэ́й і крыс нічо́га не было́. Дык мы там павярну́ліся – і абра́тна сюда́. Прыéхалі, і ўсё, і пашлі́ тада́ ў калхо́с.

**З успамінаў пра жыццё**

Січа́с во дзéвачкі ідýць – э́та красата́. А тада́ – ці ты ба́ба, ці я дзéвачка, у мянé вало́сы гла́дзенька, і на́да ўсё во пат шэ́ю, рука́вы длíнные, усю красату́ схава́ць і на та́нцы йсьці! Сьпірва́ про́ста сты́дна было́ цéла выто́рківаць. А по́сьле ўжо ста́лі каро́ткіе рука́вы, а штоп кімяно́ – пры мне гэ́тава йшчо ні было́! Былі́ каро́ткіе спадні́цы, калéнца хава́лася. На́да, штоп была́ ці сукéначка, ці спадні́ца, штоп калéнца хава́лася. А на но́гі – што пры́дзіцца. Как ужо́ паяві́ліся ґумо́вікі, рызíнавыя э́тыя сапагí, тада́ ужо́ на рабо́ту, на та́нцы, усю́ду. Éсьлі купíць бацíнъчкі, то́лькі ш йіх нъ та́нцы, у цэ́ркву. А ў Глыбо́кае лéтам ідзéш і бацíнъчкі ў рука́х нясéш. Ідзéш у Глыбо́кае пéшам, бо́сыя. Патхо́дзім да руч'я́, но́гі памы́лі, чулкí адзéлі, і тада́ пашлí ужо́ на ры́нак у Глыбо́кая.

***

А на та́нцы сабіра́ліся – тада́ ш ні было́ клу́баў. Па дзерэўня́х у ха́ту. Вот мая́ во́чарадзь у ха́ту пусьцíць. Тада́ музука́нт ідзéць, і прыхо́дзюць тада, танцу́юць. А сьвет жа ш быў – ла́мпа, э́та харашо́, а то пры ґазьнíцы! А ґазьнíцы ш то – ну, як карасíнная ла́мпа, то́лькі на яé сьцякло́ ні адзяéцца. А яшчэ́ ма́льцы как завяду́цца, і па гэ́тай ґазьнíцы как ля́пнуць! Білíся – я скажу́ по́льку кап ігра́лі, а вы ска́жэце, кап ва́льса. А ма́льцы ш тро́шку там вы́пітые, ну вот адзíн аднаму́ ня ўсту́пюць. Ба́бы як пры́дуць – ай, гэ́дак глядзíм і ду́маем: «Ай, ай, чаго́ яны́ прышлí, яны́ ш абгава́рываюць, што вот ні так танцава́ла, ці ні так там с кем пасядзéла, ні так там с кем разгава́рывала!» Бап бая́ліся, яны́ абгаво́руць. Прывазíлі кіно́, па два́ццэць капéік білéт быў. Куды́ ш по́йдзеш у кіно́, калí ш дзéнех нет!

– А чым плацілі музыканту?

– Нічы́м. Так ігра́ў. Хі́ба што ма́льцы даду́ць мо́жа вы́піць – э́та друго́е дзе́ла. У мурэ́ бы́ў клуп, шчыта́ўся, зьбіра́ліся на нара́т, дык вот там кіно́ ста́вілі. Было́ ве́села. Усе́ былі́ ро́ўные. Я прышла́ у гэ́ткіх во шко́рлах – і вы прышлі́. Я прышла́ на та́нцы, баці́нкі мне Ко́сьця Да́рэчын, ве́чны пако́й яму́, патшы́ў дро́там, дрот палама́ўся, і баці́нак ста́ў шло́пацца – і танцава́ць мне не́ек. А пато́м ужэ́ як паяві́ліся бо́цікі різі́навые, каро́ценькіе, во тада́ ўжэ да! Тада́ ўжо танцу́й, ско́лькі хо́чъш. В аснавно́м – по́лька. І факстро́т, і ва́льс, і мазу́рка.

А дзе́ўкі красату́ навадзі́лі – пудрі́ліся, была́ пу́дра. Гэ́та ўжо пры не́мцъх йіна́ паяві́лась, э́та пу́дра. Як вот, ні раўну́ючы, ра́ньшы былі́ каро́бъчкі – зубна́я па́ста. Вот у такі́х каро́бачках была пу́дра. І бе́лая, і ро́завая, і така́я, как крэмо́венькая, – хто яко́й. Бро́ві нъвадзі́лі, гу́пкі атвадзі́лі. Про́ста кърanда́ш, што во рысава́ць, а пама́да прадава́лася у не́йкіх о такі́х у ба́начках кру́гленькіх. Як ку́піш ба́начку, хва́ціць табе́ хто ве́даіць на ско́лька. А не́катарые дзіўча́ты фарсі́стые, ну што ш, патанцава́лі – пот, а с сабо́й пу́дру ж ні бра́лі, ай, глідзя́ць – жо́рны. Дык тада́ – па жарна́х руко́й – і мазь, мазь! Уся́к было́. Па́церкі насі́лі, бу́сы. А прычо́скі – хто как. Хто во – галаву́ намо́чыць, са́харам яшчэ́ памо́чыць, кап вада́ была́ сла́ткая, а тада́ во – налама́іць во гэ́ткія во, а ён жа ш стаі́ць, чуп, засо́х! Са́хар жа засо́хніць! Уся́к.

### Хрэсьбіны

А хрэ́сьбіны рабі́лі, када́ хрэ́сьбіны рабі́лі было́ ве́сіла. Ну, пірахры́сьцюць, усё, у цэ́ркву завязу́ць, стол спра́вюць, а тада́ ба́бу са́дзюць у начо́ўкі і ў начо́ўках ціга́юць, а пато́м ей вады́ падлію́ць у начо́ўкі, паўвідра́ ці вядро́. А то мо́жа кака́я каля́ска ёсь – у каля́ску, алі́ ўсё раўно́ ба́бу памо́чуць. І ба́біна ка́ша. Ба́біну ка́шу выку́плівалі. Мне да́лі, так я там ці рубе́ль, ці два палажы́ла, во так. Такі́ жбано́чэк, і у жбано́чку гліня́ным вары́лася ка́ша. А тада́ гэ́ту ка́шу – вот я ўзіла́, у Го́мілі разьбіва́лі і варі́лі кру́та-кру́та, кума́ раска́зывала, і што жбано́к паб’е́цца, а ка́ша как бы́ў жбано́к, так іна́ і астае́цца, а ў нас так было́.

– Са жбанка бралі кашу?

– Да. Ну і пра́знавалі, гуля́лі. А ба́ба – э́та ро́дная ба́ба, ро́дную ба́бу пасадзі́лі і вадзі́чкі падлілі́. Как бы там ні было́, но э́та абіза́цельна на́да было́ падмачы́ць ба́бу.

Стъра́ліся, е́сьлі вот я кума́, а ён ку́мам, я – дзе́ўка, і ён – па́рінь, ну нам ужэ́ сыйсьці́сі не́ек. У нас во тут гэ́дак во зрабі́лі, пажані́ліся, уся́ сім’я пашла́ насма́рку.

– А стол пасля царквы абавязкова рабілі?

– У каго́ как выхадзі́ла. Хто дзе́лаіць хрэ́сьбіны, как выхо́дзіць. А ні выхо́дзіць – зна́чыць, прые́хаў кум, кума́, ма́тка, ба́цька, дзет, ба́ба – ну, тут свае́ такі́е са́мые-са́мые ро́дненькіе, там пяць-сем чэлаве́к, няха́й дзе́сець, се́лі за стол, пасідзе́лі, вы́пілі, зъкусі́лі, павесялі́ліся, папія́лі – і ўсё.

### Вясельныя звычаі

Прыхадзі́лі ў сва́ты. Хто ішо́ў – малады́й, ну і браў сабе́ йешчэ́, як вот мой брат, дваі́х, е́халі аш у Мядзвётки у сва́ты. Вы́сваталі. А пато́м ужо́ сва́дзьбу дзе́лалі. А цяпе́р жа ш ідзець маладо́га бацькі́ – ба́цька, ма́тка, і яшчэ́ каго́ во́зьмуць, мо́жа вот как сястру́ там. Сьпірва́ ш гаво́руць, што прышлі́ как у го́сьці. А пато́м: «Мы чулі, што ў вас цялу́шачка прадае́цца. А вот мы прышлі́, купцы́». Хто как, шу́ткай, сьме́хам. Ну вот пагаварі́лі, дагаварі́ліся, што ўжо зго́дны атда́ць.

– А калі дзеўка не згодна?

– А тады йіна́ й ска́жыць, што за яго́ ні пайду́, я яго́ ні люблю́. Про́ста так ска́жыць, і яны́ сабіра́юцца і пашлі́. А дале́й тада́ ужо́ назнача́юць вре́мя, када́ сва́дзьба. Тада́ ужо́ у цэ́ркву на за́паведзь даю́ць, на аглашэ́ніе. Тада́ да спо́ведзі йду́ць, тут сва́дзьба. Се́лі, пае́халі.

А вясе́льле – вот сяго́дне прые́халі ат ве́нца да маладо́й. У маладо́й сяго́дне ве́чар гуля́юць і за́ўтра дзе́нь гуля́юць. А ве́чарам е́дуць да маладо́га. І тада́ шкаф вязу́ць маладо́й, паса́гу. Там

вéчар гуля́юць, у маладóга, і назáўтра гуля́юць. А тады́ ягóная мáтка садзíцца за ваўчы́цу – абакрывáюць кужухóм на нáйніцу. І тады́ маладáя ей на шэ́ю вéшаіць атрэ́с на сукéнку.

– У што адзета маладая?

– Бéлая плáцьця і фатá. А на фтары́ дзень што адзяéць сáмае любíмае сваё. А як да маладóга, йінá адзяéць фату́, адзяéць бéлае плáцьце, апя́ць перадзяéцца, тады́ сядзіць у бéлым плáцьці і фацé. А назáўтрага йна адзяéць другу́ю адзéжу.

Как во вінчáюцца, такíй із ру́ты вянóчак плялí, і тут на фацé прычэ́плівалі, знáчыць, э́та дзéвачка – дзéйсьцьвеньніца. Éсьлі гэ́тага вянóчка нет – знáчыт, янá ня дзéйсьцьвеньніца. Мóжыць малады́ й вы́гнаць. А пасáгу – прыізджáй, хай бацькі забірáюць і пасáгу, і дачку́. А во у Запру́дзьдзі Валóдзя Смалячóк свáдзьбу спрáвіў, гэ́дак пажанíўся, ну, ён ей сказáў, прэдупрэдзíў, яму́ сказáлі, што йна лёхкага паведзéнія. Ну, ён стаў гаварíць, йінá – не, ну, ўсё, ляглí спаць. Всё, і ён яé аткамандзíраваў дамóй. І бацькáм сказáў: «Забірáйце, йінá мне ні нáда». А тадá ён ужó з другóй ажанíўся і ўсю жызьнь пражы́ў. Згуля́лі свáдзьбу – маладáя ш у маладóга жывéць, а тадá ў другу́ю субóту éдуць у гóсьці да маладóй, да бацькóў – маладáя з мужукóм, мáтка й з бáцькам.

А прымакá – знáеце, вот сім'я́ бальшáя, з дзяўчы́най дружу́, а прывясьці мне яé нéкуда. Дак я тадá – а ў яé сім'я́ пазваля́ець – дак я і іду́ да яé на прымакí. Прымáцкі хлеп сабáцкі.

## Каляды

Куцьця́ вáрыцца йс круп. Прысалóдзіш. Сялёдачка штоп былá. На сéні ш, сéна прынісéш, закры́еш настóльнікам. Ну і вячэ́раіш. Кісéль, бу́лка там. Во такóя во. А марóза звáлі: «Марóс, прыхадзí да нас куцьцю́ éсьці».

Дзіўчáты варажы́лі. Вот гдзе каля хлéва зы́гаратка, ці там цéрэз забóрчык, во гэ́дак во кідáеш праз галаву́ чóбат (з нагі праз галаву – Н. С.) – куды́ нóсам ля́жыць, у тую старану́ я зáмуш зайду́. А яшчэ́ варажы́лі – воск вылівáлі на вадý. А патóм варажы́лі – сабрáліся дзіўчáты й мáльцы. Ну, нясí пітухá. Дзіўчáты бу́дуць на пітухá варажы́ць. Жмéньку пшанíцы, зéркала палóжуць, хлéба палóжуць, грóшы палóжуць і пітухá пастáвюць. І куды́ пяту́х клю́ніць – éсьлі у зéркала, знáчыць, у мянé бу́дзіць кавалéр фарсíстый. Éсьлі пасядзíць і атвéрніцца, йшчэ й нагáдзіць – знáчыць, фсё.

– А калі у зерне клюне?

– А гэ́та бу́дзіць багáтый жанíх. А грóшы – бу́дзіць на грашáх. І таксáма і куры́цу мáльцам прынясу́ць, ну і хахóчуць.

– Што рабілі у калядныя вечары?

– Нічóга. Ат Кълят да Кшчэ́ньня рáдзі скацíны – штóбы ні радзíлася у скацíны какáя-нібу́ць калéка.

– Куды дзявалі сена, што было на калядным стале?

– А гэ́та скацíне. Карóўцы палóжыш, і сьвíнкам у кары́тца палóжыш.

***

Вот мы і ў Шадзéўскіх былí, і как у калхóс сюды́ прыйшлí, ай, і цярэ́шкі – э́та ш на Къля́ды, спраўля́лі, спраўля́лі, гуля́лі. Вот сягóньня Къля́ды. Прыхóдзюць на тáнцы. Ужó тáнцы атгуля́лі, сдзéлалі цярэ́шку – дзéвачку йз мáльчыкам саедзіня́юць – вот я з вáмі дружу́, мянé із вáмі, вот мянé вóдзіць тады́ кругá, я пяю пéсьні «маладóму»: «А мой дзéцька камку́ць, камку́ць, ня ўмéіць нóжычкай тапну́ць». А ён тóжа якую пéсьню пяéць. А тады́ за стол садзíмся. Тадá па чáрачке выпівáім, пéсьні пяём, вéсіла, харашó. Пажанíлі, пасядзéлі, патанцавáлі, пацалавáліся!

## Купалле

Ужó сягóне Купáла – ужó вéчарам усё убірáй у хáту, кап ні вёдры ні былí. Блішáнку пастáвіш у вадý – вы́нісуць за дарóгу. А у Пáўла ў Драґуна дык туалéт былí зь мéста зьнясьлí на дарóгу пастáвілі. Ну на Купáла гэ́та ўжо прóста лíшнее тварíлі. Зьбірáлісе дзіўчáты, касьцёр распáлівалі

калі са́жалкі, вянкі кіда́лі на эту́ са́жалку. Вянкі кіда́лі – мо́жа да майго́ вінка́ чый вяно́к прыплыве́ць, яко́га ма́льца.

### Каляндарныя святы, традыцыі, звычаі

– Як першы раз выганялі карову ў поле?

– Ве́рбачкай. Во, што сьве́ньціш ве́рбачку ў цэ́ркві, паражыгна́еш, пасьціба́іш, ве́рбачку астаўля́еш у хле́ве, каро́ву павёў на по́ле.

Грамні́цы – зімы палаўні́цы. Тут сьве́чы сьве́ньцюць. Как пако́йнік памрэ́ць, тада́ гэ́тые грамні́чные сьве́чы па́ліш.

***

Сараќі – ні нач́уй калі ракі, вада́ зьнясе́ць. Ну, ужо́ развóдзьдзе. А другі́ рас на Саракі́ хоць ты і на во́зера лажы́ся. Пяклі́ клёцкі. Усё ш каза́лі: на́да со́рак клёцэк спячы́. Пту́шачкі пяклі́, сь це́ста. Е́лі, хто з малачко́м, хто у капячо́нае малачко́ пуска́ець гэ́тыя клёцкі, мучаны́я, а хто так есьць.

***

На Благаве́шчаньня, ужо́ к Благаве́шчаньню баця́н прыліта́іць і на Благаве́шчаньне ён до́лжэн се́сьці на гняздо́. Як уві́дзіла аднаго́ баціна́ – ужо́ за́муш я ў гэ́там гаду́ ня вы́йду. А калі́ два́ бацяны́, ай, у па́ры бу́ду, за́муш вы́йду. Така́я пту́шка, што яе́ ніхто ня кры́ўдзіў. Э́та ўжо сво́йская пціца, іна́ каля людзе́й. А пе́рат пе́рвай Прачы́стай, перат Бальшо́й Прачы́стай яны́ ўжо зьбіра́юцца і яны́ атліта́юць. Вот гэ́тый гот яны́ ра́на паляце́лі, і гу́сі й жо́равы ра́на паліце́лі – э́та знай, што зіма́ бу́дзіць суро́вая і ра́ньнія.

### Дажынкі

Як ко́нчыш жаць, як ужо́ ко́нчылі, і тады́ во астаўля́еш жы́та, так во зьвя́зываіш, цьвяты́ зьвя́зываіш, хлебушка ло́жыш, кап ужо́ Бох дава́ў уража́й.

Пе́лі пе́сьні: «Ра́да, ра́да на́ша перапёлка, што ле́та дажда́ла, ра́да, ра́да на́ша гаспады́ня, што жы́та пажа́ла». По́іс брыгадзі́ру так во плелі́ тако́й плёткай з пшані́цы там, з зірна́, што канча́лі, і патпая́савалі. А прытсіда́целю – вяно́к.

### З народнай медыцыны

– Што рабілі ад благога вока?

– Са́ма-са́ма – падало́м. Да́жа рубашэ́чкай мо́жна. І гэ́та навы́варат – э́та ат гла́за. А яшчэ́ мо́жна – у дзвіра́х клямка, і тада́ во прас кля́мку лі́ць і вадзі́чкай і лі́чка змыва́ць.

– Можа чым-небудзь падкурвалі дзіця?

– Піво́нею – сьве́ньцюць на Тро́іцу, і гэ́та і ат упу́ду, і ат уро́цу, э́та піво́нія.

Была́ ба́ба Геле́на. Замаўля́ла йна. Да яе́ прыізджа́лі – о́крух ужо́, іна́ ўсі́х лячы́ла.

– Можа, каму перадала свае веды?

– Я ду́маю, што не. Йіна́ у Ма́нькі была́, а гэ́та Ма́нька, кап йіна́ чуць была́ мажа́ рызыкаўне́йшыя, а то – цю́па! Как во Далма́н тут быў, вот гэ́ты чэлаве́к дава́ў ваду́ ат усяво́, і скаці́ну лячы́ў, і людзе́й лячы́ў. Ён памёр, а пато́м сы́ну э́ту рабо́ту пірэда́ў, і сын памёр.

***

Е́сьлі во там ве́трам схваці́ла – трава́ вітра́нка, зава́рывалі, пілі́, ку́ріліся гэ́тай вітра́нкай.

***

Е́сьлі ро́жа – замаўля́ць. Быва́іць сь ве́тру, быва́іць з ва́ды́, быва́іць ат уда́ру, і быва́іць с глазу.

